НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»

# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга II




Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2011

УДК 94(476.1)(031)
ББК 63.3(4Беи)я2
Г20

Выданне выходзіць з 2004 года

**Рэдакцыйная калегія:**

*Т.У. Бялова, Л.У. Языковіч, В.У. Шчацько, В.В. Калістратава, А.А. Каваленя, А.І. Лакотка, Ю.В. Бажэнаў, Т.І. Жукоўская, Г.М. Малей, М.Г. Нікіцін, М.Ф. Піліпенка*

Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І. Лакоткі

У томе змешчаны фотаздымкі А.П. Дрыбаса, А.Л. Дыбоўскага,
А.В. Клешчука, С.М. Лазоўскага, М.У. Шэінай, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра
Рэспублікі Беларусь, раённых выканаўчых камітэтаў Мінскай вобласці

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г20 **Гарады і вёскі Беларусі** : энцыклапедыя. Т. 8. Мінская вобласць. Кн. 2 / рэдкал. : Т.У. Бялова (дырэктар) [і інш.] ; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі ; Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. — 464 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0554-6.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе найноўшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, у тым ліку тых, якія зараз перасталі існаваць. Другая кніга 8-га тома выдання прысвечана населеным пунктам 4 раёнаў Мінскай вобласці.

**УДК 94(476.1)(031)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0554-6 (т. 8, кн. 2)**
**ISBN 978-985-11-0302-3**
**ISBN 985-11-0302-0**

© Афармленне. РУП «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 2011
© Картаснова. Дзяржаўны камітэт па маёмасці Рэспублікі Беларусь, 2011

# ДЗЯРЖЫНСКІ РАЁН

Размешчаны ў цэнтры Мінскай вобл. Плошча 1,2 тыс. км$^2$. Насельніцтва (на 1.1.2010) 61,2 тыс. чал. Цэнтр — г. Дзяржынск, у складзе раёна г. Фаніпаль і 276 сельскіх населеных пунктаў. Адм. падзяляецца на 10 сельсаветаў: Бараўскі, Волменскі, Дабрынёўскі, Дзямідавіцкі, Дзяржынскі, Негарэльскі, Путчынскі, Рубілкаўскі, Станькаўскі, Фаніпальскі. Праходзяць чыгунка і аўтамагістраль Мінск—Брэст, аўтадарогі на Івянец, Заслаўе, Станькава—Дабрынёва, Негарэлае—Узда, Негарэлае—Самахвалавічы, Дзяржынск—Рубяжэвічы.

Тэр. сучаснага Дзяржынскага р-на заселена чалавекам каля 9—5-га тысячагоддзя да н.э. З 10 ст. ў складзе Полацкай зямлі, з 11—12 ст. — Мінскага княства, з 1-й пал. 14 ст. — ВКЛ. З 15 ст. ў Мінскім павеце, з 1565—66 гг. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) далучана да Рас. імперыі, з 1795 у Мінскім павеце Мінскай губ. Па стане на 1870 тэр. сучаснага р-на знаходзілася ў межах Вялікасельскай, Койданаўскай, Рудзіцкай, Самахвалавіцкай, Станькаўскай, Старасельскай, Чапельскай валасцей. У 1-ю сусв. вайну з лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з 27.2. 1919 г. — у Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну 1919—20 гг. з ліп.—жн. 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. Вызвалена Чырвонай Арміяй у ліп. 1920 г. З 31.7.1920 г. ў складзе адноўленай БССР. У сярэдзіне кастр. 1920 г. зноў акупіравана польскімі войскамі, але паводле ўмоў дагавора аб перамір'і і папярэдніх умовах міру ад 12.10.1920 г., пацверджаных Рыжскім мірным дагаворам ад 18.3.1921 г., засталася ў складзе БССР (акрамя мяст. Волма і суседніх вёсак, якія адышлі да Польшчы). У кастр. 1920 г. — сак. 1921 г. па тэр. сучаснай Дзяржыншчыны праходзіў участак 10-кіламетровай (па шырыні) «нейтральнай зоны» паміж польскімі (стаялі на лініі вёсак Негарэлае, Мікулічы, Старая Рудзіца, Баравое, Дзягільна, Беглічы, Навікі, Саковічы, Наследнікі, Гаруцішкі) і чырвонаармейскімі (вёскі Чыкі, Залессе, Крысава, левы бераг р. Уса) часцямі. У нейтральнай зоне знаходзілася і мяст. Койданава (сучасны Дзяржынск), дзе ў ліст. 1920 г. 4 дні існавала абвешчаная антысав. паўстанцамі «Койданаўская рэспубліка».



*Найвышэйшы пункт у Беларусі — гара Дзяржынская (каля в. Скірмантава).*



А.І.Валахановіч.



У.М.Крыловіч.



М.М.Улашчык.

Сучасны раён утвораны 17.7.1924 г. як Койданаўскі ў Мінскай акрузе (да 26.7.1930 г.). 20.8.1924 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Байдакоўскі, Бараўскі (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі), Дабрынёўскі, Макаўчыцкі, Навасадскі (з 23.3.1932 г. да 14.6.1936 г. нац. польскі), Нарэйкаўскі 1-ы (з 18.12. 1925 г. Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. нац. польскі), Нарэйкаўскі 2-і (з 18.12.1925 г. Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі), Негарэльскі (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі), Паланевіцкі (з 25.7.1931 г. нац. польскі), Путчынскі (з 25.7.1931 г. нац. польскі), Станькаўскі, Старынкаўскі. 18.1.1931 г. далучаны Азерскі, Крупіцкі (23.3.1932 г. ўключаны ў гар. мяжу Мінска), Рубілкаўскі (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) сельсаветы Самахвалавіцкага р-на. 15.3.1932 г. раён рэарганізаваны ў нац. польскі, 29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі р-н. З 1932 г. пачалі працаваць польскі агранамічны тэхнікум у Койданаве і пед. тэхнікум у Станькаве. 31.7.1937 г. раён скасаваны, тэр. перададзена Заслаўскаму, Уздзенскаму і Мінскаму р-нам. 4.2.1939 г. аднаўлены як звычайны раён у складзе Мінскай вобл., уключаў 16 сельсаветаў. З 15.1.1929 г. выдавалася раённая газета «Чырвоны койданавец». На 1.6.1941 г. працавала звыш 20 прам. прадпрыемстваў, 111 калгасаў, 8 саўгасаў, 89 школ, 8 кінаперасовак, кінатэатр, 104 дашкольныя ўстановы. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 17 606 жыхароў, спалілі вёскі Баркі, Глухое Перхурава, Літавец, Любажанка, Перасветаўшчына, Ходасы (пасля вайны не аднаўлены), Баравое, Волка, Паланевічы, Садкаўшчына, Скірмантава. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады: 18-я імя Фрунзе, 200-я імя Ракасоўскага, імя Панамарэнкі, Сталіна, імя Чкалава, імя Шчорса, М.М.Нікіціна, атрады 106-ы, «Мсцівец», «Баявы» імя Дунаева», П.А. Алыбіна, «Слаўны», імя Калініна, спец. партыз. групы «Багатыры», «Знішчальнік», «Родныя», Дзяржынскае антыфаш. падполле, падп. райкомы КП(Б)Б і ЛКСМБ (кастр.1942–4.7. 1944). Выдавалася падп. газета «Ленінская праўда». Вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. войскамі 49-й арміі 2-га Бел. фронту ў перыяд Беластоцкай аперацыі 1944 г. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў складзе раёна знаходзіліся г.п. Узда і 9 сельсаветаў скасаванага Уздзенскага р-на. 12.8.1970 г. далучаны Волменскі с/с Валожынскага р-на.

Паўн. частка раёна размешчана на Мінскім узвышшы, тут знаходзіцца найвышэйшы пункт Беларусі — гара Дзяржынская (345 м), паўд. частка — на Стаўбцоўскай раўніне. Паверхня ўзгорыстая (на Пн) і плоскахвалістая (на Пд). Пераважаюць вышыні 180–220 м над узроўнем мора. Карысныя выкапні: торф, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі, гліны для грубай керамікі. Сярэдняя тэмпература студз. -6,7 °С, ліп. 17,6 °С. Ападкаў выпадае 625 мм. Вегетацыйны перыяд 188 сут. Працякаюць рэкі на Пд — Уса з прытокамі Пераатуць, Самацеч, Вязенская, Рапуса, Уздзянка і Жэсць (верхняе цячэнне Уздзянкі) з прытокам Алёхоўка, на Пн і З — Волма, Іслач, Воўка, Ліванка, Нецечка, Перакуль, Пціч; вадасховішчы Дабрынёўскае, Дзягільнянскае, Койданаўскае, Макаўчыцкае, Паланевіцкае, Старынкаўскае, Ясюцевіцкае; азёры Станькаўскае, Старына, Чыкі. Глебы дзярнова-падзолістыя забалочаныя. Пад лесам 28% тэрыторыі, пераважаюць хваёвыя, бярозавыя і яловыя лясы.

Пад с.-г. угоддзямі 70,9 тыс. га, з іх асушана 14,7 тыс. га. На 1.1.2010 г. ў раёне 16 с.-г. прадпрыемстваў, ААТ «Агракамбінат «Дзяржынскі», жывёлагадоўчае племяннае аб'яднанне «Шыкатавічы». Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мяса-малочная жывёлагадоўля і льнаводства. Вырошчваюць збожжа-

выя і кармавыя культуры, бульбу, гародніну. Прам. прадпрыемствы: металаапрацоўчыя, будаўнічых матэрыялаў (жалезабетонныя і маставыя канструкцыі), лёгкай (швейная,тэкстыльная) і харч. прамысловасці. У раёне (на 1.1. 2010) 3 гімназіі, 16 сярэдніх, 2 базавыя, 1 пач., 5 комплексаў дзіцячы сад—школа, 2 муз. школы, 2 школы мастацтваў, школа-інтэрнат, 22 дашкольныя ўстановы, 33 клубы, 34 б-кі, Дзяржынскі краязнаўчы музей і музей гісторыі ст. Негарэлае. Працуюць 5 бальніц на 357 ложкаў, 14 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Зоны адпачынку Атраднае, Грыбная, Купалінка. У раёне 15 рэлігійных абшчын, у т.л. 6 праваслаўных і 4 каталіцкія.

Помнікі археалогіі — курганныя могільнікі каля вёсак Грычына, Навасады, Путчына, Старая Рудзіца, Чарнікаўшчына, гарадзішчы і паселішчы каля вёсак Каменка, Клыпаўшчына, Машчонае, Навасады. Захаваліся помнікі архітэктуры і садова-паркавага мастацтва: Успенскі сабор (2-я пал. 18 ст.) у в. Волма, сядзібы (19 ст.) у вёсках Волма і Вялікія Навасёлкі, касцёл (1836) у в. Старынка, Пакроўская царква (2-я пал. 19 ст.) у в. Дабрынёва, Станькаўскі сядзібна-паркавы ансамбль і Мікалаеўская царква (1858) у в. Станькава, жылыя пабудовы (19 ст.) у пас. Негарэлае, капліца-пахавальня (пач. 20 ст.) у в. Баравое.

У в. Крылавічы нарадзіўся адзін з заснавальнікаў бел. тэатра В.М.Крыловіч (1895—1937), у в. Віцкаўшчына — бел. гісторык, этнограф, краязнавец М.М. Улашчык (1906—86), у в. Скварцы — бел. пісьменнік Л.Калюга (1909—37), у в. Шпількі — контр-адмірал, Герой Сав. Саюза А.І.Гурын (1910—62). Выдаецца газ. «Сцяг Кастрычніка».

**ДЗЯРЖЫНСК** (да 29.6.1932 г. Койданава) — горад, цэнтр раёна, на р. Нецечка. Размешчаны на паўд. схіле Мінскага ўзвышша, за 38 км на ПдЗ ад Мінска, чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, на аўтадарозе Мінск—Баранавічы. 25,2 тыс. жыхароў (2010).

Археал. раскопкі, якія праводзілі бел. археолагі У.З.Завітневіч (1886—1887), Э.М.Загарульскі і Ю.А.Заяц (1976—1983), сведчаць аб тым, што засяленне гэтай мясцовасці адбылося ў стараж. часы. Археолагамі вывучана гарадзішча Гаштольдава Гара, або Кальвіншчына, на паўн.-зах. ускраіне горада. Яно было заселена ў эпоху ранняга сярэднявякоўя, тут знаходзіўся замак.

Ёсць меркаванні, што паселішча існавала з 12 ст. як Крутагор'е ў складзе Полацкага, затым Менскага (Мінскага) удзельных княстваў. Паводле П.М.Шпілеўскага, у старой койданаўскай праваслаўнай царкве, якая згарэла ў 1850 г., «быў абраз з надпісам: «Крутагор'е, 1146». Шпілеўскі лічыў, што да 12 ст. Койданаў (Койданава) меў назву Крутагор'е. Назва Койданаў, магчыма, паходзіць ад імя татарскага военачальніка Койдана, войскі якога нібыта былі разбіты каля Крутагор'я ў 13 ст. ў выніку Крутагорскай бітвы. Паводле іншага меркавання, назва паходзіць ад імя татарскага военачальніка, які калісьці жыў у гэтых мясцінах, у канцы 14 — 15 ст. служыў у войску ВКЛ і меў тут сваю рэзідэнцыю. У 1439 г. пабудаваны драўляны фарны касцёл. Як Койданава ў пісьмовых крыніцах згадваецца з 1442 г. У 1445 г. вял. кн. літ. Казімір Ягелончык аддаў Койданаў свайму стрыечнаму брату Міхаілу Жыгімонтавічу, сыну Жыгімонта Кейстутавіча. У 1483 г. паселішча перайшло да кн. Васіля Міхайлавіча Вярэйскага — праўнука Дз.Данскога. Пасля смерці Вярэйскага з 1501 г. Койданавым валодала яго жонка Марыя. У выніку шлюбу яе дачкі Сафіі з канцлерам ВКЛ Альбрэхтам Гаштольдам у 1522 г. перайшло да Гаштольдаў. З гэтага часу ў дакументах паселішча падчас называлі «Гаштольдава».



*Л.Калюга.*



*А.І.Гурын.*

Кальвінскі збор (1613—21) у Дзяржынску ў пачатку 19 ст.





Сучасны герб г. Дзяржынск.

Пакроўская царква (1850 г.) у г. Дзяржынск.

Дзяржынскі гісторыка-краязнаўчы музей.

У 1502 і 1503 гг. двойчы спалена крымскімі татарамі. У 1542 г. ўладальнікам Койданава стаў вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт I Стары, які ў наступным годзе перадаў горад свайму сыну Жыгімонту II Аўгусту. Горад з'яўляўся цэнтрам Койданаўскага староства, пазней графства. У 1550 г. Жыгімонт II Аўгуст аддаў Койданава з замкам брату жонкі Барбары Мікалаю Радзівілу Рудому. Радзівілы валодалі Койданавам да 1831 г. З 1566 г. ў складзе Мінскага ваяв. З 2-й пал. 16 ст. гэта адзін з буйнейшых цэнтраў кальвінізму. Каля 1564 г. пабудаваны драўляны кальвінскі збор (з 1613 г. — мураваны, не захаваўся). Дзейнічалі плябанія, школа, багадзельня. Паводле інвентару 1588 г., мястэчка, 120 дымоў, замак, ратуша, кальвінскі збор, касцёл, рынак, 2 карчмы, 4 вадзяныя млыны, фальварачныя гасп. пабудовы, вуліцы: Рынкаўская, Рубяжэвіцкая, Слуцкая, Віленская, Мінская, Станькаўская, Плябанская. Вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт III Ваза даў права жыхарам Койданава праводзіць на год 2 вял. кірмашы: на грамніцы (2 лют.) і Сёмуху (май—чэрв.) і штотыднёвы базар. Пазней кірмашы пачалі дзейнічаць яшчэ на Юр'я (23 крас.) і на Пакровы (1 кастр.). У 1620 г. цэнтрам Койданава была гандл. плошча, якая з 4 бакоў была забудавана дамамі рамеснікаў і гандляроў. Тут размяшчаліся 5 крам, карчма і 23 мяшчанскія двары. У мястэчку налічвалася 110 двароў. У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. некалькі разоў было спалена, асабліва моцна мястэчка пацярпела і было спустошана ў 1655 г. У 1791 г. налічваліся 134 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з сярэдзіны 19 ст. цэнтр воласці Мінскага павета, мела свой герб: выява галінак дуба і алівы. У 1800 г. двор і мястэчка, уласнасць Дамініка Радзівіла, 277 двароў, 1237 жыхароў, уніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, кальвінскі збор, паштовая станцыя, 2 млыны, гандл. лаўкі. У вайну 1812 г. Койданава было захоплена французскімі войскамі, арганізавана падпрэфектура, размяшчаліся склады харчавання. У сярэдзіне ліст. 1812 г. каля Койданава адбыўся вя-





лікі бой, у выніку якога французы страцілі забітымі каля 1 тыс. салдат, 64 афіцэраў, каля 4 тыс. салдат трапілі ў палон. Гэта перамога адкрыла рас. войскам шлях на Мінск. У 1815 г. ў мястэчку 262 жыхары мужчынскага полу. У 1840 г. шмат жыхароў памерлі ад эпідэміі халеры. У 1851 г. пабудавана мураваная праваслаўная царква. У 1866 г. — 234 двары, 1383 жыхары, царква, касцёл, кірха, сінагога. У час паўстання 1863—64 гг. у ваколіцах Койданава дзейнічалі паўстанцкія атрады пад кіраўніцтвам А.Ваньковіча і Б.Аскеркі. У 1-й пал. 19 ст. на плошчы пабудаваны заезны дом (спалены польскімі войскамі ў 1920 г.). У 1871 г. праз Койданава прайшла чыгунка, быў пабудаваны 2-павярховы станцыйны будынак. У канцы 19 — пач. 20 ст. дзейнічалі праваслаўная царква, кальвінскі збор, касцёл, нар. і гар. вучылішчы, сінагога, 2 яўр. школы, багадзельня, шчацінны з-д, больш за 30 крам, паравы млын, бровар, на год праводзілася 6 кірмашоў. У 1885 г. пачала дзейнічаць ф-ка па ачыстцы свіной шчаціны. У 1897 г. налічваліся 4744 жыхары. У 1899 г. пачала працаваць запалкавая ф-ка «Дружына» (згарэла ў 1919 г.), у 1900 г. — 208 рабочых. У 1905—07 гг. неаднаразова адбываліся антыўрадавыя выступленні рабочых. У 1908 г. пачало працаваць гар.



Цэнтральны парк у г. Дзяржынск.

вучылішча, якое ў 1913 г. было пераўтворана ў выш. пач. школу. У 1912—13 гг. тут вучыўся беларускі паэт і драматург К.Крапіва (К.К.Атраховіч). З 1908 г. дзейнічаў лесапільны з-д. У 1909 г. ў мястэчку — 518 двароў, 4696 жыхароў, на чыг. станцыі — 15 жыхароў. У 1911—12 гг. дзейнічалі курсы па садаводстве і агародніцтве. У 1-ю сусветную вайну з лета 1915 г. знаходзілася ў прыфрантавой зоне. З вясны 1916 г. мястэчка і чыг. станцыю неаднаразова бамбілі ням. самалёты. З 1916 г. працавала фабрыка сухіх фарбаў. У 1917 г. ў мястэчку 781 двор, 4009 жыхароў. У сак. 1917 г. створаны Савет салдацкіх дэпутатаў, а ў маі арганізаваны бальшавіцкі к-т. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена Савецкая ўлада. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з 27.2.1919 г. ў Літ.-Бел. ССР. З жн. 1919 г. акупіравана польскімі вой-



Будынак дзяржынскіх раённых выканкома і Савета дэпутатаў.



Аўтастанцыя ў г. Дзяржынск.



*А.К.Бурак.*



*Я.І.Фамiных.*

скамі, якія ў ліп. 1920 г. спалілі мястэчка, з 11 вуліц засталося 4 , згарэла 200 дамоў. 12.7.1920 г. Койданава вызвалена Чырвонай Арміяй, створаны рэўком. З 31.7.1920 г. мястэчка ў складзе аднoўленай БССР. У кастр.—ліст. 1920 г. ў другі раз акупіравана польскімі войскамі, потым знаходзілася ў нейтральнай зоне паміж польскімі і чырвонаармейскімі часцямі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. засталося ў складзе БССР. У 1920-я г. бандыты неаднаразова рабілі спробы захапіць Койданава. Абарону мястэчка трымаў 14-ы асобны Койданаўскі ўзвод 2-га Мінскага палка і 16-ы Койданаўскі пагранатрад. З 17.7.1924 г. — цэнтр Койданаўскага р-на Мінскай акругі, які 15.3.1932 г. рэарганізаваны ў нац. польскі раён. З 3.5.1932 г. Койданава набыло статус горада, які 29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынск. У 1924 г. пачалі дзейнічаць электрастанцыя, Нар. дом, ф-ка «Слон». У 1926 г. 750 дамоў, 5475 жыхароў. З 15.1.1929 г. пачала выходзіць раённая газ. «Чырвоны койданавец», з 1930 г. — «Трактар», у 1931—32 гг. — «Ударнік Койданаўшчыны». У 1929 г. 11 вуліц, 14 завулкаў. У маі 1932 г. адкрыты польскі агранамічны тэхнікум. 15.5.1928 г. арганізавана шавецкая арцель «Аб'яднанне», у 1930 г. створана МТС. У 1932 г. працавалі дрэваапрацоўчы к-т, цагельны з-д, электрастанцыя і інш. прадпрыемствы. З 31.7.1937 г. да 4.2.1939 г. ў Мінскім р-не, потым зноў цэнтр раёна (беларускага). У 1939 г. ў Дзяржынску 8,7 тыс. жыхароў. На 1.1.1941 г. дзейнічалі звыш 20 прадпрыемстваў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут больш за 2 тыс. чалавек. З жн. 1941 г. да ліп. 1944 г. ў горадзе дзейнічала патрыят. падполле, антыфашысцкі к-т «Смерць фашызму». К-т аб'ядноўваў 6 падп. груп, у якіх было звыш 120 чалавек. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з Мінскім падп. гаркомам КП(б)Б, з партыз. атрадамі імя Будзённага, імя Фрунзе, імя Чкалава, «Баявы», са спецгрупамі. Пасля арыштаў у кастр. 1942 г. к-т перастаў дзейнічаць, большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны. У гонар антыфаш. к-та «Смерць фашызму» на будынку доследна-будаўнічага з-да у 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Дзяржынск вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 7.7.1944 г. ў ходзе Беластоцкай наступальнай аперацыі воінамі 2-га Бел. фронту. На фронце загінулі больш за 250 жыхароў горада, у падполлі і ў партыз. барацьбе — 140 чалавек, 78 жыхароў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. У сак. 1948 г. зацверджаны ген. план забудовы Дзяржынска.



*Плошча Дзяржынскага ў г. Дзяржынск.*



*Касцёл св. Ганны (1785; 1990-я г.) у г. Дзяржынск.*

Аднавіла дзейнасць Дзяржынская МТС, у 1946 г. яна стала пераможцам у рэсп. спаборніцтве сярод МТС. Закладзены гарадскі парк. Аднавіліся прамысловыя прадпрыемствы, медыцынскія, культ.-асветніцкія ўстановы, пабудаваны 3 школы, Дом Саветаў, кінатэатр, Дом культуры, бальніца, стадыён, жылыя дамы. У чэрв. 1956 г. арцель «Чырвоны штампоўшчык» рэарганізавана ў Дзяржынскі механічны з-д. У 1956 г. на базе швейнай арцелі «Аб'яднанне» арганізавана Дзяржынская швейная ф-ка. У сак. 1961 г. на базе МТС пачало працаваць раённае аб'яднанне сельгастэхнікі. Арцель «8 Сакавіка» ў 1957 г. пераўтворана ў тэкстыльную ф-ку. У 1966 г. пабудаваны льнозавод, 7.11. 1967 г. даў першую прадукцыю маторны з-д. У 1976—80 гг. здадзены ў эксплуатацыю эксперыментальна-механічны з-д. У 1986 г. ў горадзе звыш 80 вуліц, завулкаў працягласцю звыш 50 км. У 1986 г. здадзены ў эксплуатацыю будынак Цэнтр. дзярж. архіва кінафотафонадакументаў БССР. У 1970 г. — 11,5 тыс. жыхароў. Працуюць (2010) доследны механічны, маторарамонтны з-ды, з-д «Рамдэталь», ільнозавод, хлебазавод, швейная і тэкстыльная ф-кі, райпрамкамбінат, торфапрадпрыемства «Дзяржынскае», раённыя аддз. «Сельгастэхнікі» і «Сельгасхіміі», 3 перасоўныя механізаваныя калоны. Дзейнічаюць рэгіянальны цэнтр прафесійнай адукацыі, аграрна-тэхн. прафесійны ліцэй, школа мастацтваў, 2 гімназіі, 4 сярэднія школы, муз. і дзіцячая спарт. школы, Дом школьніка, 8 дашкольных устаноў, Бел. дзярж. архіў кінафотафонадакументаў, Дом культуры, гіст.-краязнаўчы музей, кінатэатр, бальніца. Выдаецца раённая газ. «Сцяг кастрычніка». Брацкая магіла чырвонаармейцаў, брацкія могілкі сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Помнікі архітэктуры — касцёл Апекі Божай (2-я пал. 18 ст.), Пакроўская царква (1881). Памятны знак у гонар 850-годдзя заснавання горада (1996), помнікі У.І.Леніну, Ф.Э.Дзяржынскаму. Археал. помнік — гарадзішча жалезнага веку, эпохі Кіеўскай Русі і позняга феадалізму. Радзіма Герояў Сав. Саюза А.К.Бурака, Я.І.Фаміных, пісьменніка, журналіста, грамадскага дзеяча А.А.Патоцкага, бел. паэта А.В.Вольскага, жывапісца А.І. Крася, мастака-дэкаратара Г.І.Русанавай, акадэміка НАН Беларусі М.І.Міцкевіча. Пражываў поўны кавалер ордэна «Славы» І.С.Шмея.

**АДАСЕЎШЧЫНА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 14 км на Пд ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 49 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2009).



А.І.Кроль.



Г.І.Русанава.



Спаборніцтва на першынство па дзюдо Дзяржынскага раёна.



А.В.Вольскі сярод маладога пакалення г. Дзяржынск.



*М.І.Міцкевіч.*

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 49 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1917 г. ў вёсцы 13 двароў, 78 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-ым с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.08.1937 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага , з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.9.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 75 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У пасляваен. час уваходзіла ў калгас «Чырвоны сцяг» і Негарэльскі с/с. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».



*І.С.Шмея.*

**АЛЕКСАНДРОВА** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Дзяржынска, 33 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 15 жыхароў (2009).



*А.В.Сабалеўскі.*

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Уздзенскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 16 двароў, 112 жыхароў, у аднайменным выселку — 2 двары, 11 жыхароў, ва ўрочышчы — 1 двор, 8 жыхароў. Вяскоўцы апрача земляробства займаліся бандарным промыслам. У 1917 г. ў вёсцы было 23 двары, 134 жыхары, у лясной старожцы—3 двары, 10 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Зяньковіцкага с/с Уздзенскага р-на Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. ў Дабрынёўскім с/с Дзяржынскага р-на. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны каля вёскі ва ўрочышчы Доўгі Востраў базіравалася партыз. брыгада М.М.Нікіціна. Тут знаходзіцца брацкая магіла 9 партызан, якія загінулі 14.6.1942 г. ў баі з гітлераўцамі. 22.6.1942 г. фашысты расстралялі 20 мірных жыхароў вёскі, на магіле якіх у 1958 г. пастаўлены помнік. У пасляваенны час знаходзілася ў складзе саўгаса імя М.Казея. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**АНДРЫЕЎШЧЫНА** — вёска ў Бараўскім с/с, на р. Волка (прыток р. Сула), за 22 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 55 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1800 г. 22 двары, 57 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Уваходзіла ў склад казённага маёнтка Паланевічы, у 1870 г. — 31 жыхар мужчынскага полу. У 1897 г. 12 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. — 17 двароў, 128 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 19 двароў, 97 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад калгаса «Маяк». У 1991 г. 9 двароў, 15 жыхароў. У 2009 г. ў СВК «Маяк-78». Радзіма бел. тэатразнаўца, доктара мастацтвазнаўства А.В.Сабалеўскага.

**АНТОНАЎШЧЫНА** — вёска ў Волменскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 34 км ад чыг.ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 59 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 8 двароў, 36 жыхароў, уладанне памешчыцы Юдзіцкай. У 1870 г. — 28

жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Волма Свідавай і Волменскай сельскай грамады. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 20 двароў, 113 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. налічвалася 109 жыхароў. Па Рыжскаму мірнаму дагавору (1921) адышла да Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 21 гаспадарка, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Валмянскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 25.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ўваходзіла ў склад калгаса імя Леніна. Пазней увайшла ў калгас «Мір». У 1991 г. 17 двароў, 35 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**АНТОСІНА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 27 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 38 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. вёска Антосін у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. ўладанне памешчыкаў А.Талкачовай і П.Радзеўскага, 17 рэвізскіх душ. У 1876 г. належала А.І.Багдашэўскаму. У 1897 г. 70 жыхароў, у 1917 г. – 136 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім (Вязанскім) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кустар», дзейнічала кузня. Абслугоўвала Фаніпальская МТС. У 1935 г. ў гаспадарцы здабылі 1780 т торфу. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў вёскі. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У пасляваенны час у калгасе «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У 1960 г. 120 жыхароў. У 1991 г. 24 двары, 75 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**АРЭХАЎКА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 36 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., у складзе Гарохавішчанскай сельскай грамады. У 1897 г. 18 двароў, 115 жыхароў, у 1917 г. – 19 двароў, 106 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У пасляваенны час уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага. У 1960 г. ў Станькаўскім с/с, 50 жыхароў.

**БАГДАНАЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, на р. Рапуса (прыток р. Уса), за 16 км на ПдУ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Баранавічы–Мінск, 37 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1800 г. 7 двароў, 36 жыхароў, уласнасць князя Д. Радзівіла. У 1815 г. ўладанне графа К.Чапскага. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 52 жыхары. У 1917 г. налічвалася 12 двароў, 87 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім раёне. У 1926 г. 15 двароў, 82 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. У 1960 г.

налічвалася 67 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя Леніна. У 1991 г. 12 двароў, 25 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**БАГРЫЦОЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 10 км на ПдУ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Баранавічы–Мінск, 36 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 19 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. налічвалася 42 жыхары мужчынскага полу, уладанне графа Э.Чапскага, у складзе Станькаўскага ключа. У 1897 г. 23 двары, 115 жыхароў. У 1909 г. 29 двароў, 161 жыхар, у 1917 г. 36 двароў, 198 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. ў Дзяржынскім, з 31.7. 1937 г. Мінскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 129 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны на фронце загінулі 17 жыхароў вёскі. У 1960 г. 123 жыхары, уваходзіла ў калгас імя Леніна. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».



*С.П.Шушкевіч.*

**БАКІНАВА** – вёска ў Бараўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 48 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска ў Мінскім павеце, 11 двароў, 64 жыхары, уладанне Д.Радзівіла. У 1805 г. ў складзе фальварка Мікулічы Койданаўскага графства, дзейнічаў млын. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў складзе Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 31 жыхар. У 1917 г. 87 жыхароў. На базе маёнтка, які быў паблізу Бакінава, у 1920-х г. склаўся пасёлак Бакінава, але ў канцы 1930-х г. ён аб'яднаўся з вёскай. З 20.8. 1924 г. вёска ў Бараўскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі ), з 31.7.1931 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У 1926 г. налічвалася 29 двароў, 144 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», працавала кузня. Калгас абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны непадалёку ад вёскі ў Бакінаўскім лесе размяшчаўся штаб 125-га партызанскага атрада імя Сталіна. На франце загінулі 10 вяскоўцаў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1980-я г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса імя С.М.Кірава. У 1991 г. 32 двары, 76 жыхароў. Дзейнічалі пач. школа, магазін. У 2009 г. ў складзе СВК «Баравое–2003». Радзіма бел. пісьменніка С.П.Шушкевіча.

**БАРАВІКІ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 25 км на У ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, каля шашы Негарэлае–Самахвалавічы, 30 км ад Мінска. 77 гаспадарак, 269 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 47 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. у складзе маёнтка Віцкаўшчына, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. Згодна інвентару 1840 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндзе ў памешчыка І.Багдашэўскага. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1876 г. належала шляхціцу А.П.Баравіку. У 1897 г. налічвалася 5 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 50 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Рубілкаўскага с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Койданаўскага, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з

4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 12 двароў, 53 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», дзейнічала кузня, гаспадарка абслугоўвалася Фаніпальскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў вёскі. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. ў вёсцы 98 жыхароў. У 1970 г. 27 двароў, цэнтр калгаса «Праўда». У 2009 г. цэнтр СВК «Праўда-Агра». Працуюць рамонтныя майстэрні, вытв. брыгада, лесапілка, сярэдняя школа, яслі-сад, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, лазня. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Помнік археалогіі — курганны могільнік.

**БАРАВОЕ** — вёска, цэнтр с/с, за 9 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 145 гаспадарак, 417 жыхароў (2009).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў сярэдзіне 16 ст. У 1588 г. сяло, 43 дымы, у Станькаўскай вол. Мінскага павета ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1756 г. пабудавана праваслаўная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 56 двароў, 323 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., у складзе маёнтка Рудзіца, уласнасць памешчыкаў Дыбоўскіх. У 1867 г. адкрыта пач. школа. У 1870 г. ў вёсцы 135 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 79 двароў, 974 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паміж вяскоўцамі і мясц. памешчыкам часта адбываліся спрэчкі па пытанні выкарыстання сенакосных угоддзяў, а ў 1908 г. сяляне самавольна захапілі памешчыцкія лугі і пасвілі на іх сваю жывёлу. У выніку на 7 жыхароў вёскі па рашэнні Мінскага акруговага суда былі накладзены розныя тэрміны арышту. У канцы 1920 г. польскія акупанты расстралялі 6 сялян, якія не далі памешчыку вывезці дабро. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Бароўскага с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 122 двары, 612 жыхароў. У 1936 г. была пабудавана сярэдняя школа. У 1940 г. 104 двары, 514 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. гітлераўцы спалілі 21 двор, загубілі 5 мірных вяскоўцаў. У гады акупацыі ў вёсцы дзейнічала парт.-камсамольская група Дзяржынскага падпольнага антыфаш. к-та «Смерць фашызму». Пісьменнік І.Ф.Стаднюк у рамане «Чалавек не здаецца» апісаў баявыя дзеянні Чырвонай Арміі каля вёскі ў 1941 г., удзельнікам якіх ён быў. Пасля вайны вёска адбудавана, адноўлены калгас. На фронце загінулі 46 вяскоўцаў. У 1960 г. 377 жыхароў, цэнтр калгаса імя Горкага. У 1970 г. 99 двароў, 288 жыхароў. З 2003 г. вёска з'яўляецца цэнтрам СВК «Баравое-2003». У 2007 г. на яе базе створаны аграгародок. Працуюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, аддз.



*Капліца-пахавальня Дыбоўскіх у в. Баравое.*

сувязі, магазін. Помнікі: капліца-пахавальня пач. 20 ст., помнік на брацкай магіле 330 савецкіх воінаў, якія загінулі ў чэрв.-ліп. 1941 г. пры выхадзе з акружэння і ў ліп. 1944 г. пры вызваленні в. Баравое і навакольных вёсак ад ням.-фаш. захопнікаў; мемарыяльная дошка ў гонар падпольшчыкаў; помнік 236 землякам сельсавета, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Вёска — радзіма бел. фізіка, акадэміка АН Беларусі Л.В. Валадзько і бел. філосафа, чл.-кар. АН Беларусі А.І.Савасцюка.



*Л.В.Валадзько.*



*А.І.Савасцюк.*

**БАРКІ** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Дзяржынска, 28 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 41 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У 1885 г. засценкі Баркі—Казлоўшчына (яны ж Баркі Вышэйшыя) і Баркі Ніжэйшыя ў Станькаўскай воласці Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў засценку Баркі 1 было 4 двары, 30 жыхароў, у засценку Баркі 2 — 4 двары, 34 жыхары. У 1917 г. ў засценку Баркі—7 двароў, 55 жыхароў, на аднайменным хутары 10 двароў, 33 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.3.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 50 жыхароў, у аднайменным пасёлку—12 двароў, 57 жыхароў. У 1918—20 гг. акупіравана ням., затым польскімі войскамі. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. Напярэдадні Вял. Айч. вайны налічвалася 16 двароў, 128 жыхароў. З 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. была спалена, загінулі 6 жыхароў. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.Казея. У 1960 г. ў вёсцы налічвалася 76 жыхароў. У 1991 г. — 12 двароў, 17 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**БАТУРОВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 33 жыхары мужчынскага полу, у складзе маёнтка Тэкліполь, маёмасць Свентаржыцкай. У 1897 г. налічвалася 17 двароў, 105 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 23 двары, 163 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы налічвалася 32 двары, 146 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў вёскі. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. Уваходзіла ў склад калгаса «Дзямідавічы». У 1991 г. — 32 двары, 66 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**БОБРАЎКА** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 5 км на Пн ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. аколіца ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 61 жыхар, у 1917 г. — 79 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Макаўчыцкага с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 77 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да

6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. 70 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Чырвоная Зорка». У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**БУДА** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 25 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2009).

Вядома з пач. 18 ст. У 1707 г. вёска, 3 двары, уладанне К.Друцкага-Сакалінскага, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі. У 1799 г. 7 двароў, 40 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 30 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыка С.Дыбоўскага, у складзе Кавярлянскай сельскай грамады. У 1897 г. 17 двароў, 103 жыхары, дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма. У 1917 г. – 23 двары, 101 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Байдацкім с/с (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Леднікскі ) Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с. З 29.6.1932 г. ў Дзяржынскім, з 31.7.1937 г. ў Заслаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 26 двароў, 105 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзёнага. Працавалі кузня, сталярная і шорная майстэрні, абслугоўваўся Фаніпальскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. Пасля вызвалення адноўлены калгас. З 8.4.1957 г. вёска ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 41 жыхар, уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе. У 1991 г. – 12 двароў, 21жыхар. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**БУЛЫНКІ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 23 км на У ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Фаніпаль, на лініі Мінск–Баранавічы, 35 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска, 51 жыхар, 8 двароў, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 7 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. – 9 двароў, 60 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Рубілкаўскага с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 52 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. налічвалася 52 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр – в. Томкавічы). Працавала ферма. У 1991 г. – 10 двароў, 25 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда- Агра».

**БУЛЫНШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Дзяржынска, 7 км чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 58 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2009).

У пач. 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1805 г. адносілася да фальварка Зубрэвічы. У 1858 г. дзярж. ўласнасць, 5 душ мужчынскага полу, у складзе маёнтка Койданава. У сярэдзіне 19 ст. ў Паланевіцкай сельскай грамадзе. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў складзе Койданаўскай вол. таго ж павета. У 1870 г. 5 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 6 двароў, 51 жыхар. У 1917 г. – 9 двароў, 50 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 1-м (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) с/с Койданаўскага р-на Мін-

скай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 45 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. вёска ў Ляхавіцкім с/с, 33 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. — 7 двароў, 9 жыхароў. У 2009 г. ў Станькаўскім с/с, у складзе с/г ЗАТ «Негарэльскае».

**БЯЗОДНІЦА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 7 км на Пд ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 49 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 16 жыхароў (2009).

У 1800 г. ўрочышча, 1 двор, 3 жыхары, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1805 г. засценак у складзе фальварка Зубрэвічы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Уваходзіла ў склад казённага маёнтка Койданава, у 1870 г.—11 душ мужчынскага полу, адносілася да Паланевіцкай сельскай грамады. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 46 жыхароў. У 1917 г. — 21 двор, 94 жыхары, у аднайменным урочышчы — 1 двор, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.7. 1937 г. нац. польскі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9. 1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 19 двароў, 85 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г.— 31 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. — 6 двароў, 7 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».

**БЯЛІЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 30 км на У ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 33 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 36 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 68 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 88 жыхароў. У 1916 г. пачало працаваць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы налічвалася 20 двароў, 112 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.7.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 24 двары, 112 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Камунар», дзейнічалі калгасная кузня, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. — 81 жыхар. Уваходзіла ў склад калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Баравікі). У 1991 г. — 21 двор, 57 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**БЯРЭЖА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 22 км ад Мінска. 36 гаспадарак, 88 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло Бярозы (яно ж Беражы ) у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 156 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў складзе Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1876 г. належала шлях-

цічу А.І.Багдашэўскаму. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 23 хлопчыкі. У 1897 г. 14 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. тут 13 двароў, 80 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім нац. польскім с/с (14.5.1936 г. рэарганізаваны ў беларускі). З 29.6. 1932 г. ў Дзяржынскім, з 31.7.1937 г. ў Мінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 13 двароў, 56 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас, дзейнічала малочная арцель, торфапрадпрыемства. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 170 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У 1991 г. — 46 двароў, 113 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Побач з вёскай знаходзіцца помнік археалогіі — стараж. курган.

**ВАЛМЕЧКА** — вёска ў Волменскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 49 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 24 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 жыхароў мужчынскага полу, млын, уладанне Ржэўскіх. У 1858 г. фальварак памешчыка А.Ваньковіча. Пры фальварку ў 1885 г. дзейнічала карчма. У 1897 г. 46 жыхароў. У 1909 г. фальварак у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 34 жыхары. З 1921 г. у складзе Польшчы, у Волменскай гміне Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. фальварак, 5 двароў, 38 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас «Савецкая Армія». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. З 15.12. 1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. У 1991 г. — 31 двор, 55 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ВАЛОЎНІКІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 47 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 27 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло, 19 валок зямлі, у Старынкаўскай вол. Мінскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 42 жыхары, уладанне князя Д.Радзівіла. У 1858 г. 52 жыхары мужчынскага полу, уладанне памешчыка А. Ленскага. У канцы 19 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1889 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 12 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 187 жыхароў. На пач. 20 ст. ў Вялікасельскай вол. У 1916 г. пачало дзейнічаць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. — 30 двароў, 183 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 46 двароў, 202 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. У 1960 г. налічвалася 133 жыхары . Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 25 двароў, 56 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», магазін, ферма.

**ВАЛЯРОВА** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, на р. Алехаўка (прыток р. Уздзянка), за 27 км на ПдУ ад Дзяр-

жынска, 27 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. вёска ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. налічвалася 30 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея (цэнтр — в. Данілавічы). У 1991 г. — 4 двары, 8 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра». На могілках помнік на магіле невядомага савецкага воіна, які загінуў у 1944 г.

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Волменскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 37 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 39 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 56 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Валмянскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1921 г. 11 двароў, 56 жыхароў. У час Вял. Айч. вайны на фронце загінуў 1 жыхар. Пасля вайны ўваходзіла ў склад калгаса «Мір». У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 19 км на ПнУ ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 15 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 50 жыхароў (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 8 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 122 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Фалько. У 1991 г. — 35 гаспадарак, 80 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003», у 2009 г. ў складзе філіяла «Фалько-Агра». Помнік на брацкай магіле 483 савецкіх воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. У наваколлі вёскі захаваўся стараж. помнік — курганны могільнік.

**ВАСІЛЬКАВА** (да 1964 г. Лапцэвічы) — вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 39 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска Лапцэвічы ў Мінскім павеце. У 1800 г. 11 двароў, 42 жыхары, уласнасць князя Д.Радзівіла. У 1858 г. налічвалася 65 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыка Э. Чапскага. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 40 двароў, 258 жыхароў, дзейнічалі царква на могілках, лаўка. У 1917 г. — 46 двароў, 260 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. ў Дзяржынскім, з 31.7.1937 г. Мінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 58 двароў, 301 жыхар. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана ням. войскамі, у ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. — польскімі войскамі. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 118 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя Леніна (цэнтр в. Забалацце ). У 1991 г. — 22

двары, 35 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі». Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ВЕРТНІКІ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 18 км на Пн ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 63 км ад Мінска. 42 гаспадаркі, 67 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. як сяло і двор у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. 31 дым, 34 валокі зямлі, у складзе маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 24 двары, 143 жыхары, уладанне князя Д.Радзівіла. Пазней вёска адышла ў заклад да І. Тышкевіча. Паводле інвентара за 1845 г. маёнтак Вертнікі (1404 дзес. зямлі) уласнасць памешчыка губ. сакратара І.Вяржбоўскага, які ён набыў па купчай у 1828 г. ў князя Вітгенштэйна. Па рэвізіі 1833 г. 227 рэвізскіх сялян, у в. Вертнікі 27 двароў, дзейнічала карчма. У 1870 г. ў вёсцы 77 жыхароў мужчынскага полу, у Вертнікаўскай сельскай грамадзе. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 263 жыхары, у маёнтку 30 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1915 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 45 двароў, 318 жыхароў, у маёнтку 61 жыхар. З 20.8. 1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. На базе земскай была адкрыта пач. школа (у 1925 г. 52 вучні). У 1926 г. ў вёсцы 65 двароў, 317 жыхароў, у аднайменным пасёлку (былы маёнтак ) 15 двароў, 80 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Новае жыццё». Дзейнічаў дызельны млын. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 жыхары. З 16.7.1954 г. вёска – цэнтр Вертнікаўскага с/с, з 8.4.1957 г. ў складзе Путчынскага с/с. У 1960 г. – 273 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». Дзейнічала школа. У 1991 г. 53 двары, 130 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», ферма. Помнік на брацкай магіле 37 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941–1944 гг., за 1 км ад вёскі помнік на магіле партызана С.В.Адамовіча, які загінуў у 1943 г.

**ВІНАГРАДАЎКА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 38 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 26 жыхароў (2009).

У пасляваенны час уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр – в. Петкавічы). У 1960 г. ў Дзяржынскім с/с, 70 жыхароў. За 2 км ад вёскі ва ўрочышчы Рыжаўка помнік на магіле 13 тыс. грамадзян яўр. нацыянальнасці з краін зах. Еўропы, вывезеных сюды і расстраляных у жн.–вер. 1941 г. ням.-фаш. захопнікамі. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ВІТАЎКА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Фаніполь на лініі Мінск–Баранавічы, 22 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1764 г. пабудавана драўляная Крыжа-Уздзвіжанская царква. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. памешчыцкая ўласнасць, у складзе маёнтка Чаркасы памешчыцы Лауры Свентаржыцкай, 5 рэвізскіх жыхароў. У 1880 г. – 17 жыхароў. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў складзе Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Дзейнічала праваслаўная царква. У 1897 г. 30 жыхароў. У 1917 г.–5 двароў, 45 жыхароў. Навакольныя землі належалі памешчыку Свіду. У жніўні 1917 г.

сяляне вёскі ва ўрочышчы Місеўск учынілі самавольную парубку панскага лесу. З 20.8.1924 г. вёска ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. У 1960 г. 46 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Фалько. У 1991 г. — 12 гаспадарак, 28 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003», у 2009 г. — філіяла «Фалько-Агра». Радзіма Героя Сац. Працы І.С.Маліноўскага. Помнік прыроды — Вітаўская крыніца.



*І.С.Маліноўскі.*

**ВІЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Уздзянка (Жэсць, прыток р. Уса), за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 23 км ад Мінска. 41 гаспадарка, 114 жыхароў (2009).

Вядома з 18 ст. як фальварак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Мінскай губ. Рас. імперыі, уладанне Радзівілаў. З 1829 г. належаў Л.П. Вітгенштэйну, з 1879 г. — яго сыну П.Л.Вітгенштэйну, які ў 1879 г. прадаў Віцкаўшчыну І.А.Бунгу. Згодна інвентару 1840 г. маёнтак (5593 дзес. зямлі, у т.л. 818 дзес. ворыва, 183 селяніны мужчынскага і 172 сялянкі жаночага полу) знаходзіўся ў арэндзе ў Ігната Багдашэўскага. У склад маёнтка ўваходзілі фальваркі Віцкаўшчына і Казлоўшчына. У 1883 г. зямля фальваркаў (500 дзес.) Віцкаўшчына і Казлоўшчына была прададзена ў карыстанне 15 сялянам. У 1864 г. пабудавана драўляная царква. У 1865 г. адкрыта школа. З 1879 г. належала І.А.Бунгу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў складзе Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. сяло, 20 двароў, 167 жыхароў, дзейнічалі ветраны млын, кузня, царква. У 1916 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча ). У 1917 г. 28 двароў, 176 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Рубілкаўскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 1930 г. ў Грычынскім с/с. З 8.1.1931 г. Койданаўскага р-на, з 23.3.1932 г. ў Мінскім гарсавеце, з 26.5.1935 г. ў Мінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 33 двары, 177 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас, які абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 172 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр — в. Грычына). У 1993 г. 17 двароў, 43 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Радзіма доктара гіст. навук, праф. М.М.Улашчыка.

**ВІШНЁЎКА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 44 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. фальварак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1876 г. належаў П.Ф.Леантоўскаму, 794 дзес. зямлі, дзейнічала карчма. З 20.8.1924 г. пасёлак у Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 22 двары, 114 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 125 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Кірава (цэнтр — в. Старая

Рудзіца ). У 1991 г. 24 двары, 55 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца».

**ВІШНЁЎКА** — вёска ў Станькаўскім с/с, на р. Рапуса (прыток р. Уса), за 11 км на ПдУ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 30 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. налічваўся 71 жыхар, у калгасе імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**ВОЙТАЎКА-1** — былая вёска ў Станькаўскім с/с, за 3 км на Пд ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска.

У 1800 г. вёска, уласнасць князя Д.Радзівіла, 15 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 9 сялян мужчынскага полу, у складзе казённага маёнтка Койданава. У 1897 г. 7 двароў, 50 жыхароў. У 1917 г. — 11 двароў, 57 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Нарэйкаўскага 1-га с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны на фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. ў вёсцы 24 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Рудня). У 1991 г. — 3 двары, 5 жыхароў. У 2004 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ВОЙТАЎКА-2** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

У пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 13 двароў, 83 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў складзе Нарэйкаўскага 1-га с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 8 двароў, 34 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 46 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Рудня ). З 2009 г. ў Станькаўскім с/с, у складзе СВК «Крутагор'е— Петкавічы».

**ВОЛМА** — вёска, цэнтр сельсавета, на р. Волма (прыток р. Іслач), за 30 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 32 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 72 гаспадаркі, 164 жыхары (2009).

Вядома з 2-й пал. 15 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць віленскага старасты В.Манівіда. У 1472 г. сяло, 14 дымоў, касцёл, які адносіўся да Віленскага біскупства. Непадалёку знаходзіўся маёнтак, які ў 1519 г. быў запісаны Я.Забржэзінскім сваёй жонцы Сафіі—дачцы М.Радзівіла. У 1563 г. ўладанне А.Гаштольда. У 1581 г. згадваецца як мястэчка, цэнтр маёнтка ў Мінскім павеце. У 1620 г. 55 двароў. На працягу 17—19 ст. належала Валадковічам, Філіповічам, Ванськовічам. У 1751 г. на

месцы касцёла 15 ст. пабудаваны драўляны Успенскі касцёл (у 1867 г. пераабсталяваны пад царкву, не захаваўся). У 1800 г. мястэчка (17 двароў, 85 жыхароў) і маёнтак Р.Юдзіцкай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1845 г. маёнтак належаў памешчыку А.Ваньковічу. У 1861 г. 14 двароў, 93 жыхары. У 1864 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча, у якім у 1892 г. быў 21 вучань. У 1897 г. сяло, 25 двароў, 175 жыхароў, у Вялікасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., дзейнічалі нар. вучылішча, кузня, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі, царква, малітоўны дом. Побач былі маёнткі Волма-1 (54 жыхары ), Волма-2 (16 жыхароў ), Волма-3 (31 жыхар ). У пач. 19 ст. на паўн. ускраіне В. на беразе р.Валмянка сфарміравана сядзіба з паркам (захаваўся сядзібны дом, флігель, службовы корпус, парк), што належала Ваньковічам. У маі 1906 г. тут адбываліся сялянскія хваляванні, у спыненні якіх прымала ўдзел паліцыя. У 1908 г. ў сяле 32 двары, 201 жыхар, у двух маёнтках 56 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавору з 1921 г. ў складзе Польшчы, з'яўлялася цэнтрам гміны ў Стаўбцоўскім павеце Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1921 г. мястэчка, 41 двор, 298 жыхароў, асада–3 двары, 14 жыхароў і фальварак – 5 двароў, 91 жыхар. З 12.10. 1940 г. – цэнтр Волменскага с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1950 г. цэнтр калгаса імя Леніна, пазней – калгаса «Мір». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. У 1970 г. 102 двары, 277 жыхароў. У 2009 г. цэнтр філіяла «Халадон-Агра», вытворчая брыгада, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 4 магазіны, бальніца, аптэка. Помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 19 ст. – сядзіба. Тут знаходзіцца філіял Міжнароднага экалагічнага ун-та імя А. Дз.Сахарава.

**ВОЎКА** – вёска ў Бараўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 48 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 41 жыхар (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло, 10 валок зямлі, у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 95 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла. У сяр. 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай, затым Вялікасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 64 жыхары мужчын-



*Сядзібны дом Ваньковічаў у в. Волма (19 ст.).*



*Касцёл Яна Хрысціцеля (2003) у в. Волма.*

скага полу, у складзе маёнтка Рудзіца, уладанне памешчыка Л.Дыбоўскага. У 1870 г. адносілася да Бараўской сельскай грамады. У 1897 г. 38 двароў, 231 жыхар. У 1917 г. 49 двароў, 288 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, затым з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 47 двароў, 263 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У 1940 г. 35 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв.–ліп. 1941 г. тут адбываліся цяжкія абарончыя баі, што ляглі ў аснову сцэнарыя фільма па раману І.Ф.Стаднюка «Чалавек не здаецца». Вёска была спалена. У брацкай магіле пахаваны 47 сав. воінаў 108-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў гэтых баях. На фронце загінулі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 148 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Горкага (цэнтр – в. Баравое ). У 1991 г. 31 двор, 78 жыхароў. З 2003 г. вёска ў складзе СВК «Баравое-2003». У 2009 г. ў вёсцы вытв. брыгада, клуб. Помнік на магіле 47 воінаў 108 стралк. дывізіі 3-й арміі.

**ВОЎКАВІЧЫ** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 16 км ад Мінска. 68 гаспадарак, 188 жыхароў (2009).

У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 60 двароў, 323 жыхары, непадалёку размяшчаўся аднайменны фальварак. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5.1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 298 жыхароў, уваходзіла ў склад Фаніпальскага с/с і калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр – в. Грычына). У 1991 г. 77 двароў, 234 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя», санаторый, пач. школа. Побач з вёскай знаходзіцца ландшафтны заказнік «Прылуцкі».

**ВЫЗВАЛЕННЕ** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 60 км ад Мінска. 2 двары, 4 жыхары (2009).

З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с Койданаўскага (з 29.6.1932 г. Дзяржынскага) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Ленінскі прызыў», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, 47 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас»Дзямідавічы». У 1988 г. –8 жыхароў, 6 двароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**ВЯЗАНКА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 24 км на ПнУ ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 17 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 107 жыхароў (2009).

У пач. 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. 79 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Р. і А. Пішчалаў. У 1897 г. вёска ў складзе Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 22 двары, 146 жыхароў, кузня. У 1917 г.–25 двароў, 158 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Самахвалавіцкім р-не Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага раёнаў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. З 1929 г. ў калгасе

імя Д.Ф.Фалько. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. налічвалася 117 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Фалько (цэнтр — в. Чаркасы). У 1991 г. 48 двароў, 140 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003», у 2009 г. — філіяла «Фалько-Агра», працуе клуб.

**ВЯЗАНЬ** — вёска, цэнтр Фаніпальскага с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 17 км на ПнУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, на аўтадарозе Мінск—Дзяржынск, 15 км ад Мінска. 83 гаспадаркі, 194 жыхары (2009).

Вядома з 1-й пал. 16 ст. як сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1515 г. маёнтак Вязань належаў Радзівілам. У 1582 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 48 жыхароў, драўляная уніяцкая царква Св. Троіцы, карчма, млын, гаспадскі дом, уладанне князя Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У канцы 19 ст. маёнтак належаў Багдашэўскім. У 1897 г. 120 жыхароў, дзейнічалі вадзяны млын, царква на могілках. У 1917 г. 356 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Самахвалавіцкім р-не Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. — цэнтр Фаніпальскага с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1920-х г. арганізаваны саўгас «Вязань», на сядзібе якога ў 1937 г. створана Фаніпальская МТС (праіснавала да 1958 г.). З 1922 г. дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку (у 1925 г. 37 вучняў). Працаваў крухмальны завод. У 1925 г. 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. ў Фаніпальскім с/с, 213 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Д.І.Фалько (цэнтр — в. Чаркасы). У 1996 г. 71 двор, 200 жыхароў. З 2003 г. вёска ў складзе СВК «Фалько-2003». У 2009 г.ў складзе філіяла «Фалько-Агра», клуб, б-ка, магазін.

**ВЯЛІКАЕ БЕЛЯКОВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 3 гаспадаркі , 4 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. засценак у Мінскім павеце. У 1800 г. 14 двароў, 72 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 84 жыхары. У 1917 г. вёска, 8 двароў, 85 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-ім с/с (з 18.12.1925 г. Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Сталінскім с/с (да 14.5. 1936 г. нац. польскі). З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. 34 жыхары. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе. У 1991 г. 7 двароў, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе».

**ВЯЛІКАЕ ГАРОХАВІШЧА** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 30 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. Гарохавішча, 40 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 21 двор, 122 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 164 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданайскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынска-

га, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. налічвалася 29 двароў, 110 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сцяг камуны», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 18 жыхароў вёсак Вял. і Малое Гарохавішчы. У 1960 г. — 63 жыхары. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея. У 1991 г. 9 двароў, 17 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО** — вёска ў Бараўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 53 км ад Мінска. 131 гаспадарка, 295 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. як паселішча Сяло Вялікае ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1589 г. ў Старынкаўскай вол., 70 дымоў, карчма, 82 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. налічвалася 192 жыхары мужчынскага полу, уладанне памешчыцы В.Аборскай. У 1874 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучалася 22 хлопчыкі і 7 дзяўчынак, у 1906 г.—84 вучні. У 1897 г. 107 двароў, 676 жыхароў, цэнтр воласці, дзейнічала нар. вучылішча, валасны фельчарскі пункт, хлебазапасны магазін. У 1908 г.—122 двары, 859 жыхароў, цэнтр Вялікасельскай вол. У 1917 — 145 двароў, 903 жыхары. У лют.— снеж. 1918 г. акупіравана ням. войскамі. У час акупацыі дзейнічаў партыз. атрад. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. да канца сак. 1921 г. акупіравана польскімі войскамі. У 1919 г. польская паліцыя арыштавала і расстраляла ва ўрочышчы Забалацце групу вясковай моладзі за сувязь з Чырвонай Арміяй. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 163 двары, 855 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Усход», які абслугоўваўся Дзяржынскай МТС. Дзейнічала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі гітлераўцы расстралялі 16 мірных жыхароў. На фронце загінулі 52 жыхары вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 561 жыхар. З 1963 г. цэнтр калгаса імя В.В.Дакучаева. У 1970 г. — 132 двары, 513 жыхароў. У 2009 г. цэнтр філіяла «Вялікасельскі» ААТ «Дзяржынскі райаграсервіс», рамонтныя майстэрні, ферма, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, магазін. Помнік 55 землякам, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны.

**ВЯЛІКАЯ ШАТАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 4 км на Пд ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 36 жыхароў (2009).

У пач. 19 ст. вёска Шатаноўшчына ў Мінскім пав. Мінскай губ., уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1815 г. тут 12 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. таго ж павета. У 1870 г. 36 жыхароў мужчынскага полу, у складзе дзярж. маёнтка Койданава. У 1897 г. 29 двароў, 155 жыхароў. У 1917 г. — 38 двароў, 222 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. вёска Шатаноўшчына — 1, 21 двор, 111 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г.

да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў вёсак Вялікая і Малая Шатаноўшчына. У 1960 г. ў вёсцы 107 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны сцяг». У 1991 г. — 23 двары, 42 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».




*Магіла пісьменніка Каруся Каганца ў в. Вялікія Навасёлкі.*

**ВЯЛІКІЯ НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 162 гаспадаркі, 389 жыхароў (2009).

Вядома як маёнтак Навасёлкі ў 2-й пал. 18 ст., уласнасць памешчыкаў Кастравіцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1830—40-я гг. тут сфарміраваўся архіт.-паркавы ансамбль, які ўключаў сядзібны дом, парк, стайню, жылы дом—«мураванку», спіртзавод. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. браты Кастравіцкія былі сасланы ў Сібір, а сядзіба секвестравана і перададзена ў казну. У канцы 19 ст. маёнтак належаў памешчыку Здахоўскаму. У 1897 г. 101 жыхар. У 1907 г. І.Здахоўскі заснаваў у маёнтку Навасёлкі вінакурны завод (7 рабочых). У 1917 г. 179 жыхароў. У ліп. 1921 г. на былых землях памешчыка Здахоўскага арганізаваны саўгас «Вялікія Навасёлкі»—адна з першых жывёлагадоўчых гаспадарак ў Беларусі. З 20.8.1924 г. ў складзе Макаўчыцкага с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. — цэнтр Навасёлкаўскага с/с у Койданаўскім нац. польскім р-не. З 29.3.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1930-я г. ў саўгасе працавалі вінакурны завод, кузня, вадзяны млын, гонтарэзка. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 34 жыхары. З 1945 г. — цэнтр калгаса «Перамога», з 1980 г.—цэнтр калгаса «Чырвоная зорка». З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. — 544 жыхары, у 1970 г. —156 двароў, 553 жыхары. У 2009 г. цэнтр СВК «Крутагор'е—Петкавічы», майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, жывёлагадаўчы комплекс; сяр. школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Помнікі: на магіле бел. пісьменніка К.Каганца, землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Помнік архітэк-

*Сядзіба Кастравіцкіх (1-я пал. 19 — пач. 20 ст.) у в. Вялікія Навасёлкі.*



туры 19 ст. — сядзіба, помнік археалогіі—старaж. селішча за 1,5 км на ПнУ ад вёскі на правым беразе р. Вуса.

**ВЯСЁЛЫ ВУГАЛ** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 26 двароў, 130 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у складзе маёнтка Станькава. У 1858 г. ўласнасць казны, 51 жыхар мужчынскага полу. Уваходзіла ў склад Паланевіцкай сельскай грамады. У 1897 г. 21 двор, 125 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1911 г. дзейнічала земская школа. У 1917 г. 27 двароў, 156 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. ў Дзяржынскім, з 31.7.1937 г. Мінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным памяшканні. У 1925 г. навучалася 60 дзяцей. У 1926 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. У 1930 г. пачаў дзейнічаць калгас «Вясёлы Вугал». Працавалі кузня, механічная майстэрня. Гаспадарка абслугоўвалася Негарэльскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 вяскоўцаў. У 1960 г. 131 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. — 22 двары, 52 жыхары. У 2009 г. ў складзе с/г ЗАТ «Негарэльскае».

**ГАЁЎКА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 27 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1768 г. 2 двары, уласнасць І.Агінскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 17 жыхароў, уладанне Д.Радзівіла. У 1870 г. ў складзе Чарнікоўшчынскай сельскай грамады, 24 жыхары мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 19 жыхароў. У 1917 г. вёскі Гаёўка Вялікая (19 двароў, 114 жыхароў) і Гаёўка Малая (14 двароў, 88 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Байдацкім с/с. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў в. Гаёўка Вялікая было 18 двароў, 98 жыхароў, у в. Гаёўка Малая 10 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 88 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Іскра». У 1991 г. 20 двароў, 43 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**ГАЛЫШОВА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 22 км на Пн ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

У 1858 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ., 16 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыцы В.Вайцэхоўскай. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 10 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 13 двароў, 68 жыхароў, у аднайменным засценку 4 двары, 11 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 4.2.1939 г.

зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 11 двароў, 68 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар вёскі. З 16.7. 1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. Путчынскім с/с. У 1960 г. 39 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Камсамолец». У 1991 г. — 6 двароў, 8 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», магазін.

**ГАРАДЗЕЯ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 3 км на У ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2009).

У 1960 г. вёска ў Станькаўскім с/с, 52 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага. У 1988 г. 13 двароў, 29 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ГАРАДЗІЛАВА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 24 км на Пд ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2009).

Уваходзіла ў калгас «Расія» (цэнтр — в. Зубарэвічы). У 1988 г. 41 жыхар. У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі».

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Негарэльскім с/с, на р. Пeратуць (прыток р. Уса), за 17 км на ПдУ ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 74 гаспадаркі, 161 жыхар (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. засценак баярына Г.Гайдука, 1 валока зямлі, у складзе маёнтка Станькава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 26 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскй вол. таго ж павета. У 1897 г. ў вёсцы 24 жыхары, у 1917 г. — 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы налічвалася 4 двары, 12 жыхароў, у леснічоўцы — 7 двароў, 35 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя М.Астроўскага, працавала шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічае вучэбна-вопытны лясгас Бел. тэхналагічнага ун-та. З 1968 г. працуе Музей прыроды. У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі», магазін.

**ГАРБУЗЫ** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 18 км на Пд ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 53 км ад Мінска. 112 гаспадарак, 342 жыхары (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, 30 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 41 жыхар мужчынскага полу, уладанне князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Койданаўскую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1883 г. пабудавана каталіцкая капліца. У 1897 г. 18 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. — 15 двароў, 102 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1929 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 25 двароў, 132 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1970 г. 45 двароў, 168 жыхароў, цэнтр калгаса «Бела-

русь». У 1991 г. 273 жыхары. У 2009 г. ў складзе с/г ЗАТ «Негарэльскае», рамонтныя майстэрні, школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, ферма. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ГАРУЦІШКІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 10 км на Пн ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 42 гаспадаркі, 75 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. як фальварак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1800 г. 4 двары, 20 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. фальварак належаў памешчыку В.Зябкоўскаму. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. тых жа павета і губ. У 1871 г. пабудавана драўляная Петрапаўлаўская царква. У 1884 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. было 18 вучняў. У 1897 г. сяло, 6 двароў, 44 жыхары, царква, карчма. У 1917 г. 30 двароў, 167 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. На базе царк.-прыходскай была адкрыта пач. школа, у якой у 1925 г. навучалася 50 дзяцей. У 1926 г. 14 двароў, 58 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «За ўладу Саветаў». Дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. У 1960 г. 175 жыхароў. У 1963 г. ўваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 44 гаспадаркі, 109 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», пач. школа, ферма, магазін. На могілках помнік на брацкай магіле 12 сав. воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Дзяржыншчыны ад ням.-фаш. захопнікаў у ліп. 1944 г.

**ГАРЭНАЎКА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 33 км на У ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 39 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. засценак у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 двары, 33 жыхары. У 1917 г. 4 двары, 29 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. 35 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр — в. Баравікі). У 1991 г. 13 гаспадарак, 42 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**ГЛУХОЎШЧЫНА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 39 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уладанне князя Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала казне, у складзе маёнтка Койданава і Паланевіцкай сельскай грамады. У 1870 г. 10 душ мужчынскага полу. У 1897 г. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 103 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 142 жыхары. У 1919 г. адкрыта пач. школа, у 1925 г. 46 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў. З

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 25 двароў, 127 жыхароў. У 1930-я г. аб'яднаны ў калгас імя Варашылава, працавалі механічная і шорная майстэрні. Гаспадарка абслугоўвалася Койданаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. У 1960 г. 124 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. 20 гаспадарак, 53 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон—Агра».

**ГЛУШЫНЦЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 23 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 42 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска і фальварак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 90 жыхароў, уладанне мінскага гарадскога суддзі М.Ваньковіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. Пры фальварку дзейнічала драўляная уніяцкая царква. У 1858 г. 43 душы мужчынскага полу. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак Пацэвіча. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 96 жыхароў, капліца, у маёнтку 24 жыхары, у Старасельскай вол. тых жа павета і губ. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, 100 жыхароў, у маёнтку 32 жыхары, на аднайменным хутары 2 двары, 18 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (18.12. 1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі с/с, з 25.7.1931 г. да 4.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 25 двароў, 113 жыхароў, на аднайменным хутары 5 двароў, 21 жыхар. Дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 35 вучняў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Авангард». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Путчынскім с/с. З 1956 г. ў калгасе «Камсамолец» (цэнтр — в. Скірмантава). У 1960 г. налічвалася 56 жыхароў. У 1991 г. 7 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ГРЫНКЕВІЧЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. 6 двароў. 51 жыхар, уласнасць Т.Юдзіцкай, у Мінскім павеце Мінскай губ. Пазней вёскай валодала Л.Ліхадзіеўская. У 1858 г. ў складзе маёнтка Яхімава памешчыцы Пратасевіч, 14 рэвізскіх душ. З 2-й пал. 19 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. тых жа павета і губерні, у Галабурдаўскай сельскай грамадзе. У 1897 г. 9 двароў, 58 жыхароў. У 1917 г. 17 двароў, 76 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 74 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. 79 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Камсамолец» (цэнтр — в. Скірмантава). У 1991 г. 13 гаспадарак, 34 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ГРЫНЬКОВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 26 км на ПнУ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 25 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 30 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло ў Койданаўскай вол. Мінскага павета ВКЛ. Побач быў аднайменны маёнтак.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска і маёнтак у Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. налічвалася 26, у 1917 г. 27 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 17 двароў, 93 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. налічвалася 114 жыхароў, уваходзіла ў калгас імя Фрунзе (цэнтр – в. Дворышча). У 1991 г. 16 гаспадарак, 43 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе».

**ГРЫНЬКОЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 37 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1779 г. сяло Грынюкі, 9 двароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 35 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, пазней памешчыка Чапскага. У 1858 г. 16 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Станькава. У 1897 г. 6 двароў, 60 жыхароў, у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 13 двароў, 78 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 14 двароў, 71 жыхар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. 48 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У 1991 г. 7 двароў, 14 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**ГРЫЦКАЎШЧЫНА** – вёска ў Бараўскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 50 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць памешчыка М.Кастравіцкага. У 1876 г. 794 дзес. зямлі, дзейнічала карчма. У 1897 г. 55 жыхароў, у 1917 г. 49 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 35 жыхароў, і аграпункт – 8 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. пасёлак у Бараўскім с/с, 74 жыхары. Уваходзіў у калгас імя Горкага (цэнтр – в. Баравое). У 1991 г. 17 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Баравое».

**ГРЫЧЫНА** – вёска ў Фаніпальскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 25 км ад Мінска. 141 гаспадарка, 557 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 1-й пал. 17 ст. У 1620 г. вёска ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. У 1656 г. тут адбываліся сялянскія антыфеадальныя выступленні. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 60 двароў, 404 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце Мінскай губ. У ліст. 1812 г. французскія войскі, разгромленыя рускай арміяй у Койданаўскай бітве, адступалі праз Грычына, вёска была спалена. У

1834 г. 228 жыхароў. У 1845 г. 58 двароў, 355 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. належала кн. П.Вітгенштэйну, у складзе маёнтка Віцкаўшчына, які згодна інвентару за 1840 г. знаходзіўся ў арэндзе ў І.Багдашэўскага, 57 двароў, 315 жыхароў. Дзейнічалі заезны дом, 2 карчмы. У 1865 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучаліся 34 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. У 1870 г. 153 рэвізскія душы, у складзе Чаркаскай сельскай грамады. У 1897 г. 90 двароў, 605 жыхароў, дзейнічалі кузня, школа, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма, у аднайменным засценку 10 двароў, 49 жыхароў, у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 101 двор, 576 жыхароў, у засценку 12 двароў, 72 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Грычынскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5.1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 21 жыхар. У пасляваенны час вёска з'яўлялася цэнтрам калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У 1971 г. 120 двароў, 401 жыхар. У 2005 г. на аснове вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя», вытв. брыгада, рамонтныя майстэрні, лесапільня, фермы, базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, магазін. Помнікі на брацкай магіле 356 сав. воінаў, на брацкай магіле 1500 сав. ваеннапалонных, расстраляных у 1941 г. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У наваколлі вёскі помнікі археалогіі — стараж. курганныя могільнікі 10—11ст. Вёска — радзіма бел. паэта І.І.Калесніка.



*Пакроўская царква ў в. Дабрынёва (1-я пал. 19 ст.).*

**ДАБРЫНЁВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 22 км на ПдУ ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 33 км ад Мінска. 91 гаспадарка, 187 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. У 1562 г. сяло і маёнтак у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. У 1588 г. 28 гаспадарак, 30 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1657 г. 31 валока зямлі, у складзе маёнтка Станькава. Непадалёку знаходзіліся аднайменныя засценкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 42 двары, 211 жыхар, адносілася да маёнтка Станькава, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1880 г. — 528 жыхароў, школа. Пазней перайшла ў валоданне графа Э.Чапскага. У 1876 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучаліся 63 хлопчыкі і 9 дзяўчынак. У вяскоўцаў былі частыя спрэчкі з памешчыкам Чапскім па пытанню аб межах іх зямель. У чэрв. 1885 г. вяскоўцы (да 250 чал.) аказалі супраціўленне ўладам пры ўстанаўленні межаў, якія вызначыў суд па патрабаванню памешчыка. У 1-й пал. 19 ст. на могілках пабудавана капліца. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 121 двор, 911 жыхароў, школа, хлебазапасны магазін, карчма, лаўка, царква на могілках. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у

маі 1905 г. жыхары вёскі самавольна пасвілі жывёлу на выганах графа Чапскага. Прыбыўшых для расследавання валаснога старшыню і пісара сяляне прагналі палкамі. Улетку 1911 г. 66 сялян былі арыштаваны за самавольны выпас жывёлы на памешчыцкіх угоддзях. У 1917 г. 157 двароў, 987 жыхароў. У 1918 г. арганізавана сельгаскамуна. З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Працавала пач. школа (у 1925 г. 2 настаўнікі, 155 вучняў). У 1926 г. 196 двароў, 1027 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», які абслугоўваўся Негарэльскай МТС. Дзейнічала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы расстралялі дырэктара Дабрынёўскай школы К.А.Бабка. На фронце загінулі і прапалі без вестак 80 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. 694 жыхары, у 1971 г. 183 двары, 504 жыхары. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея (цэнтр – в. Данілавічы). У 1997 г. 128 гаспадарак, 367 жыхароў. У 2009 г. ў філіяле «ММК-Агра», базавая школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, амбулаторыя, аптэка, магазін, ферма. Помнік архітэктуры 19 ст. – капліца. Помнікі на брацкай магіле 13 сав. воінаў, землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. На вясковых могілках помнік на магіле былога дырэктара Дабрынёўскай школы К.А.Бабка.

**ДАНІЛАВІЧЫ** – вёска ў Дабрынёўскім с/с, на р. Жэсць (верхняе цячэнне р. Уздзянка), за 24 км на ПдУ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 36 км ад Мінска. 140 гаспадарак, 383 жыхары (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў складзе Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. сяло ў Станькаўскай вол. У 1734 г. ўладанне А.Завішы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 69 двароў, 371 жыхар, драўляная праваслаўная Пакроўская царква, карчма, драўляны гаспадскі дом, уладанне Завішы і царквы, у складзе Ігуменскага павета. У 19 ст. ў складзе Станькаўскага ключа. У канцы 19 – пач. 20 ст. сяло ў Уздзенскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1864 г. адкрыта школа. У 1897 г. 157 двароў, 937 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, царква; у аднайменным фальварку 6 двароў, 37 жыхароў, ва ўрочышчы 1 двор, 6 жыхароў. Сяльчане (18 сямей) акрамя земляробства займаліся бандарным промыслам. У 1900 г. адкрыта земская школа. У 1908 г. ў вёсцы 175 двароў, 1089 жыхароў, у фальварку 48 жыхароў, у аднайменным урочышчы – 3 жыхары. У 1917 г. налічвалася 206 двароў, 1140 жыхароў, у фальварку 65 жыхароў, у лясной старожцы 2 двары, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. ў Мінскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На базе земскай адкрыта пач. школа (у 1925 г. 2 настаўнікі, 109 вучняў). У 1926 г. ў вёсцы налічвалася 187 двароў, 969 жыхароў, у пасёлку 8 двароў, 53 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгасы «Ударнік прамысловасці» і імя Калініна. Працавалі 2 кузні, шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады акупацыі дзейнічала падп. група. На фронце загінулі 65 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. 718 жыхароў, у 1971 г. 179 двароў, 544 жыхары, цэнтр саўгаса імя М.Казея. У 2009 г. вёска – цэнтр філіяла «ММК-Агра», ферма, рамонтныя майстэрні, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, комплексны прыёмны

пункт, лясніцтва, магазін. Помнікі: на вясковых могілках на магіле першага старшыні Уздзенскага РВК Ф.А.Пекарэвіча, закатаванага польскімі акупантамі ў 1919 г., на магіле 4 партызан атрада «25 год Кастрычніка», якія загінулі ў 1943 г., а таксама землякам, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У 1958 г. ў ваваколлі вёскі знойдзены скарб манет часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

**ДАНІЛАВІЧЫ** – пасёлак у Дабрынёўскім с/с. За 21 км на ПдУ ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 59 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

Узнік у пач. 20 ст. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. ў Мінскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі ў калгасе «Чырвоны баец». У 1960 г. налічвалася 33 жыхары. Уваходзіў у калгас імя М.Казея, у 2009 г. ў складзе філіяла «ММК–Агра»

**ДАЎНАРЫ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 25 км на У ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 37 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 104 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. У канцы 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Самахвалавіцкую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 13 двароў, 137 жыхароў. У 1917 19 двароў, 109 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку 22 двары, 114 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. У 1960 г. вёска, 105 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр – в. Томкавічы). У 1991 г. 21 двор, 44 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда- Агра».

**ДВОРЫШЧА** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с. За 25 км на ПнУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 28 км ад Мінска. 212 гаспадарак, 616 жыхароў (2009).

У пач. 17 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1620 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 30 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы М.Дабравольскай, у складзе маёнтка Крыштафова. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 34 жыхары, у 1917 г. 43 жыхары. З 20.8.1924 г. засценак у Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку 5 двароў, 36 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.194 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Сталінскім с/с, які 8.4.1957 г. быў перайменаваны ў Дзямідавіцкі. У 1960 г. 156 жыхароў, у 1971 г. – 97 двароў, 374 жыхары, цэнтр калгаса імя Фрунзе. У 1979 г. ў мясц. школе адкрыты гіст.-краязнаўчы музей. У 1991 г. 199 гаспадарак, 656 жыхароў. У 2009 г. цэнтр УП «Фрунзе», сярэдняя школа, яслі-сад, Дом культуры, б-ка, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ДЗЕЖКІ** – вёска ў Рубілкўскім с/с, за 33 км на ПдУ ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 36 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У пач. 19 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. 20 жыхароў мужчынскага полу, уладанне кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Віцкаўшчына кн. Л.П.Вітгенштэйна. Паводле інвентару за 1840 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндным карыстанні ў памешчыка І.Багдашэўскага. У засценку дзейнічалі праваслаўная капліца, піцейны дом, жытніца. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ўваходзіла ў Самахвалавіцкую вол. таго ж павета і губ. У 1885 г. ўпамінаюцца засценкі Дзяжкі і Дзяжкі Лядныя. У 1897 г. ў засценку Дзяжкі – 6 двароў, 50 жыхароў, у засценку Дзяжкі Лядныя 4 двары, 29 жыхароў. У 1917 г. ў засценку Дзяжкі 6 двароў, 53 жыхары, у засценку Дзяжкі Лядныя 4 двары, 30 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 58 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. налічвалася 46 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр – в. Баравікі). У 1991 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда–Агра».

**ДЗЯГІЛЬНА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, на р.Ператуць (прыток р. Уса), за 4 км на З ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 39 км ад Мінска. 159 гаспадарак, 397 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. як сяло Дзягільна Вялікае ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. ў сяле Дзягільна Вялікае налічваўся 51 дым, у сяле Дзягільна Малое 15 дымоў, уласнасць Радзівілаў. Згодна інвентару маёнтка за 1621 г. з'яўлялася фальваркам Койданаўскага графства. Сяляне плацілі чынш, адбывалі баршчыну і інш. павіннасці. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі. У 1796 г. дзейнічала карчма. У 1800 г. сяло і вёска ў Мінскім павеце, 25 двароў, 222 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1845 г. маёнткам Дзягільна (уваходзілі вёскі Малое Дзягільна, Вялікае Дзягільна, засценак Садкоўшчына) валодаў памешчык А.Янушкевіч, мелася 193 душы. У 1858 г. вёскі Вялікае Дзягільна (94 рэвізскія душы), Малое Дзягільна (17 рэвізскіх душ) і маёнтак належалі памешчыку Я.Янушкевічу. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1883 г. адкрыта школа. У 1897 г. сяло, 330 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У аднайменным маёнтку 46 жыхароў, вадзяны млын. У чэрв. 1905 г. сяляне ў спрэчцы з памешчыкам за карыстанне выганам аказалі супраціўленне паліцыі. У 1912 г. адкрыта школа (аднакласнае народнае вучылішча). У 1917 г. ў сяле 91 двор, 464 жыхары, у маёнтку 114 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Макаўчыцкага с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. Койданаўскага местачковага Савета. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Працавала пач. школа (у 1925 г. 103 вучні). У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Бальшавіцкі сеў». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 40 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. ў складзе

Дзяржынскага с/с, 521 жыхар, у пасёлку 76 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Петкавічы). У 1991 г. 199 гаспадарак, 511 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е—Петкавічы». Працуюць пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, ферма. Помнікі на брацкай магіле 32 савецкіх воінаў, якія загінулі ў чэрв.—ліп. 1941 г., на магіле польска-бел. пісьменніка А.Янушкевіча. Помнік археалогіі — старажытнае гарадзішча на беразе р. Пературць.



*А.У.Шот.*

**ДЗЯМІДАВІЧЫ** — вёска, цэнтр с/с, за 19 км на Пн ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 35 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. як сяло ў складзе маёнтка Койданава Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. 18 дымоў, 19 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1796 г. вёска і засценак у Койданаўскім графстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 29 двароў, 147 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, дзейнічала карчма. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе Навасадскай сельскай грамады і маёнтка Падгур'е, які належаў Малышэўскай. У 1858 г. 51 жыхар мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1876 г. знаходзілася ў арэндзе. У 1880 г. вёска і аднайменны фальварак належалі Вагнерам, меліся 372 маргі зямлі. У 1897 г. 43 двары, 248 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У канцы 19 ст. ўласнасць памешчыцы Фот. У 1912 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 45 двароў, 277 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. Сталінскага с/с, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў. З 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У 1926 г. 53 двары, 236 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы сумесна з жыхарамі в. Батурава арганізавалі адзін з першых на Дзяржыншчыне калгас «Чырвоная Беларусь». Працавалі 7-гадовая школа, радыёвузел, клуб. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 жыхароў. З 8.4. 1957 г. — цэнтр сельсавета. У 1960 г. 278 жыхароў, у 1971 г. 63 двары, 204 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы» (цэнтр — в. Юцкі). У 1991 г. 49 гаспадарак, 108 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы», сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. На вясковых могілках помнік на брацкай магіле 33 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. Радзіма бел. вучонага ў галіне хірургіі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі А.У.Шота.

**ДЗЯНІСАЎШЧЫНА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 26 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1750 г. 3 двары, 7 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Т.Філіповіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Мінскім павеце, налічвалася 7 двароў, 37 жыхароў, уладанне Т.Ваньковіча. У 1845 г. 6 двароў, у складзе маёнтка Волма, уладанне памешчыка А.Ваньковіча. У 1858 г. 20 рэвізскіх душ. З сярэдзіны 19 ст. ўваходзіла ў Волменскую сельскую грамаду. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 55 жыхароў. У 1917 г.—16 гаспадарак, 99 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8. 1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяр-

жынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска, 11 двароў, 54 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. З 1956 г. ў калгасе «Камсамолец». У 1960 г. налічвалася 37 жыхароў. У 1991 г. ў вёсцы 16 гаспадарак, 38 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ДУБРАВА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 12 км на ПнУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 26 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 41 жыхар (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 23 жыхары, уладанне Койданаўскага кальвінскага збору. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе казённага маёнтка Чарнікоўшчына. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 10 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 8 двароў, 57 жыхароў. У 1917 г. налічвалася 15 двароў, 100 жыхароў, на аднайменным хутары — 1 двор, 3 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. было 14 двароў, 80 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. налічвалася 33 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр — в. Чэрнікоўшчына). У 1991 г. ў вёсцы 14 гаспадарак, 36 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**ДЫШЛЯДЫ** — пасёлак у Дабрынёўскім с/с, за 29 км на Пд ад Дзяржынска, 27 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 5 двароў, 8 жыхароў (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. выселак ва Уздзенскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. у Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынсага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 35 жыхароў. Уваходзіў у саўгас імя М.Казея. У 1991 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**ЕЦКАЎШЧЫНА** — хутар у Негарэльскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска.

У пач. 20 ст. хутар у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1032 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 2 двары, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў, у складзе філіяла «Крыон-Агра».

**ЖАКІ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 32 км на У ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1794 г. 9 двароў, 60 жы-

хароў, уладанне М.К.Агінскага. У 1880 г. 12 двароў, 70 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Віцкаўшчына, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. Згодна інвентару за 1840 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндзе ў памешчыка І.Багдашэўскага. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 69 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 70 жыхароў. З 20.8.1924 г. у Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1932 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня, механічная і шорная майстэрні. Гаспадарку абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з чэрвеня 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. 77 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр – в. Баравікі). У 1991 г. 12 гаспадарак, 70 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**ЖУРАВІНКА** (да 1964 г. Сыраваткі) – вёска ў Бараўскім с/с, за 15 км на З ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 55 км ад Мінска. 87 гаспадарак, 258 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска Сыраваткі ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 29 жыхароў, у складзе маёнтка Рубяжэвічы, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 18 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. 17 двароў, 127 жыхароў. З 20.8.1924 г. У Паланевіцкім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 19 двароў, 106 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. У 1960 г. 68 жыхароў, цэнтр калгаса «Маяк». У 1991 г. 42 гаспадаркі, 122 жыхары. У 2009 г. цэнтр СВК «Маяк-78», пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, рамонтная майстэрня, лесапільня. На могілках помнік на брацкай магіле 26 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЖЫЛЕЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 37 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 33 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. Пазней вёскай валодаў Э.Чапскі, у складзе маёнтка Станькава. У 1858 г. 16 рэвізскіх душ (жыхароў мужчынскага полу). У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 91 жыхар. У 1908 г. 14 двароў, на аднайменным хутары 9 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 105 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (з 29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы былі 21 двор, 99 жыхароў, на аднайменным хутары 3 двары, 16 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце за-

гінулі 8 вяскоўцаў. У 1960 г. 97 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У 1991 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**ЖЫТНАЕ** – былая вёска ў Волменскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 31 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 46 км ад Мінска.

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 110 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У канцы 19 ст. ва ўладанні памешчыка Горватава. У 1885 г. засценак, урочышча, фальварак. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў сядзібе 7, у фальварку 21 жыхар. У 1909 г. ў фальварку 5 жыхароў, ва ўрочышчы 12 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. фальварак (4 двары, 22 жыхары) і асада (1 двор, 11 жыхароў) у Волменскай гміне Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяводства. З 12.10. 1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас імя Леніна. З 8.1. 1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім, з 12.8.1970 г. ў Дзяржынскім р-нах. Уваходзіла ў склад калгаса «Мір» (цэнтр – в. Волма). У 2006 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ЗАБАЛАЦЦЕ** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 12 км на У ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 48 км ад Мінска. 131 гаспадарка, 418 жыхароў (2009).

Вядома з 17 ст. У 1620 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1662 г. сяляне вёскі скардзіліся гаспадару маёнтка аб злоўжываннях адміністрацыі, рабаваннях вайскоўцамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 84 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. ў вёсцы 130 рэвізскіх душ. У 1897 г. 66 двароў, 516 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 82 двары, 547 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў ў Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 122 двары, 601 жыхар. Дзейнічала пач. школа, у 1925 г. 2 настаўнікі, 114 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прабуджэнне», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. акупанты загубілі 19 мірных жыхароў. На фронце загінулі 37 вяскоўцаў. Пасля вайны цэнтр калгаса «Непераможны сцяг», з 1970 г. імя У.І.Леніна. У 1960 г. 422 жыхары, у 1971 г. 101 двор, 359 жыхароў. У 1991 г. 82 гаспадаркі, 547 жыхароў. У 2009 г. ў агракамбінаце «Дзяржынскі», базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазін. На могілках помнік на магіле 19 мірных жыхароў вёсак Забалацце і Коскі, якія загінулі ад рук ням.-фаш. акупантаў у 1943 г. У цэнтры – помнік 70 землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЗАГАЙНА** – былая вёска ў Волменскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 34 км ад Мінска.

У 2-й пал. 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 31 жы-

хар, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. 2 фальваркі, урочышча і 3 пасекі (6 двароў, 48 жыхароў). У 1908 г. ў Ракаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 20 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. засценак, 6 двароў, 39 жыхароў, у Волменскай гміне Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1951 г. ўваходзіла ў калгас «Сталінская Канстытуцыя». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцях. З 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. Дзяржынскім р-нах. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Волма). У 2006 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ЗАГАЦЦЕ** — пасёлак у Негарэльскім с/с, за 24 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

У пасляваенныя гады ўваходзіў у склад калгаса «Расія» (цэнтр — в. Зубрэвічы). У 1988 г. 16 жыхароў, у 1991 г. 7 двароў, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі».

**ЗАГРАДДЗЕ** — пасёлак у Дабрынёўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 1 двор, 3 жыхары, уладанне Радзівілаў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 6 двароў, 17 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 34 жыхары. Уваходзіў у саўгас імя М.Казея (цэнтр — в. Данілавічы). У 1991 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**ЗАЛАТАРЫ** — вёска ў Волменскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 50 жыхароў, уладанне памешчыкаў Ржавускіх і Юдзецкай. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ванькові́чу, уладальніку маёнтка Волма. У 1845 г. 14 двароў. У 1858 г. 27 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 85 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 87 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавору з сак. 1921 г. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 15 гаспадарак, 112 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 1950 г. ў калгасе «Савецкая Армія». Пазней у калгасе «Мір». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцях. З 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. Дзяржынскім р-нах. У 1991 г. 13 двароў, 23 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон—Агра».

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 68 км Мінска. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. фальварак у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 1 двор, 9 жыхароў, уладанне І.Валадковіча. У 1897 г. фальварак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 43 жыхары. У 1917 г. 27 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Байдацкім с/с (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі с/с) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 23.3. 1932 г. ў Сталінскім с/с. З 20.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1930 г. ў калгасе імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. З 8.4. 1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 63 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Фрунзе. У 1991 г. 13 гаспадарак, 34 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе».

**ЗАРЭЧНАЕ** (да 1964 г. вёскі Більдзюкі і Кулакоўцы) — вёска ў Путчынскім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 26 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёскі ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, размяшчаліся паабапал р. Пціч. У 1800 г. ў вёсцы Кулакоўцы 8 двароў, 64 жыхары, фальварак, млын на р. Пціч; у вёсцы Більдзюкі 3 двары, 31 жыхар, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Кулакоўцы, уласнасць памешчыка Вайцяхоўскага. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. (у в. Більдзюкі 16 двароў, 97 жыхароў, у маёнтку Кулакоўцы 8 двароў, 31 жыхар, у фальварку Кулакоўцы 1 двор, 9 жыхароў). У 1917 г. ў в. Більдзюкі 14 двароў, 66 жыхароў, у в. Кулакоўцы 5 двароў, 10 жыхароў, на хутары Кулакоўцы 3 двары, 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёскі ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (18.12. 1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы Більдзюкі 19 двароў, 83 жыхары, у пасёлку Кулакоўцы 18 двароў, 75 жыхароў. З 1929 г. ўваходзілі ў калгас «Авангард». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Путчынскім с/с. У 1960 г. ў в. Більдзюкі 64 жыхары, у в.Кулакоўцы 86 жыхароў. Уваходзілі ў саўгас «Камсамолец» (цэнтр — в. Скірмантава). У 1991 г. ў вёсцы Зарэчнае 32 гаспадаркі, 65 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца».

**ЗАХВОЙНІКІ** — пасёлак у Дабрынёўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. пасёлак у Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 42 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. 31 жыхар. Уваходзіў у саўгас імя М.Казея. У 1991 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК—Агра».

**ЗОСІНА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 14 км на У ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 34 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 27 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 101 жыхар. У

1908 г. 19 двароў, 125 жыхароў. У 1905—07 гг. жыхар вёскі А.Дзядзюля праводзіў рэв. агітацыю сярод аднавяскоўцаў. Пры вобыску былі выяўлены лістоўкі РСДРП. У 1908 г. 19 двароў, 125 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 94 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны май». Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. У 1960 г. налічвалася 119 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**ЗУБРОЎШЧЫНА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 22 км на Пд ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі сельсавет) Койданаўскага (29.6.1032 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенныя гады ў складзе калгаса «Расія». У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі». У наваколлі размешчаны аздараўленчы лагер.

**ЗУБРЭВІЧЫ** — вёска ў Негарэльскім с/с, на р. Ператуць, за 28 км на Пд ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 58 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 46 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1740 г. належала Равудзіцу, Ржавускім, пазней вёскай валодаў А.Машэўскі. У 1777 г. вёска і аднайменны фальварак у складзе Койданаўскага графства, уладанне Радзівілаў. Граф Э.Чапскі выкупіў вёску ў Машэўскага і далучыў яе да Станькаўскага ключа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 75 жыхароў, непадалёку знаходзіўся аднайменны фальварак. У 1879 г. граф Э.К.Чапскі заснаваў у маёнтку вінакурны з-д. З пач. 19 ст. ў складзе Станькаўскага ключа. У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у арэндзе І.Ждановіча, 78 цяглых двароў з вёсак Губін, Лісаўшчызна, Макаўчыцы, 665 рэвізскіх душ, звыш 3 тыс. дзес. зямлі, у т.л. 456 ворыўнай. У 1897 г. 63 жыхары, у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У чэрв. 1914 г. сяляне аказалі супраціўленне памешчыку пры размежаванні выгану. У 1917 г. 120 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас, які абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. акупанты часткова спалілі вёску, загубілі 15 мірных жыхароў. На фронце загінулі 24 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1971 г. 23 двары, 76 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Расія». У 1991 г. 36 гаспадарак, 89 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі», клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЗУЁЎКА** — вёска ў Волменскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 33 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—

Баранавічы, 46 км ад Мінска. 82 гаспадаркі, 228 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 19 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала ўладальніку маёнтка Волма А.Ваньковічу. У 1858 г. – 2 рэвізскія душы. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 двары, 17 жыхароў, дзейнічаў млын, у 1908 г. 13 жыхароў. З 1921 г. у складзе Польшчы. У 1921 г. асада, 4 двары, 38 жыхароў, у Волменскай гміне Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў калгасе імя Леніна. Працаваў млын. Пазней уваходзіла ў калгас «Мір». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абл. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. Дзяржынскім р-нах. У 2009 г. ў складзе філіяла «Хладон-Агра».

**КАВАЛЬЦЫ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 27 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 49 км ад Мінска. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 64 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы В.Пратасевіч, уладальніцы маёнтка Яхімава. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе Галабурдаўскай сельскай грамады. У 1897 г. 48 двароў, 265 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, капліца. У 1917 г. 54 двары, 337 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8. 1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1939 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. адкрыта пач. школа. У 1926 г. 62 двары, 348 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. З 1956 г. ў саўгасе «Камсамолец». У 1960 г. 248 жыхароў. У 1991 г. 50 гаспадарак, 108 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», ферма, сталярна-цяслярская майстэрня.

**КАВЯРЛЯНЫ** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 71 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. непадалёку ад сяла Дзямідавічы знаходзіўся двор Кавярляны, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. Згодна інвентару падатку Койданаўскага графства за 1777 г. фальварак і вёска Кавярляны, уласнасць С.Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 18 двароў, 54 жыхары, гасподскі дом, уладанне Радзівілаў, у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе Кавярлянскай сельскай грамады, уласнасць Нелюбовічавай, уладальніцы маёнтка Кавярляны, 128 рэвізскіх душ, звыш 617 дзес. зямлі. У 1858 г. налічвалася 37 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. ў Койданаўскай вол. таго ж павета. У 1897 г. 20 двароў, 112 жыхароў, у аднайменным маёнтку 20 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 124 жыхары, у маёнтку 46 жыхароў. У крас. 1921 г. ў былым панскім маёнтку арганізаваны саўгас, дзейнічала б-ка. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г.

ў Мінскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 116 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прафінтэрн», дзейнічалі кузня, механічная і шорная майстэрні. Гаспадарка абслугоўвалася Фаніпальскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 вяскоўцаў. Пасля вайны калгас адноўлены. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 202 жыхары, уваходзіла ў калгас імя Фрунзе. У 1991 г. 41 гаспадарка, 86 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе», ферма. Помнік на брацкай магіле 86 савецкіх воінаў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**КАЗЛЫ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 32 км на У ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 35 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 17 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 68 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. налічваліся 43 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Праўда». У 1991 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда–Агра».

**КАЛІНІНА** – вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 22 км на У ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 32 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2009).

Заснавана як пасёлак Калініна ў 1920-я г. У гады Вял. Айч. вайны на фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. 80 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**КАЛОДНІКІ** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 15 км на Пд ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 48 км ад Мінска. 53 гаспадаркі, 139 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1800 г. 8 двароў, 31 жыхар, уладанне Радзівілаў. У 1805 г. засценак у складзе фальварка Зубрэвічы. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1886 г. вёска Калоднікі (яна ж Ванячы) у Мінскім павеце і Паланевіцкай сельскай грамадзе. У 1870 г. 15 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 11 двароў, 54 жыхары, на аднайменным хутары 3 двары, 21 жыхар. У 1917 г. у в. Калоднікі–Ванячы 48 двароў, 251 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска Калоднікі–Ванячы, 40 двароў, 184 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Свабода», дзейнічала кузня, абслугоўваўся Негарэльскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 19 жыхароў вёскі. Пасля вайны адноўлены калгас. Пазней вёска ўвайшла ў склад калгаса «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. 63 двары, 160 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**КАМАРОЎШЧЫНА** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 15 км на Пд ад Дзяр-

жынска, 3 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 45 жыхароў, у складзе маёнтка Койданава, уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Уваходзіла ў Паланевіцкую сельскую грамаду. У 1876 г. ўласнасць А.І.Багдашэўскага. У 1897 г. 11 двароў, 79 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў. У 1917 г. адкрыта школа. У 1918—20 гг. акупіравана ням., затым польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 87 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 40 вучняў), працаваў млын. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў вёскі. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. ў вёсцы 25 двароў, 53 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».

**КАМЕНКА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 43 двары, 91 жыхар (2009).

У сярэдзіне 17 ст. сяло ў складзе маёнтка Станькава ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1657 г. 11 валок зямлі, побач размяшчаўся аднайменны засценак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 96 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму, 84 рэвізскія душы (1858), у складзе маёнтка Станькава. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 40 двароў, 265 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 52 двары, 312 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 60 двароў, 321 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 19 жыхароў. У 1960 г. 317 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна. У 1991 г. 59 гаспадарак, 125 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**КАМЕНКА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 44 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 80 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 64 жыхары, у пасёлку — 3 двары, 16 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. У 1960 г. 14 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». За 0,2—0,5 км на

ПдЗ ад вёскі археал. помнік — гарадзішча ранняга жал. веку і стараж.-рус. часу.

**КАМЕНКА** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 56 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 30 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у складзе фальварка Зубрэвічы, дзейнічаў млын. У 1815 г. належала памешчыку Э.Чапскаму, у сярэдзіне 19 ст. І.Абламовічу, уладальніку маёнтка Негарэлае. У 1870 г. ў складзе Клачкоўскай сел. грамады, 18 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 101 жыхар. У 1917 21 двор, 147 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (19.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 133 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 жыхароў. У пасляваенны час уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. у вёсцы налічвалася 40 гаспадарак, 87 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».

**КАМЯННОЕ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 24 км на У ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 38 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.031932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. 44 жыхары, уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в. Томкавічы). У 1991 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**КАРАЧУНЫ** – вёска ў Бараўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 44 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 26 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. ўпамінаецца як сяло Карачунь у складзе маёнтка Койданава Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, 33 дымы, 36 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 61 жыхар мужчынскага полу, у складзе маёнтка Грыцкаўшчына, уладанне памешчыка М.Кастравіцкага. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1889 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 15 вучняў), якая ў 1912 г. была пераўтворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. 40 двароў, 283 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1917 г. 50 двароў, 357 жыхароў. З 20.8. 1924 г. вёска ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 50 вучняў). У 1926 г. 60 двароў, 336 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. налічваліся 244 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка». У

1991 г. 50 гаспадарак, 99 жыхароў. У 2009 г. ў складзе прадпрыемства «Дзяржынскрайаграсервіс». Школа. Помнік на брацкай магіле сям'і партызана М.А. Гармазы, расстралянай ням.-фаш. карнікамі ў 1943 г.

**КАСІЛАВІЧЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 44 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 23 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з канца 17 ст. У 1695 г. вёска ў складзе маёнтка Койданава Мінскага павета, 15 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 61 жыхар мужчынскага полу, уладанне памешчыка Л.Дыбоўскага, у складзе маёнтка Рудзіца. У 1897 г. 28 двароў, 212 жыхароў. У 1917 г. — 35 гаспадарак, 222 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 225 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны вёска была часткова спалена. У гады акупацыі дзейнічала падпольная група (кіраўнік А.Г.Мурашоў). На фронце загінулі 14 жыхароў. У 1960 г. 192 жыхары. Да 1969 г. цэнтр калгаса імя Кірава, пазней у складзе гэтага калгаса (цэнтр — в. Старая Рудзіца). У 1991 г. 34 гаспадаркі, 92 жыхары, рамонтная майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, аддзяленне сувязі, магазін. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца».

**КАЎШОВА** — вёска ў Путчынскім с/с, на р. Іслач (прыток р. Бярэзіна, басейн р. Нёман), за 24 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 26 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 27 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. тут 14 двароў, 61 жыхар, уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам Хежхавецкім. У канцы 19 — пач. 20 ст. у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (з 18.12.1925 г. Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1037 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г., хутар, 4 двары, 29 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Авангард», дзейнічала калгасная кузня. Гаспадарка абслугоўвалася Путчынскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Путчынскім с/с. У 1960 г. 134 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Камсамолец». У 1991 г. 34 гаспадаркі, 81 жыхар. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КЛАЧКІ** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 13 км на Пд ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска. 49 гаспадарак, 143 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. навакольная зямля належала баярам Мельку і Міхаілу Клачковым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 52 жыхары, у складзе маёнтка Койданава, уласнасць Радзівілаў, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Негарэлае, належала

памешчыку І.Абламовічу. У 1870 г. цэнтр Клачкоўскай сел. грамады, 48 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. 41 двор, 253 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1939 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 71 гаспадарка, 259 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя Калініна, які абслугоўвала Негарэльская МТС. Працавала шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 жыхары. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. 68 гаспадарак, 201 жыхар, ферма, лесапільня, рамонтныя майстэрні. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**КЛАЧКІ** — пасёлак у Негарэльскім с/с, за 13 км на Пд ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 149 жыхароў (2009).

Засн. ў 1930-я г. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенныя гады ўваходзіў у калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1988 г. 140 жыхароў. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**КЛЫПАЎШЧЫНА** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на Пд ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 41 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 77 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 44 жыхары, у складзе маёнтка Койданава, уладанне кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала казне, у складзе Паланевіцкай сел. грамады. У 1870 г. 22 душы мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1914 г. адкрыта пач. школа. У 1917 г. ў вёсцы 18 двароў, 112 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Макаўчыцкім, з 23.3.1932 г. ў Негарэльскім нац. польскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 108 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. навучалася 47 дзяцей, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў Дзяржынскім с/с. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. 214 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Петкавічы). У 1991 г. 47 гаспадарак, 110 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е— Петкавічы», клуб, магазін.

**КЛЯНОЎКА** (да 1964 г. Вільшчына) — вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 39 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 59 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. маёнтак Вільшчына ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1885 г. належаў графу К.Чапскаму. У 1897 г. 85 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1917 г. 166 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1939 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 75 жыхароў, дзейнічала школа. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя Тэльмана. У

Вял. Айч. вайну з 28.7.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. 131 жыхар, уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. 28 гаспадарак, 69 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі». Размешчана ферма.

**КОСКІ** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 8 км на У ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 8 двароў, 37 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1815 г. на сродкі прыхаджан пабудавана драўляная Успенская царква. У сярэдзіне 19 ст. вёска належала графу Э.Чапскаму. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 13 двароў, 71 жыхар, царква. У 1917 г. 18 двароў, 106 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Прабуджэнец». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 17 жыхароў. У 1960 г. 138 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. 33 гаспадаркі, 71 жыхар. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**КОСЦЕВІЧЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 6 км на З ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 57 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1620 г. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. У 1669 г. 15 валок зямлі, у складзе маёнтка Койданава. У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 44 жыхары, уласнасць Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку П.Артынскаму. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 52 жыхары, у аднайменных фальварках 3 двары, 18 жыхароў, належалі Барташэвічам і Басараўскім. У 1917 г. 18 двароў, 107 жыхароў, у фальварку 2 двары, 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны на фронце загінула 9 жыхароў вёскі. У 1960 г. 153 жыхары, уваходзіла ў калгас імя Горкага. У 1991 г. 33 гаспадаркі, 75 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Баравое-2003», пач. школа, магазін, ферма.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 27 км ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Койданаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. ўладанне графа Э.Чапскага, 32 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 9 двароў, 65 жыхароў, дзейнічала капліца. У 1917 г. 18 двароў, 106 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койда-

наўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 35 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр – в. Томкавічы). У 1991 г. ў вёсцы 7 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда–Агра».

**КРАСНАЯ ГОРКА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 21 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. хутар у Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 2 двары, 8 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр – в. Чэрнікаўшчына). У 1991 г. ў вёсцы 31 гаспадарка, 69 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**КРАСОЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 50 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 вяскоўцаў. У 1960 г. 50 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У 1988 г. 24 жыхары. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**КРЫЛОВА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 34 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У 1600 г. вёска ўпамінаецца ў дакументах па размежаванні зямель у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло і фальварак, дзейнічалі драўляная уніяцкая царква, карчма, млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. маёнтак Крылова належаў графу Чапскаму, 152 жыхары, дзейнічалі вадзяны млын, крупарушка, карчма. У 1917 г. 236 жыхароў, у аднайменным урочышчы 1 двор, 9 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1939 г. ў Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 58 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У 1991 г. 10 двароў, 13 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**КРЫЛОВІЧЫ** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 7 км на Пн ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 34 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 19 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 38 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыкаў І. і С. Кастравіцкіх. У сярэ-

дзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Вялікія Навасёлкі, уласнасць Здзяхноўскіх. У 1870 г. 22 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 9 двароў, 77 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 85 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 87 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. 54 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в. Вялікія Навасёлкі). У 1991 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е—Петкавічы». Радзіма У.М.Крыловіча (1895—1937) — бел. акцёра, аднаго з заснавальнікаў бел. тэатра, засл. артыста БССР.

**КРЫСАВА** — вёска ў Станькаўскім с/с, на р. Уса, за 6 км на У ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 33 км ад Мінска. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. З 1588 г. двор Крысаўскі, уласнасць П.Драгастайскага, у Мінскім павеце Мінскага ваяв., упамінаецца пры размяжаванні зямель маёнтка Станькава. У 1620 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1858 г. вёска, 32 жыхары мужчынскага полу, уладанне графа Э.Чапскага. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Станькаўскую вол. Мінскага павета Мінскай губерні, дзейнічалі фальварак і карчма. У 1897 г. маёнтак Крысава графа Чапскага, 152 жыхары, вадзяны млын на р. Уса, крупарушка, у карчме — 5 жыхароў. У 1917 г. 236 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1932 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 33 двары, 179 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Вольная праца», які абслугоўваўся Дзяржынскай МТС. Дзейнічалі вадзяны млын, кузня, торфапрадпрыемства. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 жыхароў. У 1960 г. 178 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. 40 гаспадарак, 81 жыхар. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі», магазін. Помнік археалогіі — старaж. селішча.

**КРЫШТАФОВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 22 км на Пн ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 31 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1800 г. 4 двары, 29 жыхароў, уласнасць стольніка К.Ліхадзіеўскага, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Крыштафова, уласнасць памешчыцы А.Валкоўны. У 1858 г. — 26 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 21 двор, 115 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1917 г. 19 двароў, 125 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навасадскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 111 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Новы быт», які абслугоўвала Дзяржынская МТС. Дзейнічала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана

ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. 142 жыхары, у Дзямідавіцкім с/с. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы». У 1991 г. 32 двары, 67 жыхароў. Клуб, магазін, ферма. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**КУКШАВІЧЫ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, на р. Уса, за 3 км на ПдУ ад Дзяржынска, 1,5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 61 гаспадарка, 167 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 16 ст. ўпамінаецца як сяло ў складзе маёнтка Крысава, уладанне Радзівілаў, у Мінскім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. У 1620 г. адносілася да маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 38 двароў, 246 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму, у складзе Кукшавіцкай сельскай грамады, у 1870 г. 187 рэвізскіх душ. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. навучаліся 46 хлопчыкаў і 17 дзяўчынак. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 102 двары, 724 жыхары, працавалі школа, хлебазапасны магазін, царква на могілках. У маі 1905 г. за патраву памешчыцкага сенакосу па рашэнні суда на сялян былі накладзены штрафныя санцыі. У час Першай сусв. вайны вёска знаходзілася ў прыфрантавой зоне, была спалена. У 1917 г. налічвалася 595 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 141 двор, 705 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Звязда», які абслугоўвала Дзяржынская МТС. Працавалі механічная і шорная майстэрні, кузня, пачатковая школа (у 1925 г. 73 вучні), торфапрадпрыемства. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі дзейнічала камсамольска-маладзёжная падпольная група (кіраўнік В.Н.Вашкевіч). На франце загінулі і прапалі без вестак 54 жыхары вёскі. У 1960 г. 400 жыхароў, у Станькаўскім с/с. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Петкавічы). У 1991 г. 90 двароў, 216 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы», клуб, ферма, магазін. Радзіма заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі, праф. І.Р.Івашына.

**КУЛІ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 20 км на У ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 38 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 57 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла. У 1815 г. 24 жыхары мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 59 жыхароў. У 1917 г. засценак, 8 двароў, 57 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага, з 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-наў Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 77 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. 49 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн». У 1991 г. 7 двароў, 9 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**КУЛІКІ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 17 км на З ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў. (2009).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1620 г. ў складзе маёнтка Койданава, уладанне Радзівілаў. У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 23 жыхары, у складзе маёнтка Рубяжэвічы, уласнасць князя Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам Ю. і Р. Асіповічам. У 1870 г. 14 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 37 жыхароў, у аднайменным маёнтку — 17 жыхароў, у аднаселлі — 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. вёска, 12 двароў, 74 жыхары, у Велікасельскай вол. таго ж павета. З 20.8. 1924 г. ў Паланевіцкім с/с (з 23.3.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 13 двароў, 57 жыхароў, у фальварку — 5 двароў, 11 жыхароў, на хутары — 2 двары, 9 жыхароў. У б. панскім маёнтку Кулікі размяшчалася Папчанская пач. школа (у 1925 г. 40 вучняў), дзейнічаў краязнаўчы музей. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. налічвалася 59 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Маяк». У 1991 г. 8 двароў, 15 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк—78».

**КУРГАННЕ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 30 км на У ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 30 км ад Мінска. 32 гаспадаркі, 82 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. засценак у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1840 г. засценак Курганы ў складзе маёнтка Віцкаўшчына, уладанне князя Л.Вітгенштэйна. На гэты час у арэндным карыстанні ў памешчыка І.Багдашэўскага дзейнічала невял. карчма. У 1897 г. 8 двароў, 58 жыхароў. У 1917 г. налічвалася 8 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г.да 14.5.1936 г. нац. польскі) Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку было 13 двароў, 64 жыхары, на аднайменным хутары — 1 двор, 7 жыхароў. У гады калетывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. У 1960 г. вёска, 93 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр — в. Баравікі). У 1991 г. 40 гаспадарак, 105 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра», магазін, ферма. Археал. помнікі — курганныя могільнікі.

**КУРГАНЫ** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 33 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 40 жыхароў (2009).

На пач 20 ст. хутар у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 58 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. было 86 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея.

У 1991 г. 13 двароў, 23 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла ММК-Агра». У наваколлі вёскі захаваліся стараж. курганы — помнік археалогіі.

**ЛАБАДЫ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 20 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У пач. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1710 г. 7 двароў, 27 жыхароў, млын, непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак С.Багушэвіча. Пазней вёска належала І.Валатковічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 64 жыхары, карчма, уласнасць І.Ваньковіча, у Мінскім павеце. У 1870 г. адносілася да Чаркаскай сел. грамады, 28 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 97 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 18 двароў, 135 жыхароў, на аднайменным хутары — 3 двары, 25 жыхароў. З 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім нац. польскім с/с (14.5.1936 г. рэарганізаваны ў бел.) Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1929 г. ў калгасе імя Д.Ф.Фалько. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў Фаніпальскім с/с, 129 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Фалько. У 1991 г. 18 двароў, 40 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003», у 2009 г. ў складзе філіяла «Фалько-Агра».

**ЛАСІЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км Мінска. 10 гаспадарак, 10 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ., у складзе Галабурдаўскага сел. т-ва. У 1858 г. вёска (11 душ жаночага полу), уласнасць памешчыцы Камілії Плевака. У 1870 г. ў Рубяжэвіцкай вол. таго ж павета, 18 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 8 двароў, 62 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 88 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 88 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 15 двароў, 31 жыхар. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ЛАТУШКІ** — былая вёска ў Бараўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска.

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло, 13 дымоў, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 2 двары, 11 жыхароў, у Мінскім павеце, уладанне Д.Радзівіл, дзейнічала карчма. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку М.Каstравіцкаму, у складзе маёнтка Грыцкаўшчына. У 1858 г. — 15 душ мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 14 двароў, 89 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У

1926 г. 17 двароў, 94 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Бараўскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 31 жыхар. Уваходзіла ў калгас імя Горкага (цэнтр — в. Баравое). У 1991 г. налічвалася 4 двары, 7 жыхароў. У 2003 г. ў складзе СВК «Баравое-2003».

**ЛЕДНІКІ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 24 км ад Мінска. 30 гаспадарак, 40 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., 29 дымоў, уладаннне Радзівілаў. У 1768 г. 35 двароў, непадалёку размяшчаўся маёнтак І.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 32 двары, 230 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У 1815 г. знаходзілася ў закладзе ў І. Язвінскага, 100 душ мужчынскага полу. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам В.Агінскай і М.Шышковай. у 1870 г. — 68 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Уса, уласнасць Чарвінскай. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1883 г. адкрыта школа. У 1897 г. 57 двароў, 348 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1912 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). 22.7.1913 г. адбылася антыўрадавая дэманстрацыя сялян. У 1917 г. 70 двароў, 440 жыхароў. У 1924 г. на базе земскай была адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 65 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Байдацкім с/с, з 29.10. 1924 г. цэнтр Ледніцкага с/с, з 21.8. 1925 г. зноў у Байдацкім с/с (з 1931 г. — цэнтр гэтага сельсавета) Койданаўскага (29.6.1929 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 74 двары, 108 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны саўгас «Вязань». Дзейнічала торфапрадпрыемства. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 26 жыхароў. У 1960 г. ў складзе Фаніпальскага с/с, 310 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр — в. Чэрнікаўшчына). У 1991 г. налічвалася 53 двары, 102 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра», магазін.

**ЛЕНІНА** (да 1964 г. Суднікі) — вёска ў Станькаўскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 12 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. в. Суднікі ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 30 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У канцы 19 — пач. 20 ст. засценак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў. 50 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 63 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7. 1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі), Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 46 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. — 41 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. 26 двароў, 80 жыхароў. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае». Помнік археалогіі — курган, мясц. назва Шведская магіла.

**ЛІПКІ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 66 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 33 жыхары, уладанне Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы А.Вяржбіцкай. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 31 жыхар, у 1917 г. – 21 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 5 двароў, 25 жыхароў, у аднайменным фальварку – 27 жыхароў. У 1930-я гады арганізаваны калгас «Кастрычнік», які абслугоўвала Дзяржынская МТС. Працавала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. 53 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 11 двароў, 32 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ЛІПНІ** – былая вёска ў Путчынскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 44 км ад Мінска.

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак Ліпні ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыцы А.Вяржбіцкай, 3 рэвізскія душы (1858). У 1897 г. 31 жыхар. У 1917 г. 21 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсках Ліпні-1–53 жыхары, у Ліпні-2–12 жыхароў, у Путчынскім с/с. У 1960 г. вёска Ліпні, 2 двары, 3 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ЛІСАЎШЧЫНА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 23 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 16 ст. сяло ў складзе маёнтка Койданава, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 41 жыхар, уладанне Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1845 г. 17 двароў, у складзе маёнтка Зубрэвічы, які знаходзіўся ў арэндзе ў І. Ждановіча. У 1897 г. 48 жыхароў. У 1917 г. 83 жыхары. З 20.8. 1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6. 1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 107 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Прагрэс», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. Працавала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. вёска ў Фаніпальскім с/с, 141 жыхар. Дзейнічаў цагельны завод. Уваходзіла ў калгас «Іскра»(цэнтр – в. Чарнікоўшчына). У 1991 г. 27 двароў, 56 жыхароў, клуб. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**ЛІХАЧОЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае

на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 69 жыхароў, належала Д.Радзівілу, у складзе маёнтка Станькава. У 1858 г. 22 жыхары мужчынскага полу, уласнасць казны. У сярэдзіне 19 ст. адносілася да Паланевіцкай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 109 жыхароў. У 1917 г. — 25 двароў, 140 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскй вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. тут 20 двароў, 100 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ніва», які абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. 81 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. 10 двароў, 22 жыхары. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**ЛІЎЕ** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 65 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1588 г. 30 валок зямлі, 7 дымоў. У 1620 г. упамінаецца як Лівь, у складзе маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 34 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла. У 1805 г. адносілася да фальварка Мікулічы Койданаўскага графства, дзейнічаў млын. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Асінаўка памешчыка Рэута. У 1870 г. 45 рэвізскіх душ, у Клачкоўскай сел. грамадзе. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Засульскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 20 двароў, 149 жыхароў, у аднайменным пасёлку — 1 двор, 8 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 30 двароў, 198 жыхароў, у Койданаўскай вол. Мінскага павета. З 20.8.1924 г. ў Паланевіцкім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937. Мінскага р-на, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 33 двары, 177 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Негарэльскім с/с. У пасляваенныя гады ў калгасе «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Рудня). У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра». Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЛОГАВІШЧА** — вёска ў Негарэльскім с/с, на р. Ліванка (прыток р. Волка), за 20 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. 95 гаспадарак, 263 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 27 двароў, 227 жыхароў, у аднайменным маёнтку — 4 двары, 40 жыхароў. У 1917 г. 40 двароў, 264 жыхары, у маёнтку — 22 жыхары. Дзейнічала школа. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы было 57 двароў,

261 жыхар, на аднайменным хутары — 1 двор, 7 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, якая з 1922 г. размяшчалася ў нацыяналізаваным памяшканні. У 1925 г. ў ёй 62 вучні, 2 настаўнікі. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Перамога», які абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. У пасляваенныя гады вёска — цэнтр калгаса «Расія». У 1991 г. 97 двароў, 275 жыхароў. У 2009 г. цэнтр філіяла «Лагавішчанскі», вытворчая брыгада, рамонтныя майстэрні, ферма, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ЛУКАШЫНА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, на р. Рапуса (прыток р. Уса), за 27 км на У ад Дзяржынска, 29 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 37 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёскі Вялікі Лукашын (5 двароў, 28 жыхароў) і Малы Лукашын (9 двароў, 37 жыхароў), уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 132 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 138 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-не. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.02 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценкі Лукашына 1 (23 двары, 125 жыхароў), Лукашына 2 (3 двары, 21 жыхар), Лукашына 3 (2 двары, 14 жыхароў), Лукашына 4 (3 двары, 18 жыхароў). У 1933 г. арганізаваны калгас імя 1-га з'езда калгаснікаў-ударнікаў. Дзейнічалі механічная і шорная майстэрні, кузня. Калгас абслугоўваўся Дзяржынскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. 52 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в. Томкавічы). У 1991 г. — 19 двароў, 138 жыхароў, ферма. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда—Агра». Помнік археалогіі — курганны могільнік.

**ЛУЧЫЦЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 17 км на З ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 57 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 1-й пал. 17 ст. У 1620 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., у складзе маёнтка Койданава, уладанне Радзівілаў, 15 валок зямлі. Непадалёку размяшчаўся аднайменны засценак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала карчма. У 1800 г. 20 двароў, 135 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць князя Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку Л.Дыбоўскаму. У 1858 г. 61 жыхар мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., у складзе Рудзіцкай сел. грамады. У 1897 г. ў вёсцы 27 двароў, 176 жыхароў, у аднайменным маёнтку — 4 двары, 35 жыхароў. Маёнтак належаў памешчыкам Дыбоўскім (у 1889 г. 589 дзес. зямлі). У 1909 г. адкрыта Папкоўска-Лучыцкае нар. вучылішча. У 1917 г. — 48 двароў, 249 жыхароў, у маёнтку — 82 жыхары. У 1922 г. ў былы маёнтак была перанесена школа (у 1925 г. — 63 вучні). З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1935 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 44 двары, 212 жыхароў. У 1930 г.

арганізаваны калгас «Ударнік Саветаў», працавала кузня, абслугоўваўся Койданаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. 156 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя М.Горкага (цэнтр — в. Баравое). У 1991 г. 30 двароў, 63 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Баравое-2003». Працуе магазін. На могілках помнік на магіле савецкіх воінаў і партызан. Сярод іх камандзір партызанскага атрада імя С.А.Рыжака брыгады імя Сталіна С.Ф.Юховіч, намеснік камандзіра атрада І.С.Ірхін. Помнік на магіле сям'і партызана П.І.Мялешкі, расстралянай ням.-фаш. захопнікамі ў лют. 1943 г.

**ЛУЧЫЦЫ** — пасёлак у Бараўскім с/с, за 17 км на З ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 34 жыхары (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. маёнтак і вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 42 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. — 35 жыхароў. У 1917 г. 75 жыхароў. У 1922 г. ў былы маёнтак з вёскі была перанесена школа (у 1925 г. — 63 вучні). З 20.8. 1924 г. у Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1935 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 26 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы было 85 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя М.Горкага (цэнтр — в. Баравое). У 1991 г. 18 двароў, 42 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Баравое-2003».

**ЛЯВОНЦЫ** — вёска ў Волменскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 35 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. належала памешчыцы Р.Свідавай, уладальніцы маёнтка Волма, 10 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Рубяжэвіцкай вол. тых жа павета і губ., 10 двароў, 53 жыхары. У 1908 г. 5 двароў, 49 жыхароў, у аднайменным урочышчы — 3 двары, 11 жыхароў. З 1921 г. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяводства. У 1921 г. ў вёсцы было 10 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. У 1950 г. арганізаваны калгас «Сцяг Міру». Пазней уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр — в. Волма). У 1991 г. налічвалася 12 двароў, 33 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ЛЯХАВІЧЫ** — вёска ў Станькаўскім с/с, на р.Уса (прыток р. Нёман), за 10 км на ПдУ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска, на аўтадарозе Негарэлае—Самахвалавічы. 56 гаспадарак, 168 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1620 г. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., у складзе маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, уваходзіла ў маёнтак Станькава. У 1800 г. 15 двароў, 64 жыхары, дзейнічалі вадзяны млын на р.Уса, сукнавальня, уладанне Радзівілаў, у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку Э.Чапскаму, 72 рэвізскія душы (1858), у складзе маёнтка Станькава. З 2-й пал. 19 ст.

ў Станькаўскай вол. У 1897 г. 48 двароў, 314 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 55 двароў, 292 жыхары. З 20.8. 1924 г. вёска — цэнтр Нарэйкаўскага 1-га с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 269 жыхароў, дзейнічала пач. школа (у 1925 г. — 27 вучняў). У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, дзейнічалі кузня, вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 24 жыхары. Пасля вызвалення адноўлены калгас. У 1960 г. 246 жыхароў, у 1972 г. — 56 двароў, 176 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. 68 гаспадарак, 178 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра», пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Помнікі на брацкай магіле савецкім воінам і землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Радзіма бел. літаратуразнаўца В.У.Івашына.



*В.У.Івашын.*

**МАГАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 59 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Уваходзіла ў склад маёнтка Станькава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 2 двары, 8 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму. У 1858 г. — 19 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Станькава. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. — 26 двароў, 138 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1932 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 158 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. У 1960 г. 47 жыхароў, уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. 30 двароў, 72 жыхары. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі», магазін.

**МАЗУРЫ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 19 км да Мінска. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. засценак ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 62 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Віцкаўшчына князя Л.Вітгенштэйна. Паводле інвентару 1840 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндзе ў памешчыка І.Багдашэўскага. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1897 г. засценкі Мазуры-1 (5 двароў, 46 жыхароў) і Мазуры-2 (1 двор, 7 жыхароў). У 1917 г. ў засценках адпаведна налічвалася 7 двароў, 51 жыхар і 7 двароў, 39 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. 46 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр — в. Грычына). У 1991 г. —

5 двароў, 5 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**МАЛАЯ ШАТАНОЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 47 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2009).

У пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў ў Дзяржынскім р-не. У 1926 г. вёска Шатаноўшчына 2, 12 двароў, 64 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 61 жыхар, уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр – в. Рудня). У 1991 г. 9 двароў, 19 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра». Помнік 24 землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**МАЛІНАЎКА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 37 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У пач. 20 ст. хутар у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 2 двары, 16 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с (23.3.1932 г. ліквідаваны) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1960 г. ў Станькаўскім с/с, 38 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр – в. Петкавічы). У 1988 г. – 14 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**МАЛОЕ БЕЛЯКОВА** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 44 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 34 жыхары, належала Д.Радзівілу. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 16 двароў, 90 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 103 жыхары. З 20.8.1924 г. у Нарэйкаўскім 2-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі, з 25.7.1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 93 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. 54 жыхары. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе. У 1991 г. 7 двароў, 10 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе».

**МАЛОЕ ГАРОХАВІШЧА** – былая вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Дзяржынска, 23 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 30 км ад Мінска.

У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 27 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. сяло 13 двароў, 109 жыхароў, ветраны млын, аднаселле – 1 двор, 16 жыхароў. У 1917 г. – 22 двары, 155 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на

Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 88 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 27 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея. У 1991 г. — 7 двароў, 14 жыхароў. У 2004 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра», 1 гаспадарка, 1 жыхар. Помнік на брацкай магіле 2 партызан, якія загінулі ў 1943 г.



*М.І.Ермаловіч.*

**МАЛЫЯ НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 6 км на Пн ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 59 гаспадарак, 112 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 ст. маёнтак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. належаў Шуставу. У 1897 г. 67 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын на р. Уса. У 1917 г. — фальварак, 18 жыхароў. З 20.8.1924 г. хутар у Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 46 двароў, 273 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Перамога», працавалі вадзяны млын, кузня, абслугоўваўся Койданаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. З 16.7.1954 г. у Дзяржынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы было 69 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в. Вялікія Навасёлкі). У 1991 г. — 67 двароў, 162 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы», магазін. Радзіма бел. гісторыка М.І.Ермаловіча.

**МАНДРЫКІ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 23 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 23 жыхары (2009).

У 1858 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ., у складзе Вітаўскага сел. т-ва, уласнасць П.Вітгенштэйна, 24 душы мужчынскага полу. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 24 жыхары мужчынскага полу, у складзе Чаркаскай сел. грамады. У 1897 г. 12 двароў, 68 жыхароў. У 1917 г. 85 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5. 1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 62 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр — в. Грычына). У 1991 г. 15 двароў, 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**МАРС** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 36 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

Пабудавана ў пач. 1920-х г. сялянамі з в. Кукшавічы.

**МАРЦІНАВІЧЫ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 22 км на Пн ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. ў складзе маёнтка Стараселле. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Валадковічу, у складзе маёнтка Старое Сяло. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценкі Вя-

лікія Марцінавічы (8 двароў, 76 жыхароў) і Малыя Марцінавічы (7 двароў, 55 жыхароў). У 1917 г. вёска Марцінавічы, 99 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 19 двароў, 99 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. 82 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы» (цэнтр — в. Юцкі). У 1991 г. 13 двароў, 28 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 43 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1800 г. 17 двароў, 73 жыхары, належала Д.Радзівілу. У 1815 г.—38 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 35 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 31 жыхар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 вяскоўцаў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Рудня). У 1991 г. 63 двары, 97 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**МАШНІЦА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 14 км на Пн ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 48 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. сяло, 14 дымоў, у складзе маёнтка Койданава, 24 валокі зямлі, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 25 двароў, 126 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1831 г. канфіскавана казной. Пазней належала Храпавіцкім, Забелу, Матусевічу і інш. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., у складзе Кавярлянскай сел. грамады. У 1897 г. 35 двароў, 208 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, 30 жыхароў. У 1889 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 15 дзяцей. У 1916 г. школа граматы была пераўтворана ў 1-класнае народнае вучылішча. У 1917 г. 56 двароў, 324 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 75 двароў, 354 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Пралетарый». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 20 жыхароў вёскі. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. ў вёсцы 310 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы». У 1991 г. — 63 двары, 128 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы». Помнік археалогіі — стараж. курганны могільнік.

**МАШЧОНАЕ** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 35 км ад Мінска. 32 гаспадаркі, 80 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1768 г. ў засценку Масцішча (ён жа Юравічы) 9 двароў, належаў І.Агінскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Расійскай імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 57 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала казне, у складзе маёнтка Койданава. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. – 22 жыхары мужчынскага полу, у складзе Чарнікоўшчынскай сел. грамады. У 1897 г. 44 двары, 293 жыхары. У 1917 г. 38 двароў, 207 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Байдацкім с/с , з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёскі Машчонае 1 (4 двары, 20 жыхароў), Машчонае 2 (38 двароў, 180 жыхароў). Непадалёку ў маёнтку Уса дзейнічала камуна «Чырвоны Сцяг». Працавала пач. школа (у 1925 г. – 39 вучняў). У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Зара», які абслугоўвала Койданаўская МТС. Працавалі кузня і шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 183 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр – в. Чэрнікоўшчына). У 1991 г. 49 двароў, 145 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра», ферма, магазін. Помнік археалогіі – селішча. Радзіма акадэміка АН Беларусі Ф.С.Марцінкевіча.



*Ф.С.Марцінкевіч.*

**МЕЛЬКАВІЧЫ** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 14 км на Пд ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 52 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 37 жыхароў, у складзе маёнтка Койданава, уласнасць Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 110 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 23 двары, 117 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя П.Л.Войкава, які абслугоўвала Негарэльская МТС. Працавалі механічная і шорная майстэрні, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр – в. Гарбузы). У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае». Помнік на брацкай магіле 9 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**МІГДАЛАВІЧЫ** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 42 км ад Мінска. 54 гаспадаркі, 122 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1589 г. тут быў дварэц Мігдалаўскі з гасп. пабудовамі, 5 сямей плацілі падаткі, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 13 двароў, 81 жыхар, належала Д.Радзівілу, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць графа Э.Чапскага, адносілася да маёнтка Станькава, 82 рэвізскія душы (1858). У 2-й пал.

19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 41 двор, 243 жыхары. У чэрв. 1902 г. адбылася сутычка 15 вяскоўцаў з прадстаўнікамі адміністрацыі графа Э.Чапскага па межавых спрэчках. У 1917 г. 49 двароў, 272 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 257 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 жыхары. У 1960 г. налічвалася 186 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в. Забалацце). У 1991 г. ў вёсцы 48 двароў, 142 жыхары. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі», пач. школа, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**МІКУЛІЧЫ** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 7 км на Пд ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 40 гаспадарак, 92 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв., 7 дымоў жылых і 23 дымы пустыя, 30 валок зямлі. У 1701 г. — 14 двароў, уладанне віленскай капітулы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 20 гаспадарак, 84 жыхары, у складзе маёнтка Койданава, уладанне кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёскі Мікулы і Малыя Мікулічы належалі памешчыкам Куснцей і Катовічу, 54 жыхары мужчынскага полу, дзейнічаў млын, карчма. У 1886 г. Мікулічы і фальварак Лісі Вугал у складзе маёнтка Негарэлае, 144 валокі зямлі, уладанне Чапскіх. У 1897 г. в. Мікулічы (18 двароў, 129 жыхароў, хлебазапасны магазін), фальварак Мікулічы (2 двары, 11 жыхароў) і фальварак Малыя Мікулічы (2 двары, 10 жыхароў) у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў в. Мікулічы 38 двароў, 221 жыхар, у фальварку Вялікія Мікулічы 1 двор, 19 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 181 жыхар, на хутары 1 двор, 9 жыхароў, у пас. Вялікія Мікулічы 11 двароў, 43 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Ударнік», які абслугоўвала Негарэльская МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 18 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Рудня). У 2009 г. ў складзе філіяла «Крынон-Агра», ферма, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**МІРОНЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 48 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, уласнасць Радзівілаў. Пазней належала П.Лепскай. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 33 жыхары. У 1917 г. 11 двароў, 44 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 72 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.

1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 178 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 35 гаспадарак, 72 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**МІХАЛЕЎШЧЫНА** – вёска ў Волменскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 39 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 53 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 75 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ваньковічу, уладальніку маёнтка Волма, уваходзіла ў Волменскую сел. грамаду. У 1858 г. – 47 рэвізскіх душ. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. было 22 двары, 151 жыхар. У 1908 г. 32 двары, 186 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую, затым Рубяжэвіцкую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 34 двары, 220 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. Пазней увайшла ў калгас «Мір» (цэнтр – в. Волма). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. ў Дзяржынскім р-нах. У 1991 г. 27 двароў, 62 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**МІХАЛОВА** – вёска ў Волменскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 47 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1885 г. маёнтак і фальварак Міхалова. У 1897 г. маёнтак (29 жыхароў), фальварак (10 жыхароў) і сядзіба (5 жыхароў). У 1909 г. фальваркі Міхалова-1 (4 двары, 22 жыхары) і Міхалова-2 (1 двор, 5 жыхароў). З 1921 г. фальварак у складзе Польшчы. Уваходзіў у Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас «Сцяг міра», пазней у калгасе «Мір» (цэнтр – в. Волма). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцях, з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. Дзяржынскім р-нах. У 1991 г. 4 двары, 8 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**МОРАЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 12 км на У ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 32 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

Вядома з канца 18 ст. У 1795 г. – адруб і сяльцо, 24 двары, 162 жыхары (пераважна татары), у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму, у 1858 г. 2 рэвізскія душы. У 1908 г. 17 жыхароў. У 1917 г. 39 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1932 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. 64 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У

1991 г. — 16 двароў, 46 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі». Помнік археалогіі — стараж. курган.

**МЯНЬКІ** — вёска ў Волменскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 90 жыхароў, належала памешчыцы Юдзіцкай. Пазней вёска перайшла да памешчыка М.Пузыны, затым належала Серафімовічам, Навіцкім. У 1858 г. — 15 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага пав. Мінскай губ., у складзе Волменскай сел. грамады. У 1897 г. 14 двароў, 72 жыхары. У 1908 г. 10 двароў, 62 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую, затым Рубяжэвіцкую гміны Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 14 двароў, 63 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. Валожынскім, з 12.8.1970 г. Дзяржынскім р-нах. У 1991 г. 33 двары, 69 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра», клуб.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Навасады (28 двароў, 138 жыхароў, гасподскі двор), уладанне Мінскага стольніка К.Ліхадзіеўскага і вёска Малыя Навасады (7 двароў, 48 жыхароў), уладанне Радзівілаў, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Бярновічу, уладальніку маёнтка Навасады. У 1860 г. на сродкі прыхаджан на месцы старой пабудавана драўляная Успенская царква. У 1861 г. 30 двароў, 205 жыхароў, царква. У 1870 г. 113 жыхароў мужчынскага полу, у складзе Навасадскай сел. грамады і маёнтка Капцэўшчына Вайцяхоўскіх. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У жыхароў вёскі былі працяглыя спрэчкі з памешчыкам за права карыстання лугам. У чэрв. 1892 г. сяляне ўчынілі самавольны выпас сваёй жывёлы на памешчыцкіх лугах. У 1897 г. сяло (48 двароў, 307 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма) і маёнтак (60 двароў, вадзяны млын). У 1899 г. была адкрыта царк.-прыходская школа. У 1917 г. 70 двароў, 451 жыхар, у маёнтку 150 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (цэнтр — в. Юцкі, з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў сяле было 77 двароў, 377 жыхароў, у аднайменным пасёлку 20 двароў, 75 жыхароў. Працавала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 48 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Навасады», які абслугоўвала Путчынская МТС. Працавалі кузня, шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім с/с, з 8.4.1957 г. ў Сталінскім с/с (перайменаваны ў Дзямідавіцкі). У 1960 г. 221 жыхар. З 1963 г. ў саўгасе «Дзямідавіцкі» (цэнтр — в. Юцкі). У 1991 г. 47

двароў, 99 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы». Помнікі археалогіі — стараж. курганныя могільнікі, гарадзішча, селішча.

**НАВІНКА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 25 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1885 г. дзейнічала карчма. У 1897 г. 13 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 53 жыхары. З 20.8. 1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі). З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 13 гаспадарак, 52 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоная Змена», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 1956 г. вёска ў калгасе імя Д.Ф.Фалько. У 1960 г. 80 жыхароў, у Фаніпальскім с/с. У 1991 г. было 12 двароў, 53 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003».

**НАКВАСЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 47 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 23 жыхары, належала кн. Д.Радзівілу. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць памешчыка І.Алісевіча, уладальніка маёнтка Садоўшчына. У 1858 г. 12 рэвізскіх душ. З сярэдзіны 19 ст. ў складзе Галабурдаўскай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Вялікасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 64 жыхары. У 1917 г. 14 гаспадарак, 75 жыхароў. У 1923 г. адкрыта пач. школа (у 1925 г. 70 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі с/с) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 69 жыхароў. У вер. 1926 г. арганізавана масласыраварная арцель «Маланка». У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. 72 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**НАРЭЙКІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 22 км на Пн ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 16 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 17 двароў, 112 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла. Дзейнічала карчма. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (12 двароў, 73 жыхары), 2 фальваркі (2 двары, 29 жыхароў) і маёнтак (6 жыхароў). У 1917 г. 23 двары, 118 жыхароў, на аднайменным хутары 7 двароў, 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Нарэйкаўскага 2-га (18.12.1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі, з 25.7. 1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 81 жыхар, на хутары Малыя Нарэйкі 6 два-

роў, 25 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які абслугоўвала Путчынская МТС. Працавала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім с/с, з 8.4.1957 г. ў Путчынскім с/с. У 1960 г. 53 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Камсамолец» (цэнтр – в. Скірмантава). У 1991 г. – 14 гаспадарак, 44 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца».

**НАРЭЙКІ** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 10 км на Пд ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 52 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 59 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. належала казне, у складзе маёнтка Койданава і Паланевіцкай сел. грамады. У 1870 г. 11 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар. У 1916 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 24 двары, 121 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 23 двары, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы было 64 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг» (цэнтр – в. Рудня). У 1991 г. 14 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**НАСЛЕДНІКІ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 12 км на Пн ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 46 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з канца 17 ст., у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1695 г. ў складзе маёнтка Койданава, 20 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 63 жыхары, уласнасць Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Івенскаму, у складзе маёнтка Казлоўшчына. У 1858 г. 50 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 23 двары, 117 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1916 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 22 двары, 148 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 138 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Барацьбіт», які абслугоўвала Койданаўская МТС. Працавалі механічная майстэрня, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы было 136 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в. Забалацце). У 1991 г. 27 двароў, 58 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». Працуюць пач. школа, бібліятэка.

**НЕГАРЭЛАЕ** – пасёлак на р. Ператуць (прыток р. Уса), чыг. ст. на лініі Мінск–Баранавічы. За 10 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 48 км ад Мінска. 1 тыс. жыхароў (2009).

Вядома з 16 ст. ў Мінскім павеце ВКЛ як перасадачная і паштовая станцыя на конным тракце Мінск—Навагрудак. У 1588 г. сяло, 18 дымоў, уладанне Радзівілаў, у складзе Койданаўскага графства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Койданаўскай вол. У 1794 г. ў маёнтку Негарэлае было 272 двары, 3 вінакурні, 2 млыны. У 1800 г. вёска, фальварак, панскі двор, мост на р. Ператуць, уладанне князя Д.Радзівіла, у вёсцы 7 двароў, 41 жыхар, у двары — 4 жыхары. У 1805 г. мелася 27 валок зямлі. У 1811 г. ў фальварку Негарэлае дзейнічалі бровар, кузня, карчма, млын. У 1831 г. за ўдзел Радзівілаў у паўстанні 1830—31 гг. маёнтак быў канфіскаваны і перададзены ў валоданне Ю.Абламовічу, з 1879 г. належаў Э.Чапскаму. У ліст. 1871 г. праз Негарэлае прайшла Маскоўска-Брэсцкая чыгунка, адкрыта станцыя. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1886 г. дзейнічалі паштовая станцыя, пастаялы двор, тракцір. У канцы 19 ст. працавалі 2 вадзяныя млыны, сырзавод. У 1897 г. сяленне (11 двароў, 63 жыхары), заезны двор, карчма, маёнтак(6 двароў, 110 жыхароў) і чыг. станцыя (4 двары, 45 жыхароў). У пач. 20 ст. на чыг. ст. Негарэлае штогод грузілі больш за 200 тыс. пудоў збожжа, дроў, лесаматэрыялаў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. працоўныя ўдзельнічалі ў антыўрадавых выступленнях. У 1908 г. адкрыта земская школа. У сярэдзіне 1917 г. ўстаноўлена Сав. ўлада. На гэты час тут 200 жыхароў, у маёнтку—153 жыхары. У 1919 г. польскія акупанты арыштавалі і перадалі ваен.-палявому суду 15 рабочых станцыі. Пры адступленні ў ліп. 1920 г. імі быў спалены будынак чыг. ст. У 1921—39 гг. пагранічная станцыя, мела заставу, мытню, кантрольна-прапускны пункт 16-га Дзяржынскага пагранатрада. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (цэнтр — в. Рудня, з 29.10.1924 г. — в. Негарэлае), Койданаўскага (з 29.6.1932 г. Дзяржынскага) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. — цэнтр нац. польскага с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага р-на, з 27.9.1938 г. гар. Савета, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пас. Негарэлае, 213 двароў, 445 жыхароў. У 1920-я гады пачаў працаваць саўгас «Негарэлае». Дзейнічала электрастанцыя, працоўная школа (у 1925 г. 194 вучні, 3 настаўнікі), бальніца. У 1937 г. створана Негарэльская МТС. У 1940 г. мела 36 трактароў, майстэрні, гараж. Працавалі цагельны і лесапільны з-ды, паравы млын, кузня, шорная і механічная майстэрні. У 1928—32 гг. на станцыі Негарэлае спыняўся і сустракаўся з працоўнымі савецкі пісьменнік М.Горкі. У маі 1929 г. тут адбылася сустрэча Я.Купалы з М.Горкім. Пачынаючы з 1922 г. на станцыі неаднаразова спыняўся У.У.Маякоўскі. У 1938—2009 гар. пасёлак. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941—43 гг. фашысты стварылі тут канцлагер, філіял Масюкоўшчынскага лагера смерці, дзейнічала група Дзяржынскага антыфаш. падполля. Пасля вайны адбудавана. З 1988 г. працуе музей гісторыі станцыі Негарэлае. У 2007 г. налічвалася 938 тыс. жыхароў. Працуюць з-д па вырабе вулляў, лясгас, хлебапекарня, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, сяр., базавая і муз. школы, дзіцячы сад, кінатэатр, б-ка, бальніца, паліклініка, аддз. сувязі, гандл. цэнтр. Помнікі на брацкай магіле 74 сав. воінаў і партызан; на магіле звыш 1500 сав. ваеннапалонных, помнік 30 землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Мемарыяльная дошка М.Горкаму на будынку вакзала.

**НОВАЯ МЕЗЕНАЎКА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Негарэ-

лае на лініі Мінск—Баранавічы, 59 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 ст. фальварак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 двары, лясная старожка — 10 жыхароў. У 1917 г. засценак Новая Мезенаўка, 9 двароў, 76 жыхароў. У 1920 г., у час польскай акупацыі, партызаны каля вёскі разманціравалі чыг. палатно. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 99 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Расія» (цэнтр — в. Лагавішча). У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі».

**НОВАЯ РУДЗІЦА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 11 на З ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2009).

Вядома з 18 ст., у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1756 г. пабудавана драўляная Спаса-Праабражэнская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — фальварак, уніяцкая драўляная Вазнясенская царква, млын, уладанне Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. сяло і маёнтак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Маёнтак належаў Дыбоўскім, у 1837 г. налічвалася звыш 300 прыгонных душ. Пасля паўстання 1863—64 гг. маёнтак быў канфіскаваны, Дыбоўскія высланы ў Пензу. У 1876 г. уладанне С.Яленскай. У 1882 г. ў маёнтку Рудзіца заснаваны вінакурны з-д (у 1890 г. 5 рабочых). У 1897 г. ў сяле 5 двароў, 41 жыхар, у маёнтку — 94 жыхары. У 1917 г. ў сяле Рудзіца 6 двароў, 30 жыхароў, у маёнтку — 108 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 13 двароў, 57 жыхароў, у фальварку—3 двары, 11 жыхароў, на хутары—2 двары, 9 жыхароў. У 1926 г. ў сяле Рудзіца 9 двароў, 32 жыхары, у пасёлку Рудзіца 1 — 19 двароў, 100 жыхароў, у пасёлку Рудзіца 2 — 11 двароў, 43 жыхары, у пасёлку Рудзіца 3 — 5 двароў, 25 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «10-ы з'езд Саветаў», які абслугоўвала Койданаўская МТС. Працавалі кузня і механічная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў, 7 вяскоўцаў загінулі ад рук ням.-фаш. захопнікаў у час акупацыі. У 1960 г. ў вёсцы 117 жыхароў, у пасёлку — 13 жыхароў. Уваходзілі ў калгас імя Кірава (цэнтр — в. Старая Рудзіца). У 1991 г. — 20 двароў, 34 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца», магазін. На могілках помнікі на брацкай магіле 7 падпольшчыкаў, удзельнікаў Дзяржынскага антыфаш. падполля, якія загінулі ў 1942 г., на брацкай магіле 14 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1941 г.

**НЯВЕЛІЧЫ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 7 км на ПнУ ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 31 км ад Мінска. 88 гаспадарак, 300 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. фальварак у Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак, 11 двароў, 81 жыхар, гаспадскі дом, карчма, уласнасць Д.Радзівіла. Пазней фальварак належаў Чапскім, у складзе Станькаўскага ключа. У 1815 г. — 34 душы

мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 92 жыхары, працаваў вадзяны млын. У 1917 г. — маёнтак Нявелічы, 188 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3. 1932 г. ў Фаніпальскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1920-х г. у б. памешчыцкім маёнтку быў створаны саўгас «Нявелічы». У 1926 г. — 141 жыхар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас . У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 вяскоўцаў. У 1960 г. ў вёсцы 229 жыхароў, у Дзяржынскім с/с. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы». Дзейнічаюць свінагадоўчы комплекс, клуб, б-ка, магазін.

**ПАБЕДНАЕ** (да 1964 г. Ракаедаўшчына) — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 22 км на У ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 34 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 118 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. засценак Ракаедаўшчына ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 61 жыхар, уладанне Д.Радзівіла. У 1-й пал. 19 ст. засценак у складзе маёнтка Віцкаўшчына князя Л.Вітгенштэйна. У 1940 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндзе ў памешчыка І.Багдашэўскага, у засценку дзейнічалі праваслаўная капліца, піцейны дом. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. засценак у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 8 двароў, 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.031932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку 7 двароў, 25 жыхароў, на аднайменным хутары — 1 двор, 8 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. У 1960 г. ў вёсцы 82 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в. Томкавічы). У 1991 г. 50 двароў, 155 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра». На могілках помнік на брацкай магіле 16 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г.

**ПАВУССЕ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, на р.Уса (прыток р. Нёман), за 16 км на Пн ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 65 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце ВКЛ. У 1588 г. сяло, 21 дым, у складзе маёнтка Койданава. У 1620 г. мелася 22 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Павуссе, які належаў Шацілам. У 1870 г. — 66 жыхароў мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1886 г. 172 жыхары. У 1897 г. 38 двароў, 220 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін, у аднайменным маёнтку —16 жыхароў, вадзяны млын. У 1900 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 52 двары, 337 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (цэнтр — в. Юцкі, з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 63 двары, 298 жыхароў, у аднайменным пасёлку — 8 двароў, 35 жыхароў. Працавала пач.

школа (у 1925 г. 48 вучняў). Пазней была пераведзена ў фальварак Падгор'е. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які абслугоўвала Койданаўская МТС. Працавала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. ў вёсцы 317 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы». У 1991 г. — 63 двары, 158 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы». Працуе магазін. Помнік археалогіі — курганны могільнік.

**ПАВЯЛКОВА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 17 км ад Мінска. 51 гаспадарка, 120 жыхароў (2009).

У 1620 г. вёска ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 2-й пал. 18 ст. ўладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. належала кн. Д.Радзівілу, 30 двароў, 214 жыхароў. У сярэдзіне 19 у складзе маёнтка Вязань, уладанне Багдашэўскіх. У 1870 г. — 141 рэвізская душа, цэнтр Павялкоўскай сел. грамады. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Станькаўскую вол. Мінскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. 77 двароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1917 г. — 72 двары, 485 жыхароў. У 1917 г. сяляне вёскі ўчынілі самавольную вырубку лесу ва ўрочышчы Місеўск памешчыка Свіды і ў маёнтку Вязань памешчыка Багдашэўскага. З 20.8.1924 г. ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. адкрыта пач. школа (у 1925 г. 108 вучняў). У 1926 г. 101 гаспадарка, 575 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоная Змена», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі і прапалі без вестак 38 жыхароў. У 1960 г. ў Фаніпальскім с/с, у вёсцы — 239 жыхароў, у аднайменным пасёлку — 79 жыхароў. Уваходзілі ў калгас імя Д.Ф.Фалько (цэнтр — в. Чаркасы). У 1991 г. — 93 гаспадаркі, 196 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003». Працуюць магазін, клуб. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ПАДЗЕРЫЧЫ** — вёска ў Волменскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1754 г. 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. належала памешчыку А. Ржэцкаму, 48 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. — 24 жыхары мужчынскага полу, у складзе маёнтка Волма, які належаў Л.Ваньковічу. У 1897 г. 19 двароў, 105 жыхароў. У 1908 г. 20 двароў, 137 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую, затым Рубяжэвіцкую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 27 двароў, 162 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Савецкая Армія». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. Пазней уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр — в. Волма). У 1991 г. 28 двароў, 52 жыха-

ры. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ПАДСАСОННЕ** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 26 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 60 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. належала Д.Радзівілу, 7 двароў, 54 жыхары. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 двары, 37 жыхароў, у 1917 г. – 6 двароў, 36 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1. 1931 г. Мінскага гарсавета, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 вяскоўцаў. У пасляваенны час у калгасе «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр – в. Грычына). У 1960 г. 74 жыхары. У 1991 г. – 19 двароў, 76 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**ПАЕДЫНКОВА** – вёска ў Путчынскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 46 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Вялікія Паядынкі, 19 двароў, 73 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ленскаму. У 1897 г. вёскі Паядынкава 1 (8 двароў, 44 жыхары, хлебазапасны магазін) і Паядынкава 2 (7 двароў, 42 жыхары) у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ўваходзілі ў Вялікасельскую вол., 25 двароў, 159 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсках Паядынкава 1 – 13 двароў, 58 жыхароў, Паядынкава 2 – 9 двароў, 35 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы Паядынкава 1 – 14 жыхароў, у в. Паядынкава 2 – 26 жыхароў. Уваходзілі ў саўгас «Путчына». У 1991 г. вёска, 6 двароў, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ПАЖЭЖЫНА** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 18 км на Пд ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 55 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 30 жыхароў, у складзе маёнтка Койданава, ва ўладанні Радзівілаў. Паводле інвентару 1805 г. засценак у складзе фальварка Зубрэвічы. У канцы 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Койданаўскую воласць Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. фальварак, 3 двары, 32 жыхары. У 1917 г. 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5. 1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменааны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 27 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы.

У 1970—90-я г. ў калгасе «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**ПАЛАНЕВІЧЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, на р. Волка (прыток р. Сула басейна Нёмана), за 20 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 57 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 34 двары, 176 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла. У 1858 г. — 82 душы мужчынскага полу, уласнасць казны, у складзе маёнтка Паланевічы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 47 двароў, 287 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 56 двароў, 332 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Паланевіцкага с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 67 двароў, 395 жыхароў. Дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 73 вучні). У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі кузня, вадзяны млын. У 1940 г. 41 двор, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрвені 1941 г. гітлераўцы спалілі 37 двароў. Пасля вайны адбудавана. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Бараўскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 142 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Маяк» (цэнтр — в. Журавінка). У 1991 г. — 20 гаспадарак, 51 жыхар. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк—78». У цэнры вёскі помнік на магіле 96 сав. воінаў, якія загінулі ў канцы чэрв. 1941 г.

**ПАПКІ**—вёска ў Бараўскім с/с, на р. Волка (прыток р. Сула), за 16 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 38 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 53 жыхары, уласнасць князя Д.Радзівіла, у складзе маёнтка Рубяжэвічы. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 76 жыхароў і маёнтак, уласнасць князя Вітгенштэйна, у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. — 30 двароў, 195 жыхароў, у Вялікасельскай вол. З 20.8.1924 г. вёска ў Паланевіцкім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 213 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», які абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Бараўскім с/с. У 1960 г. 153 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Маяк» (цэнтр — в. Журавінка). У 1991 г. — 32 двары, 78 жыхароў. Дзейнічалі магазін, ферма. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк-78».

**ПАЎЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 13 км на Пд ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 53 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 63 жыхары, лясная старожка Паўлаўшчына (яна ж Куль). У 1917 г.—11 двароў, 82 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім

с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 67 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 вяскоўцаў. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. — 35 гаспадарак, 83 жыхары, клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра». Помнікі на магіле партызана 125-га атрада імя Сталіна П.І.Аксянчука і землякам, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ПАЎЛЮЦІ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1800 г. 4 двары, 20 жыхароў, ва ўладанні Д.Радзівіла. У 1870 г. ў складзе маёнтка Вязань, які належаў Багдашэўскім. У канцы 19—пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 жыхароў. У 1917 г. — 42 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 20.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 82 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 вяскоўцаў. У 1960 г. налічвалася 175 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя В.В. Дакучаева (цэнтр — в. Вялікае Сяло). У 1991 г. 30 гаспадарак, 61 жыхар, магазін, ферма. У 2009 г. ў складзе ОАО «Дзяржынскі райаграсервіс». Помнік на магіле 2-х партызанскіх сем'яў (7 чалавек), спаленых акупантамі ў маі 1944 г.

**ПАХОМАЎШЧЫНА** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, на р. Алехаўка (прыток р. Уздзянка), за 26 км на ПдУ ад Дзяржынска, 26 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 48 жыхароў, уласнасць Д.Радзівілаў. Пазней вёска належала Чапскім. У 1815 г.—31 жыхар мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак (8 двароў, 65 жыхароў), аднаселле (1 двор, 3 жыхары) і лясная старожка (1 двор, 7 жыхароў). У 1917 г. ў засценку Пахомаўшчына 9 двароў, 61 жыхар, ва ўрочышчы Пахомаўшчына 1 — 3 двары, 10 жыхароў, ва ўрочышчы Пахомаўшчына 2 — 3 двары, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку 12 двароў, 58 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 61 жыхар. У 1991 г. 7 двароў, 9 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**ПАЦКІ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 41 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 37 жыхароў, уласнасць памешчыка І.Валад-

ковіча. Пазней належала памешчыцы Л.Іваноўскай. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы Завадскай. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. — 14 рэвізскіх душ. У 1917 г. налічвалася 19 двароў, 107 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 106 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. 97 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе (цэнтр — в.Дворышча). У 1991 г. — 22 двары, 43 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе».

**ПЕНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 58 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў складзе маёнтка Койданава, 8 двароў, 23 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны, у складзе Паланевіцкай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 102 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12. 1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. у Мінскй вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 15 двароў, 92 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. У 1960 г. 64 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Беларусь»(цэнтр—в. Гарбузы). У 1991 г. — 8 двароў, 15 жыхароў. У 2009 г. ў с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**ПЕРАЦЯТКІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Старынкаўскай вол. Мінскага павета ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1588 г. сёлы Вялікія і Малыя Перацяткі, 20 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 60 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ва ўладанні памешчыка А.Ленскага. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсках 41 двор, 229 жыхароў. У 1917 г. 254 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы Перацяткі было 52 двары, 257 жыхароў, на хутары Малыя Перацяткі—1 двор, 6 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Гадавіна Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 вяскоўцаў. У 1960 г. ў вёсцы Перацяткі 1 — 69 жыхароў, у в. Перацяткі — 55 жыхароў. Уваходзілі ў саўгас «Путчына». У 1991 г. вёска, 21 двор, 59 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». У наваколлі вёскі захаваўся старажытны курганны могільнік—помнік археалогіі. Вёска — радзіма бел. скульптара С.А. Адашкевіча.

**ПЕРШАМАЙ** (да 1964 г. в. Плевакі) – вёска ў Фаніпальскім с/с. За 21 км на ПнУ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 21 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 15 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 61 жыхар, ва ўладанні Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 69 жыхароў. У 1917 г. 17 двароў, 99 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета. З 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 75 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр – в. Грычына). У 1991 г. 4 двары, 9 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**ПЕТКАВІЧЫ** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 6 км на У ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 32 км ад Мінска. 176 гаспадарак, 532 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, ва ўладанні Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 29 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму, 44 рэвізскія душы (1858). У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., у складзе Кукшавіцкай сел. грамады. У 1897 г. 27 двароў, 175 жыхароў. У 1917 г. 29 двароў, 180 жыхароў. У 1920 г. арганізавана калектыўная сел. гаспадарка, дзейнічалі школа, млын. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 23.3.1932 г. ў Койданаўскім местачковым савеце. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 190 жыхароў. Дзейнічала торфапрадпрыемства. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Дзяржынскім с/с, цэнтр калгаса імя Дзяржынскага, 204 жыхары. У 1991 г. 104 гаспадаркі, 308 жыхароў. У 2005 г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. вёска – цэнтр СВК «Кругагор'е-Петкавічы». Размешчаны сяр. школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазін. За 2 км на ПдЗ ад вёскі помнік на брацкай магіле 5 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні Дзяржыншчыны летам 1944 г.

**ПЕТРАШЭВІЧЫ** – вёска ў Бараўскім с/с, за 16 км на З ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 50 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст., у складзе маёнтка Койданава Мінскага павета ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1588 г. сяло, 44 дымы, 47 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Дзейнічала карчма. У 1870 г. уладанне Д.Радзівіла, у Мінскім павеце, 28 двароў, 253 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ленскаму. У 1897 г. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 51 двор, 255 жыхароў, у аднайменным фальварку – 23 жыхары. У 1917 г. 67 двароў, 329 жыхароў, у фальварку – 11 жыхароў, у Вя-

лікасельскай вол. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 83 двары, 359 жыхароў. У 1926 г. створана машыннае т-ва. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас імя Петрашэвіча, які абслугоўвала Койданаўскай МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 18 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Бараўскім с/с, 254 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Горкага (цэнтр — в.Баравое). У 1991 г. 44 двары, 115 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Баравое-2003». Працуюць клуб, магазін. На могілках помнікі на брацкай магіле 2 партызан, якія загінулі ў 1942 г., а таксама 3 мірных вяскоўцаў, расстраляных 5.7.1942 г.

**ПІСАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 10 км на Пд ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 17 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Койданава і Паланевіцкай сел. грамады. У 1897 г. 11 двароў, 67 жыхароў, у 1917 г. — 15 двароў, 87 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-ым с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7. 1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 13 двароў, 72 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1960 г. налічвалася 19 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. 16 двароў, 22 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».

**ПІЯНІНА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 55 жыхароў, належала мінскаму стольніку Крыштафору Ліхадзіеўскаму. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Навасады, які належаў памешчыку Бярновічу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 10 двароў, 77 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасадскім с/с (цэнтр — в. Юцкі); з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6. 1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У 1926 г. 18 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. 60 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы» (цэнтр — в.Юцкі). У 1991 г. 11 двароў, 24 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**ПЛАШАВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 30 км на Пн ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. 62 гаспадаркі, 172 жыхары (2009).

У сярэдзіне 19 ст. ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёскі Плашава Вялікае і Плашава Малое ў складзе маёнтка Плашава, належалі памешчыку І.Валадковічу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ўваходзілі ў Старасельскую вол. таго ж

павета. У 1897 г. засценкі Вялікае Плашава (13 двароў, 128 жыхароў) і Малое Плашава (5 двароў, 52 жыхары), 3 сядзібы Плашава (3 двары, 19 жыхароў) і 5 сядзіб Плашава (яна ж Сцефанава, 6 двароў, 47 жыхароў). У 1917 г. ў в.Плашава Вялікае — 15 двароў, 92 жыхары, у в.Плашава Малое — 7 двароў, 45 жыхароў, у в. Плашава Сярэдняе — 7 двароў, 36 жыхароў, на трох хутарах Плашава — 21 двор, 135 жыхароў. З 20.8 1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-ім с/с (з 18.12.1925 г. Нарэйкаўскі,) Койданаўскага р-на (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. ў в. Малое Плашава ў наёмным памяшканні была адкрыта пач. школа (у 1925 г. — 43 вучні). У 1926 г. ў вёсках Вялікае Плашава было 17 двароў, 71 жыхар, Малое Плашава — 11 двароў, 53 жыхары, Сярэдняе Плашава — 8 двароў, 36 жыхароў, на хутары — 23 двары, 121 жыхар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. Плашава, 126 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе. У 1991 г. 60 двароў, 210 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе». Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін, ферма.

**ПЛОСКАЕ** — вёска ў Станькаўскім с/с, на р.Уса (прыток р. Нёман), за 19 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 58 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2009).

Упамінаецца ў інвентары маёнтка Койданава ў 1588 г., у Мінскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — 18 двароў, 81 жыхар, уласнасць Радзівілаў, у Мінскім павеце. У 1897 г. засценак, налічвалася 17 двароў, 116 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1917 г. — 18 двароў, 106 жыхароў, непадалёку знаходзіўся аднайменны фальварак (15 жыхароў). З 20.8. 1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-м с/с (18.12. 1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 23.6.1932 г. Заслаўскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобласці, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Новы мір». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Беларусь». У 1991 г. 31 гаспадарка, 65 жыхароў. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ПУТЧЫНА** — вёска ў Путчынскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 17 км на ПнУ ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава, 55 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 43 жыхары (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. сяло, 42 дымы, 55 валок зямлі, у складзе маёнтка Койданава. У 1768 г. ў сяле 21 двор, уласнасць І.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 32 двары, 166 жыхароў, ва ўладанні Радзівілаў, у Мінскім павеце Мінскай губ. Пазней належала Ленскім, у 1858 г. — 90 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучалася 16 дзяцей. У 1897 г. 51 двор, 315 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1912 г. пачало працаваць аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 67 двароў, 361 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (да 1927 г. цэнтрам была вёска Татаршчына, з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяр-

жынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 46 вучняў). У 1926 г. 66 двароў, 301 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сталінскі прызыў», працавала кузня. У 1932 г. створана Путчынская МТС, якая ў 1958 г. была рэарганізавана ў РТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады акупацыі гітлераўцы часткова спалілі вёску, загубілі 12 мірных жыхароў. На фронце загінулі 14 жыхароў вёскі. Непадалёку ад вёскі базіравалася 18-я партызанская брыгада імя Фрунзе. У 1960 г. ў вёсцы 229 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына» (цэнтр — пас. Путчына). У 1991 г. — 44 гаспадаркі, 101 жыхар. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». Дзейнічаюць пач. школа, дзіцячы сад, магазін, ферма. Помнік археалогіі — курганныя могільнікі.

**ПУТЧЫНА** — пасёлак, цэнтр Путчынскага с/с, каля р. Уса, за 12 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 50 км ад Мінска. 158 гаспадарак, 538 жыхароў (2009).

Засн. ў 1930-я г. ў сувязі з пачаткам дзейнасці Путчынскай МТС. Уваходзіў у Путчынскі с/с (да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1932 г. створана Путчынская МТС, якая ў 1958 г. была рэарганізавана ў РТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 148 жыхароў, цэнтр саўгаса «Путчына». У 1988 г. 115 двароў, 410 жыхароў. У 2007 г. на базе пасёлка створаны аграгарадок. У 2009 г. цэнтр УП «Путчына», пач. школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**ПЯНЯКА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 5 км на З ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 38 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 10 жыхароў (2009).

У пач. 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. вёска Пеняка Меншая, 28 душ мужчынскага полу, уладане Радзівілаў. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Непадалёку знаходзіўся маёнтак Дыбоўскіх (у 1889 г. 306 дзес. зямельных угоддзяў). У 1897 г. 11 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. 18 двароў, 91 жыхар. З 20.8.1924 г. засценак у Бараўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. налічвалася 17 двароў, 83 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 вяскоўцаў. У 1960 г. вёска, 89 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Кірава (цэнтр — в.Старая Рудзіца). У 1991 г. 13 двароў, 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Рудзіца».

**ПЯРХУРАВА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 24 км на Пн ад Дзяржынска, 37 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 153 жыхары, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Валадковічу, у складзе маёнтка Старое Сяло. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 126 жыхароў. У 1908 г. засценкі Пярхурава 1 (12 двароў, 89 жыхароў) і Пярхурава 2 (13 двароў, 92 жыхары). У 1917 г. ў Пярхурава 1 — 27 двароў, 116 жыхароў,

у Пярхурава 2 – 9 двароў, 67 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-м с/с (з 18.12.1925 г. Нарэйкаўскі) Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 23.3. 1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. У студз. 1943 г. ў час карнай аперацыі «Якаб» ням. карнікі знішчылі 125 мірных жыхароў. З 8.4. 1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. 128 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе. У 1991 г. 9 двароў, 25 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе». Помнік археалогіі – стараж. курганны могільнік, які захаваўся ў наваколлі вёскі.

**РАБІНАЎКА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 36 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2009).

У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 16 двароў, 107 жыхароў, у 1917 г. – 22 двары, 131 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с (23.3. 1932 г. ліквідаваны) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг», які абслугоўвала Койданаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі гітлераўцы непадалёку ад вёскі знішчылі звыш 1,3 тыс. мірных грамадзян яўр. нацыянальнасці. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1960 г. ў Станькаўскім с/с, 71 жыхар, пазней увайшла ў Дзяржынскі с/с, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У 1991 г. 17 двароў, 34 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**РАБЦАЎШЧЫНА** – вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. належала казне, у складзе маёнтка Койданава і Паланевіцкай сел. грамады, 14 рэвізскіх душ. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. У 1897 г. 18 двароў, 86 жыхароў. У 1917 г. – 20 двароў, 109 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-ым с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. тут 24 двары, 107 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 124 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр – в. Гарбузы). У 1991 г. 14 двароў, 33 жыхары. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**РАДЗІМА** (да 1964 г. Самадураўшчына) – вёска ў Дабрынёўскім с/с. За 27 км на ПдУ ад Дзяржынска, 27 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 44 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 16 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 93 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У складзе маёнтка Станькава. У 1858 г. 12 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 10 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. – 11 двароў. З 20.8.

1924 г. вёска ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 12 двароў, 63 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў вёсцы было 146 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея (цэнтр — в. Данілавічы). У 1991 г. — 22 двары, 36 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК–Агра». На могілках помнік на брацкай магіле 6 савецкіх воінаў і 3 партызан, якія загінулі ў пач. ліп. 1944 г. пры вызваленні Дзяржыншчыны ад ням.-фаш. акупантаў. За 7 км на З ад вёскі брацкая магіла камандзіра асобага партыз. атрада «Баявы» імя Дунаева Б.В.Жаўрыда і начальніка дыверсійнай групы М.Запольскага, якія загінулі ў снеж. 1942 г. Да Вял. Айч. вайны за 1 км ад вёскі знаходзілася в. Любажанка. У студз. 1943 г. ням.-фашысцкія карнікі спалілі 12 двароў, загубілі 42 жыхары. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Археал. помнікі — курганныя могільнікі.

**РОЗАЎКА** (да 1964 г. Прыступаўшчына) — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 40 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска Прыступаўшчына ў Мінскім павеце Мінскага ваяводства, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 8 двароў, 60 жыхароў, належала мінскаму земскаму суддзі К.Кастравіцкаму. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Вялікія Навасёлкі, уласнасць Здзяхнеўскіх. У 1870 г.—55 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Койданаўскую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 33 двары, 270 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 37 двароў, 222 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. Пасля вайны адноўлены калгас. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. 227 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в.Вялікія Навасёлкі). У 1991 г. — 36 двароў, 80 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы». Дзейнічае магазін. На могілках помнік на магіле партызана А.А.Крыловіча, які загінуў у ліст. 1942 г.

**РУБІЛКІ** — вёска, цэнтр Рубілкаўскага с/с, за 21 км на У ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 27 км ад Мінска, на аўтадарозе Мінск–Самахвалавічы–Негарэлае. 32 гаспадаркі, 69 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. ўпамінаецца як сяло, шляхецкая ўласнасць. Згодна інвентару 1620 г. ў складзе маёнтка Койданава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 23 двары, 140 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У ліст. 1883 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам пры высяленні некалькіх сем'яў, якія адказаліся плаціць арэнду памешчыку Бунгу. У 1840 г. ў складзе маёнтка Віцкаўшчына князя Л.Вітгенштэйна, які знаходзіўся ў арэндзе ў памешчыка І.Багдашэўскага. Дзейнічалі рымска-каталіцкая і праваслаўная капліцы, карчма. У 1897 г. 24 двары, 181 жыхар, дзейнічалі кузня, капліца. У 1917 г. ў

вёсцы 13 двароў, 93 жыхары, на аднайменным хутары — 10 двароў, 69 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Рубілкаўскага с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсках Рубілкі 1 18 двароў, 90 жыхароў, Рубілкі 2 — 19 двароў, 106 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Свярдлова, працавалі кузня, млын, шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў вёскі. У 1960 г. налічвалася 140 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Праўда». У 1991 г. — 34 двары, 78 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра». Працуе магазін. На ўсходняй ускраіне вёскі помнік на брацкай магіле 87 сав. воінаў і партызан; на вясковых могілках помнік на магіле 7 мірных жыхароў, закатаваных ням.-фаш. захопнікамі.

**РУДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Волменскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Волма. У 1870 г. тут 10 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 5 двароў, 26 жыхароў. У 1908 г. — 6 двароў, 38 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Волменскай, затым Рубяжэвіцкай гмінах Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 6 двароў, 34 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1. 1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. ў складзе Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас «Савецкая Армія». Пазней у калгасе «Мір» (цэнтр — в.Волма). У 1991 г. 14 двароў, 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**РУДНЯ** — вёска ў Негарэльскім с/с, на р. Ператуць (прыток р. Уса), за 11 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 1 км да чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы. 122 гаспадаркі, 388 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. тут 26 двароў, 107 жыхароў, млын на р. Перапуць, ва ўласнасці Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Абламовічу, уладальніку маёнтка Негарэлае. У 1870 г. 53 жыхары мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 30 двароў, 229 жыхароў. У 1917 г. 62 двары, 358 жыхароў. У 1920 г. ў час польскай акупацыі ў вёсцы дзейнічала падп. група ў складзе 15 чалавек. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5. 1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 85 двароў, 380 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Праца», які абслугоўвала Негарэльская МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 20 жыхароў. З 1950-х г. вёска з'яўлялася цэнтрам калгаса «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. 150 гаспадарак, 389 жыхароў. У 2009 г. цэнтр філіяла «Крын-Агра», пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін.

**РУЖАНПАЛЬ** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 13 км на У ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст.Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 31 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. маёнтак Ружанпаль у Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. належаў А.Свіду, 2 двары, 30 жыхароў. У 1917 г. — 139 жыхароў. У 1922 г. ў былым маёнтку быў арганізаваны саўгас «Ружанпаль», працавалі кузня, крухмальны з-д, пач. школа, б-ка, кузня, шорная і калёсная майстэрні. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1932 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 257 жыхароў. У 1926 г. саўгас, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў вёсцы было 90 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр—в.Забалацце). У 1991 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі». Помнік археалогіі — старажытны курган.

**РЭЧКІ** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 23 жыхары (2009).

У сярэдзіне 19 ст. засценак у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. належаў графу Э.Чапскаму. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. У 1897 г. вёска (17 двароў, 68 жыхароў) і аднаселле (2 двары, 3 жыхары). У 1917 г. ў вёсцы было 11 двароў, 76 жыхароў, ва ўрочышчы — 8 двароў, 27 жыхароў, на аднайменным хутары — 2 двары, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку налічвалася 12 двароў, 55 жыхароў, на хутары — 2 двары, 20 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы было 40 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея (цэнтр — в. Данілавічы). У 1991 г. — 8 двароў, 20 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**САДКАЎШЧЫНА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 43 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска і маёнтак належалі памешчыку І.Алшэвічу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (59 жыхароў) і аднайменны фальварак (2 двары, 13 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы налічвалася 11 двароў, 71 жыхар, у фальварку — 2 двары, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. (да 23.3.1932 г.) у Макаўчыцкім с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, затым Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 80 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У 1940 г. 15 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 96 мірных жыхароў. На фронце загінуў 1 жыхар. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. ў Бараўскім с/с, 50 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Горкага (цэнтр — в. Баравое). У 1991 г. 12 двароў, 19 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Баравое». Помнік на

магіле 96 ахвяр фашызму, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі 2.2.1943 г.

**САДОЎШЧЫНА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава па лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 29 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. Пазней вёска належала П.Ленскай, у 1815 г. — 17 рэвізскіх душ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 24 жыхары. У 1917 г. — 29 жыхароў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы было 13 двароў, 54 жыхары. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Лепшае жыццё». Працавалі механічная майстэрня, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 74 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**САКОВІЧЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 37 км ад Мінска. 32 гаспадаркі, 44 жыхары (2009).

Вядома з 16 ст., у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У інвентары за 1588 г. ўпамінаецца як сяло, 44 дымы, у складзе маёнтка Койданава. У 1590 г. згодна фундушу М.К.Радзівіла сёлы Саковічы і Алісеевічы (14 валок зямлі) былі перададзены касцёлу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 114 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла на левым беразе р. Уса. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ленскаму. У 1858 г. — 61 жыхар мужчынскага полу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 35 двароў, 237 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1917 г. — 49 двароў, 285 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 285 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Орка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў. У 1960 г. ў вёсцы 234 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. 54 гаспадаркі, 119 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**САКОЛЬШЧЫНА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 23 км на У ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 44 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла, у складзе маёнтка Станькава. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 78 жыхароў. У 1917 г. — 14 двароў, 99 жыхароў. З 20.8.1924 г. засценак у Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага, з 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-наў Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў

Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 91 жыхар. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 вяскоўцаў. У 1960 г. ў вёсцы 61 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в.Томкавічы). У 1991 г. — 11 двароў, 23 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**САСНОЎКА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. вёска ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.06.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1939 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 75 жыхароў, дзейнічала школа. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 46 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр — в.Забалацце). У 1991 г. — 3 двары, 7 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі».

**СВІДОЎШЧЫНА** — вёска ў Волменскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 31 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 30 гаспадарак, 64 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 13 двароў, 74 жыхары. У 1921—39 г. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую, затым Рубяжэвіцкую гміны Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 123 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 1950 г. ў калгасе імя Леніна. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім, з 12.8. 1970 г. ў Дзяржынскім р-нах. Пазней уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр — в.Волма). У 1991 г. 27 двароў, 56 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра». Працуе магазін.

**СІВОЖАНКА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 58 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 9 душ мужчынскага полу, уласнасць казны. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе Паланевіцкай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. таго ж павета. У 1897 г. 10 двароў, 61 жыхар. У 1917 г. — 12 двароў, 70 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-ым с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7. 1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6. 1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.9.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1960 г. ў вёсцы было 39 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в.Гарбузы). У 1991 г. 6 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**СКАРАБАГАТАЎШЧЫНА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 25 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 41 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2009).

Вядома з сярэдзіны 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1750 г. 5 двароў, 13 жыха-

роў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. належала Ваньковічам, 9 двароў, 58 жыхароў, у Мінскім павеце. У 1858 г. — 26 рэвізскіх душ, уласнасць Ваньковічаў, уладальнікаў маёнтка Волма. З сярэдзіны 19 ст. ўваходзіла ў Волменскую сел. грамаду. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. — 20 двароў, 84 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 102 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «1-е Мая», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 190 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камсамолец». У 1991 г. — 36 двароў, 93 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк-78».



*М.В.Бірыла.*

**СКАРОДНАЕ** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 53 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 37 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла. У канцы 19 —пач. 20 ст. засценак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 44 жыхары. У 1917 г. 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. хутар, 2 двары, 16 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. акупанты загубілі 3 мірных вяскоўцаў, 4 жыхары вёскі загінулі на фронце. У 1991 г. ў вёсцы 20 гаспадарак, 49 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Расія» (цэнтр — в. Логавішча). У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі».

**СКВАРЦЫ** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Дзяржынска, 18 км ад чыг. ст. Койданава, 31 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 73 жыхары, у складзе маёнтка Станькава, уласнасць Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць Э.Чапскага. У 1897 г. 30 двароў, 173 жыхары. У 1917 г. — 35 двароў, 203 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 202 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, які абслугоўвала Фаніпальская МТС. Працавалі торфаразмяркоўваючая арцель «Іскра» і шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 151 жыхар. З 1963 г. ў саўгасе імя М.Казея (цэнтр — в.Данілавічы). У 1991 г. — 23 двары, 44 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра». У наваколлі вёскі помнік археалогіі — старажытны курган. Вёска — радзіма акадэміка АН Беларусі М.В.Бірылы.

**СКІРМАНТАВА** — вёска ў Путчынскім с/с, за 22 км на Пн ад Дзяржынска,

24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 49 км ад Мінска. 170 гаспадарак, 617 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 16 ст., у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. ўпамінаецца грунт Скірмантаўскі ў інвентары маёнтка Койданава, да якога ён адносіўся. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 71 жыхар, уладанне Радзівілаў, у Мінскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам Язвінскім, уладальнікам маёнтка Скірмантава. У 1858 г. ў вёсцы 35 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Койданаўскай вол., 20 двароў, 130 жыхароў, хлебазапасны магазін, пастаялы двор (2 двары, 8 жыхароў) і маёнтак (27 жыхароў). У 1916 г. пачала дзейнічаць школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў вёсцы было 35 двароў, 195 жыхароў, у маёнтку — 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 2-м (18.12.1925 г. перайменаваны ў Нарэйкаўскі) с/с (з 25.7. 1931 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы — 34 двары, 159 жыхароў, у аднайменным пасёлку — 12 двароў, 50 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29.8.1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (38 двароў), загубілі 159 жыхароў; 1 жыхар вёскі не вярнуўся з фронту. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. вёска ў Вертнікаўскім с/с, з 8.4.1957 г. ў Путчынскім с/с. У 1960 г. 53 жыхары, цэнтр саўгаса «Камсамолец». У 1991 г. — 143 двары, 479 жыхароў. У 2009 г. — цэнтр СВК «Маяк-78», сяр. школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. З 1984 г. працуе краязнаўчы музей. Непадалёку ад вёскі знаходзіцца гара Дзяржынская (да 1958 г. Святая) — вышэйшая кропка Беларусі (345 м). Помнік на магіле ахвяр фашызму. Каля будынку Дома культуры — помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Радзіма акадэміка НАН Беларусі В.А. Таўкачова.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 15 км ад Мінска. 33 гаспадаркі, 92 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. ў складзе Чаркаскай сельскай грамады і маёнтка Алесіна Беліновіча. У 1897 г. в.Слабада Беліновіцкая, 14 двароў, 126 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1917 г. — 16 двароў, 116 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 170 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Фалько. У 1991 г. — 49 гаспадарак, 127 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003». У наваколлі вёскі помнік археалогіі — старажытны курган. Радзіма Героя Савецкага Саюза І.С.Леановіча.



*В.А.Таўкачоў.*



*І.С.Леановіч.*

**СЛОМІШЧА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1800 г. 4 двары, 20 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Станькава і Станькаўскай сел. грамадзе, належала графу Э.Чапскаму, 15 рэвізскіх душ (1858). У канцы 19 — пач.

20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 74 жыхары. У 1917 г. — 20 двароў, 118 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Станькаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў. У 1960 г. ў вёсцы 107 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна (цэнтр – в.Забалацце). У 1991 г. 20 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2009 г. ў складзе агракамбіната «Дзяржынскі». Радзіма ген.-лейт. І.Н.Лебядзевіча (1911–73).

**СТАНЬКАВА** – вёска, цэнтр Станькаўскага сельсавета, на р.Рапуса (прыток р. Уса), за 10 км на ПдУ ад Дзяржынска, 40 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, на аўтадарозе Негарэлае–Самахвалавічы. 691 гаспадарка, 1692 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з канца 15 ст. , належала Дарагастайскім, затым Радзівілам. У 1545 г. маёнтак Станькава – уласнасць Ю.Валадковіча, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1567 г. шляхецкая ўласнасць. У 1588 г. мястэчка, 30 двароў, дзейнічалі касцёл, царква, рынак, млын. Было 3 вуліцы: Койданаўская, Мінская, Негарэльская. У 2-й пал. 18 ст. належала казначэю Дзерэасу, а з 1799 г. Чапскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Мінскім павеце Мінскай губ. (з 1802 г.). У 1800 г. 36 двароў, 152 жыхары, драўляны гасподскі дом, драўляная уніяцкая царква Пятра і Паўла, капліца Мікалая Цудатворцы, карчма, вадзяны млын, уладанне Д.Радзівіла. З 1815 г. дзейнічаў спіртзавод (у 1825 г. – 12 рабочых). У 1858 г. на сродкі памешчыка і сялян пабудавана каменная Мікалаеўская царква, у 1863 г. адкрыты прыход і школа, у якой у 1892 г. навучаліся 53 хлопчыкі і 15 дзяўчынак. У 1858 г. ў мястэчку–155 рэвізскіх душ, у маёнтку–15 рэвізскіх душ. У 1868 г. пачаў працаваць шпіталь. У 1880 г. адкрыта бальніца. У 1860-я г. ўладальнік маёнтка Э.Чапскі стварыў тут музей, плошча 130 м$^2$, меў 8 аддзелаў. У 1894 г. частка музея была перавезена ў Кракаў, дзе склала аснову музея і бібліятэкі Чапскіх (цяпер у складзе нац. музея). У маёнтку Станькава ў канцы 19 ст. разводзілі чыстакроўную буйную рагатую жывёлу шведскай пароды. У 1883 г. Э.Чапскі на выставе ў Мінску быў адзначаны залатым медалём. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр во-



*Альтанка ў сядзібна-паркавым ансамблі 19 ст. ў в. Станькава.*



*Сядзібная брама і вартоўня ў в. Станькава (1880–90-я г.).*

ласці ў Мінскім павеце Мінскай губ. На працягу 2-й пал. 19 ст. пабудаваны палац, розныя павільёны, жылыя і гасп. пабудовы, якія склалі сядзібна-паркавы ансамбль. У 1876 г. мастак Н.Орда зрабіў замалёўкі маёнтка Станькава. У 1886 г. — 42 двары, 390 жыхароў, валасная ўправа, царк.-прыходская школа, бальніца, вінакурня, нар. вучылішча, млын. У 1897 г. сяло, 87 двароў, 538 жыхароў, вал. ўправа, школа, царква, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма; у аднайменным маёнтку—5 двароў, 128 жыхароў, вінакурня, вадзяны млын, касцёл, 27 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся бандарным промыслам. У 1899 г. граф Чапскі ўзбуйняе бровар, пачаў дзейнічаць паравы рухавік. У 1900 г. 27 сяльчан займаліся бандарным промыслам. У 1903 г. каля Станькава пачаліся распрацоўкі па дабычы торфу, у ліст. пачала працаваць лесапільня. У 1-ю сусв. вайну з лета 1915 г. Станькава знаходзілася ў прыфрантавой зоне. У маёнтку нейкі час размяшчаўся штаб 4-й рускай арміі Зах. фронту. У кастр. 1917 г. жыхары Станькава і навакольных вёсак рабілі парубкі лесу на ўгоддзях памешчыка Чапскага. У 1917 г. ў сяле было 114 двароў, 549 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена Сав. ўлада. У 1919 г. тут дзейнічаў валасны ваенкамат. У 1920-х г. у былым сядзібна-паркавым комплексе быў створаны дзіцячы дом. У сакавіку 1921 г. адкрыта школа 2-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр Станькаўскага с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў сяле 147 двароў, 689 жыхароў, дзейнічалі дапрызыўны пункт (140 чалавек), саўгас. У 1930-я г. ў сядзібна-паркавым комплексе праводзіліся здымкі мастацкага фільма «Дуброўскі» па аповесці А.С.Пушкіна. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У 1932 г. пачаў працаваць польскі пед. тэхнікум. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала група Дзяржынскага антыфаш. падполля. На фронце загінулі і прапалі без вестак 56 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы было 617 жыхароў, у пасёлку — 801 жыхар. Вёска — цэнтр калгаса імя Леніна. У 1970 г. — 169 двароў, 908 жыхароў. У 1998 г. да вёскі далучана тэр. вайск. часці (1965 жыхароў). У 2009 г. цэнтр агракамбіната «Дзяржынскі». Працуюць ААТ «Еўрамост», сяр. школа, школа-інтэрнат, дзіцячы сад і яслі-сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва,



*М.І.Казей.*



*Альтанка ў былым маёнтку графа Чапскага ў в. Станькава (канец 19 ст.).*



*Руіны Мікалаеўскай царквы (1858) ў в. Станькава.*

магазіны. Помнікі на брацкай магіле чырвонаармейцаў і сав. воінаў; на магіле героя Сав. Саюза М.І.Казея. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры — сядзібна-паркавы ансамбль 2-й пал. 19 ст., Мікалаеўская царква. Радзіма дзярж. дзеяча і калекцыянера 19 ст. Э.Чапскага, Героя Сав. Саюза М.І.Казея, Героя Сац. працы А.І.Казей, падпольшчыцы Г.А.Казей.


*А.І.Казей.*


*Г.А.Казей.*

**СТАРАЯ МЕЗЕНАЎКА** — вёска ў Негарэльскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 59 км ад Мінска. 11 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 19 ст. засценак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. — 13 двароў, 71 жыхар. У 1920 г. ў час польскай акупацыі партызаны каля вёскі разманціравалі чыг. палатно. За спробу партызан пусціць пад адхон варожы бранявоэзд на жыхароў вёскі была накладзена кантрыбуцыя ў суме 700 руб. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прызыў Леніна», працавалі смалакурня, арцель «Рэкорд». У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Расія» (цэнтр — в. Лагавішча). У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі». Па звестках на 1924 г. непадалёку ад вёскі ва ўрочышчы Камолава было 5 старажытных курганоў, якія не захаваліся.

**СТАРАЯ РУДЗІЦА** — вёска ў Бараўскім с/с, на р. Ператуць (прыток р. Уса), за 5 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 43 км ад Мінска. 92 гаспадаркі, 322 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло Рудзіца, 54 дымы, млын, гасподскі дом, сажалкі, у Койданаўскім графстве Мінскага павета ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Мінскім павеце, 45 двароў, 305 жыхароў, млын на р.Ператуць, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Абламовічу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 27 двароў, 175 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 13 двароў, 57 жыхароў, у фальварку—3 двары, 11 жыхароў, на хутары—2 двары, 9 жыхароў. У 1926 г. ў засценку Старая Рудзіца 30 двароў, 147 жыхароў, у пасёлку Рудзіца 1—19 двароў, 100 жыхароў, у пасёлку Рудзіца 2 — 11 двароў, 43 жыхары, у пасёлку Рудзіца 3 — 5 двароў, 25 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «10-ы з'езд Саветаў», які абслугоўвала Койданаўская МТС. Працавалі кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 12 мірных жыхароў. На фронце загінулі 12 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 162 жыхары. З 1969 г. цэнтр калгаса імя Кірава. З 1984 г. цэнтр гаспадаркі — в.Калінавічы. У 1991 г. — 79 гаспадарак, 254 жыхары. У 2008 г. ў складзе СВК «Рудзіца». Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін. На могілках помнік на магіле 12 мірных жыхароў, закатаваных ням.-фаш. акупантамі 8.1.1943 г. Помнік археалогіі — гарадзішча.

**СТАРЫНА** – пасёлак у Дабрынёўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Дзяржынска, 25 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 37 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 43 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 62 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 6 двароў, 24 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 28 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя М.Казея (цэнтр — в.Данілавічы). У 1991 г. — 6 двароў, 14 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**СТАРЫНА** – вёска ў Негарэльскім с/с, за 20 км на Пд ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 60 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. маёнтак Старына ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 25 жыхароў, непадалёку знаходзіліся 2 аднайменныя фальваркі (5 двароў, 56 жыхароў), 2 урочышчы (3 двары, 28 жыхароў). У 1917 г. вёска Старына Новая (22 двары, 128 жыхароў), пасёлак Старына (6 жыхароў), фальварак (26 жыхароў) і ўрочышча (8 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 5 двароў, хутар, 2 двары, 8 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. — 24 двары, 62 жыхары. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**СТАРЫНКІ** – вёска ў Бараўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 48 км ад Мінска. 78 гаспадарак, 163 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. ў Мінскім павеце, з 16 ст. — Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1483 г. кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Казімір даў Старынкі ў вотчыну кн. Васілю Міхайлавічу Вярэйскаму. У інвентары 1588 г. ўпамінаецца двор Старынкі з гасп. пабудовамі, млын, 3 сажалкі, вішнёвы сад, уласнасць Радзівілаў. У 1595 г. маёнтак Старынкі з'яўляўся цэнтрам воласці. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Мінскім павеце, 51 двор, 182 жыхары, гасподскі дом, належала Д.Радзівілу. Лазней вёска і маёнтак перайшлі да Ленскіх. У 1858 г. — 174 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Вялікасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1836 г. пабудаваны касцёл. У 1868 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), у якой у 1892 навучаліся 28 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У 1880 г. сяло, дзейнічалі царква, вінакурня, вадзяны млын. У 1897 г. 88 двароў, 441 жыхар, у маёнтку — 72 жыхары, працавалі хлебазапасны магазін, карчма. У 1917 г. ў сяле было 105 двароў, 597 жыхароў, у маёнтку — 55 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Старынкаўскага с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. Дзейнічала аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1926 г. ў вёсцы 117 двароў, 572 жыхары, у аднайменным пасёлку — 19 двароў, 91

жыхар. Дзейнічала пач. школа, пункт па ліквідацыі непісьменнасці. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», які абслугоўваўся Дзяржынскай МТС. Дзейнічала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1942 г. акупанты загубілі 10 мірных жыхароў. На фронце загінулі 23 жыхары. У 1960 г. ў вёсках Старынкі — 60 жыхароў, Старынкі — 112 жыхароў, Старынкі — 42 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в. Вялікія Навасёлкі). У 1991 г. — 95 двароў, 181 жыхар. У 2009 г. ў складзе ОАО «Дзяржынскі райаграсервіс», сяр. школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, ветэрынарны ўчастак, кааператыў «Ветразь». Помнікі на брацкай магіле 8 сав. воінаў і партызан і землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Касцёл — помнік архітэктуры 19 ст.

**СТАРЫШЧА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 31 км на У ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 32 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 30 жыхароў, належала Д.Радзівілу. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. маёнтак, 3 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. — 34 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.03. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. ў Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку было 4 двары, 21 жыхар, на аднайменным хутары — 2 двары, 15 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 16 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр — в. Баравікі). У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**СТУДЗЯНКА** — вёска ў Станькаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 53 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 20 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 32 жыхары, належала князю Д.Радзівілу, у складзе маёнтка Станькава. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны ў складзе Паланевіцкай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. — 16 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. — 19 двароў, 96 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нарэйкаўскім 1-ым с/с (18.12.1925 г. перайменаваны ў Ляхавіцкі, з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У 1926 г. 23 двары, 91 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Крупскай, працавала механічная і шорная майстэрні, кузня, абслугоўвала Негарэльская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. 77 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Гарбузы). У 1991 г. 10 двароў, 23 жыхары. У 2009 г. ў складзе с.-г. ЗАТ «Негарэльскае».

**СУРЦІНЫ** — вёска ў Волменскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі

Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ўпамінаецца як вёска Сурцы, 5 двароў, 25 жыхароў, уласнасць памешчыцы Юдзіцкай. Пазней вёскай валодаў М.Пузына, у 1815 г. 16 рэвізскіх душ. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы Свідавай, уладальніцы маёнтка Волма. У 1858 г. — 22 рэвізскія душы. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. — 17 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 15.12. 1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. З 1950 г. ў калгасе «Сцяг Міру». Пазней уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр — в.Волма). У 1991 г. — 14 двароў, 30 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**СУХАДОЛЫ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 28 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 31 жыхар (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — 9 двароў, 66 жыхароў, належала Д.Радзівілу. Згодна інвентару 1845 г. ўпамінаецца засценак Сухадолы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Самахвалавіцкую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 15 двароў, 106 жыхароў. У 1917 г. — 16 двароў, 82 жыхары. У 1918—20 гг. акупіравана ням., затым польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.03.1932 г. да 14.5. 1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку было 17 двароў, 95 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 61 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Праўда» (цэнтр — в.Баравікі). У 1991 г. 17 двароў, 32 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**СТЭЦКАЎЧЫНА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 24 км на У ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 26 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 32 жыхары мужчынскага полу, уладанне памешчыка В.Уніхоўскага. З сярэдзіны 19 ст. ў складзе Русінаўскай сел. грамады. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. таго ж павета. У 1886 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 15 хлопчыкаў. У 1897 г. 22 двары, 111 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5.1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобласці, з 4.2. 1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 77 жыхароў, у калгасе «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр — в. Грычына). У 1991 г. — 18 двароў, 39 жы-

тароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**ТАТАРШЧЫНА** – пасёлак у Путчынскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

У 2-й пал. 19 ст. засценак ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 97 жыхароў, у аднайменным фальварку – 32 жыхары. На пач. 20 ст. ў Вялікасельскай вол., 55 жыхароў. У 1921 г. арганізавана сельгасарцель. З 20.8.1924 г. да 1927 г. з'яўлялася цэнтрам Путчынскага с/с (з 25.7. 1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 12 двароў, 42 жыхары, дзейнічала сельгасарцель. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 28 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. вёска, 5 двароў, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». Помнік на брацкай магіле 19 воінаў і 3 партызан, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Захаваўся помнік архітэктуры – сядзіба 2-й пал. 19 ст.

**ТАЎКАЧОЎШЧЫНА** – вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 30 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 74 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла, у складзе маёнтка Станькава.У сярэдзіне 19 ст. належала графу Э.Чапскаму, у складзе Дабрынёўскай сел. грамады. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1876 г. знаходзілася ў арэндзе ў К.В.Грудзінскай. Дзейнічала карчма, якая належала Ф.М.Вероніч. У 1897 г. 9 двароў, 63 жыхары. У 1917 г. – 11 гаспадарак, 61 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 34 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 97 жыхароў. У 1991 г. 18 двароў, 45 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**ТОМКАВІЧЫ** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 25 км на У ад Дзяржынска, 27 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 36 км ад Мінска. 106 гаспадарак, 377 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 29 жыхароў, уласнасць князя Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Самахвалавіцкую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 двары, 31 жыхар, у 1917 г. – 22 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-не, з 31.7.1937 г. ў Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. – 4 двары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 38 жыхароў, цэнтр калгаса «Камінтэрн». У 1991 г. – 63 двары, 244 жыхары. У

2007 г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда–Агра», сяр. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Помнік у гонар землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ТУР'ЯКАВА** – вёска ў Бараўскім с/с, за 5 км на З ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 52 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло, 7 дымоў, у складзе маёнтка Койданава Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 фальваркі, усяго 26 жыхароў. У 1917 г. 54 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бараўскім с/с (з 23.3. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 8 двароў, 47 жыхароў, у фальварку – 3 двары, 14 жыхароў, на хутары – 2 двары, 9 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 32 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Горкага (цэнтр – в.Баравое). У 1991 г. – 4 двары, 11 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Баравое-2003».

**УЗРЭЧЧА** – вёска ў Дабрынёўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Дзяржынска, 23 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 35 км ад Мінска. 46 гаспадарак, 135 жыхароў (2009).

У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў складзе Уздзенскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы Узрэчча – 21 жыхар, у аднайменным выселку – 3 двары. У 1917 г. – 8 двароў, 40 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак Узрэчча, 6 двароў, 30 жыхароў, аднайменны пасёлак – 9 двароў, 48 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 86 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя М.Казея (цэнтр – в. Данілавічы). У 1991 г. – 49 двароў, 142 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «ММК-Агра».

**УЛАДЗІМІРОВА** – вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Дзяржынска, 11 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы. 7 гаспадарак, 26 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі с/с) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Койданаўскага (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. налічвалася 111 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр – в.Томкавічы). У 1991 г. 23 двары, 58 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**УСА** – вёска, у Фаніпальскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 11 км на ПнУ ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 24 км ад Мінска,19 гаспадарак, 55 жыхароў (2009).

Вядома з 16 ст. У 1549 г. сяленне Добра Уса ў Мінскім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. У 1588 г. двор Уса, у

складзе маёнтка Койданава, 10 двароў, вадзяны млын, уладанне Радзівілаў. У 1620 г. маёнтак Койданаўскага графства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. двор Уса, належаў Д.Радзівілу. У сярэдзіне 19 ст. памешчыцкая ўласнасць, у складзе Усаўскай сел. грамады, дзейнічала карчма. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 78 жыхароў, вадзяны млын. У снеж. 1922 г. ў былым маёнтку арганізавана с.-г. камуна. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6. 1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. Дзейнічалі механічная і шорная майстэрні, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. налічвалася 115 жыхароў, у Фаніпальскім с/с. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр — в.Чарнікоўшчына). У 1991 г. — 26 двароў, 74 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».



*Сучасны герб г. Фаніпаль.*

**ФАНІПАЛЬ** — горад і чыг. станцыя на лініі Мінск—Баранавічы, за 15 км на ПнУ ад Дзяржынска, аўтадарогамі злучаны з Заслаўем, Івянцом, Ракавам, Рубяжэвічамі, Самахвалавічамі. 12,7 тыс. жыхароў (2009).



*Узнясенская царква ў г. Фаніпаль (каля 1990 г.).*

У пач. 19 ст. фальварак Фаніпаль або Чэчын у Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета, уласнасць Багдашэўскіх. У 1871 г. быў пабудаваны чыг. прыпынак Чэчын, які пазней стаў чыг. ст. Токараўка, з канца 19 ст. атрымаў назву Фаніпаль. У 1897 г. на чыг. станцыі 23 жыхары, у калоніі пры станцыі 10 двароў, 27 жыхароў, карчма, 2 лаўкі, у маёнтку — 5 двароў, 67 жыхароў, ветраны млын, у лясной старожцы — 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. на чыг. станцыі 26 двароў, 102 жыхары, у маёнтку — 142 жыхары. 1.11.1917 г. чыгуначнікі станцыі дапамаглі правесці бронецягнік на чале з В.А.Пралыгіным на дапамогу рэвалюцыйнаму Мінску. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5.1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі пачаў дзейнічаць калгас імя Фалько, пазней саўгас «Вязань». У маі 1930 г. на чыг. ст. Фаніпаль арганізаваны трэст свінагадоўчых саўгасаў «Свінавод», які меў 1284 га ворыўнай зямлі, 1568 га сельгасугоддзяў, 75 рабочых (у 1931 г. — 195 рабочых). У 1937 г. на сядзібе б. саўгаса «Вязань» створана Фаніпальская МТС. У 1938 г. мела 8 трактароў, у 1941 г. 32 трактары, 7 камбайнаў, 4 аўтамабілі і інш. сельгастэхніку. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы стварылі тут філіял Масюкоўшчынскага лагера смерці. На фронце загінулі 39 жыхароў, была разбурана чыг. станцыя, МТС. Пасля вайны адбудаваны. У 1958 г. Фаніпальская МТС пераўтворана ў РТС. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. вёска Фаніпаль (94 жыхары) і пасёлак (625 жыхароў). У 1965 г. пачаў працаваць завод жал.-бе-

тонных маставых канструкцый. З 29.4. 1984 г. гар. пасёлак, з 22.6.1999 г. — горад. У 2001 г. 11,2 тыс. жыхароў. Працуюць заводы жал.-бетонных маставых канстукцый, рамонтна-механічны, доследна-механічны, бройлерная птушкафабрыка, нафтабаза, прадпрыемства «Белхім», гімназія, 2 сяр. і муз. школы, 4 дашкольныя ўстановы, б-ка, Дом культуры, паліклініка, 2 аптэкі, камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазіны.

**ФЕЛІКСОВА** — пасёлак у Путчынскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 17 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2009).

У 1932 г. вёска ў Путчынскім с/с Койданаўскага (з 29.6.1932 г. Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі, з 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 да 7.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Путчынскім с/с Дзяржынскага р-на Мінскай вобл., 34 жыхары. Уваходзіў у саўгас «Путчына». У 1991 г. — 10 двароў, 23 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ФЕРМА-ГАЙ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на Пн ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 36 км ад Мінска. 59 гаспадарак, 139 жыхароў (2009).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. тут 29 двароў, 168 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Койданаўскім мясц. савеце, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска Гай (35 двароў, 165 жыхароў) і хутар Гай (1 двор, 3 жыхары). У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 вяскоўцаў. У 1960 г. 180 жыхароў, уваходзіла ў Дзяржынскі с/с і калгас імя Дзяржынскага (цэнтр — в.Петкавічы). У 1991 г. 63 двары, 174 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Кругагор'е-Петкавічы». Працуюць клуб, б-ка, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ФРУНЗЕ** (да 1935 г. Козырава) — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 96 жыхароў (2009).

З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. З 16.7.1954 г. ў Дзямідавіцкім с/с. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе (цэнтр — в.Дворышча). У 1991 г. 48 двароў, 138 жыхароў. У 2008 г. ў складзе УП «Фрунзе», бальніца.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 26 км ад Мінска. 5 двароў, 9 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. вёска, 15 дымоў, у складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1768 г. 22 двары, уладанне І.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 132 жыхары, уласнасць Радзівілаў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. — 11 двароў, 82 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Байдацкім (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З

31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. у вёсцы было 20 двароў, 125 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 70 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр – в.Чэрнікоўшчына). У 1991 г. 10 двароў, 4 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**ХІМАРАДЫ** – вёска ў Волменскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 37 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 47 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1750 г. 9 двароў, 29 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Г.Філіповіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. належала Ваньковічам, 8 двароў, 58 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Волма, уласнасць памешчыка А.Ваньковіча. У 1870 г. адносілася да Волменскай сел. грамады, 29 жыхароў мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 134 жыхары. У 1921–39 гг. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Волменскую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 17 двароў, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Сталінская Канстытуцыя». З 8.1.1954 г. у Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. у Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. Уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр – в.Волма). У 1991 г. 24 двары, 40 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ХОЛМА** – вёска ў Фаніпальскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск–Баранавічы, 25 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 25 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 20 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Станькаўскую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 16 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 23.3.1932 г. ў Фаніпальскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя М.П. Пакроўскага, працавалі кузня і механічная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. У 1960 г. – 51 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У 1991 г. 15 двароў, 42 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**ЦАГЕЛЬНАЕ** – пасёлак у Негарэльскім с/с, за 24 км на Пд ад Дзяржынска, 15 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск–Баранавічы, 45 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2009).

У 1988 г. 49 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Расія». У 2009 г. ў складзе філіяла «Лагавішчанскі».

**ЦВЯТКОВА** – вёска ў Дзяржынскім с/с, за 4 км на У ад Дзяржынска, 4 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 33 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2009).

Пасёлак пабудаваны ў 1920-я г. сялянамі, якія раней жылі ў в. Кукшавічы. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захоп-

нікамі. У 1960 г. вёска, 54 жыхары, у Станькаўскім с/с Дзяржынскага р-на. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага (цэнтр — Петкавічы). У 1988 г. — 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ЦЕЛЯШЭВІЧЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, на р. Перакуль (прыток р. Сула) за 18 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы. 34 гаспадаркі, 48 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. У 1588 г. сяло, 16 валок зямлі, у Старынкаўскай вол. Мінскага павета, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 55 жыхароў, млын, уласнасць Д.Радзівіла. Пазней належала памешчыцы П.Ленскай. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. — 51 рэвізская душа. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 32 двары, 204 жыхары, у 1917 г.—50 двароў, 300 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старынкаўскім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 55 двароў, 360 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоны Захад». Працавалі вадзяны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 17 жыхароў, 12 — у час акупацыі. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. 231 жыхар. Уваходзіла ў саўгас імя Дакучаева (цэнтр — в.Вялікае Сяло). У 2009 г. ў складзе «Дзяржынскрайаграсервіса», пач. школа, магазін. Помнікі на брацкай магіле 14 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны, а таксама 2 партызан, што загінулі ў 1944 г. Радзіма Героя Сац. Працы Я.В.Бандак (1909—82).

**ЦЮХАІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 22 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 47 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1750 г. вёска, 7 двароў, 19 жыхароў мужчынскага полу і маёнтак, уласнасць памешчыка Філіповіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 78 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 31 жыхар мужчынскага полу, належала памешчыку А.Ваньковічу, уладальніку маёнтка Волма. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе Волменскай сел. грамады. У 1897 г. 17 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. — 21 двор, 126 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 105 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 92 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Камсамолец». У 1991 г. 19 двароў, 50 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына». Працуе клуб.



*Я.В.Бандак.*

**ЦЯЎЛАВА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 27 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 20 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Радзівілаў. У 1858 г. належала памешчыку Шаціле. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. засценак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 52

жыхары. У 1917 г. — 20 двароў, 135 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7. 1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 20 гаспадарак, 123 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У 1960 г. 85 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Іскра» (цэнтр — в.Чэрнікоўшчына). У 2009 г. ў складзе СВК «Іскра-Агра».

**ЧАРКАСЫ** – вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Вязенская (прыток р. Уса), за 17 км на ПнУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 13 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 100 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. Згодна інвентару 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1710 г. 6 двароў, 11 жыхароў мужчынскага полу, млын, уладанне С.Багушэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 18 двароў, 99 жыхароў, дзейнічаў млын на р.Вязынка, належала І.Ваньковічу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. вёска і маёнтак Л. Свентаржыцкай, 53 рэвізскія душы. У 1897 г. 28 двароў, 189 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін і маёнтак — 11 двароў, 68 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. — 33 двары, 187 жыхароў, у аднайменным фальварку — 5 двароў, 45 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. — у Фаніпальскім с/с, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 65 вучняў). У вер. 1929 г. кулакі забілі аднаго з першых беларускіх селькораў, уражэнца вёскі Д.Ф.Фалько. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас, які атрымаў назву імя Д.Ф.Фалько, гаспадарку абслугоўвала Фаніпальская МТС. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў Фаніпальскім с/с, 186 жыхароў, у аднайменным пасёлку — 192 жыхары. Цэнтр калгаса імя Д. Ф. Фалько. У 1991 г. — 172 гаспадаркі, 541 жыхар. З 2003 г. — цэнтр СВК «Фалько-2003». У 2005 г. на аснове вёскі створаны аграгарадок. У 2009 у складзе філіяла «Фалько-Агра», дзіцячы сад—пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Помнікі на магіле Д.Ф.Фалько (1887—1929), на брацкай магіле 245 савецкіх воінаў і партызан, а таксама у гонар землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Непадалёку ад вёскі размешчана радовішча жвіравапясчанага матэрыялу (разведаныя запасы 14 млн. $м^3$).

**ЧУРЫЛЫ** — вёска ў Негарэльскім с/с, на р. Ператуць (прыток р. Уса), за 10 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 1 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 55 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1800 г. тут 5 двароў, 26 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку І.Абламовічу, у складзе маёнтка Негарэлае. У 1870 г. — 26 рэвізскіх сялян, адносілася да Клачкоўскай сел. грамады. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 102 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 27 двароў, 153 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Негарэльскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі)

Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 30 двароў, 141 жыхар. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. У пасляваенныя гады ўваходзіла ў калгас «Чырвоны Сцяг». У 1991 г. — 52 гаспадаркі, 145 жыхароў. У 2009 г. ў складзе філіяла «Крыон-Агра».

**ЧЫКІ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 21 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 47 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1704 г. сяло, 13 двароў і маёнтак, уладанне І.Сапегі, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. 12 двароў, 85 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца, гасподскі дом, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку К.Марбургу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. — сяло, 20 двароў, 141 жыхар, дзейнічалі царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, аднайменныя аднаселле, фальварак і маёнтак (3 двары, 46 жыхароў). У 1917 г. ў сяле — 23 двары, 117 жыхароў, у маёнтку — 4 двары, 19 жыхароў, на хутары — 2 двары, 13 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 29 двароў, 147 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы загубілі 4 мірных жыхароў, на фронце загінулі 12 вяскоўцаў. З 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім с/с. У 1960 г. 150 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе (цэнтр — в. Дворышча). У 1991 г. — 31 двор, 62 жыхары. У 2009 г. ў складзе УП «Фрунзе». Працуе магазін.

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Дзяржынска, 13 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2009).

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Дзямідавіцкім с/с Дзяржынскага р-на Мінскай вобл., 79 жыхароў. Уваходзіў у калгас «Дзямідавічы» (цэнтр — в. Юцкі). У 1988 г. — 26 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**ЧЭРНІКАЎШЧЫНА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, на р. Уса (прыток р. Нёман), за 8 км на ПнУ ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 26 км ад Мінска. 122 гаспадаркі, 382 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. У 1550 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў, у складзе Койданаўскага графства. У сярэдзіне 1560-х г. Радзівілы падарылі вёску «для нужд службы божьей» Койданаўскаму кальвінскаму збору, 40 двароў, звыш 10 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Належала Радзівілам, Тарасавым, Рытарам і інш. У 1800 г. ў вёсцы 29 двароў, 174 жыхары, млын, сукнавальня, уладанне Койданаўскага кальвінскага збору. У 1820 г. ў фальварку 18 дымоў, 9 валок зямлі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска і казённы маёнтак у Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. — 71 жыхар мужчынскага полу. У 1882 г. адкрыта школа граматы, у якой 1890 г. навучалася 8 дзяцей. У 1897 г. 61 двор, 392 жыхары, хлебазапасны магазін, непадалёку знаходзіўся маёнтак, 28 жыха-

роў, у якім дзейнічалі вадзяны млын, пастаялы двор, карчма. У 1912 г. школа граматы была пераўтворана ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы — 58 двароў, 332 жыхары, у маёнтку — 15 двароў, 91 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10.1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы Чэрнікаўшчына 1 было 65 двароў, 337 жыхароў, у в. Чэрнікаўшчына 2 — 20 двароў, 94 жыхары. Дзейнічала меліярацыйнае т-ва, працавала аддз. спажывецкай кааперацыі. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Іскра», які абслугоўвала Фаніпальская МТС. Працавалі кузня, шорная майстэрня, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 31 жыхар вёскі. У 1960 г. ў в.Чэрнікаўшчына 1 233 жыхары, у в. Чэрнікаўшчына 2 — 166 жыхароў, у Фаніпальскім с/с, цэнтр калгаса «Іскра». У 1991 г. ў вёсцы 135 двароў, 354 жыхары. У 2009 г. цэнтр СВК «Іскра-Агра», базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Помнік на брацкай магіле 25 сав. воінаў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Помнік археалогіі — курганны могільнік 9—11 ст.

**ЧЭЧЫНА** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы. 40 гаспадарак, 137 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 59 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 13 двароў, 59 жыхароў. У 1917 г. — 14 двароў, 101 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. — у Фаніпальскім с/с, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Мінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-не. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. Пасля вайны адноўлены калгас. У 1960 г. ў Фаніпальскім с/с, 104 жыхары. Уваходзіла ў калгас імя Д.І.Фалько (цэнтр — в. Чаркасы). У 1991 г. 31 двор, 102 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Фалько-2003», у 2009 — філіяла «Фалько-Агра»

**ШАБУНЕЎКА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст . Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 55 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. зямля Шабунёўка на р.Перапуці, 8 валок зямлі, у складзе маёнтка Станькава Мінскага павета Мінскага ваяв., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 8 двароў, 30 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала казне, у складзе маёнтка Паланевічы. У 1870 г. — 21 жыхар мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 44 жыхары. У 1917 г. 9 двароў, 65 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Паланевіцкім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.8.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 11 двароў, 55 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Бараўскім с/с. У 1960 г. 29 жыхароў. Уваходзіла ў калгас

«Маяк» (цэнтр — в. Журавінка). У 1991 г. — 6 двароў, 10 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк-78».

**ШАБУНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 23 км на У ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2009).

У 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 — 20 двароў, 95 жыхароў, уладанне князя Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў валоданні памешчыкаў Плацткоўскіх. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 100 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 101 жыхар, у маёнтку 4 двары, 27 жыхароў. З 20.8. 1924 г. вёска ў Рубілкаўскім с/с (з 23.03. 1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7. 1937 г. ў Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак, 9 двароў, 55 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 81 жыхар. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в. Томкавічы). У 1991 г. — 16 двароў, 31 жыхар. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўла-Агра».

**ШАЦІЛЫ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, на р.Уса (прыток р. Нёман), за 5 км на У ад Дзяржынска, 5 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 33 км ад Мінска. 40 гаспадарак, 92 жыхары (2009).

У 1-й пал. 17 ст. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1620 г. сяло, 17 двароў, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 39 жыхароў, уладанне Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку Э.Чапскаму. У 1870 г. 47 жыхароў мужчынскага полу, у складзе Кукшавіцкай сельскай грамады. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 28 двароў, 158 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 28 двароў, 167 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Койданаўскім местачковым савеце, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 193 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 198 жыхароў, у Дзяржынскім с/с. Уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага. У 1991 г.—59 гаспадарак, 134 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ШПІЛЬКІ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 12 на ПнУ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2009).

У пач. 17 ст. вёска ў складзе маёнтка Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 30 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы І.Нелюбовіч, у 1858 г. — 26 жыхароў мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Уваходзіла ў Кавярлянскую сел. грамаду. У 1897 г. 15 двароў, 98 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 151 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Байдацкім (з 29.10. 1924 г. да 21.8.1925 г. Ледніцкі) с/с Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З

23.3.1932 г. ў Сталінскім нац. польскім с/с, з 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 139 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў. З 8.4.1957 г. вёска ў Дзямідавіцкім с/с. Уваходзіла ў саўгас імя Фрунзе (цэнтр — в. Дворышча). У 1960 г. 111 жыхароў. У 1991 г. — 15 двароў, 20 жыхароў. У 2008 г. ў складзе УП «Дзямідавічы». Радзіма Героя Сав. Саюза контр-адмірала А.І.Гурына (1910—62).

**ШПІЛЬКІ** — вёска ў Фаніпальскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Дзяржынска, 8 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 25 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 53 жыхары (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска Шпількі ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 33 двары, 195 жыхароў, уладанне Радзівілаў. На момант куплі Вітгенштэйнам у Радзівілаў у сярэдзіне 19 ст. мела статус «Авульк Шпількі» — спрэчная тэр. У інвентары 1840 г. ўпамінаецца як засценак маёнтка Віцкаўшчына, уласнасць Вітгенштэйна, у арэндным карыстанні ў памешчыка І.Багдашэўскга, 14 двароў. Дзейнічаў піцейны дом. У 1858 г. належала П.Вітгенштэйну. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 96 жыхароў. У 1917 г. 20 гаспадарак, 114 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грычынскім с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі, з 18.1.1931 г. Мінскага гарсавета, з 26.5.1935 г. Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 4.2.1939 г. ў Дзяржынскім р-не. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Фаніпальскім с/с. У пасляваенны час у калгасе «Кастрычніцкая рэвалюцыя» (цэнтр — в.Грычына). У 1960 г. 146 жыхароў. У 1991 г. 32 двары, 82 жыхары. У 2009 г. ў складзе СВК «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Помнік археалогіі — курганны могільнік. Радзіма беларускага пісьменніка І.П.Хадановіча (1940—66).

**ШУМШЧЫНА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 19 км на Пн ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 48 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 46 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. належала І.Ліхадзіеўскаму. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Навасады, уладанне Бярновічаў. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўваходзіла ў Койданаўскую вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 76 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Навасадскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 14 двароў, 75 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 16.7. 1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. — 75 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Дзямідавічы». У 1991 г. — 6 двароў, 9 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Дзямідавічы».

**ШЧЭПКІ** — вёска ў Волменскім с/с, на р. Волма (прыток р. Іслач), за 29 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 30 км ад чыг. ст.

Койданава, 46 км ад Мінска, 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 20 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыку А.Ваньковічу, уладальніку маёнтка Волма, уваходзіла ў склад Волменскай сел. грамады. У 1858 г. — 17 рэвізскіх жыхароў. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 70 жыхароў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Рубяжэвіцкую гміну Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З кастр. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Сцяг міру». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай, з 15.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. Уваходзіла ў калгас «Мір» (цэнтр — в.Волма). У 1991 г. — 3 двары, 4 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ШЫКАТАВІЧЫ** — вёска ў Дабрынёўскім с/с, на р. Жэсць (верхняе цячэнне р. Уздзянка), за 22 км на ПдУ ад Дзяржынска, 23 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 85 гаспадарак, 226 жыхароў (2009).

Вядома з 16 ст., у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1562 г. ўпамінаецца фальварак Шыкутовічы, шляхецкая ўласнасць. У 1620 г. ў складзе маёнтка Койданава, 62 валокі зямлі, у Койданаўскім старостве, пазней графстве, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і млын на р. Уздзянка, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала Э.Чапскаму. Уваходзіла ў Дабрынёўскую сел. грамаду. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Станькаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 106 жыхароў. У чэрв. 1905 г. ў час рэвалюцыі баставалі сяляне маёнтка Шыкатавічы, патрабуючы павышэння заробку. У 1917 г. — 206 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дабрынёўскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны саўгас «Шыкатавічы». У 1937 г. свінарка гаспадаркі В.Белая стала дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. вёска была спалена, загінулі 25 жыхароў, 16 вяскоўцаў загінулі і прапалі без вестак на фронце. У пасляваенныя гады — цэнтр саўгаса, вопытнай вытв. гаспадаркі «Шыкатавічы». У 1991 г. 81 двор, 204 жыхары. У 2009 у складзе РСУП «Шыкатавічы», пач. школа, клуб, магазін. Помнік археалогіі — стараж. курган. Помнікі на брацкай магіле 25 ахвяр фашызму, а таксама ў гонар землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Працавала Герой Сацыялістычнай працы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967–71 гг. В.П. Мыслівец.



*В.П.Мыслівец.*

**ШЫТАЛЕЎШЧЫНА** — былы хутар у Путчынскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 14 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 47 км ад Мінска.

У 1885 г. аднаселле ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. фальварак, 9 жыхароў, у 1908 г. — урочышча, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с Койданаўскага р-на (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1960 г. налічвалася 13 жыхароў. Уваходзіў у саўгас «Путчына». У 1991 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**ШЫШКІ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 16 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 46 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — 7 двароў, 66 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць памешчыцы Плеваковай, уладальніцы маёнтка Галабурды. У 1858 г. — 7 рэвізскіх сялян. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 47 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1917 г. — 10 двароў, 55 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2. 1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 11 двароў, 54 жыхары, на хутары — 1 двор, 5 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. У 1960 г. ў вёсцы 47 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. — 5 двароў, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».



*Капліца ў пас. Энергетыкаў (20 ст).*

**ЭНЕРГЕТЫКАЎ** — пасёлак, цэнтр Негарэльскага с/с, за 13 км на ПдЗ ад Дзяржынска, 3 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 51 км ад Мінска. 933 гаспадаркі, 2453 жыхары (2009).

Засн. ў 1969 г. ў сувязі з будаўніцтвам электрасецявога раёна трэстам «Захадэлектрасецьбудаўніцтва». У 1988 г. — 1890 жыхароў. У 2009 г. цэнтр с.-г. ЗАТ «Негарэльскае». Працуюць ПМК—93, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, бальніца, паліклініка, ветэрынарны ўчастак, аптэка, магазіны.

**ЮНЦАЎШЧЫНА** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 23 км на У ад Дзяржынска, 10 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 35 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 51 жыхар, уласнасць Д.Радзівіла. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1917 г. — 21 двор, 118 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага, з 18.1. 1931 г. Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 80 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 83 жыхары. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в.Томкавічы). У 1991 г. — 13 двароў, 28 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**ЮПІЦЕР** — пасёлак у Дзяржынскім с/с, за 4 км на У ад Дзяржынска, 6 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Ба-

ранавічы, 36 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

Засн. ў 1920-я г. сялянамі, якія раней жылі ў в. Кукшавічы. Назва Юпітэр была дадзена рэв. настроеным чырвонаармейцам, які дэмабілізаваўся з арміі. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Дзяржынскім с/с, 34 жыхары. Уваходзіў у калгас імя Дзяржынскага. У 1988 г. 13 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ЮРКАВІЧЫ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 21 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 47 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. – 5 двароў, 28 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам Клюкоўскім, уладальнікам маёнтка Марцінавічы, уваходзіла ў склад Галабурдаўскай сел. грамады. У 1870 г. – 23 жыхары мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. – 9 двароў, 52 жыхары, у Рубяжэвіцкай вол. У 1917 г. – 13 двароў, 65 жыхароў, у Вялікасельскай вол. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7. 1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7. 1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. – 10 двароў, 54 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 80 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. – 24 гаспадараі, 58 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына», магазін.

**ЮХНАВІЧЫ** – вёска ў Путчынскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 24 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 46 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

Вядома з 2-й пал. 15 ст. У 1461 г. Войцэх Мандвідавіч пажалаваў свайму слузе Шрымацкаму двор Юхнаўскі з трыма падданымі. У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. – 6 двароў, 22 жыхары, уласнасць Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. належала памешчыкам Клюкоўскім, уладальнікам маёнтка Марцінавічы. У 1858 г. – 15 рэвізскіх душ. З сярэдзіны 19 ст. ў Галабурдаўскай сел. грамадзе. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 63 жыхары, хлебазапасны магазін, у Рубяжэвіцкай вол. У 1917 г. – 13 двароў, 65 жыхароў, у Вялікасельскай вол. З 20.8.1924 г. вёска ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 71 жыхар. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. – 28 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Путчына». У 1991 г. – 6 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2009 г. ў складзе УП «Путчына».

**ЮЦКІ** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 17 км на Пн ад Дзяржынска, 19 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 46 км ад Мінска. 138 гаспадарак, 354 жыхары (2009).

У канцы 18 ст. фальварак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы

Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 20 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. існавалі два аднайменныя фальваркі, у якіх налічвалася 3 двары, 16 жыхароў. У 1917 г. — 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Навасадскага с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Койданаўскага р-на Мінскай акругі. З 29.6.1932 г. Дзяржынскага, з 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. хутар, 10 двароў, 39 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Вертнікаўскім, з 8.4.1957 г. ў Дзямідавіцкім сельсаветах. У 1960 г. вёска, 58 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дзямідавічы». У 1991 г. — 121 гаспадарка, 382 жыхары. У 2009 г. цэнтр УП «Дзямідавічы», Дом культуры, базавая школа, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін. Помнік археалогіі — гарадзішча ранняга жал. веку і XI—XIII ст.

**ЯКУТЫ** — вёска ў Путчынскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. — 5 двароў, 25 жыхароў, уласнасць памешчыцы Т.Юдзіцкай. Пазней вёска перайшла ў валоданне да С.Ліхадзіеўскага, а ў сярэдзіне 19 ст. належала памешчыцы В.Пратасевіч. У 1858 г. — 29 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. і Галабурдаўскай сел. грамадзе. У 1897 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У 1917 г. — 10 двароў, 64 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Путчынскім с/с (з 25.7.1931 г. да 23.7.1937 г. нац. польскі) Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Заслаўскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 14 двароў, 67 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Усход», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. У 1960 г. налічвалася 99 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Камсамолец» (цэнтр — в.Скірмантава). У 1991 г. — 9 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Маяк-78». На У ад вёскі размешчаны парк актыўнага адпачынку «Якуцкія горы».

**ЯНАВА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 52 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1710 г. 8 двароў, непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, уласнасць В.Рафалоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў маёнтку 12 жыхароў, уласнасць Т.Ваньковіча. У сярэдзіне 19 ст. належаў памешчыку К.Артынскаму. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1889 г. ўласнасць Л.Дрыжынскага, 225 дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак Янава (ён жа Міхайлава), 2 двары, 20 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У пач. 20 ст. маёнтак належаў памешчыку М.Шпакоўскаму. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлак (2 двары, 12 жыхароў) і хутар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На

фронце загінуў 1 жыхар. У 1960 г. пасёлак у Бараўскім с/с, 20 жыхароў. Уваходзіў у калгас імя Горкага (цэнтр — в.Баравое). У 1991 г. — 3 двары, 7 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Баравое», у 2009 — СВК «Баравое-2003».

**ЯНАВІЧЫ** — вёска ў Рубілкаўскім с/с, за 25 км на У ад Дзяржынска, 12 км ад чыг. ст. Фаніпаль на лініі Мінск—Баранавічы, 34 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 76 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — 8 двароў, 48 жыхароў, уладанне Д. Радзівіла. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Самахвалавіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 58 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 52 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Рубілкаўскім с/с (з 23.3.1932 г. да 14.5.1936 г. нац. польскі) Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі. З 18.1.1931 г. ў Койданаўскім (29.6. 1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі), з 31.7.1937 г. ў Заслаўскім, з 4.2.1939 г. зноў у Дзяржынскім р-нах, з 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак, 9 двароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. — 56 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Камінтэрн» (цэнтр — в. Томкавічы). У 1991 г. 21 гаспадарка, 61 жыхар. У 2009 г. ў складзе СВК «Праўда-Агра».

**ЯНКОЎЦЫ** — вёска ў Волменскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 30 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў (2009).

У сярэдзіне 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1750 г. 16 двароў, 47 жыхароў, уладанне Т.Філіповіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. належала Ваньковічам, 19 двароў, 121 жыхар. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Ваньковічаў, уладальнікаў маёнтка Волма. У 1858 г. 43 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 26 двароў, 162 жыхары. У 1908 г. — 34 двары, 185 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Волменскай, затым Рубяжэвіцкай гмінах Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. — 35 гаспадарак, 210 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Волменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 28.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары вёскі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 15.12.1962 г. Стаўбцоўскага, з 6.1.1965 г. Валожынскага, з 12.8.1970 г. Дзяржынскага р-наў. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас «Маладая гвардыя». Пазней у калгасе «Мір» (цэнтр — в.Волма). У 1991 г. 38 двароў, 72 жыхары. У 2009 г. ў складзе філіяла «Халадон-Агра».

**ЯРАШОЎКА** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 5 км на Пн ад Дзяржынска, 7 км ад чыг. ст. Койданава на лініі



*Ветраны электрагенератар у в. Янкоўцы (2000).*

Мінск—Баранавічы, 36 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 59 жыхароў (2009).

У канцы 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 16 жыхароў, уласнасць С.Кастравіцкага. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Малыя Навасёлкі, уласнасць памешчыка Шустава. У 1870 г.—50 рэвізскіх сялян. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 25 двароў, 129 жыхароў. У 1917 г. 32 двары, 219 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска, 33 двары, 153 жыхары. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. — 500 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка (цэнтр — в.Вялікія Навасёлкі). У 1988 г. — 36 двароў, 99 жыхароў. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы».

**ЯСЮЦЕВІЧЫ** — вёска ў Дзяржынскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Дзяржынска, 9 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 36 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2009).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, гасподскі дом, уласнасць скарбніка І.Кастравіцкага. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Вялікія Навасёлкі Здзяхноўскіх. У 1870 г. 30 сялян мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Койданаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1880-я г. адкрыта школа граматы, якая ў 1890 г. была зачынена. У 1897 г. 23 двары, 158 жыхароў. У 1917 г. — 32 двары, 184 жыхары. З 1922 г. ў вёсцы размяшчалася Прыступаўская пач. школа. З 20.8.1924 г. ў Макаўчыцкім с/с Койданаўскага (29.6.1932 г. перайменаваны ў Дзяржынскі) р-на Мінскай акругі. З 23.3.1932 г. ў Навасёлкаўскім с/с, з 31.7.1937 г. Мінскага, з 4.2.1939 г. зноў Дзяржынскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. — 33 двары, 158 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Дзяржынскім с/с. У 1960 г. — 87 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в. Вял. Навасёлкі). У 1991 г. — 42 гаспадаркі, 385 жыхароў, школа. У 2009 г. ў складзе СВК «Крутагор'е-Петкавічы». Помнік на магіле 10 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 2479; ф. 30, воп. 1, спр. 3255; воп. 2, спр. 6106, 6766; ф. 42, воп. 2, спр. 3577–3579, 3581–3583, 3585–3625, 3727, 3728, 3731, 3732, 3744, 3765, 3767; ф. 48, воп. 1, спр. 524, 537; ф. 334, воп. 1, спр. 500; ф. 338, воп. 1, спр. 61, 167, 168, 323.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 1696–1700, 1706, 1708, 1711, 1713, 1718, 1719, 1723, 2640–2642, 2758; ф. 142, воп. 1, спр. 711, 721, 725, 726, 738, 748, 751, 758, 762, 769, 776, 800; ф. 183, воп. 2, спр. 1532; ф. 295, воп. 1, спр. 7059; ф. 299, воп. 1, спр. 109; ф. 333, воп. 2, спр. 2139, 2141; воп. 4, спр. 676; ф. 694, воп. 1, спр. 412; воп. 7, спр. 434, 934; ф. 1727, воп. 1, спр. 5, 7, 8, 10–12, 14; ф. 1732, воп. 1, спр. 21; ф. 1769, воп. 1, спр. 10.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1306, 1312, 1313; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Военно-статистическое обозрение Российской империи, издаваемое по высочайшему повелению при 1-м отделении Департамента Генерального штаба. Т.9. ч. 4. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1848.

Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Санкт-Петербург, 1858.

Минские губернские ведомости. 1861. Прибавления к № 26.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.

Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Минск, 1880.

Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и актовом значении. Т. 3, ч. 1–2. Санкт-Петербург; М., 1882.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1884/85 учебный год. Минск, 1885.

Волости и важнейшие селения Европейской Росси. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 14, 16. Вильна, 1887, 1889.

Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1891.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год. Минск, 1892.

Историко-статистическая справочная книга Минской епархии. Минск, 1903.

Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.

Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1913 г. Минск, 1912.

Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 25, 33, 35, 38. Вильна, 1898, 1908, 1910, 1914.

Справочная книга и спутник по Минской губернии. Минск, 1917.

Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минская губерния). Минск, 1924.

«Вся Белоруссия». Настольная справочная книга. Минск, 1927.

Шпілеўскі І.Ф., Баровіч Л.А. Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны). Мінск, 1932.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1–2. Мінск, 1935.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–1917 гг.) Т. 3. Минск, 1953.

Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975.

Валаханович А.И. Дзержинск: историко-экон. очерк. Минск, 1982.

Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941–1944. Минск, 1984.

Валаханович А.И., Кулагин А.Н. Дзержинщина: прошлое и настоящее. Минск, 1986.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. І. Мінск, 1987.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Минск, 1985—87.
Улашчык М. Была такая вёска: гісторыка-этнагр. нарыс. Мінск, 1989.
Архітэктура Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 1993.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мінск, 1993—2003.
Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзяржынскага раёна. Мінск, 2004.



# КАПЫЛЬСКІ РАЁН

Размешчаны ў паўд.-зах. частцы Мінскай вобл. (у сучасных межах з 1959 г.). Мяжуе з Уздзенскім, Слуцкім, Салігорскім, Клецкім, Нясвіжскім і Стаўбцоўскім р-намі Мінскай вобл. Пл. 1,6 тыс. км². Насельніцтва 32,6 тыс. жыхароў (2010). Сяр. шчыльнасць 20,4 чал. на 1 км². Уключае 211 сельскіх населеных пунктаў, з якіх 6 не заселены (2010). Цэнтр – г. Капыль. Раён падзяляецца на 13 сельсаветаў: Бабаўнянскі, Блеўчыцкі, Браткаўскі, Бучацінскі, Вялікараеўскі, Грозаўскі, Доктаравіцкі, Камсамольскі, Капыльскі, Пацейкаўскі, Семежаўскі, Слабада-Кучынскі, Цімкавіцкі. Паверхня пераважна раўнінная. Цэнтр. частку з З на У перасякае Капыльская града. На Пн раёна працякае р. Нёман з прытокамі Лоша (з Вынёй), Тур'я (з Гніліцай), Баранаўка, на Пд – р. Морач з прытокамі Мажа, Удава, Волка, на З – вытокі р. Балванка, на У – р. Лакнея. На Пд знаходзяцца вадасховішчы Чырвонаслабодскае і Цімкавіцкае; меліярацыйныя каналы Амяльнянскі, Аткаловіцкі, Семежаўскі, Стары Роў і інш. Карысныя выкапні: торф, цагельная сыравіна, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічы пясок. Глебы сельгасугоддзяў пераважна дзярнова-падзолістыя. Пад лесам (2006) 18%, пераважаюць хваёвыя і бярозавыя лясы. Балоты займаюць (1997) 0,4% тэр. Заказнікі мясц. значэння: гідралагічныя Волка, Марачанскі, заалагічны Ракітнік (бабры). Помнікі прыроды рэсп. значэння: каштан васьмітычынкавы, 6 клёнаў ілжэплатанавых (в. Бабоўня), дуб чарэшчаты (в. Грозава), 2 піхты каліфарнійскія (в. Чыжэвічы). Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Асіповічы–Баранавічы, аўтадарогі Бабруйск–Слуцк–Брэст, Асіповічы–Баранавічы і інш.



*Народны ансамбль народнай песні «Спадчына» Капыльскага раённага Цэнтра культуры.*



*Краявід Капыльшчыны.*

*Капыльска-клецкі строй: 1 — святочнае адзенне дзяўчыны; 2 — жанчына ў святочным убранні.*



1



2



*М.А.Рагожнікаў — начальнік штаба 27-й партызанскай брыгады імя Чапаева (сакавік—ліпень 1944 г.).*

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў межах Слуцкай акругі з валасцей Грозаўскай, часткі Грэскай, Вызнянскай, Кіявіцкай, Ленінскай, Пацейкаўскай, Пукаўскай, Цімкавіцкай, Цялядавіцкай, Чапліцкай Слуцкага павета, часткі Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Цэнтр — мяст. Капыль (з 27.9. 1938 г. гар. пасёлак; з 29.4.1944 г. горад). 20.8.1924 г. падзелены на 15 сельсаветаў. Да канца 1929 г. працавалі 15 калгасаў (больш за 4 тыс. га угоддзяў), у 1931 г. — 46 калгасаў (816 гаспадарак), а таксама Капыльская, Забалоцкая, Чыжэвіцкая, Цімкавіцкая МТС. Дзейнічалі масласырзавод, плода-вінны, торфа- і спіртзаводы, вапнавы, ганчарны з-ды, электрастанцыя, райпрамкамбінат. Колькасць пастаянных і сезонных рабочых складала 3389 чал. (1931). З 1.5.1930 г. пачала выдавацца раённая газ. «Калгаснік Капыльшчыны». Напярэдадні вайны ў раёне 14 991 двор, 68 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У горадзе і буйнейшых населеных пунктах раёна былі створаны ням. гарнізоны і вал. ўправы. Партызанскай барацьбой і падполлем на акупіраванай тэр. кіравалі міжрайком КП(б)Б Слуцкай зоны (жн. 1942 — сак. 1943 г.), падп. райкомы Капыльскі КП(б)Б (7.3.1943—1.7.1944), ЛКСМБ (7.4.1943—1.7.1944). Са студз. 1943 г. выходзіла міжраённая газ. «Пат-

*Пагрузка драўніны ў Капыльскім лясгасе.*

*Будынак Капыльскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя А.Астрэйкі.*







*Неаднаразовы пераможца рэспубліканскага свята-кірмашу «Дажынкі» А.Бутрымовіч з сынам Яўгенам.*




*Сям'я Пыко — пераможца рэспубліканскага маладзёжнага праекта «Уладар сяла».*



*М.С.Сцяпанаў — камісар 300-й партызанскай брыгады імя Варашылава.*

риот Родины» — орган міжрайкома КП(б)Б Слуцкай зоны; з 12.7.1943 г. — «Калгаснік Капыльшчыны» — орган Капыльскага падп. райкома КП(б)Б. Зімой 1942 г. дзейнічалі партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 300-я імя Варашылава, 225-я імя Суворава, 95-я імя Фрунзе, 200-я імя Ракасоўскага, 12-я кавалерыйская імя Сталіна, 32-я імя Калініна, асобныя атрады, у т.л. «Баявы» імя Дунаева. За час акупацыі ням.-фаш. захопнікі і іх памагатыя з літ. паліцэйскага батальёна знішчылі ў раёне 3109 двароў, 6976 жыхароў (у Капылі — 2915 жыхароў), вывезлі ў Германію 749 жыхароў; разрабавалі 106 калгасаў, 4 МТС, зруйнавалі 28 вёсак, 114 прам. прадпрыемстваў, 895 грамадскіх будынкаў. У лютым 1943 г. вёска Масявічы спалена разам з жыхарамі (не адрадзілася). На фронце, у партыз. барацьбе і падполлі загінула каля 5 тыс. жыхароў. Раён вызвалены 1.7.1944 г. войскамі конна-механізаванай групы (камандуючы ген.-лейт. І.А.Плііеў), 28-й арміі (камандуючы ген.-лейт. А.А.Лучынскі) 1-га Бел. фронту ў выніку Мінскай аперацыі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1971 г. 62,1 тыс. жыхароў. Працавалі 25 калгасаў, 6 саўгасаў, племзавод, 22 сярэднія школы, сярэдняя школа-інтэрнат, спецшкола-інтэрнат, 18 базавых і 89 пач. школ, 16 дзіцячых дашкольных устаноў, 70 масавых б-к, 88 клубных устаноў, 80 кінаўстановак, 10 бальніц, 25 фельч.-



*Прадукцыя прыватнага УП «Капыльскі каапрам».*



*Сустрэча кіраўніцтва Капыльскага раёна з дэлегацыямі Чэхаўскага раёна Маскоўскай вобласці і Іанішкскага раёна Літоўскай Рэспублікі. 2009 г.*



*Даяркі-пяцітысячніцы Капыльскага раёна. 1990 г.*



*І.В.Арастовіч — камандзір 95-й партызанскай брыгады імя Фрунзе.*



*В.М.Марозаў — начальнік штаба атрада «Патрыёт Радзімы» 300-й партызанскай брыгады імя Варашылава.*

акушэрскіх пунктаў. Выдавалася газ. «Слава працы». У 2001 г. ў аграпрам. комплексе раёна 3 закрытыя акц. т-вы, 2 калект. сумесныя прадпрыемствы, 5 саўгасаў, 19 калгасаў, акцыянернае міжкалгаснае прадпрыемства па вытв-сці свініны «Капыльскае», «Сельгастэхніка», «Сельгасхімія». Сельгасугоддзі (2006) складалі 72% тэр. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі і бураководстве. Працуюць прадпрыемствы харч., дрэваапрацоўчай і будматэрыялаў прам-сці. У раёне (на 1.1.2009) Капыльскі с.-г. прафес. ліцэй, гімназія, 21 сярэдняя, 4 базавыя, 3 пач. школы, дапаможная школа-інтэрнат, школа-інтэрнат для дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, 2 дзіцяча-юнацкія спарт. школы, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, 28 дзіцячых дашкольных устаноў, 31 клубная ўстанова, 22 кінаўстаноўкі, 41 б-ка, 6 бальніц, спец. дом-інтэрнат для людзей сталага ўзросту і інвалідаў, 3 амбулаторыі, 25 фельч.-акушэрскіх пунктаў. З 10.3.1963 г. выдаецца раённая газ. «Слава працы». Зоны адпачынку мясц. значэння Руднікі, Астравок. Музеі: краязнаўчы, літаратурны імя Кузьмы Чорнага, «Спадчына» і інш. На тэр. К.р. знаходзяцца 22 археал. помнікі і помнікі садова-паркавага мастацтва. У раёне нарадзіліся дзярж. дзеячы Беларусі (А.В.Сташэўскі, І.Дз.Варвашэня), бел. пісьменнікі (В.П.Сташэўскі, А.А.Бабарэка, А.Адамовіч) і паэты (А.І.Коршак, А.Астрэйка, А.Русак).

**КАПЫЛЬ** — горад, цэнтр Капыльскага р-на, на р. Мажа. За 120 км на ПдЗ ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. 9,9 тыс. жыхароў (2009).



*Народны тэатр гульні і гумару «Капыльскія пацехі» раённага Дома культуры.*



*У швейным цэху ААТ «Капыльскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання».*





*Арцель па вырабе ліманаду ў Капылі. 1940-я г.*

*Ганчарная майстэрня ў Капылі. 1940-я г.*

У гіст. крыніцах назва занатавана на рубяжы 14—15 ст. і паходзіць ад тэрміна «капылле» — поле, апрацаванае матыкай. Паводле археал. даследаванняў, на месцы сучаснага горада паселішчы людзей з'явіліся ўжо ў 5—3-м тыс. да н.э. Аб гэтым сведчаць знойдзеныя тут каменныя і касцяныя прылады працы: сякеры, матыкі і інш.

Непадалёку ад сучаснага горада ёсць гарадзішча (замчышча), якое ў 8—11 ст. належала ўсх.-слав. плямёнам — дрыгавічам. Яно знаходзілася на ўзвышшы (11—12 м) над далінай р. Каменка, мела авальную форму і было ўмацавана валам. На Пн працякала рака, з У і Пд цягнуўся шырокі (18—20 м) і глыбокі (2,5—4 м) роў. Гарадзішча мела шырыню 45—60 м і даўжыню 100 м. У 11—13 ст. тут размяшчаўся дзяцінец, дзе жыў князь са сваёй малодшай дружынай, побач рос вакольны горад. На З ад Замкавай гары, на правым беразе Каменкі, у 12—13 ст. існавала паселішча сельскага тыпу (будучае мястэчка). Знойдзены на яго тэр. скарб стараж. манет і ювелірных вырабаў сведчыць аб гандл. сувязях з зах.-еўрап. дзяржавамі.

Упершыню Капыль упамінаецца пад 1274 г. у Валынска-Галіцкім летапісе з нагоды вайны галіцкага і холмскага кн. Льва з літ. кн. Тройдзенам. У 1320-я г. княствы Тураўскай зямлі, у т.л. Слуцкае княства, з невял. паселішчам Капыль увайшлі ў склад Вял. княства Літоўскага і Рускага. У «Спісе гарадоў далёкіх і блізкіх» (1387—1406) Капыль названы горадам Кіеўскага княства. У 14 ст. тут узнік замак (драўляны), каля якога склаўся гар. пасад, і Капыль набыў значэнне важнага абарончага пункта на рубяжах ВКЛ. У 1395 г. вял. князь літ. Вітаўт адабраў у свайго

*Аўтамабільная дарога Узда—Капыль.*

*Панарама г. Капыль з вышыні птушынага палёту.*









*Крыніца каля Замкавай гары ў г. Капыль.*

*Помнік Дз.Ф.Жылуновічу ў Капылі.*



*Сучасны герб г. Капыль.*

стрыечнага брата кн. Уладзіміра Альгердавіча Кіеў і даў яму ўзамен Капыль «держати» з замкам і валасцямі. У часы Уладзіміра Альгердавіча (памёр у 1398 г.) у Капылі быў пабудаваны першы праваслаўны храм. Ёсць меркаванне, што на той час было 5 храмаў: Барысаглебскі, Спаса-Праабражэнскі, Васкрасенскі, Успення, Раства Багародзіцы (разбураны ў час татарскіх набегаў пач. 16 ст.). Пасля смерці Уладзіміра княства, у якое ўваходзіў і Слуцк, перайшло да яго сына Аляксандра, заснавальніка роду Алелькавічаў. У 1417 г. Аляксандр узяў шлюб з дачкой вял. князя маскоўскага Васіля Анастасіяй. У 1440 г. літ. кн. Жыгімонт захапіў Капыль і пакараў свайго палітычнага праціўніка зняволеннем. Пасля смерці Аляксандра княства перайшло да яго сына Міхаіла, які прадоўжыў палітыку бацькі, за што ў

*Замкавая гара на ўскраіне горада.*

*Памятны знак з нагоды 730-годдзя г. Капыль.*







1



2

*Капыльскі раённы краязнаўчы музей: 1 — фрагмент экспазіцыі «Археалагічная гісторыя Капыльшчыны...» (рэканструкцыя знешняга выгляду ранняга горада); 2 — фрагмент экспазіцыі «Мястэчка Капыль канца 19 — пачатку 20 ст.». Гасцёўня.*



*І.А.Пліеў.*

1481 г. быў пакараны смерцю ў Вільні (рэзідэнцыя была перанесена ў Слуцк). Капыльскае княства стала адм.-тэр. адзінкай Слуцкага княства. Граматай вял. князя літ. Аляксандра (1492—1506) Слуцк і Капыль замацоўваюцца за кн. Сямёнам Міхайлавічам Алелькавічам. У пач. 16 ст. на Капыль неаднаразова нападалі крымскія татары. Першы набег, здзейснены імі ў 1502 г., быў адбіты, але праз год атрад татарскай конніцы (6 тыс.) на чале з Баты-Гірэем захапіў Капыль і аблажыў замак. Горад і валасць моцна пацярпелі. У 1506 г. барацьбу супраць татар пасля смерці кн. Сямёна Міхайлавіча ўзначаліла яго жонка Анастасія Іванаўна. У 1508 і 1521 гг. татарам былі нанесены вял. страты. З 1506 г. Капыль у складзе Наўгародскага павета і



*Будынак Капыльскага райвыканкома.*



*Від г. Капыль з усходняй ускраіны.*







*Абласное спаборніцтва па бегу «Капыльскае кальцо».*

*Чэмпіянат Беларусі па эстафетнаму бегу на марафонскай дыстанцыі ў г. Капыль. 2009 г.*

*Святочнае шэсце па цэнтральнай вуліцы горада — Партызанскай. 2009 г.*

*Святочнае шэсце ў г. Капыль з нагоды 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 2009 г.*

ваяводства ВКЛ. У 1507 г. горад быў заняты войскамі кн. Міхаіла Глінскага. У канцы 16 ст. ў час антыфеад. паўстання ва Украіне і Беларусі ў межах Слуцка-Капыльскага княства дзейнічаў казацкі атрад С.Налівайкі. Захапіўшы Слуцк, які належаў Соф'і Юр'еўне Алелькавіч, казацкі гетман паслаў на Капыль атрад у 500 чал. на чале з палкоўнікам Марцінкам, які 25.11.1595 г. быў разбіты войскам гетмана Крыштофа Радзівіла. З 1612 г. уласнасць Радзівілаў. У 1638 г. згадваецца царква Раства Багародзіцы. 27.8. 1652 г. каралём Янам Казімірам гораду дадзены прывілей на магдэбургскае права, зацверджаны выбарнасць гар. адміністрацыі, гар. ратуша. Капыль атрымаў таксама права на штогадовы кірмаш і штотыднёвыя таргі, рамесніцкія цэхі запрацавалі на ўзроўні з цэхамі іншых гарадоў ВКЛ. Гораду быў дадзены герб: выява паляўнічага рога на залатым полі (пячатка). Знясілены ад разбурэнняў, Капыль пачаў развівацца, прыцягваючы да сябе рамеснікаў і купцоў з іншых месц, расла колькасць слабод у наваколлі. У 1644 г. ўпамінаюцца шаўцы «чорнай работы» і «саф'яннай работы». У 1648 г. ў горадзе згадваюцца 8 мяснікоў, 15 пекараў, 22 рамеснікі, 4 гандляры соллю на 117 дымоў. У 1680 г. існавалі шавецкі, ганчарны, ткацкі цэхі. У 2-й пал. 17 ст. Капыль быў вызвалены ад падаткаў. У гэты час ужо працавалі 6 цэхаў з рамеснікамі 10 прафесій. У 1670 г. ўзніклі сядзіба замка, рэфармацкі збор, касцёл, у цэнтры горада — гандл. плошча з крамамі (2,5 га), у 3 рынкавых кварталах 36 дымоў, праваслаўная царква і яўр. школа. У сак. 1695 г. ў Сілезіі памерла ўладальніца Капыля Людавіка Радзівіл. 10.4.1695 г. вял. гетман літ. Казімір Ян Сапега на чале тысячнага войска заняў горад, 14 мая Караль Ра-









*Цырымонія асвячэння вады ў царкве Ушэсця ў г. Капыль.*

*Мітрапаліт мінскі і магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч з прыхаджанамі Петрапаўлаўскага касцёла ў г. Капыль. 2009 г.*

дзівіл з войскам і гарматамі вярнуў сваю спадчыну, але праз тыдзень быў вымушаны пакінуць горад. Гэтая барацьба нанесла гораду і ваколіцам вял. страты. У Паўн. вайну 1700—21 гг. Капыль разрабаваны шведамі і войскамі генерала артылерыі Бонча-Сініцкага, пажар знішчыў больш за 60 дымоў. У сярэдзіне 18 ст. ў горадзе налічвалася 12 вуліц, 136 дымоў хрысціян і 53 — яўрэяў. На 1750 г. згадваюцца 244 раместнікі, 98 краўцоў, 55 ткачоў, 39 пра-





*Будынак Капыльскага раённага краязнаўчага музея.*

*Будынак аддзялення ААТ «Белаграпрамбанк» у г. Капыль.*





*Петрапаўлаўскі касцёл у г. Капыль.*

*Царква Ушэсця ў г. Капыль.*





*У час патрыятычнай эстафеты, прысвечанай 65-годдзю Вялікай Перамогі, у г. Капыль. 2009 г.*

*Новы корпус Капыльскай цэнтральнай раённай бальніцы.*



*І.І.Багдановіч.*

дзільшчыц, 7 апрацоўшчыкаў металаў (усяго 20 прафесій); 1230 жыхароў. З 1764—67 гг. Слуцка-Капыльскае княства знаходзілася пад уладай літ. ген. канфедэрацыі, узраслі паборы і грабеж насельніцтва. Упраўляючы канфедэратаў Адынец узяў з горада 5151 злоты 12 грошай на ўтрыманне гарнізона. З 1791 г. цэнтр Капыльскай парафіі ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў, з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. ў Капылі 693 душы мужчынскага і жаночага полу, царква, 2 касцёлы, карчма, 3 млыны. У 1800 г. тут 175 двароў, 629 жыхароў. У вайну 1812 г. 2 ліп. каля Капыля адбыўся жорсткі бой рус. ар'ергарда пад камандаваннем генерала кавалерыі М.І.Платава з кавалерыяй 4-га корпуса В.Латур-Мабура і польскай кавалерыйскай дывізіяй. У баі вызначыўся камандзір 1-га батальёна Ахтырскага гусарскага палка падпалкоўнік Дз.В.Давыдаў (вядомы паэт). У 1813 г. за ўдзел у вайне на баку французаў Капыль і маёнткі Радзівілаў былі секвестраваны, у 1833 г. перададзены ва ўласнасць графа (з 1834 г. князя) Л.П.Вітгенштэйна. У 1815 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1859 г. 257 двароў, пабудаваны мураваны касцёл, былі праваслаўная і рэфармацкая цэрквы, 2 яўр. малітоўныя дамы, 2 вадзяныя млыны, 6 гандл. крам. У 1861 г. ў мястэчку 357 двароў, 1842 жыхары. У 1866 г. на сродкі казны пабудавана Спаса-Праабражэнская царква. У 1886 г. мястэчка ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ.; піўзавод, вадзяны млын, 6 заезных дамоў, 87 крам, праваслаўная і лютэранская цэрквы, касцёл, 4 яўр. школы. У 1897 г. 653 дамы, 4780 жыха-

*Прадпрыемства службы быту ў г. Капыль.*

*Прадукцыя Капыльскага масласырзавода.*









*Забудова плошчы Леніна ў г. Капыль.*

роў (у т.л. 2671 яўрэй), мяшчанская ўправа, піваварны з-д, 2 млыны, 3 школы, 6 крам, царква, касцёл, кальвінскі збор, 2 яўр. малітоўныя дамы, 3 ганчарныя з-ды, прадпрыемства прахаладжальных напіткаў, 92 крамы, аптэка, 2 аптэчныя крамы, заезны дом, 7 піцейных дамоў, 4 капліцы, мячэць, сінагога, паштовае аддз.; у маёнтку 21 жыхар.

На пач. 20 ст. ў Капылі 5968 жыхароў ($^2/_3$ яўрэі), дзейнічалі праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая цэрквы, мячэць, 2 пач. і 2 яўр. школы, бальніца (2 фельчары), аптэка, лесапільны з-д. 20.1.1901 г. адкрыта нар. вучылішча (63 хлопчыкі і 11 дзяўчынак), у 1902 г. створана 2-класнае вучылішча для хлопчыкаў з 5-гадовым і 1-класнае для дзяўчынак з 3-гадовым тэрмінамі навучання. Заможная частка яўр. кагала групавалася ў цэнтры мястэчка, жыхары татарскіх слабод займаліся вырабам скур; працавалі гарбарныя і шавецкія майстэрні, 2 вадзяныя млыны, у 1911 г. пабудаваны паравы млын. Вясной і восенню адбываліся буйныя кірмашы, тут размяшчаліся памешчыцкі банк і больш за 20 шынкоў. Летам 1911 г. ў мястэчку са спектаклем выступіла трупа Ігната Буйніцкага. У 1910–11 гг. З.Ф.Жылуновіч (Ц.Гартны) выдаваў тут літаратурна-грамадскія рукапісныя часопісы «Зара», «Голас нізу» з дадаткам «Вольная думка». У канцы 1917 г. ў мястэчку 645 двароў, больш за 5,3 тыс. жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. Капыль акупіраваны герм. войскамі. З вясны 1918 г. дзейнічала падп. група на чале з І.І.Багдановічам, якая стварыла партыз. атрад у в. Вялешына 1 (камандзір Тучка), з мая — суполка Слуцкай пав. арг-цыі эсэраў. Пасля прыходу герм. войск са Случчыны (2-я пал. ліст. 1918 г.) у Ка-



*Народны ансамбль народнай музыкі «Капыляне» на рэгіянальным аглядзе-конкурсе мастацкай творчасці «Суквецце талентаў». Сакавік 2010 г.*



*На экскурсіі ў Капыльскім раённым краязнаўчым музеі.*



*Капыльскае пакрывала. 2-я палова 20 ст. Пераборнае ткацтва.*



1



2

*Капыльскія ручнікі: 1 — 6-нітовае закладное ткацтва (пачатак 20 ст.); 2 — пераборнае ткацтва (сярэдзіна 20 ст.).*





*Выступленне народнага аркестра народных інструментаў «Капыльскія дудары» на рэгіянальным аглядзе-конкурсе мастацкай творчасці «Сuквецце талентаў». Сакавік 2010 г.*



*Капыльскі ўзорны эстрадны калектыў. Сакавік 2010 г.*

пылі створаны рэўком (старшыня А.Д. Шкадарэвіч). У крас. 1919 г. была арганізавана камсамольская ячэйка, пачала дзейнічаць маладзёжная арг-цыя «Беларуская хатка». 9.8.1919 г. Капыль акупіраваны польскімі інтэрвентамі. У горадзе і воласці дзейнічаў падп. рэўком на чале з Лоцвіным, былі сфарміраваны 3 партыз. атрады. 15.7.1920 г. войскі 2-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі вызвалілі горад. З кастр. 1920 г. Капыль у памежнай зоне, дзе падвяргаўся грабежніцкім налётам антысав. атрадаў Бел. рады Случчыны. На пач. 1920-х г. працавалі т-вы с.-г. «Саха», спажывецкае «Ніва», саматужнікаў (аб'ядноўвала рамеснікаў 8 прафесій); Нар. дом імя К.Маркса, пры якім быў культ.-асв. гурток з муз., літаратурнай і драматычнай секцыямі. Працавалі гар. б-ка, тэатр (у памяшканні пажарнага дэпо), бальніца, аптэка, 7-гадовая школа (у 1924 г. 14 настаўнікаў, 314 вучняў; дырэктар Ф.Міськевіч). З 17.7.1924 г. цэнтр Капыльскага р-на Слуцкай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1926 г. было 4 тыс. жыхароў, працавалі сыраварны і цагляны з-ды, ганчарная і шавецкая прам. арцелі, Нар. дом, 7-гадовая і яўр. школы. У 1930 г. створана МТС, якая мела 24 трактары, 1 аўтамашыну. Валавая прадукцыя мясц. прам-сці ў 1931 г. складала 1,8 млн. рублёў. Працавалі млын з лесапілкай, торфазавод, хлебапякарня, маслазавод, друкарня, шавецкая, кравецкая, сталярна-мэблевая і кавальская прам. майстэрні, электрастанцыя, калгас «Усход». Напярэдадні вайны ў Капылі было 5059 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Тут былі створаны ням.-паліцэйскі гарнізон, гета. У сак. і ліп. 1942 г. акупанты знішчылі ў Капылі





*Будынак фізкультурна-аздараўленчага комплексу ў г. Капыль.*

*Алея герояў у цэнтры горада.*

яўр. насельніцтва, сагнанае ў гета (2915 чал.). Дзейнічала камсамольска-маладзёжная падп. групоўка на чале з І.І.Зіневічам (6 членаў), якая знішчыла нач. раённай управы. 9.8.1942 г. партызаны брыгады імя Варашылава Мінскай вобл. правялі бой з варожым гарнізонам у Капылі; 29.6.1944 г. партызаны 27-й брыгады імя Чапаева разграмілі гарнізон праціўніка (каля 700 салдат і афіцэраў) і ўтрымлівалі пасёлак да падыходу войск Чырвонай Арміі. У партыз. ба-





*Выстаўка Героя Беларусі М.С.Высоцкага ў Капыльскім раённым Цэнтры культуры.*

*Сервісны цэнтр Капыльскага раённага вузла электрычнай сувязі.*





*На дзіцячай пляцоўцы ў гарадскім цэнтральным парку.*

*Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Гімназія № 1 г. Капыль».*



*І.І.Зіневіч.*



*С.Х.Александровіч.*

рацьбе, падполлі і на фронце загінулі 166 жыхароў.

З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1969 г. 4,1 тыс. жыхароў, у 1977 г. 5,7 тыс. жыхароў. 29.4.1944 г. Капыль стаў горадам. У 1999 г. 10,8 тыс. жыхароў. Працавалі хлеба- і масласырзаводы, з-д гумава-тэхн. вырабаў, камбінат быт. абслугоўвання, некалькі будаўнічых арг-цый, 3 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спарт. школы, дзіцячая школа мастацтваў, Цэнтр культуры, цэнтр. раённая і дзіцячая б-кі, краязнаўчы музей, раённая бальніца, паліклініка, гасцініца, вузел сувязі. У 2000 г. зацверджаны новы герб горада: на залатым полі шчыта паляўнічы ражок з залатой фурнітурай.

У Капылі (2009) прадпрыемствы хімічнай (з-д гумава-тэхн. вырабаў), дрэваапрацоўчай, харч. прам-сці; лясгас, райаграсервіс, дарожныя, рамонтныя, гандл., транспартныя і будаўнічыя арг-цыі. Працуюць (2010) гімназія, сярэднія і дзіцяча-юнацкія спарт. школы, дзіцячая школа мастацтваў, 4 дзіцячыя сады-яслі, цэнтры дзіцячай творчасці, карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Дзейнічаюць дзярж. ўстановы: «Капыльскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі», «Капыльскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва», «Капыльскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне». Ёсць 2 б-кі (гар. і цэнтр. раённая), раённы Цэнтр культуры, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, клубы камп'ютэрны і ДТСААФ, футбольнае поле і спарт. пляцоўкі. Функцыяніруюць бальніца, паліклініка, аптэкі. У горадзе гасцініца, Дом быту, камбінат быт. абслугоўвання, пункт калект. карыстання, раённы вузел электрасувязі Мінскага філіяла «Белтэлеком» і інш. У Капылі працуе даччынае УП «Аўтамабільны парк № 21» РУП «Мінаблаўтатранс», якое забяспечвае сельсаветы раёна транспартам. Працуе раённы краязнаўчы музей. На тэр. раёна знаходзяцца брацкая магіла сав. воінаў і партызан (у 1989 г. запалены Вечны агонь), 3 магілы ахвяр фашызму. Археал. помнікі: гарадзішча, 3 курганныя могільнікі. Помнік традыц. нар. дойлідства — царква Ушэсця (2-я пал. 19 ст.). У Капылі ўстаноўлены помнікі У.І.Леніну, Ц.Гартнаму (і мемарыяльная дошка).

У Капылі нарадзіліся бел. пісьменнікі С.Х.Александровіч (1921—86), Ц.Гартны (З.Х.Жылуновіч; 1887—1936), А.Гурло (1892—1938), М.Хведаровіч (1904—81), Н.Чарнушэвіч (1900—67), І.І.Кананові (н. ў 1938), мастак У.М.Пасюкевіч (1931—2009), тэатразнавец С.А. Пятровіч (1931—81), гісторыкі Р.А.Малюковіч (н. ў 1932), А.А.Каваленя (н. ў



*Капыльскі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях неаднаразова адзначаўся як лепшы ў Мінскай вобласці.*



*На станцыі тэхнічнага абслугоўвання ААТ «Капыльскі аўтапарк № 21».*

1946), вучоны С.А.Малюковіч (н. ў 1935), засл. трэнер Беларусі і Расіі Р.І.Кныш (н. ў 1931), мастак-афармііцель С.К.Швайбовіч (н. ў 1949).

У складзе сельсавета 17 вёсак і 4 пасёлкі.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Цімкавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Капыля, 136 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Труд. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Цімкавічы—Браткава. 60 гаспадарак, 110 жыхароў (2010).

Назва вёскі мае сац.-быт. паходжанне: агароднікі — сяляне ў ВКЛ з памешчыцкай чэлядзі, якіх сялілі паблізу маёнтка. Паводле інвентару буйнога маёнтка Цімкавічы за 1622 г., згадваецца як сяло ў Навагародскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У канцы 17 ст. 5 валок, 20 дымоў, 54 жыхары мужчынскага полу. У 1730 г. вёска двара Цімкавічы, у якой жылі баяры, плацілі чынш па 40 злотых з валокі баярскай і па 20 злотых з валокі бакавой. З 5 валок давалі конніка з поўным узбраеннем; цяглыя сяляне плацілі чынш з валокі па 8 злотых, з валокі прыёмнай — па 20 злотых. У 1761 г. 39 дымоў, 15 валок зямлі, 16 вулляў; чыншу плацілі 335 злотых, $^{1}/_{3}$ грошаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., вёска, уласнасць кн. М.Радзівіла, была карчма. У 1800 г. 37 двароў, 198 жыхароў. У 1816 г. 30 двароў, уласнасць Радзівілаў. У 1870 г. 291 жыхар. У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, 46 двароў, 298 жыхароў, хлебазапасны магазін; выселак Агароднікі, 2 двары, 12 жыхароў. У пач. 20 ст. 56 двароў, 386 жыхароў. У 1917 г. 59 двароў, 400 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 50 вучняў; млын. З 17.7.1924 г. вёска ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 59 двароў, 364 жыхары. З 1926 г. ў Прускім с/с. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Свярдлова, была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941—43 гг. акупанты загубілі 5 жыхароў. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 19 жыхароў. З 16.7. 1954 г. ў Цімкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 250 жыхароў. У 1997 г. 68 гаспадарак, 147 жыхароў, у складзе саўгаса «Цімкавіцкі». У 2007 г. 68 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма бел. вучонага, доктара філасофскіх навук, чл.-кар. АН БССР І.М.Лушчыцкага (1907—73).

**АКСАМІТЫ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе



*А.Гурло.*



*І.М.Лушчыцкі.*




*С. і У. Швайбовічы. Вітраж у бібліятэцы сярэдняй школы № 3 г. Капыль.*



*Зона адпачынку на ўскраіне г. Капыль.*



М.Хведаровіч.



М.Т.Чарнушэвіч.



У.М.Пасюкевіч.

Русакі—Грозава. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., вёска, уласнасць Грозаўскага Мікалаеўскага манастыра. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Грозаўскай вол. таго ж павета, 27 двароў, 163 жыхары. У пач. 20 ст. 28 двароў, 200 жыхароў; у 1917 г. 31 двор, 195 жыхароў. У 1924 г. 31 двор, 190 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Савецкая краіна». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не Мінскай вобл. У 1960 г. 120 жыхароў. У 1997 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Інтэрнацыянал». У 2007 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд».

Вёска — радзіма бел. пісьменніка, крытыка, перакладчыка В.А.Рабкевіча (1937—95).

**АНДРОСАЎШЧЫНА** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Капыля, 111 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Капыль—Узда. 60 гаспадарак, 143 жыхары (2010).

У 1897 г. 12 фальваркаў у Гавязнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 12 двароў, 80 жыхароў. У пач. 20 ст. ўрочышча Андросаўшчызна ў Грозаўскай вол. таго ж павета, 50 двароў, 367 жыхароў; фальварак, 6 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. хутары Андросаўшчына, 76 двароў. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 30 вучняў. У 1924 г. 81 двор, 493 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі. У 1926 г. 96 двароў, 503 жыхары. У 1933 г. працавалі 2 ветраныя млыны, кузня, у калгасе «Чырвоны Май». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6.5.1942 г. акупанты загубілі 4 сям'і. На фронце і ў падполлі загінулі 25 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 418 жыхароў. У 1997 г. 79 гаспадарак, 160 жыхароў, у калгасе «Новы свет». У 2007 г. 63 гаспадаркі, 158 жыхароў, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуе (2010) магазін.

**АНДРОСАЎШЧЫНА** — пасёлак у Капыльскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Капыля, 114 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Капыль—Узда. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядома як вёска з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Случарэцкім, з 1795 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць П.Вітгенштэйна. У пач. 20 ст. фальварак у Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 6 двароў, 50 жыхароў; у 1917 г. 75 двароў, 508 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на, хутар, 96 двароў, 503 жыхары (1926). У 1930 г. створаны цагляны з-д, 26 рабочых і служачых. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Май», былі кузня, 2 ветракі. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. належаў цаглянаму з-ду, 72 жыхары. У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2007 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына».

**АНОЖКІ** — вёска ў Капыльскім с/с, за 3 км на Пн ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Думічы. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (2010).

У 1760 г. ў шэрагу маёнткаў кн. М.Радзівіла Рыбанькі ў Капыльскім княстве згадваецца в. Аношкі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзе-

лу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе казённага маёнтка Аношкі, 41 душа мужчынскага полу. У 1870 г. ў Пацейкаўскай вол., 65 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (34 двары, 172 жыхары), 6 фальваркаў (71 жыхар), сядзіба прычта Пацейкаўскай царквы (13 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 30 двароў, 185 жыхароў; фальваркі, што належалі Весялкоўскаму (9 жыхароў), Валасовічу (5 жыхароў), Лабанку (9 жыхароў), Шыманскаму (12 жыхароў), Яцкевічу (6 жыхароў). У 1917 г. 35 двароў, 156 жыхароў. У 1924 г. вёска, 27 двароў, 166 жыхароў; хутар, 22 двары, 141 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не і сельсавеце Слуцкай акругі. На пач. 1930-х г. створаны калгас імя VII з'езда. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. 214 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінец». У 1997 г. 42 гаспадаркі, 95 жыхароў. У 2007 г. 39 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе СВК «Мажа-Агра». Працуюць (2010) аддз. сувязі, магазін.

**АРГЕЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Капыльскім с/с, за 8 км на У ад Капыля, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Грозава. 39 гаспадарак, 57 жыхароў (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 2 душы, уласнасць Абрамовіча. На пач. 20 ст. вёска ў Грозаўскай вол. таго ж павета; у 1917 г. 43 двары, 240 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 42 двары, 228 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Горкага, была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры вызваленні раёна ў наваколлі вёскі загінулі 6 сав. воінаў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 61 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Вялешынскім с/с, 295 жыхароў. У 1997 г. ў Капыльскім с/с, 54 гаспадаркі, 88 жыхароў, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 2007 г. 45 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла 6 сав. воінаў (у 1970 г. ўстаноўлены помнік); брацкая магіла 2 сав. воінаў, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі (у 1970 г. ўстаноўлены абеліск).

**АРЭХАЎКА** — пасёлак у Браткаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Капыля, 140 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Цімкавічы—Комсічы—Навасёлкі. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. хутар у Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1917 г. 9 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Крывасялкоўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, пасёлак, 17 двароў, 87 жыхароў. У 1926 г. 17 двароў, 80 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Арэхаўка». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.



*Р.А.Малюковіч.*



*С.К.Швайбовіч.*



*Малочна-таварная ферма «Андросаўшчына» ААТ «Старыца-Агра».*



А.А.Каваленя.



С.А.Малюковіч.

1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 26.5.1943 г. акупанты расстралялі і спалілі 11 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак у Браткаўскім с/с, 78 жыхароў. У 1977 г. 24 двары, 49 жыхароў. У 2000 г. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая». У 2007 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе ААТ «Капыльскае».

**АСАВЕЦ** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Капыля, 122 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Старыца—Камень—Асавец. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У 1920-я г. пасёлак у Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета, у 1924 г. 22 двары, 124 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. 10 двароў, 40 жыхароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Камінтэрн», была кузня. З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5.1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, вёска, 31 жыхар. З 16.1.1969 г. ў Камсамольскім с/с. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў, у калгасе імя Суворава. У 2007 г. 23 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе СВК «Каменскі». Брацкая магіла 40 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. (у 1968 г. ўстаноўлены абеліск).

**АСТРАВОК** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 13 км на У ад Капыля, 133 км ад Мінска. На З цячэ р. Копанка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Грозава. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2010).

Вядомы як вёска з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 40 двароў, 249 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. цэнтр сельскай грамады ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, вёска (64 двары, 469 жыхароў, хлебазапасны магазін), маёнтак (17 жыхароў), фальварак (30 жыхароў). У пач. 20 ст. 74 двары, 523 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 84 двары, 425 жыхароў, у фальварку 4 жыхары, на хутарах 7 двароў, 42 жыхары. У снеж. 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 40 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, вёска — 94 двары, 454 жыхары; хутар — 7 двароў, 48 жыхароў. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Молатава, вёска ў Ванелевіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 39 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 18.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 341 жыхар. У 1981 г. ў Доктаравіцкім с/с, у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 48 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2007 г. 31 гаспадарка, 48 жыхароў, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы». Магіла сав. воіна (у 1991 г. ўстаноўлены абеліск), магіла партызана, што загінуў у 1943 г. (у 1965 г. пастаўлены абеліск). Археал. помнік — курганны могільнік.

Вёска — радзіма бел. археолага, праф. В.М.Ляўко (н. ў 1947).

**АСТРЭЙКІ** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Капыля, 100 км ад Мінска. На У разбіты сад. Транспартныя сувязі па шашы Капыль—Узда і далей па аўтадарозе Харытонаўка—Слабада-Кучынка. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

Вядомы як вёска з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 20 двароў, 117 жыхароў; у 1879 г. засценак у Пукаўскай вол. Ігу-

менскага павета. У 1897 г. вёска ў Ляхавіцкай вол., 10 двароў, 70 жыхароў; маёнтак Баранцэвічаў – 2 двары, 13 жыхароў; фальварак Субоцкага – 5 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак у Пукаўскай вол. Слуцкага павета, 6 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. засценак той жа воласці, 12 двароў, 67 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 13 двароў, 86 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Дзяржынскага. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 46 жыхароў. У 1981 г. таго ж сельсавета, у складзе саўгаса «Крыніца». У 1997 г. 19 гаспадарак, 43 жыхары. У 2007 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд». Працуе (2010) магазін. Магіла партызана Дз.І.Ніпакоева (загінуў у сак. 1942 г.) з партыз. брыгады імя Варашылава, у 1965 г. яму ўстаноўлены абеліск.

**АТКУЛАВІЧЫ** – пасёлак у Доктаравіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Капыля, 138 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. На Пд сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль–Кель–Доктаравічы–Навасёлкі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Упершыню згадваюцца ў 18 ст. У 1760 г. ў шэрагу маёнткаў і фальваркаў Радзівілаў упамінаецца фальварак Адкаловічы ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. фальварак, 4 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, вадзяны млын Аткулавічы (ён жа Пятроўшчына), 9 жыхароў, і фальварак – 21 жыхар. У 1905 г. ў фальварку 550 дзес. зямлі, вінакурня, працаваў механічны млын (з 1895). У 1907 г. 5 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. 91 жыхар. У 1918 г. фальварак нацыяналізаваны, частка яго ўгоддзяў размежавана паміж сялянамі, на астатняй 1.1. 1921 г. створаны саўгас «Аткулавічы», які меў 116 дзес. ворыва. Саўгас займаўся селекцыяй зерневых культур (авёс, жыта), развядзеннем пародзістай жывёлы; у 1922 г. 202 дзес. ворыва, 25 коней, 25 рабочых. 11.2.1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 25 вучняў. У 1924 г. ў вёсцы 90 жыхароў, на хутары – 2 двары, 12 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, у саўгасе 90 жыхароў; у школе 1 настаўнік, 34 вучні. У 1931 г. 404 га сельгасугоддзяў, 204,8 га ворыва, 87 жыхароў, 25 рабочых, 25 коней (саўгас), млын, лазня, сад (1,5 га). Дзейнічалі парт. і камсамольская ячэйкі, клуб, б-ка (200 кніг), дзіцячая пляцоўка. У 1933 г. адкрыты нафтамлын. З 20.8.1938 г. ў Грэскім р-не Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Ванелевіцкім с/с Капыльскага р-на. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с, 150 жыхароў, у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў. У 2007 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы».

**БАБАВЕНКА** – вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Капыля, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль–Бабоўня. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Паводле інвентару за 1846 г., засценак у складзе маёнтка Бабоўня, уласнасць Ёдкаў, мелася карчма. У 1897 г. засценак у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, 16 двароў, 95 жыхароў. У 1909 г. фальварак, 35 жыхароў. У 1917 г. 89 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не, 13 двароў, 64 жыхары. У 1926 г. пасёлак,



Р.І.Кныш.



В.М.Ляўко.

20 двароў, 85 жыхароў. На пач. 1930-х г. створаны калгас «КІМ». У 1960 г. вёска, 138 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабоўня». У 1997 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў. У 2007 г. 16 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе СВК «Душава».

**БАБОЎНЯ** – вёска, цэнтр Бабаўнянскага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Капыля, 120 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Баранавічы–Асіповічы, на перакрыжаванні аўтадарог Капыль–Узда і Асіповічы–Баранавічы. 162 гаспадаркі, 396 жыхароў (2010).

Упершыню згадваецца з 16 ст. У 1582 г. сяло, маёнтак у Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Алелькавічаў, потым Радзівілаў. У 18 ст. ў час караля Аўгуста III Бабоўні дадзены правы мястэчка, прывілей на штотыднёвы кірмаш. У 1760 г. фальварак, уласнасць М.К.Радзівіла. У 1769 г. засн. суконная мануфактура (у 1797 г. 110 прыгонных рабочых, у т.л. 6 майстроў, 5 падмайстраў; выпушчана 4,6 тыс. аршынаў сукна). Выраблялі сукно, байку, вігонь, шпон. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1800 г. 33 двары, 144 жыхары, гаспадарскі двор, сядзіба, драўляная царква, капліца, бровар, яўр. школа, суконная і палатняная ф-кі. У 1816 г. 20 двароў. Паводле перапісу 1833 г., 40 цяглых двароў, 206 душ мужчынскага полу, налічвалася 12 двароў агароднікаў, 13 бабылёў, 9 яўр. двароў. У мястэчку – 24 дамы (крытыя саломай), касцёл, карчма, 345 дзес. ворыва (3 палі); у маёнтку – 4 карчмы, суконная ф-ка, вінакурня. У сялян на двор было зямлі ворнай і сенакоснай па 15 дзес., увогуле мелі 22 кані, 89 валоў, 53 каровы, 198 авечак, 68 свіней, 9 вулляў пчол, усіх угоддзяў 600 дзес.; у памешчыка – ворнай зямлі 345, сенажацей каля 100 дзес. Усіх угоддзяў у маёнтку 1872 дзес. За надзел сяляне цягнулі паншчыну: 3 дні з вупражжу, пешых 2 дні ў тыдзень з двара; гвалты – з рабочай душы 8 дзён на год. Агароднікі за надзел плацілі ад $82^1/_2$ капеек да 3 рублёў 30 капеек серабром у год; вольныя людзі за валоку ад 30 да 50 рублёў серабром. Сядзіба ўключала каменны дом з флігелем пад гонтам, гумно, свіран, аўчарню, стайню, валоўнік, вінны пограб, дом для дваровых (4 мужчыны, 9 жанчын). У хлебазапасны магазін сяляне ссыпалі з кожнай душы па 4 гарнцы жыта, 2 гарнцы яравога хлеба; насельнікі маёнтка былі абавязаны купляць гарачае віно ў маёнткавых корчмах. Прывазное адбіралі і накладвалі штраф з кожнай кварты па 50 капеек (з сялян, з вольных – удвая). Паводле інвентару за 1846 г., маёнтак, уласнасць Ёдкаў, уключаў мяст. Бабоўня, в. Выня, засценак Бабавенка. Да 2-й пал. 19 ст. існаваў мураваны касцёл. У пач. 1860-х г. 553 жыхары; у 1866 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892 г. 44 хлопчыкі, 1 дзяўчынка). У 1870 г. 35 двароў, 173 жыхары; гандл. шляхамі злучалася з мястэчкамі Капыль, Грозава, Новы Свержань, г. Нясвіж. У 1886 г. 11 двароў, 96 жыхароў, Цялядавіцкае вал. праўленне, праваслаўная царква, нар. вучылішча, яўр. школа, 5 дробных крам. У 1897 г. ў мястэчку 40 двароў, 195 жыхароў, мяшчан-



*Фрагмент парку (канец 19 – пачатак 20 ст.) у в. Бабоўня.*

скае праўленне, царква, вінная крама, яўр. малітоўны дом; у маёнтку 61 жыхар, закладзены парк. На пач. 20 ст. 28 двароў, 196 жыхароў; у маёнтку 407 жыхароў, вінакурны з-д (засн. ў 1900 г., у 1913 г. 8 рабочых) з паравым рухавіком. У 1917 г. ў мястэчку 36 двароў, 119 жыхароў; у маёнтку (уласнасць Бярнацкага) 155 жыхароў. З лютага 1918 г. да восені 1920 г. акупіравана германскімі, потым польскімі інтэрвентамі. У 1918 г. на землях нацыяналізаванага маёнтка створаны саўгас «Бабоўня»: 140 дзес. ворыва, 83 жыхары, працавалі 20 рабочых, быў вінзавод. У ліст. 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 25 вучняў). Да сярэдзіны 1922 г. ў саўгасе 200 дзес. угоддзяў (166 дзес. ворыва), 13 коней, працавалі 26 рабочых і служачых, вінзавод. У 1924 г. ў мястэчку 49 двароў, 191 жыхар, у саўгасе 20 двароў, 86 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на Мінскай вобл. У 1926 г. тут 52 двары, 183 жыхары, у пасёлку саўгаса 20 двароў, 85 жыхароў. У 1929 г. працаваў калгас «Чырвоны пуцілавец», у 1933 г. — млын, лесапільня, 2 кузні, сталярная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942—43 гг. акупанты загубілі 30 жыхароў-яўрэяў. На фронце загінулі 17, у партыз. барацьбе — 3 жыхары, пры вызваленні вёскі ў ліп. 1944 г. — 6 сав. воінаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 329 жыхароў, у сельсавеце — 4938 жыхароў. У 1970 г. 108 двароў, 355 жыхароў; аддз. райпрамкамбіната быт. абслугоўвання, пач. школа, дзіцячы сад, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, магазін. У 1981 г. цэнтр саўгаса «Бабоўня», у сельсавеце 27 населеных пунктаў, 2 саўгасы. У 1997 г. 178 гаспадарак, 482 жыхары. У 2007 г. 170 гаспадарак, 402 жыхары, цэнтр раённага с.-г. УП «Бабоўня». Працуюць (2010) лясніцтва, вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—пач. школа, б-ка, урачэбная амбулаторыя агульнай практыкі, бальніца сястрынскага догляду, магазін, прадпрыемства грамадскага харчавання, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк». Брацкая магіла сав. воінаў і партызан; помнік землякам б. саўгаса «Бабоўня». Помнікі садова-паркавага мастацтва — парк (канец 19 — пач. 20 ст.) і архітэктуры — спіртзавод. Помнікі прыроды рэсп. значэння — каштан васьмітычынкавы, клён несапраўднаплатанавы.

У складзе сельсавета (2010) 16 вёсак, 9 пасёлкаў.



*Будынак участковай бальніцы ў в. Бабоўня.*



*Будынак спіртзавода ў в. Бабоўня.*

**БАГУШЫ** – вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Капыля, 129 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Труд на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Сцяпуры–Какорычы, потым па прасёлачнай дарозе. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1897 г. ваколіца Багушы (яна ж Какорычы) у Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 10 двароў, 49 жыхароў. У пач. 20 ст. фальварак, 9 двароў, 46 жыхароў. У 1917 г. засценак, 14 двароў, 76 жыхароў. У 1918–20 гг. акупіраваны герм., потым польскімі войскамі, з ліст. да 4.12.1920 г. антысав. атрадамі «Зялёнай арміі Слуцкай рады», потым у нейтральнай зоне Семежаўскага рэўкома. З 20.8.1924 г. вёска ў Вялікараеўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 15 двароў, 69 жыхароў. У пач. 1930-х г. вёскі Багушы і Сцяпуры аб'ядналіся ў калгас «Шлях камуны». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 1960 г. ў Цімкавіцкім с/с, 33 жыхары, у 1981 г. ў калгасе «Шлях камуны». У 1997 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс».

**БАДЗЯЖЫ** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Капыля, 107 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Старыца–Грозава. 39 гаспадарак, 73 жыхары (2010).

У 17 ст. сяло ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1669 г. сяло ў складзе маёнтка Старыца, уласнасць Радзівілаў, 11 валок зямлі. У 1739 г. 15 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. уласнасць графа А.Гінтэра. У 1897 г. сяло ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, працаваў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. ў складзе тых жа воласці і павета, 47 двароў, 270 жыхароў. У 1917 г. было 50 двароў. У 1919 г. адкрыта школа 1-й ступені (у гаспадарскім доме маёнтка Балгавічы), 1 настаўнік, 35 вучняў; мела 1 дзес. зямлі; у вёсцы быў прыватны млын. У 1924 г. 51 двор, 265 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «КІМ». У 1933 г. былі ваўначоска, ветраны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 28 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 272 жыхары. У 1997 г. 46 гаспадарак, 103 жыхары, у калгасе «Новы свет». У 2007 г. 41 гаспадарка, 83 жыхары, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуе (2010) магазін.

**БАЛГАВІЧЫ** – вёска ў Грозаўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Капыля, 112 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Русакі–Грозава. 34 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 1795 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 19 жыхароў, уласнасць Б.Лазарэвіча, невял. сяло – 140 жыхароў, 2 млыны, уласнасць І.Чарыспаўца. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, вёска, 15 двароў, 103 жыхары, капліца; яшчэ вёска той жа назвы, 23 двары, 159 жыхароў; побач існаваў маёнтак – 7 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы 14 двароў, 114 жыхароў, у маёнтку – 3 двары, 12 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа (у 1916 г. 1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў вёсцы 21 двор, 124 жыхары, у маёнтку 23 жыхары, у аднайменнай вёсцы ў Пукаўскай вол. 32 два-

ры, 175 жыхароў, у 2 маёнтках — 58 жыхароў. У 1921 г. маёнткі нацыяналізаваны. З ліст. 1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 38 вучняў (1921), мела 3 дзес. зямлі. З 20.8. 1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на, вёска — 58 двароў, 281 жыхар; пасёлак — 16 двароў, 64 жыхары. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 1 настаўнік, 27 вучняў (у б. гаспадарскім доме), культ.-асв. гурток. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Чырвоны працаўнік», былі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 34 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 307 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 1997 г. 48 гаспадарак, 83 жыхары. У 2007 г. 36 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза А.І.Радкевіча (1916—57). Яго імем тут названа вуліца.

**БАРКАЎЦЫ** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Капыля, 97 км ад Мінска. На З цячэ р. Грыўчык (прыток р. Выня). На Пн і ПнУ меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па шашы Асіповічы—Баранавічы і далей па аўтадарозе Дунаева—Бор. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Вядомы як вёска з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 95 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.,13 двароў, 90 жыхароў. У 1909 г. засценак, 15 двароў, 69 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 72 жыхары. У 1924 г. было 19 двароў, 74 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На пач. 1930-х г. у калгасе імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе загінулі 2 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 99 жыхароў. У 1981 г. ў Камсамольскім с/с, у калгасе імя Леніна. У 1997 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2007 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг».

**БЛЕЎЧЫЦЫ** — аграгарадок у Блеўчыцкім с/с, за 20 км на Пд ад Капыля, 140 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы. 105 гаспадарак, 194 жыхары (2010).



*А.І.Радкевіч.*

Назва вытворная ад прозвішча Блеўчыц. Паводле інвентару за 1622 г., вёска ў Быстрыцкай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, у складзе буйнога маёнтка Цімкавічы, 26 валок ворыва, у т.л. 25 цяглых, 1 чыншавая. За надзелы жыхары плацілі землеўладальніку больш за 81 капу 42 грошы літ., давалі дзякла па 26 бочак жыта і аўса, 26 гусей, 52 курыцы, 26 вазоў сена, 6 вёдзер мёду. Асн. частку насельнікаў складалі сяляне, згадваюцца баяры, цясляр. У 1761 г. было больш за 257 валок, 94 дымы, карчма, бровар. Гадавы даход ад вёскі на карысць уладальніка маёнтка (Цімкавічы) Я.Радзівіла складаў 870 злотых, $2^2/_3$ гроша. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў вёсцы 93 двары, 512 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1886 г. 80 двароў, 737 жыхароў, школа граматы (з 1885), капліца. У 1890 г. ў школе навучалася 20 хлопчыкаў. У 1897 г. ў Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, вёска, цэнтр сельскай грамады, на паштовым тракце са Слуцка, на р. Морач, 148 двароў, 941 жыхар, царква, 2 капліцы, хлебазапасны магазін, піцейны дом; маёнтак — 16 жыхароў. У пач. 20 ст. 166 двароў, 1112 жыхароў. У



А.М.Выскварка.



В.А.Пінчук.



В.П.Сергіеня.

1912 г. адкрыта 1-класнае земскае вучылішча. У 1917 г. ў Быстрыцкай вол. Слуцкага паветаў, вёска 195 двароў, 1189 жыхароў. У 1918—20 гг. акупіравана герм., потым польскімі інтэрвентамі. У ліст. 1920 г. пачала працу школа 1-й ступені (65 вучняў, 3 настаўнікі). З 20.8.1924 г. ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 198 двароў, 1072 жыхары. У школе (будынак арэнды) 2 настаўнікі (Я.П.Сукала, Н.Я. Ганчарова), 100 вучняў, дзейнічаў с.-г. гурток. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Перамога», працавалі вятрак, ваўначоска, 2 кузні, маслазавод. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 76 жыхароў. У 1960 г. вёска, цэнтр сельсавета (да снеж. 2008 г.), 758 жыхароў; у сельсавеце 5950 жыхароў. У 1970 г. 245 двароў, 768 жыхароў, у калгасе імя Цімiразева. Дзейнічалі міжкалгасная электрастанцыя, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1997 г. 171 гаспадарка, 305 жыхароў. У 2007 г. 125 гаспадарак, 221 жыхар, у складзе СВК «Цімiразеўскі». Працуе (2010) б-ка. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г.

Вёска — радзіма Герояў Сац. Працы А.М.Выскваркі і В.А.Пінчука, засл. настаўнікаў БССР Ц.І.Тупіцы і В.П. Сергіені, які ў Вял. Айч. вайну быў камісарам партыз. брыгады, Героя Сав. Саюза А.А.Нячаева (1910—89).

**БОГАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Капыля, 134 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Вялікая Раёўка—Куцаўшчына. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У 19 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1885 г. фальварак у Цімкавіцкай вол. У 1897 г. — 14, у 1909 г. 6 жыхароў. У 1917 г. хутар, 13 двароў, 87 жыхароў. У пач. 1920-х г. вырас аднайменны пасёлак. З 20.8. 1924 г. ў Вялікараеўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. хутар, 24 двары, 113 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. пасёлак, 98 жыхароў. У 1997 г. вёска, 18 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Памяць Леніна». У 2007 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца».

**БОР** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Капыля, 93 км ад Мінска. На Пн і ПнЗ сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Карзуны—Бор. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

У 19 ст. ўрочышча ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. таго ж павета; урочышча (4 жыхары), вартоўня (4 жыхары), цагельны з-д (8 жыхароў). У пач. 20 ст. хутар, урочышча, цагельны з-д. У 1917 г. фальварак — 2 дамы, 9 жыхароў; хутар — 3 жыхары. У пач. 1920-х г. склалася вёска. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. 8 двароў, 21 жыхар. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Бор», была кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 42 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. спалена, загінулі 4 жыхары. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не Мінскай вобл. Да 24.5. 1960 г. ў Пукаўскім, затым у Грозаўскім сельсаветах. У 1960 г. вёска, 144 жыхары. У 1997 г. 28 гаспадарак, 59 жыхароў. У 2007 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла партызан

зан; магілы партызан А.А. Дзямідчыка і І.Р.Корзуна.

**БРАТКАВА** — вёска, цэнтр Браткаўскага с/с, за 21 км на ПдЗ ад Капыля, 141 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы—Вясёлае. 107 гаспадарак, 236 жыхароў (2010).

У 1800 г. вёска ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 36 двароў, 221 жыхар, шляхецкая ўласнасць Вайніловічаў. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 9 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка). У 1897 г. вёска, 63 двары, 36 жыхароў. У 1909 г. было 62 двары, 400 жыхароў, працавала земская школа (з 1906). З 19.11.1920 г. да пач. 1921 г. ў Семежаўскім р-не нейтральнай зоны. У ліст. 1920 г. аднавіла работу школа 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 65 вучняў; дзейнічаў млын. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на, 84 двары, 483 жыхары; бел. школа (адкрыта Вайніловічам у 1906 г.) займала палову будынка сельсавета, 1 настаўнік (М.С.Шакун), 51 вучань, працаваў краязнаўчы гурток (18 вучняў). У 1929 г. створаны калгас «Хваля рэвалюцыі», былі маслазавод, 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, была створана вал. ўправа. 16.7.1942 г. партызаны брыгады імя Варашылава (камандзір П.П.Капуста) разграмілі ўправу, у пач. кастрычніка вялі абарону тэр. сельсавета ад нападаў акупантаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 521 жыхар. У 1970 г. 140 двароў, 550 жыхароў, цэнтр калгаса «Авангард», камбінат быт. абслугоўвання, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 1997 г. 134 гаспадаркі, 347 жыхароў, машынны двор, ветпункт, комплексны прыёмны пункт, базавая школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. 121 гаспадарка, 264 жыхары, цэнтр с.-г. філіяла «Браткава» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Працуюць (2010) сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры (і пры ім 4 клубныя фарміраванні), фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя, спарт. пляцоўка, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка». Брацкая магіла 5 сав. воінаў, у т.л. 3 сав. лётчыкаў, якія загінулі ў першы дзень вайны, і партызана.

У складзе сельсавета 6 вёсак і 4 пасёлкі.

**БУЧАЦІНА** — вёска, цэнтр Бучацінскага с/с, на р. Волка. За 31 км на Пд ад Капыля, 151 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы—Бучаціна. 214 гаспадарак, 507 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло ў складзе буйнога маёнтка Цімкавічы, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1622 г. 40 валок ворыва, згадваюцца цівун, сталяр, 2 стральцы. Пераважную колькасць жыхароў складалі цяглыя сяляне ($32^2/_3$ валокі), якія адбывалі паншчыну, давалі дзякла, часткова плацілі чынш. Пад 1670 г. упамінаюцца 36 валок зямлі, 47 дымоў. У канцы 17 ст. 40



*А.А.Нячаеў.*



*Новы ўраджай бульбы ў СВК «Браткава».*

валок зямлі, 60 дымоў, 130 душ мужчынскага полу. Частка сялян займалася бортніцтвам (59 калод). Гадавы даход з вёскі складаў 1229 злотых, 23 грошы. З 1791 г. сяло ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 140 двароў, 786 жыхароў, драўляная царква Раства Багародзіцы, карчма, млын; фальварак (Варшаўка) з драўлянай сядзібай, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1870 г. 114 двароў, 908 жыхароў. У 1874 г. пабудавана драўляная Петрапаўлаўская царква. У 1885 г. адкрыта школа граматы. У 1886 г. сяло Бучацін у Вызнянскай вол. Слуцкага павета, 94 двары, 884 жыхары. У 1897 г. 232 двары, 1451 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 школы граматы. На пач. 20 ст. 273 двары, 1589 жыхароў. У 1917 г. 281 двор, 1604 жыхары, земская школа (з 1907). У лютым—снеж. 1918 г. сяло акупіравана герм. войскамі. У снеж. 1918 г. маёнткі ў воласці нацыяналізаваны, у 1919—20 гг. разрабаваны польскімі інтэрвентамі. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі, 227 двароў, 1360 жыхароў. У 1924/25 навуч. годзе ў школе (размяшчалася ў б. царк. доме) 2 настаўнікі, 134 вучні. На пач. 1930-х г. створаны калгас імя Войкава, куды ўвайшлі яшчэ пасёлкі Інтэрнацыянал, Варшаўка, Даменікова. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, часткова спалена. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 84 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Чырвонаслабодскім, з 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-нах Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 1155, у сельсавеце — 2356 жыхароў. У 1970 г. 297 двароў, 921 жыхар. У 1997 г. вёска, 269 гаспадарак, 668 жыхароў, цэнтр калгаса імя Войкава, лясніцтва, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, ветпункт, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны. У 2007 г. 221 гаспадарка, 534 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі». Працуюць (2010) Арлікоўскае лясніцтва, дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка (і пры ёй краязнаўчы куток), Дом культуры (і пры ім 5 клубных фарміраванняў), спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г., магіла сав. воіна.

У складзе сельсавета 14 вёсак і 4 пасёлкі.

**БЫКОЎЦЫ** — пасёлак у Капыльскім с/с, за 7 км на Пд ад Капыля, 127 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., в. Быкаў Малы, 208 жыхароў; в. Быкаў Вялікі, 406 жыхароў; карчма, млын, уласнасць Д.Радзівіла. У 1800 г. вёска Быкоўцы, 9 двароў, 27 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вартоўня (6 жыхароў) у Быстрыцкай вол. Слуцкага павета. У пач. 20 ст. ўрочышча, 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чарнагубаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 2 двары, 9 жыхароў. У 1926 г. пасёлак у Ланцуцкім с/с, 5 двароў, 20 жыхароў. З 14.8.1937 г. ў Капыльскім с/с. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 49 жыхароў. У 1997 г. пасёлак, 8 гаспадарак, 20 жыхароў, у калгасе «Ленінец». У 2007 г. 6 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе СВК «Мажа-Агра».

**БЫСТРЫЦА** – аграгарадок, цэнтр Блеўчыцкага с/с, за 20 км на Пд ад Капыля, 140 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль–Ванелевічы–Блеўчыцы. 403 гаспадаркі, 1064 жыхары (2010).

Назва паходзіць ад тэрміна «быстрыца» – участак хуткага цячэння ў рацэ або ручаі. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1557 г. адбыўся падзел маёнткаў Капыльскага княства паміж братамі Алелькавічамі. У ліку іншых Ю.Алелькавіч атрымаў Быстрыцу, сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Паводле інвентару за 1622 г., сяло, фальварак, воласць у буйным маёнтку Цімкавічы, уласнасць Радзівілаў. Сярод трымальнікаў пляцаў згадваюцца ткач, войт, арандатар. Усёй зямлі было 49 валок. Побач з сялом дзейнічалі млын, карчма. За надзелы жыхары цягнулі паншчыну, давалі дзякла, частка плаціла чынш. У 1730–39 гг. у арэндным валоданні Ф.Валадковіча. У 1748 г. ўпамінаецца царква. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., цэнтр воласці. У 1800 г. 54 двары, 316 жыхароў, уніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, карчма; уладанне М.Радзівіла. У 1840 г. на сродкі Л.Радзівіла пабудавана Спаса-Праабражэнская царква. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892 г. 82 хлопчыкі). У 1870 г. 44 двары, 349 жыхароў. У 1886 г. 376 жыхароў, вал. праўленне, праваслаўная царква, капліца, школа; у 1890 г. засн. сыраварны з-д. У 1897 г. сяло, 105 двароў, 658 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом, царква, капліца; у маёнтку – 9 жыхароў. На пач. 20 ст. 109 двароў, 664 жыхары; у маёнтку – 9 жыхароў. У 1917 г. налічваліся 131 двор, 758 жыхароў; у маёнтку – 39 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. воласць акупіравана герм. войскамі. Пасля іх адыходу маёнтак быў нацыяналізаваны і перайшоў пад упраўленне вал. рэўкома. У жн. 1919 – ліп. 1920 гг. і ў кастр.–ліст. 1920 г. Быстрыца акупіравана польскімі інтэрвентамі. Пасля іх адыходу за дэмаркацыйную лінію нейтральную зону занялі воіны Гразаўскага палка, створанага эсэраўскай Слуцкай радай, атрады якога тэрарызавалі воласць амаль да сярэдзіны 1920-х г. У снеж. 1920 г. разгромлены войскамі 8-й і 17-й стралк. дывізій 16-й Чырвонай Арміі. У 1921 г. працавалі школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 68 вучняў; з мая 1925 г. піянерская арг-цыя), спажывецкае т-ва. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на. У 1924 г. сяло, 137 двароў, 659 жыхароў, школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Ціміразева, дзейнічалі ветраны млын, кузня, у 2-й пал. 1930-х г. працавала няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты знішчылі 6 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 64 жыхары. Вызвалена 1.7.1944 г. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. 506 жыхароў. У 1970 г. 158 двароў, 438 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ціміразева. У 1984 г. адкрыта штатнае нар. вучылішча. У 1997 г. 363 гаспадаркі, 1138 жыхароў, ветпункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 359 гаспадарак, 979 жыхароў, цэнтр СВК «Ціміразеўскі». Са снеж. 2008 г. цэнтр сельсавета. Працуюць (2010) дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, б-ка, нар. вучылішча, Дом культуры (і пры ім 9 клубных фарміраванняў), участковая бальніца, спарт. зала і пляцоўка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Помнік К.А.Ціміразеву.



*І.Дз.Варвашэня.*

Вёска – радзіма І.Дз.Варвашэні (1904–57), парт. і дзярж. дзеяча БССР, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну.

У складзе сельсавета 13 вёсак і 2 пасёлкі.

**ВАНЕЛЕВІЧЫ** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 9 км на ПдУ ад Капыля, 129 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. На Пн і ПнЗ меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Вусава–Ванелевічы. 243 гаспадаркі, 592 жыхары (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска Іванялевічы ў складзе маёнтка Доктаравічы, уласнасць М.К.Радзівіла ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. З 1791 г. ў Слуцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска Іванялевічы, уласнасць кн. Д.Радзівіла, 54 двары, 242 жыхары. У 1813 г. за ўдзел князя ў вайне супраць Расіі на баку французаў маёнтак секвестраваны, з 1830-х г. уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. З сярэдзіны 19 ст. дзейнічала прыпісная царква святога Георгія, у 1848 г. перабудавана. У пач. 20 ст. вёска Евагнелевічы (назва да 1929 г.) у Раманаўскай, з 1921 г. ў Ленінскай валасцях Слуцкага павета. У воласці было 3217 жыхароў, 2327 дзес. зямлі. 20.11.1923 г. адкрыта школа 1-й ступені (будынак наёмны), настаўнік Я.В.Клюйко, 48 вучняў, працаваў культгуртoк. У 1924 г. вёска, 178 двароў, 893 жыхары. З 20.8.1924 г. да 1929 г. цэнтр Евангелевіцкага с/с Капыльскага р-на. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Піянер», было 4 млыны. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 66 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей (да 24.5. 1960 г. цэнтр сельсавета). У 1960 г. ў вёсцы 855 жыхароў, у сельсавеце 6051 жыхар. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с, цэнтр калгаса «Піянер». У 1970 г. 265 двароў, 830 жыхароў. У 1997 г. 269 гаспадарак, 641 жыхар, машынны двор, ветпункт, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. У 2007 г. 245 гаспадарак, 564 жыхары, цэнтр СВК «Ванелевічы»; прыменена газіфікацыя. Працуюць (2010) швейная майстэрня, дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры (і пры ім 7 клубных фарміраванняў), комплексны прыёмны пункт ААТ «Капыльскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання», аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, аддз. сувязі. На тэр. вёскі ёсць парк адпачынку. Брацкая магіла 12 сав. воінаў і партызан; магіла ахвяр фашызму; помнік 193 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВАРОНАЎШЧЫНА** – вёска ў Цімкавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Капыля, 133 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. На Пн цячэ р. Стары Роў. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Вусава–Рачкевічы. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як в. Варанецкаўшчына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў; карчма, драўляная царква. У 1897 г. засценак у Быстрыцкай вол. таго ж павета, 25 двароў, 128 жыхароў. У 1909 г. 29 двароў, 158 жыхароў. У 1917 г. засценак, 33 двары, 191 жыхар. З 4.12.1920 г. ў раёне нейтральнай зоны Семежаўскага рэўкома. У лютым 1921 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 25 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Чарнагубаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 35 двароў, 181 жыхар. З 24.9.1926 г. ў Прускім с/с. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Пражэктар». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш.

захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях, з 16.7. 1954 г. ў Цімкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 109 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў, у саўгасе «Цімкавічы». У 2007 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуе (2010) аўтамагазін.

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** – вёска ў Капыльскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Капыля, 116 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2010).

У 1897 г. ў Грэскай вол. Слуцкага павета пасёлкі Васілеўшчына 1 (11 двароў, 52 жыхары), Васілеўшчына 2 (4 двары, 30 жыхароў). У пач. 20 ст. фальваркі Старая і Новая Васілеўшчына, 12 двароў, 71 жыхар. У 1917 г. фальварак і хутар – 8 двароў, 74 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі, у Вялешынскім с/с, хутар – 8 двароў, 50 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 109 жыхароў. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 57 жыхароў, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 2007 г. 20 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуюць (2010) магазін, філіял гар. аддз. сувязі.

**ВАСІЛЬЧЫЦЫ** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Капыля, 131 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Ванелевічы–Дзярэчына. 64 гаспадаркі, 106 жыхароў (2010).

У пач. 1630-х г. вёска ў фальварку Быстрыца ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 31 валока ворыва, у т.л. 28 цяглых. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, вёска і фальварак у Слуцкім павеце Мінскай губ., была карчма, уласнасць М.Арачоўскага. У 1800 г. 56 двароў, 279 жыхароў, вінакурня, драўляная Успенская царква. У 1844 г. маёнтак, 413 жыхароў, карчма, млын, вятрак, цагельны з-д. У 1880 г. працаваў вінакурны з-д. У 1886 г. сяло ў Цімкавіцкай вол., 67 двароў, 432 жыхары, праваслаўная царква, вятрак, капліца, вінзавод. У 1897 г. сяло, 110 двароў, 653 жыхары, хлебазапасны магазін, царква; у маёнтку – 37 жыхароў; у сядзібе – 11 жыхароў. У 1909 г. 118 двароў, 749 жыхароў; у маёнтку – 6





*Успенская царква (агульны выгляд і інтэр'ер) у в. Васільчыцы.*

жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў сяле 130 двароў, 799 жыхароў; у маёнтку 17 жыхароў. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1921 г. 2 настаўнікі, 60 вучняў), мела 3 дзес. ворыва. У 1924 г. 140 двароў, 693 жыхары; пасёлак — 22 жыхары. Школа працавала ў арэндным памяшканні сял. хаты, 2 настаўнікі, 62 вучні. З 20.8. 1924 г. ў Чарнагубаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі (да 21.8. 1925 г.), 140 двароў, 693 жыхары. У 1926 г. ў вёсцы 131 двор, 622 жыхары; у пасёлку — 7 двароў, 30 жыхароў. У пач. 1930-х г. у Ванелевіцкім с/с, створаны калгас «Калінінец», мелася кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 34 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1997 г. 92 гаспадаркі, 181 жыхар, магазін. У 2007 г. 71 гаспадарка, 135 жыхароў, у складзе СВК «Ванелевічы». Працуе (2010) магазін. Помнік архітэктуры — Успенская царква (2-я пал. 19 ст., адкрыта ў 2004 г.).

Вёска — радзіма засл. настаўніцы БССР А.П.Мельнікавай.

**ВЕРАБ'ЕВІЧЫ** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 13 км на Пд ад Капыля, 134 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Вусава—Дзярэчына. 33 гаспадаркі, 40 жыхароў (2010).

Паводле інвентару фальварка Быстрыца за 1622 г., вёска ў Быстрыцкай вол. Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ, 14 валок зямлі, у т.л. 11 цяглых. Сяляне за зямлю плацілі грашовы падатак, давалі дзякла. У 1761 г. ў складзе маёнтка Цімкавічы, уласнасць Радзівілаў, 14 валок ворыва, было 40 дымоў. Сяляне плацілі двару 1100 злотых на год. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1850 г. вёска, уласнасць Радзівілаў. У 1890 г. адкрыта школа граматы (13 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, 101 двор, 596 жыхароў, хлебазапасны магазін, Пакроўская царква. У пач. 20 ст. пасёлак у Грэскай вол. Слуцкага павета, 13 двароў, 54 жыхары. У 1913 г. адкрыта земская школа. У 1916 г. вёска ў Кіявіцкай вол. Слуцкага павета, налічвала 113 двароў, 633 жыхары. У 1917 г. ўрочышча, 26 двароў, 150 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 69 вучняў. У 1918 г. працаваў лесапільны з-д. У 1924 г. 117 двароў, 551 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 117 двароў, 551 жыхар. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Красавік», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 32 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. 446 жыхароў, у калгасе імя Ціміразева. У 1997 г. 61 гаспадарка, 92 жыхары. У 2007 г. 40 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе СВК «Ціміразеўскі». Працуе (2010) магазін. Помнік архітэктуры — Пакроўская царква (канец 19 ст.).

**ВОСТРАВА** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Капыля, 143 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы—Лешня—Вострава. На Пн, ПнУ і ПдЗ сетка меліярацыйных каналаў. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

Вядома з 15 ст. У 1439 г. згадваецца як сяло ў складзе маёнтка Слуцк, шляхецкая ўласнасць. У 1566 г. сяло і двор (разам 8 валок зямлі) у Слуцкім княс-

тве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У канцы 18 ст. вёска Востраў Каменны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць князя Д.Радзівіла. У 1890 г. працавала школа граматы (15 хлопчыкаў). У 1897 г. вёска ў Кіявіцкай вол. Слуцкага павета, 42 двары, 316 жыхароў. У 1916 г. створана 1-класнае земскае народнае вучылішча. У 1908 г. 65 двароў, 440 жыхароў. У 1917 г. 65 двароў, 440 жыхароў. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 65 вучняў, мела 3 дзес. ворыва. У вёсцы дзейнічалі 2 ветракі. З 20.8.1924 г. ў Крывасялкоўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 72 двары, 463 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Будзённага. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 24 жыхары. У 1960 г. вёска ў Блеўчыцкім с/с, 354 жыхары. У 1997 г. 44 гаспадаркі, 67 жыхароў, у калгасе імя Ульянава. У 2007 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

Вёска – радзіма бел. мастака-сцэнографа, удзельніка Вял. Айч. вайны І.І. Пешкура (1921–80).



І.Пешкур. Эскіз дэкарацыі да п'есы П.Кальдэрона «Дама-невідзімка».

**ВОШКАТЫ** – вёска ў Капыльскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска, побач з шашой Узда–Капыль. На Пн меліярацыйны канал. 38 гаспадарак, 61 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. ўласнасць кн. Радзівіла. У 1897 г. вёска ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 25 двароў, 145 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 28 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. 31 двор, 157 жыхароў, млын. З 20.8. 1924 г. ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 30 двароў, 169 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Мархлеўскага, была кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. Мінскай абласцей. З 24.5.1960 г. ў Капыльскім с/с. У 1960 г. 210 жыхароў. У 1997 г. 46 гаспадарак, 88 жыхароў. У 2007 г. 40 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуе (2010) магазін.



І.І.Пешкур.

**ВУГЛЫ** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Капыля, 134 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Кель–Доктаравічы–Вуглы. На ПдУ і ПдЗ меліярацыйныя каналы. 64 гаспадаркі, 104 жыхары (2010).

У 1622 г. засценак у складзе маёнтка Цімкавічы. У 1760 г. вёска ў складзе маёнтка Доктаравічы, уласнасць М.Радзівіла, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 38 двароў, 213 жыхароў, улас-

насць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Доктаравічы, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна, 46 цяглых двароў, 310 жыхароў, піцейны дом (з круглага дрэва, крыты саломай). Сяляне адбывалі паншчыну: 87 дзён з вупражжу, 43 пешшу на год; талака — 180 з вупражжу і 1616 пешых дзён; давалі дзякла: 10 бочак 7 асьмін жыта і аўса, 87 курэй, 870 яек. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 10 хлопчыкаў); у 1889 г. пачаў дзейнічаць сыраварны з-д. У 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол., 88 двароў, 607 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца; маёнтак — 63 жыхары. У 1909 г. 111 двароў, 700 жыхароў, з 1904 г. нар. вучылішча (земская школа). У 1917 г. 130 двароў, 793 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 91 вучань. У 1924 г. 138 двароў, 787 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. З 1929 г. ў Ванелевіцкім с/с (цэнтр — в. Доктаравічы). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Пяцігодка», малочны з-д, 2 ветракі, ваўначоска, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 65 жыхароў. З 8.1. 1954 г. ў Мінскай вобл., у Доктаравіцкім с/с. У 1997 г. 109 гаспадарак, 211 жыхароў, у складзе саўгаса «Доктаравічы». У 2007 г. 79 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы». Працуе (2010) магазін.



*А.І.Коршак.*

Вёска — радзіма бел. паэта А.І.Коршака (1920–45), які загінуў у Вял. Айч. вайну.

**ВУСАВА** — вёска ў Капыльскім с/с, за 5 км на Пд ад Капыля, 124 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Ванелевічы. На Пд меліярацыйны канал. 41 гаспадарка, 66 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло, 17 валок зямлі, фальварак у Слуцкім княстве Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 18 двароў, 115 жыхароў; фальварак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёска, уласнасць Рэйтана. У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, вёска — 47 двароў, 276 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 61 жыхар, капліца. У пач. 20 ст. маёнтак, 22 жыхары, уласнасць графіні А.К.Плятэр (1473 дзес. зямлі). У 1912 г. адкрыта 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 61 двор, 359 жыхароў, у маёнтку 4 двары, 42 жыхары. У 1921 г. на базе маёнтка працавала сав. гаспадарка, мела 8 дзес. ворыва, сад — 1,5 дзес., была капліца. У 1920 г. земскае вучылішча пераўтворана ў прац. (беларускую) школу 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 35 вучняў. У 1924/25 навуч. годзе дзейнічаў с.-г. гурток; школа мела 3 дзес. ворыва; створана с.-г. вытв. арцель імя Абрамовіча. З часам склаўся пасёлак, 11 двароў, 44 жыхары, побач існавала в. Вусава, 66 двароў, 326 жыхароў. З 20.8. 1924 г. да 21.8.1925 г. ў Чарнагубаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Леніна». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 23 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. вёска ў Капыльскім с/с, 280 жыхароў, у калгасе «Ленінец». У 1997 г. 61 гаспадарка, 128 жыхароў. У 2007 г. 43 гаспадаркі, 77 жыхароў, у складзе СВК «Мажа-Агра». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла 9 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г.

Вёска — радзіма М.М.Чыгіра (н. ў 1948), дзярж. і паліт. дзеяча, прэм'ер-міністра Беларусі ў 1994—96 гг.

**ВЫГОДА** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 30 км на Пд ад Капыля, 150 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы–Бучаціна. На ПдЗ і ПнУ мяжуе з лесам, праходзяць меліярацыйныя каналы. 35 гаспадарак, 71 жыхар (2010).

У 1834 г. засценак (8 двароў) у складзе маёнтка Варшаўка, уласнасць кн. Л.Радзівіла ў Слуцкім павеце Мінскай губ.. У 1890 г. адкрыта школа граматы (12 хлопчыкаў). У 1897 г. 40 двароў, 251 жыхар, у Кіявіцкай вол. таго ж павета. У 1909 г. засценак, 49 двароў, 326 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 69 двароў, 366 жыхароў. З 20.8. 1924 г. засценак у Жыліхаўскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, 54 двары, 288 жыхароў, працавала школа 1-й ступені (1 настаўнік, 21 вучань). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Світанне». З 20.8. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 19 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8. 1959 г. ў Капыльскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Бучацінскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 272 жыхары. У 1997 г. 56 гаспадарак, 117 жыхароў, у калгасе «Бальшавік». У 2007 г. 36 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе ЗАТ «Жыліхава». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла сав. воінаў.

**ВЫНЯ** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Капыля, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Нясвіж і далей па аўтадарозе Бабоўня–Каласаўшчына. З ПнУ на ПдЗ цячэ р. Выня. На Пд меліярацыйныя каналы. 45 гаспадарак, 74 жыхары (2010).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. сяло (1 дым) у Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 52 двары, 336 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня. Паводле інвентару за 1846 г., вёска ў маёнтку Бабоўня, уласнасць паручніка А.Наркевіча-Ёдкі, 40 сял., 8 спустошаных двароў, 194 душы рабочых, зямлі сядзібнай 40, ворнай — 13,78, сенажацей 192, пад лесам 262 дзес., была карчма. У 1897 г. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 112 двароў, 734 жыхары, 3 ветраныя млыны, 3 кузні, хлебазапасны магазін. У 1902 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1909 г. 141 двор, 993 жыхары. У 1917 г. 127 двароў, 744 жыхары. У лютым 1918 — кастр. 1920 гг. акупіравана герм., затым польскімі інтэрвентамі. Пасля адыходу польскіх войск за дэмаркацыйную лінію (ліст. 1920 г.) увайшла ў раён нейтральнай зоны Пясочанскага рэўкома. У канцы 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 31 вучань). З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на. У 1924 г. 146 двароў, 728 жыхароў, школа 1-й ступені, у якой выкладанне дысцыплін вялося на бел. і польскай мовах (1 настаўнік, 13 вучняў). У 1926 г. 144 двары, 707 жыхароў. На пач. 1930-х г. жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас «На варце», кузня, 5 ветракоў, 68 коней. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 39 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях, у складзе саўгаса «Бабоўня». У 1960 г. 438 жыхароў. У 1997 г. 79 гаспадарак, 137 жыхароў, магазін. У 2007 г. 52 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма А.А.Карповіча (1946–82), старшага пам. начальніка аператыўнага аддзела вайск. часткі, ма-



*А.А.Карповіч.*



*П.П.Капуста.*

ёра, які загінуў у Афганістане пры выкананні інтэрнац. доўгу.

**ВЯЛЕШЫНА** – вёска ў Капыльскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Капыля, 114 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы, на шашы Узда–Капыль. З ПнУ на ПдЗ цячэ р. Копанка, на Пд мяжуе з лесам. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. згадваецца як сяло ў Капыльскім княстве, уласнасць Алелькавічаў. У 17 ст. сяло, цэнтр маёнтка. У 1760 г. ўпамінаецца ў шэрагу маёнткаў М.К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 95 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У 1897 г. сяло ў Грэскай вол. Слуцкага павета, 25 двароў, 122 жыхары. У 1909 г. 24 двары, 130 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 148 жыхароў. У 1921 г. працавала школа 1-й ступені (1 настаўнік, 25 вучняў), будынак арэндны, мела 3 дзес. ворыва. З 20.8.1924 г. да 24.5.1960 г. цэнтр Вялешынскага с/с Капыльскага р-на. У 1924 г. засценак, 23 двары, 164 жыхары. У 1926 г. вёска, 34 двары, 180 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоная Беларусь», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 2 жыхары, 9 не вярнуліся з фронту. У 1960 г. ў вёсцы 161 жыхар, у сельсавеце 2239 жыхароў. З 24.5.1960 г. ў Капыльскім с/с. У 1997 г. 27 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 2007 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуюць (2010) фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнікі археалогіі – 2 курганныя могільнікі.

**ВЯЛЕШЫНА 1** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 19 км на Пн ад Капыля, 104 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Харытонаўка–Крыніца–Вялешына 1. На З мяжуе з лесам. 35 гаспадарак, 75 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рэчы Паспалітай, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. вёска Вялецін, 77 жыхароў, карчма, драўляная Успенская царква. У 1886 г. сяло ў Цялядавіцкай вол. таго ж павета, 44 двары, 254 жыхары, праваслаўная царква. У 1909 г. вёска, 78 двароў, 990 жыхароў; у 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. было 95 двароў, 525 жыхароў. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з вясны 1918 г. тут дзейнічаў партыз. атрад (камандзір Тучка). У пач. жн. 1919 г. вёска занята польскімі інтэрвентамі. Вызвалена 15.7.1920 г. войскамі 2-й стралк. дывізіі, з сярэдзіны кастр. 1920 г. ў нейтральнай зоне, адкуль да сак. 1921 г. падвяргалася нападам антысав. эсэраўскіх атрадаў т.зв. Бел. Рады Случчыны. У снеж. 1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 65 вучняў), мела 3 дзес. ворыва. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не, у Слабада-Кучынскім с/с, 110 двароў, 463 жыхары. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 60 вучняў. Навучанне вялося на бел. мове, будынак арэндны, дзейнічалі піянерская ячэйка (9 вучняў), культ.-асв. гур-



*Будынак адной з экспазіцыйных залаў Капыльскага гісторыка-краязнаўчага музея, размешчаны ў в. Вялешына 1.*

ток (настаўнік М.В.Мілейка). У 1926 г. 95 двароў, 423 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Вызваленне», у 1933 г. меліся вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. каля вёскі базіравалася партыз. брыгада імя Варашылава (камандзір П.П.Капуста), у 1944 г. знаходзілася пад аховай партыз. атрада імя Дунаева 27-й брыгады імя Чапаева. Вызвалена 1.7.1944 г. У партыз. барацьбе загінулі 3 жыхары, на фронце — 24. У 1960 г. 1326 жыхароў. У 1997 г. 55 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе калгаса «Прамень». У 2007 г. 43 гаспадаркі, 82 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень». Працуюць (2010) адна з экспазіцыйных залаў Капыльскага краязнаўчага музея, магазін.

Вёска — радзіма бел. мастака, засл. работніка культуры Беларусі Г.М.Галубовіча (1934—92).

**ВЯЛЕШЫНА 2** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 17 км на Пн ад Капыля, 108 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца і далей па аўтадарозе Карзуны—Заполле—Вялешына 2. На Пд цячэ р. Выня. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

На пач. 19 ст. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1851 г. вёска ў казённым маёнтку Вялешын таго ж павета, 4 двары, 23 жыхары. У 1870 г. 15 душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 64 жыхары абодвух полаў, у 1908 г. 14 двароў, 211 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 94 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на, 13 двароў, 77 жыхароў. У 1926 г. 14 двароў, 80 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. У 1960 г. было 116 жыхароў. У 1997 г. 21 гаспадарка, 34 жыхары, у саўгасе «Крыніца». У 2007 г. 13 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд».

**ВЯЛІКАЯ РАЁЎКА** — вёска, цэнтр Вялікараёўскага с/с. За 13 км на З ад Капыля, 133 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, на шашы Цімкавічы—Нясвіж. На Пн цячэ прыток р. Чайка. 126 гаспадарак, 285 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. маёнтак Расука, уласнасць Богуша. З 1791 г. вёска ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 24 двары, 162 жыхары, уласнасць кн. М.Радзівіла, пазней Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска Вялікая Раёўка ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 107 душ мужчынскага полу; існаваў маёнтак, уласнасць Радзівілаў. У 1897 г. ў вёсцы 59 двароў, 385 жыхароў, 2 кузні, 3 ветракі, капліца, хлебазапасны магазін; у маёнтку — 63 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 68 двароў, 427 жыхароў; у маёнтку — 70 жыхароў; у фальварку — 18 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земскае вучылішча. У 1917 г. 101 двор, 550 жыхароў; у фальварку — 23 двары, 113 жыхароў; у маёнтку — 144 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 г. і кастр. 1920 г. — польскімі інтэрвентамі. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 40 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на, 80 двароў, 472 жыхары; у школе 1-й ступені (бел.) 1 настаўнік (Л.А.Шэстаў), 12 вучняў. Размяшчалася ў панскім мураваным будынку, працавалі піянерская ячэйка, культ.-асв. гурток. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Камунар», былі кузня, вятрак. У 1941 г. ў вёсцы 114 двароў, 578 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1942 г. з моладзі вёсак Вялікая і Малая Раёўка арганізавана



*М.А.Шастапалаў.*



*М.Р.Янкоўскі.*

партыз. група (І.І.Радчанкі — А.М.Межнаўца), на базе якой у крас. 1942 г. створаны партыз. атрад імя Шчорса (камандзіры П.З.Ігнашчанка, М.А.Шастапалаў, А.І.Колчанка). У маі таго ж года ўвайшла ў склад партыз. брыгады імя Варашылава, якая базіравалася ў Вялікараёўскім лесе. У ліп. 1942 г. спалена акупантамі (103 двары), загублена 25 жыхароў. 20.7.1942 г. партыз. атрад імя Шчорса правёў каля вёскі жорсткі бой з атрадам фашыстаў: вораг страціў 68 салдат, 2 аўтамашыны і інш. Вызвалена 3.7.1944 г. войскамі 54-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту. У час бою загінулі 15 воінаў (пахаваны ў вёсцы), у партыз. барацьбе і падполлі — 8 жыхароў, на фронце — 94 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 507, у сельсавеце — 2979 жыхароў. У 1970 г. 234 двары, 812 жыхароў. У 1997 г. 215 гаспадарак, 413 жыхароў, машынны двор, ветпункт, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 148 гаспадарак, 341 жыхар, цэнтр с.-г. філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца». Працуюць (2010) бібліятэка-клуб (і пры ёй 3 клубныя фарміраванні), фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Брацкая магіла 25 сав. воінаў; помнік 264 землякам, магіла ахвяр фашызму. Помнік на месцы бою 20.7.1942 г. партызанскай брыгады імя Варашылава.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам у в. Вялікая Раёўка.*

У складзе сельсавета 13 вёсак і 2 пасёлкі.

**ВЯЛІКІЯ ПРУСЫ** — вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Сцяпуры—Цімкавічы. На ПдУ разбіты сад. 55 гаспадарак, 130 жыхароў (2010).

У канцы 16 ст. сяло ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска Прускі 1 у Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, 145 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 1860-х г. 51 двор, праваслаўная царква. У 1864 г. адкрыта школа. У 1897 г. вёскі Прусы 1 — 87 двароў, 489 жыхароў, хлебазапасны магазін; Прусы 2 — 15 двароў, 97 жыхароў. У пач. 20 ст. вёскі Прусы 1, 92 двары, 559 жыхароў; Прусы 2, 18 двароў, 104 жыхары. У 1917 г. вёскі Прусы 1, 107 двароў, 556 жыхароў; Прусы 2, 21 двор, 123 жыхары. У час польскай інтэрвенцыі 4.10. 1920 г. каля вёскі вялі баі з часцямі 4-й польскай арміі воіны 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. Пасля адыходу палякаў за дэмаркацыйную лінію з 19.11 да 4.12. 1920 г. падвяргалася нападам антысав. атрадаў эсэраўскай Слуцкай рады Бел. Нар. Рэспублікі. Вызвалена часцямі 22-й брыгады 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі і ўвайшла ў раён нейтральнай зоны Семежаўскага рэўкома. У снеж. 1920 г. ў в. Прусы 1 адкрыта школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 47 вучняў, мела 3 дзес. ворыва. З 20.8.1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У в. Прусы 1 — 121 двор, 563 жыхары; у в. Прусы 2 — 25 двароў, 122 жыха-

ры. У в. Вялікія Прусы (Прусы 1) у школе (бел.) 2 настаўнікі (І.І.Насевіч, А.М.Наркевіч), 62 вучні (будынак арэнды). У 1925 г. вёска пацярпела ад пажару. З 24.9.1926 г. ў Прускім с/с (цэнтр — мяст. Цімкавічы) Капыльскага р-на. У пач. 1930-х г. створаны калгас «КІМ», была кузня. З 27.4.1938 г. таго ж раёна Мінскай вобл. У 1940 г. 121 двор, 582 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі вал. ўправу. З пач. акупацыі тут была створана і дзейнічала падп. група (9 чал.) на чале з М.М.Ізюмскім. У сак. 1942 г. на яе базе быў створаны партыз. атрад імя Будзённага (камандзір М.М. Ізюмскі, камісар малодшы палітрук М.Р.Янкоўскі). 16.7.1942 г. атрад прымаў удзел у разгроме варожага гарнізона ў Цімкавічах, вал. управы ў Прусах. Да лета 1943 г. большасць жыхароў вёскі перайшла да партызан. 26—27.9.1942 г. фашысты спалілі вёску, знішчылі 258 жыхароў. Вызвалена 1.7.1944 г. У баях з ворагам загінулі 39 жыхароў на фронце, 10 — у партызанах. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Цімкавіцкім с/с. У 1960 г. вёскі Прусы 1 (231 жыхар), Прусы 2 (85 жыхароў). У 1970 г. 81 двор, 253 жыхары, цэнтр калгаса «Шлях камуны», пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1997 г. 79 гаспадарак, 224 жыхары, клуб, магазін. У 2007 г. 61 гаспадарка, 159 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Працуе (2010) магазін. Магіла ахвяр фашызму, мемарыяльная дошка ў гонар партыз. атрада імя Будзённага; помнік землякам.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза І.І.Казлоўскага (1917—62), дзе яму ўстаноўлены помнік; засл. ўрача Беларусі М.А.Мароза.

**ВЯСЁЛАЕ** — вёска ў Браткаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Капыля, 144 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі—Вясёлае. Побач граніца Клецкага р-на. У цэнтры вёскі парк. 45 гаспадарак, 69 жыхароў (2010).

Да 1961 г. згадваецца як Пузава (назва ад фаміліі-мянушкі Пузаў). У 1800 г. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Цімкавічы князёў Радзівілаў, 43 двары, 184 жыхары, вятрак, драўляная Петрапаўлаўская царква. У сярэдзіне 1880-х г. сяло ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, 42 двары, 300 жыхароў, праваслаўная царква. У 1897 г. 70 двароў, 399 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, сядзіба — 8 жыхароў, маёнтак — 52 жыхары. У 1909 г. 84 двары, 589 жыхароў; у маёнтку 27 жыхароў, адкрыта нар. вучылішча (з 1912 г. земская школа). У 1917 г. ў вёсцы 92 двары, 598 жыхароў, у маёнтку 105 жыхароў, 17 двароў. Пасля акупацыі герм. і польскімі інтэрвентамі (1918—20 гг.) з 19.11. 1920 г. да пач. 1921 г. ў Семежаўскім р-не нейтральнай зоны; маёнтак быў нацыяналізаваны. У 1921 г. пачала дзейнічаць школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Браткаўскім с/с Капыльскага р-на, 99 двароў, 607 жыхароў; у пасёлку на месцы б. маёнтка 19 двароў, 96 жыхароў, школа 1-й ступені (будынак уласны, 1 настаўнік, 80 вучняў, піянерская ячэй-



*І.І.Казлоўскі.*



*М.А.Мароз.*



*Ушанаванне памяці жыхароў в. Вялікія Прусы, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 26—27.9.1942 г. ў Вялікую Айчынную вайну.*

ка), працавалі 4 гурткі, у т.л. с.-г., асветны, драматычны. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг», быў вятрак. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942 г. загубілі 2 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 32 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 375 жыхароў. У 1997 г. 77 гаспадарак, 140 жыхароў, у калгасе «Авангард». У 2007 г. 52 гаспадаркі, 79 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Браткава» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Працуе (2010) аўтамагазін.

**ВЯСЁЛЫ** (да 1959 г. Прытыкі) — пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 17 км на Пн ад Капыля, 118 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Нясвіж і далей па аўтадарозе Лясное—Навасёлкі—Цялядавічы. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Склаўся ў пач. 1920-х г. у б. Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1926 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі, 2 двары, 11 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. пасёлак у Бабаўнянскім с/с, 12 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 2007 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**ГАНЧАРОЎКА** — пасёлак у Слабада-Кучынскім с/с, за 25 км на Пн ад Капыля, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Харытонаўка і далей па аўтадарозе Крыніца—Лугавая—Пясочнае, потым праз лес. З Пн на Пд меліярацыйны канал. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 1908 г. фальварак у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1917 г. 34 жыхары. У сак. 1921 г. створана сельгасарцель «Світанне», мела 140 дзес. угоддзяў, у т.л. 20 дзес. ворыва. У 1923 г. тут 31 жыхар, дзейнічаў цагляны з-д. У 1924 г. сядзіба калгаса «Світанне», 7 двароў, 34 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Пясочанскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска Ганчароўка, 48 жыхароў, у калгасе «Прамень». У 1997 г. пасёлак, 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень».

**ГАРНАСТАЙЛАВА** — вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 16 км на У ад Капыля, 136 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы, побач аўтадарога Капыль—Грозава. На ПдУ сажалка і меліярацыйны канал. 45 гаспадарак, 82 жыхары (2010).

Вядома з 16 ст. як сяло ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1536 г. 12 дымоў, 6 валок зямлі. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 50 двароў, 280 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1816 г. 56 двароў, уласнасць Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1876 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 10 хлопчыкаў). У 1897 г. вёска ў Востраўскай сельскай грамадзе Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 126 двароў, 765 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1900 г. адкрыта нар. вучылішча на сродкі памешчыка Кір'якова. У 1909 г. ў вёсцы 130 двароў, 830 жыхароў. У 1917 г. 146 двароў, 885 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. польскімі інтэрвентамі. Вызвалена ў 2-й пал. 1920 г. войскамі 22-й брыгады 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, мела 3 дзес. ворыва, у 1924/25 навуч. годзе 2 настаўнікі, 89 вучняў, будынак уласны, працаваў культ.-асв. гурток. У 1924 г. ў

вёсцы 138 двароў, 787 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. Вясной 1929 г. жыхары аб'ядналіся ў калгас імя К.Маркса, былі вятрак, млын, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 5.3.1939 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 39 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Грэскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска ў Грозаўскім с/с, 441 жыхар. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 160 жыхароў, магазін, у складзе саўгаса «Доктаравічы». Брацкая магіла 8 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. Археал. помнік — курганны могільнік.

**ГРАЗАВОК** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 17 км на У ад Капыля, 137 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Скабін—Гарнастайлава—Грозава. 12 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1795 г. двор, 13 жыхароў, млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1886 г. маёнтак паблізу мяст. Грозава, вінзавод (з 1880). У 1897 г. маёнтак у Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 55 жыхароў. На пач. 20 ст. 7 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. 150 жыхароў, 500 дзес. зямлі. У пач. кастр. 1920 г. каля вёскі баі з польскімі інтэрвентамі трымалі часці 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. Вызвалена ў канцы ліст. 1920 г. войскамі 22-й брыгады 8-й стралк. дывізіі. У 1921 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка створаны паляводчы саўгас «Грозава». На пач. 1922 г. 79 жыхароў, працавалі 79 рабочых і служачых, меў 250 дзес. угоддзяў (105 дзес. ворыва), былі зернеачышчальны і пракатны пункты, якія абслугоўвалі 68 населеных пунктаў воласці; вінакурны з-д, кузня, сталярная майстэрня, хата-чытальня, працавала школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 20 вучняў). З 20.8.1924 г. пасёлак у Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 11 двароў, 63 жыхары, хутар; у 1926 г. 7 двароў, 38 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Праўда». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 17 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях, з 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. пасёлак, 102 жыхары. У 1997 г. вёска, 18 гаспадарак, 47 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». Помнік архітэктуры позняга класіцызму — сядзіба (2-я пал. 19 ст.).

**ГРОЗАВА**, Г р о з а ў — вёска, аграгарадок, цэнтр Грозаўскага с/с. За 17 км на У ад Капыля, 114 км ад Мінска, 218 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Аўтастанцыя. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца і далей па аўтадарозе Кандратавічы—Грозава. 166 гаспадарак, 427 жыхароў (2010).

Назва паходзіць ад імя Гроза. Вёска вядома з 1-й пал. 16 ст. ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, у складзе Капыльскага княства, уласнасць Алелькавічаў, пазней Валадковічаў, Радзівілаў, Незабытоўскіх. У 1538 г. зямля Грозаўская падаравана вял. князем літ. Жыгімонтам І Старым (1506—48) П.Корбуту «...за верныя і жыглівыя яго паслугі». У 1582 г. сяло і фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. існаваў стараж. праваслаўны храм — Мікалаеўскі мужчынскі манастыр. У 1639 г. памешчык Навагрудскага павета Р.Валадковіч ахвяраваў манастыру некалькі маёнткаў. Фундушы храму давала падстоліна Горват (1748). Паводле інвентару за 1650 г., двор (4 жылыя дамы, 6 гасп. пабудоў) і фальварак, былі бровар,



Мемарыяльны крыж у гонар слуцкіх паўстанцаў 1920 г. ў в. Грозава.




млын, гумнішча. У 1-й трэці 17 ст. Валадковічы заснавалі тут яшчэ адзін мужчынскі прыстанак у імя Іаана Багаслова (скасаваны ў 1860 г.). У 1763 г. 267 жыхароў, уласнасць М.К.Радзівіла (Рыбанькі). З 1791 г. ў Случарэцкім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, мястэчка ў Слуцкім павеце Мінскай губ., цэнтр воласці, уласнасць Мержаеўскіх, Вітгенштэйнаў, Гогенлоэ. У 1800 г. 30 двароў, 166 жыхароў, 2 драўляныя манастыры: Іаанаўскі з царквой Успення Багародзіцы і Мікалаеўскі з царквой Мікалая Цудатворца, капліца, сядзіба, карчма, млын, адбываліся штогадовыя кірмашы, штотыднёвыя таржкі, уласнасць падкаморага Случарэцкага. Паводле 8-й рэвізіі (1833), маёнтак Грозава пры рэках Лакнея і Вужа, уласнасць І.Мержаеўскага, уключаў мяст. Грозаў і 2 вёскі, меў 1360 дзес. 560 сажняў угоддзяў, налічваў 37 цяглых двароў, 427 душ. Сяляне мелі на двор сядзібнай і ворнай зямлі па $10^1/_3$ дзес., усяго 46 коней, 57 валоў, 48 кароў, 12 вулляў. За надзел адбывалі паншчыну: 3 дні з вупражжу і 1 дзень жаночы на тыдзень. У мястэчку налічвалася 19 двароў, 97 душ абодвух полаў. Пад мястэчкам 24 маргі зямлі, жыхары за агароды плацілі чынш. У 1860 г. Іаана-Багаслоўскі мужчынскі манастыр далучаны да Слуцкага Троіцкага манастыра. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Пад 1870 г. пазначаны 99 двароў, 376 жыхароў, 3 праваслаўныя царквы, капліца, касцёл, 2 яўр. малітоўныя дамы. Гандл. шляхамі мястэчка злучалася з мястэчкамі Капыль, Бабоўня, Новым Сверржанем, г. Нясвіж. У 1886 г. 19 двароў, 156 жыхароў, 3 праваслаўныя царквы, вал. праўленне, вінзавод, 3 заезныя двары, 11 дробных крам, нар. вучылішча, 2 яўр. школы. У 1897 г. 150 двароў, 861 жыхар, паштовае аддз., нар. вучылішча, 24 крамы, ганчарны з-д, 2 піцейныя дамы, царква, капліца; маёнтак — 41 жыхар. На пач. 20 ст. 177 двароў, 1032 жыхары, пераважала яўр. насельніцтва, якое сялілася асобнай вуліцай. У 1912 г. працавалі 2-класнае сельскае і 1-класнае нар. вучылішчы. У

1917 г. 188 двароў, 1194 жыхары, у маёнтку 74 жыхары, вінакурны і медаварны з-ды. У лютым–снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 – ліп. 1920 гг. і ў кастр.–ліст. 1920 г. польскімі войскамі. 8.7.1920 г. каля мястэчка адбыўся бой Капыльскага партыз. атрада з падраздзяленнем палякаў. Падаспеўшыя войскі 17-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі разграмілі ворага. У гэтым баі загінулі 14 чырвонаармейцаў. З кастр. 1920 г. воласць у межах нейтральнай зоны. У ліст. 1920 г. Бел. Рада Случчыны (у большасці эсэры) стварыла ў складзе 1-й Слуцкай брыгады стральцоў т.зв. Грозаўскі полк (каля 2 тыс. чал.), які займаў фронт у нейтральнай зоне на лініі Грозаў–Капыль–Семежава, адкуль яго атрады рабілі налёты на тэр. Капыльшчыны. 4.12.1920 г. часці 8-й і 17-й стралк. дывізій 16-й арміі ў р-не Семежава разграмілі частку Слуцкай брыгады, астатнія перайшлі на польскі бок мяжы і былі разброены. У 1921 г. працавалі спажывецкае т-ва, фельч. пункт, 2 школы 1-й ступені (8 настаўнікаў, 220 вучняў), вінзавод; у воласці 1603 жыхары мелі 757 дзес. надзелаў. У 1923 г. дзейнічалі 7-гадовая (9 настаўнікаў) і яўр. школы, хата-чытальня, фельчар, 6 рамеснікаў (шаўцы, краўцы, кавалі). У 1924 г. 182 двары, 1007 жыхароў; 7-гадовая школа (10 настаўнікаў, 240 вучняў) мела 5,4 дзес. зямлі; яўр. школа (2 настаўнікі, 60 вучняў), т-ва саматужнікаў (шаўцы, краўцы, кавалі, сталяры), спажывецкае т-ва, фельч. пункт. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета Грэскага, з 8.7.1931 г. Капыльскага, з 12.2.1935 г. Грэскага р-наў. На пач. 1930-х г. працавалі калгас «Інтэрнацыянал», кавальская, шавецкая, шапачная, прам. майстэрні, малаказавод, нафтавы млын, сукнавальня, крупарушка, салатопня. З 27.9.1938 г. вёска, цэнтр сельсавета Грэскага р-на Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. сельсавета базіраваліся атрады 27-ы партыз. брыгады імя В.І.Чапаева. 28.8. 1943 г. партызаны разграмілі тут буйны карны атрад фашыстаў і занялі в. Грозава. Вызвалена 1.7.1944 г. войскамі 4-га гв. кавалерыйскага корпуса конна-механізаванай групы 1-га Бел. фронту. За час акупацыі фашысты знішчылі тут 612 жыхароў. На фронце загінулі 28 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Грэскім р-не Бабруйскай, з 18.1.1954 г. Мінскай абласцей. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 656, у сельсавеце – 3795 жыхароў. У 1971 г. ў вёсцы 189 двароў, 587 жыхароў. У 1997 г. 197 гаспадарак, 481 жыхар, машынны двор, ветпункт, сярэдняя школа, Дом культу-

*Гандлёвыя рады (2-я палова 19 ст.) у в. Грозава.*

*Касцёл у гонар Зняцця з Крыжа Збавіцеля (1802) у в. Грозава.*





ры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, 5 магазінаў. У 2007 г. 167 гаспадарак, 428 жыхароў, цэнтр с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд». Працуюць (2010) дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа-інтэрнат для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, б-ка, Дом культуры (і пры ім 8 клубных фарміраванняў), бібліятэка-клуб, 2 спарт. залы, стралк. цір, 3 спарт. пляцоўкі, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», магазін. На тэр. сельскага выканкома дзейнічае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь». Брацкая магіла 14 чырвонаармейцаў, якія загінулі 14.7.1920 г.; брацкая магіла 3 сав. воінаў, загінуўшых пры вызваленні вёскі ў ліп. 1944 г.; магіла ахвяр фашызму; магіла партызана С.А.Карнейчыка, які загінуў у 1943 г. Археал. помнік — гарадзішча. Помнікі архітэктуры — сядзібны дом (2-я пал. 18 ст.), касцёл у гонар Зняцця з Крыжа Збавіцеля (1802), гандл. рады (2-я пал. 19 ст.), вінакурня (пач. 20 ст.).

**ГРЫВЕНЬ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 21 км на У ад Капыля, 141 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Грозава і далей па прасёлачнай дарозе. Побач граніца Слуцкага р-на. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У сярэдзіне 19 ст. фальварак Грыўня ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Жукаўскай сельскай грамадзе Грозаўскай вол. таго ж павета, 15 двароў, 110 жыхароў, капліца. У 1908 г. 17 двароў, 129 жыхароў; у фальварку 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 22 двары, 120 жыхароў, у фальварку 3 двары, 24 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 27 вучняў), мела 3 дзес. ворыва. У 1924 г. ў вёсцы 11 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, з 8.7.1931 г. ў Капыльскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., у калгасе «20 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7. 1954 г. ў Слабада-Кучынскім с/с. У 1960 г. 93 жыхары. У 1997 г. ў Грозаўскім с/с, 21 гаспадарка, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма». У 2007 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе СВК «Праснакі».

**ГУЛЕВІЦКІ** — пасёлак у Бучацінскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Капыля, 145 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, на шашы Слуцк—Сіняўка. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. маёнтак у Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, 2 жыхары. У 1917 г. ў Кіявіцкай вол. таго ж павета, 78 жыхароў. Пасля нацыяналізацыі ў 1920-я г. склаўся пасёлак; у 1924 г. 20 двароў, 92 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Жыліхаўскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. пас. Гулевіцкі, створаны калгас «Ільіч». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 113 жыхароў. З 5.5.1962 г. ў Бучацінскім с/с. У 1997 г. 15 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Бальшавік». У 2007 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе ЗАТ «Жыліхава».

**ГУЛЕВІЧЫ** — вёска ў Бучацінскім с/с, за 24 км на Пд ад Капыля, 144 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Побач шаша Слуцк—Сіняўка. На ПдЗ меліяра-

цыйны канал. 90 гаспадарак, 167 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў складзе двара Цімкавічы, 20 валок зямлі, у т.л. 17 цяглых. У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 194 жыхары, карчма, уласнасць Вайніловіча. У сярэдзіне 19 ст. ў маёнтку Сухоўчыцы таго ж павета, шляхецкая ўласнасць. У 1885 г. вёска ў Быстрыцкай вол. У 1890/91 навуч. годзе працавалі 2 школы граматы для хлопчыкаў, у якіх навучаўся 21 вучань. У 1897 г. 91 двор, 609 жыхароў, царква, капліца, хлебазапасны магазін; сядзіба — 11 жыхароў; маёнтак — 31 жыхар. У 1902 г. засн. вінакурны з-д (уласнасць Вайніловіча), у 1913 г. 8 рабочых. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1908 г. ў Быстрыцкай вол., у вёсцы 98 двароў, 717 жыхароў; у маёнтку — 2 жыхары. У 1917 г. ў Кіявіцкай вол. таго ж павета, у вёсцы — 110 двароў, 769 жыхароў; у маёнтку — 78 жыхароў. У 1921 г. ў нацыяналізаваным маёнтку пад сядзібай 7,5 дзес., ворыва 12 дзес., былі кузня, вінакурня, 2 млыны. У снеж. 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 73 вучні), якая мела 3 дзес. ворыва. У 1924 г. ў вёсцы 121 двор, 684 жыхары. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 2 настаўнікі, 65 вучняў. Будынак арэндны (70 пудоў жыта на год), працаваў культ.-асв. гурток. З 20.8.1924 г. ў Жыліхаўскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 42 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. Мінскай абласцей. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 527 жыхароў. З 5.5.1962 г. ў Бучацінскім с/с. У 1997 г. 124 гаспадаркі, 251 жыхар, магазін, у калгасе «Бальшавік». У 2007 г. 98 гаспадарак, 208 жыхароў. у складзе ЗАТ «Жыліхава». Радовішча цагельнай сыравіны. Брацкая магіла 10 сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г.

**ДАМЕНІКОВА** — вёска ў Бучацінскім с/с, за 33 км на Пд ад Капыля, 153 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, на аўтадарозе Дзярэчына—Навасёлкі—Смалічы. На ПнЗ пабудавана гаць, з ПдЗ на ПнУ цячэ р. Волка. 26 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1816 г. ўласнасць Радзівілаў, у 1844 г. ў маёнтку Боркі, засценак Дамянікаў. У 1908 г. 17 двароў, 57 жыхароў, засценак у Вызнянскай вол. таго ж павета. У 1917 г. 22 двары, 127 жыхароў. У 1924 г. 21 двор, 112 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бучацінскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. у калгасе імя Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 20 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска ў Смаліцкім с/с таго ж раёна, 115 жыхароў. У 1997 г. 47 гаспадарак, 113 жыхароў, у калгасе «Іскра Леніна». У 2007 г. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе СВК «Малінова».

**ДАРАГАВІЦА** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 13 км на З ад Капыля, 122 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Капыль—Ржаўка—Дарагавіца. Мяжуе з лесам, на ПнУ праходзіць меліярацыйны канал. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2010).

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. таго ж павета; вартоўня — 6 жыхароў, маёнтак — 28 жыхароў. У 1909 г. маёнтак, 13 двароў, 17 жыхароў. У 1921 г. маёнтак нацыяналізаваны; было 130 дзес. ворыва, 3 дзес. пад сядзібай, дзейнічалі кузня, школа 1-й ступені (з

1920). У 1921 г. 1 настаўнік, 35 вучняў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 28 двароў, 100 жыхароў. У 1926 г. 20 двароў, 94 жыхары. У пач. 1930-х г. ў Бабаўнянскім с/с, створаны калгас «Працаўнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Бабаўнянскім с/с, 246 жыхароў. У 1997 г. ў Пацейкаўскім с/с, 39 гаспадарак, 79 жыхароў, у калгасе «Пралетарый». У 2007 г. 28 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе СВК «Душава». Археал. помнік — гарадзішча (Замэчак).

Вёска — радзіма польскай і бел. паэтэсы З.А.Трашчкоўскай (1847—1911), якая перакладала на польскую мову творы з французскай, партугальскай і інш. моў.

**ДЗЯГЦЯНЫЯ** — вёска ў Браткаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Капыля, 144 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Мажа—Цімкавічы—Дзягцяныя. Побач граніца Клецкага р-на. 68 гаспадарак, 133 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 37 двароў, 179 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска Дзехцяны ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 86 двароў, 486 жыхароў, хлебазапасны магазін, размяшчалася каля Клецкага паштовага тракта. У 1917 г. 111 двароў, 651 жыхар. У 1922 г. адкрыта школа 1-й ступені. З 20.3.1924 г. вёска ў Браткаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 111 двароў, 614 жыхароў (1924). У школе працавалі 2 настаўнікі (Р.М.Жук, П.В.Пасюкевіч), вучыліся 77 вучняў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Шлях Леніна», была кузня. У 1940 г. ў Мінскай вобл., 110 двароў, 620 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. спалена акупантамі, якія загубілі 4 жыхароў. У баях з фашыстамі на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 54 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. — 517, у 1969 г. 469 жыхароў. У 1997 г. 94 гаспадаркі, 193 жыхары, магазін, у складзе калгаса «Авангард». У 2007 г. 75 гаспадарак, 139 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Браткава» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Працуе (2010) магазін.

**ДЗЯРЭЧЫНА** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, на р. Морач. За 20 км на Пд ад Капыля, 140 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, каля шашы Слуцк—Івацэвічы. 62 гаспадаркі, 106 жыхароў (2010).

Назва паходзіць ад слова «драчун», г. зн. задзіра. Упамінаецца ў інвентары буйнога маёнтка Цімкавічы і воласці за 1691 г., вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 48 двароў, 272 жыхары, вадзяны млын, уладанне кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Быстрыца. У 1897 г. вёска Дрэчын у Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, 66 двароў, 463 жыхары, хлебазапасны магазін, царква; засценак — 12 двароў, 85 жыхароў; школа граматы (у 1890 г. 9 хлопчыкаў). У 1909 г. ў вёсцы 84 двары, 926 жыхароў; у засценку — 11 двароў, 91 жыхар. У 1917 г. 104 двары, 650 жыхароў, у Кіявіцкай вол. таго ж павета. У канцы 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1921 г. ў ёй 2 настаўнікі, 74 вучні. У 1924 г. вёска, 114 двароў, 628 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, з 20.8. 1938 г. таго ж раёна Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны саўгас «Праўда», былі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На

фронце загінулі 32 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях, з 16.7. 1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 452 жыхары. У 1971 г. 121 двор, 365 жыхароў, дзейнічалі лесапільня, млын, пач. школа, ветпункт, клуб, б-ка, магазін; цэнтр калгаса «Праўда». З 22.9. 1980 г. да снеж. 2008 г. цэнтр сельсавета. У 1997 г. 87 гаспадарак, 169 жыхароў, у калгасе імя Ціміразева. У 2007 г. 70 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі». Помнік 285 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ДОКТАРАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Доктаравіцкага с/с. За 12 км на ПдУ ад Капыля, 132 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Кель–Доктаравічы. На ПнЗ сажалка, на ПдУ разбіты сад. 103 гаспадаркі, 211 жыхароў (2010).

Упершыню згадваюцца ў 18 ст. У 1760 г. ў ліку маёнткаў Радзівілаў, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. невял. сяло, 378 жыхароў, фальварак, карчма, млын, уласнасць Багдановічавай і Кавалеўскай у Слуцкім павеце. У 1800 г. 72 двары, 402 жыхары; фальварак, вадзяны млын, уладанне кн. Д.Радзівіла. Паводле інвентару 1838 г., маёнтак, уласнасць кн. Вітгенштэйна над р. Морач. У складзе маёнтка мяст. Раманаў, вёскі Доктаравічы, Вуглы, Станькі, Падлессе і 6 засценкаў. У маёнтку 356 двароў, у т.л. цяглых 162, чыншавых 61, 1699 душ абодвух полаў, 270 коней, 448 валоў, 297 кароў. Былі таксама двары агароднікаў – 16, бабылёў – 12, яўрэяў – 39. У маёнтку 5340 дзес. угоддзяў, з іх у сялян 3330 дзес. У 1838 г. ў 12-гадовым арэндным уладанні. У в. Доктаравічы было 69 двароў цяглых, 5 чыншавых, 426 душ абодвух полаў. У двары Доктаравічы жылы панскі дом, піваварня, млыны вадзяны (3 колы, 2 шлюзы) і валовы, кузня, саладоўня, вінакурня, цагельня, хлебны магазін, карчма, сажалка, сад. У фальварку паблізу пад забудовай і агародамі 17 моргаў, 130 прэнтаў зямлі, усіх угоддзяў 59 валок, 29 моргаў, 271 прэнт, у т.л. 8 валок, 4 моргі, 118 прэнтаў (касілі 636 вазоў сена). Паншчына з в. Доктаравічы 119 дзён з вупражжу, 59 пешых за год; талакі – 268 з вупражжу, 2060 пешых за год. У 1884 г. адкрыты 2 школы граматы (у 1890 г. 22 хлопчыкі). У 1886 г. 61 двор, 600 жыхароў, ветраны млын. У 1897 г. ў Раманаўскай вол. Слуцкага павета; вёска, 138 двароў, 811 жыхароў), была капліца; маёнтак (102 жыхары), вадзяны млын (7 жыхароў), вартоўня (8 жыхароў). У 1898 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (у 1913 г. 9 рабочых). У 1900 г. 148 двароў, 898 жыхароў. У 1912 г. ў вёсцы адкрыта нар. вучылішча імя Сталыпіна. У 1917 г. 158 двароў, 870 жыхароў; у маёнтку 131 жыхар. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 – ліп. 1920 гг. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі інтэрвентамі. Вызвалена 28.11.1920 г. вой-



*Помнік землякам, загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны, у в. Доктаравічы.*

скамі 22-й брыгады 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны. 25.8.1920 г. на яго базе створаны саўгас «Доктаравічы». Да сярэдзіны 1922 г. было 111 жыхароў, 38 рабочых і служачых; гаспадарка мела 328 дзес. угоддзяў (170 дзес. ворыва), 8 коней, кузню, вінзавод. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, 3 настаўнікі, 80 вучняў. У 1921 г. хата-чытальня, школа запрацавала і ў саўгасе, створана на базе 2 комплексаў б. школы (1 настаўнік, 44 вучні). З 20.8. 1924 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі, 168 двароў, 855 жыхароў, у саўгасе 100 жыхароў. З 1929 г. цэнтр Ванелевіцкага с/с (да 16.7.1954). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. саўгас меў 1015 га сельгасугоддзяў, у т.л. 754 га ворыва. Паводле інвентару 1932 г., працавалі вінзавод, маслабойня, млын, электрастанцыя (лакамабіль, 90 кВт), дзейнічала камсамольская ячэйка, выдавалася газ. «Ударнік бальшавіцкіх тэмпаў». Да сярэдзіны 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны партызан». У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 25.9.1942 г. загубілі 110 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 65 землякоў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. цэнтр Доктаравіцкага с/с. У 1960 г. 598 жыхароў; у пасёлку саўгаса «Доктаравічы» 412 жыхароў; у пасёлку спіртзавода 214 жыхароў. У 1997 г. 142 гаспадаркі, 303 жыхары, магазін. У 2007 г. 112 гаспадарак, 242 жыхары, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы». Працуюць (2010) дзіцячы сад, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Магіла ахвяр фашызму. Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.



*А.Р.Таўпека.*

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза А.Р.Таўпекі (1914—44).

**ДОМАНТАВІЧЫ** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Капыля, 142 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы—Лешня—Домантавічы. Побач цячэ р. Мажа. 26 гаспадарак, 48 жыхароў (2010).

Згадваюцца з 16 ст. У 1598 г. сяло ў Макранскай вол. Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, было 13 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ўласнасць кн. М.Радзівіла, 16 двароў, 100 жыхароў. У 1897 г. ў Кіявіцкай вол., вёска пры Маскоўска-Аршанскай шашы, каля р. Мажа, 36 двароў, 255 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 270 жыхароў. У 1917 г. 53 двары, 325 жыхароў. У канцы 1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 34 вучні. У вёсцы 3 ветракі. З 20.8.1924 г. ў Лешненскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1924 г. 61 двор, 346 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны дырыжабль», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 21 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. 235 жыхароў. У 1997 г. 42 гаспадаркі, 81 жыхар, у калгасе імя Ульянава. У 2007 г. 29 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае».

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Цімкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Капыля, 133 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Нясвіж. 36 гаспадарак, 56 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Паводле інвентару маёнтка Цімкавічы за 1670 г., вёска ў складзе маёнтка, 11 валок зямлі, 6 дымоў; у 1691 г. 8 дымоў. Сяляне плацілі

на карысць двара 88 злотых 15 грошаў, давалі дзякла; частка жыхароў займалася бортніцтвам (было 5 борцяў). У пач. 18 ст. 10 дымоў, 12 валок, 24 моргі зямлі ворнай. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска – 5 двароў, 33 жыхары, драўляная Георгіеўская царква; фальварак, была карчма; уласнасць кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. П.Віттенштэйна. У 1897 г. вёска ў Цімкавіцкай вол., у Канатопскай сельскай грамадзе, на Нясвіжскім тракце, 32 двары, 193 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 65 двароў, 420 жыхароў. У 1917 г. 48 двароў, 307 жыхароў. У лютым 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 35 вучняў. У 1924 г. 45 двароў, 226 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У канцы 1930-х г. створаны калгас «1 Жніўня», была кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 19 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 199 жыхароў. У 1997 г. 36 гаспадарак, 61 жыхар, у саўгасе «Цімкавічы». У 2007 г. 38 гаспадарак, 65 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуе (2010) магазін.

**ДУБЕЙКІ** – вёска ў Грозаўскім с/с, за 21 км на У ад Капыля, 116 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Камсамольская і далей па аўтадарозе Камсамольская–Дубейкі. На ПнУ цячэ р. Лакнея. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

У 1767 г. вёска, 37 двароў, млын, уласнасць Ф.Мазалоўскага. У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 201 жыхар, вадзяны млын. У 1845 г. вёска ў маёнтку Грозава, уласнасць І.Мержаеўскага, 28 двароў, у т.л. 25 цяглых, 208 душ абодвух полаў. У вёсцы 439 моргаў, 80 прэнтаў ворыва, каля 140 моргаў сенажаці, у маёнтку 11 моргаў, 220 прэнтаў выгану (жывёлы); 222 прэнты пад могілкамі. Цяглы двор за надзел адбываў паншчыну: 3 дні на тыдзень з вупражжу, 1 дзень пешы жаночы. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 59 двароў, 375 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У пач. 20 ст. ў тым жа павеце. У 1917 г. 74 двары, 399 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 57 двароў, 343 жыхары. З 8.7. 1931 г. ў Капыльскім, потым у Грэскім р-нах. У пач. 1930-х г. створаны калгас «1 Жніўня». У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 30 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 260 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 1997 г. 36 гаспадарак, 61 жыхар. У 2007 г. 22 гаспадаркі, 29 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд».

**ДУМІЧЫ** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 10 км на Пн ад Капыля, 118 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Леткаўшчына. На Пд разбіты сад, на Пд цячэ р. Выня. 56 гаспадарак, 110 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 52 двары, 188 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1850-я г. ўласнасць казны. У 2-й пал. 19 ст. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1897 г. 72 двары, 439 жыхароў, 3 ветракі, кузня. У 1908 г. 77 двароў, 905 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 98 двароў, 494 жыхары. У лютым 1921 г. пачала працаваць школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 45 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 110 двароў, 467 жыхароў, школа 1-й ступені, ва ўласным будынку, 1 настаўнік (С.Р.Шаціла), 73 вучні. У 1926 г. 465 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Культура», былі кузня, вятрак. З 20.2.



*І.М.Тараховіч.*

1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 29 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Бабаўнянскім с/с, у саўгасе «Лясное»; 373 жыхары (1960). У 1997 г. 93 гаспадаркі, 178 жыхароў, магазін. У 2007 г. 66 гаспадарак, 121 жыхар, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Працуе (2010) магазін.

Вёска – радзіма дзярж. дзеяча Беларусі А.В.Сташэўскага (1889–1938), засл. настаўніцы БССР Л.І.Любецкай (н. ў 1928).

**ДУНАЕВА** (да 1964 г. пас. Лапухі) – вёска ў Камсамольскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Капыля, 106 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца і далей па прасёлачнай дарозе. На ПнУ разбіты сад. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў, 4 душы абодвух полаў. У 1800 г. ў Ігуменскім павеце, 6 двароў, 43 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1894 г. вёска ў Пукаўскай вол. таго ж павета, 56 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска і маёнтак, 10 двароў, 83 жыхары. У 1917 г. 134 жыхары. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны (стаў нар.). У 1921 г. створаны саўгас «Лапухі», у якім займаліся конегадоўляй, селекцыяй азімай пшаніцы («высокалітоўскай»). Меў 270,6 дзес. угоддзяў, у т.л. 246,26 дзес. ворыва, было 69 жыхароў, працавалі 40 рабочых і служачых; 25 коней, школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 22 вучні), дзіцячы прытулак, хата-чытальня, клуб. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на, у саўгасе 99 жыхароў. У 1926 г. саўгас меў 659,75 дзес. угоддзяў (238,2 ворыва). У 1929 г. дзейнічалі млын, вінакурны з-д, лесапілка, пачала працаваць электрастанцыя (100 кВт), у 1930 г. – конна-трактарная станцыя (10 трактароў). У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25.10.1942 г. партыз. атрад імя Чапаева (камандзір І.М.Тараховіч; падп. псеўданім Дунаеў) брыгады 300-й правеў каля вёскі жорсткі бой з літ. карнікамі. Сам камандзір загінуў у адным з баёў 7.11.1942 г. Вёска вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пас. Лапухі ў Пукаўскім с/с, 112 жыхароў. У 1964 г. перайменаваны ў гонар камандзіра партыз. атрада, які дзейнічаў на тэр. вёскі ў Вял. Айч. вайну. У 1997 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары, у калгасе імя Леніна. У 2007 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Помнік

*Уязная алея на сядзібу ў в. Дунаева.*



*Рэшткі саду сядзібы Э.Вайніловіча ў в. Дунаева.*



архітэктуры – сядзіба Э.Вайніловіча (пач. 18 ст.).

**ДУСАЕЎШЧЫНА** – вёска ў Капыльскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Капыля, 117 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Слабада-Кучынка і далей па аўтадарозе Падгорцы–Капыль. Побач з вёскай праходзіць меліярацыйны канал. 207 гаспадарак, 503 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Пацейкаўскай вол. таго ж павета, 63 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. вёска ў Какорыцкай сельскай грамадзе Пацейкаўскай вол., 21 двор, 162 жыхары, хлебазапасны магазін, мукамольны з-д (засн. ў 1893). У 1909 г. 30 двароў, 175 жыхароў; побач існаваў маёнтак Рыме. У 1917 г. 36 двароў, 186 жыхароў, земская школа. У 1918 г. працавалі крухмальны, лесапільны і мукамольны з-ды, мелася школа 1-й ступені. У 1922 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка Рыме (1921) працаваў аднайменны саўгас, меў 400 дзес. угоддзяў (200 дзес. ворыва), паравы млын, 21 каня; 79 жыхароў, у т.л. 34 рабочыя і служачыя. У 1924 г. ў вёсцы 33 двары, 161 жыхар; у саўгасе 141 жыхар; школа 1-й ступені (будынак уласны), 1 настаўнік, 61 вучань, пры школе працавалі піянерская арг-цыя (25 вучняў), драматычны гурток. З 20.8.1924 г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 39 двароў, 161 жыхар; у саўгасе 141 жыхар. У 1926 г. 35 двароў, 149 жыхароў. У пач. 1930-х г. у саўгасе Рыме 300 двароў, крухмальны з-д, лесазавод, млын, лакамабіль (75 кВт), 1193 га ўгоддзяў, у т.л. 619 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.2. 1943 г. фашысты загубілі 64 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 32 жыхары. Вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 163 жыхары, на сядзібе саўгаса імя Дзяржынскага (пас. Дусаеўшчына, цэнтр саўгаса) – 320 жыхароў. У 1971 г. вёска, цэнтр племзавода імя Дзяржынскага, 199 двароў, 632 жыхары. Працавалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветпункт, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 212 гаспадарак, 591 жыхар. У 2007 г. 203 гаспадаркі, 504 жыхары, цэнтр ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуюць (2010) дзярж. адукацыйная ўстанова «Дзяржынскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад–базавая школа» (і пры ёй піянерская дружына і пярвічная арг-цыя БРСМ), клуб, б-ка, спарт. зала і 2 пляцоўкі, стадыён, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі.

*Свіран сядзібы Э.Вайніловіча ў в. Дунаева.*







*М.В.Рамашка.*



*В.П.Вайцяховіч.*



*Г.М.Булат.*

Магіла ахвяр фашызму, помнік Ф.Э. Дзяржынскаму. Археал. помнікі — 2 курганныя могільнікі.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза М.В.Рамашкі (1913— 44), дзе яму ўстаноўлены помнік; В.П.Вайцяховіча (1956—82), камандзіра верталёта, капітана, які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання.

**ДУШАВА** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Капыля, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Кацельнікі—Душава. 119 гаспадарак, 316 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло ў складзе Капыльскага княства, уласнасць Алелькавічаў у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У канцы 16 ст. згадваецца гаспадарскі палац. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 13 двароў, 98 жыхароў, карчма, бровар, панскі сядзібны дом. У 1897 г. засценкі Стары Душаў (6 двароў, 74 жыхары), Новы Душаў (7 двароў, 53 жыхары) у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета. У пач. 20 ст. ў абодвух засценках 12 двароў, 95 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 98 жыхароў. У 1918 г. фальварак нацыяналізаваны. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі. У 1926 г. пас. Душава Старое — 13 двароў, 82 жыхары; засценак Душава Новае — 6 двароў, 28 жыхароў. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Пралетарый», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 8.2. 1943 г. часткова спалілі яе і загубілі 35 жыхароў. За час акупацыі былі загублены 73 жыхары. Вызвалена 1.7.1944 г. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 84 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Бабруйскай, з 8.7.1954 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска Душава, 459 жыхароў. У 1971 г. 120 двароў, 389 жыхароў, млын, лесапільня, ветпункт, швейная майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 135 гаспадарак, 347 жыхароў. У 2007 г. 130 гаспадарак, 338 жыхароў, цэнтр СВК «Душава». Працуюць (2010) дзіцячы сад, Дом культуры (і пры ім 4 клубныя фарміраванні), б-ка, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, аддз. сувязі. Магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, загінуўшым у гады Вял. Айч. вайны.

Вёска — радзіма Г.М.Булата (1956—79), прапаршчыка, камандзіра аўтамабільнага ўзвода, які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання.

**ЖАБЧАВА** — вёска ў Бучацінскім с/с, за 32 км на Пд ад Капыля, 152 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава—Садавічы—Жабчава. 7 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска Жабцы, 7 двароў, 46 жыхароў, вятрак; уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў маёнтку Боркі, карчма. У 1897 г. ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета, 24 двары, 207 жыхароў, капліца. У пач. 20 ст. 25 двароў, 199 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 213 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. У 1924 г. 38 двароў, 208 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялевіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Ударнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13, у партыз. барацьбе — 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7. 1954 г. ў Малышаўскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не, з 1.12.1959 г. ў Рач-

каўскім с/с. У 1960 г. вёска ў Жыліхаўскім с/с Капыльскага р-на, з 5.5. 1962 г. ў Бучацінскім с/с. У 1960 г. вёска, 196 жыхароў. У 1997 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў. Непадалёку існаваў маёнтак Боркі з в. Лапацічы — радзіма бел. пісьменніка К.Чорнага. У 2007 г. 25 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

**ЖАВУЛКІ** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 12 км на З ад Капыля, 132 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Пацейкі—Кудзінавічы. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2010).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Жавулкі ў Слуцкім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць Алендскага. У 1870 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 13 хлопчыкаў). У 1886 г. засн. сыраварны з-д. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета; в. Жавулкі — 92 двары, 472 жыхары, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня, піцейны дом, вызначалася ткацтвам; хутар — 10 жыхароў. У пач. 20 ст. 90 двароў, 522 жыхары; у маёнтку 20 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 95 двароў, 535 жыхароў; у 2 аднайменных маёнтках 3 двары, 123 жыхары. У 1921 г. маёнткі нацыяналізаваны, быў млын, хата-чытальня, школа 1-й ступені (1 настаўнік, 60 вучняў). У 1924 г. 104 двары, 514 жыхароў; аграўчастак Жавулкі — 10 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1924/25 навуч. годзе ў школе (бел.), якая месцілася ў б. панскім доме, 1 настаўнік (А.П.Було), 51 вучань, працаваў драмгуртор. У 1926 г. ў вёсцы 114 двароў, 531 жыхар. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвонаармеец», былі кузня, 2 ветракі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 156 двароў, 785 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала камсамольска-маладзёжная арг-цыя (сакратар Н.Тароцька). 5.2. 1943 г. вёска спалена (121 двор) фашыстамі, якія загубілі 512 жыхароў. Вызвалена 1.7.1944 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 62 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска (146 жыхароў) і пасёлак (60 жыхароў), у калгасе «Прагрэс». У 1997 г. 47 гаспадарак, 74 жыхары. У 2007 г. 26 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе СВК «Пацейкі». Магіла ахвяр фашызму.

**ЖУКІ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 22 км на У ад Капыля, 142 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Труханавічы і далей па аўтадарозе Труханавічы—Жукі. Непадалёку цячэ р. Лакнея. 32 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

У 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Слуцкім павеце Мінскай губ., 118 жыхароў, карчма, млын, уласнасць М.Бярновіча. У ся-



*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Жавулкі.*

рэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Грыўна, казённая ўласнасць. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. таго ж павета, 42 двары, 204 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 42 двары, 242 жыхары. У 1917 г. вёска, 43 двары, 253 жыхары. У 1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі, з 8.1. 1931 г. ў Капыльскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Грэскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не той жа вобласці. У 1997 г. ў вёсцы 47 гаспадарак, 89 жыхароў. У 2007 г. 32 гаспадаркі, 53 жыхары, у складзе СВК «Праснакі».

**ЖУРАЎКА** – пасёлак у Бучацінскім с/с, за 34 км на Пд ад Капыля, 154 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава–Навасёлкі–Бучаціна, потым па прасёлачнай дарозе, каля р. Волка. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

У 19 ст. засценак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. У 1897 г. засценак тых жа воласці і павета, 10 двароў, 51 жыхар. У 1908 г. 8 двароў, 71 жыхар. У 1917 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1924 г. было 12 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бучацінскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8. 1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска ў Смаліцкім с/с, 54 жыхары. У 1997 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў, у калгасе «Іскра Леніна». У 2007 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе СВК «Малінова».

**ЖЫЛІХАВА** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 26 км на Пд ад Капыля, 146 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы. 192 гаспадаркі, 467 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, у Слуцкім княстве. Паводле інвентару маёнтка Цімкавічы за 1622 г., вёска ў Быстрыцкай вол., 21 валока зямлі, у т.л. 19 цяглых. Жыхары адбывалі паншчыну, давалі дзякла, частка плаціла чынш. У 1670 г. 30 дымоў, у 1691 г. 57 дымоў, $21^1/_8$ валокі зямлі, 117 душ мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 88 двароў, 451 жыхар, уласнасць М.Радзівіла, была карчма. У 1816 г. 70 двароў. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Варшаўка. У 1886 г. вёска ў Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, 90 двароў, 781 жыхар, адкрыта школа граматы (у 1890 г. 18 хлопчыкаў). У 1897 г. 164 двары, 1078 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У 1909 г. 198 двароў, 1193 жыхары. У 1906 г. адкрыта земская школа; у 1912 г. 1-класнае вучылішча. У 1917 г. 213 двароў, 1235 жыхароў. У 1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені (у 1921 г. 2 настаўнікі, 118 вучняў), было 6 млыноў. У 1924 г. 223 двары, 1138 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Бальшавік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску. На фронце загінулі 107 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1954 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 936 жыхароў, у сельсавеце – 3003 жыхары. З 5.5.1962 г. ў Бучацінскім с/с. У 1971 г. 222 двары, 770 жыхароў, дзіцячы сад, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, кравецкая майстэрня, магазін; цэнтр калгаса «Бальшавік». У 1997 г. 240 гаспадарак, 590 жыхароў, машынны двор, ветпункт, сярэдняя шко-

ла, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 206 гаспадарак, 530 жыхароў, цэнтр ЗАТ «Жыліхава». Працуюць (2010) сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, прадпрыемства грамадскага харчавання. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** – пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Капыля, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Бабоўня і далей па дарозе на Язвіны. Побач праходзіць меліярацыйны канал, працякае р. Гніліца. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., 13 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 2 двары, 12 жыхароў, уласнасць Нясвіжскага бенедыкцінскага кляштара. У 1897 г. фальваркі Радзівіла (24 жыхары), Пузыноўскага (25 жыхароў); дзярж. засценак – 7 двароў, 61 жыхар. У 1909 г. засценак – 12 двароў, 124 жыхары; фальварак – 2 двары, 20 жыхароў, у Цялядавіцкай вол. таго ж павета. У 1917 г. засценак, 17 двароў, 93 жыхары; хутар – 21 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 18 двароў, 69 жыхароў. У пач. 1930-х г. працавалі саўгас «Забалацце», рымарная майстэрня, кузня, быў развіты калёсны промысел. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак (23 жыхары) і вёска (69 жыхароў), дзе працавала Забалацкая рамонтна-трактарная станцыя. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у саўгасе «Бабоўня». У 2007 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня».

**ЗАГАРОЎШЧЫНА** – вёска ў Грозаўскім с/с, за 24 км на У ад Капыля, 122 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Мотрач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца і далей па аўтадарозе Бадзяжы–Грозава–Красная Горка. Побач граніца Слуцкага р-на. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. засценак і фальварак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. засценак, 14 двароў, 84 жыхары; фальварак, 5 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Грэскім р-не. У 1926 г. засценак, 22 двары, 110 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Тэльмана. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1997 г. вёска, 26 гаспадарак, 51 жыхар. У 2007 г. 20 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе СВК «Праснакі».

**ЗАКОПАНКА** – пасёлак у Доктаравіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Капыля, 134 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Мотрач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Станькі–Закопанка. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2010).

Пасёлак склаўся ў 1920-я г. Да 16.5. 1960 г. ў Ванелевіцкім с/с, было 106 жыхароў. У 1960 г. ў Доктаравіцкім с/с. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 67 жыхароў, у саўгасе «Доктаравічы». У 2007 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы».

**ЗАЛЕССЕ** – пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 14 км на Пн ад Капыля, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Лясное, каля аўтадарогі Лясное–Старая Гута. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Д.Радзівіла.

У 1795 г. 3 душы абодвух полаў. У 1858 г. вёска ў Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета той жа губерні, 21 душа сялян. У 1960 г. пасёлак, 42 жыхары, у саўгасе «Лясное». У 1997 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2007 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**ЗАНЯВЕДАМКА** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 24 км на Пд ад Капыля, 144 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Дзярэчына і далей па аўтадарозе да Заняведамкі. Побач граніца Слуцкага р-на. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. вёска Заняведаміха, уласнасць М.Вайніловіча, была карчма. У 1800 г. 28 двароў, 147 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Сухоўчыцы кн. Вітгенштэйна. У 1890 г. працавала школа граматы (14 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Быстрыцкай вол. таго ж павета, 54 двары, 374 жыхары, хлебазапасны магазін, капліца. У 1909 г. ў Кіявіцкай вол. таго ж павета, 63 двары, 420 жыхароў. У 1917 г. 80 двароў, 524 жыхары, працавала земскае нар. вучылішча (з 1916 ). У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 40 вучняў; мела 3 дзес. ворыва. З 20.8. 1924 г. ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 75 двароў, 416 жыхароў. У школе (будынак арэндны) 1 настаўнік (Ю.А. Ярмусік, 30 вучняў), дзейнічалі с.-г. і культ.-асв. гурткі. У 1929 г. кузня, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 30 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 208 жыхароў. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 76 жыхароў, у калгасе імя Ціміразева. У 2007 г. 23 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».



*Буслы на Капыльшчыне.*

**ЗАПОЛЛЕ** — пасёлак у Слабада-Кучынскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Капыля, 104 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Карзуны і далей па аўтадарозе Карзуны—Заполле—Слабада-Кучынка. Побач цячэ р. Выня. На Пд балоты і меліярацыйны канал. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У 2-й пал. 19 ст. фальварак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 двары, 17 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 62 жыхары. З 20.8. 1924 г. пасёлак у Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 11 двароў, 66 жыхароў. У 1926 г. 11 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 8.11. 1942 г. ў в. Слабада-Кучынка і пас. Заполле загубілі 10 жыхароў. У 1960 г. 48 жыхароў. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у калгасе «Крыніца». У 2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд».

**ЗАРАКАЎЦЫ** – вёска ў Браткаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Капыля, 140 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Калодзезнае–Савічы–Заракаўцы. Побач цячэ р. Тамашоўка. 28 гаспадарак, 44 жыхары (2010).

Вядомы з 17 ст. У 1607 г. маёнтак у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць княгіні А.Радзівіл, якая здала яго ў арэнду П.Пукінскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 19 двароў, 129 жыхароў, была карчма; існаваў фальварак. У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, вёска – 35 двароў, 204 жыхары, хлебазапасны магазін, і маёнтак. У пач. 20 ст. 38 двароў, 265 жыхароў. У 1917 г. вёска, 44 двары, 282 жыхары; маёнтак – 51 жыхар. У 1921 г. на базе маёнтка створана садова-агародная гаспадарка. З 1921 г. ў пагранічнай зоне, каля вёскі размяшчалася 5-я пагранзастава 17-га Цімкавіцкага пагранатрада (27.3. 1940 г. заставе прысвоена імя Кафанава, пагранічніка, які загінуў пры выкананні баявога задання). У 1924 г. 46 двароў, 282 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Браткаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі; адкрыта прац. школа 1-й ступені, 1 настаўнік (Р.Р.Гуліцкі), 52 вучні, будынак уласны. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Авангард». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут існаваў варожы гарнізон, разгромлены ў пач. ліп. 1942 г. партыз. брыгадамі, у т.л. 300-й імя Варашылава. З вер. 1941 г. каля вёскі дзейнічала партыз. група на чале В.Р.Яроменкам (у сак. 1942 г. аб'ядналася з атрадам імя Катоўскага). 2.10. 1942 г. і 12.4.1943 г. партызаны 300-й брыгады імя Варашылава ў раёне вёскі вялі баі з фаш. акупантамі. Да вясны 1942 г. вёска стала партызанскай. Вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 236 жыхароў. У 1997 г. 47 гаспадарак, 92 жыхары, у калгасе «Авангард». У 2007 г. 35 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Браткава» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Помнікі: у гонар пагранзаставы; у гонар партыз. атрада імя Катоўскага.

**ЗАРУДНАЕ** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 18 км на Пн ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Лясное і далей па аўтадарозе Навасёлкі–Заруднае. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1858 г. вёска, уласнасць казны, 11 рэвізскіх душ. У 1897 г. 25 двароў, 174 жыхары; у 1909 г. 27 двароў, 234 жыхары. У 1917 г. 36 двароў, 154 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Пясочанскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 44 двары, 178 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Герой працы», быў вятрак. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 146 жыхароў, з 8.6.1963 г. ў Бабаўнянскім с/с. У 1997 г. 27 гаспадарак, 51 жыхар. У 2007 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Працуе (2010) магазін.

**ЗАСЦЕБ'Е** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Печураны і далей па аўтадарозе Клецішча–Засцеб'е. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1858 г. вёска, уласнасць казны, 25 рэвізскіх душ мужчын-

скага полу. У 1897 г. 18 двароў, 117 жыхароў, кузня. У 1909 г. 20 двароў, 316 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 146 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 28 двароў, 143 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Крупскай. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 159 жыхароў. У 1997 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў. У 2007 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня».

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ** — пасёлак у Бучацінскім с/с, за 39 км на Пд ад Капыля, 159 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава—Бучаціна—Інтэрнацыянал. Побач цячэ р. Волка. З паўн. боку вёскі меліярацыйны канал. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Пасёлак склаўся ў 1920-я г. У 1924 г. 12 двароў, 56 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бучацінскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. у калгасе Войкава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў тым жа раёне Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 54 жыхары, у складзе калгаса імя Войкава. У 2007 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе СВК «Цімiразеўскі».

**КАЗАКОЎКА** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Капыля, 126 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Кацельнікі—Казакоўка. 26 гаспадарак, 56 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. фальварак у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол., 6 фальваркаў, у якіх было 53 жыхары, 12 двароў. У пач. 20 ст. 49 жыхароў. У 1917 г. 13 фальваркаў, больш за 100 жыхароў; у 1924 г. хутар, 15 двароў, 70 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Пацейкаўскім с/с, 169 жыхароў, у калгасе «Пралетарый». У 1997 г. 33 гаспадаркі, 90 жыхароў. У 2007 г. 27 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе СВК «Душава».

**КАКОРЫЧЫ** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 8 км на З ад Капыля, 128 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Якубавічы—Какорычы. На Пд балота. 31 гаспадарка, 48 жыхароў (2010).

Вядомы з пач. 16 ст. У 1509 г. маёнтак «...пад Слуцкам каля... Капыля...», які трымаў здаўна Якуб Івашынавіч, быў пажалаваны Жыгімонтам І Старым (1506—48) княгіні Настассі Слуцкай. У 1691 г. ў складзе маёнтка Цімкавічы, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 13 дымоў, 9 валок ворыва, з якіх 4 валокі належалі Барташэвічам. У 1713 г. засценак Русалаўшчына, 4 дымы, 5 валок зямлі. У 1760 г. двор Какорычы. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 53 жыхары, карчма, 2 вадзяныя млыны, у фальварку — сядзіба Пашкевічаў, бровар. У 1850 г. ў вёсцы і маёнтку 228 душ абодвух полаў. У 1897 г. маёнтак у Цімкавіцкай вол., 35 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, вёска, 57 двароў, 371 жыхар; маёнтак — 52 жыхары, фальварак — 15 двароў, 74 жыха-

ры. Да 1914 г. пл. маёнтка складала каля 700 дзес. зямлі. У 1917 г. 64 двары, 326 жыхароў, у маёнтку 105 жыхароў. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны. Адкрыта прац. школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 39 вучняў (1921). На базе маёнтка 1.3. 1921 г. створаны саўгас, меў 238 дзес. угоддзяў, у т.л. 43 дзес. ворыва; у 1922 г. тут было 110 жыхароў, працавалі 15 рабочых (30% адукаваных), 9 коней, кузня. З 20.8. 1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на, вёскі Вялікія і Малыя Какорычы – усяго 76 двароў, 350 жыхароў; саўгас — 40 жыхароў. У 1924 г. працавала бел. школа 1-й ступені, будынак наёмны (за 50 пудоў жыта ў год), 2 настаўнікі (А.В. Дзятловіч, Л.Я.Дзятловіч), 65 вучняў, дзейнічала піянерская ячэйка (12 вучняў). У 1926 г. вёскі Вялікія Какорычы – 67 двароў, 293 жыхары; Малыя Какорычы – 9 двароў, 38 жыхароў; хутар, 27 двароў, 113 жыхароў; саўгас «Какорычы» – 49 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя 12-годдзя Кастрычніка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе загінулі 6 жыхароў, на фронце – 27. У 1960 г. вёска Вялікія Какорычы, 218 жыхароў. У 1997 г. 49 гаспадарак, 91 жыхар, у калгасе «Прагрэс». У 2007 г. 37 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе СВК «Пацейкі». Помнік архітэктуры – сядзібна-паркавы комплекс. Археал. помнік – курганны могільнік.

**КАЛАСАЎШЧЫНА** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, каля р. Выня, за 19 км на ПнЗ ад Капыля, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Бабоўня і далей па аўтадарозе Бабоўня–Каласаўшчына. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

Вёска вядома з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 23 двары, 131 жыхар, была карчма; уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 36 двароў, 201 жыхар. У 1908 г. засценак, 28 двароў, 202 жыхары. У 1917 г. 58 двароў, 265 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 35 двароў, 205 жыхароў. У 1926 г. было 49 двароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Орка», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёсцы 132 жыхары, у саўгасе «Бабоўня». У 1997 г. 12 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2007 г. 6 гаспадарак, 6 жыха-

*Фрагмент парку і рэшткі брамы сядзібы Пашкевічаў у в. Какорычы.*





роў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня».

Вёска — радзіма засл. настаўніка БССР Б.А.Рымашэўскага.

**КАЛІНАВА** (да 1964 г. Кабыльчыцы) — вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей на аўтадарозе Капыль—Вусава—Калінава. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1789 г. вёска (11 двароў) і фальварак, была карчма, уласнасць кн. К.Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. невял. сяло ў тым жа павеце, 62 жыхары. У 1800 г. 12 двароў, 65 жыхароў. У 1816 г. 10 двароў. У 1897 г. вёска ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 29 двароў, 174 жыхары; маёнтак — 12 жыхароў; сядзіба — 9 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 33 двары, 261 жыхар; у фальварку — 6 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 212 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 21 вучань, мела 3 дзес. ворыва. У 1924 г. 45 двароў, 217 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Чарнагубаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 45 двароў, 217 жыхароў; у 1926 г. 46 двароў, 204 жыхары. У пач. 1930-х г. у Ванелевіцкім с/с, створаны калгас «Сталінец», працавалі кузня, маслазавод, дзіцячыя яслі. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с, 180 жыхароў. У 1997 г. 19 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2007 г. 11 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе СВК «Ванелевічы».

**КАЛІНАЎКА 1** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Капыля, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Русакі—Калінаўка 1. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У канцы 1930-х г. вёска ў Старыцкім с/с Капыльскага р-на Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.



*Гаспадарчая пабудова сядзібна-паркавага комплексу ў в. Какорычы.*





*Лядоўня сядзібна-паркавага комплексу ў в. Какорычы.*

1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Слабада-Кучынскім с/с таго ж раёна. У 1997 г. 30 гаспадарак, 68 жыхароў, у калгасе «Новы свет». У 2007 г. 22 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе ААТ «Старыца-Агра».

**КАЛІНАЎКА 2** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 19 км на Пн ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Лясное і далей па аўтадарозе Леніна–Калінаўка 2. 41 гаспадарка, 72 жыхары (2010).

Склалася ў 1920-я г. як в. Сінягова. У 1926 г. пасёлак з той жа назвай. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны жнівень». У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 23.2.1943 г. каля былой в. Рулева фашысты загубілі 22 жыхароў. На фронце загінулі 13 жыхароў. У 1960 г. вёска, 159 жыхароў, у калгасе «Прамень». У 1997 г. 51 гаспадарка, 257 жыхароў. У 2007 г. 42 гаспадаркі, 215 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень». Працуюць (2010) магазін, фермерская гаспадарка «Нестар». На тэр. вёскі знаходзіцца дзярж. ўстанова «Капыльская дапаможная школа-інтэрнат» (110 чал. у 2010 г.).

**КАЛІНІНА** – пасёлак у Семежаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Капыля, 153 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы–Кіявічы–Калініна. На Пд балоты, на Пн і ПнУ меліярацыйныя каналы. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

Склаўся ў пач. 1920-х г. У 1960 г. 94 жыхары, у калгасе імя Дзяржынскага. У 1997 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары. У 2007 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе вытв. с.-г. кааператыва «Семежава». Працуе (2010) магазін.

**КАЛОДЗЕЗНАЕ** – вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Капыля, 129 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Калодзезнае. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. У 1536 г. сяло Калодзезнае ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 28 дымоў, 20 валок зямлі. У 1630 г. вёска ў маёнтку Скеп'ева таго ж павета, 20 дымоў, 30 валок зямлі ворнай (пустак 14). У ліку насельнікаў згадваюцца баяры, якія служылі пры Цімкавіцкім двары, цясляр. У 1670 г. ўпамінаюцца татары, мелі 45 валок зямлі. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 279 двароў, 146 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. вёска ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 52 двары, 230 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 224 жыхары. У 1917 г. 62 двары, 274 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, мела 3 дзес. ворыва. У 1924 г. 54 двары, 265 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на, у 1926 г. засценак у Ланцуцкім нац. польскім с/с, 56 двароў, 251 жыхар. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Ясны ранак», былі 2 ветракі, кузня. З 14.8.1937 г. ў Вялікараёўскім с/с таго ж раёна, працаваў калгас імя Варашылава. У 1941 г. 58 двароў, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1943 г. спалілі вёску і загубілі 213 жыхароў. На фронце загінулі 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 163 жыхары. У 1997 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў, у калгасе «Праўда». У 2007 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Магіла ахвяр фашызму. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**КАЛОЎКА** – пасёлак у Вялікараёўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Капыля, 131 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Калодзезнае–Калоўка. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Склаўся ў пач. 1920-х г. у ходзе сацыяліст. перабудовы вёскі. У 1924 г. пасёлак у Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 12 двароў, 60 жыхароў; у 1926 г. 14 двароў, 71 жыхар. У 1960 г. было 62 жыхары, у калгасе «Праца». У 1997 г. 9 гаспадарак, 24 жыхары. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Дзейнічае (2010) лясніцтва.

**КАЛЮГА** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Капыля, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Карачоўшчына і далей па аўтадарозе да вёскі. З Пн на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

У 19 ст. вёска ў Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 21 двор, 139 жыхароў. У 1909 г. 27 двароў, 168 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 187 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. У 1930-я г. створаны калгас імя XV партз'езда. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Камсамольскім с/с, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 30 гаспадарак, 57 жыхароў. У 2007 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў, у складзе СВК «Каменскі».

**КАЛЮГА** – пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 20 км на Пн ад Капыля, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Лясное і далей па аўтадарозе Лясное–Заруднае–Калюга, потым па прасёлачнай дарозе. З Пн на У праходзяць меліярацыйныя каналы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У 2-й палавіне 19 ст. вёска ў Цяляданіцкай вол. Слуцкага павета. У 1897 г. 9 двароў, 48 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 57 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 69 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пясочанскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, вёскі Калюга 1 (4 двары, 26 жыхароў) і Калюга 2 (10 двароў, 52 жыхары). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў тых жа сельсавеце і раёне, вёскі Вялікая Калюга – 41 жыхар; Малая Калюга – 6 жыхароў. У 1997 г. вёска Калюга, 5 гаспадарак, 10 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 2007 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**КАМЕНКА** – вёска ў Капыльскім с/с, за 12 км на У ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Русакі і далей па аўтадарозе Русакі–Каменка. На У сажалка. 33 гаспадаркі, 55 жыхароў (2010).

У 1760 г. маёнтак, уласнасць М.Радзівіла. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 3 жыхары, была карчма з печчу-каменкай. У 1897 г. маёнтак (15 жыхароў) у Грозаўскай вол. У 1917 г. было 52 жыхары. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны, створана сав. гаспадарка для забеспячэння Чырвонай Арміі. У 1921 г. пл. яе сядзібы складала 3 дзес. У пач. 1920-х г. склаліся 2 аднайменныя пасёлкі Каменка. У 1924 г. пас. Каменка – 10 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. 2 пасёлкі Каменка: 12 двароў, 62 жыхары і 2 двары, 5 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоная Каменка». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мін-

скай абласцях. У 1960 г. пас. Каменка, 89 жыхароў. З 24.5.1960 г. ў Капыльскім с/с Капыльскага р-на. У 1997 г. вёска, 46 гаспадарак, 91 жыхар. У 2007 г. 38 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына».

**КАМЕНШЧЫНА** – пасёлак у Капыльскім с/с, за 2 км на У ад Капыля, 122 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Скабін. На З сажалка. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. фальварак у Грозаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 2 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. 10 жыхароў. У 1920-я г. на базе нацыяналізаванага фальварка склаўся пасёлак. У 1931 г. створаны вапнавы завод-арцель «Каменшчына», на якім працавалі 13 чал. У 1924 г. хутар, у 1960 г. вёска ў Капыльскім с/с, 37 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2007 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе СВК «Мажа-Агра». Працуе (2010) магазін.

**КАМЕНЬ** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Капыля, 117 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Падлужжа–Камень. На Пн меліярацыйны канал. 148 гаспадарак, 366 жыхароў (2010).

Упершыню згадваецца ў 16 ст. як сяло ў складзе маёнтка Грэск у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1590 г. 12 валок зямлі. У 1654 г. 19 дымоў. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Д.Радзівіла, 39 двароў, 203 жыхары, была карчма. У 1890 г. адкрыта школа граматы (у 1912–17 гг. царк.-прыходская школа). У 1897 г. ў Грэскай вол. таго ж павета, 81 двор, 557 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 107 двароў, 618 жыхароў. У 1917 г. 141 двор, 820 жыхароў, земскае нар. вучылішча. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 32 вучні); у 1921 г. было 4 млыны. З 20.8.1924 г. вёска ў Труханавіцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У 1924 г. 124 двары, 669 жыхароў; у школе 1 настаўнік, 84 вучні, будынак уласны, дзейнічаў культ.-асв. гурток. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Камень», працавалі кузня, ветраны млын. З 20.2.1938 г. ў тым жа р-не Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 61 жыхар. З 20.9.1944 г. ў тым жа раёне Бабруйскай, з 8.7.1954 г. Мінскай абласцей. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1971 г. 156 двароў, 507 жыхароў, машынны двор, ветпункт, лесапільня, пач. школа, клуб, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, магазін; цэнтр калгаса імя Суворава. У 1997 г. 163 гаспадаркі, 380 жыхароў. У 2007 г. 157 гаспадарак, 372 жыхары, цэнтр СВК «Каменскі». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад–сярэдняя школа, клуб (і пры ім 7 гурткоў і дзіцячы клуб «Выхаднога дня»), б-ка, спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. Дзейнічае арг-цыя ветэранаў працы. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам.

**КАМСАМОЛЬСКАЯ** (да 1964 г. Пукава) – вёска, цэнтр Камсамольскага с/с. За 22 км на ПнУ ад Капыля, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па ша-

*Помнік землякам у в. Камень.*



шы Узда—Старыца—Камсамольская. На Пн вадаём і сад. 147 гаспадарак, 359 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 16 ст. У 1510 г. воласць і маёнтак у Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Алелькавічаў. З 17 ст. валодалі Радзівілы. У 1722 г. фальварак, карчма, бровар, 2 млыны. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 16 душ абодвух полаў; двор Пукава — 4 душы абодвух полаў, уласнасць Д.Радзівіла. У 1800 г. 21 двор, 165 жыхароў, уласнасць Радзівілаў, потым Ёдкаў, была царква. У 1857 г. на сродкі Ёдкі і прыхаджан на месцы былой драўлянай пабудавана новая мураваная Георгіеўская царква. З 1862 г. існавала (ва ўрочышчы Кандратавічы) Барысаглебская царква. У 1878 г. ў вёсцы адкрыта царк.-прыходская школа. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці Ігуменскага павета Мінскай губ., 44 двары, 650 жыхароў, вал. праўленне, праваслаўная царква, школа, б-ка. У 1897 г. сяло, 47 двароў, 279 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, царква; маёнтак — 4 двары, 37 жыхароў; 2 сядзібы — 3 двары, 19 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло, 49 двароў, 254 жыхары; у маёнтку 10 двароў, 45 жыхароў. У 1917 г. сяло — 68 двароў, 413 жыхароў; маёнтак — 67 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі інтэрвентамі. На пач. кастр. 1920 г. ў р-не вёскі абараняліся войскі 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. У ліст. 1920 г. воласць ачышчана ад палякаў часцямі 22-й брыгады 8-й стралк. дывізіі. Улада перайшла да вал. рэўкома. Вясной 1921 г. на землях б. маёнтка створаны саўгас «Пукава». Да сярэдзіны 1922 г. меў 884 дзес. ўгоддзяў, у т.л. 42 дзес. ворыва, 8 коней, працавалі 17 рабочых і служачых, пракатны, зерне-ачышчальны пункты, паравы млын; створана вал. спажывецкае т-ва з сеткай гандл. крам; школа пісьменнасці для дарослых, хата-чытальня (405 кніг); у сяле — школа 1-й ступені (у 1922/23 навуч. годзе 2 настаўнікі, 93 вучні, будынак уласны). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Грэскім р-не Слуцкай акругі, 69 двароў, 340 жыхароў; у саўгасе «Пукава» 48 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Баявік», дзейнічалі малочны з-д, вятрак, млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1942 г. загубілі 46 жыхароў, у 1943 г. часткова спалілі вёску. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5.1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 660 жыхароў, у сельсавеце 2446 жыхароў. 16.1.1969 г. створаны Камсамольскі с/с. У 1971 г. 180 двароў, 553 жыхары, цэнтр калгаса імя Леніна, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. раённага камбіната быт. абслугоўвання, аптэка, магазін. У 1997 г. 177 гаспадарак, 487 жыхароў, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі. У 2007 г. 151 гаспадарка, 340 жыхароў, цэнтр філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім 6 гурткоў і 2 клубныя фарміраванні), б-ка (і пры ёй 3 клубныя фарміраванні), спарт. зала і пляцоўка, сталовая, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, філіял АСБ «Беларусбанк», фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт ААТ «Капыльскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання». Дзейнічае арг-цыя ветэранаў працы. Брацкая магіла сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, помнік землякам.

**КАНАТОПЫ** — вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Капыля, 135 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Труд

на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Канатопы. Побач працякае р. Тамашоўка. 26 гаспадарак, 35 жыхароў (2010).

Вядомы з 17 ст. Паводле інвентару фальварка Скеп'ева за 1638 г., вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 8 валок ворнай зямлі. Сяляне адбывалі паншчыну, плацілі чынш, давалі дзякла. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губерні. У 1800 г. 21 двор, 113 жыхароў, вадзяны млын, карчма, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1816 г. 13 двароў. У 1897 г. вёска на Нясвіжскім паштовым тракце, цэнтр сельскай грамады ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 40 двароў, 219 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1902 г. адбываліся сял. хваляванні ў сувязі з забаронай сялянам карыстацца ўрочышчам Баршчэўскі Гай. У 1917 г. 39 двароў, 253 жыхары. У 1909 г. вёска, 39 двароў, 270 жыхароў. У лютым 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 25 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 50 двароў, 339 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 25 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Вялікараеўскім с/с, 210 жыхароў. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 78 жыхароў, у калгасе «Праца». У 2007 г. 32 гаспадаркі, 46 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс».

**КАНДРАТАВІЧЫ** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Капыля, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Кандратавічы. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1557 г. згадваюцца з нагоды падзелу маёнткаў Капыльскага княства паміж братамі Алелькавічамі: Сямёну Алелькавічу ў ліку іншых дастаўся маёнтак Кандратавічы ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У канцы 18 ст. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце, 60 двароў, 288 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. таго ж павета, засценак — 10 двароў, 72 жыхары, маёнтак — 3 двары, 13 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак (4 двары, 40 жыхароў) і маёнтак (3 двары, 20 жыхароў). У 1917 г. маёнтак, 14 двароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас імя Сталіна, была кузня. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У 1924 г. пасёлак, 41 двор, 228 жыхароў; у 1926 г. 9 двароў, 56 жыхароў. У 1941 г. 42 двары, 197 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снеж. 1943 г. спалілі яго і загубілі 8 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 38 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5. 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 248 жыхароў. З 16.1.1969 г. ў Камсамольскім с/с. У 1997 г. 35 гаспадарак, 65 жыхароў, у калгасе імя Леніна. У 2007 г. 31 гаспадарка, 51 жыхар, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Магіла партызана, які загінуў у крас. 1943 г.

**КАНЮХІ** — вёска ў Грозаўскім с/с, каля р. Лакнея. За 23 км на У ад Капыля, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Кандратавічы і далей па аўтадарозе Рымаўшчына—Грозава—Канюхі. 78 гаспадарак, 288 жыхароў (2010).

У канцы 16 ст. сяло Канюхова ў Капыльскім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. сяло і фальварак; карчма, млын. У 1800 г. 22 двары, 123 жыха-

ры, вадзяны млын; у фальварку драўляны панскі дом з садам, вінакурня, карчма, шляхецкая ўласнасць. У 1816 г. вёска, 20 двароў, уласнасць Вайніловічаў, у сярэдзіне 19 ст. — Грэгаровіча. У 1909 г. вёска ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 59 двароў, 384 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 65 двароў, 374 жыхары; у маёнтку — 77 жыхароў. У 1920 г. працавала школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 44 вучні). На базе маёнтка да 1928 г. створаны калгас «Радзіма», які меў 12 дзес. ворыва, дзейнічалі піваварны з-д, сыраварня, вяндлярня, кузня. З 20.2. 1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «20 гадоў Кастрычніка». З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 23 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1971 г. вёска, 127 двароў, 747 жыхароў, цэнтр калгаса «Радзіма»; сярэдняя школа, інтэрнат, клуб, б-ка, магазін. У 1997 г. 104 гаспадаркі, 403 жыхары. У 2007 г. 84 гаспадаркі, 285 жыхароў, у складзе СВК «Праснакі». Працуюць (2010) філіял дзіцячай школы мастацтваў, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў пач. ліп. 1944 г.; помнік землякам і ахвярам фашызму. Помнік архітэктуры — сядзіба Вайніловічаў (захаваліся фрагменты парку, вадаёма, афіцыны).



У скверы в. Канюхі.



Краявід каля в. Канюхі.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка, літаратуразнаўца А.Адамовіча (1927—94).

**КАРАЛІНКА** — пасёлак у Браткаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Капыля, 142 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі—Комсічы—Навасёлкі. 17 гаспадарак, 52 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. маёнтак Каралін у Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 фальваркі, у якіх было 50 жыхароў. У 1907 г. засн. вінакурны з-д. У 1917 г. ў той жа воласці фальваркі Каралін 1, 5 двароў, 23 жыхары; Каралін 2, 7 двароў, 29 жыхароў. У 1908 г. фальварак Даманскага, 1 двор, 26 жыхароў; фальварак кн. Радзівіла, 1 двор, 25 жыхароў. У 1921 г. на базе нацыяналізаваных фальваркаў створана сав. гаспадарка, 12 дзес. зямлі, 20 — ворыва; працавалі млын, вінзавод. З цягам часу на яго сядзібе склаўся пасёлак. У 1924 г. 10 двароў, 44 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Слуцкай акругі, затым у Капыльскім с/с. З 20.2.1938 г.

ў Капыльскім р-не Мінскай вобл. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак ў Браткаўскім с/с, 49 жыхароў, у калгасе «1 Мая». У 1997 г. 22 гаспадаркі, 68 жыхароў. У 2007 г. 18 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе ААТ «Капыльскае».

**КАРАЧОЎШЧЫНА** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Капыля, 118 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Карачоўшчына. 53 гаспадаркі, 91 жыхар (2010).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 35 двароў, 185 жыхароў, была капліца, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска ў Грэскай вол. таго ж павета, 54 двары, 319 жыхароў, капліца. У пач. 20 ст. 56 двароў, 240 жыхароў. У 1917 г. 63 двары, 353 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, у 1921 г. 1 настаўнік, 30 вучняў; у вёсцы 2 млыны. З 20.8.1924 г. ў Труханавіцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 71 двор, 394 жыхары. У пач. 1930-х г. працавалі калгас «Вольная праца», 2 ветракі, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 29 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.1. 1969 г. ў Капыльскім р-не, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 77 гаспадарак, 144 жыхары. У 2007 г. 62 гаспадаркі, 111 жыхароў, у складзе СВК «Каменскі». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. Помнік архітэктуры — царква на могілках (2-я пал. 19 ст.).

**КАРЗУНЫ** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Капыля, 99 км ад Мінска, на шашы Узда—Старыца. 52 гаспадаркі, 103 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. засценак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 5 двароў, 30 жыхароў. У 1917 г. было 13 двароў, 32 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 16 двароў, 102 жыхары. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Новы быт». З 8.7.1931 г. ў Капыльскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. вёска, 60 двароў, 279 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 28.4.1944 г. спалілі яе і загубілі 21 мірнага жыхара. На фронце загінуў 21 жыхар. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 90 жыхароў. У 1997 г. 74 гаспадаркі, 154 жыхары. У 2007 г. 57 гаспадарак, 110 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма засл. настаўніцы БССР А.А.Булат (1924—98).

**КАЦЕЛЬНІКІ** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 4 км на З ад Капыля, 124 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Пацейкі. 30 гаспадарак, 69 жыхароў (2010).

Упершыню згадваюцца ў 16 ст. У 1588 г. вёска, шляхецкая ўласнасць, затым належала Койданаўскаму касцёлу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Случарэцкім, з 1795 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 39 жыхароў, была карчма. У сярэдзіне 19 ст. вёска і маёнтак. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, вёска — 17 двароў, 138 жыхароў; 3 фальваркі — 5 двароў, 47 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 24 двары, 144 жыхары; у маёнтку 22 жыхары. У 1917 г. 25 двароў, 146 жыхароў. У кастр. 1919 г. ў час летне-асенняга наступлення палякаў у раёне вёскі дзейнічаў пар-



*А.Адамовіч.*



Л.М.Рацько.

тыз. атрад, створаны Капыльскім вал. рэўкомам. У 1921 г. ў маёнтку 100 жыхароў, у 2 фальварках — 12 жыхароў. У пач. 1920-х г. на іх базе створана сав. гаспадарка. У 1924 г. ў Капыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 27 двароў, 157 жыхароў. У пач. 1930-х г. у Старакапыльскім с/с, створаны калгас імя Куйбышава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Пацейкаўскім с/с, 176 жыхароў, у калгасе «Пралетарый». У 1997 г. 43 гаспадаркі, 92 жыхары. У 2007 г. 32 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе СВК «Душава».

Вёска — радзіма засл. настаўніцы БССР Г.А.Майсеевай.

**КЕЛЬ** — вёска ў Капыльскім с/с, за 6 км на ПдУ ад Капыля, 126 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Кель. На ПнЗ і Пд меліярацыйныя каналы. 47 гаспадарак, 111 жыхароў (2010).

У 18 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1738 г. 5 дымоў; фальварак — уласнасць Слуцкага касцёла. У 1760 г. ў ліку фальваркаў Міх. Радзівіла. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1847 г. 13 двароў, карчма, вятрак. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. таго ж павета, вёскі Старая Кель — 40 двароў, 232 жыхары; Новая Кель — 14 двароў, 91 жыхар; фальварак Кель Новая. У 1909 г. ў в. Старая Кель 30 двароў, 222 жыхары; Кель Новая — 12 двароў, 67 жыхароў; у фальварку — 5 жыхароў. У 1917 г. ў в. Старая Кель — 38 двароў, 181 жыхар; у в. Новая Кель — 13 двароў, 57 жыхароў. 20.8.1924 г. ў Капыльскім с/с і раёне Слуцкай акругі. У 1924 г. ў в. Старая Кель 44 двары, 210 жыхароў, у в. Новая Кель 11 двароў, 52 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Гікалы, былі кузня, вятрак. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Вялешынскім, з 24.5.1960 г. ў Капыльскім сельсаветах, вёскі Старая Кель (188 жыхароў) і Новая Кель (34 жыхары). У 1997 г. 53 гаспадаркі, 131 жыхар. У 2007 г. 41 гаспадарка, 111 жыхароў, у складзе СВК «Скабін». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма бел. мастака-дызайнера Л.М.Рацько (н. ў 1951).

Л.Рацько. Лета.



**КІСЯЛІ** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Капыля, 114 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Камсамольская і далей па прасёлачнай дарозе. На Пн меліярацыйны канал. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. засценак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 5 двароў, 30 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 14 двароў, 74 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жы-

хароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не, з 24.5.1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, 64 жыхары. З 16.1. 1969 г. ў Камсамольскім с/с таго ж раёна. У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2007 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Археал. помнік — курганны могільнік.

**КІЯВІЧЫ** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 1 км на ПдЗ ад Капыля, 41 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы—Лешня—Домантавічы. 60 гаспадарак, 96 жыхароў (2010).

У 1752 г. згадваюцца драўляная царква і сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 60 двароў, 271 жыхар, царква драўляная ў імя Мікалая Цудатворца, карчма, фальварак, уласнасць Магільніцкага. У 1868 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча (у 1892 г. 61 хлопчык, 1 дзяўчынка). У 1882 г. пабудавана (на месцы былой драўлянай) мураваная Ушэсцеўская царква, цэнтр воласці Слуцкага павета Мінскай губ., 35 двароў, 180 жыхароў (1885), праваслаўная царква, 2 капліцы, нар. вучылішча. У 1897 г. сяло, 65 двароў, 410 жыхароў, вал. праўленне, царква, хлебазапасны магазін; фальварак — 3 двары, 25 жыхароў (уласнасць Ф.Клімава). У пач. 20 ст. вёска, 88 двароў, 496 жыхароў; у 1917 г. 111 двароў, 609 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, у жн. 1919 — ліпені 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі інтэрвентамі. У пач. кастр. 1920 г. каля Кіявіч вялі абарончыя бai часці 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. З 2-й пал. ліст. да 4.12.1920 г. вёска занята эсэраўскімі антысав. атрадамі «Зялёнай арміі» Слуцкай рады. У снеж. 1920 г. воласць вызвалена войскамі 8-й стралк. дывізіі і ўвайшла ў раённую зону Семежаўскага рэўкома. У ліст. 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 40 вучняў у 1921 г.). З 20.8. 1924 г. сяло ў Лешненскім с/с Капыльскага р-на, 110 двароў, 612 жыхароў. У 1924 г. ў школе 2 настаўнікі, 93 вучні, працавалі піянерская арг-цыя (25 вучняў), культ.-асв., драматычны гурткі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны пагранічнік», меў 2 ветракі, кузню. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут варожы гарнізон. У вер. 1943 г. ён разгромлены партызанамі 27-й брыгады імя Чапаева. 3.6.1944 г. вёска часткова спалена. Вызвалена 1.7.1944 г. Пры вызваленні вёскі загінулі 16 сав. воінаў. У 1965 г. на іх магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с. У 1960 г. вёска, 487 жыхароў. У 1972 г. 120 двароў, 341 жыхар; цэнтр калгаса «Гвардзеец». Працавалі лесапільня, млын, пач. школа, клуб, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. У 2007 г. 70 гаспадарак, 115 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Помнік на брацкай магіле сав. воінаў і пар-



*Царква Ушэсця (2-я палова 19 ст.) у в. Кіявічы.*

тызан. Помнік архітэктуры — царква Ушэсця (2-я пал. 19 ст.).

**КЛЕЦІШЧА** — пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Печураны і далей па аўтадарозе Лоцвіны—Цялядавічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ.; у 1870 г. 21 жыхар мужчынскага полу. У 1897 г. 9 двароў, 63 жыхары, капліца на могілках. У 1908 г. 8 двароў, 97 жыхароў; у 1917 г. 13 двароў, 80 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 13 двароў, 62 жыхары. У 1926 г. засценак — 12 двароў, 67 жыхароў; хутар — 2 двары, 11 жыхароў. У пач. 1930-х г. у калгасе імя Красіна. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. ў Лаўскім лесе базіравалася партыз. брыгада імя Варашылава (камандзір П.П.Капуста). У вёсцы размяшчаліся передавая застава брыгады (узвод на чале з В.І.Драздовічам) атрада імя Катоўскага, партыз. шпіталь. 3.12.1942 г. фашысты зрабілі спробу знішчыць брыгаду. Застава В.І.Драздовіча больш 4 гадзін стрымлівала акупантаў каля вёскі, дала магчымасць брыгадзе вывезці шпіталь і адарвацца ад фашыстаў. У баі партызаны заставы (18 чал.) загінулі разам са сваім камандзірам. Вёска вызвалена 1.7.1944 г. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 37 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2007 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Брацкая магіла партызан (у т.л. В.І. Драздовіча).

**КОМСІЧЫ** — вёска ў Браткаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Капыля, 138 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі—Комсічы. З У на Пд праходзіць меліярацыйны канал. 63 гаспадаркі, 130 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 34 двары, 188 жыхароў; фальварак, бровар, шляхецкая ўласнасць. У 1880-я г. ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 41 двор, 256 жыхароў, праваслаўная царква, млын. У 1897 г. 70 двароў, 474 жыхары, царква, млын. З 1884 г. працавала школа граматы, з 1890 г. другая такая ж, у якой навучаліся 24 хлопчыкі. У 1897 г. было 70 двароў, 474 жыхары, млын, царква (на могілках). У 1917 г. 90 двароў, 525 жыхароў. Са снеж. 1920 г. ў раёне нейтральнай зоны Семежаўскага рэўкома. У 1921 г. працавала школа 1-й ступені (1920), мела 3 дзес. ворыва. З 20.8. 1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на, вёска, 104 двары, 520 жыхароў. У 1921—25 гг. у школе 1-й ступені (бел.) 1 настаўнік (Я.С.Аляшкевіч), 42 вучні. З 1926 г. ў Прускім с/с таго ж раёна. З 20.2.1938 г. ў Капыльскім р-не Мінскай вобл. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Май»; былі кузня, дзіцячыя яслі. У 1940 г. працавала няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінуў 51 жыхар. З 20.9. 1944 г. ў Капыльскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Браткаўскім с/с, 457 жыхароў, у калгасе «1 Мая». У 1997 г. 96 гаспадарак, 232 жыхары, магазін. У 2007 г. 71 гаспадарка, 167 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуюць (2010) клуб (і пры ім 4 клубныя фарміраванні), б-ка, магазін. Помнік архітэктуры — царква Раства Багародзіцы (сярэдзіна 19 ст.).

**КРАСІНА** (да 1926 г. Кулакі) – вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Капыля, 140 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі–Комсічы, потым па дарозе цераз мост. На З працякае р. Мажа. 31 гаспадарка, 63 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 29 двароў, 195 жыхароў, карчма, уласнасць М.Радзівіла. У 1885 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў). У 1897 г. цэнтр сельскай грамады ў Быстрыцкай вол. таго ж павета, 52 двары, 403 жыхары, хлебазапасны магазін, царква. У 1917 г. вёска ў Кіявіцкай вол. таго ж павета, 68 двароў, 457 жыхароў. У час польскай інтэрвенцыі 15.7.1920 г. разрабавана і спалена. З 20.8. 1924 г. ў Лешненскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 81 двор, 415 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Шлях Леніна» (старшыня П.Марук). З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Блеўчыцкім с/с, 332 жыхары, у калгасе імя Ульянава. У 1997 г. 57 гаспадарак, 104 жыхары. У 2007 г. 41 гаспадарка, 72 жыхары, у складзе ААТ «Капыльскае».

**КРАСНАЯ ГОРКА** – пасёлак у Грозаўскім с/с, за 24 км на У ад Капыля, 144 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Грозава–Красная Горка. Побач граніца Слуцкага р-на.

Вядома з 1920-х г. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 48 жыхароў. У 1977 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2007 г. ў складзе СВК «Праснакі». Зараз у пасёлку ніхто не жыве.

**КРЫВОЕ СЯЛО** – вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Пацейкі–Крывое Сяло. На ПнУ меліярацыйны канал. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак Крываселле, 6 двароў, 23 жыхары, шляхецкая ўласнасць, была карчма. У 1897 г. ваколіца Крывое Сяло ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 20 двароў, 98 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земскае вучылішча, у 1920 г. – школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 63 вучні; у вёсцы быў млын. У 1924 г. засценак, 14 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. чырвонаармейцы стварылі калгас «Пралетарый», былі дзіцячыя яслі, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска Крывое Сяло, 95 жыхароў, у калгасе «Пралетарый». У 1997 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар. У 2007 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе СВК «Душава».

**КРЫНІЦА** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Капыля, 102 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца і далей па аўтадарозе Харытонаўка–Крыніца. 25 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У сярэдзіне 19 ст. вёска, уласнасць графа А.Гінтэра; у 1858 г. 36 жыхароў. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, вёска, 22 двары, 148 жыхароў. У пач. 20 ст. 34 двары, 202 жыхары. У 1917 г. 37 двароў, 215 жыхароў. У 1924 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 42 двары, 216 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны свінаводчы калгас «Баявік», былі дзіцячыя яслі, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай



*С.В.Дубовік.*

вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Пясочанскім с/с, 176 жыхароў, цэнтр саўгаса «Крыніца». У 1997 г. 35 гаспадарак, 75 жыхароў. У 2007 г. 27 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд».

Вёска — радзіма бел. журналіста, публіцыста С.В.Дубовіка.

**КУДЗІНАВІЧЫ** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 16 км на З ад Капыля, 136 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Пацейкі—Кудзінавічы. 48 гаспадарак, 80 жыхароў (2010).

Упершыню згадваюцца з 16 ст. як сяло ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1594 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім, з 1795 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 38 двароў, 220 жыхароў; фальварак, была вінакурня; уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1848 г. маёнтак, вотчына Яблонскіх, 32 цяглыя двары, 257 душ сялян абодвух полаў, з іх 12 дваровых. Агульная пл. маёнтка складала 1026 $^2/_3$ дзес., з іх ворыва ў памешчыка 223 $^1/_3$ дзес., сяляне на двор мелі па 14 $^1/_3$ дзес. ўгоддзяў (усяго 458 $^2/_3$ дзес.), 36 коней, 91 вала, 31 карову, 8 борцяў пчол, дзейнічалі конны і ветраны млыны, карчма, вінакурня, хлебазапасны магазін. У 1870 г. пабудавана царква ў імя Хрыста Збавіцеля. У 1886 г. адкрыта школа граматы (з 1912 г. 1-класнае нар. вучылішча). У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, вёска, 73 двары, 471 жыхар, 2 ветракі, кузня; маёнтак — 27 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 67 двароў, 419 жыхароў, у маёнтку 35 жыхароў. У 1917 г. 81 двор, 508 жыхароў, у маёнтку — 20 двароў, 116 жыхароў. У пач. 1919 г. маёнтак нацыяналізаваны, на яго сядзібе адкрыта прац. школа 1-й ступені. У 1921 г. на базе маёнтка створана сав. гаспадарка, была кузня. З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 117 двароў, 708 жыхароў (1924). У школе (бел.), якая месцілася ў б. панскім доме маёнтка, 1 настаўнік (А.Л. Даўгапол), 40 вучняў, мела 9,25 дзес. зямлі для настаўніка, былі б-ка, чытальня, школьны інтэрнат, дзейнічаў сама-дзейны тэатр. У пач. 1930-х г. створаны

*Царква Раства Хрыстова (2000-я г.) і камень з высечаным крыжам каля яе ў в. Кудзінавічы.*





калгасы «Чырвоная мяжа» (вятрак) і «Гігант» (кузня). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 55 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 490 жыхароў, у калгасе «Прагрэс». У 2007 г. 57 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе СВК «Пацейкі»; дзейнічае царква. На могілках пахаваны афіцэр П.Я.Івашчанка (загінуў у ліп. 1944 г.) і 4 партызаны брыгады 300-й імя Варашылава (загінулі ў 1943 г.).

Вёска — радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі БССР В.І.Каравая (н. ў 1940).

**КУКАВІЧЫ** — вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 17 км на З ад Капыля, 137 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Калодзезнае—Кукавічы. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаюцца ў 15 ст. У 1492 г. сяло ў складзе маёнтка Нясвіж, шляхецкая ўласнасць. У 1579 г. маёнтак, уласнасць Маклокаў, прададзены М.Радзівілу. У 1791 г. ў Случарэцкім, потым у Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 24 двары, 141 жыхар, карчма; двор — 6 жыхароў, вінакурня, вятрак. У сярэдзіне 19 ст. ўладанне царквы. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 13 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета; вёска — 58 двароў, 311 жыхароў, кузня, 3 ветракі, хлебазапасны магазін, Крыжаўзвіжанская царква, піцейны дом; маёнтак — 38 жыхароў; карчма — 5 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска ў Пацейкаўскай вол., 48 двароў, 264 жыхары. У 1910 г. адкрыта земская школа (з 1916 г. 1-класнае нар. вучылішча). У 1916 г. вёска, 56 двароў, існаваў маёнтак; у 1917 г. ў вёсцы 58 двароў, у маёнтку — 20 двароў. У пач. 1919 г. маёнтак нацыяналізаваны, створана сав. гаспадарка па забеспячэнні Чырвонай Арміі. З сак. 1921 г. ў памежнай зоне. 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на, вёска, 60 двароў, 318 жыхароў. У школе 1-й ступені 1 настаўнік, 50 вучняў (настаўнік Ф.Вашкевіч), працаваў с.-г. гурток; будынак арэндны. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Памяць Леніна», дзейнічалі ветраны млын, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 24 жыхары. У 1960 г. вёска, 229 жыхароў. У 1997 г. 32 гаспадаркі, 49 жыхароў. У 2007 г. 19 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца». На могілках пахаваны 400 воінаў, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1944 г. Помнік архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка І.І.Канановіча (н. ў 1938).



*І.І.Канановіч.*

**КУЦАЎШЧЫНА** — вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Капыля, 136 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Калодзезнае—Куцаўшчына. 30 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1870 г. вёска Куцаўшчызна, 74 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 51 двор, 302 жыхары, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 48 двароў, 310 жыхароў. У 1907 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1917 г. 61 двор, 353 жыхары; школа пераўтворана ў земскае нар. вучылішча. У 1924 г. 71 двор, 349 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1924/25 навуч. годзе ў школе (будынак арэндны) 1 настаўнік (С.Ф.Макар-

чук), 59 вучняў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Сталіна, працавалі дзіцячыя яслі, кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 27 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 291 жыхар, у калгасе «Памяць Леніна». У 1997 г. 50 гаспадарак, 98 жыхароў. У 2007 г. 34 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца».

**ЛАВЫ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, каля р. Тур'я, за 24 км на Пн ад Капыля, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Бабоўня і далей па аўтадарозе Лоцвіны—Лавы. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

У апошняй трэці 18 ст. ў Слуцкім княстве Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ, вёска, 43 двары, 137 душ мужчынскага полу, карчма. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска Лава, 40 двароў, 202 жыхары, маёнтак Д.Радзівіла, быў вадзяны млын. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, вёска, 22 двары, 131 жыхар. У 1909 г. 24 двары, 113 жыхароў; у 1917 г. 27 двароў, 157 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (бел.), у 1924 г. 1 настаўнік, 70 вучняў; будынак уласны. З 20.8. 1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 25 двароў, 133 жыхары. У 1929 г. створаны калгас імя Энгельса, былі вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. на тэр. сельсавета базіравалася партыз. брыгада імя Варашылава. 3.12. 1942 г. фашысты зрабілі спробу знішчыць партызан. На іх шляху на подступах да базы партызан (Лаўскі лес) прынялі бой байцы ўзвода пад камандаваннем В.І.Драздовіча (18 чал.) з атрада імя Катоўскага. У ходзе 4-гадзіннага жорсткага бою застава адбіла 8 атак ворага; калі скончыліся боепрыпасы, адбіваліся ўрукапашную. Такім чынам яны выратавалі шпіталь у вёсцы, далі магчымасць брыгадзе вырвацца з варожага кальца і прадоўжыць барацьбу. В.І.Драздовічу 8.5.1965 г. пасмяротна было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На фронце загінулі 7 жыхароў. Вызвалена вёска 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 55 жыхароў. У 1997 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 2007 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**ЛАЗЮКІ** — пасёлак у Доктаравіцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад Капыля, 127 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Лазюкі. На У і ПдУ меліярацыйныя каналы. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 9 двароў, 47 жыхароў. У 1816 г. каля 10 двароў. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета; хутар — 9 жыхароў, леснічоўка — 10 жыхароў. У 1908 г. ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, хутар (26 жыхароў), існаваў фальварак. У 1917 г. 4 двары, 31 жыхар. У 2-й пал. 1918 г. фальварак нацыяналізаваны, у 1921 г. створана сав. гаспадарка, на яе сядзібе склаўся пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 12 двароў, 50 жыхароў. З 1929 г. ў Ванелевіцкім с/с (цэнтр — в. Доктаравічы) таго ж раёна. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вай-

ну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.- фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с. У 1960 г. пасёлак, 76 жыхароў, у калгасе «Піянер». У 1997 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2007 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе СВК «Ванелевічы».

**ЛЕВАНОВА** – былы пасёлак у Пацейкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Печураны і далей па аўтадарозе Бабавенка–Ржаўка.

Вядома з пач. 20 ст. як фальварак у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 1 двор, 20 жыхароў. Пасля 1917 г. пасёлак. У 1926 г. 3 двары, 16 жыхароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Новы шлях». У 1933 г. быў ветраны млын. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2007 г. ў складзе СВК «Душава».

**ЛЕНІНА** – пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 16 км на Пн ад Капыля, 108 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца і далей па аўтадарозе Харытонаўка–Вялешына 1, потым па прасёлачнай дарозе. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Склаўся ў 1920-я г. У 1926 г. 5 двароў, 30 жыхароў, пасёлак у Пясочанскім с/с. У 1960 г. 30 жыхароў. З 8.6. 1963 г. ў Бабаўнянскім с/с. У 1997 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 2007 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**ЛЕТКАЎШЧЫНА** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, каля р. Выня, за 12 км на Пн ад Капыля, 115 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Леткаўшчына. 37 гаспадарак, 79 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. фальварак Літкоўшчына ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. маёнтак у Цялядавіцкай вол. таго ж павета, 20 жыхароў, у 1909 г. 8 жыхароў. У 1916 г. 28 двароў. У 1917 г. вёска, 28 двароў, 171 жыхар. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 38 вучняў). На базе маёнтка створана сав. гаспадарка, мела 60 дзес. ворыва, была кузня. У 1924 г. ў вёсцы 37 двароў, 173 жыхары. 20.8.1924 г. ў Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Праўдзівы шлях», былі кузня, сталярная майстэрня, дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 28 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 229 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 1997 г. 56 гаспадарак, 104 жыхары. У 2007 г. 42 гаспадаркі, 80 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Працуе (2010) магазін.

**ЛЕШНЯ** – вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Капыля, 139 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы–Лешня. 141 гаспадарка, 362 жыхары (2010).

Вядома з 16 ст. як с. Лешна ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1730 г. была карчма з піваварняй. У канцы 18 ст. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 105 двароў, 603 жыхары, карчма, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1807 г. пабудавана драўляная Георгіеўская царква. У 1816 г. каля 80 двароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1868 г. адбыліся сял. хваляванні пры спробе ўлад патрабаваць ад сялян аплаты часткі падатку. У 1184 г. адкрыты 2 школы граматы (у



В.Ф.Чыгір.



М.У.Шэіна.



Георгіеўская царква ў в. Лешня.

1890 г. 34 хлопчыкі). У 1885 г. 96 двароў, 891 жыхар. У 1897 г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Быстрыцкай вол., 177 двароў, 1226 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У 1909 г. 190 двароў, 1274 жыхары. У 1910-я г. пабудавана на месцы былой новая Георгіеўская царква. У 1912 г. школы граматы пераўтвораны ў 1-класнае нар. земскае вучылішча. У 1917 г. ў Кіявіцкай вол., 227 двароў, 1338 жыхароў. У жн. 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, 4 настаўнікі, 130 вучняў. У сяле 3 прыватныя млыны. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на. У 1924 г. 236 двароў, 1285 жыхароў. Школа месцілася ў б. доме святара царквы, 2 настаў- нікі, 114 вучняў; мела 3 дзес. ворыва. На пач. 1930-х г. створаны калгас імя Ульянава, былі 4 ветракі, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. загубілі 13 жыхароў, у чэрв. 1944 г. спалілі вёску. З 16.7.1954 г. ў Блеўчыцкім с/с Капыльскага р-на Мінскай вобл. У 1960 г. 785 жыхароў. У 1972 г. 223 двары, 621 жыхар, цэнтр калгаса імя Ульянава; працавалі ветпункт, сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 198 гаспадарак, 455 жыхароў. У 2007 г. 174 гаспадаркі, 415 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуюць (2010) дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка (і пры ёй гурток па вышыўцы), спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Брацкая магіла 2 партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; помнік землякам. Помнік архітэктуры — Георгіеўская царква (пач. 20 ст.).

Вёска — радзіма П.А.Жалезняковіча (1906–71), удзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну; В.Ф.Чыгіра (н. ў 1924), засл. юрыста Беларусі.

**ЛІПНІКІ** — пасёлак у Слабада-Кучынскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Капыля, 101 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца і далей па аўтадарозе Харытонаўка—Ліпнікі. На Пд меліярацыйны канал. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. ўласнасць кн. Радзівіла. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 5 двароў, 32 жыхары. У 1917 г. 7 двароў, 32 жыхары. З 20.8.1924 г. засценак у Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 6 двароў, 28 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак, 54 жыхары, у саўгасе «Крыніца». У 1997 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд».

**ЛОЦВІНЫ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Бабоўня. На Пн працякае р. Глініца. 118 гаспадарак, 253 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёскі Лоцвіны 1 — 59 двароў, 286 жыхароў; Лоцвіны

2 — 3 двары, 13 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны. У сярэдзіне 1880-х г. вёска ў Цялядавіцкай вол., 64 двары, 512 жыхароў. У 1897 г. вёска, 106 двароў, 743 жыхары, былі хлебазапасны магазін, 2 ветракі, 2 кузні. У 1917 г. 128 двароў, 756 жыхароў. З 19.11.1920 г. да пач. 1921 г. ў нейтральнай зоне, займалася атрадамі «Зялёнай арміі» эсэраўскай Слуцкай рады. 4.12.1920 г. вызвалена войскамі 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі і ўвайшла ў нейтральную зону Пясочанскага рэўкома. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 133 двары, 732 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Ільіч», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 94 гаспадаркі, 4 вытв. брыгады, меліся сталовая, кузня, ваўначоска, 3 ветракі, лазня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 52 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 657 жыхароў. У 1997 г. 152 гаспадаркі, 363 жыхары, магазін. У 2007 г. 132 гаспадаркі, 290 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня». Працуюць (2010) Дом культуры (і пры ім 8 клубных фарміраванняў), б-ка, магазін.

Вёска — радзіма бел. журналісткі, б. нам. старшыні Капыльскага райвыканкома М.У.Шэінай (н. ў 1958).

**ЛУГАВАЯ** (да 1964 г. Стары Двор) — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, каля р. Лоша, за 21 км на ПнУ ад Капыля, 106 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца і далей па аўтадарозе Харытонаўка—Крыніца—Лугавая. 37 гаспадарак, 81 жыхар (2010).

У 1760 г. вёска і фальварак Свінка ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць М.К.Радзівіла (Рыбанькі). У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 108 жыхароў; фальварак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ў Старыцкай вол. таго ж павета, 35 душ. У 1885 г. адкрыта школа граматы (5 вучняў). У 1917 г. вёска Свінка (яна ж Чашнікі) у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, 39 двароў, 213 жыхароў. Восенню 1919 г. ў час летне-асенняга наступлення польскіх інтэрвентаў Капыльскім вал. рэўкомам у вёсцы створаны і дзейнічаў партыз. атрад. У 1921 г. на ўгоддзях б. фальварка (Стары Двор) створана с.-г. т-ва «Ясная Зорка», мела 15 дзес. ворыва; адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 40 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 19 жыхароў (Стары Двор). У 1926 г. камуна Стары Двор, калгас «Працаўнік», 4 двары, 23 жыхары. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Бальшавік», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 25 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Пясочанскім с/с таго ж раёна, 341 жыхар, у саўгасе «Прамень». З 1964 г. вёска Лугавая. У 1997 г. 52 гаспадаркі, 135 жыхароў. У 2007 г. 45 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка В.П.Сташэўскага (1895—1937); разведчыцы, сувязной партыз. атрада «За Радзіму» ў Вял. Айч. вайну А.І.Мамчыц; бел. мовазнаўцаў М.І.Гурскага (1905—72) і К.І.Гурскага (1907—43), якія загінуў у Вял. Айч. вайну; бел. фалькларыста, кандыдата філалагічных навук А.І.Гурскага (н. ў 1936).

**ЛЮТОВІЧЫ** — вёска ў Бучацінскім с/с, каля р. Волка, за 31 км на Пд ад Капыля, 151 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Васілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы—Навасёл-



*А.І.Мамчыц.*



*К.І.Гурскі.*



*В.П.Сташэўскі.*



*А.І.Гурскі.*

кі—Лютовічы. 2 гаспадаркі, 106 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Слуцкім княстве, 7 службаў, шляхецкая ўласнасць. Да сярэдзіны 17 ст. сяло ў складзе маёнтка Вызна ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1800 г. сяло, 42 двары, 258 жыхароў, карчма, вятрак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1890 г. працавала школа граматы (10 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета; вёска — 82 двары, 474 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца; маёнткі Лютаровічы 1 — 4 двары, 21 жыхар; Лютаровічы 2 — 3 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 102 двары, 632 жыхары; у маёнтку 12 жыхароў; у фальварку Лютавічы (ён жа Карытнае) 2 двары, 28 жыхароў. У 1921 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1923/24 навуч. годзе 1 настаўнік, 43 вучні. У вёсцы дзейнічаў 2-і агранамічны ўчастак, які абслугоўваў калгасы Вызнянскай, Старобінскай і Чапліцкай валасцей Слуцкага павета. З 20.8.1924 г. ў Бучацінскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, 133 двары, 691 жыхар. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Прамень». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 41 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска, 706 жыхароў. У 1997 г. 116 гаспадарак, 227 жыхароў, магазін. У 2007 г. 76 гаспадарак, 134 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».



*Мемарыял землякам і Герою Савецкага Саюза В.І.Драздовічу (у цэнтры яго бюст), загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны, у в. Лясное.*

**ЛЯСНОЕ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 14 км на Пн ад Капыля, 119 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Лясное. На ПдУ штучны вадаём. 149 гаспадарак, 393 жыхары (2010).

Склалася ў 1920-я г. як пасёлак. У 1926 г. 11 двароў, 60 жыхароў. У 1960 г. пасёлак, 111 жыхароў. У 1972 г. вёска, 82 двары, 313 жыхароў, цэнтр саўгаса «Лясное»; хлебазавод, лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, дзіцячы сад, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. У 1997 г. 148 гаспадарак, 427 жыхароў. У 2007 г. 141 гаспадарка, 372 жыхары, цэнтр раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Працуюць (2010) дзіцячы сад, сярэдняя школа (і пры ёй піянерская арг-цыя), Дом культуры (і пры ім 8 клубных фарміраванняў), б-ка, спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт ААТ «Капыльскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання», сталовая, прадпрыемства грамадскага харчавання, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Мемарыял землякам.

**МАЖА** — вёска ў Капыльскім с/с, на р. Мажа, за 5 км на Пд ад Капыля, 125 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Мажа. На ПнЗ вадаём. 254 гаспадаркі, 853 жыхары (2010).

Узнікла ў 1920-я г. як пасёлак. У 1926 г. 25 двароў, 117 жыхароў. У 1933 г. створаны калгас імя К.Маркса, была кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі



*На занятках у Капыльскім сельскагаспадарчым прафесійным ліцэі, размешчаным на тэрыторыі в. Мажа.*

48 жыхароў. У 1960 г. вёска, 162 жыхары. У 1972 г. вёска, 176 двароў, 623 жыхары, цэнтр калгаса «Ленінец». Працавалі птушкафабрыка, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 249 гаспадарак, 676 жыхароў. У 2007 г. 243 гаспадаркі, 715 жыхароў, цэнтр СВК «Мажа-Агра». Працуюць (2010) дзярж. ўстановы «Мажскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад—пачатковая школа», «Капыльскі сельскагаспадарчы прафесійны ліцэй» (і пры ім здраўпункт; 169 чал. у 2010 г.), б-ка, Цэнтр традыц. культуры, спарт. зала і пляцоўка, стадыён, 3 сталовыя, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Брацкая магіла чырвонаармейцаў з 2-й стралк. дывізіі 16-й арміі, якія загінулі 9.7. 1920 г. ў баі з польскімі акупантамі; помнік землякам. Археал. помнікі — курганны могільнік, курган.

**МАЗАЛІ** — вёска ў Капыльскім с/с, за 6 км на У ад Капыля, 126 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Мазалі. На ПдЗ меліярацыйны канал. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2010).

У 18 ст. невял. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. сяло і фальварак з карчмой, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1816 г. каля 40 двароў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Кель, уласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, вёска, 37 двароў, 184 жыхары. У 1908 г. ў тых жа воласці і павеце; у 1917 г. 196 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені; у 1921 г. 2 настаўнікі, 107 вучняў, у вёсцы быў млын. У 1923 г. 2-камплектная школа, працаваў культ.-асв. гурток. У 1924 г. 43 двары, 208 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоная ніва». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 177 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне». У 1997 г. 37 гаспадарак, 64 жыхары. У 2007 г. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе СВК «Скабін». Магіла сав. воіна, які загінуў у 1944 г.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, каля р. Мажа, за 2 км на ПдЗ ад Капыля, 141 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі—Комсічы—Малінаўка. На ПдЗ сетка меліярацыйных каналаў. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. вёска ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета, 19 двароў. У 1917 г. 15 двароў, 120 жыхароў. У 1926 г. пасёлак, 20 двароў, 110 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная Малінаўка», была кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. У 1960 г. вёска, 148 жыхароў. У 1997 г. вёска, 17 гаспадарак, 25 жыхароў, у калгасе імя Ульянава. У 2007 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае».

Вёска — радзіма бел. вучонага-біёлага, праф. А.І.Кіені (н. ў 1938).

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Слабада-Кучынскім с/с, за 20 км на Пн ад Капыля, 108 км ад Мінска. Транспартныя

сувязі па шашы Узда—Старыца і далей па аўтадарозе Харытонаўка—Вялешына 1, потым па прасёлачнай дарозе. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У пач. 1920-х г. хутар у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета. У 1924 г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, хутар, 9 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. ў Пясочанскім с/с таго ж раёна, пасёлак, 44 жыхары, у саўгасе «Прамень». У 1997 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2007 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень».

**МАЛІНОВА** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 37 км на Пд ад Капыля, 157 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы—Навасёлкі—Малінова. З Пн на Пд праходзіць меліярацыйны канал. 31 гаспадарка, 51 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 42 жыхары, была карчма; уласнасць кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Варшаўка, уласнасць Радзівілаў. У 1897 г. ў Вызнянскай вол. таго ж павета, вёска, 15 двароў, 105 жыхароў, цэнтр сельскай грамады. У 1917 г. было 120 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Смаліцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, 19 двароў, 127 жыхароў. У пач. 1930-х г. у калгасе «Чырвоны пагранічнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 15 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не, з 24.5.1960 г. ў Бучацінскім с/с. У 1960 г. вёска, 115 жыхароў, у калгасе «Іскра Леніна». У 1997 г. 39 гаспадарак, 79 жыхароў. У 2007 г. 34 гаспадаркі, 66 жыхароў, у складзе СВК «Малінова».

**МАЛЫЯ ПРУСЫ** – вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Капыля, 132 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска Прускі 2 у Цімкавіцкай вол., 25 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 15 двароў, 97 жыхароў. У пач. 20 ст. 18 двароў, 104 жыхары; у 1917 г. 21 двор, 123 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, у 1921 г. 1 настаўнік, 25 вучняў. У 1924 г. вёска Прусы 2, 25 двароў, 122 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Цімкавіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, з 24.9.1926 г. ў Прускім с/с (цэнтр — в. Цімкавічы). У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Маладая гвардыя». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да лета 1943 г. вёска стала партызанскай. На фронце загінулі 11 жыхароў, у партыз. барацьбе — 18 жыхароў (з вёсак Вялікія і Малыя Прусы). З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Цімкавіцкім с/с. У 1960 г. вёска Прусы 2 — 85 жыхароў. У 1981 г. вёска Малыя Прусы ў Вялікараеўскім с/с, у калгасе «Шлях камуны». У 1997 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. У 2007 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс».

**МАЦКЕВІЧЫ** – вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 23 км на Пд ад Капыля, 143 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Дзярэчына—Мацкевічы. На З працякае р. Морач. 57 гаспадарак, 94 жыхары (2010).

У 2-й пал. 18 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць у маёнтку Цімкавічы. У 1795 г. сяло і засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ., дзейнічалі карчма, млын. У 1823 г. на сродкі вяскоўцаў на могілках пабудавана Раства-Багародзіцкая царква. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Быстрыца кн. Л.Радзівіла. У 1885 г. адкрыта паштовая станцыя. У канцы 1880-х г. 51 двор, 517 жыхароў, капліца, школа граматы (у 1890 г. 17 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Быстрыцкай вол. Слуцкага павета, вёска — 102 двары, 697 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; паштовая станцыя — 20 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 113 двароў, 510 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. ў Кіявіцкай вол., вёска — 120 двароў, 792 жыхары; паштовая станцыя — 15 жыхароў. У вер. 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 102 вучні; пры школе меліся 3 дзес. ворыва (ад маёнтка Гулевічы). У вёсцы 3 прыватныя млыны. З 20.8.1924 г. ў Лешненскім с/с Капыльскага р-на, 128 двароў, 693 жыхары. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 1 настаўнік, 67 вучняў, будынак уласны; культ.-асв. гурток. У пач. 1930-х г. працавалі калгас «Прагрэс», кузня, 5 ветракоў. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 46 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Блеўчыцкім с/с, 527 жыхароў, у калгасе імя Ціміразева. У 1997 г. 100 гаспадарак, 179 жыхароў, магазін. У 2007 г. 67 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

Вёска — радзіма Г.В.Міхалковіча (1965—85), камандзіра аддз. мінамётнай батарэі, малодшага сяржанта, які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання.

**МІХАЛЁЎЦЫ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 18 км на У ад Капыля, 115 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Кандратавічы і далей па аўтадарозе Рыматаўшчына—Грозава—Канюхі. На З праходзіць меліярацыйны канал. 14 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

У 1639 г. сяло Міхалевічы ў складзе маёнтка Грозава ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Побач быў узведзены шпіталь для Грозаўскага кляштара. У 1776 г. сяло, 14 дымоў; было здадзена ў арэнду ваўкавыскім маршалкам Я.Быхаўцом на год лідскаму кантару С.Масевічу. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. было 20 двароў, 128 жыхароў, уладанне падкаморага М.Бярновіча. Паводле інвентару маёнтка Грозава, у 1834 г. ў вёсцы былі 24 сял. двары, у 1845 г. 10 двароў (частка жыхароў пераехала ў мяст. Грозаў). Сяляне мелі на двор па 20 моргаў ворыва, 8 моргаў сенажаці і адбывалі за надзелы паншчыну: 3 дні конна, 1 дзень жаночы з двара на тыдзень. У 1897 г. вёска ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 23 двары, 140 жыхароў. У 1916 г. 28 двароў, у 1917 г. 36 двароў, 255 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. польскімі інтэрвентамі. Вызвалена ў 2-й пал. ліст. 1920 г. войскамі 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі і ўвайшла ў склад Грозаўскага вал. рэўкома. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага, пазней Капыльскага р-наў. У 1924 г. 34 двары, 193 жыхары. На пач. 1930-х г. створаны калгас «Звязда», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. У



*Г.В.Міхалковіч.*



*Гарадзішча каля в. Мыслі.*

1960 г. 148 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 1997 г. 23 гаспадаркі, 97 жыхароў. У 2007 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд».

**МЫСЛІ** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, каля р. Выня, за 13 км на ПнЗ ад Капыля, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Душава—Мыслі. На Пд і У меліярацыйныя каналы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ўласнасць казны, 15 двароў, 88 жыхароў. У 1897 г. вёска Мыслі (яна ж Ляўпіцэвічы) у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, 13 двароў, 83 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 86 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 14 двароў, 60 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны гарадок». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 72 жыхары, у складзе калгаса «Пралетарый». У 1997 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2007 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе СВК «Душава». Археал. помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі (4—2-е тыс. да н.э.).



*Комплекс археалагічных знаходак, выяўлены пры раскопках гарадзішча каля в. Мыслі.*

**НАВАСАДЫ** — пасёлак у Капыльскім с/с, за 7 км на У ад Капыля, 127 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Мазалі—Навасады. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

Склаўся ў 1920-я г. У пач. 1930-х г. ў Вялешынскім с/с, у калгасе «Чырвоная ніва». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. У 1960 г. ў Вялешынскім с/с, вёска, 90 жыхароў. У 1997 г. пасёлак, 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у калгасе «Світанне». У 2007 г. 2 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе СВК «Скабін».

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 18 км на Пн ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Лясное і далей па аўтадарозе Лясное—Навасёлкі. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., уласнасць казны. У 1897 г. 24 двары, 171 жыхар, хлебазапасны магазін, вадзяны млын; цэнтр сельскай грамады. У 1908 г. 25 двароў, 435 жыхароў; у 1917 г. 145 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пясочан-

скім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 27 двароў, 157 жыхароў. У пач. 1930-х г. у калгасе «Герой працы». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 21 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 130 жыхароў. З 8.6. 1963 г. ў Бабаўнянскім с/с, у складзе саўгаса «Лясное». У 1997 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў. У 2007 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза В.І.Драздовіча (1911—42), у 1972 г. яму ўстаноўлены помнік.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Браткаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Капыля, 142 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Агароднікі—Комсічы—Навасёлкі. На ПдУ меліярацыйныя каналы. 227 гаспадарак, 491 жыхар (2010).

У 18 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 54 двары, 425 жыхароў, Петрапаўлаўская царква, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Цехава. У 1870 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў). У 1886 г. сяло ў Кіявіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 58 двароў, 357 жыхароў, школа, праваслаўная царква, капліца. У 1897 г. сяло, за 4 вярсты ад Маскоўска-Варшаўскай шашы, 122 двары, 671 жыхар, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. Побач з сялом існавалі фальварак (20 жыхароў) і сядзіба (саломенка; 3 жыхары). У пач. 20 ст. ў сяле 154 двары, 862 жыхары; у 1917 г. 210 двароў, 1138 жыхароў. У ліст. 1920 г. адкрыта 2-камплектная школа 1-й ступені (у 1921 г. 2 настаўнікі, 72 вучні), мела 3 дзес. ворыва. З 20.8.1924 г. ў Крывасялкоўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 182 двары, 987 жыхароў; у школе 2 настаўнікі, 125 вучняў, будынак уласны. У пач. 1930-х г. працавалі калгас «Чырвоны вартаўнік», вятрак. З 20.2.1938 г. ў тым жа раёне Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. загубілі 13 жыхароў. На фронце загінулі 93 жыхары, у партыз. барацьбе — 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Браткаўскім с/с, 854 жыхары. У 1973 г. вёска, цэнтр калгаса «1 Мая»; сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1997 г. 308 гаспадарак, 656 жыхароў. Дзейнічалі машынны двор, ветпункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 2007 г. 245 гаспадарак, 509 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа (і пры ім 7 гурткоў, у т.л. 4 спарт.), цэнтр. Дом культуры (і пры ім 8 клубных фарміраванняў), б-ка, спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт, сталовая, магазін, аддз. сувязі. Помнік на брацкай магіле сав. воінам і партызанам, якія загінулі ў 1943—44 гг.; магіла І.К.Жыжыка, сакратара Капыльскага падп. райкома КП(б)Б, арганізатара і кіраўніка партыз. руху ў Мінскай вобл., які загінуў у 1943 г.; помнік землякам.



*В.І.Драздовіч.*

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 19 км на У ад Капыля, 139 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Кель—Доктаравічы—Навасёлкі. З Пн на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 25 жыхароў; фальварак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1908 г. фальварак, 2 двары, 49 жыхароў. У 1917 г. ў фальварку 15 жыхароў; на хутары 6 двароў, 64 жыхары. У 1924 г. хутар, 16 двароў, 96 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска, 115 жыхароў, у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 15 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2007 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы».

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Капыля, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Душава–Навасёлкі. З Пн на Пд праходзіць меліярацыйны канал. 11 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, у складзе маёнтка Пацейкі. Да 1669 г. ўласнасць Радзівілаў, потым Любамірскіх. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 38 двароў, 192 жыхары, карчма, уласнасць М.Радзівіла. У 1885 г. сяло ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 20 двароў, 228 жыхароў, праваслаўная царква, меўся вятрак. У 1897 г. існавалі фальварак (20 жыхароў) і сядзіба (3 жыхары). У 1908 г. засценак, 37 двароў, 221 жыхар; у 1917 г. 207 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Слуцкай акругі, 47 двароў, 210 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Новы шлях», былі 2 ветракі, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 15 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 163 жыхары, у калгасе «Пралетарый». У 1997 г. 25 гаспадарак, 57 жыхароў. У 2007 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе СВК «Душава».

**НАВАСЁЛКІ** – пасёлак у Бучацінскім с/с, за 29 км на Пд ад Капыля, 149 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы–Навасёлкі. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2010).

Упершыню згадваюцца пад 1691 г. у інвентары двара Цімкавічы. У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 67 жыхароў, карчма; фальварак, у якім была вінакурня, уласнасць кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. 58 жыхароў мужчынскага полу. У пач. 20 ст. маёнтак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета, 33 жыхары; у 1917 г. 17 двароў, 94 жыхары. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны, была створана сав. гаспадарка, мелася кузня. На пач. 1920-х г. на сядзібе саўгаса склаўся пасёлак. У 1924 г. было 26 двароў, 122 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бучацінскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. працаваў калгас імя Войкава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8. 1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. пасёлак, 106 жыхароў, у калгасе імя Войкава. У 1997 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2007 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

**НАВІНКІ** – пасёлак у Блеўчыцкім с/с, за 23 км на Пд ад Капыля, 143 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–

Цімкавічы—Блеўчыцы і далей па аўтадарозе Быстрыца—Навінкі. На З і Пд меліярацыйныя каналы. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

Склаўся ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 13 двароў, 64 жыхары. З 1929 г. працаваў калгас «Навінкі», была кузня. У 1960 г. ў Блеўчыцкім с/с, пасёлак, 62 жыхары. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў, у калгасе імя Ціміразева. У 2007 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

**НАРУЦІ** — вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 23 км на З ад Капыля, 143 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Калодзезнае—Кукавічы—Наруці. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Клецкім княстве Навагрудскага павета, уласнасць Радзівілаў. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 9 двароў, 56 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. належала царкве. У 1897 г. вёска ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 18 двароў, 137 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 106 жыхароў. У 1916 г. 20 двароў, у 1917 г. 21 двор, 134 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, мела 3 дзес. ворыва. З 20.8.1924 г. ў Вялікараеўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 22 двары, 122 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Бязбожнік», былі ветраны млын, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 98 жыхароў, у калгасе «Памяць Леніна». У 1997 г. 12 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2007 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца».

**НІЗКАВІЧЫ** — вёска ў Капыльскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Нізкавічы. На Пн сажалка. 60 гаспадарак, 102 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна, 70 жыхароў мужчынскага полу. У 1872 г. адкрыта школа граматы (у 1880 г. 13 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол., вёска — 46 двароў, 274 жыхары, кузня, вятрак, хлебазапасны магазін; маёнтак — 16 жыхароў. У 1916 г. фальварак і 13 аднайменных хутароў, усяго 14 двароў. У 1917 г. вёска, 56 двароў, 290 жыхароў; у фальварку 1 жыхар; на 8 хутарах — 8 двароў, 51 жыхар. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені, выкладанне вялося на бел. і рус. мовах, будынак уласны; у 1924 г. 1 настаўнік, 40 вучняў. З 20.8. 1924 г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, вёска — 60 двароў, 275 жыхароў; хутар — 10 двароў, 49 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Акцябр», была кузня. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 23 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. было 298 жыхароў. У 1997 г. 85 гаспадарак, 154 жыхары, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 2007 г. 63 гаспадаркі, 107 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуе (2010) магазін.



*Дз.І.Калевіч.*

Вёска — радзіма Дз.І.Калевіча (1967—86), старшага разведчыка, радавога, які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання.

**НОВАЯ ГУТА** — пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Капыля, 121 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Ляснoе і далей па аўтадарозе Старая Гута—Цялядавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з пач. 20 ст. як пасёлак у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, 10

двароў, 195 жыхароў. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2007 г. ў складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Зараз у пасёлку ніхто не жыве.

**НОВЫЯ ДОКТАРАВІЧЫ** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, каля р. Копанка, за 15 км на ПдУ ад Капыля, 135 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Доктаравічы–Аткулавічы. На ПнЗ штучны вадаём. 174 гаспадаркі, 403 жыхары (2010).

У 2-й пал. 1830-х г. у маёнтку Доктаравічы кн. Л.Вітгенштэйна былі фальваркі: Доктаравічы, Пуцяты, Падлессе, Цяцюраўка. Да 1860-х г. на гэтых угоддзях склаўся асобны эканам. асяродак (маёнтак) у Раманаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1898 г. тут засн. вінакурная вытв-сць, меўся паравы рухавік (12 к.с.). У 1903 г. пачаў дзейнічаць вінзавод, які размяшчаўся ў 2 аднапавярховых каменных будынках. У 1905 г. ў маёнтку 1200 дзес. угоддзяў. У 1909 г. 122 жыхары ў маёнтку, у 1910 г. на з-дзе 7 рабочых. У 1917 г. 26 двароў, 131 жыхар. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны. У 1920 г. створаны саўгас «Доктаравічы», адкрыта школа 1-й ступені, 3 настаўнікі, 80 вучняў. З 17.12. 1921 г. ў Ленінскай вол. Слуцкага павета. Да сярэдзіны 1922 г. ў саўгасе 328 дзес. зямлі, у т.л. 170 дзес. ворыва, вінзавод, кузня, было 8 коней. У саўгасе жылі 111 жыхароў (93% неадукаваных), працавалі 38 работнікаў, мелася хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с Слуцкага р-на і акругі. У 1926 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на, у саўгасе 124 жыхары. Гаспадарка саўгаса мела 533,3 дзес. угоддзяў (263,4 ворыва). З 1929 г. ў Ванелевіцкім с/с таго ж раёна. У 1930 г. 1578,5 га угоддзяў (853,2 га ворыва), працавалі 70 работнікаў, былі вінзавод, маслабойня, млын, майстэрня па рамонце трактароў, лакамабіль на 90 кВт; выдавалася насценная газ. «Ударнік бальшавіцкіх тэмпаў». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 40 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлкі саўгаса «Доктаравічы» (412 жыхароў) і спіртзавода «Доктаравічы» (214 жыхароў). З 1969 г. ў Доктаравіцкім с/с. У 1973 г. працавалі спіртзавод, кансервавы цэх, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, ветпункт, аддз. сувязі, магазін, музей. У 1997 г. 203 гаспадаркі, 478 жыхароў. У 2007 г. 182 гаспадаркі, 418 жыхароў, цэнтр Мінскага абл. УП «Доктаравічы». Працуюць (2010) клуб (і пры ім 4 аматарскія фарміраванні), б-ка, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт ААТ «Капыльскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання», аддз. сувязі. Дзейнічаюць (2010) малочна-таварная ферма, кааператыў «Доктаравічыгаз» (з 2009). На тэр. вёскі закладзены новы парк (2009), пракладзены газаправод (2010). Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.

**ПАДГОРЦЫ** – вёска ў Капыльскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Свідзічы–Падгорцы. На ПнЗ балота. 40 гаспадарак, 65 жыхароў (2010).

У 1738 г. згадваецца як с. Падгаране, уласнасць Слуцкага касцёла, 10 дымоў. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1917 г. ў Пацейкаўскай вол. таго ж павета, маёнтак, 113 жыхароў, 20 двароў. У 1921 г. на базе маёнтка створана сав. гаспадарка, была кузня, працавала школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Капыльскім р-не Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з

27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Капыльскім с/с, 223 жыхары. У 1997 г. 57 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 2007 г. 44 гаспадаркі, 79 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына».

**ПАДЛУЖЖА** – пасёлак у Камсамольскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Капыля, 115 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Падлужжа. З ПнЗ на З праходзіць меліярацыйны канал. 26 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

Вядома з 16 ст. У 1575 г. маёнтак у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1669 г. сяло, 7 валок зямлі, у складзе маёнтка Старыца, уласнасць Радзівілаў, у Капыльскім княстве. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла, 4 двары, 23 жыхары. У 1858 г. вёска ў маёнтку Пукава Ігуменскага павета, уласнасць Ёдкі, 75 душ сялян. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 54 двары, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. вёска той жа воласці Слуцкага павета, 55 двароў, 324 жыхары. У 1916 г. 62 двары, 313 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 37 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Труханавіцкім с/с Грэскага р-на, 66 двароў, 310 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Свабода», былі вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1997 г. ў Камсамольскім с/с, пасёлак, 41 гаспадарка, 73 жыхары, у калгасе імя Суворава. У 2007 г. 31 гаспадарка, 47 жыхароў, у складзе СВК «Каменскі».

**ПАПОЎЦЫ** – вёска ў Грозаўскім с/с, за 16 км на У ад Капыля, 115 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Кандратавічы і далей па аўтадарозе Рыматаўшчына–Грозава–Папоўцы. На ПдЗ балота. 29 гаспадарак, 51 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 13 двароў, 87 жыхароў, уласнасць Слуцкай Мікалаеўскай царквы. У 1891 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, 14 двароў, 89 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 17 двароў, 104 жыхары; у 1917 г. ў вёсцы 29 двароў, 111 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 2 настаўнікі, 50 вучняў), быў вятрак. З 20.8. 1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 21 двор, 108 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Парыжская камуна». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 114 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 1997 г. 31 гаспадарка, 85 жыхароў. У 2007 г. 31 гаспадарка, 68 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд». Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г.; помнік землякам; помнік Герою Сав. Саюза А.П.Радкевічу.

**ПАЦЕЙКІ** – вёска, аграгарадок, цэнтр Пацейкаўскага с/с. За 10 км на ПнЗ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Пацейкі. 150 гаспадарак, 419 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Капыльскім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Алелькаві-

чаў. У 1567 г. сяло Пацейкавічы. У 1669 г. цэнтр маёнтка і воласці, уласнасць М.К. Радзівіла; маёнтак быў перададзены кн. Г.Любамірскаму, пабудавана царква. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім, з 1795 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1800 г. сяло — 29 двароў, 96 жыхароў, царква; засценак — 13 двароў, 56 жыхароў, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1868 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892 г. 55 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі). У 1870 г. 24 двары, 101 жыхар, царква, капліца. У 1886 г. былі нар. вучылішча з рамесным класам, вал. праўленне, праваслаўная царква, капліца. На пач. 20 ст. засценак, 23 двары, 118 жыхароў; у маёнтку 55 жыхароў. У 1917 г. 31 двор, 136 жыхароў, у маёнтку 198 жыхароў. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны. У 1919 г. створана вал. спажывецкае т-ва «Араты», тавараабарот якога хутка склаў 37 299 рублёў. У жн. 1919 — ліп. 1920 гг. воласць акупіравана польскімі войскамі. З ліст. 1920 г. ўвайшла ў раён нейтральнай зоны Пясочанскага рэўкома. У 1921 г. ў фальварку (нацыяналізаваны) 2 двары, 14 жыхароў, майстэрня па рамонце с.-г. прылад. У студз. 1921 г. пачала працаваць школа 1-й ступені (1 настаўнік, 21 вучань), мелася хата-чытальня (150 кніг). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на, 33 двары, 146 жыхароў; аднайменныя аграўчастак (23 двары) і хутар (8 жыхароў). У школе 1 настаўнік, 53 вучні (будынак уласны), выкладанне вялося на бел. мове, дзейнічала піянерская ячэйка. У канцы 1920-х г. створаны калгас імя Блюхера, меліся ветраны млын, кузня. У 1938 г. ў Мінскай вобл., вёска. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 30.1.1943 г. часткова спалілі вёску і загубілі 62 жыхароў. У 1944 г. тут дзейнічаў атрад самаахoвы на чале з І.М.Макаўчыкам. Вызвалена вёска 1.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 32 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 275 жыхароў. У 1997 г. 164 гаспадаркі, 453 жыхары. Дзейнічалі млын, машынны двор, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, ветучастак, камбінат быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. 146 гаспадарак, 431 жыхар, цэнтр СВК «Пацейкі». Працуюць (2010) пральня самаабслугоўвання, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім 4 клубныя фарміраванні), б-ка, спарт. зала і пляцоўка, 2 сталовыя, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі. Брацкая

*Пацейкаўскі Дом культуры.*





магіла сав. воінаў; брацкая магіла партызан; магіла Героя Сац. Працы Н.І.Букатай.

У складзе сельсавета 16 вёсак і 2 пасёлкі.

**ПЕРАВОЗ** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, каля р. Морач, за 16 км на ПдУ ад Капыля, 136 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Ванелевічы–Васільчыцы–Перавоз. 29 гаспадарак, 41 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. У 1789 г. вёска Перавозы, 26 двароў; фальварак у маёнтку Чыжэвічы, у Капыльскім княстве. У 1800 г. ў вёсцы 23 двары, 120 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1885 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Раманаўскай вол. таго ж павета, 58 двароў, 360 жыхароў; капліца на могілках. У 1908 г. 69 двароў, 423 жыхары. У 1916 г. 75 двароў, 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 76 двароў, 432 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 77 двароў, 414 жыхароў. З 1929 г. ў Ванелевіцкім с/с таго ж раёна. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Ударнік», былі вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 25 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с, 325 жыхароў. У 1997 г. вёска, 60 гаспадарак, 89 жыхароў, у калгасе «Піянер». У 2007 г. 34 гаспадаркі, 52 жыхары, у складзе СВК «Ванелевічы».

**ПЕРВАМАЙСКІ** – пасёлак у Семежаўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Капыля, 148 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы і далей па аўтадарозе Цімкавічы–Лешня–Семежава–Первамайскі. На ПдУ меліярацыйны канал, на Пн сажалка. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У 1960 г. ў Семежаўскім с/с, пас. Першае Мая, 91 жыхар. У 1997 г. 15 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Семежава». У 2007 г. 11 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе вытв. с.-г. кааператыва «Семежава». Працуе (2010) магазін.

**ПЕЧУРАНЫ** – вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Печураны. На Пн меліярацыйны канал. 55 гаспадарак, 89 жыхароў (2010).

У пач. 19 ст. засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1827 г. ўласнасць А.Горвата па перастулцы ад дзейснага стацкага саветніка Кудраўцава на 12 гадоў (з 1821). У 1870 г. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета. У 1890 г. працавала школа граматы (12 хлопчыкаў). У 1897 г. было 77 двароў, 373 жыхары. У 1908 г. вёска, 69 двароў, 810 жыхароў. У 1917 г. 87 двароў, 500 жыхароў, адкрыта земскае вучылішча. У 1921 г. пачала працаваць школа 1-й ступені (1 настаўнік, 30 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 81 двор, 412 жыхароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Колас», былі вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 21 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 379 жыхароў. У 1997 г. ў Пацейкаўскім с/с, 73 гаспадаркі, 142 жыхары, у калгасе «Пралетарый». У 2007 г. 56 гаспадарак, 95 жыхароў, у складзе СВК «Душава». Працуе (2010) Дом сац. паслуг.

**ПНІВАДА** – вёска ў Пацейкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Капыля, 134 км

ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Бабоўня і далей па аўтадарозе Выня–Кудзінавічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, уласнасць Радзівілаў. У 1909 г. 30 двароў, 198 жыхароў. У 1920-я г. мясц. дзеці вучыліся ў Кудзінавіцкай школе. У 1997 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. ў складзе СВК «Пацейкі». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**ПРАСНАКІ** – вёска ў Грозаўскім с/с, за 23 км на У ад Капыля, 120 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Труханавічы і далей па аўтадарозе Стараселле–Жукі. На У працякае р. Лакнея. 107 гаспадарак, 239 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1590 г. сяло Праснакі ў Грэскай вол. Навагрудскага павета, уласнасць казны, было 11 валок зямлі. У 1654 г. 32 дымы, уласнасць Радзівілаў. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім, потым у Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. 32 двары, 352 жыхары, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Грэскай вол. Слуцкага павета, 66 двароў, 369 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 74 двары, 500 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 92 двары, 560 жыхароў. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 44 вучні), будынак уласны, мела 3 дзес. ворыва. З 20.8. 1924 г. ў Труханавіцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 104 двары, 550 жыхароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Калгаснік Беларусі», былі вятрак, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 47 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім, з 1980 г. ў Капыльскім р-нах. У 1997 г. 129 гаспадарак, 283 жыхары, цэнтр калгаса «Радзіма». Дзейнічалі рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. 109 гаспадарак, 232 жыхары, цэнтр СВК «Праснакі». Працуюць (2010) клуб (і пры ім гурток ткацтва), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, магазін.

**ПУКАВА** – пасёлак у Камсамольскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Сунаі–Пукава. На У працякае р. Лакнея. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. маёнтак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 50 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў. У пач. 1920-х г. на базе маёнтка створаны саўгас «Пукава». У 1921 г. меў 130 дзес. угоддзяў, у т.л. 40 дзес. ворыва, было 8 рабочых і служачых. Дзейнічалі пракатны, зернеачышчальны пункты, пладовы пітомнік, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1922 г. ў саўгасе 884 дзес. угоддзяў (42 дзес. ворыва), 8 коней, працавалі 17 рабочых, была садова-агародная гаспадарка. Асн. фонды складалі 34 361 рублёў 45 капеек. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, сядзіба саўгаса, 48 жыхароў. З цягам часу склаўся пасёлак; у 1926 г. 10 двароў, 61 жыхар. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. пасёлак, 59 жыхароў. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім, з 24.5.1960 г. ў Слабада-Кучынскім сельсаветах. З 16.1. 1969 г. ў Камсамольскім с/с, у калгасе імя Леніна. У 1997 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар. У 2007 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг».

**ПЯСОЧНАЕ** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 21 км на Пн ад Капыля, 93 км ад Мінска. Транспартныя сувязі

па аўтадарозе Узда—Первамайск (Уздзенскі р-н)—Пясочнае. На ПнЗ працякае р. Нёман, на У — р. Лоша. 229 гаспадарак, 513 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі, на ўзбярэжжы Нёмана, ва ўрочышчы Ледзіна захаваліся сляды старажытнейшага паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку, якое датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н.э.

Вядома з 16 ст. як сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, у складзе Капыльскага княства, уласнасць Алелькавічаў. У 1566 г. 10 службаў. У 1568 г. згадваецца як мястэчка, дзейнічала прыстань; паблізу вусця рэк Лоша і Уза існаваў маёнтак, была праваслаўная царква. У 1612 г. пасля смерці апошняй з роду Алелькавічаў Соф'і Юр'еўны маёнтак перайшоў да яе мужа Я.Радзівіла, які скасаваў стараж. прывілеі мяшчан на вольнасць. Мястэчка мела гандл. сувязі як з навакольнымі гарадамі, так і з зах.-еўрапейскімі (па р. Нёман). У 1670 г. ў Капылі згадваецца вуліца Пясецкая. У 18 ст. мястэчка, маёнтак, значны асяродак рамяства і гандлю, уласнасць Г.Ф. Радзівіла (1715—60), харужага літоўскага, якога «пыха і самавольствы не ведалі межаў». Прымус і ўціск над мяшчанамі стрымлівалі эканам. развіццё мястэчка. Да сярэдзіны 18 ст. была пабудавана базыльянская царква. У 1743 г. кн. М.Радзівіл, кашталян віленскі, даў фундуш базыльянам у 14 тыс. злотых польскіх. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Магільнянскай вол. Ігуменскага павета. У 1800 г. ў мястэчку 110 двароў, 643 жыхары, праваслаўная драўляная царква Мікалая Цудатворца, карчма, вадзяны млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1823 г. маёнтак у Радзівілаў набыў маршалак ігуменскі Ануфрый Ёдка, налічвалася 216 душ мужчынскага полу. У 1848 г. ўказам цара Мікалая I мястэчка атрымала б. прывілеі. Мяшчане на 5 гадоў вызваляліся ад плацяжоў і на 4 гады ад вайск. павіннасці. Праз год уласнік устанавіў для мяшчан памеры чыншу: за 18 моргаў надзелу — 17 рублёў. У 1873 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1880-х г. мястэчка і маёнтак, парафіяльная царква (каля 1200 прыхаджан, 5 валок зямлі). Маёнтак складалі некалькі фальваркаў з цэнтрам у маёнтку Малахоўшчына (Наднёман) за вярсту ад мяст. Пясочнае, на беразе Нёмана, меў заможны выгляд, славіўся заліўнымі лугамі, дзе гадавалі каля 100 валоў у год. Сядзіба мела мураваныя будынкі, у т.л. палац над Нёманам, сады, парк (223 валокі). Пад мястэчкам была прыстань, адкуль сплаўлялі плыты лесу з акаляю-



*Канцэрт Нацыянальнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М.Я.Фінберга ў в. Пясочнае, прысвечаны 105-годдзю А.Г. Русака. 2009 г.*



*Асвячэнне Пакроўскай царквы ў в. Пясочнае мітрапалітам мінскім і слуцкім патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам. 2009 г.*



А.Астрэйка.



А.Г.Русак.



С.А.Умрэйка.

чых пушчаў. Брус і лес ішлі да Мемеля; тут жа выраблялі лёгкія судны-шугалеі, былі 2 вадзяныя млыны. У маёнтку каля 1850 г. нарадзілася (у Наднёманні) паэтэса А.Ёдка. У 1897 г. ў Магільнянскай вол. Ігуменскага павета, 307 двароў, 1731 жыхар, нар. вучылішча, 12 крам, царква, малітоўны дом, піцейны дом. На пач. 20 ст. мястэчка і маёнтак у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, 271 двор, 1,7 тыс. жыхароў, конная паштовая станцыя. У 1917 г. 377 двароў, 2029 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн.–ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. польскімі інтэрвентамі. З 19.11.1920 г. ў нейтральнай зоне. У кастр. 1919 г. быў створаны партыз. атрад. 15.7.1920 г. пры вызваленні павета каля мястэчка вялі бой з палякамі часці 2-й стралк. дывізіі 16-й арміі. У 1923 г. працавалі с.-г. т-ва «Культура», 7-гадовая школа (у 1922 г. 9 настаўнікаў, 140 вучняў), 2 яўр. школы 1-й ступені, хата-чытальня. Да пач. снеж. 1920 г. для барацьбы з антысав. бандытызмам створаны месцачковы вал. рэўком, пры якім быў атрад міліцыі: 80 пешых і 10 конных. 10 і 12.12.1920 г. атрад вёў баі каля вёсак Рымашы і Язвіно з антысав. бандамі. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Капыльскага р-на. У 1924 г. 348 двароў, 1918 жыхароў. У 1925 г. створана т-ва саматужнікаў (33 рамеснікі, 6 прафесій). На пач. 1930-х г. арганізаваны калгас імя Сталіна, працавалі майстэрні-арцелі кавальская «Чырвоны каваль» (1928) і шавецкая «Новае жыццё» (1931), грыбаварня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут гарнізон. У сак. 1942 г. партыз. рэйдавая група пад камандаваннем І.Дз.Варвашэні сумесна з групай ген.-маёра М.Канстанцінава разграмілі яго. Вясной 1942 г. ў Капыльскім гета знішчаны 100 жыхароў вёскі, 1.3.1943 г. загублены 27 жыхароў і іх сем'і. Зімой 1944 г. на тэр. сельсавета базіравалася партыз. брыгада 27-я імя Чапаева. У студз. 1943 г. фашысты загубілі 32 жыхароў. Вызвалена 1.7.1944 г. войскамі конна-механізаванай групы 1-га Бел. фронту. На фронце загінулі 98 жыхароў, 7 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.6.1963 г. ў Слабада-Кучынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 174 жыхары, у сельсавеце 2445 жыхароў. У 1975 г. працавалі лесапільня, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, бальніца, камбінат быт. абслугоўвання, ветучастак, аддз. сувязі, сталовая. У 1997 г. 274 гаспадаркі, 677 жыхароў. Дзейнічалі рамонта-механічныя майстэрні, лесапільня, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, ветпункт, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, некалькі магазінаў. У 2007 г. 246 гаспадарак, 577 жыхароў, цэнтр раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень». Працуюць (2010) дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, спарт. зала і пляцоўка, аптэчны пункт, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. Побач з вёскай радовішча будаўнічых пяскоў. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан; магіла партызана В.М.Астрэйкі.

Вёска – радзіма бел. паэта А.Астрэйкі (1911–78), паэта-песенніка, засл. дзеяча культуры БССР А.Г.Русака (1904–87), вучонага-педагога С.А.Умрэйкі (1908–78), засл. настаўніцы БССР М.С.Серада (н. ў 1925), засл. работніка культуры БССР Ф.Ф.Лагвіновіча (н. ў 1937).

**ПЯТРЫЛАВА** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Пятрылава. 56 гаспадарак, 90 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 16 ст. У 1510 г. маёнтак у Пукаўскай вол., у Навагрудскім паве-

це і ваяводстве ВКЛ. Побач склалася сяло, у якім у 1659 г. было 26 двароў і якое ўваходзіла ў склад маёнтка Грэскі, уласнасць Радзівілаў. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім, потым у Слуцкім паветах. У 1800 г. ва Ігуменскім павеце Мінскай губ., 32 двары, 203 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 68 двароў, 432 жыхары. У 1909 г. вёска ў тых жа воласці і павеце, 69 двароў, 367 жыхароў. У 1917 г. 95 двароў, 441 жыхар. Побач існаваў аднайменны засценак, 15 двароў, 72 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 25 вучняў). У канцы 1920-х г. створаны калгас «Новая Зара», была кузня. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 111 двароў, 489 жыхароў. З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 44 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска, 364 жыхары. З 24.5. 1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с таго ж раёна. У 1997 г. 94 гаспадаркі, 174 жыхары, магазін, у калгасе імя Леніна. У 2007 г. 65 гаспадарак, 107 жыхароў, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Працуе (2010) магазін.

**РАЁК** – пасёлак у Вялікараёўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Капыля, 131 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Сцяпуры–Раёк. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

Узнік у пач. 1920-х г. у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета на землях б. фальварка, у якім была створана сав. гаспадарка (у 1921 г. пл. яе сядзібы складала 1,5 дзес.). У 1924 г. 16 двароў, 74 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. 10 двароў, 49 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. было 16 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў студз. 1944 г. спалілі яго і загубілі 9 мірных жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. было 66 жыхароў. У 1997 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у калгасе «Памяць Леніна». У 2007 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе філіяла «Вялікая Раёўка» ААТ «Крыніца».

**РАКІНІ** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 36 км на Пд ад Капыля, 156 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы і далей па аўтадарозе Семежава–Бучаціна–Ракіні. На ПнЗ меліярацыйны канал. 44 гаспадаркі, 65 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска Ракітна ў Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1795 г. ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 2 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 2 урочышчы Ракіні ў Вызнянскай вол. таго ж павета, 9 двароў, 54 жыхары. У 1908 г. 3 аднайменныя ўрочышчы, 10 двароў, 36 жыхароў. Да 1917 г. склаўся хутар, 29 двароў, 201 жыхар. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. На пач. 1920-х г. склалася в. Ракіні. З 20.8.1924 г. ў Смаліцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 20 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8. 1959 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5.1960 г. ў Бучацінскім с/с, 277 жыхароў (1960), у калгасе імя Войкава. У 1997 г. 67 гаспадарак, 122 жыхары. У 2007 г. 50 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе СВК «Ціміразеўскі».

**РАЧКЕВІЧЫ** – вёска ў Цімкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Капыля,



А.П.Вайтовіч.



І.К.Копцік.

138 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе на Рачкевічы. На Пн працякае р. Стары Роў. 32 гаспадаркі, 61 жыхар (2010).

Упершыню згадваюцца ў 17 ст. Паводле інвентару двара Цімкавічы за 1622 г., вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 13 валок зямлі, у т.л. 7 цяглых. У 1670 г. ў вёсцы ўпамінаецца татарская слабада, у якой было 10 валок зямлі. У 1713 г. ў вёсцы 25 дымоў, 33 душы мужчынскага полу, больш за 17 валок зямлі. У 1761 г. тут 24 дымы, 50 душ мужчынскага полу, 50 борцяў пчол. Гадавы даход з вёскі на карысць двара складаў 266 злотых $23\,^2/_3$ гроша. У канцы 18 ст. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла, былі царква, карчма. У 1800 г. 29 двароў, 197 жыхароў; у 1816 г. 25 двароў. У 1891 г. засн. вінакурны з-д. У 1897 г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Цімкавіцкай вол., 67 двароў, 372 жыхары, хлебазапасны магазін, царква на могілках. У 1900 г. 12 рабочых. У 1909 г. вёска, 75 двароў, 451 жыхар. Побач з вёскай існаваў маёнтак Б.К.Залескага, які ў 1905 г. меў 600 дзес. зямлі. У 1912 г. адкрыта земскае вучылішча (будынак для яго ўзведзены ў 1915 г.). У 1917 г. ў вёсцы 79 двароў, 496 жыхароў. Пасля разгрому нацыяналістычных атрадаў Бел. эсэраўскай рады ў воласці пачалася работа па сацыяліст. землеўпарадкаванні вёсак. У канцы 1920 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка створана сав. гаспадарка; у 1922 г. мела 389 дзес. угоддзяў, у т.л. 193,8 дзес. ворыва, працавалі 64 рабочыя (усяго 137 жыхароў). Гаспадарка мела доследныя палі, пракатны і зернеачышчальны пункты, вінзавод, млын. Спецыялізавалася на развядзенні племянной жывёлы. У канцы 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1921 г. 1 настаўнік, 24 вучні, 3 дзес. ворыва; была хата-чытальня з б-кай. Такая ж школа запрацавала ў вёсцы — 2 настаўнікі, 58 вучняў. У 1923 г. ў саўгасе адкрыты клуб імя Леніна. У 1924 г. ў вёсцы 90 двароў, 426 жыхароў; у школе 1 настаўнік, 55 вучняў, дзейнічаў культ.-асв. гуртох. У школе саўгаса 1 настаўнік, 33 вучні; працавалі піянерская арг-цыя (16 вучняў), драматычны гурток. З 20.8. 1924 г. ў Малышэвіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Калініна, былі кузня, вятрак; вёска ў Прускім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 17 жыхароў. На фронце загінуў 41 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Цімкавіцкім с/с. У 1960 г. 380 жыхароў, у саўгасе «Цімкавіцкі». У 1997 г. 65 гаспадарак, 126 жыхароў. У 2007 г. 38 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма засл. настаўніцы БССР С.В.Масько, бел. вучонага, чл.-кар. НАН Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук А.П.Вайтовіча (н. ў 1938), бел. вучонага-селекцыянера, засл. работніка сельгаса Беларусі І.К.Копціка (н. ў 1936).

**РЖАЎКА** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, каля р. Выня, за 10 км на ПнЗ ад Капыля, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Печураны і далей па аўтадарозе Бабавенка—Нізкавічы. На ПдУ меліярацыйны канал. 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У 19 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1850 г. ў складзе маёнтка Дарагавіцы, 115 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Цялядавіцкай вол., 22 двары, 200 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 кузні. У пач. 20 ст. 26 двароў, 98 жыхароў. У 1917 г. было 27 двароў, 184 жыхары. З пач. снеж. 1920 г. ў раёне нейтральнай

зоны Цялядавіцкага рэўкома. У 1924 г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 32 двары, 193 жыхары. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Перамога», былі ваўначоска, вятрак, кузня; у 1932 г. адкрыты дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Бабаўнянскім с/с, вёска, 224 жыхары, у складзе калгаса «Пралетарый». У 1997 г. 31 гаспадарка, 56 жыхароў. У 2007 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе СВК «Душава». Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г. Археал. помнік — гарадзішча (за 0,3 км на З ад вёскі).

**РОСПЫ** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, каля р. Лоша, за 26 км на ПнУ ад Капыля, 97 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Харытонаўка. 16 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. было 28 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета, 18 двароў, 108 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 17 двароў, 148 жыхароў; у 1917 г. 20 двароў, 149 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 30 двароў, 154 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоныя Роспы», былі кузня, маслазавод. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. На тэр. сельсавета базіравалася партыз. брыгада 27-я імя Чапаева, штаб якой у 1943—44 гг. знаходзіўся ў в. Роспы. У штабе партыз. брыгады размяшчаўся Капыльскі падп. райком КП(б)Б, выдавалася газ. «Калгаснік Капыльшчыны». У лютым 1943 г. вёска часткова спалена фашыстамі. Вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, вёска, 165 жыхароў, у складзе саўгаса «Крыніца». У 1997 г. 27 гаспадарак, 64 жыхары. У 2007 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе ААТ «Старыца-Агра».

**РУДНАЕ** — вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Капыля, 136 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Руднае. На Пд працякае р. Тамашоўка. 143 гаспадаркі, 326 жыхароў (2010).

Паводле інвентару ўладання Цімкавічы за 1638 г., вёска ў складзе фальварка Скеп'ева, 40 валок зямлі ворнай, з іх 12 $^{2}/_{4}$ належалі цяглым сялянам. У 1691 г. 23 дымы, сярод вяскоўцаў згадваюцца баяры, слесар. У 1713 г. 48 дымоў, 22 з іх належалі татарам, 49 валок зямлі. У 1761 г. 25 дымоў, 41 валок зямлі (7 баярскія, 1,3 цяглых сялян). Жыхары плацілі 476 злотых чыншу, адбывалі 16 $^{1}/_{2}$ дня паншчыны. Гадавы даход на карысць двара складаў з вёскі больш за 538 злотых. З 1795 г. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 46 двароў, 221



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Ржаўка.*

жыхар, уласнасць кн. М.Радзівіла, мелася карчма. У 1897 г. вёска ў Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, у складзе Канатопскай сельскай грамады, на Нясвіжскім паштовым тракце, 82 двары, 491 жыхар, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска, 104 двары, 546 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 116 двароў, 663 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. войскамі Польшчы. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 53 вучні). У вёсцы быў млын. З 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 110 двароў, 526 жыхароў. У канцы 1920-х г. створаны калгас імя Молатава, была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі яе, загубілі 8 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 48 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. было 475 жыхароў. У 2-й пал. 1970-х г. працавалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін (цэнтр калгаса «Праца»). У 1997 г. 180 гаспадарак, 419 жыхароў. Дзейнічалі рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 151 гаспадарка, 362 жыхары, цэнтр с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Працуюць (2010) Дом культуры (і пры ім 3 клубныя фарміраванні і 5 гурткоў), бібліятэка-клуб, раённы Цэнтр дзіцячага турызму і краязнаўства, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, магазін. Археал. помнік — курганны могільнік.

*Мемарыял на месцы в. Масявічы, спаленай разам з жыхарамі нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну.*



**РУДНІКІ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, на р. Тур'я, за 28 км на ПнЗ ад Капыля, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Бабоўня і далей па аўтадарозе Забалацце—Руднікі. На ПдЗ сажалка. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ўласнасць кн. Д.Радзівіла, 13 двароў, 60 жыхароў, быў вадзяны млын. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 6 двароў, 48 жыхароў; засценак — 28 двароў, 148 жыхароў, была кузня; засценак Руднікі 2 — 17 двароў, 77 жыхароў. У 1909 г. вёскі Руднікі 1 — 24 двары, 300 жыхароў; Руднікі 2, 16 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. ў в. Руднікі 1 было 52 двары, 229 жыхароў; у в. Руднікі 2 — 10 двароў, 60 жыхароў. У снеж. 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922/23 навуч. годзе 1 настаўнік, 35 вучняў), будынак арэндны, мела 3 дзес. ворыва; выкладанне вялося на польскай і бел. мовах. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 53 двары, 200 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Дзяржынскага, была кузня, працаваў смалакурны з-д. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў

Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы было 159 жыхароў. У 1997 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў, у саўгасе «Бабоўня». У 2007 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня». За 1 км на У ад вёскі помнік на магіле ахвяр фашызму в. Масявічы, якую 2.2.1943 г. спалілі фашысты разам з жыхарамі (32 двары, 138 жыхароў). Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**РУДНІЧКІ** — пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 14 км на Пн ад Капыля, 118 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Леткаўшчына. На З сажалка. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

Пасёлак склаўся ў 1920-я г. ў Старакапыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1960 г. тут 26 жыхароў. У 1997 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**РУСАКІ** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Капыля, 107 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Капыль. На Пн балоты. 74 гаспадаркі, 172 жыхары (2010).

У 17 ст. сяло ў Навагрудскім павеце ВКЛ; у 1669 г. 10 валок зямлі, у складзе маёнтка Старыца, уласнасць Радзівілаў. У 1793 г. было 23 дымы. У канцы 18 ст. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 30 двароў, 205 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 82 двары, 502 жыхары. У пач. 20 ст. вёска тых жа воласці і павета, 81 двор, 483 жыхары; у 1917 г. 100 двароў, 534 жыхары. У пач. 1921 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 64 вучні). У вёсцы быў млын. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 109 двароў, 528 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Новы свет», былі вятрак, кузня. З 8.7.1931 г. ў Капыльскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—43 гг. загубілі 7 мірных жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 31 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, вёска, 421 жыхар. У 1973 г. цэнтр калгаса «Новы свет», працавалі дзіцячы сад, пач. школа, б-ка, магазін. У 1997 г. 106 гаспадарак, 262 жыхары, магазін. У 2007 г. 81 гаспадарка, 212 жыхароў, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуюць (2010) дзіцячыя яслі-сад, бібліятэка-клуб, магазін. Брацкая магіла 2 партызан 27-й партыз. брыгады імя Чапаева, якія загінулі 2.7.1943 г.; помнік У.І.Леніну.

Вёска — радзіма засл. настаўніка БССР У.Я.Курловіча.

**РЫМАТАЎШЧЫНА** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 20 км на У ад Капыля, 112 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Кандратавічы—Рыматаўшчына. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1795 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. было 8 двароў, 48 жыхароў. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, вёска, 7 двароў, 32 жыхары. У пач. 20 ст. засценак той жа воласці Слуцкага



*Кіраўнік адміністрацыі Мінскай вобласці Л.Ф.Крупец (першы злева) на абласным свяце першага снапа «Зажынкі» ў в. Русакі. 2009 г.*

павета, 6 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. было 7 двароў, 53 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 8 двароў, 48 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Савецкая краіна», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў Грозаўскім с/с таго ж раёна, вёска, 149 жыхароў. У 1997 г. 18 гаспадарак, 26 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 2007 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд».

**РЫМАШЫ** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Капыля, 129 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Рымашы. На У праходзіць меліярацыйны канал, на У працякае р. Гніліца. 84 гаспадаркі, 127 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1645 г. згадваецца наяўнасць тут татарскай абшчыны, татары неслі ваенна-службовую павіннасць. У 1744 г. яны названы зямянамі, у 1783 г. — казакамі і мелі сярэдні надзел: зямяне — 1 валоку, зямяне-казакі — 1,13 валокі, баяры — 0,7 валокі. У 2-й пал. 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Доктаравічы, уласнасць кн. М.Радзівіла Рыбанькі. У 1832 г. была царква на могілках. У 1850 г. вёска маёнтка Росмашы, 214 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 116 жыхароў мужчынскага полу; маёнтак, уласнасць Бярновічаў. У 1186 г. працавалі 2 школы граматы (19 хлопчыкаў); у маёнтку засн. вінакурны з-д. У 1897 г. вёска, цэнтр сельскай грамады той жа воласці, было 99 двароў, 657 жыхароў; маёнтак (21 жыхар), фальварак (19 жыхароў). У 1909 г. 84 двары, 697 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земскае вучылішча. У 1917 г. 106 двароў, 561 жыхар. У 1921 г. пачала працаваць школа 1-й ступені; будынак арэндны (75 пудоў жыта на год), мела 3 дзес. ворыва. Ноччу 22.3.1921 г. на вёску, дзе размяшчаўся пагранічны пост, зрабіла налёт банда з антысав. фарміраванняў. У баі частка пагранічнага ўзвода і яго камандзір загінулі. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 115 двароў, 602 жыхары; у школе 1 настаўнік, 53 вучні. У пач. 1930-х г. створаны калгасы «Змена» (вятрак, кузня, дзіцячыя яслі) і «Чырвоны пагранічнік» (была кузня). З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 45 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 619 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабоўня». У 1997 г. 131 гаспадарка, 259 жыхароў, магазін. У 2007 г. 99 гаспадарак, 158 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня». Працуе (2010) магазін.

**РЭПНАЯ ГРАДА** – пасёлак у Камсамольскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Падлужжа і далей па аўтадарозе Камень–Асавец, потым па прасёлачнай дарозе. На З, ПдЗ і Пд сетка меліярацыйных каналаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. хутар у Пукаўскай вол. Слуцкага павета. У 1920-я г. ўзнік пасёлак, у якім у 1926 г. было 2 двары, 18 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.8. 1938 г. ў Мінскай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. З 16.1.1969 г. ў Камсамольскім с/с. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у калгасе

імя Суворава. У 2007 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе СВК «Каменскі».

**САВІЧЫ** – вёска ў Вялікараеўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Капыля, 138 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы–Баранавічы. 29 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1582 г. пры падзеле маёнткаў Капыльскага княства паміж братамі Алелькавічамі перайшлі да Яна Сымона Алелькавіча, сяло і маёнтак у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1763 г. маёнтак А.Прудзецкага, 52 двары, 150 жыхароў мужчынскага полу, быў млын. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло — 24 двары, 139 жыхароў, драўляны Троіцкі касцёл, плябанія, 2 млыны; вёска — 3 двары, 9 жыхароў; фальварак — 8 жыхароў, бровар, уласнасць царквы. У 1839 г. царква перабудавана ў Троіцкую царкву. У 1870 г. сяло, 21 двор, 163 жыхары, праваслаўная царква, засн. вінакурны з-д. У 1886 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 8 хлопчыкаў), у 1913 г. пераўтворана ў 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1897 г. ў Цімкавіцкай вол. таго ж павета, сяло — 45 двароў, 249 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; маёнтак — 70 жыхароў; у складзе Браткаўскай сельскай грамады. У пач. 20 ст. ў сяле 52 двары, 295 жыхароў, за 1,5 вярсты быў маёнтак (57 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 63 двары, 350 жыхароў, у маёнтку (Малыя Савічы) 160 жыхароў. У 1921 г. створаны саўгас, 443 дзес. угоддзяў, у т.л. 275 дзес. ворыва, 29 рабочых, 30 коней; вінзавод (былая ўласнасць Э.Адамовіча); школа 1-й ступені (1922): будынак арэндны, 1 настаўнік, 28 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Браткаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі; у вёсцы 61 двор, 261 жыхар; у саўгасе 63 жыхары. Існаваў пас. Малыя Савічы — 12 двароў, 53 жыхары. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «8 Сакавіка», была кузня, саўгас адносіўся да Насентрэста, меў 713 га угоддзяў, з іх 373 га ворыва. На вінзаводзе ў 1933 г. працаваў 31 работнік. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1941 г. тут дзейнічала падп. група на чале з В.С. Зайцам — старшынёй калгаса «Хваля рэвалюцыі». У ліп. 1942 г. партызаны брыгады 300-й імя Варашылава разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 396 жыхароў, у калгасе «Праца». У 1997 г. 52 гаспадаркі, 130 жыхароў. У 2007 г. 40 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Брацкая магіла сав. воінаў; магіла А.К. Залужнага, першага члена калгаса «Хваля рэвалюцыі», забітага ворагамі сав. улады 23.9.1930 г. (абеліск устаноўлены ў 1931 г.); магілы партызан, якія загінулі ў 1943–44 гг. Помнік архітэктуры — касцёл (19 ст.).

**САВІЧЫКІ** — былы пасёлак у Браткаўскім с/с, за 20 км ад Капыля, 140 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Дзягцяны на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы і далей па аўтадарозе Капыль–Калодзезнае–Богараўшчына, потым па прасёлачнай дарозе.



*На тэрыторыі былой сядзібы Вайніловічаў у в. Савічы.*

Вядомы на пач. 20 ст. як маёнтак у Цімкавіцкай вол. Слуцкага павета, 1 двор, 25 жыхароў. Пасля 1917 г. пасёлак. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1924 г. 143 жыхары. Пасялковыя дзеці вучыліся ў Заракаўскай школе. У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**САДАВІЧЫ** — вёска ў Бучацінскім с/с, каля р. Волка, за 29 км на Пд ад Капыля, 149 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава—Садавічы. 105 гаспадарак, 225 жыхароў (2010).



*В.П.Новікаў.*

Вядомы з 17 ст. У 1697 г. вёска, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 58 двароў, 278 жыхароў; фальварак, была карчма, млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Боркі. У 1870 г. ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета, вёска, 262 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 157 двароў, 1094 жыхары, хлебазапасны магазін, капліца, царква, піцейны дом; вёска была цэнтрам сельскай грамады ў воласці. У 1906 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 200 двароў, 1094 жыхары. У 1921 г. 3 прыватныя млыны, працавала школа 1-й ступені (у 1923 г. 2 настаўнікі, 109 вучняў, будынак уласны). З 20.8.1924 г. ў Бялевіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 208 двароў, 1000 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Новы будаўнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 64 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7. 1954 г. ў Малышэвіцкім, з 1.12.1959 г. ў Рачкаўскім сельсаветах Слуцкага р-на, потым у Бучацінскім с/с Капыльскага р-на. У 1971 г. вёска, цэнтр калгаса «Кастрычнік». У 1997 г. 169 гаспадарак, 408 жыхароў. Працавалі рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2001 г. 154 гаспадаркі, 397 жыхароў. Дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс пач. школа—сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі. У 2007 г. 118 гаспадарак, 267 жыхароў, у складзе СВК «Ціміразеўскі». Працуюць (2010) бібліятэка-клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Брацкая магіла сав. воінаў і партызана.

Вёска — радзіма бел. мовазнаўца І.К. Германовіча; фельчара агітацыйна-прапагандысцкага атрада прапаршчыка В.П.Новікава (1951—86), які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання.

**САДКІ** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 18 км на Пн ад Капыля, 106 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Садкі. На З сажалка. 36 гаспадарак, 80 жыхароў (2010).

У 18 ст. вёска ў Наваградскім павеце і ваяводстве ВКЛ, у складзе буйнога маёнтка Цімкавічы. У 1713 г. згадваецца ў інвентары гэтага маёнтка. У канцы 18 ст. засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 1 двор, 12 жыхароў. У 1805 г. 2 двары, 22 жыхары. У 1897 г. маёнтак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 2 двары, 6 жыхароў; сядзіба — 4 жыхары. У 1909 г. маёнтак, 10 жыхароў; у 1917 г. 8 двароў, 57 жыхароў. На пач. 1920-х г. на базе нацыяналізаванага маёнтка склаўся пасёлак, у якім у 1924 г. 11 двароў, 46 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, з 8.7.1931 г. ў Капыльскім р-не. У пач. 1930-х г. вёска, створаны калгас «Іскра Ільіча», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 230 жы-

хароў. У 1997 г. 43 гаспадаркі, 94 жыхары. У 2007 г. 40 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе ААТ «Старыца-Агра».

**САЎКОВА** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, каля р. Морач, за 19 км на ПдУ ад Капыля, 139 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Ванелевічы–Саўкова. 50 гаспадарак, 94 жыхары (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1789 г. 36 валок зямлі, 33 дымы, карчма, у складзе фальварка Чыжэвічы, уласнасць К.Радзівіла. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ўласнасць кн. Д.Радзівіла, 47 двароў, 244 жыхары. У 1897 г. ў Раманаўскай вол. Слуцкага павета, 67 двароў, 417 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца на могілках. У 1912 г. адкрыта 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 73 двары, 412 жыхароў. З 17.12.1921 г. да 17.7.1924 г. ў Ленінскай вол. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 74 двары, 404 жыхары. З 1929 г. ў Ванелевіцкім с/с (цэнтр – в. Доктаравічы) таго ж раёна. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Іскра Ільіча». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 31 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с. У 1960 г. вёска, 461 жыхар, у калгасе «Піянер». У 1997 г. 80 гаспадарак, 158 жыхароў. У 2007 г. 56 гаспадарак, 103 жыхары, у складзе СВК «Ванелевічы».

**СВІДЗІЧЫ** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Капыля, 111 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Русакі–Свідзічы. З ПнЗ на Пд праходзіць меліярацыйны канал, на З сажалка. 69 гаспадарак, 137 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Слуцкім княстве Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ. У 1582 г. сяло і двор, шляхецкая ўласнасць; у 1586 г. згадваецца як маёнтак. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 168 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. таго ж павета, вёска ў Скабінскай сельскай грамадзе, 58 двароў, 350 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін; сядзіба – 5 жыхароў; маёнтак – 20 жыхароў. Частка сялян займалася вырабам калёс, саней, абадоў. У 1912 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1916 г. ў вёсцы 58 двароў. У 1917 г. 70 двароў, 390 жыхароў; у маёнтку 8 двароў, 63 жыхары, 1-класнае нар. вучылішча. У 1921 г. працавала сав. гаспадарка, мела 95 дзес. ворыва, 2 млыны; мелася школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 28 вучняў, будынак уласны, 3 дзес. зямлі. У 1924 г. 74 двары, 364 жыхары, у складзе саўгаса 6 двароў, 33 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Слабада-Кучынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Барацьбіт». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 7.11.1942 г. загубілі тут 45 жыхароў. Частка мірных жыхароў у крас. 1942 г. пайшлі ў партыз. атрад імя Чапаева. Вызвалена 1.7.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 406 жыхароў, у пасёлку 81 жыхар, у калгасе «Новы свет». У 1997 г. 95 гаспадарак, 219 жыхароў, магазін. У 2007 г. 74 гаспадаркі, 162 жыхары, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуе (2010) магазін. Магіла ахвяр фашызму.

**СЕМЕЖАВА** – вёска, аграгарадок, цэнтр Семежаўскага с/с, на р. Морач. За 32 км на Пд ад Капыля, 152 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Дзярэчына і далей па аўтадарозе

Мацкевічы—Семежава. На З меліярацыйны канал. 557 гаспадарак, 1207 жыхароў (2010).

Назва вытворная ад фаміліі дахрысціянскага імя Семеж, г.зн. «сёмы сын». Паводле падання, сучасная вёска засн. каланістамі. Упершыню ўпамінаецца ў 1582 г. з нагоды чарговага падзелу маёнткаў Капыльскага княства паміж сынамі кн. Юрыя Алелькавіча Слуцкага. Ян Сымон Алелькавіч (1560—92) у ліку іншых атрымаў места Семежава ў Слуцкім княстве Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ. Паводле інвентару маёнтка Цімкавічы за 1622 г., мястэчка, складалася з гандл. плошчы, на якой было 26 дымоў, 169 дымоў і ўчасткаў (19 пуставалі). У мястэчку 80 валок зямлі: чынш разам з арэндай складаў 805 коп 23 грошы літоўскія, 5 пенязяў; была карчма. У 1720 г. Радзівіламі быў пабудаваны драўляны Пакроўскі храм, драўляная царква была і на могілках. У канцы 18 ст. ў Случарэцкім, потым у Слуцкім паветах Мінскай губ. Праз мястэчка праходзіў ваенна-камунікацыйны тракт ад Маскоўска-Варшаўскай шашы да межаў Мазырскага павета. У 1800 г. ўладанне кн. М.Радзівіла, 268 двароў, 1283 жыхары, 2 вадзяныя млыны, царква, карчма; у 1816 г. больш за 200 двароў. У 1832 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1863 г. 1330 жыхароў. У 1868 г. адкрыта нар. вучылішча. У гэтым жа годзе адбыўся пажар, які знішчыў 58 двароў. У 1870 г. 388 двароў, 1668 жыхароў, праваслаўная царква, капліца, яўр. малітоўны дом. Да 1874 г. мястэчка належала Клецкаму, потым Нясвіжскаму маярату Радзівілаў, налічвалася 8 вуліц, 2 вадзяныя млыны. У 1881 г. адкрыта 1-класнае сельскае вучылішча (у 1892 г. 87 хлопчыкаў). У 1886 г. 269 двароў, 996 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, яўр. малітоўны дом, капліца, школа, 3 храмы. З 19 ст. буйны асяродак нар. мастацкага ткацтва. У канцы 19 ст. на месцы драўлянай пабудавана цагляная Пакроўская царква. У 1897 г. ў Кіявіцкай вол. Слуцкага павета, 356 двароў, 2472 жыхары, 2 вадзяныя млыны, ваўначоска, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква, капліца, яўр. малітоўны дом. У пач. 20 ст. мястэчка, 458 двароў, 2,5 тыс. жыхароў. У 1903 г. адкрыта жаночая царк.-прыходская школа. У 1917 г. мяст. Семежава той жа воласці, 437 двароў. У лютым—снеж. 1918 г. занята войскамі 1-га польскага корпуса ген.-лейт. Ю.Доўбар-Мусніцкага і герм. войскамі, 7.8.1919 г. — польскімі інтэрвентамі (да сярэдзіны ліп. і ў кастр. 1920 г.). З 12.10. 1920 г. ў памежнай нейтральнай зоне. У кастр. 1920 г. на Случчыне фарміравa-

*Народны майстар Беларусі, майстар-метадыст раённага Цэнтра ткацтва В.М.Кіеня з вучаніцамі (в. Семежава).*



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Семежава.*



ліся часці добраахвотніцкай арміі ген. С.Булак-Балаховіча і эсэраўскай Бел. рады Случчыны. У Слуцку, Грозаве і Семежаве быў арганізаваны так званы Грозаўскі полк Слуцкай рады (камандзір капітан Л.Семянюк, усяго каля 2 тыс. чал.). Семежава стала базай антысав. тэрору ў павеце. 4.12.1920 г. войскі 8-й і 17-й стралковай дывізій 16-й арміі разграмілі антысав. базу, частка атрадаў Слуцкай рады перайшла мяжу і была раззброена польскімі ўладамі, уцалелая частка паўстанцаў працягвала напады з нейтральнай зоны да сак. 1921 г. Для барацьбы з бандытызмам былі створаны Семежаўскі р-н нейтральнай зоны з рэўкомам, які меў аператыўны атрад міліцыі (150 пешых, 20 конных). З вясны 1921 г. пачалося сацыяліст. землеўпарадкаванне ў воласці. Да 1924 г. працавалі спажывецкае т-ва (1921), Кіявіцкае крэдытнае с.-г. т-ва «Чырвоны араты» (70 пайшчыкаў, 1924 г.), школа 1-й ступені (1920 г., 2 настаўнікі, 80 вучняў), яўр. школа 1-й ступені (1920 г., 4 настаўнікі, 158 вучняў), хата-чытальня (1919 г., 149 кніг), 9 прыватных млыноў (1921); няпоўная сярэдняя школа, 7 настаўнікаў, 232 вучні, загадчык Ю.Лявонцьеў, для бедных дзяцей навучанне было бясплатным. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі, 528 двароў, 2614 жыхароў. У пач. 1930-х г. працавалі: калгасы «З-і рашаючы», «12 гадоў Кастрычніка», імя Молатава, гурток мастацкай самадзейнасці. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1941 г. знішчылі 52 жыхароў, у крас. 1943 г. — 13 жыхароў, у чэрв. 1944 г. часткова спалілі вёску. У падполлі загінулі 15 жыхароў, на фронце — 184 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 2139 жыхароў, у сельсавеце 4579 жыхароў. У 2-й пал. 1970-х г. працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, 5 магазінаў. У 1997 г. 674 гаспадаркі, 1433 жыхары. Дзейнічалі сярэдняя школа, Дом культуры, бальніца, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, ветэрынарны пункт, некалькі магазінаў. У 2007 г. 572 гаспадаркі, 1204 жыхары, цэнтр вытв. с.-г. кааператыва «Семежава». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры (і пры ім 3 аматарскія аб'яднанні і 5 гурткоў мастацкай самадзейнасці), б-ка, клуб, спарт. зала і пляцоўка, стралк. цір, раённы Цэнтр ткацтва, участковая бальніца з аддз. хуткай медыцынскай дапамогі, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», 3 магазіны, 3 сталовыя. Дзейнічае музей Героя Беларусі М.С. Высоцкага. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан.

Вёска — радзіма бел. вучонага-кардыёлага, 1-га нам. Вышэйшай атэстацыйнай камісіі НАН Беларусі М.А. Манака (н. ў 1943), бел. вучонага ў галіне машынабудавання, Героя Беларусі М.С.Высоцкага (н. ў 1928).

У складзе сельсавета 3 вёскі і 2 пасёлкі.

**СКАБІН** — вёска ў Капыльскім с/с, за 3 км на У ад Капыля, 123 км ад Мін-



*М.А.Манак.*



*М.В.Высоцкі.*



*Семежаўскі абрад «Цары».*

ска, 12 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Грозава. На Пд меліярацыйныя каналы. 235 гаспадарак, 600 жыхароў (2010).



*С.А.Міхальчук.*

Упершыню згадваецца ў 16 ст. як сяло ў Слуцкім княстве, у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. шляхецкая ўласнасць, 21 служба. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 19 двароў, 113 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, потым Нясвіжскага кляштара. У сярэдзіне 19 ст. цэнтр маёнтка. У 1888 г. засн. сыраробны з-д. У 1897 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, вёска — 64 двары, 362 жыхары, хлебазапасны магазін, цэнтр сельскай грамады на Капыльскім паштовым тракце; маёнтак — 16 жыхароў. У пач. 20 ст. ў маёнтку 3 двары, 14 жыхароў, 221 дзес. угоддзяў, уласнасць памешчыцы К.Д.Жыбуртовіч-Суднік. У 1916 г. ў вёсцы — 67, у 1917 г. 79 двароў. У 1921 г. на землях маёнтка створаны саўгас, 117 дзес. ворыва, меўся водны млын; у нацыяналізаваным будынку размяшчалася школа 1-й ступені, у 1923 г. 1 настаўнік, 39 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Вялешынскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі; у вёсцы 84 двары, 453 жыхары, у пасёлку 7 двароў, 36 жыхароў. У 1930-я г. вёска Скабін, у якой працаваў калгас «Новае жыццё», і пас. Скабін — калгас «Перамога» (пазней пасёлак аб'яднаўся з вёскай). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі загубілі 12 мірных жыхароў. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 22 жыхары. З 24.5.1960 г. ў Капыльскім с/с, у вёсцы 422 жыхары, у пасёлку 238 двароў, 422 жыхары. У 1997 г. вёска, 212 гаспадарак, 544 жыхары. Дзейнічалі механічны кар'ер, машынны двор, базавая школа, клуб, б-ка, ветпункт, магазін. У 2007 г. 212 гаспадарак, 538 жыхароў, цэнтр СВК «Скабін». Працуюць (2010) Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, магазін. Побач з вёскай радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу. Брацкая магіла сав. воінаў; помнік землякам. Археал. помнік — курганны могільнік.



*Уборка лёну ў СВК «Скабін».*

Вёска — радзіма бел. пісьменніка, засл. работніка культуры Беларусі С.А. Міхальчука (1925—95).

**СЛАБАДА-КУЧЫНКА** — вёска, цэнтр Слабада-Кучынскага с/с, на р. Выня. За 14 км на ПнУ ад Капыля, 108 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Слабада-Кучынка. На З і У меліярацыйныя каналы. 162 гаспадаркі, 403 жыхары (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Случарэцкім, потым у Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. ва Ігуменскім павеце, вёска, 50 двароў, 330 жыхароў, карчма, вадзяны млын, драўляная праваслаўная капліца, уласнасць кн. Д.Радзівіла. З сярэдзіны 19 ст. дзейнічала царква. У 1850-я г. ў Пукаўскай вол. таго ж павета, вёска, 53 двары, 592 жыхары, царква. У 1897 г. 103 двары, 661 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У 1907 г. створана 1-класнае нар. вучылішча. У 1909 г. 121 двор, 693 жыхары. У 1917 г. 128 двароў, 362 жыхары. У снеж. 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (будынак

арэндны), у 1922 г. 2 настаўнікі, 126 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Капыльскім р-не, хутар, 139 двароў, 764 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Зара свабоды», меліся 2 ветракі, маслазавод, кузня, з 1932 г. працавалі дзіцячыя яслі, выдавалася насценная газ. «За першынство». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 8.11.1942 г. ў аднайменных вёсцы і пас. Заполле знішчылі 10 жыхароў. Абарончыя баі ў раёне вёскі вяла 10-я стралк. дывізія. З 1943 г. дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная арг-цыя (сакратар Н.Тароцька). Зімой 1944 г. на тэр. сельсавета базіравалася партыз. брыгада 27-я імя Чапаева. Вызвалена вёска 1.7.1944 г. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 59 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. — 585, у сельсавеце 4999 жыхароў. У 1981 г. ў сельсавеце 27 населеных пунктаў, вёска — цэнтр саўгаса «Крыніца». У 1997 г. 200 гаспадарак, 539 жыхароў. Дзейнічалі ветучастак, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 2007 г. 174 гаспадаркі, 434 жыхары, цэнтр с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд». Працуюць (2010) дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, спарт. зала і 2 пляцоўкі, стралк. цір, фельч.-акушэрскі і 2 аптэчныя пункты, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка, крытыка А.А.Бабарэкі (1899—1938).

У складзе сельсавета 21 вёска і 5 пасёлкаў.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 20 км на У ад Капыля, 115 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Кандратавічы і далей па аўтадарозе Рыматаўшчына—Слабодка. На ПнУ меліярацыйны канал. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

Вядома з 17 ст. У 1639 г. невялікае с. Слабодка Цярпілаўка, 7 дымоў; Грозаўскі манастыр, сажалка, млын, уласнасць брацтва Віленскай Святадухаўскай царквы. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета, вёскі Слабодка 1 і Слабодка 2. У 1897 г. ў Жукаўскай сельскай грамадзе Грозаўскай вол., у в. Слабодка 1 — 19 двароў, 157 жыхароў, хлебазапасны магазін; у в. Слабодка 2 — 9 двароў, 62 жыхары. У 1917 г. ў в. Слабодка 1 было 23 двары, 160 жыхароў; у в. Слабодка 2 — 12 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 27 двароў, 151 жыхар. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «8 Сакавіка», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. 113 жыхароў. У 1997 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2007 г. 9 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд».

**СЛАВІНКА** — пасёлак у Браткаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Капыля, 138 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Агароднікі—Браткава, потым па прасёлачнай дарозе. З ПнЗ на Пд праходзіць меліярацыйны канал. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Склаўся ў 1920-я г. У 1924 г. пас. Славінскі ў Браткаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 20 двароў, 105 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 49 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захоп-



*А.А.Бабарэка.*

нікамі, якія 19.6.1942 г. спалілі пасёлак і загубілі 15 мірных жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 149 жыхароў. У 1997 г. было 17 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2007 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Магіла ахвяр фашызму.



*У.І.Кандраценя.*

**СМАЛІЧЫ** — вёска ў Бучацінскім с/с, каля р. Волка, за 30 км на Пд ад Капыля, 158 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Гулевічы—Навасёлкі—Смалічы. 136 гаспадарак, 345 жыхароў (2010).

У 17 ст. вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1670 г. ў складзе маёнтка Цімкавічы, 10 валок зямлі; падатак з вёскі складаў 50 злотых. У 1726 г. вёска вызвалена ад падаткаў тэрмінам на 4 гады. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 19 двароў, 91 жыхар, карчма, уладанне кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. Л.Радзівіла. У 1888 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 9 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета, вёска — 32 двары, 212 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца; урочышча — 7 жыхароў. У пач. 20 ст. 39 двароў, 250 жыхароў. У 1900 г. пачала працаваць земская школа. У 1917 г. 50 двароў, 281 жыхар. У ліп. 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, 1 настаўнік, 49 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, 51 двор, 290 жыхароў. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 1 настаўнік, 48 вучняў (будынак арэндны за 33 пуды жыта ў год). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны пагранічнік». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе загінулі 10 жыхароў, на фронце — 30 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не, у вёсцы — 409, у сельсавеце 1999 жыхароў. 24.5.1960 г. сельсавет далучаны да Бучацінскага с/с. У 1970 г. вёска, цэнтр калгаса «Іскра Леніна». Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 144 гаспадаркі, 374 жыхары. Дзейнічалі ветпункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. 137 гаспадарак, 376 жыхароў, цэнтр СВК «Малінова». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа—дзіцячы сад, дзіцячы сад, бібліятэка-клуб (і пры ёй 2 гурткі), спарт. зала і пляцоўка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. 2 брацкія магілы партызан; магіла партызана М.І.Ляхава. Помнік У.І.Леніну.



*Краявід каля в. Смалічы.*

Вёска — радзіма бел. пісьменніка У.І.Кандрацені (1917—43), які, выконваючы заданне партыз. атрада «Дзядзі Васі», быў выдадзены правакатарамі і закатаваны фашыстамі ў Вял. Айч. вайну.

**СМЫЧКА** — пасёлак у Доктаравіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Капыля, 129 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Ка-

пыль і далей па аўтадарозе Капыль—Вусава—Смычка. На ПнУ працякае р. Удава. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Склаўся ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак у Евангелевіцкім (з 1929 г. Ванелевіцкім) с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 12 двароў, 48 жыхароў. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с таго ж раёна, пасёлак, 86 жыхароў. У 1997 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у калгасе «Піянер». У 2007 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе СВК «Ванелевічы».

**СТАНЬКІ** — вёска ў Доктаравіцкім с/с, на р. Удава, за 10 км на ПдУ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Кель—Станькі. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 16 двароў, 31 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Доктаравічы кн. Вітгенштэйна, 23 цяглыя двары, 128 жыхароў, карчма. Цяглыя сяляне адбывалі паншчыну: 39 дзён з вупражжу і 19 пешых на тыдзень; выходзілі на талаку — 84 дні з вупражжу, 688 пешых у год; давалі дзякла: жыта 4 бочкі 7 асьмін, столькі ж і аўса; 39 курэй, 390 яек. У 1897 г. ў Раманаўскай вол. Слуцкага павета, вёска, 36 двароў, 180 жыхароў. У 1908 г. 44 двары, 244 жыхары. У 1916 г. адкрыта 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 45 двароў, 286 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім (з 1929 г. Ванелевіцкім) с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 48 двароў, 245 жыхароў; у 1926 г. 50 двароў, 251 жыхар. У 1930-я г. створаны калгас «XVII партз'езд». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с Капыльскага р-на, 172 жыхары, у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 38 гаспадарак, 65 жыхароў. У 2007 г. 25 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы».

Вёска — радзіма бел. паэта У.М.Ясючэні (1925— 45; друкаваўся пад псеўданімам Б.Каліна), які загінуў у Вял. Айч. вайну.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 27 км на У ад Капыля, 118 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Труханавічы. На З працякае р. Лакнея. 18 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. як фальварак у складзе маёнтка Грэск у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць (1576). У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ., вёска, 14 двароў, 82 жыхары, была карчма. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Цекавых-Цыпрынскіх, у 2-й пал. 19 ст. пабудавана цагляная царква. У 1897 г. ў Грэскай вол. Слуцкага павета, вёска — 18 двароў, 119 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 17 жыхароў; цэнтр сельскай грамады. У 1908 г. вёска, 19 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 161 жыхар, у маёнтку 2 двары, 43 жыхары; хутар — 3 двары, 19 жыхароў. У 1921 г. на базе маёнтка створана сав. гаспадарка, мела 72 дзес. зямлі. У 1924 г. вёска, 36 двароў, 175 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Труханавіцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Вясёлае жыццё», былі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 11 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.

1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. ў калгасе «Радзіма». У 1997 г. 28 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2007 г. 21 гаспадарка, 27 жыхароў, у складзе СВК «Праснакі».

**СТАРАЯ ГУТА** – вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 16 км на Пн ад Капыля, 121 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Лясное і далей па аўтадарозе Лясное–Цялядавічы. На У меліярацыйны канал. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Завішы і Нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага кляштара. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, вёска, 13 двароў, 95 жыхароў. У 1908 г. 14 двароў, 119 жыхароў; у 1917 г. 15 двароў, 107 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 24 двары, 126 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «3-і рашаючы». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 116 жыхароў, у складзе саўгаса «Лясное». Працаваў смалакурны з-д (13 жыхароў). У 1997 г. 28 гаспадарак, 57 жыхароў. У 2007 г. 16 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**СТАРЫ КАПЫЛЬ** – вёска ў Капыльскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Капыля, 125 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Думічы. 65 гаспадарак, 109 жыхароў (2010).

Упершыню згадваецца ў 1557 г. ў акце падзелу маёнткаў Капыльскага княства паміж братамі Алелькавічамі, дастаўся Сямёну Алелькавічу. У 2-й пал. 18 ст. ўласнасць М.К.Радзівіла Рыбанькі. У 1858 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 37 жыхароў мужчынскага полу, прыватная ўласнасць. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. таго ж павета, вёска – 25 двароў, 137 жыхароў; засценак – 4 двары, 39 жыхароў; маёнтак – 25 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 23 двары, 167 жыхароў; у маёнтку – 27 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы было 30 двароў, 158 жыхароў; у маёнтку – 39 жыхароў. На землях маёнтка на пач. 1920-х г. створана сав. гаспадарка (у 1921 г. на яе сядзібе 3 дзес. зямлі). У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 27 двароў, 134 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Энергія», была кузня. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 37 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы – 119, у сельсавеце 2308 жыхароў. З 24.5.1960 г. ў Капыльскім с/с, у складзе племзавода імя Дзяржынскага. У 1997 г. 77 гаспадарак, 172 жыхары. У 2007 г. 66 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе ААТ «Племзавод «Дусаеўшчына». Працуюць (2010) б-ка, магазін.

**СТАРЫНА** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Капыля, 164 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава–Выгода–Старына. На Пн, У і Пд балоты, на ПдУ Чырвонаслабодскае вадасховішча (частка). 36 гаспадарак, 49 жыхароў (2010).

Упершыню згадваецца ў 17 ст. Паводле інвентару Цімкавіцкага маёнтка за 1622 г., вёска ў Быстрыцкай вол. Навагрудскага павета, 12 валок зямлі. Трымальнікі пляцаў плацілі чынш, давалі дзякла, пастаўлялі падводы ў жніво. З

1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 54 двары, 279 жыхароў, была карчма, уласнасць М.Радзівіла; у 1816 г. 30 двароў, з 1830-х г. уласнасць Л.П.Вітгенштэйна. У 1888 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета, 58 двароў, 385 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца; у маёнтку 48 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Грэскай вол. Слуцкага павета, 17 двароў, 110 жыхароў, у маёнтку 5 двароў, 48 жыхароў. У 1912 г. школа граматы пераўтворана ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 20 двароў, 123 жыхары; у маёнтку 5 двароў, 48 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. Пасля іх адыходу маёнтак нацыяналізаваны. У жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана польскімі інтэрвентамі. 4.10. 1920 г. каля вёскі вяла абарончыя баі 17-я стралк. дывізія 16-й арміі. З 19.11. 1920 г. да пач. 1921 г. ў Семежаўскім р-не нейтральнай зоны, адкуль рабілі бандыцкія налёты атрады «Зялёнай арміі» эсэраўскай Слуцкай рады. З кастр. 1923 г. аднавіла работу школа 1-й ступені, у 1924/25 навуч. годзе 1 настаўнік, 40 вучняў (будынак уласны). З 20.8.1924 г. ў Смаліцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, 91 двор, 500 жыхароў. На пач. 1930-х г. створаны калгас «КІМ». У 1940 г. 96 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 15 мірных жыхароў. Вызвалена 3.7. 1944 г. войскамі 20-й стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 33 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска ў Смаліцкім с/с, 420 жыхароў, у 1969 г. 376 жыхароў. У 1997 г. 71 гаспадарка, 113 жыхароў, у калгасе «Іскра Леніна». У 2007 г. 46 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе СВК «Малінова». Брацкая магіла партызан; магіла земляка, Героя Сав. Саюза І.М. Максімені (1912—64); магіла сав. ваеннапалонных.

**СТАРЫЦА** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Капыля, 104 км ад Мінска, на перакрыжаванні аўтадарог Узда—Капыль і Асіповічы—Нясвіж. На ПдЗ балота, на Пд і ПдУ сажалкі. З ПнУ на Пд працякае р. Грыўчык. 222 гаспадаркі, 607 жыхароў (2010).

Упамінаецца ў 15 ст. У 1499 г. вял. князь літ. Аляксандр (1492—1506) у суднай грамаце пацвердзіў правы на Капыльскае княства С.М.Алелькавічу. У ліку маёнткаў і паселішчаў княства згадана і Старыца. У 1582 г. сяло і гаспадарскі двор у Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 17 ст. ўласнасць Радзівілаў. У 1669 г. маёнтак, меў 30 валок зямлі, з якіх 23 пуставалі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло і маёнтак, 20 двароў, 184 жыхары, карчма, млын, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1840 г. пабудавана драўляная Спаса-Праабражэнская царква. Летам 1813 г. маёнткі Д.Радзівіла секвестраваны за ўдзел у вайне супраць Расіі на баку Напалеона. З 1833 г. ва ўласнасці Л.П.Вітгенштэйна. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета. У 1861 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. 23 двары, 120 жыхароў. У 1897 г. сяло — 64 двары, 374 жыхары, нар. вучылішча, піцейны дом, царква; маёнтак — 6 двароў, 42 жыхары; сядзіба — 14 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло — 40 двароў, 299 жыхароў, маёнтак — 10 двароў, 169 жыхароў. З 1902 г. запрацаваў вінакурны з-д з мукамольным адцз., размяшчаўся ў 2-павярховым каменным будынку (у 1914—15 гг. выраблена 22 170 вёдзер гарэлкі). У 1917 г. 75



*І.М.Максіменя.*

двароў, 404 жыхары. У 1918 г. маёнтак нацыяналізаваны. У лютым— снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр.—ліп. 1920 г. польскімі інтэрвентамі. У 1920 г. створана школа 1-й ступені, была б-ка (319 кніг).

У пач. 1921 г. ў школе 2 настаўнікі, 71 вучань. У 1918 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка створаны саўгас «Старыца», меў 461 дзес. угоддзяў (305 дзес. ворыва), працавалі 17 рабочых (усяго было 97 жыхароў), дзейнічалі паравы млын, вінзавод (1920). З 20.8. 1924 г. цэнтр Старыцкага с/с Грэскага р-на, 86 двароў, 398 жыхароў, у саўгасе — 120 жыхароў. У школе 1-й ступені 2 настаўнікі, 74 вучні. На пач. 1930-х г. створаны яшчэ адзін калгас — «Ясная паляна», смалакурны завод-арцель «Хімік», спіртзавод, маслазавод. Напярэдадні вайны ў вёсцы 145 двароў, 550 жыхароў, была 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ноччу на 4.7. 1941 г. ў раёне вёскі, каля шашы Капыль—Асіповічы, няроўны бой з фашыстамі прыняла батарэя 287-га артыл. палка пад камандаваннем І.Усцінава. Варожая калона была разгромлена, праціўнік страціў 4 танкі, шмат іншай тэхнікі. У канцы ліп. 1941 г. ў Старыцкім лесе адбылося першае пасяджэнне Капыльскай падп. партарганізацыі (11 мясц. камуністаў) на чале з П.С.Лагвіненкам. Яны арганізавалі і ўзначалілі партыз. рух у раёне. У крас. 1942 г. група ўлілася ў партыз. атрад імя Чапаева (камандзір І.М.Тараховіч), які базіраваўся ў Старыцкім лесе. 7.11.1942 г. атрад блакіравалі карнікі, адбыўся бой, у якім фашысты страцілі 3 танкі, 3 бронемашыны, 16 аўтамашын, шмат жывой сілы. У баі загінуў камандзір атрада І.М.Тараховіч (псеўданім Дунаеў). З 12.12.1942 г. да 26.6.1943 г. тут размяшчаўся падп. міжраённы к-т КП(б)Б Слуцкай зоны (сакратар І.Дз. Варвашэня, жн. 1942 — крас. 1943 гг., в.а. сакратара А.І.Сцяпанава, чэрв.—ліп. 1943 г.). У час акупацыі вёска была спалена, загублены 17 жыхароў з сем'ямі. Вызвалена 3.7.1944 г. войскамі конна-механізаванай групы 1-га Бел. фронту. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 46 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Слабада-Кучынскім с/с. У 1960 г. 610 жыхароў, у 1981 г. ў калгасе «Новы свет» (цэнтр — в. Русакі). У 1997 г. вёска, 145 гаспадарак, 550 жыхароў, цэнтр калгаса «Новы свет». Дзейнічалі сярэдняя школа, ветпункт, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. 198 гаспадарак, 539 жыхароў, цэнтр ААТ «Старыца-Агра». Працуюць (2010) сярэдняя школа,





*Краявіды каля в. Старыца.*

клуб, б-ка, спарт. зала і пляцоўка, участковая бальніца, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан; магіла партызана А.М.Зянюка і помнік артылерыстам; мемарыяльная дошка ў гонар партыз. атрада імя Чапаева (на будынку школы); помнік землякам; помнік у гонар партызан.

**СТРАХІНІ** – вёска ў Бучацінскім с/с, за 41 км на Пд ад Капыля, 161 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль–Цімкавічы–Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава–Навасёлкі–Малінова–Страхіні. На Пд Чырвонаслабодскае вадасховішча (частка). 25 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 2 двары, 11 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Борткі. На пач. 1890-х г. працавала школа граматы. У 1897 г. засценак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета, 13 двароў, 94 жыхары; 5 урочышчаў на землях памешчыкаў Вайніловіча, Загорскага, Шубы, усяго 8 двароў, 55 жыхароў; фальварак, уласнасць А.Шубы – 7 жыхароў. На пач. 20 ст. засценак той жа воласці, 13 двароў, 71 жыхар, у 6 аднайменных урочышчах – 28 жыхароў. У 1917 г. засценак Вялікія Страхіні (18 двароў, 107 жыхароў), хутары Малыя Страхіні (9 двароў, 45 жыхароў), Новыя Страхіні (2 двары, 9 жыхароў), 2 хутары Страхіні (6 двароў, 32 жыхары). З 20.8.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не, у Слуцкім с/с: в. Вялікія Страхіні – 19 двароў, 97 жыхароў; в. Малыя Страхіні – 23 двары, 111 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У вер. 1924 г. адкрыта школа 1-й ступені (будынак арэндны), 1 настаўнік, 27 вучняў. У пач. 1930-х г. у калгасе «КІМ». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе, падполлі і на фронце загінулі 35 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5.1960 г. ў Бучацінскім с/с, 348 жыхароў. У 1981 г. ў калгасе «Іскра Леніна». У 1997 г. 50 гаспадарак, 75 жыхароў. У 2007 г. 36 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе СВК «Малінова».

**СУНАІ** – вёска ў Камсамольскім с/с, на р. Лакнея, за 25 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Сунаі. На ПнУ меліярацыйныя каналы. 73 гаспадаркі, 170 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1590 г. сяло Сунаевічы, 7 дымоў, 8 валок зямлі, у складзе маёнтка Грэск, шляхецкая ўласнасць. У 1632 г. сяло, 3 валокі зямлі. У 1654 г. 10 дымоў, уласнасць Радзівілаў. У канцы 18 ст. ва Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 28 двароў, 157 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у тым жа павеце. У 1861 г. адкрыта школа граматы (у 1890/91 навуч. годзе 12 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Пукаўскай вол. таго ж павета, 60 двароў, 345 жыхароў. У пач. 20 ст. 75 двароў, 404 жыхары. У 1917 г. 90 двароў, 461 жыхар. 16.12.1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 58 вучняў. У вёсцы былі 2 прыватныя млыны, створана спажывецкае т-ва. З 17.7.1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 91 двор, 455 жыхароў. У школе 1 настаўнік, 85 вучняў, будынак уласны. У 1931 г. створаны калгас «Ільіч» (53 гаспадаркі), у 1935 г. дзейнічалі ветраны млын, кузня, ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 60 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не. З 24.5.1960 г. ў Слабада-Кучын-

скім с/с, 581 жыхар. У 1981 г. ў Камсамольскім с/с, у калгасе імя Леніна. У 1997 г. 104 гаспадаркі, 216 жыхароў, магазін. У 2007 г. 81 гаспадарка, 181 жыхар, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг». Працуе (2010) магазін. Помнік архітэктуры — сядзібна-паркавы комплекс «Пукала» (сярэдзіна 19 ст.).

**СУХОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Блеўчыцкім с/с, за 26 км на Пд ад Капыля, 146 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Дзярэчына і далей па аўтадарозе Быстрыца—Сухоўчыцы. На Пн працякае р. Морач, каля граніцы Слуцкага р-на. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2010).

Паводле інвентару фальварка Быстрыца за 1622 г., вёска ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, 11 валок ворыва, у т.л. 9 цяглых. У 2-й пал. 18 ст. ў складзе маёнтка Доктаравічы, уласнасць М.К.Радзівіла Рыбанькі. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 37 двароў, 197 жыхароў, капліца, вятрак. У сярэдзіне 19 ст. цэнтр маёнтка. У 1886 г. сяло ў Быстрыцкай вол., 32 двары, 265 жыхароў, праваслаўная царква, школа граматы (у 1890 г. 9 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Быстрыцкай вол., вёска, цэнтр сельскай грамады, 49 двароў, 304 жыхары, хлебазапасны магазін, царква; маёнтак на р. Морач, 28 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 304 жыхары; у маёнтку 5 жыхароў. У 1917 г. 54 двары, 299 жыхароў; у маёнтку 22 жыхары. 4.10.1920 г. вёска акупіравана польскімі інтэрвентамі; непадалёку ад яе вялі баі войскі 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. З 2-й пал. ліст. да 4.12.1920 г. занята антысав. атрадамі эсэраўскай Слуцкай рады. У 1920 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка створаны саўгас, меў 150 дзес. угоддзяў, у т.л. 144 дзес. ворыва, працавалі 152 рабочыя і служачыя, было 16 коней, 2 прыватнаўласніцкія млыны (1921). З 1918 г. працавала школа 1-й ступені (у 1921 г. 1 настаўнік, 32 вучні). З 20.8. 1924 г. ў Быстрыцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 58 двароў, 281 жыхар; у саўгасе 59 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Урыцкага, былі кузня, вятрак. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 жыхары. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска, 203 жыхары. У 1981 г. ў калгасе імя Ціміразева. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 63 жыхары. У 2007 г. 25 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе СВК «Ціміразеўскі». Працуе (2010) Дом сац. паслуг.

**СЦЯПУРЫ** — вёска ў Вялікараёўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Капыля, 126 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Сцяпуры. На Пн балота, на ПнЗ сажалка. На З працякае р. Чайка. 43 гаспадаркі, 69 жыхароў (2010).

У 17—18 ст. вёска вядома пад назвамі Сцяпура, Катлубскі, Катлубайцы, Міжлескі, Міжлессе ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. Паводле інвентару ўладання Цімкавічы за 1670 г., сяляне за пляцы плацілі чынш, давалі дзякла. Гадавы даход з вёскі на карысць двара складаў 139 злотых. У 1691 г. было 6 валок зямлі ворнай, 12 дымоў; у 1761 г. засценак у Цімкавіцкай вол., 20 дымоў, 14 валок ворыва. Баяры плацілі чынш, неслі вайск. павіннасць у апалчэнні ўладальніка Цімкавіцкага маёнтка (Радзівіла): з кожных 5 валок выстаўлялі ўзброенага конніка. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 25 двароў, 124 жыхары, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 35 двароў, 181 жыхар. У 1917 г. 39 двароў, 227 жыхароў. 20.1.1921 г. адкрыта шко-

ла 1-й ступені, 1 настаўнік, 20 вучняў. У 1923 г. працавала польская школа. З 20.8.1924 г. ў Вялікараёўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 45 двароў, 198 жыхароў. У 1926 г. засценак у Ланцуцкім нац. польскім с/с, 38 двароў, 202 жыхары. На пач. 1930-х г. у калгасе «Шлях камуны». З 14.8.1937 г. ў Вялікараёўскім с/с таго ж раёна. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 30 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Цімкавіцкім с/с, 267 жыхароў. У 1981 г. ў Вялікараёўскім с/с, у калгасе «Шлях камуны». У 1997 г. 61 гаспадарка, 120 жыхароў. У 2007 г. 50 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Руднае» ААТ «Капыльскі райаграсервіс». Археал. помнікі — гарадзішча, курганны могільнік.

**ТАЛМАЧОВА** — вёска ў Бучацінскім с/с, за 43 км на Пд ад Капыля, 163 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы—Гулевічы і далей па аўтадарозе Жыліхава—Бучаціна—Малінова—Талмачова. На Пд Чырвонаслабодскае вадасховішча (частка). 24 гаспадаркі, 33 жыхары (2010).

У пач. 20 ст. фальварак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 5 жыхароў. У 1917 г. 7 жыхароў; на аднайменным хутары 4 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Смалявіцкім с/с, у Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «XV партз'езд». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска ў Смаліцкім с/с, 253 жыхары. З 24.5. 1960 г. ў Бучацінскім с/с, у калгасе «Іскра Леніна». У 1997 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары. У 2007 г. 29 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе СВК «Малінова».

**ТРАЯНАВА** — вёска ў Пацейкаўскім с/с, на р. Жавулка, за 13 км на ПнЗ ад Капыля, 133 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Кацельнікі—Траянава. На Пн і ПнЗ меліярацыйныя каналы. 66 гаспадарак, 89 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 17 ст. сяло ў складзе маёнтка Пацейкі, да 1669 г. ўласнасць Радзівілаў, потым Любамірскіх. У 1800 г. сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. М.Радзівіла, 80 двароў, 411 жыхароў, была карчма. У 1863 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 96 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі). У 1885 г. ў Пацейкаўскай вол. таго ж павета, 88 двароў, 670 жыхароў. У 1897 г. 155 двароў, 902 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом, кузня, 5 ветракоў. У 1908 г. 168 двароў, 976 жыхароў; у 1917 г. 180 двароў, 875 жыхароў. У 1919 г. ў час летне-асенняга наступлення польскіх войск у раёне вёскі дзейнічаў партыз. атрад. З пач. снеж. 1920 г. ў раёне нейтральнай зоны Пацейкаўскага вал. рэўкома. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені (1 настаўнік, 37 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Пацейкаўскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 166 двароў, 789 жыхароў, у 1926 г. 166 двароў, 756 жыхароў. У 1924 г. ў школе (будынак арэндны) 1 настаўнік, 60 вучняў, піянерская і камсамольская ячэйкі, культ.-асв. і с.-г. гурткі. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Камуніст». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 45 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. было 598 жыхароў, у калгасе «Прагрэс». У 1997 г. 110



*Н.І.Букатая.*



*Я.Скрыган.*

гаспадарак, 187 жыхароў, магазін. У 2007 г. 74 гаспадаркі, 115 жыхароў, у складзе СВК «Пацейкі». Працуе (2010) філіял Дома культуры.

Вёска – радзіма Героя Сац. Працы Н.І.Букатай.

**ТРУХАНАВІЧЫ** – вёска ў Камсамольскім с/с, каля р. Лакнея, за 28 км на ПнУ ад Капыля, 116 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Труханавічы. 67 гаспадарак, 135 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. У 1590 г. ў Грэскай вол. Навагрудскага павета і ваяводства ВКЛ, сяло, 12 валок зямлі, уласнасць казны. У 1632 г. ў маёнтку Грэск, 10 валок, уласнасць кн. А.Радзівіла. У 1677 г. 20 дымоў, царква. У 1722 г. 34 дымы, уласнасць кн. М.Радзівіла. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 40 двароў, 231 жыхар, драўляная праваслаўная царква Іаана Багаслова, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1812 г. царква разрабавана французамі. У 1825 г. пабудавана драўляная Петрапаўлаўская царква. У 1861 г. адкрыта школа граматы для хлопчыкаў, будынак уласны (у 1891 г. 23 вучні). У сярэдзіне 1880-х г. сяло ў Пукаўскай вол. Слуцкага павета, 52 двары, 460 жыхароў, царква. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, сяло – 111 двароў, 703 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, царква, піцейны дом; фальварак – 2 двары, 5 жыхароў. У 1908 г. 112 двароў, 712 жыхароў; маёнтак – 2 двары, 10 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 150 двароў, 829 жыхароў; у маёнтку 2 двары, 14 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені, у 1921 г. 2 настаўнікі, 71 вучань; у сяле 3 прыватныя млыны. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. У канцы 1920-х г. створаны калгас «Камунар», былі вятрак, кузня, ваўначоска, маслазавод, працавалі дзіцячыя яслі. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут існаваў ням. гарнізон, разгромлены партызанамі атрада імя Панамарэнкі 27-й брыгады імя В.І.Чапаева (чэрв. 1944 г.). У гэтым баі загінуў камандзір роты А.Некраш. Вызвалена вёска 1.7.1944 г. На фронце загінулі 57 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не, у 1981 г. ў Камсамольскім с/с Капыльскага р-на, у калгасе імя Суворава. У 1997 г. 115 гаспадарак, 195 жыхароў, магазін. У 2007 г. 80 гаспадарак, 157 жыхароў, у складзе СВК «Каменскі». Працуюць (2010) клуб, Дом сац. паслуг, магазін.

Вёска – радзіма бел. пісьменніка Я.Скрыгана (1905–92), бел. хіміка, праф. А.І.Скрыгана (1905–81).

**УЖА** – вёска ў Доктаравіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Капыля, 138 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Гарнастайлава–Ужа. На Пн сажалка, на З і Пд меліярацыйныя каналы. 67 гаспадарак, 125 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 70 двароў, 352 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. Летам 1887 г. і восенню 1888 г. адбываліся сял. хваляванні. У 1890 г. дзейнічалі 2 царк.-прыходскія школы. У 1897 г. ў Грозаўскай вол., вёска, 95 двароў, 529 жыхароў, капліца. У 1909 г. засценак той жа воласці, 100 двароў, 596 жыхароў. У 1916 г. адкрыта 1-класная земская школа. У 1917 г. засценак, 108 двароў, 597 жыхароў. У 1921 г. пачала працаваць школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 70 вучняў, мела 3 дзес. ворыва. З 20.8. 1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, было 106 двароў, 533 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Гігант Молатава», былі ваўначоска, маслазавод, 2 кузні. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана

ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 27 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай вол. З 16.7.1954 г. ў Ванелевіцкім с/с, з 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не Мінскай вобл. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с. У 1960 г. 385 жыхароў, у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 99 гаспадарак, 187 жыхароў, магазін. У 2007 г. 76 гаспадарак, 137 жыхароў, у складзе Мінскага абл. УП «Доктаравічы». Працуе (2010) магазін.

**ФІЛІПАВІЧЫ** — вёска ў Семежаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Капыля, 146 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, на шашы Брэст—Слуцк. На ПнЗ меліярацыйны канал. 31 гаспадарка, 43 жыхары (2010).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Кіявіцкай вол. таго ж павета, 60 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. вёска — 50 двароў, 286 жыхароў, піцейны дом; маёнтак — 8 двароў, 83 жыхары, кузня, сталярня, крама; сядзіба — 2 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 55 двароў, 394 жыхары. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. вёска — 72 двары, 463 жыхары; хутар — 2 двары, 21 жыхар. У 1920 г. пачала працаваць школа 1-й ступені (у 1921 г. 2 настаўнікі, 51 вучань), мела 3 дзес. зямлі. У вёсцы быў вятрак. З 20.8. 1924 г. ў Макранскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 84 двары, 463 жыхары; хутар, 5 жыхароў. У пач. 1930-х г. быў калгас «Чырвоны працаўнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 119 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 4.6.1941 г. спалілі яе і загубілі 2 жыхароў. На фронце загінулі 17 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7. 1954 г. ў Семежаўскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 451 жыхар. У 1997 г. 61 гаспадарка, 93 жыхары, у калгасе імя Дзяржынскага. У 2007 г. 36 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе вытв. с.-г. кааператыва «Семежава». Працуе (2010) магазін.

Вёска — радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі БССР І.П.Рудніцкага.

**ФІЛІПАВІЧЫ** — пасёлак у Блеўчыцкім с/с, за 29 км на ПдЗ, 149 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, каля шашы Слуцк—Брэст. 91 жыхар (2010).

На тэр. пасёлка размяшчаецца Капыльскі дом-інтэрнат, дзе пражываюць людзі сталага ўзросту. У 2007 г. 98 чал.; пасёлак у складзе ААТ «Капыльскае». Помнік землякам.

**ХАРЫТОНАЎКА** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Капыля, 97 км ад Мінска, на шашы Узда—Старыца. На Пн працякае р. Лоша, на У балоты. 61 гаспадарка, 110 жыхароў (2010).

У пач. 20 ст. засценак у Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета, 21 двор, 180 жыхароў. У 1924 г. вёска ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 27 двароў, 125 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны баец». З 8.7. 1931 г. ў Капыльскім р-не. З



*Помнік землякам, загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну, у пас. Філіпавічы.*

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 24 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, 154 жыхары. У 1997 г. 84 гаспадаркі, 185 жыхароў. У 2007 г. 62 гаспадаркі, 126 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Крыніца» ААТ «Мінскрамбуд». Працуюць (2010) клуб-бібліятэка, фельч.- акушэрскі і аптэчны пункты, магазін. 2 брацкія магілы сав. воінаў; брацкая магіла сав. воінаў і партызан; магілы партызан І.А.Касцялея, М.С.Рудакова, загінуўшых 28.4.1944 г.

**ХВОЙНІКІ** – пасёлак у Камсамольскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Капыля, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Камсамольская і далей па аўтадарозе на Хвойнікі. На Пд сажалка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

У пач. 20 ст. засценак у Пукаўскай вол. Ігуменскага павета, 12 двароў, 60 жыхароў, у 1917 г. 7 двароў. З 20.8. 1924 г. засценак у Пукаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 10 двароў, 48 жыхароў. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай абласцях. З 17.12.1956 г. ў Капыльскім р-не, з 24.5.1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, пасёлак, 49 жыхароў. З 16.1.1969 г. ў Камсамольскім с/с. У 1997 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў, у калгасе імя Леніна. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе філіяла «Лакнея» УП «Прыёрлізінг».

**ЦАГЕЛЬНЯ** – пасёлак у Бабаўнянскім с/с, за 15 км на Пн ад Капыля, 121 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Лясное і далей па аўтадарозе Лясное—Навасёлкі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

У 1897 г. выселак, 5 двароў, 35 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак у Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., у 1916 г. 10 двароў, у 1917 г. хутар, 11 двароў. У 1920-я г. склаўся пасёлак. У 1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 5 двароў, 27 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак, 18 жыхароў, у саўгасе «Лясное». У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2007 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное».

**ЦІМКАВІЧЫ** – аграгарадок, цэнтр Цімкавіцкага с/с. За 12 км на ПдЗ ад Капыля, 132 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы, каля рэк Мажа і Стары Роў. Аўтастанцыя на перакрыжаванні дарог на Капыль, Нясвіж, в. Гулевічы. 579 гаспадарак, 1278 жыхароў (2010).

Назва паходзіць ад імя Цімафей і вытворных ад яго прозвішчаў. Упершыню згадваецца 16.1.1499 г. ў судовай грамаце вял. князя літ. Аляксандра (1492—1506), паводле якой права на валоданне Слуцка-Капыльскім княствам замацоўвалася за родам Алелькавічаў, нашчадкаў кн. Уладзіміра Альгердавіча (ранейшага ўладальніка княства). На пач. 16 ст. Цімкавічы неаднаразова цярпелі ад набегаў крымскіх татараў Баты-Гірэя. У 1557 г. пасля падзелу маёнтка капыльскага князя паміж братамі Алелькавічамі Цімкавічы адышлі да Юрыя Алелькавіча, у 1582 г. ўладаль-



*Аграгародак Цімкавічы.*

нікам маёнтка стаў яго сын Ян Сымон Алелькавіч (1560–92). З 1585 г. пасля смерці апошняга з князёў Алелькавічаў – Юрыя Юр'евіча маёнтак знаходзіўся пад упраўленнем апекуна малалетняй Соф'і Юр'еўны Алелькавіч кашталяна віленскага Гераніма Хадкевіча. У 1582 г. сяло, з 1587 г. мястэчка ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, з 1602 г. згадваецца як цэнтр аднайменнага графства. З 17 ст. буйны маёнтак, уладанне Сапегаў, Палубінскіх, з канца 17 ст. – Радзівілаў. У 1622 г. воласць магнацкага двара Цімкавічы налічвала 10 сёл і 2 мястэчкі. У с. Цімкавічы 10 валок зямлі, часткай якой валодалі цагельнік, півавар, рыбак, 2 вазніцы, млынар, бакалаўр. За надзелы сяляне плацілі 18 коп 48 грошай літоўскіх. Цяглыя сяляне апрача 3-дзённай паншчыны ў тыдзень давалі з валокі на карысць двара дзякла: бочку жыта і аўса, 1 гусі, 2 курыцы, 20 яек, воз сена. Ад пач. 17 ст. да 1760-х г. з маёнтка і двара Цімкавічы часта перадаваліся ў арэнду на 2–3 гады корчмы, млыны; пошліны ў мястэчку давалі на водкуп мяшчанам і яўрэям. Паводле інвентару за 1670 г., у мястэчку 51 дым, 26 валок ворнай зямлі, 4 вуліцы: Слуцкая, Капыльская, Востраўская, Даўжанская; налічвалася ўчасткаў забудовы аселых 50, бакавых – 77, пустых – 8. Цэнтр. частку займала гандл. плошча, была Ільінская царква. З 1647 г. існаваў парафіяльны Міхайлаўскі касцёл, фундушы якому давалі Казімір Сапега (1647), Аляксандр Палубінскі (1672). Значная колькасць валок належала татарам. У канцы 17 ст. ў мястэчку 93 дымы, 30 валок зямлі, 128 участкаў пад забудову, з якіх $51\,{}^{1}/_{4}$ аселыя. Прыбытак «з горада» складаў 622 злотых $1\,{}^{2}/_{12}$ гроша; у гаспадарцы было 57 коней, 47 валоў; 29 вуллёў. У 1713 г. уласнасць Яна Радзівіла, дом рамеснікаў, турма; у мястэчку 124 дымы (65 аселых); у воласці 406 дымоў, валок старых $257\,{}^{2}/_{3}$, новых $59\,{}^{2}/_{3}$, моргаў усяго 1433;



*Адміністрацыйны будынак свінакомплексу ў ААТ «Капыльскае» ў аграгарадку Цімкавічы.*

220 коней, 418 валоў. На пач. 1760-х г. 159 дымоў, $34\,{}^{1}/_{8}$ валокі зямлі; пашыраны шавецкае, кравецкае, ткацкае, кавальскае, ювелірнае рамёствы. Гадавы даход з мястэчка складаў 13 917 злотых, $11\,{}^{1}/_{3}$ гроша. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце, цэнтр Цімкавіцкай парафіі (900 дымоў). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, з 1795 г. цэнтр воласці ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў мястэчку 139 двароў, 708 жыхароў, касцёл, царква, 2 карчмы, штогадовы кірмаш; у двары (уласнасць М.Радзівіла) 79 жыхароў, 2 млыны, бровар. З 1847 г. ў складзе Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1859 г. 257 двароў, 2 вадзяныя млыны, 6 гандл. крам. У 1863 г. 649 жыхароў, у 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1867 г. ў мястэчку 826 жыхароў абодвух полаў,

*Народны тэатр Цімкавіцкага Дома культуры. Першы склад удзельнікаў спектакля «Назар Стадоля» Т.Шаўчэнкі. 1905 г.*



132 двары. У 1886 г. 138 двароў, 728 жыхароў, вал. праўленне, паштовая станцыя, 2 праваслаўныя царквы, касцёл, 2 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, 6 заезных двароў, 35 крам, у сядзібе – бровар, піваварня. У 1897 г. мястэчка пры паштовым тракце Слуцк–Нясвіж і гандлёвым Клецк–Цімкавічы, 360 двароў, 2380 жыхароў, 2 царквы, касцёл, 3 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча (у 1892 г. 90 хлопчыкаў, 20 дзяўчынак), паштовае аддз., вал. праўленне, мяшчанская ўправа, хлебазапасны магазін, 42 крамы (6 з чырвоным таварам, 4 мясныя, мучная і інш.), аптэка, аптэчная крама, 2 заезныя, 3 піцейныя дамы; адбываліся 4 штогадовыя кірмашы, штотыднёвыя таржкі; у маёнтку – 24 жыхары, вінакурня, бровар; у сядзібе – 9 жыхароў, вадзяны млын. У 1905 г. пачаў працаваць нар. тэатр. У рэвалюцыю 1905–07 гг. дзейнічала група Мінскай сял. арг-цыі РСДРП, адбываліся мітынгі і дэманстрацыі. У 1909 г. 323 двары, 1681 жыхар; у маёнтку 63 жыхары. У 1917 г. ў мястэчку 355 двароў, 2253 жыхары, вышэйшае пач. вучылішча, у маёнтку 202 жыхары. З 2-й пал. лютага да сярэдзіны снеж. 1918 г. Цімкавічы акупіраваны герм. войскамі, з пач. 1919 г. дзейнічаў рэўком на чале з В.Ц.Бахтай. З жн. 1919 г. да кастр. 1920 г. заняты польскімі інтэрвентамі. З 18.3.1921 г. воласць апынулася ў памежнай зоне, адкуль амаль да сярэдзіны 1920-х г. рабілі налёты шматлікія антысав. банды. Вясной 1921 г. пачалося землеўпарадкаванне воласці. На май 1921 г. ў воласці налічвалася 8120 жыхароў, якія мелі 4500 дзес. надзелаў. На землях б. маёнтка пачалі стварацца сав. гаспадаркі, у т.л. саўгас (свінаводчы) «Цімкавічы», які ў 1922 г. меў 445,98 дзес. зямлі, 32 кані, кузню, пракатны і зернеачышчальны пункты, працавалі 53 рабочыя. Дзейнічалі вінзавод, вадзяны млын, школа 1-й ступені (3 настаўнікі, 118 вучняў у 1921 г.), хата-чытальня. У мястэчку бел. і яўрэйская 7-гадовыя школы, спажывецкае т-ва (з 1921), т-ва саматужнікаў (56 рамеснікаў 8 прафесій). Паводле перапісу 1923 г., гандлем займаліся 172 жыхары (больш за 30 прафесій), працавалі 2 сямігодкі, у т.л. яўр., хата-чытальня, школа 1-й ступені; 1 урач, 2 фельчары; дзейнічаў бел. аматарскі тэатр (пачынаўся як драматычны гурток у 1905 г.; у 1930-я г. выступаў у Мінску, Маскве). У 1924 г. ў мястэчку 325 двароў, 1951 жыхар; у саўгасе 162 жыхары. З 20.8.1924 г. да 24.9.1926 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на Слуцкай акругі. Пад канец 1-й пяцігодкі дзейнічалі вінзавод, млын, прам. майстэрні-арцелі кавальская



*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка ў аграгарадку Цімкавічы. 2006 г.*



*Маладое пакаленне аграгарадка Цімкавічы.*

«Чырвоны молат», шавецкая «Камунар», кравецкая «Пагранічнік», хлебапякарня, сталовая, паштовае аддз. Да 1935 г. створаны калгас «Рэвалюцыя», у 1936 г. — Цімкавіцая МТС. У 1938 г. мястэчка стала вёскай, 27.9.1938 г. аднаўлены Цімкавіцкі с/с. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут гарнізон. У 1942 г. яны загубілі 1018 жыхароў. У вёсцы дзейнічала падп. група. 16.7.1942 г. партызаны брыгады імя Варашылава Мінскай вобл. разграмілі гарнізон, разбурылі чыг. станцыю. У 1944 г. вёска часткова спалена. Вызвалена 3.7. 1944 г. воінамі 37-й Слуцкай механізаванай брыгады конна-механізаванай групы ген.-лейт. І.А.Пліева. У партыз. барацьбе загінулі 8 жыхароў, на фронце 54 жыхары. З 20.9.1944 г. цэнтр сельсавета ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 1018 жыхароў; рамонтна-тэхн. станцыя — 125 жыхароў, спіртзавод — 166 жыхароў; у сельсавеце 3671 жыхар. У 1981 г. было 11 паселішчаў, працавалі калгас і саўгас. У 1974 г. ў вёсцы спіртзавод, пякарня, млын, дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, працаваў нар. тэатр. У 1997 г. 540 гаспадарак, 1,4 тыс. жыхароў, музей. У 2003 г. 910 гаспадарак, 2009 жыхароў. Дзейнічалі прадпрыемствы райаграпрамзабеспячэння, райпалівазбыт, аўтапарк № 21, з-д жалезабетонных вырабаў, лесагадавальнік, база мінеральных угнаенняў; сярэдняя школа імя К.Чорнага, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, Літаратурны музей імя К.Чорнага. У 2007 г. 587 гаспадарак, 1322 жыхары, цэнтр ААТ «Капыльскае». Дзейнічаюць (2010) капыльскі філіял дзярж. прадпрыемства «Мінаблпаліва», вытв. ўчастак ААТ «Клецкі камбікормавы завод», магазін ААТ «Капыльскае». Працуюць дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа імя К.Чорнага (і пры ёй інтэрнат для дзяцей з аддаленых вёсак, 11 гурткоў і 2 клубы па інтарэсах, 6 спарт. секцый, спарт. зала і пляцоўка), Дом культуры (і пры ім 4 гурткі і 6 клубных фарміраванняў), б-ка (і пры ёй 2 клубныя аб'яднанні), школа мастацтваў (6 класаў розных муз. напрамкаў), участковая бальніца, сталовая, 4 прам., прадуктовы, будаўнічых матэрыялаў магазіны, участковая ветэрынарная лячэбніца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларусбанк». Дзейнічае Літаратурны музей імя К.Чорнага, які ў 1909—14 гг. вучыўся тут у нар. вучылішчы, у 1920—22 гг. працаваў у Цімкавіцкім вал. рэўкоме, затым у 7-гадовай школе. Брацкія магілы пагранічнікаў 17-га Цімкавіцкага пагранатрада, якія загінулі ў 1923, 1930 і 1939 гг.; брацкая магіла сав. воінаў і партызан, загінуўшых у 1944 г.; магіла 990 ахвяр фашызму; мемарыяльны знак у гонар 17-га Чырванасцяжнага Цімкавіцкага пагранатрада, штаб якога размяшчаўся тут у 1923—40 гг.; мемарыяльная дошка ў гонар пар-



*Краявід каля в. Цімкавічы.*



*І.М.Даўгін.*



*Б.Г.Іваноў.*



*У.А.Наржымскі.*

*Троіцкая царква ў в. Цялядавічы.*

тыз. брыгады імя Варашылава. Помнікі архітэктуры: капліца і брама-званіца (2-я пал. 19 ст.), пабудаваныя ў памяць аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці.

Вёска — радзіма засл. настаўніцы БССР І.І.Рудзік; бел. вучонага, доктара геагр. навук І.М.Даўгіна, які займаўся вывучэннем атмасферы Арктыкі і Антарктыкі; бел. пісьменніка, літаратуразнаўца, педагога А.Бельскага (н. ў 1963); бел. мастака, жывапісца, графіка Б.Г.Іванова (н. ў 1952); Героя Сав. Саюза У.А.Наржымскага (1915—88).

**ЦЯЛЯДАВІЧЫ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, каля р. Гніліца, за 24 км на ПнЗ ад Капыля, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Старыца—Лясное і далей па аўтадарозе Старая Гута—Цялядавічы. 76 гаспадарак, 156 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 18 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ, быў драўляны Троіцкі касцёл, пабудаваны ў 1792 г. на сродкі Нясвіжскага жаночага кляштара бенедыкцінак, якому належаў маёнтак Цялядавічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Бярновічаў. У 1868 г. касцёл перабудаваны пад царкву. У 1894 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. (цэнтр — в. Бабоўня) тых жа павета і губерні, сяло — 9 двароў, 43 жыхары; пасёлак — 3 двары, 14 жыхароў; царква, паштовая станцыя. У 1909 г. ў сяле 9 двароў, 67 жыхароў; у 1917 г. 13 двароў, 91 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і ў кастр. 1920 г. — польскімі інтэрвентамі. З 12.10.1920 г. ў нейтральнай зоне, адкуль да сак. 1921 г. падвяргалася бандыцкім нападам атрадаў «Беларускай рады Случчыны». У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у 1921 г. 1 настаўнік, 34 вучні, мела 3 дзес. ворыва; дзейнічалі камсамольская ячэйка, культ.-асв. гуртох, спажывецкае т-ва. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, сяло, 12 двароў, 63 жыхары; у 1926 г. 13 двароў, 66 жыхароў. У 1924/25 навуч. годзе ў школе 1 настаўнік, 71 вучань; працавалі с.-г. і культ.- асв. гурткі. У пач. 1930-х г. у калгасе імя Красіна. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска, 73 жыхары. У 1997 г. 112 гаспадарак, 230 жыхароў, магазін. У 2007 г. 86 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Лясное». Працуе (2010) магазін. Помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму — Троіцкая царква (2-я пал. 18 ст.).

**ЧАРНАГУБАВА** — вёска ў Цімкавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Капыля, 130 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Чарнагубава. На Пд працякае р. Стары Роў. 162 гаспадаркі, 276 жыхароў (2010).

У 17 ст. сяло ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У інвентары двара Цімкавічы за 1622 г. згадваецца як сяло, 28 валок зямлі. Цяглыя сяляне мелі 16 валок, з іншых упамінаюцца баярын, кухар, пекар. У 1686 г. 10 дымоў, упа-







*Гатовая прадукцыя ТАА «Бетыз», размешчанага ў в. Чарнагубава.*

*На вытворчым участку ТАА «Сармат» у в. Чарнагубава.*

мінаецца татарская слабада (19 валок), была карчма. У 1761 г. засценак, 44 двары. Заможныя ўласнікі валок давалі ў апалчэнне магната коннага ўзброенага воіна (на гэты час 3 конныя). У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 9 двароў, 38 жыхароў, карчма; засценак – 57 двароў, 277 жыхароў, карчма; фальварак – 6 двароў, 25 жыхароў, вінакурня, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1816 г. 2 двары, у 1897 г. ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 10 двароў, 581 жыхар, 3 капліцы. У пач. 20 ст. засценак у Цімкавіцкай вол. таго ж павета, 99 двароў, 534 жыхары; у 1917 г. 121 двор, 654 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені. У лютым–снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 – ліп. 1920 гг. і ў кастр. 1920 г. – польскімі інтэрвентамі. 4.10.1920 г. каля вёскі жорсткія баі з палякамі вялі часці 17-й стралк. дывізіі 16-й арміі. З 2-й пал. ліст. 1920 г. да 4.12.1920 г. занята антысав. эсэраўскімі атрадамі Бел. рады Случчыны. Пасля іх разгрому ўвайшла ў раён нейтральнай зоны Семежаўскага рэўкома. 20.12. 1920 г. аднавіла працу школа, у 1921 г. 1 настаўнік, 29 вучняў, 3 дзес. ворыва. У вёсцы быў млын. У 1923 г. працавала польская пач. школа. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Капыльскага р-на Слуцкай акругі; 117 двароў, 540 жыхароў (1924). У 1926 г. засценак у Ланцуцкім польскім нац. с/с (да 14.8.1937), 130 двароў, 577 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Польскі камунар», былі 2 кузні. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 23 жыхары, у партыз. барацьбе – 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Цімкавіцкім с/с, 630 жыхароў. У 1997 г. 212 гаспадарак, 431 жыхар. У 2007 г. 185 гаспадарак, 337 жыхароў, у складзе ААТ «Капыльскае». Дзейнічаюць (2010) лесагадавальнік, ТАА «Бетыз», ААТ «Сармат», прыватнае вытв. УП «Лёс-Ойл». Працуюць б-ка, магазін.

**ЧАРНІЧНАЕ** – вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Капыля, 104 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Карзуны і далей па аўтадарозе Карзуны–Бор. На ПнЗ і ПдУ балоты, на Пн сетка меліярацыйных каналаў. 30 гаспадарак, 70 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. ва Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 2 аднайменныя вёскі, уласнасць кн. Д.Радзівіла, 18 двароў, 131 жыхар. У 1897 г. ў Пукаўскай вол. таго ж павета, 19 двароў, 114 жыхароў, вятрак. У 1908 г. ў Слабада-Пырашаўскай вол. таго ж павета, засценак, 24 двары, 237 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Старыцкім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, засценак, 24 двары, 139 жыхароў. З 21.6.1935 г. ў Капыльскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 26 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв.

1944 г. спалілі яе. На фронце загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. ў Слабада-Кучынскім с/с, вёска, 136 жыхароў. У 1997 г. 30 гаспадарак, 74 жыхары, у саўгасе «Крыніца». У 2007 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе ААТ «Старыца-Агра». Працуе (2010) аўтаматычная тэлеф. станцыя.

**ЧЫЖЭВІЧЫ** – пасёлак у Доктаравіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Капыля, 133 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Ванілевічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Вусава–Ванелевічы–Чыжэвічы. На ПдЗ меліярацыйныя каналы. 40 гаспадарак, 76 жыхароў (2010).



*Магазін у в. Чыжэвічы.*



*Лясныя ўгоддзі каля в. Чыжэвічы.*

Упершыню згадваюцца ў 16 ст. У 1598 г. сяло, шляхецкая ўласнасць у Цімкавіцкім графстве. Паводле інвентару фальварка Быстрыца за 1622 г., урочышча ў Навагрудскім павеце, 31 морг зямлі. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. фальварак, сядзіба, уласнасць кн. Д.Радзівіла ў Капыльскім княстве, быў вадзяны млын. У пач. 20 ст. маёнтак у Раманаўскай вол., 92 жыхары. У 1917 г. 117 жыхароў. У 1921 г. на базе нацыяналізаванага маёнтка створана сав. гаспадарка, быў вінзавод. У 1923 г. ў саўгасе 23 рабочыя і служачыя. З цягам часу на месцы яго сядзібы вырас пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Евангелевіцкім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. На сядзібе саўгаса 77 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., сядзіба Чыжэвіцкая, МТС. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты на базе саўгаса «Чыжэвічы» стварылі гаспадарку па забеспячэнні сваёй арміі. Жыхары саўгаса зрывалі сеў, байкаціравалі эканам. мерапрыемствы ворага. Пасёлак вызвалены 1.7.1944 г. На фронце загінулі 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў Ванелевіцкім с/с, сядзіба Чыжэвіцкай рамонтна-тэхн. станцыі, 117 жыхароў. З 24.5.1960 г. ў Доктаравіцкім с/с, пазней у саўгасе «Доктаравічы». У 1997 г. 42 гаспадаркі, 97 жыхароў. У 2007 г. 40 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе СВК «Ванелевічы». Працуе (2010) магазін.

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** – былы пасёлак у Пацейкаўскім с/с, за 15 км на З ад Капыля, 135 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Пацейкі–Чырвоная Горка.

Пасёлак створаны пасля 1917 г. У 1926 г. 8 двароў, 33 жыхары. Мясц. дзеці вучыліся ў Жавульскай школе. У 2007 г. ў складзе СВК «Пацейкі». Брацкая ма-





*Рэшткі алеі (злева) і парку былой сядзібы «Макраны» ў в. Чырвоная Дубрава.*

гіла партызан, якія загінулі ў маі 1944 г. ў баі супраць ням.-фаш. захопнікаў.

**ЧЫРВОНАЯ ДУБРАВА** (да 1964 г. Макраны) — вёска ў Семежаўскім с/с, каля р. Морач, за 39 км на ПдЗ ад Капыля, 159 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль—Цімкавічы і далей па аўтадарозе Лешня—Кіявічы—Чырвоная Дубрава. На Пд і ПдУ меліярацыйныя каналы. 191 гаспадарка, 339 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Кіявіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Да 1857 г. была Георгіеўская царква (згарэла), у 1863—66 гг. адноўлена як мураваная на сродкі Іосіфа Вайніловіча. У 1886 г. дзейнічалі 2 праваслаўныя царквы, касцёл, конная паштовая станцыя. У пач. 20 ст. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 141 двор, 805 жыхароў, існаваў аднайменны маёнтак. З 20.8.1924 г. вёска Сярэднія Макраны, цэнтр сельсавета Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай акругі. У 1935 г. перайменавана ў в. Макраны. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны вартаўнік». З 1939 г. вядома як в. Задвор'е. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі яе і загубілі 11 мірных жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 89 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Семежаўскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска Макраны, 552 жыхары. У 2-й пал. 1970-х г. працавалі лесапільня, млын, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, 2 магазіны; цэнтр калгаса імя Дзяржынскага. З 2-й пал. 19 ст. цэнтр хатняга мастацкага ткацтва. У сав. час вырабы ўдзельнікаў дэманстраваліся на рэсп. і ўсесаюзных выставах і за мяжой. У 1976 г. ў вёсцы створаны апорны пункт Слуцкай ф-кі мастацкіх вырабаў. У 1997 г. 286 гаспадарак, 608 жыхароў. Дзейнічалі машынны двор, млын, ветучастак, дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, 2 магазіны. У 2007 г. 216 гаспадарак, 395 жыхароў, у складзе вытв. с.-г. кааператыва «Семежава». Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—базавая школа, клуб, б-ка, спарт. зала і пляцоўка,

*Краявід каля в. Чырвоная Дубрава.*





І.Дз.Ралько.

фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Дзейнічае Цэнтр ткацкага майстэрства. Помнік на брацкай магіле партызан, якія загінулі ў 1942–44 гг. Помнік архітэктуры — сыраварня (19 ст.).

Вёска — радзіма бел. паэта і літаратуразнаўца І.Дз.Ралько (1929–79), бел. мовазнаўца, доктара філалагічных навук М.С.Васілеўскага (1928–89).

**ЧЫРВОНЫ ПАРТЫЗАН** — вёска ў Капыльскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Капыля, 124 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы–Баранавічы. На ПнУ меліярацыйны канал, на ПдУ сажалка. 47 гаспадарак, 118 жыхароў (2010).

У 1960 г. вёска ў Капыльскім с/с, 243 жыхары. У 1997 г. 62 гаспадаркі, 153 жыхары, у калгасе «Ленінец». У 2007 г. 56 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе СВК «Мажа-Агра».

**ШАМЫ** — вёска ў Слабада-Кучынскім с/с, за 22 км на Пн ад Капыля, 107 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Харытонаўка і далей па аўтадарозе Крыніца–Вялешына 1–Шамы. З Пн на ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, на ПнУ балота. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 25 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у сярэдзіне 19 ст. ва ўласнасці казны. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага павета, вёска — 9 двароў, 62 жыхары; выселак — 3 жыхары. У пач. 20 ст. 10 двароў, 70 жыхароў; выселак — 5 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 17 двароў, 85 жыхароў. З пач. снеж. 1920 г. ў раёне нейтральнай зоны Цялядавіцкага вал. рэўкома. У 1924 г. 14 двароў, 73 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Пясочанскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі. У 1926 г. засценак таго ж сельсавета, 13 двароў, 65 жыхароў. У пач. 1930-х г. у калгасе «Араты». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.6.1963 г. ў Слабада- Кучынскім с/с. У 1960 г. вёска, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Прамень». У 1997 г. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў. У 2007 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе раённага с.-г. УП «Саўгас Прамень». Археал. помнік — курганны могільнік (за 0,3 км на Пн).

**ЮРАЎШЧЫНА** — пасёлак у Грозаўскім с/с, каля р. Ужанка, за 17 км на У ад Капыля, 137 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы–Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Капыль і далей па аўтадарозе Капыль–Гарнастайлава–Грозава. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У 1917 г. хутар у Грозаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. У 1920-я г. склаўся пасёлак; у 1924 г. 13 двароў, 77 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., у калгасе «Праўда». У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12. 1956 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. вёска, 27 жыхароў, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 1997 г. пасёлак, 3 гаспадаркі, 8 жыхароў. У 2007 г. 2 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд». Археал. помнік — курганны могільнік (15 насыпаў; за 0,3 км на Пн).

**ЯЗВІНЫ** — вёска ў Бабаўнянскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Капыля, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Узда–Старыца–Бабоўня і далей па аўтадарозе Бабоўня–Язвіны. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2010).

У канцы 18 ст. засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 8 двароў, 29 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Цялядавіцкай вол. Слуцкага

павета, засценак — 21 двор, 128 жыхароў; фальварак-1, 7 жыхароў; фальварак-2, 26 жыхароў; леснічоўка, 8 жыхароў. У 1908 г. засценак, 22 двары, 225 жыхароў; урочышча, 7 жыхароў; фальварак, 7 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 46 двароў, 192 жыхары; у фальварку 2 двары. У 1919 г. адкрыта школа 1-й ступені. З пач. снеж. 1920 г. ў раёне нейтральнай зоны Цялядавіцкага вал. рэўкома. У 1921 г. ў школе 1 настаўнік, 26 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Бабаўнянскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, 34 двары, 129 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас імя Чарвякова (потым «XVIII партз'езд»), была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. пасёлак, 248 жыхароў, у саўгасе «Бабоўня». У 1997 г. вёска, 38 гаспадарак, 71 жыхар. У 2007 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе раённага с.-г. УП «Бабоўня». Працуе (2010) магазін. Брацкая магіла 2 партызан атрада імя Шчорса 27-й брыгады імя Чапаева, якія загінулі ў 1943 г. (абеліск устаноўлены ў 1991 г.).

**ЯКУБАВІЧЫ** — вёска ў Капыльскім с/с, за 5 км на З ад Капыля, 125 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Какорычы. 25 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

Упершыню згадваюцца ў 16 ст. У 1566 г. сяло ў складзе Слуцкага маёнтка, 3 службы, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. засценак у Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета, 12 двароў, 77 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 110 жыхароў; у 1917 г. 26 двароў, 131 жыхар. З 20.8. 1924 г. ў Капыльскім с/с Капыльскага р-на Слуцкай акругі, вёска, 28 двароў, 147 жыхароў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Стаханавец». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 78 жыхароў. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 71 жыхар, у калгасе «Ленінец». У 2007 г. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў, у складзе СВК «Мажа-Агра».

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза А.Б.Ляшчынскага (н. ў 1920).



*А.Б.Ляшчынскі.*

**ЯЎСЕЕВІЧЫ** — вёска ў Грозаўскім с/с, за 16 км на У ад Капыля, 136 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Морач на лініі Асіповічы—Баранавічы. Транспартныя сувязі па шашы Узда—Капыль і далей па аўтадарозе Капыль—Астравок—Яўсеевічы. На Пн балота і меліярацыйны канал. 65 гаспадарак, 122 жыхары (2010).

У 2-й пал. 17 ст. ў Навагрудскім павеце і ваяводстве ВКЛ. У 1669 г. сяло, 10 аселых, 7 прыёмных і 32 пустыя валокі, у складзе маёнтка Старыца, уласнасць Радзівілаў. У 1775 г. 21 двор, 92 жыхары. У канцы 18 ст. ва Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 40 двароў, 272 жыхары, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У пач. 20 ст. ў Пукаўскай вол. Слуцкага павета, 110 двароў, 643 жыхары. У 1912 г. адкрыта 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 126 двароў, 718 жыхароў. У 1921 г. быў млын. З 20.8.1924 г. ў Грозаўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 121 двор, 690 жыхароў; працавала школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 80 вучняў (будынак арэндны), дзейнічаў культ.-асв. гурток. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Новы шлях», была кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 61 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай абласцях. З 17.12. 1960 г. ў Капыльскім р-не. У 1960 г. было 517 жыхароў. У 1997 г. 92

гаспадаркі, 183 жыхары, магазін, у калгасе «Інтэрнацыянал». У 2007 г. 74 гаспадаркі, 137 жыхароў, у складзе с.-г. філіяла «Грозава» КУП «Мінскаблдарбуд». Працуюць (2010) Дом сац. паслуг, магазін.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 1, спр. 277, 832, 841–843, 846, 852, 857–859, 866, 869, 870, 3260, 3279, 3338, 3398, 3411, 4122; ф. 48, воп. 1, спр. 89, 372, 524, 525, 570, 578, 604, 608, 609, 658, 2097, 4432, 4673, 4760, 5408; ф. 338, воп. 1, спр. 168, 400.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 543, 1696, 1767; ф. 27, воп. 5, спр. 116, 183, 184, 379, 400, 401, 419, 444, 445, 457, 462; воп. 6, спр. 105; ф. 76, воп. 1, спр. 89, 228; ф. 142, воп. 1, спр. 1510, 1512, 1514, 1519, 1522, 1546, 1554, 1585, 1601, 1608, 1737; ф. 295, воп. 1, спр. 54; ф. 299, воп. 1, спр. 106; ф. 333, воп. 1, спр. 2140; воп. 3, спр. 1, 240; воп. 9, спр. 1173; ф. 694, воп. 1, спр. 415, 435, 2140; воп. 2, спр. 1599, 1603, 1605, 2599, 6339, 9491; воп. 4, спр. 58, 1728, 5696, 5711, 5804; воп. 7, спр. 412, 934; ф. 1727, воп. 1, спр. 17; ф. 1769, воп. 1, спр. 4, 7; ф. 178, воп. 1, спр. 225.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1306, 1328, 1336; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1280, воп. 1, спр. 581, 2148; воп. 2, спр. 505.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 20, воп. 1, спр. 16501.

Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 1. Санкт-Петербург, 1846.

Городские поселения в Российской империи. Т. 3. Минская губерния; Могилевская губерния. Санкт-Петербург, 1863.

Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1864.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.

Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 2–3. Минск, 1940–53.

Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 1. Минск, 1959.

Пятровіч С.А., Багдановіч Б.К. Капыль: гіст. нарыс. Мінск, 1974.

Полное собрание русских летописей. Т. 32, 35. М., 1975, 1980.

Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. (социально-экономическое исследование истории городов). Минск, 1975.

Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Минск, 1975.

Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв.: владение Тимковичи. Минск, 1982.

Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Минск, 1985.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.

Беларуская энцыклапедыя. Т. 8. Мінск, 1999.

Республиканская книга памяти воинов-интернационалистов. Минск, 1999.

Памяць: Капыльскі р-н. Мінск, 2001.

Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобл. Мінск, 2003.

Тэатральная Беларусь: энцыкл. Т. 2. Мінск, 2003.

Республика Беларусь: энцикл. Т. 4. Минск, 2007.

Минская область: энцикл. Т. 2. Минск, 2007.

Музеі Беларусі. Музеи Беларуси: давед. выд. Мінск, 2008.

Институт истории Национальной академии наук Беларуси. Минск, 2008.

# КЛЕЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ Мінскай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 г. раздзелены на 17 сельсаветаў. У канцы чэрвеня 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне 7,6 тыс. чал. Дзейнічалі падп. Клецкія райкомы КП(б)Б (17.4.1943—3.7.1944) і ЛКСМБ (4.10.1943—3.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 18-я імя Фрунзе, асобныя партыз. атрады 620-ы імя Чапаева, імя Кірава, 200-ы «Сокалы». Выходзіла падп. газ. «За Савецкую Беларусь». Вызвалены войскамі 1-га Бел. фронту ў пач. ліп. 1944 г. ў ходзе Мінскай аперацыі 1944 г. 8 студз. 1954 г. ўвайшоў у Мінскую вобл. 25.1.1962 г. раён быў скасаваны, а яго тэр. перададзена ў склад Нясвіжскага р-на. 30.7. 1966 г. раён адноўлены. Пл. 1 тыс. км$^2$. Насельніцтва на 1.1.2010 г. 31 071 чал. (у т.л. 20 887 чал. у сельскіх населеных пунктах). Сярэдняя шчыльнасць 34 чал. на 1 км$^2$. Асн. насельніцтва беларусы (93,6%), жывуць таксама рускія (3,5%), палякі (1,5%), украінцы (0,8%), татары (0,2%) і інш. (0,4%). Цэнтр — г. Клецк. Раён налічвае 92 сельскія населеныя пункты. На базе 9 з іх створаны аграгарадкі. Адміністрацыйна падзяляецца на 11 сельсаветаў: Галынкаўскі, Грыцэвіцкі, Заастравецкі, Зубкаўскі, Краснazвёздаўскі, Кухчыцкі, Морацкі, Нагорнаўскі, Сіняўскі, Тучанскі, Шчэпіцкі. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Асіповічы—Баранавічы і аўтадарогі Бабруйск—Слуцк—Брэст, Нясвіж—Лунінец.

Паверхня раёна ўзгорыста-раўнінная. Большая частка занята Капыльскай градой і яе адгор'ямі. На Пн ад в. Ліскава Кухчыцкага с/с знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна — 232 м. Цэнтр. частка занята Клецкай раўнінай, паўн. — Капыльскай градой, паўд. — у межах Прыпяцкага Палесся. Пераважаюць выш. 150—180 м, макс. — 232 м. Карысныя выкапні: торф, гліны, будаўнічыя пяскі, пясчана-гравійны матэрыял, мел. Сярэдняя т-ра студз. 6,3 °С, ліп. 17,8 °С. Ападкаў 626 мм у год. Вегетац. перыяд 192 сут. Рэкі: Лань з прытокамі Нача, Цапра, Балванка, у паўд.-ўсх. частцы края — Морач, на якой створана вадасховішча Чырвонаслабодскае. У паўд. частцы раёна, на мяжы з Брэсцкай вобл. знаходзіцца вадасховішча Лактышы. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзоліс-





*Клецкі краявід.*



*Прадукцыя Клецкага камбікормавага завода.*

тыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Пад лесам 28% тэр. раёна (22,5 га). Найбольшыя лясныя масівы — Колкаўскі, Хамінкаўскі, Варонінскі. У раёне створаны біялагічны заказнік рэсп. значэння Колкаўскі. Помнікі прыроды рэсп. значэння: парк Радзівілімонты (в. Красная Звязда), дуб чарэшчаты ў квартале № 92 Навінкаўскага лясніцтва, 2 дубы чарэшчатыя ў квартале № 15 Галынкаўскага лясніцтва. Сярод помнікаў прыроды мясц. значэння дубовая грыва ва ўрочышчы «Дзядок» Колкаўскага лясніцтва.

Сельская гаспадарка раёна спецыялізуецца па вытв-сці малака, мяса, збожжа, бульбы, цукровых буракоў. Працуюць 8 с.-г. вытв. кааператываў, РУСП «Племянны завод «Чырвоная Зорка», Мінскае абл. унітарнае плодагадавальнае прадпрыемства «Зубкі», Замежнае вытворчае сельскагаспадарчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Налібокі-Нёман», с.-г. аддзел ААТ «Клецкі райаграсервіс», ЧУП «Аграфірма Орда», СП філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь», філіял «Шчэпічы» ААТ «Клецкі камбікормавы завод», 10 фермерскіх гаспадарак.

Прам-сць раёна прадстаўлена 10 прадпрыемствамі, 6 з якіх рэсп. формы ўласнасці. Размешчаны ў асн. у Клецку (ААТ «Клецкі камбікормавы завод», РУПП «Клецкі кансервавы завод», ААТ «Клецкі мехзавод», ААТ «Барысаўдрэў», ЧУП «Клецкі вытворча-харчовы завод», УП «Клецкі камнарыхтпрам»), прадпрыемствы па вытв-сці мэблі «Сіняўка», 2 камунальнай, 2 безведамаснай прыналежнасці.

У раёне дзейнічаюць 17 сярэдніх школ, 5 навуч.-пед. комплексаў дзіцячы сад—агульнаадукацыйная сярэдняя шко-



*Прадукцыя Клецкага кансервавага завода.*



*На занятках у Клецкім сельскагаспадарчым прафесійным ліцэі.*

ла, Клецкі дзіцячы дом, сац.-пед. цэнтр, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Клецкі раённы агульнаадукацыйны ліцэй, Клецкі сельскагаспадарчы прафесійны ліцэй, турыстычная база, цэнтр дзіцячай творчасці, 2 стацыянарныя аздараўленчыя лагеры, 15 дашкольных устаноў, дзярж. «Музей гісторыі Клечыны», раённы Цэнтр культуры, 17 сельскіх дамоў культуры, Клецкая дзіцячая школа мастацтваў (4 сельскія філіялы), раённы цэнтр рамёстваў, Колкінскі дом фальклору, 15 кінаўстановак, 221 клубнае фарміраванне, 11 калектываў мастацкай самадзейнасці і аматарскай нар. творчасці са званнем «народны» і «ўзорны» (у т. л. Морацкі нар. хор), 24 б-кі, 17 сельскіх бібліятэк-клубаў, 28 рэліг. суполак (у т. л. 16 праваслаўных, 2 рымска-каталіцкія, 2 мусульманскія, 7 веры евангельскай, 1 сведак Іеговы. Ёсць 15 цэркваў, 2 касцёлы, 7 малітоўных дамоў, 1 мячэць. 1 раённая і 3 участковыя бальніцы, 6 урачэбных амбулаторый, 19 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 14 комплексных прыёмных пунктаў быт. абслугоўвання насельніцтва, 15 дамоў сац. паслуг, 26 тэлеф. станцый, 23 аддз. сувязі, 228 магазінаў і гандл. аб'ектаў, іншыя ўстановы і арг-цыі.

Згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 мая 2005 г. Клецкі р-н уключаны ў склад Мінскай турысцкай зоны. У Дзярж. спіс гіст.-культ. каштоўнасцей Рэспублікі

*Святкаванне Дня ведаў у Клецкім раённым агульнаадукацыйным ліцэі.*

*У аздараўленчым лагеры «Нача».*

*Музей гісторыі Клетчыны.*

*У чытальнай зале Клецкай раённай цэнтральнай бібліятэкі.*











С.П.Касцерын.



М.П.Лешчанка.



Ц.С.Ягорaў.

Беларусь увайшлі 30 помнікаў гісторыі, археалогіі і архітэктуры, якія захаваліся на тэр. Клецкага р-на. Сярод іх фрагменты комплексаў былых сядзіб у вёсках Галынка, Красная Звязда, Кунцаўшчына, Лецяшын, Туча, Цясноўка, Янавічы.

За вызваленне Клецкага р-на званне Героя Сав. Саюза прысвоена С.П.Касцерыну (камандзір гарматы), М.П.Лешчанку (камандзір узвода), Ц.С.Ягораву (камандзір батарэі).

**КЛЕЦК** – горад, цэнтр раёна. За 140 км на ПдЗ ад Мінска, на р. Лань, чыг. ст. на лініі Асіповічы–Баранавічы, аўтадарогамі злучаны з Нясвіжам, Баранавічамі, Слуцкам, 10,2 тыс. жыхароў (2009).

Паводле археал. даследаванняў, першае неўмацаванае паселішча на месцы сучаснага райцэнтра існавала ў 1–5 ст. н.э. і належала да культуры штрыхаванай керамікі. У 2-й пал. 10 ст. тут узнікла слав. паселішча, якое выконвала ролю адм. цэнтра дрыгавіцкага насельніцтва вярхоўяў рэк Лань і Уша. Да пач. 12 ст. з цэнтра раннефеадальнай сельскай абшчыны Клецк вырас у горад, які пад 1127 г. упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца як цэнтр удзельнага Клецкага княства (існавала ў 12–18 ст.), якое вылучылася са складу Тураўскай зямлі (княства). Летапісныя назвы горада Кльчьск, Клечьск, Клическ. Падпарадкоўваўся кіеўскім і тураўскім князям. Першы вядомы клецкі кн. Вячаслаў Яраславіч. Пасля 1142 г. (да 1146 г.) і ў 1149 г. горадам і княствам кіраваў Святаслаў Ольгавіч. Развіццю Клецка садзейнічалі рамёствы і гандлёвыя сувязі, у т. л. з Кіевам і Валынню.

У 11–13 ст. Клецк, як і іншыя стараж. ўсходнеславянскія гарады, складаўся з умацаваных валамі, драўлянымі сценамі, равамі з вадой дзядзінца і вакольнага горада. Клецкі дзядзінец (Высокі замак) размяшчаўся на левым беразе Лані, ніжэй упадзення ў яе р. Сільная, на прырэчным схіле марэннага ўзгорка (пл. 0,75 га). З боку поля яго аддзяляў роў. Вакольны горад (Дольны замак, пл. 7,6 га) абкружаў дзядзінец з 3 бакоў і злучаўся з ім мостам, меў адзін праход у поле ў паўд. напрамку.

З сярэдзіны 14 ст. Клецк знаходзіўся ў складзе ВКЛ, належаў вял. князям літ. Вітаўту, Жыгімонту Кейстутавічу, кн. Раману Фёдаравічу. Паводле «Хронікі Быхаўца», кн. Казімір, малодшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, пасля таго як у 1440 г. стаў вялікім князем ВКЛ (у 1447–1492 гг. кароль польскі Казімір IV Ягелончык), аддаў Клецк разам з іншымі гарадамі ў пажыццёвае валоданне свайму стрыечнаму брату Міхаілу Жыгімонтавічу. Клецкае княства як адм. адзінка праіснавала да 1791 г. У дакументах 15–16 ст. яго называлі воласцю, потым паветам (час праўлення вялікіх князёў Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта I). У ваенных і часткова падатковых адносінах княства падпарадкоўвалася намесніку трокскаму (з 1413 г. ваяводзе). З 1456 г. (паводле іншых звестак, з 1492 г.) Клецк і княства належалі збегламу рус. кн. Івану Васілевічу Яраславічу, потым яго сыну Фёдару (з 1507 г.). На працягу гэтага перыяду ў дакументах княства называлі звычайна «именье», «добра».

У 1507 г. горад і княства ўвайшлі ў межы Навагрудскага ваяв. Раней, у 1503 г., падчас чарговага набегу яго спалілі крымскія татары. 5.8.1506 г. пад Клецкам войска ВКЛ на чале з маршалкам дворным М.Л.Глінскім разбіла крымскіх татар, якімі камандавалі сыны Менглі-Гірэя Беці і Бурнаш. У выніку бітвы, якая ўвайшла ў гісторыю як Клецкая, было вызвалена каля 40 тыс. нявольнікаў, захопленых татарамі на Беларусі. Частка палонных крымскіх татар была паселена ў Клецку і яго ваколіцах.

У 1522–56 гг. горад належаў жонцы Жыгімонта I Старога, каралеве поль-

кай і вял. княгіні літ. Боне Сфорца, якая правяла ў Клецкім княстве (таксама называлі паветам) адну з першых на Беларусі валочных памер (агр. рэформа ў ВКЛ у 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст.). Паводле Пісцовай кнігі Пінскага і Клецкага княстваў, складзенай пінскім старастам Станіславам Хвальчэўскім, у 1552 г. ў Клецку меліся замак, рыначная плошча, 4 вуліцы: Нясвіжская, Пінская і Віленская (магістральныя), вуліца «на Слабадзе» (прадмесце); Троіцкі касцёл (на вул. Віленскай; узведзены, верагодна, у 1550—1552 гг. па загаду каралевы Боны на месцы храма сярэдзіны 15 ст.), багадзельня, Пятніцкі праваслаўны манастыр, 4 царквы: саборная замкавая Раства Прачыстай Багародзіцы, св. Мікалая, Васкрасенская, Св. Спаса; 187 вулічных пляцаў (з іх 136 забудаваныя). Акрамя замка меліся гарадскія ўмацаванні («паркан»). На правым беразе р. Лань знаходзіўся Краснастаўскі двор з ворнай замкавай зямлёй. Пры двары налічвалася 13 чалавек «чэлядзі нявольнай» з жонкамі, акрамя тых, хто жыў у с. Вяжэвічы (сучасная в. Яжавічы). У канцы 16 ст. ў горадзе працаваў 41 рамеснік па 16 рамесных спецыяльнасцях. Праз Клецк праходзілі важнейшыя дарогі ВКЛ з Пінска, Сіняўкі на Нясвіж і далей на Мінск ці Навагрудак (праз Свержань), а таксама з Слуцка на Слонім і далей.

У 1551 г. вял. кн. і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст падараваў Клецк і княства (займала прыкладна тэр. сучаснага Клецкага і паўд. частку Нясвіжскага р-наў) Мікалаю Радзівілу Чорнаму. Аднак толькі пасля смерці Боны Сфорца (1557) з 1558 г. Клецкае княства (займала прыкладна тэр. сучаснага Клецкага р-на і паўд. частку Нясвіжскага р-на) канчаткова перайшло ва ўласнасць рода Радзівілаў. У 1586—1939 гг. горад з'яўляўся цэнтрам Клецкай ардынацыі Радзівілаў.



*Васкрасенская царква ў г. Клецк.*

Вядомы прыхільнік кальвінізму Мікалай Радзівіл Чорныператварыў Клецкі Троіцкі касцёл у кальвінскі збор, дзе ў 1560—62 гг. прапаведнікам быў гуманіст і асветнік Сымон Будны. Пры кальвінскім зборы дзейнічала школа. У Клецку С.Будны рыхтаваў да выдання свой «Катэхізіс». Першы клецкі ардынат Альбрыхт Радзівіл, які ў 1574 г. перайшоў у каталіцтва, зачыніў у канцы 16 ст. кальвінскі збор і вярнуў яго като-

*Галоўная плошча ў г. Клецк.*



лікам (храм быў асвячоны віленскім біскупам Ю.Радзівілам у 1607 г.).

Да гэтага часу горад значна вырас і выйшаў за межы гар. умацаванняў, хутка развіваліся рамёствы і гандаль. У 1575 г. тут 267 дамоў, з'явіўся «новы рынак». У 1595 г. Клецк стаў месцам збору войск ВКЛ для падаўлення паўстання С.Налівайкі. Інвентар горада 1626 г. называе былыя дзядзінец і вакольны горад Высокім і Дольным замкамі. У Высокі замак (драўляны, мелася вежа-брама) вёў стары мост. На тэр. Дольнага замка знаходзіўся двор Радзівілаў з жылымі і гасп. пабудовамі (у палацы размяшчалася б-ка). У Дольным замку былі драўляныя сцены, 10 вежаў і 2 вежы-брамы. У 1626 г. ў горадзе было 11 вуліц (у т.л. Нясвіжская, Цаперская, Пінская, Заранаўская, Гродская, Касцельная, Слабодская, Акольная), рыначная плошча, 414 двароў, сярод гараджан налічвалася 149 рамеснікаў (больш чым па 43 рамесных спецыяльнасцях). Каля Клецка знаходзіліся замкавыя фальваркі: Краснастаўскі, Сапатвіны, Курлянд, Залессе са шматлікімі жылымі і гасп. пабудовамі (напрыклад, бровар у фальварку Сапатвіны, сырніца, піўніца ў Залессі). Інвентар Клецка 1626 г. акрамя мураванага касцёла Св. Троіцы адзначае 2 уніяцкія царквы: Васкрасенскую на рыначнай плошчы і Успення Гасподняга «...перад горадам на арыне...». Пры Васкрасенскай царкве быў арганізаваны шпіталь (у 1683 г. яго будынак стаяў на плошчы), дзейнічала уніяцкая школа. У 1628 г. сваю лінію фартыфікацыі мелі прыгарады Клецка. У 1641 г. Клецк налічваў 448 двароў, каля 2300 жыхароў (260 рамеснікаў у 1645 г.). 27.8.1652 г. горад атрымаў прывілей на магдэбургскае права і герб: у блакітным полі княжацкая карона, пад якой паляўнічы рог. У 1653 г. ў Клецку было 377 двароў, меліся ратуша, гандлёвыя рады з 33 крамамі.

У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг., у вер. 1655 г. Клецк захоплены і разбураны рас. войскамі пад камандаваннем ваяводы А.М.Трубяцкога. У 1660 г. горад займалі рас. войскі кн. Хаванскага. Згодна з інвентарам 1671 г., у Клецку ўжо не было ўмацаванняў і Дольнага замка. У Высокім замку захаваліся брама і мост. У 1683 г. ў горадзе, які налічваў 217 двароў, Станіслаў Казімір Радзівіл заснаваў Дабравешчанскі касцёл і кляштар каталіцкага манаскага ордэна дамініканцаў (на рыначнай плошчы; з 1795 г. пры кляштары працавалі школа і шпіталь). У канцы 17—18 ст. ў горадзе існавалі 3 рамесныя цэхі; у 1694 г. мелася 65 крам, з якіх пастаянна гандлявалі 53. У Паўн. вайну 1700—21 гг., у 1706 г. Клецк быў заняты

*Будынак былога ешыбота ў Клецку.*

*Жылая забудова ў г. Клецк.*







шведскімі войскамі і зноў разбураны. У 1713 г. горад налічваў толькі 152 двары, каля 600 жыхароў (з іх 61 рамеснік). Абарончыя ўмацаванні замка і горада болей не аднаўляліся. У 2-й пал. 18 ст. на месцы былога замка знаходзіліся «акоп дужы» і роў, стаяў дом клецкага адміністратара. Згодна з інвентарамі, у Клецку ў 1757 г. было 189 дымоў, у 1760 г. — 212 (з іх 106 хрысціянскія), у 1767 г. — 216, у 1782 г. — 283, у 1791 г. — 290 дымоў. У 1750 г. пабудавалі новы млын на р. Лань («у канцы грэблі ад касцёла фарнага»), пазней — новы млын на р. Лебядзінец. У 1760 г. ў горадзе працавалі 80 рамеснікаў, меліся 22 крамы.

З 1791 г. Клецк уваходзіў у склад Случарэцкага павета Навагрудскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі, мястэчка Слуцкага павета (з 1795 г.) Мінскай губ., з 1866 г. — цэнтр аднайменнай воласці. У 1800 г. тут налічвалася 280 дымоў, больш за 900 жыхароў, меліся 42 крамы, 30 корчмаў; 2 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1809 г. ў Клецку было 346 дымоў, у 1811 г. — 1870 жыхароў. У вайну 1812 г. з ліп. да канца кастр. мястэчка акупіравана напалеонаўскімі войскамі.

На працягу 19 — пач. 20 ст. Клецк развіваўся як рамесна-гандлёвае мястэчка. Тут 4 разы на год адбываліся таргі і кірмашы. У 1819 г. ў мястэчку меліся 77 крам, мураваны Дабравешчанскі касцёл, кляштар дамініканцаў (зачынены ў 1832 г.), Троіцкі касцёл з плябаніяй (фарны, на вул. Слонімскай), 2 уніяцкія царквы, карчма, аптэка, 3 млыны, сінагога (пабудавана ў 1796 г.) і яўр. школа, паштовы дом. У 1846 г. ў Клецку налічвалася 95 хрысціянскіх, 270 яўрэйскіх і 16 татарскіх двароў. У 1866 г. — 448 двароў, 2420 жыхароў. У 1880-я г. каля паштовага тракту Клецк—Слуцк працавала Краснастаўская цагельня.

У 1875 г. Клецкая ардынацыя перайшла да нясвіжскага ардыната Антонія Радзівіла. Паводле Першага ўсеагульнага перапісу Рас. імперыі 1897 г. ў Клецку налічвалася 4220 жыхароў, дзейнічалі: вал. праўленне, 2 праваслаўныя царквы (Пакроўская, мураваная, пабудавана ў 1876 г.; Васкрасенская, мураваная, у перарobленым будынку былога дамініканскага касцёла), Троіцкі касцёл (фарны), мячэць, 5 яўр. малітоўных школ, паштовая станцыя, сельская лячэбніца, аптэка, нар. вучылішча (адчынілася ў 1863 г., размяшчалася ў грамадскім доме; з 1878 г. праца-

*Клецкі Троіцкі касцёл.*



*Шпіталь у г. Клецк.*

вала пасляабедзенная змена для яўрэйскіх хлопчыкаў), царк.-прыходская школа (жаночая, з 1888 г.), хлебазапасны магазін, паравы млын, піваварны і медаварны з-ды, заезны дом, 145 крам; па панядзелках штотыднёва адбываліся базары, кірмашы — 8 разоў на год. У 1906 г. адчынілася прыватнае яўр. мужчынскае вучылішча (з 1907 г. працавала жаночая змена). У 1909 г. — 7468 жыхароў.

У 1-ю сусветную вайну, з 1915 г. Клецк знаходзіўся ў прыфрантавой паласе. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З лют. да 9.12.1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З крас. да чэрв. 1919 г. і з 6.8.1919 г. да 17.7.1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ. (з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР). 3.10.1920 г. зноў акупіраваны польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, горад Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; 5671 жыхар (1921). У 1924—1931 гг. працавала Клецкая бел. гімназія, у якой у 1928 г. створана падп. камсамольская арг-цыя. Гімназісты падтрымлівалі сувязь з Бел. сял.-работніцкім клубам «Змаганне».

З ліст. 1939 г. Клецк у складзе БССР, з 15.1.1940 г. — цэнтр Клецкага р-на Баранавіцкай вобл. У 1940 г. 6995 жыхароў, 818 будынкаў, 3 гарбарні, мэблевая майстэрня, 9 млыноў, 2 сярэднія школы, бальніца, пошта і тэлеграф.

У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. раённы цэнтр акупіраваны гітлераўцамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 7602 чал. У Клецку і на тэр. раёна дзейнічалі падп. Клецкія райкомы КП(б)Б (7.4. 1943—3.7.1944) і ЛКСМБ (4.10.1943—3.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 18-я імя Фрунзе, асобныя партыз. атрады 620-ы імя Чапаева, імя Кірава, 200-ы «Сокалы»; выдавалася падп. газета «За Савецкую Беларусь». 4.7.1944 г. Клецк вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў воінамі 219-й танкавай брыгады (камандзір палк. М.Р.Хлюпін) 1-га механізаванага корпуса 1-га Беларускага фронту ў ходзе Мінскай аперацыі. За перыяд акупацыі гітлераўцы разрабавалі 18 калгасаў раёна, разбурылі 12 прамысловых прадпрыемстваў, у вёсках спалілі 1220 дамоў і іншых будынкаў, у Клецку поўнасцю знішчылі звыш 600 дамоў.

З 8.1.1954 г. горад у складзе Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. — у Нясвіжскім р-не, потым зноў цэнтр раёна. У 1959 г. — 4100, у 1997 г. — 11 000 жыхароў. У сучасным горадзе працуюць ААТ «Клецкі масларобчы к-т» (пачынаўся з невялікага масласырзавода,



*Былая казарма ў г. Клецк.*



*Пакроўская царква ў Клецку.*



Будынак гасцініцы ў г. Клецк.

з 1984 г. масларобчы камбінат), ПУП «Клецкі харчова-вытворчы завод» (першапачаткова пякарня, з 1965 г. з-д), ААТ «Клецкі камбікормавы завод» (у 1944 г. пункт нарыхтоўкі збожжа, з 1975 г. камбікормавы з-д), кансервавы (у 1945 г. з-д «Чырвоная Зорка») і механічны (працуе з 1969 г.) з-ды, швейная ф-ка (з 1981 г.), лясгас (створаны ў 1939 г.), ААТ «Райаграсервіс», іншыя прадпрыемствы, будаўнічыя арганізацыі. 23.3.1987 г. ў межы горада ўвайшоў пас. Пабедны (да 20.1.1969 г. пасёлак пры Райсельгастэхніцы Бабаевіцкага с/с). Дзейнічалі 3 сярэднія школы, 2 дзіцячыя сады, раённы дзярж. «Музей гісторыі Клеччыны» (з 1979 г.), дзіцячая школа мастацтваў (да 1996 г. музычная школа), раённы Цэнтр культуры (пры ім працуе ансамбль нар. музыкі і песні «Бацькаўшчына», які мае званне народнага), іншыя ўстановы культуры, адукацыі і аховы здароўя.

Помнікі гісторыі: у гонар 870-годдзя Клецка; на месцы бітвы войска ВКЛ з крымскімі татарамі 1506 г.; воінам-інтэрнацыяналістам; ахвярам фашызму; мемарыяльны комплекс сав. воінам, партызанам і землякам; магілы ахвяр фашызму і чырвонаармейцаў. Помнікі архітэктуры: ветраны млын (1920), сінагога (канец 19 — пач. 20 ст.), казармы (пач. 20 ст.), кляштар дамініканцаў і Троіцкі касцёл, шпіталь (1909), Пакроўская царква (1876). Помнікі археалогіі: гарадзішча (11—13 ст.; на паўн.-зах. ускраіне горада, на левым карэнным беразе р. Лань), курганны могільнік (на зах. ускраіне горада, злева ад дарогі на в. Ляхавічы).

З 18 жн. 1964 г. ў адм. падпарадкаванні Клецкага гар. Савета знаходзіцца пас. Рассвет, які ўзнік у 1960-я г. за 5 км на ПнУ ад Клецка каля аўтадарогі Нясвіж—Клецк, на мяжы Клецкага і Нясвіжскага р-наў. У 1988 г. ў пасёлку налічвалася больш за 420 жыхароў. У сучасным пасёлку (134 двары, 375 жыхароў у 2007 г.) працуюць аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазіны, іншыя ўстановы.

Сучасны горад размяшчаецца на 2 узгорках: на адным — жылая зона з агульнагар. цэнтрам, на другім — прамысловая. На перасячэнні асн. трансп. магістралей (забудовы 2, 3, 5-павярховымі дамамі) склалася гал. плошча са скверам у цэнтры. Забудова пераважна



Рэшткі фарнага Троіцкага касцёла ў г. Клецк.

індывід., сядзібнага тыпу. Па генплану 1985 г. (карэкціроўка 1992 г.) прадугледжана развіццё горада ў паўдн. і паўн.-ўсх. напрамках. Зона адпачынку фарміруецца на р. Лань. У 1990—2000 гг. пабудаваны Дом культуры, праведзена рэканструкцыя цэнтр. вуліц і плошчы з мадэрнізацыяй фасадаў адм. будынкаў, добраўпарадкаваннем і азеляненнем.

**АЗЯРЭЧЧА** — пасёлак у Галынкаўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Клецка, 30 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 167 км ад Мінска. 288 гаспадарак, 1003 жыхары (2009).

Узнік у сярэдзіне 1980-х г. як пас. Клецк 2. Пазней атрымаў сучасную назву. У 1998 г. тут налічвалася 292 двары, 842 жыхары. У 2009 г. працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, клуб-бібліятэка, магазін.

**АРДА** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Клецка, 17 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 155 км ад Мінска. 79 гаспадарак, 165 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. як сяло Лычэвіч Клецкага княства (павета), уладанне каралевы Боны Сфорца. У 1552 г. 7 гаспадарак, 4,5 валокі зямлі. Паміж 1567 і 1575 гг. Мікалай Крыштоф Радзівіл замест выселеных жыхароў пасяліў тут татар Клецкага княства, якія таксама атрымалі і некаторыя землі сёл Хадатавічы (Нясвіжскі р-н) і Якшыцы. З гэтага часу сяло называлі Арда. У 1575 г. тут налічвалася 27 татарскіх гаспадарак, 43 валокі зямлі. У 1626 г. — 34,3 валокі зямлі. У 18 ст. некаторыя землі Арды Радзівілы аддавалі ў заставу (заклад з пазыку) розным асобам. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1795 г. ў Слуцкім павеце. У 1800 г. Арда — вёска, 13 двароў, 83 жыхары, у т. л. 5 двароў татарскіх (28 жыхароў). З 1876 г. вёска знаходзілася ва ўладанні С.Карыцкага. Паводле Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Рас. імперыі 1897 г. на месцы сучаснай вёскі размяшчаліся: вёска, 12 двароў, 73 жыхары, хлебазапасны магазін, і аколіца, 45 двароў, 265 жыхароў; уваходзілі ў склад Клецкай вол. У 1909 г. аколіца налічвала 48 двароў, 352 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г. і з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У пач. кастр. 1920 г. зноў акупіравана польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у межах Клецкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. вёска, 67 двароў, 374 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Даматканавіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 25.4.2007 г. ў Шчэпіцкім с/с. У 1940 г. 106 двароў, 461 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да 4.7.1944 г. 9 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. У ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі ад гітлераўцаў загінулі 22 воіны Сав. Арміі. Яны пахаваны ў цэнтры вёскі, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1948 г. арганізаваны калгас «Інтэрнацыянал», які ў 1950-я г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Жданава (цэнтр — в. Даматканавічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. 374 жыхары, у 1970 г. — 338. У канцы 1980-х г. дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. 95 гаспадарак, 203 жыхары, у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Даматканавічы); фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазін. З 10.3.2004 г. вёска — цэнтр прыватнага

унітарнага прадпрыемства «Аграфірма Арда». У 2009 г. працуюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, 3 фермы буйной рагатай жывёлы.

**АРЭШНІЦА** (да 30.7.1964 г. Навозы) — вёска ў Грыцэвіцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Заастравецкім с/с), за 30 км на Пд ад Клецка, 32 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 124 гаспадаркі, 236 жыхароў (2009).

Вядома з 16 ст. У 1580 г. сяло Навоз у складзе маёнтка Астроўчыцы, шляхецкае ўладанне ў Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1626 г. маёнтак Логнавічы з с. Навоз і іншымі вёскамі належаў Кміцінай. Пад 1652 г. у пісьмовых крыніцах упамінаюцца вёскі Навоз Бярнкоўскі і Навоз Стары, якія налічвалі па 1 валоцы зямлі. У 1775 г. вёска Навозы налічвала 11 гаспадарак. З 1793 г. вёска, у складзе Расійскай імперыі, у Слуцкім павеце. У 1800 г. вёска фальварка Логвінавічы, 15 двароў, 103 жыхары, уладанне Радзівілаў. У 1809 г. 18 двароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Навозы Заастравецкай вол., 69 двароў, 451 жыхар, меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1908 г. 72 двары, 504 жыхары. У 1916 г. пачала працаваць школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З крас. да чэрв. 1919 г. і з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў БССР. У пач. кастр. 1920 г. зноў акупіравана польскімі войскамі. У 1921—1939 гг. у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 87 двароў, 527 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім раёне Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Старасельскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Заастравецкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 96 двароў, 668 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. 29 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1975 г. пастаўлена стэла. У 1950 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў 1960-я г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Праца» (цэнтр — в. Драбаўшчына). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. 786 жыхароў, у 1970 г. — 663. У 1998 г. 147 двароў, 281 жыхар, дзейнічалі школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. З 31.7.2003 г. ў складзе вытв. с.-г. кааператыва «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы). У 2009 г. працуюць фельч.-акушэрскі пункт, клуб-бібліятэка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонту с.-г. тэхнікі.

**АСТРОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Заастравецкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Клецка, 30 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 168 км ад Мінска. Побач з вёскай цячэ р. Лань (прыток р. Прыпяць). 84 гаспадаркі, 116 жыхароў (2009).

Вядома з сярэдзіны 16 ст. ў складзе Навагрудскага павета ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1563 г. тут жыла радзівілаўская шляхта, якая выстаўляла пэўную колькасць коннікаў у войска (Ш.Чанавіч, Ф.Арцюховіч, Ф.Астроўчыц, Логвінавічы і інш.). У 16 ст. Астроўчыцы раздзяліліся на Вял. Астроўчыцы (альбо Арцюхаўшчыну), Логвінавічы і Суднікоўшчыну. У 1626 г. шляхце ў вёсцы належалі 188 валок зямлі. У 1800 г. — вёска Слуцкага павета Рас. імперыі, 11 двароў, 63 жыхары, і фальварак, уладанні Радзівілаў. У 1809 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся фальваркі: Вял. Астроўчыцы (уваходзілі вёскі Бурдзейкі, Галузы, Колкі, Мілкевічы, Морач, Стараселле, Якшычы і 4 засценкі) і Малыя Астроўчыцы (вёскі Астроўчыцы, Заастравечча). У в. Астроўчыцы налічвалася 14 дымоў. У

1858 г. вёскі: Вял. Астроўчыцы (45 душ муж. полу) і Малыя Астроўчыцы (24 душы муж. полу). Паводле перапісу 1897 г. вядомы вёскі Вял. і Малыя Астроўчыцы, 2 аднайменныя маёнткі і сядзібаляснога ахоўніка. У 1909 г. ў маёнтку Вял. Астроўчыцы было 7 жыхароў, у маёнтку Малыя Астроўчыцы — 2 жыхары, в. Малыя Астроўчыцы налічвала 22 двары, 130 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. фальваркі: Вял. Астроўчыцы (3 двары, 54 жыхары), Малыя Астроўчыцы (2 двары, 17 жыхароў), в. Малыя Астроўчыцы (34 двары, 194 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Старасельскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Заастравецкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. на месцы сучаснай размяшчаліся 2 вёскі — Вял. Астроўчыцы (14 двароў, 88 жыхароў) і Малыя Астроўчыцы (36 двароў, 204 жыхары), а таксама асада Малыя Астроўчыцы (11 двароў, 70 жыхароў). У Вял. Айч. вайну вёскі і асада акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 27 чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. У цэнтры сучаснай вёскі пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў барацьбе з гітлераўцамі. У 1968 г. на іх магіле пастаўлены абеліск. У 1949 г. існавалі вёскі Вял. і Малыя Астроўчыцы, у 1959 г. — вёска Малыя Астроўчыцы, 300 жыхароў, у 1970 г. Астроўчыцы — 418 жыхароў. З 1956 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Заастравечча). Дзейнічалі пач. школа (з 1939 г.), участковая бальніца, аптэка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. 104 двары, 203 жыхары. З 31.7.2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Заастравечча» (цэнтр — в. Заастравечча). У 2009 г. працуюць магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**БАБАЕВІЧЫ** — вёска ў Красназвёздаўскім с/с, за 4 км на Пд ад Клецка, 6 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 144 км ад Мінска. 194 гаспадаркі, 372 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Бумбаевічы Клецкага замка ва ўладанні каралевы Боны Сфорца, 21 гаспадарка, 11 валок, 27 моргаў зямлі. З 1558 г. разам з іншымі паселішчамі Клецкага княства сяло належала Радзівілам. У 1575 г. ў с. Бабаевічы 26 гаспадарак, 34 валокі зямлі, у 1626 г. — 49 гаспадароў, 3 валокі зямлі сяла (з 34 валок) належалі Клецкай царкве. У 1645 г. — 48 гаспадароў, 34 валокі зямлі, з якіх 6 — шляхецкія. У 18 ст. Бабаевічы — вёска, якую Радзівілы неаднаразова (1730, 1736 гг.) аддавалі ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам. У 1757 г. вёска (49 дымоў, 34 валокі зямлі) належала да двара Радзівілімонты. У канцы вясковай вуліцы (ад Клецка) размяшчалася карчма са стайняй, броварам, млыном на р. Лань, іншымі гасп. пабудовамі. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1795 г. Бабаевічы — вёска Слуцкага павета Мінскай губ., 59 гаспадарак, карчма. Уваходзіла ў межы Радзівілімонтаўскай вол. Клецкай ардынацыі Радзівілаў. У 1800 г. — 240 жыхароў. У 1809 г. вёска фальварка Радзівілімонты, 60 дымоў, карчма; у 1811 г. — 225 рэвізскіх душ. У 1886 г. Бабаевічы — сяло Клецкай вол., 49 двароў, 515 жыхароў, карчма (заезны дом; драўляны на каменным падмурку будынак, гасп. пабудовы, агарод). У 1897 г. — 128 двароў, 773 жыхары, у 1908 г. — 145 двароў, 911 жыхароў, працавала нар. вучылішча. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і

з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Клецкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 177 двароў, 940 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 18.5.1972 г. цэнтр Бабаевіцкага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім, з 23.7.1984 г. ў Красназвёздаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, цэнтр сельсавета, 264 двары, 1086 жыхароў, працавала пач. школа. У склад Бабаевіцкага с/с на момант яго стварэння ўваходзілі 6 населеных пунктаў, якія налічвалі 549 двароў (у т. л. 500 хутарскіх), 2294 жыхары. На тэр. сельсавета дзейнічалі 1 прамысловае і 2 гандлёвыя прадпрыемствы, 1 сярэдняя і 2 пач. школы, хата-чытальня, 1 медыцынская ўстанова. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. 46 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. У ліп. 1944 г. ў баях з гітлераўцамі каля вёскі загінулі 5 воінаў 67-га стралк. палка 20-й стралк. дывізіі і 2 лётчыкі. Пахаваны на вясковых могілках, у 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. На могілках таксама знаходзіцца магіла партызана П.І.Шыша, які загінуў 28.3. 1943 г. ад рук ням.-фаш. захопнікаў.

У 1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас, які першапачаткова аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. вёска налічвала 1153 жыхары, у 1970 г. — 978. З 1976 г. вёска ў складзе племзавода «Чырвоная Зорка» (цяпер Рэспубліканскае унітарнае с.-г. прадпрыемства «Племянны завод «Чырвоная Зорка»; цэнтр — аграгарадок в. Янавічы). У 1998 г. — 223 двары, 486 жыхароў, магазін. У 2009 г. працуюць б-ка, 2 магазіны, ферма буйной рагатай жывёлы і свінаферма.

**БАБІЧЫ** — вёска ў Тучанскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Клецка, 23 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 141 км ад Мінска. 75 гаспадарак, 120 жыхароў (2009).

Верагодна, назва вёскі паходзіць ад Цераха і Паўлюка Бабічаў — сялян, якія паводле Пісцовай кнігі Пінскага і Клецкага княстваў ВКЛ жылі ў 1552 г. на землях с. Туча Сіняўскага двара Клецкага княства. З 1558 г. разам з іншымі паселішчамі Клецкага княства землі сучаснай вёскі належалі Радзівілам. Пад 1697 г. у пісьмовых крыніцах упамінаецца фальварак Бабічы-Туча, які ўладальнікі аддавалі ў заставу розным асобам (напрыклад, Турскім у 1697 г., Харытановічу ў 1719 г.). У 1757 г. Бабічы — вёска двара Радзівілімонты, 14 дымоў, 12 валок зямлі, драўляная карчма (размяшчалася за вёскай, складалася з хаты і каморы). З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1800 г. — вёска Слуцкага павета Мінскай губ., 21 гаспадарка, 128 жыхароў, карчма. У 1809 г. вёска ўваходзіла ў склад фальварка Радзівілімонты, 26 дымоў. Паводле перапісу 1897 г. Бабічы — вёска, у Сіняўскай вол., 40 двароў, 291 жыхар, меліся Ільінская царква (на могілках), карчма. У 1908 г. ў вёсцы 46 двароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана



*Успенская царква ў в. Бабічы.*

герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. тут налічвалася 67 двароў, 411 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Межнаслабадскім (26.2. 1966 г. перайменаваны ў Тучанскі) с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 95 двароў, 588 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 15 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. На вясковых могілках пахаваны І.М.Белавусаў, старшыня былога Межнаслабадскога с/с, які загінуў 14.11.1944 г. ад рук ворагаў сав. улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Чырвоны партызан» (аб'ядноўваў першапачаткова 20 гаспадарак). З 1952 г. Бабічы — цэнтр узбуйненага калгаса «Чырвоны партызан» (у пач. 1960-х г. уваходзілі 5 населеных пунктаў і 210 хутароў, усяго 622 двары). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 526 жыхароў, у 1970 г. — 430. У 1998 г. вёска, цэнтр калгаса «Чырвоны партызан», 94 двары, 202 жыхары, працавалі школа, б-ка, Дом культуры, магазін, дзіцячы сад, машынны двор з майстэрнямі па рамонту сельгастэхнікі, свінагадоўчая ферма. З 1.2.2004 г. вёска — цэнтр Замежнага вытв. с.-г. прыватнага унітарнага прадпрыемства «Налібокі—Нёман» (аб'ядноўвае вёскі Азярэчча, Бабкі, Галынка, Звонка, Машукі, Шайкі Галынкаўскага с/с, Бабічы, Карацк, Межная Слабада Тучанскага с/с). У 2009 г. працуюць бібліятэка-клуб, магазін, машынны двор з майстэрнямі па рамонту сельгастэхнікі, свінагадоўчая ферма і інш. На зах. ускраіне вёскі, на могілках захавалася Успенская царква — помнік драўлянага дойлідства (пабудавана ў 2-й пал. 19 ст.).

**БАБКІ** — вёска ў Галынкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў (2009).

У 1653 г. Бабкі — сяло, уладанне Чыжоў, у Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1775 г. — 7 гаспадарак. У 1800 г. вёска Слуцкага павета Расійскай імперыі, 16 двароў, 91 жыхар, шляхецкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. Бабкі — вёска, у Сіняўскай вол., 36 двароў, 222 жыхары. У 1908 г. — 43 двары, 295 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; 45 двароў, 258 жыхароў (на 1921 г.). З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галынкаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 61 двор, 349 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 19 вяскоўцаў. У 1951 г. ў вёсцы арганізаваны калгас, які аб'яднаў 40 гаспадарак. Пазней вёска ўвайшла ў склад калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Галынка). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 255 жыхароў, у 1970 г. — 176. У 1998 г. налічвалася 37 двароў, 62 жыхары, працаваў мага-

зін. З 2004 г. вёска знаходзіцца ў складзе Замежнага вытв. с.-г. прыватнага унітарнага прадпрыемства «Налібокі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы Тучанскага с/с).

**ВАРОНІНА** — вёска ў Грыцэвіцкім с/с, за 26 км на Пд ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 176 км ад Мінска. 57 гаспадарак, 72 жыхары (2009).

Вядома з 1-й пал. 17 ст. як сяло Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкае ўладанне. У 1652 г. сяло налічвала 2 валокі зямлі. У 1775 г. тут было 7 гаспадарак, дзейнічала карчма. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Слуцкага павета Мінскай губ., 10 двароў, 71 жыхар, уладанне Радзівілаў. У 1809 г. вёска фальварка Радзівілімонты, 12 дымоў, у 1812 г. — 111 жыхароў. У 1879 г. ў складзе маёнтка Мервіны Клецкай ардынацыі Радзівілаў, карчма. У 1886 г. Вароніна — сяло Грыцэвіцкай вол., 14 двароў, 108 жыхароў, меліся царква (пабудавана ў 2-й пал. 19 ст.), карчма з абозняй (драўляная). Паводле перапісу 1897 г. ў Вароніне 36 двароў, 236 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. Побач з вёскай размяшчалася аднайменная сядзіба лясной аховы (2 двары, 7 жыхароў). З 1889 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1908 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска, 14 двароў, 230 жыхароў, 1 хутар, 1 двор, 2 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска, 43 двары, 275 жыхароў, і асада, 2 двары, 13 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Грыцэвіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 60 двароў, 281 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліпеня 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 13 вяскоўцаў. У 1951 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які пазней увайшоў у склад узбуйненага калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Грыцэвічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 394 жыхары, у 1970 г. — 334. У 1998 г. ў вёсцы 71 двор, 143 жыхары, дзейнічалі б-ка, магазін, свінаферма. Сучасная вёска з 31.7.2003 г. ў складзе с.-г. вытворчага кааператыва «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы). У 2009 г. працуюць б-ка, магазін, свінаферма.

Вёска — радзіма бел. паэта Л.М.Галубовіча (нар. ў 1950 г.).

**ГАЛАВАЧЫ** — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Клецка, 7 км ад чыг. ст. Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. Праз вёску цячэ р. Конік (прыток р. Цапра), на якой пабудавана плаціна і створана сажалка. 63 гаспадаркі, 70 жыхароў (2009).

Згодна з мясц. паданнем, на месцы сучаснай вёскі некалі стаяў каменны ідал, якому пакланяліся жыхары навакольных паселішчаў. Неўзабаве ідал быў разбіты, а яго кавалкі людзі разнеслі па сваіх дамах. Гэтыя кавалкі лічыліся свяшчэннымі і ад іх паходзяць назвы некалькіх вёсак, у т.л. і назва вёскі Галавачы. Паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, назва вёскі паходзіць ад прозвішча клецкіх панцырных баяр Галавачоў (Галавачэвічаў), якія некалі тут жылі. Даследчык адзначае, што ў пісьмовых крыніцах пад 1534 і 1554 гг. згадваюцца Іван і Петраш Галавачэвічы. Пад 1552 г. пазначаны Цімох і Сымон Галавачэвічы, ужо звычайныя сяляне сяла Балвань (цяпер в.

Загорнае Нагорнаўскага с/с, прыкладна 8 км ад Галавачоў). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. Галавачы – вёска, 12 двароў, 89 жыхароў, карчма, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ., шляхецкае ўладанне. У 1858 г. вёска належала К.Рымшу. У 1897 г. ў Галавачах 34 двары, 276 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Грыцэвіцкай вол. У 1908 г. – 33 двары, 331 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. – у Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921–1939 гг. – у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска, 67 двароў, 375 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 24.8.1960 г. вёска – цэнтр Галавачоўскага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім, з 22.9.1980 г. ў Гурнаўшчынскім, з 8.12.1995 г. зноў у Зубкаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы налічвалася 89 двароў, 454 жыхары, працавала няпоўная сярэдняя школа; з канца 1939 г. існавала калектыўная гаспадарка. Кіраўніцтва Галавачоўскага с/с часова размяшчалася ў б. маёнтку Гурнаўшчына. На тэр. сельсавета ў 1940 г. знаходзіліся 17 населеных пунктаў, 558 двароў (у т.л. 364 хутары), 2691 жыхар, працавалі 1 сярэдняя і 2 пач. школы, 2 аддз. сувязі, 5 гандлёвых кропак. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 23 вяскоўцы. У 1948 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў 1949 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі, абслугоўваўся Клецкай МТС. З 1952 г. вёска – цэнтр узбуйненага калгаса імя Сталіна, з 1960 г. – калгаса «Сцяг Саветаў» (у 1980-я г. цэнтрам калгаса з'яўлялася в. Гурнаўшчына). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 506 жыхароў, у 1970 г. – 418. У 1988 г. – 115 двароў, 263 жыхары, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, магазін, майстэрні па рамонту с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы і г.д. У 1998 г. ў вёсцы было 93 двары, 187 жыхароў, дзейнічалі б-ка, Дом культуры. З 2008 г. вёска – у складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр – в. Красная Звязда). У 2009 г. працуе ферма буйной рагатай жывёлы.

**ГАЛЫНКА** – вёска, цэнтр Галынкаўскага с/с, за 25 км на ПдЗ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 167 км ад Мінска. Праз вёску цячэ р. Нача, прыток р. Лань. 195 гаспадарак, 384 жыхары (2009).

Паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, назва вёскі паходзіць ад урочышча Галовае балота, якое ў 1552 г. было адзначана на землях сяла Машуковічы. Сяло падчас правядзення валочнай памеры падзялілі паміж Бонай Сфорца (атрымала 2/3) і кн. Ц.І. Пузынай, частка якога з гэтага часу пачала называцца Галынкай-Машуковічамі або Галынкай. У 1653 г. сяло Галынка належала панам Чыжам, у гэтым жа годзе Адам-Дамінік Янавіч Чыж, скарбнік віленскі, фундаваў будаўніцтва царквы паміж Бабкамі і Галынкамі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. – сяло Слуцкага павета Мінскай губ., 21 двор, 204 жыхары, уніяцкая царква Пятра і Паўла (пабудавана ў канцы 18 ст.), вадзяны млын, драўляны сядзібны дом; шляхецкае ўладанне. У 1853 г. маёнткам і сялом Галынка валодаў В.Вяндорф. З 1836 г. ў маёнтку працаваў вінакурны з-д; у 1884 г. ў сяле адчынілася школа граматы. У 1886 г. сяло налічвала 50 двароў, 380 жыхароў, дзейнічалі 2

царквы. Паводле перапісу 1897 г. Галынка — сяло Сіняўскай вол., 100 двароў, 602 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У аднайменным маёнтку працавала вінакурня. У 1908 г. Галынка — сяло (112 двароў, 580 жыхароў) і маёнтак (68 жыхароў, 10 будынкаў). У 1910 г. адчынілася 4-класная школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. фальварак Галынка налічваў 10 жыхароў, вёска — 118 двароў, 655 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Галынкаўскага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў склад Галынкаўскага с/с уваходзілі 12 населеных пунктаў, 612 двароў (у т. л. 500 хутароў), 3582 жыхары; у вёсцы, цэнтры с/с, налічвалася 111 двароў, 802 жыхары, у б. маёнтку — 18 двароў, 66 жыхароў. Сельскі савет размяшчаўся ў будынках б. маёнтка Галынка побач з вёскай. Тут меліся вінакурня, вадзяны млын, аддз. сувязі, няпоўная сярэдняя школа. У 1940 г. ў б. маёнтку таксама быў арганізаваны калгас «Камунар», які аб'яднаў 17 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 17.2.1943 г. ў раёне вёскі партызаны атрада «Сокалы» на чале з К.П.Арлоўскім падчас баявой аперацыі знішчылі некалькі гітлераўскіх чыноўнікаў (у т. л. гал. камісара Баранавіч, які кіраваў некалькімі зах. акругамі ген. акругі «Беларусь»; гебітскамісара Баранавіцкай акругі), 2 камендантаў паліцыі, захапілі дакументы і зброю. У 1972 г. ва ўрочышчы Раскоп, на месцы бою быў пастаўлены помнік — курган з валуноў, завершаны металічным штыком. У вёсцы на вул. Цэнтральнай пахаваны 13 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў гады вайны. Стэла, устаноўленая на іх магіле ў 1972 г., таксама ўшаноўвае памяць 85 землякоў з вёсак калгаса «Камунар», што аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. (на франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 18 жыхароў Галынкі). У 1950 г. вяскоўцы аднавілі калгас «Камунар» (увайшлі 98 гаспадарак), у які ў 1950-я г. былі ўключаны навакольныя калгасы вёсак Бабкі, Звонка, Машукі, Шэйкі. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 700 жыхароў, у 1970 г. — 634. У 1988 г. — 209 двароў, 494 жыхары, працавалі сярэдняя школа (з 1956 г.), Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, б-ка, магазін, машынны двор з майстэрнямі па рамонту с.-г. тэхнікі, лясніцтва, ферма буйной рагатай



*Петрапаўлаўская царква ў в. Галынка.*

жывёлы і г.д. У 1998 г. ў вёсцы, цэнтры сельсавета і калгаса «Камунар», было 220 двароў, 554 жыхары. З 2004 г. вёска ў складзе Замежнага вытв. с.-г. прыватнага унітарнага прадпрыемства «Налібокі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы Тучанскага с/с). У 2009 г. працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», лясніцтва, магазіны, машынны двор з майстэрнямі па рамонту с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, іншыя ўстановы.

На вул. Зарэчнай знаходзіцца абеліск, пастаўлены на ўшанаванне памяці 42 вяскоўцаў, загінуўшых падчас рус.-японскай 1904—1905 гг. і Першай сусветнай 1914—1918 гг. войнаў. Ад былой сядзібы Вяндорфаў на ўсх. ускраіне Галынкі, на беразе р. Нача, захаваліся руіны мураванай галубятні (пабудавана ў 1811 г.), фундаменты некаторых гасп. пабудоў. На ПнЗ ад вёскі, на могілках захаваліся драўляныя царква св. Пятра і Паўла (пабудавана ў канцы 18 ст., аднаўлялася ў 19 ст.) і званіца (19 ст.) — помнікі нар. драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

**ГАНЯВІЧЫ** — вёска ў Сіняўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 48 гаспадарак, 61 жыхар (2009).



*Адна з пабудоў былой сядзібы Вендархаў у в. Галынка.*

Назва вёскі паходзіць ад прозвішча Ганявіч. Паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, у 1552 г. на землях с. Глубоча Клецкага княства ў складзе ВКЛ мелі свае надзелы Пецька і Петраш Ганявічы. Да 1575 г. іх з суседзямі вылучылі ў асобнае сяло з назвай Ганявічы, якое належала Радзівілам. У 1626 г. тут налічваліся 24 валокі зямлі. У 1665 г. — 17 гаспадарак. У 1791 г. Ганявічы — вёска фальварка Маствілавічы, 18 дымоў, 24 валокі зямлі, шынок. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1809 г. вёска таго ж фальварка, 20 дымоў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ., уладанне Радзівілаў. У 1819 г. — 11 дымоў, 75 жыхароў. У 1865 г. ў вёсцы мелася драўляная карчма. Паводле перапісу 1897 г. Ганявічы — вёска Сіняўскай вол., 47 двароў, 318 жыхароў, хлебазапасны магазін. Частка вяскоўцаў займалася скураной вытв-сцю і вырабам аўчыны, ганчарствам (у 1900 г. 40 ганчароў). Вёска з'яўлялася адным з цэнтраў ганчарства на Клетчыне. У 1908 г. 62 двары, 390 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; 68 двароў, 339 жыхароў (1921). З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Сіняўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 107 двароў, 491 жыхар. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў ба-

ях з ворагамі загінулі 7 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Сталінская канстытуцыя», які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Перāможац» (цэнтр – в. Сіняўка). У 1959 г. вёска налічвала 558 жыхароў; у 1988 г. – 77 двароў, 128 жыхароў, магазін; у межах калгаса імя Чкалава (цэнтр – в. Сіняўка). З 2004 г. вёска – у складзе аддзела с.-г. вытв-сці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр – г. Клецк). У 2009 г. працуюць магазін і Дом сац. паслуг. У вёсцы знаходзіцца помнік медсёстрам Першай міравой вайны.

**ГАРБУНОЎШЧЫНА** – вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 2 км на Пн ад Клецка, 1,5 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 138 км ад Мінска. 68 гаспадарак, 105 жыхароў (2009).

За 1,5 км на З ад вёскі (ва ўрочышчы Гарадзішча), на высокім мысе левага берага р. Лань, знаходзіцца помнік археалогіі – гарадзішча, якое адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Гарадзішча сведчыць аб засяленні тэрыторыі сучаснай вёскі ўжо ў 7–3 ст. да н.э. Назва вёскі, верагодна, паходзіць ад прозвішча клецкіх баяр Гарбуновічаў. У 1524 г. Бона Сфорца пацвердзіла баярыну Яцку Гарбуновічу валоданне трыма землямі ў Клецкім павеце ВКЛ. У 1575 г. маёнтак апошняга належаў Мацею Гарбуну, пазней Я.Тачыцкаму, Радзівілам. Пад 1626 г. вядома сяло Гарбуноўскае Клецкай воласці, 12 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1665 г. – 6 гаспадарак. У ліку іншых населеных пунктаў Клецкага княства ў 18 ст. паселішча аддавалася Радзівіламі ў заставу розным шляхціцам. У 1809 г. вёска Гарбанаўшчызна (Гурбанаўшчызна) адносілася да клецкага фальварка Курляндыя, 12 дымоў. У 1819 г. –14 дымоў. Паводле перапісу 1897 г. Гарбуноўшчына – вёска Ланскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 31 двор, 166 жыхароў. У 1908 г. – 42 двары, 239 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. – у Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921–1939 гг. – у складзе Ланскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; 43 двары, 251 жыхар (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 69 двароў, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 7 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас «Світанне» («Заря»), які ў 1953 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Кастрычнік» (цяпер с.-г. вытв. кааператыў «Шчэпічы», цэнтр – аграгарадок Шчэпічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 350 жыхароў, у 1970 г. – 315. У 1988 г. 92 двары, 198 жыхароў, дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. ў вёсцы 86 двароў, 177 жыхароў, магазін. У 2009 г. працуюць б-ка, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ГРЫЦЭВІЧЫ** – вёска, цэнтр Грыцэвіцкага с/с, за 12 км на ПдУ ад Клецка, 14 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 152 км ад Мінска. На З цячэ р. Лань (прыток р. Прыпяць). 231 гаспадарка, 534 жыхары (2009).

Вядома з 15 ст. вял. кн. ВКЛ і кароль польскі Казімір IV (1427–1492 гг.) перадаў маёнтак Грычэвічы (Грыцэвічы) Клецкай вол. свайму пісару пану Васку Любічу. Пазней маёнтак атрымаў ад таго ж Казіміра пляменнік пісара Петрашка Хамініч Любіч, што пацвердзіў у

1493 г. вял. кн. літ. Аляксандр. У 16—18 ст. маёнткам валодалі Петрашэвічы (Петрашковічы, нашчадкі П.Х.Любіча), Пласкавіцкія, Касакоўскія, Жукоўскія, Нарніцкія, Жыжэмскія, Булгарыны, П.Ждановіч. У 1775 г. Грыцэвічы налічвалі 24 двары. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. маёнтак і вёска, 25 двароў, 172 жыхары, драўляная уніяцкая царква Божага Цела, драўляны сядзібны дом; у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. Рас. імперыі. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці таго ж павета, 33 двары, 360 жыхароў, валаснное праўленне, царква св. Пятра і Паўла (драўляная, пабудавана ў 1855 г.), нар. вучылішча (адчынілася ў 1869 г.). Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 86 двароў, 483 жыхары, нар. вучылішча (адчынілася ў 1869 г., у 1892 г. тут вучыліся 87 хлопчыкаў, 16 дзяўчынак), валаснное праўленне, праваслаўныя царква св. Пятра і Паўла і капліца, хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом. У маёнтку 38 жыхароў, працаваў вадзяны млын. У 1908 г. Грыцэвічы — маёнтак, 7 жыхароў, і сяло, 559 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — цэнтр Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. існавалі 2 фальваркі: Грыцэвічы, 78 жыхароў, і Грыцэвічы Малыя, 65 жыхароў; вёска, 97 двароў, 563 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Грыцэвіцкага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў склад Грыцэвіцкага с/с уваходзілі 17 населеных пунктаў, 533 двары (у т. л. 409 хутароў); на тэр. сельсавета працавалі 4 школы, аддз. сувязі, 3 прадпрыемствы, 4 гандлёвыя кропкі. У 1940 г. ў цэнтры сельсавета налічваліся 54 двары, 213 жыхароў, меліся аддз. сувязі, хата-чытальня, няпоўная сярэдняя школа. У б. фальварках пражывала 23 і 15 чалавек. У 1940 г. на базе былога маёнтка Грыцэвічы арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі». У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі, у скверы пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла, якая ўшаноўвае памяць 108 жыхароў вёсак сельсавета, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе ў 1941—1945 гг.

У 1950 г. арганізаваны калгас імя Сталіна. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічваліся 834 жыхары, у 1970 г. — 742. У 1988 г. вёска, цэнтр сельсавета і калгаса «Шлях да камунізму», 227 двароў, 513 жыхароў, працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, сельская бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазіны, майстэрні па рамонту с.-г. тэхнікі, і інш. У 1998 г. — 246 двароў, 571 жыхар, школа (у 1984 г. адкрыта экспазіцыя школьнага гіст.-краязнаўчага музея), бальніца, дзіцячы



*Петрапаўлаўская царква ў в. Грыцэвічы.*

сад, Дом культуры, б-ка, магазіны. З 31.7.2003 г. вёска — цэнтр СВК «Грыцэвічы». У 2008 г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. працуюць сярэдняя школа, участковая бальніца, урачэбная амбулаторыя, аптэка, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, ферма буйной рагатай жывёлы, 2 лазні.

**ГУРНАЎШЧЫНА** — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Клецка, 6 км ад чыгуначнага прыпынку Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. 122 гаспадаркі, 352 жыхары (2009).

Паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, назва вёскі паходзіць ад прозвішча зямян Навагрудскага павета ВКЛ Гурынаў (Гурыновічаў), якія жылі на гэтых землях ужо ў 1548—1552 гг., валодалі сялом Пячэнін. Пазней гэтае сяло называлі Гурнаўшчына. У 1561 г. каралеўскі сакратар Яўхім Янавіч Гурын размежаваў свае маёнткі Гурнаўшчызну, Лецяшын, Сакалятычы з маёнткамі С.Дыбоўскага Сухлічы і Заракавец.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1795 г. ў Слуцкім павеце Мінскай вобл. У 1858 г. вёскі Гурнаўшчызна 1 (21 душа муж. полу) і Гурнаўшчызна 2 (10 душ муж. полу), уладанне К.Рымшы. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Гурнаўшчызна Грыцэвіцкай вол., 58 жыхароў. У 1908 г. ў маёнтку Рымшаў 12 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. фальварак, 65 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім с/с, з 22.9. 1980 г. вёска — цэнтр створанага Гурнаўшчынскага с/с, 8.12.1995 г. зноў перададзена ў склад Зубкаўскага с/с. У 1940 г. вёска, 21 гаспадарка, 99 жыхароў; створаны калгас імя Сталіна. Галавачоўскі с/с пэўны час размяшчаўся ў б. маёнтку Гурнаўшчына. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі пахаваны 31 воін Сав. Арміі, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941 і 1944 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. Помнік таксама ўшаноўвае памяць 60 землякоў, якія аддалі сваё жыццё ў барацьбе за Радзіму ў 1941—1945 гг. У 1946 г. ў вёсцы адноўлены даваенны калгас, які ў 1949 г. аб'ядноўваў 56 гаспадарак, абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічваліся 142 жыхары, у 1970 г. — 133. У 1988 г. — 65 гаспадарак, 194 жыхары, сярэдняя школа, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, машынны двор і інш. У 1998 г. вёска, цэнтр калгаса «Сцяг Саветаў», 100 двароў, 376 жыхароў. З 2008 г. ў складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Красная Звязда). У 2009 г. працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі.

**ГУСАКІ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Клецка, 9 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 147 км ад Мінска. 50 гаспадарак, 69 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сёлы Ашчэрычы і Гусакова Даліна Клецкага замка мелі каля 5 валок зямлі, уладанне каралевы Боны Сфорца. Пісцовая кніга Пінскага і Клецкага княстваў называе таксама ўрочышча Гусакова Даліна на мяжы сёл Вязаўцы і Ашчэрычы. У 1652 г. М.К.Радзівіл перадаў сялян в. Гусакі клецкаму касцёлу. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 113 жыхароў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. Рас. імперыі. З 1890 г. належала Абуховічам. Паводле перапісу 1897 г. існавалі вёскі Гусакі Казённыя, 43 двары, 248 жыхароў, хлебазапасны магазін, і Гусакі Абуховіча, 37 двароў, 241 жыхар. У 1905—07 гг. сяляне вёскі Гусакі Абуховіча вялі барацьбу з памешчыкам за права карыстацца ўрочышчам Сукорды. 12.3.1907 г. больш за 200 сялян, узброеных косамі, палкамі і віламі, спрабавалі спыніць работы на спрэчнай зямлі работнікаў Абуховіча. Падчас сутычкі з выкліканай паліцыяй некаторыя сяляне былі паранены, сялянка Хрысціна Бамбешка памерла ад ран. 30 удзельнікаў выступлення былі арыштаваны і трапілі ў турму. У 1988 г. на ўшанаванне памяці аб гэтых падзеях, на месцы бою сялян з паліцыяй была пастаўлена стэла з надпісам. У 1908 г. вёска налічвала 46 двароў, 301 жыхара, у 1911 г. тут пачало працаваць земскае вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёскі Гусакі Навадворскія, 54 двары, 285 жыхароў, і Гусакі Скарбовыя, 65 двароў, 364 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска Навадворскія Гусакі, 97 двароў, 345 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 8 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Суворава, які аб'ядноўваў 77 гаспадарак, абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 349 жыхароў, у 1970 г. — 299. У 1988 г. ў вёсцы 84 двары, 162 жыхары, магазін, свінаферма. У 1998 г. вёска, 72 двары, 132 жыхары, магазін, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цяпер СВК «Шчэпічы»; цэнтр — в. Шчэпічы). У 2009 г. працуе магазін.

**ДАМАРАЦКІЯ** (да 10.1.1961 г. вёскі Дамарацкія і Галынка) — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 175 км ад Мінска. 48 гаспадарак, 76 жыхароў (2009).

У 1858 г. вёска Дамарацк Слуцкага павета Мінскай губ. (30 душ муж. полу). Паводле перапісу 1897 г. вёска Грыцэвіцкай вол. таго ж павета, 23 двары, 143 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. — 120 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы, у 1921 г. 35 двароў, 201 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Нагорнаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 37 двароў,

207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 9 вяскоўцаў.

У 1950 г. арганізаваны калгас «Залатая ніва», які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. У 1961 г. да вёскі далучана вёска Галынка Нагорнаўскага с/с (б. засценак Галынка Грыцэвіцкай вол.; у 1908 г. 69 жыхароў, у 1940 г. 26 двароў, 134 жыхары, у 1959 г. 82 жыхары). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў в. Дамарацкія налічвалася 280 жыхароў, у 1970 г. — 413. У 1988 г. вёска, 89 двароў, 184 жыхары, у 1998 г. — 70 двароў, 128 жыхароў, у складзе калгаса імя Ульянава (цэнтр — в. Загорнае). У 2008 г. вёска перададзена ў склад Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы).

**ДАМАТКАНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Шчэпіцкага с/с, за 8 км на ПнЗ ад Клецка, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. 272 гаспадаркі, 661 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. як маёнтак на р. Хінёўка, уладанне літ. зямяніна Дамадкана і яго нашчадкаў. У 1577 г. сяло, шляхецкае ўладанне Рэчы Паспалітай. У 1683 г. в. Даматканавічы разам з фальваркам Чаркаўшчызна (усяго 28 двароў) С.Радзівіл перадаў клецкаму damініканскаму кляштару.

Паводле перапісу 1897 г. вёска, у Клецкай вол., налічвала 74 двары, 452 жыхары, меліся царква, школа (адкрылася ў 1885 г.), капліца на могілках, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 92 гаспадаркі, 562 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. — у складзе Клецкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы, у 1921 г. 103 гаспадаркі, 624 жыхары.

З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Даматканавіцкага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 25.4.2007 г. — цэнтр Шчэпіцкага с/с (уключае населеныя пункты аб'яднаных б. Даматканавіцкага і Шчэпіцкага сельсаветаў). У 1940 г. ў межы Даматканавіцкага с/с уваходзілі 16 населеных пунктаў, 629 гаспадарак (у т.л. 535 хутароў), 2876 жыхароў. На яго тэр. працавалі 4 школы, аддз. сувязі, бальніца. Сельскі Савет размяшчаўся ў памяшканнях б. маёнтка Студзянец (б. ўладанне Паўлінскага), побач з вёскай, там жа працавала няпоўная сярэдняя школа. У 1940 г. ў вёсцы налічвалася 176 двароў, 723 жыхары, у маёнтку — 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1942 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі пахаваны 31 воін Сав. Арміі, што загінулі ў баях з гітлераўцамі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі і раёна ад гітлераўцаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. Яна таксама ўшаноўвае памяць 37 землякоў, якія аддалі сваё жыццё за Ра-



*Георгіеўская царква ў в. Даматканавічы.*

дзіму ў 1941—45 гг. У 1950 г. ў Даматканавічах арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 1026 жыхароў, у 1970 г. — 1005. У 1988 г. вёска, 279 двароў, 838 жыхароў, цэнтр сельсавета і калгаса імя Жданава, працавалі сярэдняя школа, бальніца, аптэка, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, майстэрні па рамонту с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. — цэнтр калгаса «Авангард», 320 двароў, 875 жыхароў, школа (у 1993 г. пры школе адчынены гісторыка-этнаграфічны музей), дзіцячы сад, бальніца, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, турбаза, царква св. Георгія (будынак старога храма абкладзены цэглай, пабудавана ў 19 ст.). У 2008 г. на базе вёскі створаны аграгарадок, які ўваходзіць у склад СВК «Шчэпічы» (цэнтр — в. Шчэпічы). У 2009 г. працуюць Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Клецкі дзіцячы дом, урачэбная амбулаторыя, бальніца сястрынскага догляду, аддз. сувязі і «Беларусбанка», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, турбаза, ферма буйной рагатай жывёлы.

За 1 км на З ад паселішча на ўзгорку каля р. Лань захаваўся сядзібны дом былога маёнтка — помнік архітэктуры неакласіцызму. Сядзіба сфарміравалася на рубяжы 19—20 ст.

*Сядзіба ў в. Даматканавічы.*



**ДРАБАЎШЧЫНА** — вёска ў Грыцэвіцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Заастравецкім с/с), за 28 км на Пд ад Клецка, 30 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 178 км ад Мінска. 156 гаспадарак, 299 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1652 г. Драбаўшчына — вёска, 4 гаспадаркі, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім павеце. У 1757 г. вёска двара Радзівілімонты, 10 дымоў, 6 валок зямлі, драўляная карчма (малая Драбаўская). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. 20 гаспадарак. У 1800 г. вёска, 22 двары, 112 жыхароў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Радзівілімонты, 25 дымоў (у 1811 г. 60 рэвізскіх душ); у 1819 г. 16 дымоў, 112 жыхароў, вясковая карчма адносілася да суседняга фальварка Заельня. Пры карчме працаваў бровар. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Заастравецкай вол., 46 двароў, 310 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 53 двары, 348 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы; у 1921 г. вёска, 65 двароў, 396 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Старасельскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Заастравецкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 96 двароў, 474 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 5 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас

«Світанне», які ў 1953 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «1 Мая» (з 1965 г. калгас «Праца»). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 448 жыхароў, у 1970 г. — 662. У 1988 г. вёска, цэнтр калгаса «Праца», 184 гаспадаркі, 448 жыхароў, працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін, майстэрні па рамонту сельгастэхнікі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 1998 г. 189 гаспадарак, 460 жыхароў, магазін. З 2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы). У 2009 г. працуюць вучэбна-пед. комплекс, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма.

**ДУНАЙЧЫЦЫ** — вёска ў Тучанскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Клецка, 12 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. 120 гаспадарак, 159 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1586 г. маёнтак, шляхецкае ўладанне, у Навагрудскім павеце. У 1707 г. на сродкі Гедэона Яленскага тут пабудавана Свята-Пакроўская царква. У 1775 г. 36 гаспадарак, уладанне Яленскіх. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 45 двары, 395 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, каталіцкая капліца, сядзіба Яленскіх; у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1886 г. маёнтак і сяло (67 двароў, 396 жыхароў, царква), у складзе Сіняўскай вол. З 1876 г. маёнткам Дунайчыцы валодаў Антон Яленскі (404 дзес. зямлі, ветраны млын). У 1895 г. ў маёнтку пачала працаваць вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 96 двароў, 587 жыхароў, Пакроўская царква, школа (адкрылася ў 1886 г.), хлебазапасны магазін, піцейны дом, і маёнтак, 113 жыхароў, вінакурня, капліца. У 1905 г. школа граматы рэарганізавана ў земскую школу. У 1908 г. 97 гаспадарак, 558 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. фальварак, 5 двароў, 51 жыхар, і вёска, 142 двары, 706 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ліскаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.2.1966 г. ў Тучанскім с/с. У 1940 г. вёска, 180 двароў, 910 жыхароў, пач. школа. На базе б. маёнтка было ўтворана аддз. саўгаса «Туча». У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 20 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Калініна, пазней вёска ўвайшла ў склад саўгаса «Туча». Паводле перапісу 1959 г. існавалі в. Дунайчыцы (147 жыхароў), пас. Дунайчыцы саўгаса «Туча» (863 жыхары) і пасёлак спіртзавода Туча-Дунайчыцы (116 жыхароў); у 1970 г. в. Дунайцычы (спіртзавод) налічвала 921 жыхара. У 1988 г. — 222 двары, 429 жыхароў, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. вёска,



*Сядзіба Яленскіх у в. Дунайчыцы.*

175 двароў, 301 жыхар, у складзе калгаса «Туча» (з 28.8.2004 г. Філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь», цэнтр в. Туча). У 2009 г. працуюць клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЁДЧЫЦЫ** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Клецка, 25 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 163 км ад Мінска. 56 гаспадарак, 63 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Ётчыч Цэцеравецкага двара Клецкага княства (таксама называлі паветам), уласнасць вял. княгіні Боны Сфорца, 19 гаспадарак, 18 валок 18 маргоў зямлі. У 1577 г. сяло, 29 валок зямлі, 29 гаспадарак; уладанне Радзівілаў, якія пазней у ліку іншых неаднаразова аддавалі Ёдчыцы ў заставу (заклад за пазыку) розным прадстаўнікам шляхты. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 45 двароў, 292 жыхары, драўляная уніяцкая Троіцкая царква; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1801 г. пабудавана новая драўляная Пакроўская царква. У 1850 г. вёска фальварка Цэцеравец, 38 двароў, 271 жыхар, драўляная карчма. У 1861 г. 36 двароў, 313 жыхароў. У 1886 г. сяло Грыцэвіцкай вол., 41 двор, 370 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, царк.-прыходская школа (адкрылася ў 1867 г.). Паводле перапісу 1897 г. ў Ёдчыцах (Иодчицах) 93 двары, 571 жыхар, школа (у 1890 г. вучыліся 23 хлопчыкі і 1 дзяўчынка), хлебазапасны магазін, праваслаўныя царква і капліца. У 1908 г. 39 гаспадарак, 551 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы, у 1921 г. 125 двароў, 727 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Цэцеравецкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нагорнаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 164 двары, 784 жыхары, арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1942 г. да 4.7.1944 г. 10 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. Пасля вайны адноўлены даваенны калгас. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 645 жыхароў, у 1970 г. — 481. У 1988 г. 127 гаспадарак, 226 жыхароў, клуб, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Лазавічы). У 1998 г. вёска налічвала 89 двароў, 148 жыхароў, меўся магазін. Сучасная вёска ўваходзіць у склад СВК «Лазавічы» (цэнтр — в. Лазавічы). У 2009 г. працуюць магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом сац. паслуг. У цэнтры вёскі захавалася царква Пакрова Прасвятой Бага-



*Пакроўская царква ў в. Ёдчыцы.*

родзіцы (1801) — помнік драўлянага дойлідства.

**ЖОМАЙДЗЬ** — вёска ў Кухчыцкім с/с, 20 км на ПдЗ ад Клецка, 22 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 160 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 42 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Жомайцы, шляхецкае ўладанне, у Навагрудскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 135 жыхары, вадзяны млын, прыватнае ўладанне; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. аднайменныя вёска (62 жыхары муж. полу) і маёнтак, уласнасць Багдановіча. Паводле перапісу 1897 г. вёска Жомайдзь Сіняўскай вол., 33 двары, 242 жыхары, хлебазапасны магазін, з 1887 г. працавала школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 10 хлопчыкаў. У 1908 г. 265 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяводства Польшчы; фальварак, 3 двары, 27 жыхароў, і вёска, 52 двары, 318 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Сіняўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.7.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. існавалі вёска (82 двары, 365 жыхароў) і б. маёнтак (8 двароў, 28 жыхароў). У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 2 вяскоўцы загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Дзімітрава; з 1980 г. вёска — у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7. 2003 г. СВК «Кухчыцы», цэнтр — в. Кухчыцы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 342 жыхары, у 1970 г. — 231. У 1988 г. 51 гаспадарка, 109 жыхароў, магазін. У 1998 г. 47 двароў, 98 жыхароў. У сучаснай вёсцы працуюць магазін, Дом сац. паслуг.

**ЖЫЛІЧЫ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Клецка, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 156 км ад Мінска. 65 гаспадарак, 81 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Клецкага замка, 15 валок 8 моргаў зямлі, уладанне вял. княгіні Боны Сфорца. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў, у 1577 г. — 32 валокі зямлі, у 1626 г. каля 50 гаспадароў. У 17—18 ст. Радзівілы неаднаразова аддавалі вёску ў заставу (заклад за пазыку) розным прадстаўнікам шляхты. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 16 гаспадарак, 80 жыхароў, уладанне Радзівілаў; у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Грыбаўшчызна Клецкай ардынацыі, 10 дымоў, у 1811 г. 22 дымы, 94 жыхары. У 1841 г. Жылічы — фальварак (жылыя і гасп. будынкі, у т.л. мураваны бровар, конны млын, стайня) і вёска побач з ім, 20 дымоў, 112 жыхароў. У вёсцы, непадалёк ад фальварковага двара, на тракце з Нясвіжа на Ляхавічы, знаходзілася драўляная карчма з гумном і студняй. Згодна з Устаўной граматай 1862 г. ў вёсцы было 15 гаспадарак, сяляне карысталіся 150 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска Жылічы Ланскай вол., 27 двароў, 224 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. Побач знаходзіліся будынкі фальварка Жылічы кн. Радзівіла і яго карчма, а таксама аднайменнае ўрочышча (1 гаспадарка, 7 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 42 гаспадаркі, 216 жыхароў, у фальварку — 12, ва ўрочышчы — 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана

польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Ланскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; фальварак, 3 двары, 16 жыхароў, і вёска, 53 двары, 287 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Даматканавіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 25.4.2007 г. ў Шчэпіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 85 двароў, 392 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 15 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Жданава; з 1978 г. вёска — у складзе ўзбуйненага калгаса з той жа назвай (пазней калгас «Авангард»; цэнтр — в. Даматканавічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 415 жыхароў, у 1970 г. — 345. У 1988 г. 93 гаспадаркі, 160 жыхароў, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. 89 двароў, 140 жыхароў, магазін. З 10.3. 2004 г. вёска ў складзе прыватнага унітарнага прадпрыемства «Аграфірма Арда» (цэнтр — в. Арда).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі (на месцы б. хутара Жылічы) знаходзіцца помнік археалогіі — курган.

**ЗААСТРАВЕЧЧА** (да 10.1.1961 г. вёскі Заастравечча і Танеўшчына) — вёска, цэнтр Заастравецкага с/с, за 25 км на ПдУ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 912 гаспадарак, 1938 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. як сяло, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім павеце. У 1608 г. Я.А.Радзівіл перадаў Заастравечча шляхціцу І.Р.Кміце. У 1628 г. сялом разам з іншымі паселішчамі маёнтка Логвінавічы валодала Кміціна. У 1652 г. сяло, 2 валокі зямлі, уладанне Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 96 жыхароў, драўляны сядзібны дом (гаспадскі дом), уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Малое Астравечча, 13 дымоў. У перыяд паўстання 1863—1864 гг. ў Польшчы, Беларусі і Літве, у 1863 г. каля в. Пчальнікі, якая знаходзілася непадалёк ад Заастравечча, у баі з царскімі войскамі загінулі 40 паўстанцаў атрада пад камандаваннем Антонія Санковіча. Першы памятны крыж на месцы бою быў устаноўлены ў 1937 г., у 1993 г. з нагоды 130-годдзя з дня бітвы паўстанцаў з урадавымі войскамі пастаўлены новы дубовы крыж. У 1886 г. Заастравечча — сяло, цэнтр Заастравецкай вол., 9 двароў, 110 жыхароў, вал. праўленне, нар. вучылішча (адчынілася ў 1864 г.), каталіцкая капліца. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 89 двароў, 494 жыхары, нар. вучылішча (адчынілася ў 1869 г.), хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом, і аднайменны хутар, 3 двары, 30 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 70 двароў, 590 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. вёска, цэнтр Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. існавалі асада, 1 двор, 7 жыхароў, і вёска, 138 двароў, 771 жыхар. У 1936 г. ў паўд.-зах. частцы вёскі пабудавана драўляная царква св. Дыянісія (захавалася, помнік нар. драўлянага дойлідства), у 1937 г. — школа. У 1932—39 гг. праводзіліся штотыднёвыя кірмашы (кожны чацвер). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Заастравецкага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1. 1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г.

ў склад сельсавета ўваходзілі 22 населеныя пункты, 726 двароў (у т.л. 637 хутароў), на тэр. сельсавета пражывала 3611 чал., працавалі 5 школ, медыцынская ўстанова. Паводле дадзеных Нац. архіва РБ у 1940 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся аднайменныя вёска (186 двароў, 885 жыхароў) і мястэчка (89 двароў, 514 жыхароў). У цэнтры сельсавета дзейнічалі хата-чытальня, няпоўная сярэдняя школа, аддз. сувязі, лесапільны з-д, паравы млын і іншыя дробныя прадпрыемствы.

У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі пахаваны 7 воінаў і партызан, што загінулі ў гады вайны. Сярод іх 4 партызаны брыгады 18-й імя М.В.Фрунзе, якія загінулі 24.6.1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. Яна таксама ўшаноўвае памяць 3 землякоў, якія загінулі ў 1917—26 гг. у барацьбе за сав. ўладу, і 67 землякоў, што аддалі сваё жыццё за Радзіму ў Вял. Айч. вайну.

У 1949 г. арганізаваны калгас, у 1950 г. пачала працаваць Заастравецкая МТС (цяпер ПМК-78). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 1566 жыхароў, у 1970 г. — 1784. 10.1.1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкома (№ 17) да Заастравечча была далучана суседняя в. Танеўшчына. У 1970-я г. ў вёсцы, цэнтры сельсавета і калгаса «Праўда», адкрыліся цэх па пашыве адзення ад Клецкай швейнай ф-кі, Дом быту, філіял Клецкай муз. школы і іншыя ўстановы. У 1988 г. — 1004 гаспадаркі, 2682 жыхары, сярэдняя школа (у 1969 г. ў школе адкрыты гіст.-краязнаўчы музей), бальніца, аптэка, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазіны, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, млын, лесапільня, ферма буйной рагатай жывёлы, іншыя ўстановы. У 1998 г. 1028 дамоў, 2451 жыхар. У 2007 г. на базе вёскі ўтвораны аграгарадок, які з'яўляецца цэнтрам



*Царква св. Дыянісія в. Заастравечча.*

СВК «Заастравечча» (створаны 31.7. 2003 г.). У 2009 г. дзейнічаюць сярэдняя школа, участковая бальніца (пры ёй арганізаваны пост хуткай медыцынскай дапамогі), Дом культуры, б-ка, яслі-сад, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, млын, лесапільня, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЗАБАЛАТНІКІ** — вёска ў Сіняўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Клецка, 16 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 154 км ад Мінска. 86 гаспадарак, 159 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. У 1552 г. сяло Балотнікі, 12 гаспадарак, 12 валок зямлі, у складзе Клецкага княства (таксама называлі паветам), уладанне каралевы Боны Сфорца. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў. У 1626 г. сяло Забалоцце, 12 валок зямлі, у 1665 г. — 8 гаспадарак. З 1768 г. вёска ў складзе маёнтка Маствілавічы ва ўладанні Яленскіх. У 1791 г. 12 валок зямлі, 18 дамоў, шынок. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1809 г. вёска фальварка Маствілавічы, 18 дымоў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У

1817 г. вёска перададзена ў склад фальварка Туча, 108 жыхароў (1819). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сіняўскай вол., 30 двароў, 244 жыхары. Акрамя сельскай гаспадаркі частка вяскоўцаў займалася выпрацоўкай авечых скур, ганчарствам (у 1900 г. 25 чал.). У 1908 г. — 41 двор, 304 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 56 двароў, 337 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Сіняўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 85 двароў, 457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 9 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які абслугоўваўся Клецкай МТС і ў 1959 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы 478 жыхароў, у 1970 г. — 414. У 1988 г. 120 двароў, 309 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін. У 1998 г. 116 гаспадарак, 240 жыхароў. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытв-сці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк). У 2009 г. працуюць магазін і пункт выдачы кніг.

**ЗАГОРНАЕ** (да 30.7.1964 г. вёскі Вялікая Балвань і Малая Балвань) — вёска, цэнтр Нагорнаўскага с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клецка, 17 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 155 км ад Мінска. 159 гаспадарак, 245 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Паводле Пісцовай кнігі Пінскага і Клецкага княстваў, у 1552 г. існавалі сяло Балванскае Цецераўскага двара (Балвань, 28 гаспадарак, 33 валокі 22 моргі), урочышчы Балванскі востраў і Балванская Гаць (каля с. Балвань), уладанні каралевы Боны Сфорца. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў, у Навагрудскім павеце. У пісьмовых крыніцах пад 1563 г. адзначаны сёлы Вялікая Балвань (21 гаспадар, 33 валокі зямлі ў 1575 г.) і Малая Балвань (12 гаспадарак, 15 валок зямлі ў 1575 г.). У 17—18 ст. названыя паселішчы разам з іншымі перадаваліся Радзівіламі ў заставу (заклад за пазыку), арэнду ці «за паслугі» розным асобам на пэўныя тэрміны. У 1652 г. вёскі Балвань ( у 1626 г. 18 гаспадарак, 14 валок зямлі) і Малая Балвань налічвалі адпаведна 16 і 32 валокі зямлі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёскі: Вялікая Балвань (36 двароў, 215 жыхароў) і Малая Балвань (25 двароў, 125 жыхароў), уладанні Радзівілаў; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. в. Вялікая Балвань, 53 дымы, адносілася да фальварка Ахрэмавічы, а в. Малая Балвань, 29 дымоў — да фальварка Цапра Клецкага княства. Паводле перапісу 1897 г. вёскі знаходзіліся ў складзе Грыцэвіцкай вол. У Вялікай Балвані было 78 двароў, 467 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у Малой Балвані — 38 двароў, 245 жыхароў (у 1857 г. 107 жыхароў), хлебазапасны магазін. У 1898 г. ў фальварку (маёнтку) Вялікая Балвань Клецкай ардынацыі Радзівілаў размяшчаліся стары драўляны жылы дом, флігель, стайня, экіпажная, свірны, хлявы, фруктовы сад. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мін-

скай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёскі Вялікая Балвань, 104 двары, 568 жыхароў, і Малая Балвань, 45 двароў, 260 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Нагорнаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.12.2007 г. вёска — цэнтр Нагорнаўскага с/с. У 1940 г. ў Вялікай Балвані 134 двары, 706 жыхароў, у Малой Балвані 74 двары, 347 жыхары. У 1940 г. ў Малой Балвані арганізаваны калгас «17 Верасня», які аб'яднаў 35 вясковых гаспадарак, хутар Ахрэмаўку і фальварак Бласкавіцы, абслугоўваўся Клецкай МТС. У Вял. Айч. вайну вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. У 1980 г. ў Загорным на ўшанаванне памяці 52 землякоў, што загінулі ў 1941—45 гг., устаноўлена мемарыяльная пліта. Пасля вайны адноўлены калгас «17 Верасня», у 1949 г. ў вёсцы Вялікая Балвань арганізаваны калгас імя Леніна. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў Вялікай Балвані налічвалася 672 жыхары, у Малой Балвані — 436; у 1970 г. в. Загорнае, 970 жыхароў. У 1988 г. вёска, цэнтр калгаса імя Ульянава (уваходзілі вёскі Дамарацкія, Заполле, Нагорнае, Рубеж), 252 двары, 527 жыхароў; Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазіны, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, іншыя ўстановы. У 1998 г. 216 двароў, 414 жыхароў. У 1990-я г. для сем'яў, якія пакінулі раёны, забруджаныя радыенуклідамі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, пабудаваны пас. Маладзёжны. З 2008 г. вёска ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць Дом культуры, б-ка, фельч.- акушэрскі пункт, аддз. сувязі, філіял АП «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЗАЕЛЬНЯ** (да 10.1.1961 г. вёскі Заельня і Бурачкі) — вёска ў Грыцэвіцкім с/с, за 14 км на Пд ад Клецка, 16 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 154 км ад Мінска. 131 гаспадарка, 183 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1586 г. Вацлаў Віроўскі атрымаў ад М.К.Радзівіла 16 валок зямлі ў Заельнай. У 17—18 ст. маёнтак, які Радзівілы неаднаразова аддавалі ў заставу (заклад за пазыку) розным шляхціцам. Так, у 1626 г. Заельню трымаў Сялява, у 1645—50 гг. — Ганна Сялява з дзецьмі, у 1652 г. — А.Булгарын, у 1775 г. — Аручэўскі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і аднайменная вёска, 15 двароў, 138 жыхароў, уладанне Радзівілаў; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. ў вёсцы 20 дымоў, 150 жыхароў. У 1819 г. ў фальварку (уваходзілі вёскі Заельня і Драбаўшчына) знаходзіліся жылы драўляны дом (афіцына, пабудавана ў 1789 г.), гумно (1806), драўляныя конны млын, бровар (1808), карчма на тракце з Астроўчыц на Клецк (пабудавана ў 1809), іншыя гасп. пабудовы. Побач з фальваркам месцілася драўляная капліца з абразом Дзевы Марыі. З 1889 г. ў вёсцы працавала школа граматы (з 1912 г. аднакласнае нар. вучылішча). Паводле перапісу 1897 г. Заельня — маёнтак (15 жыхароў, праваслаўная капліца, прыпісаная да Петрапаўлаўскай царквы ў Грыцэвічах), вёска (46 двароў, 296 жыхароў, школа, хлебазапасны магазін) і хутар (6 жыхароў, ветраны млын); у складзе Грыцэвіцкай вол. У 1908 г. ў вёсцы 23 двары, 321 жыхар, у фальварку 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У

крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; фальварак, 23 жыхары, і вёска, 66 двароў, 390 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Грыцэвіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 96 двароў, 465 жыхароў, і аднайменная асада, 11 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 35 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас імя 32-й гадавіны Кастрычніка, які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. 10.1. 1961 г. да Заельні далучана суседняя в. Бурачкі (у 1921 г. 35 двароў, 190 жыхароў; у 1959 г. 264 жыхары). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў Заельні налічвалася 595 жыхароў, у 1970 г. — 734. У 1988 г. вёска, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Грыцэвічы), 193 двары, 431 жыхар, працавалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. 165 двароў, 330 жыхароў, Дом культуры, б-ка, магазін. Сучасная вёска з 31.7.2003 г. знаходзіцца ў складзе с.-г. вытворчага кааператыва «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы). У 2009 г. працуюць клуб-бібліятэка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЗАЛЯШАНЫ** — вёска ў Кухчыцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клецка, 17 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 155 км ад Мінска. 95 гаспадарак, 182 жыхары (2009).

У 1626 г. ў ВКЛ на месцы сучаснай вёскі паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова знаходзіўся радзівілаўскі фальварак Залессе з жылымі і гасп. пабудовамі. Яго трымаў шляхціц Тарнеўскі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак (дзейнічала вінакурня) і вёска, 6 двароў, 32 жыхары, шляхецкая ўласнасць; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўладанне Г.Грыгаровіча. У 1897 г. ў вёсцы, якая ўваходзіла ў склад Сіняўскай вол., было 117 двароў, 343 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У 1908 г. 61 двор, 388 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 67 двароў, 387 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Заляшанскага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. ў склад Заляшанскага с/с уваходзілі 19 населеных пунктаў, 492 хутары. На яго тэр. пражывалі 2279 чал., працавалі 3 школы, хата-чытальня. У 1940 г. ў Заляшанах было 116 двароў, 462 жыхары. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 12 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. На ўсх. ускраіне вёскі пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла, абапал яе — 2 стэлы з імёнамі землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. У 1949 г. арганізаваны калгас «Герой працы»; з 1980 г. вёска ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7.2003 г. СВК «Кухчыцы», цэнтр — в. Кухчыцы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы 428 жыхароў, у

1970 г. — 350. У 1988 г. — 103 гаспадаркі, 257 жыхароў, сярэдняя школа (у 1987 г. пры ёй адкрыты музей хлеба), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. — 105 двароў, 239 жыхароў, школа, бібліятэка-клуб, магазін. У сучаснай вёсцы працуюць бібліятэка-клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, машынны двор.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Клецка, 15 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 153 км ад Мінска. На У ад вёскі цячэ р. Балванка (прыток р. Лань). 57 гаспадарак, 63 жыхары (2009).

У 1809 г. Заполле — вёска фальварка Цапра, 20 дымоў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1816 г. вёска фальварка Цапра Вялікая, 16 дымоў, 72 жыхары. У 1857 г. 13 двароў, 106 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Грыцэвіцкай вол., налічвала 33 двары, 190 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 215 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 53 двары, 294 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Нагорнаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 68 двароў, 413 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 4 вяскоўцы загінулі ў баях з ворагам. У 1949 г. арганізаваны калгас «30 гадоў БССР». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 486 жыхароў, у 1970 г. — 395. У 1988 г. 118 гаспадарак, 233 жыхары, у складзе калгаса імя Ульянава (цэнтр — в. Загорнае). У 1998 г. 85 двароў, 151 жыхар, магазін. З 2008 г. вёска знаходзіцца ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць магазін, Дом сац. паслуг.

**ЗВОНКА** — вёска ў Галынкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 55 гаспадарак, 76 жыхароў (2009).

У 1897 г. сядзіба Звонка, 1 двор, 5 жыхароў, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1908 г. ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; калонія, 42 двары, 297 жыхароў (1921). Сучасная вёска ў сярэдзіне 20 ст. выдзелілася з в. Машукі Галынкаўскага с/с. У 1988 г. ў складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Галынка), 82 гаспадаркі, 186 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1998 г. 81 двор, 163 жыхары, магазін. З 2004 г. вёска ўваходзіць у Замежнае вытв. с.-г. прыватнае унітарнае прадпрыемства «Налібакі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы, Тучанскі с/с). У 2009 г. працуюць клуб-бібліятэка, Дом сац. паслуг, ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЗЕРНАВАЯ** (да 30.7.1964 г. Бяднішкі) — вёска ў Красназвёздаўскім с/с, 7 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 146 км ад Мінска. На У ад вёскі цячэ р. Цапра (прыток р. Лань). 18 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 1870 г. Бяднішкі — фальварак і вёска (25 душ мужчынскага полу) у Грыцэвіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 83 жыхары, фальварак — 12 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 11 двароў, 97 жыхароў, у фальварку — 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 24 двары, 128 жыхароў, і фальварак, 6 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім, з 11.5.1967 г. ў Бабаевіцкім, з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім, з 23.7.1984 г. ў Красназвёздаўскім сельсаветах, з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 29 двароў, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 144 жыхары, у 1970 г. — 104. У 1988 г. вёска ў складзе племзавода «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы), 28 гаспадарак, 57 жыхароў. У 1998 г. 25 двароў, 31 жыхар, у саўгасе «Красная Звязда» (цяпер РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр в. — Янавічы).

**ЗУБКІ** — вёска, цэнтр Зубкаўскага с/с, за 8 км на ПнУ ад Клецка, 2 км ад чыг. прыпынку Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. Каля вёскі цячэ р. Цапра (прыток р. Лань). 226 двароў, 499 жыхароў (2009).

Назва вёскі паходзіць ад прозвішча Зубок, Зубко. У 1508 г. землі сучаснай вёскі належалі кн. Ф.І.Яраславічу, пазней кн. Івану Юр'евічу, А.Іллінічу (родапачынальніку шляхецкага роду Зубкоў ці Іллінічаў-Зубкоў) і яго нашчадкам. У 1529 г. І.Зубкавіч атрымаў ад караля Жыгімонта І грамату на валоданне гэтым маёнткам «на вечнасць». У 1552 г. маёнтак, у Навагрудскім павеце ВКЛ, уладанне І.Зубка. У 1771 г. фальварак Цапра Зубкаўская, альбо Зубкі, перадаваўся ўладальнікам М.Зубком у заставу (заклад за пазыку) Хадароўскім «да жывата» (пажыццёва). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 11 двароў, 62 жыхары, вадзяны млын, драўляная уніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, і фальварак з сядзібным домам і вінакурняй; у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1886 г. сяло Клецкай вол., 11 двароў, 126 жыхароў, Пакроўская царква, царк.-прыходская школа (з 1884 г.). Паводле перапісу 1897 г. Зубкі — маёнтак (33 жыхары, уладанне Бярновічаў), сяло (35 двароў, 185 жыхароў, царква), карчма (16 жыхароў) і ўрочышча (2 двары, 7 жыхароў). У 1908 г. ў маёнтку 57 жыхароў, у сяле — 37 двароў, 255 жыхароў. З 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Клецкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 49 двароў, 225 жыхароў, і фальварак, 43 жыхары (1921). З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Зубкаўскага с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў склад Зубкаўскага с/с уваходзілі 18 населеных пунктаў, 898 двароў (у т.л. 884 хутары). На яго тэр. пражывалі 3504 чал., працавалі 5

школ, 1 прадпрыемства, аддз. сувязі. Сельскі Савет часова месціўся ў б. маёнтку Зубкі (7 жыхароў у 1940 г.). У в. Зубкі ў 1940 г. налічвалася 70 двароў, 280 жыхароў, дзейнічалі невял. сушыльны з-д і пач. школа; арганізаваны саўгас. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1942 г. да 4.7.1944 г. У цэнтры вёскі (вул. Піянерская) пахаваны партызан М.Анохін, які загінуў у баі з гітлераўцамі ў 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, якая таксама ўшаноўвае памяць 36 землякоў, што аддалі сваё жыццё за Радзіму ў 1941—45 гг. Пасля вызвалення ў вёсцы адноўлены даваенны саўгас, які ў 1945 г. быў перайменаваны ў Дзяржплодапітомнік, у 1957 г. — у саўгас «Зубкі», з 2001 г. — Мінскае абл. унітарнае плодагадавальнае прадпрыемства (МАУПП) «Зубкі». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 394 жыхары, у пасёлку саўгаса 150; у 1970 г. ў вёсцы — 453 жыхары. У 1988 г. вёска, цэнтр сельсавета і саўгаса, 140 гаспадарак, 383 жыхары, майстэрні па рамонту сельгастэхнікі, млын, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазіны. У 1998 г. 262 двары, 673 жыхары. У 2009 г. ў сучаснай вёсцы, цэнтры сельсавета і МАУПП «Зубкі», працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, лазня.

**ІСКРА** (да 30.7.1964 г. Клапыцішчы) — вёска ў Кухчыцкім с/с, 11 км на ПдЗ ад Клецка, 13 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 151 км ад Мінска. 50 гаспадарак, 93 жыхары (2009).

Паводле перапісу 1897 г. Клапыцішчы — фальварак, 8 жыхароў, і вёска, 36 двароў, 270 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1908 г. вёска, 55 двароў, 357 жыхароў, і 2 фальваркі: уладанні Каласоўскага (7 жыхароў) і Свяніцкага (2 жыхары). У 1911 г. адчынілася земская школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 63 двары, 337 жыхароў, 2 фальваркa: 22 і 5 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заляшанскім с/с таго ж раёна і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. вёска, 79 двароў, 390 жыхароў, і б. фальварак, 22 жыхары. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. З вяскоўцы загінулі на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас «Верны шлях». З 1980 г. вёска ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7.2003 г. с.-г. вытв. кааператыў «Кухчыцы», цэнтр — в. Кухчыцы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 380 жыхароў, у 1970 г. — 353. У 1988 г. 80 гаспадарак, 172 жыхары, у 1998 г. 71 двор, 139 жыхароў. У сучаснай вёсцы знаходзяцца магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма.

**КАПЛАНАВІЧЫ** — вёска ў Краснazвёздаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Клецка, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 146 км ад Мінска. На Пд ад вёскі цячэ р. Лань (прыток р. Прыпяць). 49 гаспадарак, 71 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Капланскае Клецкага княства (таксама называлі паветам). У 1575 г. знаходзілася ва ўладанні Радзівілаў і называлася Сапатвін, 13 гаспадарак, 15 валок зямлі. Побач знаходзіўся двор (фальварак) Сапатвін Клецкай вол. У 1626 г. сяло Сапатвіны, 42 гаспадары. У 1665 г. сяло Капланавічы, 19 гаспадарак. У 1730–59 гг. фальварак Капланавічы трымалі ў заставе Пласкавіцкія. У 1736 г. М.Радзівіл аддаў у заставу Барташэўскім вёскі Бабаевічы і Капланавічы. У 1757 г. вёска Капланавічы (22 дымы, 15 валок зямлі) і карчма Капланаўская адносіліся да двара Радзівілімонты. Пры карчме сярод іншых гасп. пабудоў мелюся стайня і бровар. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. ў Капланавічах 25 гаспадарак. У 1800 г. вёска, 27 двароў, 126 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Радзівілімонты, 27 дымоў, карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска Капланавічы, 53 двары, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Грыцэвіцкай вол. У 1908 г. 368 жыхароў. У 1910 г. пачало працаваць нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы, вёска, 76 двароў, 460 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бабаеўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім, з 23.7.1984 г. ў Красназвёздаўскім с/с. У 1940 г. 77 двароў, 490 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 529 жыхароў, у 1970 г. — 433. У 1988 г. вёска ў складзе племзавода «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы), 104 двары, 229 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1998 г. 79 гаспадарак, 136 жыхароў, у саўгасе «Красная Звязда». Сучасная вёска знаходзіцца ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць магазін, Дом сац. паслуг.

За 0,2 км на З ад вёскі, на могілках размешчаны помнік археалогіі — курганны могільнік (44 курганы).

**КАРАНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Клецка, 17 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 155 км ад Мінска. На ПдУ ад вёскі цячэ р. Балванка (прыток р. Лань). 41 гаспадарка, 41 жыхар (2009).

Назва вёскі паходзіць ад прозвішча першых жыхароў Караневічаў. Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Караневічы Клецкага княства, 2 валокі 9 моргаў зямлі, 2 гаспадаркі, у т.л. Ігната і Андрэя Караневічаў. У 1784 г. Каранеўшчына належала Ігнату і Габрыэлю Валадковічам (Валодзькам), 10 двароў (2 з якіх пустыя), 59 жыхароў. У 1790 г. фальварак Каранеўшчына, уладанне Т.Катлубая. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. вёска і аднайменны фальварак (уласнасць Марцынкевіча) у складзе Грыцэвіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 84 жыхары, царква св. Георгія, хлебазапасны магазін, у фальварку 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай

губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы, вёска, 25 двароў, 132 жыхары, і фальварак, 41 жыхар (1921). З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Гурнаўшчынскім, з 8.12.1995 г. ў Зубкаўскім сельсаветах. У 1940 г. 29 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7. 1944 г. У 1948 г. арганізаваны калгас «Перамога». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 420 жыхароў, у 1970 г. — 344. У 1988 г. вёска ў складзе калгаса «Сцяг Саветаў» (цэнтр — в. Гурнаўшчына), 90 гаспадарак, 195 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1998 г. 73 двары, 114 жыхароў, магазін. У 2008 г. вёска ўвайшла ў склад РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы).

**КАРАЦК** — вёска ў Тучанскім с/с, за 23 км на Пд ад Клецка, 25 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 153 км ад Мінска. Побач з вёскай цячэ р. Тучанка (прыток р. Нача). 216 гаспадарак, 406 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. Карацк — сяло Сіняўскага двара Клецкага княства (16 валок 6 моргаў зямлі, 11 гаспадароў), уласнасць каралевы Боны Сфорца. У 1558 г. трэцяя частка сяла належала кн. Ц.І.Пузыну, а асн. частка паселішча з 16 валокамі зямлі — Радзівілам. Пазней гэтую частку Карацка называлі таксама Вялікі Карацк. Частка сяла, якой валодалі Пузыны, атрымала назву Малы Карацк і ў далейшым дадаткова дзялілася паміж рознымі ўладальнікамі. Так, у 1669 г. З.Я.Ясінскі прадаў фальварак Карацк А.Крывапішу, а ў 1781 г. яго ўнук прадаў маёмасць Ю.Рудзінскаму. У 1775 г. Малы Карацк належаў Берасневічу, Крывапішам, Пагарэльскім, Яцынічовай (усяго 6 сял. і 6 шляхецкіх гаспадарак). У 1782 г. А.Пагарэльскі прадаў свой фальварак Малы Карацк і частку аднайменнай вёскі С.Вендарфу. У 1575 г. радзівілаўскае с. Карацк (Вялікі Карацк) налічвала 11 гаспадароў, 16 валок зямлі. У 1626 г. сяло ўваходзіла ў склад Сіняўскай вол. Клецкага княства і налічвала 37 дымоў. У 1645 г. 41 гаспадар, у 1665 г. 12 гаспадарак. У 1757 г. вёска (16 валок зямлі, 28 дымоў, карчма) адносілася да двара Радзівілімонты. Пры Карацкай карчме дзейнічаў бровар, меліся стайня і іншыя гасп. пабудовы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 1795 г. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. вёска, 28 дымоў, уваходзіла ў межы Краснастаўскай вол. Клецкай ардынацыі Радзівілаў. У 1809 г. вёска фальварка Слабодка, 28 дымоў, у 1819 г. — 18 дымоў, 115 жыхароў. У 1882 г. вёскі Вял. Карацк (17 гаспадарак) і Малы Карацк (16 гаспадарак), фальварак Карацк (20 валок зямлі, вінакурня; з 1840 г. ўладанне Машчынскіх), у складзе Сіняўскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. існавалі вёскі Карацк Вялікі (27 двароў, 172 жыхары) і Карацк Малы (53 двары, 339 жыхароў, хлебазапасны магазін), фальваркі Вялікі Карацк (1 двор, 8 жыхароў) і Малы Карацк (4 двары, 22 жыхары), 2 фальваркі Карацк. У 1908 г. ў вёсцы Карацк Вялікі было 32 двары, 197 жыхароў, Карацк Малы — 52 двары, 295 жыхароў, у фальварках Вялікі і Малы Карацк адпаведна 12 і 6 жыхароў, у 2 фальварках Карацк — 44 і 10. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай

губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска Карацк Малы, 79 двароў, 426 жыхароў, калонія Карацк Вялікі, 45 двароў, 311 жыхароў, і фальваркі: Карацк 1 (9 жыхароў), Карацк 2 (14 жыхароў), Карацк Малы (41 жыхар). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 г. вёска Вял. Карацк (65 двароў, 387 жыхароў) і б. фальварак Карацк (13 жыхароў) былі ўключаны ў Межнаслабодскі с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 26.2.1966 г. ў Тучанскім с/с. Вёска Малы Карацк (у 1940 г. 104 двары, 567 жыхароў) разам з б. фальваркам Малы Карацк (21 жыхар) з 12.10.1940 г. знаходзілася ў складзе Галынкаўскага с/с Клецкага р-на, 28.7. 1954 г. перададзена ў межы Межнаслабодскага с/с (26.2.1966 г. перайменаваны ў Тучанскі с/с). У Вял. Айч. вайну вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. У 1969 г. на зах. ускраіне сучаснай вёскі, каля дарогі Клецк—Галынка, на ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі на франтах і ў партыз. барацьбе ў 1941—45 гг., пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых. У 1949 г. ў в. Вялікі Карацк утвораны калгас імя Дзяржынскага. У в. Малы Карацк быў арганізаваны калгас «Новы шлях». Паводле перапісу 1959 г. вёскі Вялікі і Малы Карацк налічвалі адпаведна 329 і 540 жыхароў. Пазней яны зліліся ў адзін населены пункт — в. Карацк, у якой у 1970 г. пражывала 740 чал. У 1988 г. вёска, у складзе калгаса «Чырвоны партызан» (цэнтр — в. Бабічы), 238 гаспадарак, 590 жыхароў. Дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1998 г. 263 двары, 647 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. З 2004 г. вёска ўваходзіць у Замежнае вытв. с.-г. прыватнае унітарнае прадпрыемства «Налібакі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы). У 2009 г. працуюць фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, філіял ААТ «Беларусбанк», ферма буйной рагатай жывёлы. У вёсцы — сядзіба Чарноцкіх (19 ст.).



*Сядзіба Чарноцкіх у в. Карацк.*

**КАРБОЎЦЫ** — вёска ў Сіняўскім с/с, за 25 км на на ПдУ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 165 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 13 жыхароў (2009).

У 1858 г. Карбоўцы — вёска (4 душы мужчынскага полу) і фальварак, уладанне Г.Грыгаровіча, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 8 двароў, 63 жыхары, і аднайменны фальварак, 16 жыхароў, уваходзілі ў склад Сіняўскай вол. У 1908 г. ў вёсцы было 9 двароў, 78 жыхароў, у фальварку — 4 жыхары. Побач знаходзіўся хутар Карбоўцы-Пясочная, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР.

У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 13 двароў, 78 жыхароў, і фальварак, 9 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Сіняўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 16 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 4 вяскоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які абслугоўваўся Клецкай МТС і ў 1959 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. вёска налічвала 121 жыхара, у 1970 г. — 87. У 1988 г. 30 гаспадарак, 51 жыхар, у 1998 г. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытв-сці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк).

**КОЛКІ** — вёска ў Морацкім с/с, за 53 км на ПдУ ад Клецка, 55 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 193 км ад Мінска. На У ад вёскі цячэ р. Морач (прыток р. Случ). 126 гаспадарак, 211 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з канца 15 ст. У 1499 г. двор Колак у Навагрудскім павеце. У 1598 г. сяло, 12 валок зямлі, шляхецкае ўладанне, у Макранскай вол. У 1605 г. сяло маёнтка Морач, якое С.М.Дабжылеўскі разам з маёнткам прадаў Філону Зубку. З 1630-х г. вёска, уладанне Радзівілаў. У 1665 г. — 8, у 1775 г. — 13 гаспадарак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 18 двароў, 140 жыхароў, уладанне І.Радзівіла ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска ў складзе фальварка Астроўчыцы Вялікія Клецкай ардынацыі Радзівілаў, 23 дымы. У 1812 г. 10 гаспадарак, 124 жыхары. У 1897 г. вёска ў Заастравецкай вол., 68 двароў, 406 жыхароў. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма, царква Успенская св. Ганны на могілках. У 1908 г. 465 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы, вёска, 90 двароў, 481 жыхар (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Морацкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 130 двароў, 599 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, утвораны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 11.9. 1942 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску разам з 32 вяскоўцамі. У крас. 1944 г. жыхары вёскі, што ўцалелі ў час карнай акцыі гітлераўцаў, арганізавалі партызанскі атрад, які дзейнічаў у складзе 18-й брыгады імя Фрунзе. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 27 вяскоўцаў. У 1966 г. каля скрыжавання вуліц Садовай і Перамогі, на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых. Пасля вайны вёска і калгас адноўлены. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 548, у 1970 г. — 588 жыхароў. У 1988 г. вёска, 206 двароў, 549 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Морач), працавалі Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, іншыя ўстановы. У 1998 г. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў. Працавалі Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Морач» (цэнтр — в. Морач). У 2009 г. працуюць Дом фальклору, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплекс па

адкорме буйной рагатай жывёлы, лясніцтва.

**КОМЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Морацкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Клецка, 37 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 175 км ад Мінска. 58 гаспадарак, 72 жыхары (2009).

У 1775 г. Комлеўшчызна, 2 гаспадаркі, уладанне Чыжоў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. ўладанне І.Корсака і І.Радзівіла ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 109 жыхароў. У 1852 г. працавала вінакурня. У 1886 г. сяло Комлеўшчызна Заастравецкай вол., 17 двароў, 154 жыхары. Дзейнічала Міхайлаўская царква. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: с. Старая Комлеўшчына (36 двароў, 258 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін), в. Новая Комлеўшчына (4 двары, 33 жыхар) і фальварак Новая Комлеўшчына (8 жыхароў). У 1908 г. сяло налічвала 43 двары, 331 жыхара, вёска — 2 двары, 11 жыхароў, фальварак — 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы; в. Комлеўшчына, 47 двароў, 285 жыхароў, і фальварак Комлеўшчызна Новая, 5 двароў, 34 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заастравецкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Морацкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 60 двароў, 301 жыхар, у б. фальварку — 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 10 вяскоўцаў. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Малянкова. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 350, у 1970 г. — 341 жыхар. У 1988 г. вёска, 97 двароў, 215 жыхароў. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Морач). Працавалі Дом культуры, б-ка, 8-гадовая школа, магазін, іншыя ўстановы. У 1998 г. 84 гаспадаркі, 152 жыхары. Сучасная вёска з 2003 г. ўваходзіць у склад СВК «Морач» (цэнтр — в. Морач). У 2009 г. працуюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.



*Царква ў в. Комлеўшчына.*

**КРАСНАЯ ЗВЯЗДА** (іншая назва Ч ы р в о н а я З о р к а, да 1969 г. Радзівілімонты, Радзімонты) — вёска ў Красназвёздаўскім с/с, за 8 км ПдУ ад Клецка, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. Праз вёску цячэ р. Цапра (прыток р. Лань). 237 гаспадарак, 460 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ як Радзівілімонты пасля будаўніцтва на берагах р. Цапра ў 2-й пал. 18 ст. палацава-паркавага ансамбля — летняй рэзідэнцыі мінскага ваяводы кн. Ю.Радзівіла. Першы палацава-паркавы ансамбль на гэтых землях па пісьмовых крыніцах вядомы ў канцы 16 — пач. 17 ст. (на тэр. фальварка Клецкага замка, які да 18 ст. называлі Сапатвіны). Драўляны палац на падмурку са скляпамі размяшчаўся на высокім узгорку. Каля яго быў разбіты рэгулярны

парк («італьянскі сад») са шпалерамі, 4 каналамі, 2 мураванымі альтанкамі і гротам. Другі палацава-паркавы ансамбль, які таксама не захаваўся і вядомы па інвентарах 1760—70-х гг., пабудавалі ў 1-й пал. 18 ст. Ён уключаў драўляны аднапавярховы с мезанінам барочны палац, дом адміністратара і шматлікія гасп. пабудовы (свіран, хлявы, бровар, сырніцу і г.д.). Палацава-паркавы ансамбль 2-й пал. 18 ст. ўключаў палац, драўляныя флігелі, будынак канцылярыі (1809), свіран, гасп. пабудовы (стайню, вяндлярню, хату для парабкаў, валовы млын, вадакачку і інш.), каталіцкую капліцу, парк. У гасп. частцы размяшчаліся дамы аканома і парабкаў, бровар, варыўня, свірны, стайня, адрына, абора, гумны. Побач з сядзібай знаходзіліся вадзяны і ветраны млыны, сушня. Аднапавярховы выцягнуты па папярочнай восі прамавугольны ў плане будынак палаца быў пабудаваны ў 1780—83 гг. у стылі класіцызму паводле праекта прыдворнага архітэктара Радзівілаў К.Спампані пры ўдзеле архітэктара Я.Бэнса. Будынак палаца злучыў традыцыі драўлянага дойлідства з мураваным. Вонкавыя сцены палаца былі зрублены з дубовых брусоў, унутраная падоўжаная сцяна — мураваная. З дрэва таксама былі выкананы пабеленыя элементы класічнага дэкору — трыгліфы, мадульёны, разеткі, дэнтыкулы. У аздабленні палаца ўдзельнічаў Ф.Смуглевіч, па малюнках якога былі зроблены каміны і печы. Пасля пажару 1909 г. палац адбудавалі і рэстаўрыравалі. Парк пейзажнага тыпу над р. Цапра (пл. каля 13 га) ахопліваў палац накшталт падковы. На рацэ існаваў каскад ставоў. Па іх запрудзе быў арганізаваны галоўны ўезд у сядзібу. Перад палацам — вял. партэр, абмежаваны па перыметры маляўнічымі групамі лісцевых дрэў і асобнымі салітэрнымі пасадкамі. Элементы рэгулярнасці ўносяць у яго планіроўку прамыя грабавыя, каштанавыя і ліпавыя алеі, пракладзеныя ў глыбіню парку і да гасп. зоны. У пачатку алеі ўздоўж паўдн.-ўсх. ускраіны парку ўстаноўлены памятны камень з надпісам, што алея высаджана ў 1875 г. княгіняй М.Радзівіл. З 1793 г. ў Рас. імперыі, з 1785 г. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1811 г. двор Радзівілімонты налічваў 145 душ сялян. У межы двара ўваходзіў шэраг вёсак, у т.л. Бабаевічы, Вялікі Карацк, Драбаўшчына, Капланавічы. У 1816 г. ў фальварку было 114, па вёсках — 251 дворны селянін. У 1909 г. маёнтак Радзівілімонты ў складзе Грыцэвіцкай воласці, меў 148 жыхароў (59 валок зямлі ў 1880-я г.). У 1915 г. мелася тэлеф. сувязь паміж Радзівілімонтамі і Нясвіжам. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лютага ў Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Грыцэвіцкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; фальварак, 22 двары, 260 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бабаевіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў



*Адна з пабудоў сядзібы «Радзівілімонты» ў в. Красная Звязда.*

Нясвіжскім р-не, з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім с/с, з 23.7. 1984 г. да крас. 2008 г. вёска — цэнтр Краснаэвёздаўскага с/с. У кастр. 1939 г. базе былога маёнтка быў створаны саўгас «Красная Звязда». У 1940 г. маёнтак налічваў 27 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 14 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. Пасля вызвалення ад гітлераўцаў была аднаўлена работа даваеннага саўгаса, які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. саўгас налічваў 567 жыхароў, а пасёлак конезавода «Красная Звязда» — 224 жыхары. 20.1.1969 г., згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, цэнтр сядзібы племзавода «Красная Звязда» быў рэарганізаваны ў в. Красная Звязда (у 1970 г. 1101 жыхароў). У 1976 г., калі да саўгаса «Красная Звязда» далучылі калгас «Памяць Леніна» (в. Янавічы), цэнтр саўгаса перанеслі ў в. Янавічы. У 1988 г. вёска, 289 двароў, 757 жыхароў, у складзе саўгаса «Красная Звязда» (цяпер РУСП «Племянны завод «Красная Звязда»; цэнтр — в. Янавічы); працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, амбулаторыя, гасцініца, дзіцячы сад, ветаптэка, магазіны, іншыя ўстановы і прадпрыемствы. У 1998 г. 274 двары, 629 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаюць школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазіны, ферма буйной рагатай жывёлы. Ад былога палацава-паркавага ансамбля 2-й пал. 18 ст. захаваліся фрагменты парку, некаторыя гасп. пабудовы, будынак былой сядзібы Радзівілаў у пач. 1990-х г. зноў гарэў.



*Царква Казанскага абраза Маці Божай у в. Кунцаўшчына.*

**КУНЦАЎШЧЫНА** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 166 км ад Мінска. 42 гаспадаркі, 47 жыхароў (2009).

У 1800 г. фальварак Кунцаўшчына ў Слуцкім павеце Мінскай губ. Рас. імперыі, 6 жыхароў, драўляны сядзібны дом, ветраны млын. З 1883 г. ў маёнтку працаваў вінакурны з-д, які лічыўся самым значным у губерні (уладанне Вайніловічаў). У 1897 г. Кунцаўшчына ў Кіевіцкай вол., 11 двароў, 145 жыхароў. Працаваў вінакурны з-д. У 1908 г. 44 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Цэцеравецкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нагорнаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. б. фальварак налічваў 23 двары, 134 жыхары. У гэтым жа годзе на базе маёнтка і вёсак Лазавічы і Макраны быў утвораны калгас «Чырвоны Сцяг». У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 2 вяскоўцы загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 217, у 1970 г. — 247 жыхароў. У 1988 г. вёска, 61 гаспадарка, 150 жыхароў, у складзе

калгаса «Чырвоны Сцяг» (цяпер СВК «Лазавічы», цэнтр — в. Лазавічы), працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка, сярэдняя школа, магазін. У 1998 г. 56 двароў, 114 жыхароў. У 2009 г. працуюць ферма буйной рагатай жывёлы, клуб-бібліятэка. У вёсцы знаходзіцца сядзіба Вайніловічаў (2-я пал. 19 — пач. 20 ст.), драўляная царква Казанскага абраза Маці Божай (19 ст.).

**КУХЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Кухчыцкага с/с, за 5 км на ПдЗ ад Клецка, 7 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 145 км ад Мінска. 395 гаспадарак, 924 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. Кушчыч — сяло Клецкага замка, 24 валокі 16 моргаў зямлі, 38 гаспадароў, уладанне вял. княгіні Боны Сфорца. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў. У 1575 г. — 33 гаспадары, 35 валок зямлі. У 1626 г. сяло Клецкай вол., 35 валок зямлі. У 1686 г. С.Радзівіл аддаў фальварак Кушчыцы ў трохгадовую заставу (заклад за пазыку) Войнам. Пазней, да 1730 г. фальварак аддаваўся Радзівіламі ў заставу розным іншым прадстаўнікам шляхты. У 1757 г. ў вёсцы налічвалася 27 дымоў, 35 валок зямлі, мелася новая драўляная карчма. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 20 дымоў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ., уладанне Радзівілаў. У 1800 г. 38 двароў, 231 жыхар. У 1809 г. вёска Кухчыцы Краснастаўскага фальварка, 20 дымоў (у 1811 г. 52 рэвізскія душы), аднайменныя фальварак і вёска, 25 дымоў. У 1819 г. фальварак і вёска Кухчыцы налічвалі 27 дымоў, 170 сялян. У 1849 г. маёнтак Кухчыцы належаў кн. Льву Радзівілу, у яго межы ўваходзілі 2 фальваркі — Кухчыцы і Краснастаў, 4 вёскі: Забалатнікі, Кухчыцы (41 двор, 329 жыхароў), Рудка, Панкратавічы (усяго ў вёсках пражывалі 663 селяніны). Праз тэр. маёнтка праходзіў паштовы тракт з Клецка на Сіняўку і далей, працякала р. Лань. Апроч шматлікіх жылых і гасп. памешчыцкіх пабудоў у маёнтку меліся 4 карчмы, у т.л. і Кухчыцкая (драўляная, крытая саломай). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 80 двароў, 504 жыхары, хлебазапасны магазін, і маёнтак, 38 жыхароў, у складзе Клецкай вол. У 1908 г. ў вёсцы 91 двор, 572 жыхары, у маёнтку — 72 жыхары. У 1911 г. адкрылася земская школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 51 жыхар, і вёска, 98 двароў, 535 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Ліскаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.7. 1980 г. вёска — цэнтр Кухчыцкага с/с. У 1940 г. вёска, 162 двары, 733 жыхары. Утвораны калгас «Савецкая Беларусь» (27 гаспадарак, 365 га сельгасугоддзяў). У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да 4.7.1944 г. 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях з гітлераўцамі, пахаваны ў

*Гаспадарчыя пабудовы ў былой сядзібе Вайніловічаў у в. Кунцаўшчына.*



цэнтры вёскі. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы з імёнамі 50 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—45 гг.

У 1948 г. аднавілася дзейнасць даваеннага калгаса. З 1952 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Савецкая Беларусь» (увайшлі калгасы вёсак Заляшаны, Ліскава, Салаўі, Русаўшчына і інш.). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 847, у 1970 г. — 897 жыхароў. У 1988 г. вёска, 402 гаспадаркі, 921 жыхар. Працавалі майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, б-ка, Дом быту, дзіцячы сад, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, іншыя ўстановы. У 1998 г. вёска, цэнтр сельсавета і калгаса «Савецкая Беларусь», 435 двароў, 1029 жыхароў. З 31.7.2003 г. цэнтр с.-г. вытв. кааператыва «Кухчыцы». У 2006 г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. дзейнічаюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, машынны двор, лазня.



*С.А.Лобка.*

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы С.А.Лобка (н. ў 1919).

**ЛАЗАВІЧЫ** (да 10.1.1961 г. вёскі Лазавічы і Асташына) — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Клецка, 34 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 172 км ад Мінска. 136 гаспадарак, 410 жыхароў (2009).

У 1897 г. Лазавічы — вёска (іншая назва Слабодка) у Кіевіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 19 двароў, 149 жыхароў. Працаваў хлебазапасны магазін. У 1908 г. 30 двароў, 203 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв., 36 двароў, 194 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Цецеравецкім с/с таго ж раёна і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7. 1954 г. ў Нагорнаўскім с/с, з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 48 двароў, 269 жыхароў. Утвораны калгас «Чырвоны Сцяг» (на базе маёнтка і вёсак Кунцаўшчына, Макраны, Лазавічы). У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі ў 1986 г. на ўшанаванне памяці 54 землякоў, якія аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—45 гг., пастаўлены помнік. Пасля вайны калгас адноўлены. З 1953 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Чырвоны Сцяг» (аб'ядналіся калгасы 5 вёсак). 10.1.1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкома (№ 17) Лазавічы былі аб'яднаны з суседняй в. Асташына. У 1908 г. 31 двор, 213 жыхароў. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 206 (у Асташыне — 190), у 1970 г. — 285 жыхароў. У 1988 г. вёска, 113 гаспадарак, 303 жыхары. Працавалі майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, іншыя ўстановы. У 1998 г. вёска, цэнтр калгаса «Чырвоны Сцяг», 129 двароў, 388 жыхароў. Працавалі школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. цэнтр СВК «Лазавічы», на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны.

**ЛЕЦЯШЫН** (да 10.1.1961 г. вёскі Лецяшын і Чарапы) — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Клецка, 14 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіпо-

вічы—Баранавічы, 152 км ад Мінска. Каля вёскі працякае р. Канік (прыток р. Цапра). 39 гаспадарак, 56 жыхароў (2009).

У 1800 г. Лецяшын — фальварак (драўляны сядзібны дом, карчма), у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. Да 1788 г. маёнтак належаў Несялоўскім, пазней Чарноцкім. Ксаверый Чарноцкі (1757—1840 гг.), ротмістр віцебскі, заснаваў у Лецяшыне новую сядзібу, якая ўключала сядзібны дом, афіцыну, 2 брамы, капліцу (1811), стайню і парк. Да нашага часу захаваліся толькі драўляны свіран (пач. 20 ст.) і фрагменты парку (2 дубовыя алеі). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. фальварак у складзе Польшчы ў Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 6 двароў, 124 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім, з 22.9.1980 г. ў Гурнаўшчынскім, з 8.12.1995 г. зноў у Зубкаўскім с/с. У 1940 г. ў былым фальварку налічвалася 32 двары, 83 жыхары. У гэтым жа годзе ўтвораны калгас «Вызваленне». У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Пасля вызвалення адноўлены даваенны калгас, які ў 1948 г. атрымаў назву імя Варашылава. Згодна з рашэннем Мінскага аблвыканкома ад 10.1.1961 г. (№ 17) Лецяшын аб'яднали з суседняй вёскай Чарапы (у 1908 г. 11 двароў, 111 жыхароў; у 1921 г. 23 двары, 139 жыхароў). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 124 (у Чарапах — 152), у 1970 г. — 220 жыхароў. У 1988 г. вёска, 59 гаспадарак, у складзе калгаса «Сцяг Саветаў» (цэнтр — в. Гурнаўшчына), працаваў магазін. У 1998 г. 53 двары, 94 жыхары. З 2008 г. вёска ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). Працуе магазін.

**ЛІПКА** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Клецка, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 11 жыхароў (2009).

Паводле перапісу 1897 г. Ліпка — вёска, 6 двароў, 35 жыхароў, і аколіца, 7 двароў, 42 жыхары (уладальнікі Згірскія і іншыя) у Ланскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1908 г. ў вёсцы 8 двароў, 52 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 6 жыхароў, і вёска, 9 двароў, 42 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Даматканавіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г.



*Сядзіба Чарноцкіх у в. Лецяшын.*

ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 23.4.1984 г. ў Шчэпіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 12 двароў, 90 жыхароў, і хутар, 1 двор, 5 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 3 вяскоўцы загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. У 1950 г. арганізаваны калгас «Усход»; з 1953 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік» (цяпер с.-г. вытворчы кааператыў «Шчэпічы»; цэнтр — в. Шчэпічы). Паводле перапісаў у 1959 г. ў вёсцы налічвалася 139, у 1970 г. — 94 жыхары. У 1988 г. 24 гаспадаркі, 53 жыхары, у 1998 г. 19 двароў, 29 жыхароў.

**ЛІСКАВА** — вёска ў Кухчыцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Клецка, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. 58 гаспадарак, 68 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Ліскава (Ліскавіч) Клецкага замка на востраве Барычоўскім, 11 валок, 26 моргаў зямлі, 12 гаспадароў, з якіх 6 татар. Уласнасць каралевы Боны Сфорца. З 1558 г. ўладанне Радзівілаў. У 1626 г. сяло Ліскава Клецкай вол., 15 валок зямлі, 24 гаспадары. У 17—18 ст. некалькі разоў Радзівілы аддавалі паселішча ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам (напрыклад, у 1646 г. Пашкевічам). У 1757 г. вёска, 15 валок зямлі, 22 дымы, невялікая карчма (хата, бровар, гумно, калодзеж). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. вёска фальварка Барычэва, 18 дымоў, карчма, бровар, калодзеж, стайня, валюшня і млын, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. знаходзілася ў заставе ў Я.К.Абуховіча. У 1809 г. вёска таго ж фальварка (уваходзілі вёскі Барычэва, Ліскава, Рудка ці Руда), 18 дымоў, у 1816 г. — 34 дымы, 207 жыхароў, 19 валок зямлі, у 1819 г. 26 дымоў, 140 жыхароў, карчма, бровар, валоўнік, гумно. Усяго фальварак Барычэва ў 1819 г. налічваў 47 дымоў, 228 жыхароў. У 1845 г. ў вёсцы 32 двары. У 1854 г. Ліскава — вёска маёнтка Барычэва, уладанне Радзівілаў, налічвала 29 двароў, 215 жыхароў. Меліся карчма, сельскі хлебазапасны магазін. У маёнтку (уваходзілі вёскі Ліскава, Маствілавічы і Рудка, разам 62 двары, 472 жыхары). Працавалі вінакурны завод, вадзяны млын, валюшня, меліся 3 карчмы. Паводле перапісу 1897 г. вёска Сіняўскай вол., 70 двароў, 459 жыхароў. У 1908 г. 52 двары, 566 жыхароў. У 1912 г. адчынілася школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у межах Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 115 двароў, 668 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Ліскаўскага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.7.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. вёска, 166 двароў, 752 жыхары, школа, і былы маёнтак Барычэва, 16 жыхароў (часова размяшчаўся Ліскаўскі сельскі Савет). З к. 1939 г. ў Ліскава існавала калектыўная гаспадарка. На тэр. Ліскаўскага с/с знаходзіліся 10 населеных пунктаў, 699 двароў (у тым ліку 673 хутары), пражывалі 3084 жыхары, меліся вінакурня, 3 школы, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 18 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны.

У 1949 г. арганізаваны калгас імя Кірава, які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы 947, у 1970 г. — 818 жыхароў. У 1988 г. вёска, 97 гаспадарак, 170 жыхароў, у складзе калгаса «Савец-

кая Беларусь», ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма, сярэдняя школа (у 1970 г. адчыніўся школьны гіст.-краязнаўчы музей), Дом культуры, аддзяленне сувязі, магазін. У 1998 г. — 81 двор, 125 жыхароў. З 31.7.2003 г. вёска ў складзе СВК «Кухчыцы» (цэнтр в. Кухчыцы). У 2009 г. працуюць магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма.

На вясковых могілках пахаваны нам. старшыні калгаса «Савецкая Беларусь» І.М.Касцюкевіч, які загінуў 6.10.1952 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**ЛОГНАВІЧЫ** (Логвінавічы; да 10.1. 1961 г. вёскі Логнавічы і Міцькавічы) — вёска ў Заастравецкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Клецка, 25 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 163 км ад Мінска. Каля вёскі працякае р. Лань (прыток р. Прыпяць). 116 двароў, 165 жыхароў (2009).

Паводле археал. даследаванняў тэр. вёскі была заселена яшчэ ў 11—13 ст. Аб гэтым сведчыць помнік археалогіі — Гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі, якое знаходзілася за 0,8 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Лань. Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Яе назва паходзіць ад імя баяр Логвінавічаў. У 1599 г., калі браты Пётр-Богуш, Войцах і Ян Крыштафавічы (дзеці Крыштафа Логвінавіча, які ў 1563 г. ў ліку радзівілаўскай шляхты ў Астроўчыцах выстаўляў вершнікаў ў войска ВКЛ) падзялілі бацькаву частку Астроўчыц паміж сабой, маёнтак пачаў звацца Логвінавічамі. Пазней маёнтак належаў Кмітам, Фурсам, Радзівілам, якія аддавалі яго ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам на пэўны час. У 1775 г. ў фальварку Логвінавічы (іншая назва Логвінавічы-Астроўчыцы) меўся шляхецкі дом і адна сялянская гаспадарка. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і вёска Логвінавічы, 10 двароў, 56 жыхароў, драўляны сядзібны дом, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. ў склад фальварка ўваходзілі вёскі Логвінавічы (8 дымоў), Навозы, Міні. У 1850 г. фальварак і вёска (89 жыхароў), уладанне Ю.Булгака. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі ў межах Заастравецкай вол. знаходзіліся 2 вёскі: Логвінавічы 1 (16 двароў, 114 жыхароў), Логвінавічы 2 (13 двароў, 89 жыхароў), маёнтак (13 жыхароў), фальварак (2 жыхары) і хутар (4 жыхары). У 1908 г. існавалі: вёска Логвінавічы, 42 двары, 239 жыхароў), маёнтак (2 жыхары) і хутар (9 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г. з жн. 1919 да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Заастравецкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв. Польшчы; вёска, 43 двары, 236 жыхароў, фальваркі: Логвінавічы 1, 15 жыхароў, Логвінавічы 2, 15 жыхароў, Логвінавічы 3, 4 жыхары (1921 г.). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заастравецкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 62 двары, 251 жыхар; фальварак, 9 жыхароў, і асада, 15 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 12 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Варашылава, які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. З 1954 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Варашылава (цэнтр — в. Заастравечча), з 1956 г. ў калгасе «Праўда» (цэнтр — в. Заастравечча). 10.1.1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкома (№ 17) Логнавічы былі аб'яднаны з суседняй вёскай Міцькавічы (у 1940 г. 67 двароў, 260 жыхароў). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 487

(у Міцькавічах 409), у 1970 г. — 949 жыхароў. У 1988 г. вёска, 173 гаспадаркі, 374 жыхары. Працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1998 г. 153 двары, 293 жыхары. Дзейнічалі б-ка, магазін. З 31.7.2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Заастравечча» (цэнтр — в. Заастравечча). У 2009 г. працуюць бібліятэка-клуб, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, птушкаферма.

**ЛУКАЎЦЫ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Клецка, 6 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 144 км ад Мінска. 80 гаспадарак, 136 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. с. Лукавец, шляхецкае ўладанне, у Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1575 г. ў Клецкай вол., 18 валок зямлі, 9 гаспадароў, уласнасць Радзівілаў. У 1626 г. — 17, у 1645 г. — 25, у 1665 г. — 9 гаспадароў. У 1726 г. вёска маёнтка Краснастаў, у 1742 г. — 11 дымоў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 14 двароў, 103 жыхары. Адна яе частка ў гэты час належала Радзівілам, другая — Клецкай каталіцкай плябаніі. У 1809 г. вёска Лукаўцы адносілася да фальварка Курлянд (Курляндыя), 9 дымоў. У 1811 г. вёска таго ж фальварка, 10 дымоў, 40 жыхароў. У 1865 г. дзейнічала карчма. Паводле перапісу 1897 г. Лукаўцы ў межах Клецкай вол., 45 двароў, 263 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У 1908 г. 41 двор, 322 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Клецкай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяводства Польшчы; вёска, 64 двары, 374 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 86 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 5 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Г.К.Жукава, які абслугоўваўся Клецкай МТС. З 1953 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік» (цяпер с.-г. вытворчы кааператыў «Шчэпічы»; цэнтр — в. Шчэпічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 459, у 1970 г. — 374 жыхары. У 1988 г. вёска, 93 гаспадаркі, 212 жыхароў, у 1998 г. — 92 двары, 189 жыхароў. У 2009 г. ў вёсцы працуе магазін.

**ЛУЧЫЦЫ** — вёска ў Сіняўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Клецка, 23 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 161 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 25 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1575 г. засценак Лучычаў, у Навагрудскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 74 жыхары, уладанне Нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага кляштара, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы, якая належала казне, 20 душ сялян мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сіняўскай вол., 13 двароў, 112 жыхароў. У 1908 г. 17 двароў, 118 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 26 двароў, 134 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Слабод-

каўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Сіняўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 40 двароў, 232 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1942 г. да пач. ліп. 1944 г. 10 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—45 гг. У 1949 г. ўтвораны калгас імя Я.Свярдлова, які абслугоўваўся Клецкай МТС. З 1959 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 184, у 1970 г. — 153 жыхары. У 1988 г. вёска, 38 гаспадарак, 78 жыхароў, магазін. У 1998 г. 27 двароў, 48 жыхароў. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытворчасці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк).

**МАКРАНЫ** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада, 29 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы,167 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 38 жыхароў (2009).

У 1870 г. ў складзе Кіевіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. існавалі 2 вёскі: Сярэднія Макраны і Новыя Макраны, 2 маёнткі Макраны (уладанні Вайніловіча і Сушчэвіча). Паводле перапісу насельніцтва 1897 г. ў Сярэдніх Макранах налічвалася 93 двары, 543 жыхары, у Новых Макранах — 39 двароў, 272 жыхары, царква св. Георгія, у маёнтку — 115 жыхароў. У 1908 г. ў Сярэдніх Макранах было ўжо 130 двароў, 627 жыхароў, у Новых Макранах — 48 двароў, 345 жыхароў, адчынілася народнае вучылішча; у маёнтку — 49 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. ў складзе Польшчы ў Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв., вёска Новыя Макраны, 62 двары, 312 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Цецеравецкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нагорнаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска Новыя Макраны, 71 двор, 359 жыхароў. У гэтым жа годзе на базе маёнтка Кунцаўшчына і вёсак Лазавічы і Макраны ўтвораны калгас «Чырвоны Сцяг». У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да 4.7.1944 г. 16 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічваўся 391, у 1970 г. — 286 жыхароў. У 1988 г. вёска, 65 гаспадарак, 135 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цяпер с.-г. вытворчы кааператыў «Лазавічы», цэнтр — в. Лазавічы), працаваў магазін. У 1998 г. 56 двароў, 102 жыхары, магазін.

**МАСЦІЛАВІЧЫ** (Мастvілавічы — вёска ў Тучанскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад горада, 17 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 155 км ад Мінска. 63 гаспадаркі, 80 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. Паміж 1440 і 1458 гг. вял. кн. літ. і кароль польскі Казімір IV падараваў шляхціцу Андрэю Маствілавічу сяло, што раней належала пану Менедыку. З гэтага часу сяло пачалі называць Маствілавічы, але да сярэдзіны 17 ст. часам таксама ўжывалася старая назва Менедыковічы. У 1552 г. сяло Менедыковічы, альбо Мастvілавічы, належала зямяніну Клецкага павета А.Я.Мастvілу. З 1586 г. маёнтак Менедыковічы належаў Віроўскім, якія ў 1646 г. прадалі большую яго частку М.К.Радзівілу. Новыя ўладальнікі разам з іншымі населенымі пунктамі Клетчыны неаднаразова аддавалі маёнтак разам з вёскамі ў заставу (заклад за пазыку) розным прадстаўнікам шляхты (у 17—18 ст.). У 1665 г. сяло Меншыя Мастvілавічы налічвала 5 гаспадарак, с.

Руткі-Маствілавічы — 10 гаспадарак. Пазней апошняе сталі называць Малымі Маствілавічамі альбо проста Рудкі. Асн. частка маёнтка атрымала назву Вялікія Маствілавічы, ці Маствілавічы. У 1791 г. ў фальварку Маствілавічы (уладанне Радзівілаў) сярод жылых і гасп. пабудоў меліся бровар, млыны конны і вадзяны на р. Нача (паміж Паначамі і Маствілавічамі), карчма з броварам на гасцінцы Клецкім. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У в. Вялікія Маствілавічы, якая ўваходзіла ў склад фальварка, было 30 дымоў, 25 валок зямлі. У 1800 г. ў вёсцы налічвалася 33 гаспадаркі, 161 жыхар, у 1809 г. — 37 дымоў. У 1819 г. фальварак (уваходзілі вёскі Ганявічы, Глыбоўчыцы, Забалатнікі, Маствілавічы, Нарэшавічы, Панача, мястэчка Сіняўка) налічваў 190 дымоў, звыш 750 сялян, вёска Маствілавічы — 30 дымоў, 168 сялян. У 1834 г. вёска ў складзе маёнтка Барычэва Клецкай ардынацыі Радзівілаў, 228 жыхароў, карчма. У 1854 г. вёска таго ж маёнтка, 26 дымоў, 198 жыхароў, карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 62 двары, 361 жыхар, і маёнтак, 3 двары, 25 жыхароў, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Частка вяскоўцаў займалася вырабам аўчыны, ганчарствам (у 1900 г. 27 чалавек). У 1908 г. ў вёсцы — 76 двароў, 432 жыхары, у маёнтку — 39 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы; вёска, 84 двары, 448 жыхароў, і фальварак, 57 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ліскаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1. 1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.2. 1966 г. ў Тучанскім с/с. У 1940 г. Масцілавічы — вёска (133 двары, 608 жыхароў), асада (8 двароў, 50 жыхароў), і былы фальварак (29 жыхароў). У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас «17 Верасня», які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 723, у 1970 г. — 525 жыхароў. У 1988 г. вёска, 128 гаспадарак, 262 жыхары, у складзе калгаса «Туча», ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, свінаферма, сельскі клуб, б-ка, магазін. У 1998 г. — 108 двароў, 182 жыхары. З 28.8.2004 г. вёска ў складзе СП Філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь» (цэнтр — в. Туча). У 2009 г. працуюць б-ка, магазін.

**МАТУШЫ** — вёска ў Зубкаўскім с/с, 13 км на ПдУ ад горада, 15 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 153 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 1800 г. вёска, 9 двароў, 49 жыхароў, шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Рас. імперыі. Паводле перапісу Рас. імперыі 1897 г. вёска, 19 двароў, 120 жыхароў, хлебазапасны магазін, у складзе Грыцэвіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1908 г. вёска, 159 жыхароў, і аднайменны фальварак, 6 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 25 двароў, 136 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж р-на і вобл.,

з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім, з 22.9.1980 г. ў Гурнаўшчынскім, з 8.12.1995 г. зноў у Зубкаўскім с/с. У 1940 г. 26 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 4 вяскоўцы загінулі на франтах вайны. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Леніна, які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 105, у 1970 г. — 73 жыхары. У 1988 г. вёска, 28 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг Саветаў» (цэнтр — в. Гурнаўшчына). У 1998 г. 18 двароў, 32 жыхары. З 2008 г. вёска знаходзіцца ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы).

**МАШУКІ** — вёска ў Галынкаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Клецка, 25 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 163 км ад Мінска. 85 гаспадарак, 129 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Машукі Сіняўскага двара, 16 гаспадароў, 15 валок 27 моргаў зямлі, уласнасць вял. княгіні Боны Сфорца. З 1558 г. ўладанне Радзівілаў. У 1626 г. сяло Сіняўскай вол., 27 валок зямлі, 37 дымоў, у 1665 г. — 17 гаспадарак. У 1757 г. в. Машукі адносілася да двара Радзівілімонты, 15 валок зямлі, 31 дым, карчма (са стайняй, пякарняй, гумном, лазенкай). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 33 гаспадаркі, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1800 г. 30 двароў, 168 жыхароў, уніяцкая царква св. Мікалая, уладанне Радзівілаў. У 1809 г. вёска фальварка Радзівілімонты, 36 дымоў (у 1811 г. 127 рэвізскіх душ сялян). У 1819 г. Машукі адносіліся ўжо да фальварка Слабодка, налічвалі 26 дымоў, 153 жыхары. У 1886 г. сяло, у Сіняўскай вол., 41 двор, 328 жыхароў, царква св. Георгія. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 78 двароў, 587 жыхароў, меліся царква св. Георгія, хлебазапасны магазін, піцейны дом. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, 15 жыхароў. У 1908 г. Машукі — вёска (98 двароў, 631 жыхар) і маёнтак (9 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., калонія, 70 двароў, 424 жыхары, і асада, 11 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галынкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 181 двор, 1028 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У гады вайны загінулі 17 машукоўцаў. На вясковых могілках пахаваны 6 партызан брыгады 18-й імя М.В.Фрунзе, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1943 г., у 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1949 г. ў вёсцы ўтвораны калгас імя Н.К.Крупскай (увайшлі 39 гаспадарак), які абслугоўваўся Заастравецкай МТС і ў 1950-я г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Галынка). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 942, у 1970 г. — 792 жыхары. У 1988 г. — 116 двароў, 257 жыхароў, працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, Дом культуры, магазін. У 1998 г. вёска калгаса «Камунар», 105 двароў, 227 жыхароў, магазін. З 1.2.2004 г. вёска знаходзіцца ў складзе Замежнага вытворчага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Налібокі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы, Тучанскі с/с). Працуюць магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**МЕЖНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Тучанскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Клецка, 20 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 158 км ад Мінска. 93 гаспадаркі, 152 жыхары (2009).

Засн. Радзівіламі ў ВКЛ у пачатку 17 ст. ў Карацкай пушчы. У 1626 г. наз. Воля, альбо Новы Карацк, налічвала 31 гаспадара, 34 валокі зямлі. Сярод жыхароў новаўтворанага паселішча былі сяляне, пераселеныя з вёсак Ліскава, Тучы, Машукі, Кушчыцы (Кухчыцы), Іванава, Забалатнікі, Сакалятычы, Паначы. Яны расчышчалі пушчу пад пашу і на пэўны перыяд былі вольныя ад павіннасцей. У 1645 г. сяло называлі Красная Воля (46 гаспадароў), у 1665 г. — Слабада (6 гаспадарак), у 1775 г. — Слабодка (10 гаспадарак). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1809 г. фальварак і вёска Слабодка, 19 дымоў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ., у Клецкай ардынацыі Радзівілаў. У 1819 г. ў фальварак уваходзілі вёскі Слабодка (20 дымоў, 117 жыхароў), Карацк, Машукі; усяго 64 дымы, 385 сялян. Паводле перапісу 1897 г. вёска Слабада Межная, 59 двароў, 360 жыхароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін, існаваў аднайменны фальварак, 6 жыхароў. У к. 19 — пач. 20 ст. на вясковых могілках пабудавана драўляная царква Іаана Прадцечы і званіца (захаваліся да нашага часу, помнік народнага драўлянага дойлідства к. 19 — пач. 20 ст.). У 1908 г. ў вёсцы 69 двароў, 417 жыхароў, у фальварку — 6 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР.



Царква Іаана Прадцечы ў в. Межная Слабада.

У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 45 жыхароў, і вёска, 86 двароў, 459 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Межнаслабодскага с/с (26.2.1966 г. перайменаваны ў Тучанскі) таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 124 двары, 828 жыхароў, школа, і былы фальварак, 5 жыхароў. У склад Межнаслабодскага с/с у 1940 г. ўваходзілі 10 населеных пунктаў (2795 жыхароў), 488 двароў, у тым ліку 395 хутароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г., у гады вайны загінулі 8 вяскоўцаў. На вясковых могілках пахаваны 3 жыхары вёскі, закатаваныя гітлераўскімі карнікамі 4.8.1941 г., у 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1949 г. ў вёсцы ўтвораны калгас «30 год БССР», які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 567, у 1970 г. — 494 жыхары. У 1988 г. вёска, у складзе калгаса «Чырвоны Партызан» (цэнтр — в. Бабічы), 148 двароў, 302 жыхары, працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа, б-ка, клуб, магазін. У 1998 г. 118 двароў, 227 жыхароў, б-ка, магазін. З 1.2.2004 г. вёска знаходзіцца ў складзе Замежнага вытворчага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Налібокі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы). У 2009 г.

працуюць б-ка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

Вёска — радзіма вядомага медыка, акадэміка НАН Беларусі Я.Ф.Канаплі (н. 1.3.1939 г.).

**МЕРВІНЫ** (да 10.1.1960 г. вёскі Вялікія Мервіны і Малыя Мервіны) — вёска ў Грыцэвіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Клецка, 21 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы. 169 гаспадарак, 228 жыхароў (2009).

У 1622 г. Мервіны — сяло і фальварак, у Навагрудскім павеце ВКЛ; уладанне Фурсаў (у гэтым годзе яны далі ў арэнду Печынскай падданых у Мервінах і іншых сёлах). У 17—18 ст. сярод уладальнікаў фальварка былі Карыбскія, Логвіны, Натукі, Сангайлы, Бурнацкія, Даражынскія і іншыя. У 1775 г. ў Мервінах 7 двароў шляхецкіх і 16 сял. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. фальварак Мервіны і вёскі Вял. Мервіны і Малыя Мервіны, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1850 г. фальварак знаходзіўся ў арэндным трыманні памешчыка Варатынца. У 1879 г. ў фальварку Мервіны Клецкай ардынацыі Радзівілаў месціліся аднапавярховы драўляны сядзібны дом, пякарня, свіран, пуня, іншыя гасп. пабудовы, фруктовы сад, агарод. Усяго маёнтак налічваў 38 дзесяцін 1272 сажні зямлі, у яго межы ўваходзілі вёскі Мервіны і Варонін. У 1882 г. Э.А. Міхневіч на таргах Мінскай аб'яднанай палаты Крымінальнага і Грамадзянскага суда атрымаў маёнтак на 12 гадоў (да 1894 г.) у арэнду на ўплату даўгоў князёў Іосіфа і Людвіга Радзівілаў. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі ў складзе Грыцэвіцкай вол. існавалі 2 вёскі: Вял. Мервіны (58 двароў, 346 жыхароў, хлебазапасны магазін) і Малыя Мервіны (30 двароў, 191 жыхар, хлебазапасны магазін), фальварак Мервіны (7 жыхароў). У 1908 г. ў вёсках адпаведна налічвалася — 61 двор, 372 жыхары і 30 двароў, 194 жыхары, у фальварку — 5 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёскі — Вялікія Мервіны, 36 двароў, 226 жыхароў і Малыя Мервіны, 73 двары, 394 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Грыцэвіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёскі Вялікія Мервіны (96 двароў, 435 жыхароў) і Малыя Мервіны (56 двароў, 271 жыхар), асада Мервіны, 7 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны загінулі 14 вяскоўцаў. У 1950 г. ў Вялікіх Мервінах арганізаваны калгас імя Сталіна, у Малых Мервінах — імя Я.Коласа. У 1952 г. калгасы ўвайшлі у склад узбуйненага калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Грыцэвічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў Вялікіх Мервінах налічвалася 488 жыхароў, у Малых Мервінах — 473; у 1970 г. — 817 (в. Мервіны). У 1988 г. вёска, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Грыцэвічы), 239 двароў, 515 жыхароў, працавалі клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазіны. У 1998 г. — 214 двароў, 391 жыхар. З 31.7.2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе с.-г. СВК «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы). У 2009 працуюць клуб, б-ка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**МОРАЧ** — вёска, цэнтр Морацкага с/с, 32 км на ПдУ ад горада, 21 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Бара-

навічы, 172 км ад Мінска. 562 двары, 1191 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. Паміж 1440 і 1447 гг. вял. кн. літ. і кароль польскі Казімір IV даў Івашку Вяжэвічу ў Клецкай вол. на р. Морач звярыныя ловішчы і 10 чалавек. У 1537 г. Морач — маёнтак, які Войцах Мікалаевіч Няміра Шчыт прадаў разам з астравамі Чудзін і Любашаў з Гарадзішчам за 500 коп грошаў Каспру Сакалавічу Кунцу. Пазней маёнтак належаў Крозам, Салагубам, Дабжылеўскім, Зубкам і іншым. У 1632—39 гг. Лавінія Радзівілава купіла Морач па частках у розных уладальнікаў. У 1665 г. Морач — баярскае сяло, 43 гаспадаркі, уласнасць Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1794 г. Ю.Радзівіл выдаў фундуш на царкву ў Морачы. У 1800 г. сяло, 53 двары, 298 жыхароў, драўляная Вазнясенская уніяцкая царква, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Астроўчыцы Вялікія, 65 дымоў. У 1840 г. на сродкі Радзівілаў пабудавана новая Вазнясенская царква (у 1863 г. перабудавана, не захавалася). У 1886 г. Морач — сяло Заастравецкай вол., 48 двароў, 592 жыхары, царква, школа граматы (з 1884 г.). Паводле перапісу 1897 г. ў Морачы налічвалася 139 двароў, 929 жыхароў. Дзейнічалі Вазнясенская царква, хлебазапасны магазін, карчма. У пач. 20 ст. працавала нар. вучылішча. У 1908 г. 146 двароў, 965 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; вёска, 211 двароў, 1114 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Морацкага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Морацкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы было 250 двароў, 1308 жыхароў. Працавалі няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, сельскі савет (у памяшканнях былой польскай казармы). На тэр. Морацкага с/с у 1940 г. знаходзіліся 18 населеных пунктаў (2570 жыхароў), 511 двароў, у тым ліку 131 хутар; 3 школы, аддзяленне сувязі, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У гады вайны 61 вясковец аддаў жыццё за Радзіму. У вёсцы каля могілак пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 146-га гвардзейскага стралковага палка і партызаны 18-й брыгады імя М.В.Фрунзе. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Молатава. З 1965 г. вёска — цэнтр калгаса «Прагрэс». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 1394, у 1970 г. — 1515 жыхароў. У 1988 г. вёска, цэнтр с/с і калгаса



*Вазнясенская царква ў в. Морач.*

«Прагрэс», 584 двары, 1544 жыхары, працавалі майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазіны, іншыя ўстановы. У 1998 г. 674 гаспадаркі, 1691 жыхар. З 1999 г. ў вёсцы дзейнічае Морацкі Дом рамёслаў, у якім займаюцца лозапляценнем, саломапляценнем, размалёўкай па дрэве, керамікай, вышыўкай, ткацтвам. У 2003 г. Цэнтр атрымаў асобны будынак, у якім адчыніліся майстэрні керамікі і бандарства. У 2006 г. вёска, цэнтр сельскагаспадарчага вытворчага кааператыву «Морач» (з 2003 г.), увайшла ў спіс аграгарадкоў Мінскай вобл. У 2009 г. працуюць СПК «Морач»; ферма буйной рагатай жывёлы, школа, дзіцячы сад, Дом культуры (пры СДК дзейнічаюць нар. хор, дзіцячы калектыў «Марачаначка»), б-ка, цэх лозапляцення, аддзяленне сувязі і АСБ «Беларусбанк», урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, пабудавана драўляная Вазнясенская царква.

**НАВАДВОРКІ** (да 10.1.1961 г. вёскі Навадворкі і Кісялі) — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад горада, 9 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 147 км ад Мінска. 67 гаспадарак, 109 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. як Новы Двор каля Клецка, які паміж 1432 і 1440 гг. вял. кн. літ. Жыгімонт Кейстутавіч даў князю Барысу Іванавічу Глінскаму. Пасля няўдалага мяцяжу Глінскіх 1508 г. маёнтак атрымаў князь Фёдар Іванавіч Яраславіч. У 1552 г. сяло і востраў Навадворка (3 валокі 8 моргаў зямлі) Клецкага павета належалі вял. княгіні Боне Сфорца. Падчас правядзення валочнай памеры ў Клецкім княстве навадворскія землі праз абмен адышлі да князя Ц.І.Пузыны і яго нашчадкаў. У 1641—43 гг. двор Навадворкі, уладанне князя Ю.Я.Пузыны, у Навагрудскім ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. маёнтак Навадворкі налічваў 39 жыхароў, уваходзіў у склад Клецкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1908 г. — 51 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы ў Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 66 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў былым маёнтку было 7 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 13 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагам на франтах ці прапалі без вестак у 1941—1945 гг. У 1947 г. ў вёсцы ўтвораны калгас імя Молатава, які абслугоўваўся Клецкай МТС. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. 10.1.1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкома (№ 17) да Навадворак была далучана суседняя вёска Кісялі (у 1908 г. 28 двароў, 203 жыхары, у 1940 г. 98 двароў, 277 жыхароў, у 1959 г. 298 жыхароў). У 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы было 367 жыхароў. У 1988 г. вёска, 38 гаспадарак, 251 жыхар, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цяпер СВК «Шчэпічы»; цэнтр — в. Шчэпічы). У 1998 г. 94 двары, 192 жыхары. У сучаснай вёсцы знаходзяцца магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**НАВІНКІ** — былая вёска ў Тучанскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клецка,

19 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 157 км ад Мінска.

У 1876 г. Навінкі — лясная дача, уласнасць А.Некрашэвіча (100 дзесяцін зямлі), у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Навінкі (яна ж Каменны Мост), 3 двары. У 1908 г. лясніцтва, 14 жыхароў, і ўрочышча, 5 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; леснічоўка, 4 двары, 29 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Межнаслабодскім с/с (26.2.1966 г. перайменаваны ў Тучанскі) таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. леснічоўка Навінкі, 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў час акупацыі вёска спалена ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. Навінкі — пасёлак, 18 жыхароў. У 1988 г. вёска, 2 гаспадаркі, у складзе калгаса «Туча» (з 2004 г. СП Філіял «Туча» РУП «Мінск «Крышталь», цэнтр — в. Туча). У 1998 г. 2 двары, 3 жыхары, лясніцтва, магазін. У 2007 г. вёска знята з уліку.



*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Нагорнае.*

**НАГОРНАЕ** (да 10.1.1961 г. вёскі Нагорнае і Пагіблаўка) — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада, 23 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. На З ад вёскі працякае р. Балванка (прыток р. Лань). 203 гаспадаркі, 410 жыхароў (2009).

У 1800 г. Нагорнае — вёска, 23 двары, 120 жыхароў, карчма, шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Грыцэвіцкай вол., 38 двароў, 259 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1908 г. — 10 двароў, 215 жыхароў. У 1912 г. адчынілася нар. вучылішча. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 55 двароў, 321 жыхар (1921 г.). У 1933—36 гг. на паўд. ускраіне вёскі, каля могілак пабудаваны з цэглы Крыжаўзвіжанскі касцёл. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 28.12.2007 г. вёска — цэнтр Нагорнаўскага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 94 двары, 409 жыхароў, хата-чытальня, няпоўная сярэдняя школа. У склад Нагорнаўскага с/с у гэты час уваходзілі 19 населеных пунктаў (3544 жыхары), 722 двары, у тым ліку 565 хутароў. На тэр. с/с працавалі 2 школы. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. У цэнтры вёскі пахаваны 22 вoi-

ны і партызаны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, яна таксама ўшаноўвае памяць 42 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў 1941—45 гг. У 1949 г. ўтвораны калгас імя Кагановіча, які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. вёска налічвала 388 жыхароў. 10.1.1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкома (№ 17) да Нагорнай былі далучаны суседнія вёскі Пагіблаўка (у 1908 г. аколіца і фальварак, разам 50 жыхароў; у 1959 г. вёска, 117 жыхароў) і Рагачоўка (у 1908 г. 29 двароў, 114 жыхароў; у 1959 г. 198 жыхароў). У 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы было 927 жыхароў. У 1988 г. вёска, 218 гаспадарак, 685 жыхароў, у складзе калгаса імя Ульянава (цэнтр — в. Загорнае), працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, Дом культуры, б-ка, фельч.-акуш. пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. 227 двароў, 739 жыхароў. З 2008 г. вёска ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць школа, дзіцячы сад, клуб-бібліятэка, фельч.-акуш. пункт, аддз. сувязі, магазін. У вёсцы дзейнічае Спаса-Праабражэнская царква (пабудова 19 ст.), захаваўся Крыжаўзвіжанскі касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі 20 ст. За 0,1 км на Пд ад вёскі, у полі знаходзіцца помнік археалогіі — курганны могільнік (3 насыпы, мясцовая назва Шведскія магілы).



*Крыжаўзвіжанскі касцёл у в. Нагорнае.*

**НАРЭШАВІЧЫ** (да 10.1.1961 г. вёскі Нарэшавічы і Слабада) — вёска ў Сіняўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Клецка, 20 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 158 км ад Мінска. 112 гаспадарак, 194 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Назва вёскі паходзіць ад прозвішча баяр Нарэйшаў. У 1552 г. путныя баяры Барцей, Вайцюк, Мікалай і Якуб Нарэйшы мелі надзелы на землях сяла Глубоча, якое знаходзілася ва ўладанні вял. княгіні Боны Сфорца. Да 1575 г. гэтыя землі былі выдзелены ў асобнае сяло, 18 валок зямлі, 16 гаспадароў, уласнасць Радзівілаў. У 1626 г. сяло ў Сіняўскай вол., 18 валок зямлі, 26 гаспадарак. У 1768 г. М.Ю.Радзівіл аддаў маёнтак Маствілавічы разам з вёскай Нарэшавічы і іншымі ў заставу (заклад за пазыку) Г.Яленскаму. У 1791 г. вёска, у складзе маёнтка Маствілавічы, 25 дымоў, 17 валок зямлі, шынок, уладанне Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 25 дымоў, 101 жыхар, карчма; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Маствілавічы, 26 дымоў, у 1819 г. 14 дымоў, 85 жыхароў, у 1865 г. дзейнічала драўляная карчма. Паводле перапісу 1897 г. — вёска, у Сіняўскай вол., 35 двароў, 223 жыхары. У 1908 г. 37 двароў, 253 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 42 двары, 243 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Ба-

ранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Слабодкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Сіняўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 57 двароў, 308 жыхароў. У цэнтры Слабодкаўскага с/с у вёсцы Слабада (іншая назва Казённая Слабодка), якая 10.1.1961 г. аб'ядналася з Нарэшавічамі, было 76 двароў, 412 жыхароў. Працавала няпоўная сярэдняя школа. У 1800 г. Слабада налічвала 13 двароў, 113 жыхароў і належала Нясвіжскаму кляштару бенедыкцінак. У 1897 г. ў вёсцы было 37 двароў, 246 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, 21 жыхар. У 1921 г. вёска Казённая Слабада, 59 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёскі Нарэшавічы і Слабада акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У 1943 г. каля вёскі гітлераўскія карнікі расстралялі 500 чалавек з сіняўскага гета. У 1995 г. на месцы расстрэлу пастаўлены помнік. На франтах вайны загінулі 4 жыхары в. Нарэшавічы і 9 чалавек з Слабады. У 1949 г. ў Нарэшавічах утвораны калгас імя Молатава. У 1959 г. ў Нарэшавічах 224, у Слабадзе — 470 жыхароў. У 1988 г. вёска, 172 гаспадаркі, 382 жыхары, у складзе калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка), ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка, магазін. У 1998 г. 147 двароў, 293 жыхары. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытв-сці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк). У 2009 г. працуюць ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка. У вёсцы знаходзіцца магіла ахвяр фашызму.

**ПАЛАЎКОВІЧЫ** (да 10.1.1961 г. вёскі Вялікія Палаўковічы і Малыя Палаўковічы) — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 8 км на ПнУ ад горада, 4 км ад чыг. ст. Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. 174 гаспадаркі, 347 жыхароў (2009).

У 1603 г. сяло Палаўкоўскае, уладанне Філона Зубка, у Навагрудскім павеце ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі, у 1858 г. вёска, уладанне Зубкоў і Кандратовічаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. існавалі вёскі Вял. і Малыя Палаўковічы, маёнтак Палаўковічы, уласнасць Кандратовічаў (100 дзесяцін зямлі ў 1876 г.). У 1884 г. ў вёсках адчыніліся школы граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў Вял. Палаўковічах было 47 двароў, 305 жыхароў. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, капліца, карчма; у Малых Палаўковічах — 31 двор, 170 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку — 29 жыхароў. У 1908 г. вёскі налічвалі адпаведна — 61 двор, 379 жыхароў, і 32 двары, 249 жыхароў, маёнтак — 10 жыхароў. З лют. да снеж 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёскі Вялікія Палаўковічы (76 двароў, 408 жыхароў) і Малыя Палаўковічы (46 двароў, 241 жыхар), фальварак, 11 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў в. Вялікія Палаўковічы было 119 двароў, 452 жыхары, у Малых Палаўковічах — 59 двароў, 292 жыхары, у былым маёнтку — 10 жыхароў. У 1940 г. ў Малых Палаўковічах утвораны калгас імя Калініна (увайшлі 17 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да 4.7.1944 г. 21 вясковец загінуў у змаганні за Радзіму ў 1941—45 гг.

Пасля вызвалення ў Малых Палаўковічах адноўлены даваенны калгас. У в. Вялікія Палаўковічы ў 1950 г. утвораны калгас «Сцяг Саветаў». Паводле перапісу 1959 г. ў Вял. Палаўковічах налічвалася 513, у Малых Палаўковічах — 339 жыхароў. У 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы было 865 жыхароў. У 1988 г. вёска ў складзе саўгаса «Зубкі» (з 2001 г. Мінскае абл. унітарнае плодагадавальнае прадпрыемства «Зубкі», цэнтр — в. Зубкі), 269 гаспадарак, 671 жыхар. Дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, сталярна-цяслярскія майстэрні, клуб, магазін. У 1998 г. 211 двароў, 414 жыхароў. У 2009 г. працуюць ферма буйной рагатай жывёлы, магазін.

**ПАНАЧА** (Панач) — вёска ў Сіняўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 156 км ад Мінска. 142 гаспадаркі, 285 жыхароў (2009).

Назва вёскі паходзіць ад р. Нача, якая працякае праз яе. Вядома ў ВКЛ з пач. 16 ст. як сяло, уладанне князя Ф.І. Яраславіча, у Навагрудскім павеце. У 1553 г. сяло Занача, уласнасць вял. княгіні Боны Сфорца, 18,5 валок зямлі, 29 гаспадароў. З 1558 г. уладанне Радзівілаў. У 1575 г. с. Панача, 30 валок зямлі, 28 гаспадароў. У 1626 г. сяло, у Сіняўскай вол., каля 40 гаспадароў. У 1665 г. 9 гаспадарак. У 1768 г. разам з іншымі вёскамі маёнтка Маствілавічы Панача знаходзілася ў закладзе ў Г.Яленскага. У 1791 г. вёска фальварка Маствілавічы, 29 дымоў, 30 валок зямлі, шынок, уласнасць Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 23 двары, 146 жыхароў, вадзяны млын; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Маствілавічы, 33 дымы (у 1811 г. 118 душ сялян), у 1819 г. 29 дымоў, 186 жыхароў, у 1865 г. дзейнічала драўляная карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска, у Сіняўскай вол., 81 двор, 528 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 83 двары, 542 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 116 двароў, 647 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Слабодкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Сіняўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 174 двары, 788 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны загінулі 24 вяскоўцы. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы 786, у 1970 г. — 612 жыхароў. У 1998 г. вёска, 203 двары, 410 жыхароў, у складзе калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка), клуб, б-ка, магазін. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытв-сці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк). У 2009 г. працуе магазін.

**ПАНАЧ-МУРАВАНКА** — былая вёска ў Тучанскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Клецка, 16 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы. У 2007 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

У 1885 г. урочышча Мураванка, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. карчма Цераспаль-Мураванка, 3 двары, 8 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 115 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета

Навагрудскага ваяв.; фальварак, 7 двароў, 101 жыхар (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Межнаслабодскім с/с (26.2.1966 г. перайменаваны ў Тучанскі) таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. асада Мураванка, 11 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 110, у 1970 г. — 49 жыхароў. У 1988 г. вёска, 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Туча» (з 1.2.2004 г. СП філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь», цэнтр — в. Туча). У 1998 г. 2 двары, 3 жыхары. У 2007 г. вёска знята з уліку. У вёсцы захаваўся будынак былой паштовай станцыі (пабудова сярэдзіны 19 ст.)

**ПАНКРАТАВІЧЫ** — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 1 км на У ад горада і чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 141 км ад Мінска. 144 гаспадаркі, 301 жыхар (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. як сяло Клецкага замка. У 1552 г. 7 валок зямлі, уласнасць каралевы Боны Сфорца. З 1558 г. уладанне Радзівілаў. У 1575 г. с. Панкратавічы, 12 гаспадароў, 14 валок зямлі. У 1626 г. сяло Клецкай вол., 27 гаспадарак, 14 валок зямлі. У 1665 г. 4 гаспадаркі. У 1775 г. вёска, 7 сял. гаспадарак, знаходзілася ў заставе (заклад за пазыку) у Жыровіцкага базыльянскага манастыра. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 48 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Сухлічы, 11 дымоў, у 1819 г. 10 дымоў, 56 жыхароў. У 1849 г. вёска маёнтка Кухчыцы, уласнасць князя Льва Радзівіла, 14 двароў, 103 жыхары. У 1865 г. мелася карчма (драўляная). Паводле перапісу 1897 г. вёска, у Клецкай вол., 22 двары, 174 жыхары. У 1908 г. 35 двароў, 204 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 36 двароў, 219 жыхароў (1921). З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 99 двароў, 302 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да 4.7.1944 г. 14 вяскоўцаў загінулі ў змаганні за Радзіму ў 1941—45 гг. У 1948 г. ўтвораны калгас «Шлях Ільіча», з 1952 г. вёска ўваходзіла ў склад узбуйненага калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Сякерычы), з 1970 г. ў саўгасе «Клецкі» (з 2001 г. СВК «Агракамбінат «Клецкі», цэнтр — в. Сякерычы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 419, у 1970 г. — 511 жыхароў. У 1988 г. вёска, 143 гаспадаркі, 449 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, пачатковая школа, магазін. У 1998 г. 150 двароў, 403 жыхары. У 2009 г. працуе магазін.

*Былая паштовая станцыя ў в. Панач-Мураванка.*



**РАССВЕТНАЯ** (да 30.7.1964 г. Цыцкавічы) — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 12 км на У ад горада, 3 км ад чыг. прыпынку Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 152 км ад Мінска. 89 гаспадарак, 124 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. як сяло Цыцкавічы Клецкага княства, якое вялікі князь і кароль польскі Казімір IV пажалаваў зямяніну Пятрышчу з братам. У 1552 г. сяло, 24 гаспадаркі, каля 12,5 валок зямлі, уладанне вял. княгіні Боны Сфорца. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў, у 1575 г. — 16 гаспадарак, 17 валок зямлі. У 1665 г. 11 гаспадарак. У 18 ст. сяло неаднаразова аддавалася ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам (у тым ліку Мірскім, Бжастоўскім, Цывінскім). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Цыцкавічы, 21 двор, 137 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска, 26 дымоў, адносілася да фальварка Радзівілімонты. У 1861 г. вёска маёнтка Цапэрка, 16 двароў, 66 душ сялян мужчынскага полу. Да 1861 г. ў карыстанні сялян было 240 дзесяцін зямлі.У 1865 г. ў вёсцы мелася невялікая карчма (драўляная, 1 пакой). Паводле перапісу 1897 г. Цыцкавічы — засценак, 6 двароў, 41 жыхар, і сяло, 37 двароў, 230 жыхароў. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, капліца, карчма (драўляны жылы дом з сенцамі, хлеў, агарод, агароджа); у Клецкай вол. Засценак здаваўся ў арэнду. У 1881 г. арандатарам з'яўляўся В.Мысліцкі. У 1908 г. вёска, 43 двары, 317 жыхароў, і засценак, 7 двароў, 47 жыхароў. У 1916 г. адчынілася нар. вучылішча. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 57 двароў, 316 жыхароў, і засценак, 9 двароў, 60 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Галавачоўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Гурнаўшчынскім, з 8.12.1995 г. ў Зубкаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 73 двары, 305 жыхароў, у засценку 13 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 14 вяскоўцаў загінулі ў змаганні з ворагам за Радзіму ў 1941—45 гг. Паводле перапісаў у 1959 г. ў вёсцы налічвалася 450, у 1970 г. — 464 жыхары. У 1988 г. вёска, 115 гаспадарак, 270 жыхароў, у 1998 г. — 104 двары, 198 жыхароў, магазін, у складзе калгаса «Сцяг Саветаў» (цэнтр — в. Гурнаўшчына). З 2008 г. вёска знаходзіцца ў складзе РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць бібліятэка-клуб, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма.

**РУБЕЖ** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, за 166 км ад Мінска. Побач з вёскай працякае р. Лань (прыток р. Прыпяць). 96 гаспадарак, 137 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1580 г. вёска маёнтка Астроўчыцы-Вайноскія, якую разам з іншымі вёскамі маёнтка ўладальнік Іван Войнa Сымановіч Астроўчыцкі прадаў М.К.Бурнаку. У 1622 г. ўласнасць Фурсаў, якія далі сваіх падданых у Рубяжы і іншых сёлах у арэнду Пячынскай. У 1652 г. вёска, 5 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1775 г. 10 сялянскіх гаспадарак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 84 жыхары, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Астроўчыцы Вялікія, 15 дымоў. Частка вёскі адносілася да фальварка

Горка. Паводле перапісу 1897 г. вёска Заастравецкай вол., 60 двароў, 347 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 57 двароў, 417 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; вёска, 85 двароў, 466 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Нагорнаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 107 двароў, 567 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 34 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1949 г. ўтвораны калгас «Кастрычнік». Паводле перапісаў у 1959 г. ў вёсцы налічваўся 651, у 1970 г. — 463 жыхары. У 1988 г. вёска, 167 гаспадарак, 380 жыхароў, у складзе калгаса імя Ульянава (цэнтр — в. Загорнае), працавалі свінаферма, клуб, б-ка, магазін. У 1998 г. 130 двароў, 265 жыхароў. У 2008 г. вёска ўвайшла ў склад РУСП «Племянны завод «Красная Звязда» (цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. працуюць клуб-б-ка, магазін, свінаферма.



*М.С.Рудко.*

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы М.С.Рудко (н. 10.1.1922).

**РУДА** — вёска ў Сіняўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Клецка, 23 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 161 км ад Мінска. Побач з вёскай працякае р. Нача (прыток р. Лань). 29 гаспадарак, 44 жыхары (2009).

У 1552 г. ў ВКЛ на месцы сучаснай вёскі знаходзілася сядзіба і кузня над ставам на р. Нача, дзе жыў руднік Мацей. За 11 моргаў зямлі, якія ён трымаў, руднік вырабляў жалеза з балотнай руды для клецкага двара вял. княгіні літ. Боны Сфорца. З 1558 г. землі належалі Радзівілам. Тут па-ранейшаму дзейнічаў руднік, меліся стаў, гаць, кузня, але зямля ў асноўным раздавалася пільнікам, якія нарыхтоўвалі дрэва. У 1626 г. Сяло на Рудзе, 10 гаспадароў, 6 валок зямлі. У 1665 г. сяло Руда, 7 гаспадарак. У 1757 г. ў сяле мелася рудня на р. Нача з трыма вадзянымі коламі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. вёска Руда, 29 сялянскіх душ мужчынскага полу, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы налічвалася 20 двароў, 162 жыхары, меўся млын. У 1908 г. 24 двары, 148 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 28 двароў, 183 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Слабодкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Сіняўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 45 двароў, 368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 6 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Матросава. Паводле перапісаў у 1959 г. ў вёсцы налічвалася 246, у 1970 г. — 217 жыхароў. У 1988 г. 47 гаспадарак, 132 жыхары, магазін. У 1998 г. вёска, 38 двароў, 86 жыхароў, у складзе калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Сіняўка). З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытворчасці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк). Працуе магазін.

**РУДКІ** – вёска ў Тучанскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Клецка, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 156 км ад Мінска. 44 гаспадаркі, 87 жыхар (2009).

У 1665 г. с. Руткі-Маствілавічы (раней паселішча таксама называлі Маствілавічы-Рудкі альбо Малыя Маствілавічы) у ВКЛ, у складзе маёнтка Маствілавічы, 10 гаспадарак, уласнасць Радзівілаў. У 18 ст. сяло разам з Маствілавічамі неаднаразова здавалася Радзівіламі ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам. У 1757 г. існавала яшчэ адна вёска Рудка, 7 дымоў, 6,5 валокі зямлі, карчма, млын. Адносілася да фальварка Барычэва. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. тут было 10 дымоў, пры карчме сярод іншых гаспадарчых пабудоў меліся стайня і бровар. У 1800 г. вёска знаходзілася ў заставе ў Я.К.Абуховіча (10 дымоў, 58 жыхароў, млын, карчма). У 1775 г. в. Малыя Маствілавічы, альбо Рудка, мела 21 гаспадарку. У 1795 г. яна ўваходзіла ў Краснастаўскую вол., налічвала 28 дымоў. У 1809 г. вёска адносілася да радзівілаўскага Краснастаўскага фальварка (пазней таксама называлася Рудка Краснастаўская) і налічвала 25 дымоў. У в. Рудка, якая ўваходзіла ў склад фальварка Барычэва, у 1819 г. было 11 дымоў (з іх 8 цяглых), 52 жыхары, млын і карчма. У 1854 г. вёска маёнтка Барычэва (уваходзілі вёскі Ліскава, Маствілавічы і Рудка), 7 двароў, 60 жыхароў, млын, карчма, хатка для пастухоў, уласнасць князя Льва Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. ў Сіняўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. знаходзілася в. Рудка Краснастаўская, 36 двароў, 304 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 352 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. – у Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска Рудкі, 61 двор, 330 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ліскаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.2.1966 г. ў Тучанскім с/с. У 1940 г. вёска, 82 двары, 368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 11 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1948 г. арганізавана сельгасарцель, у 1950 г. калгас імя Калініна. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы 321, у 1970 г. – 250 жыхароў. У 1988 г. – 69 гаспадарак, 163 жыхары, працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1998 г. вёска, 60 двароў, 132 жыхары, магазін, у складзе калгаса «Туча» (з 28.8.2004 г. СП філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь», цэнтр – в. Туча). У 2009 г. працуе магазін.

**РУСАЎШЧЫНА** (да 10.1.1961 г. вёскі Русаўшчына і Навасёлкі) – вёска ў Кухчыцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад горада, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 155 км ад Мінска. 49 гаспадарак, 65 жыхароў (2009).

У 1858 г. Русаўшчына – вёска, 37 сялянскіх душ мужчынскага полу, уладанне памешчыцы А.Фогт, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1866 г. тут адчынілася школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 9 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 21 двор, 144 жыхары, і аднайменны хутар, 6 жыхароў, ветраны млын; у Сіняўскай вол. У 1908 г. вёска, 33 двары, 191 жыхар, і фальварак, 4 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. – у Літ.-Бел. ССР. У крас.–чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі.

З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 42 двары, 21 жыхар (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заляшанскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. вёска, 57 двароў, 244 жыхары, ветраны млын; утвораны калгас «Запаветы Ільіча». У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 6 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 241 жыхар. 10.1.1961 г., згодна з рашэннем Мінскага аблвыканкома, да Русаўшчыны была далучана суседняя в. Навасёлкі, якая ў 1908 г. налічвала 17 двароў, 105 жыхароў, у 1940 г. — 29 двароў, 166 жыхароў, у 1959 г. 141 жыхар. У 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы пражывала 269 чалавек. У 1988 г. — 72 гаспадаркі, 149 жыхароў. Працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, свінаферма, клуб, б-ка, магазін. У 1998 г. вёска, 66 двароў, 123 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7.2007 г. СВК «Кухчыцы», цэнтр — в. Кухчыцы). У сучаснай вёсцы размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, магазін.

**САДОВАЯ** (да 30.7.1964 г. вёскі Блячына і Брыкаўшчына) — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Клецка і чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 147 км ад Мінска. 115 гаспадарак, 183 жыхары (2009).

Назва в. Брыкаўшчына, паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, паходзіць ад прозвішча зямяніна Брыка, які разам з братам паміж 1440 і 1447 гг. атрымаў ад вял. кн. Казіміра IV Ягелончыка пустую зямлю пад назвай Занішчова. Сярод уладальнікаў маёнтка Брыкаўшчызна ў 16 ст. былі Петрышчэвічы, Дубіцкія, А.М.Гаштольд (віленскі ваявода і канцлер ВКЛ), Я.Санеўскі і яго нашчадкі, А.Кавячынскі. Блячына ўзгадваецца ў пісьмовых крыніцах ВКЛ пад 1628 г. ў сувязі з будаўніцтвам тут драўлянай уніяцкай царквы Св. Іаана Прадцечы. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. с. Блячына Слуцкага павета Мінскай губ. налічвала 19 двароў, 122 жыхары. Акрамя царквы тут знаходзіліся карчма і драўляны сядзібны дом. У Брыкаўшчыне ў 1800 г. таксама меўся гасподскі драўляны дом (4 жыхары). У 1885 г. ў Блячыне адчынілася школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 2 хлопчыкі. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі ў складзе Ланскай вол. знаходзіліся: сяло (38 двароў, 190 жыхароў, царква Іаана Прадцечы), вёска (9 двароў, 57 жыхароў) і фальварак (11 жыхароў) Блячын, в. Брыкаўшчына (23 двары, 131 жыхар, хлебазапасны магазін). У 1908 г. існавалі: вёска (12 двароў, 76 жыхароў) і фальварак (12 жыхароў) Блячын, якія адносіліся да Клецкай вол., вёска (11 двароў, 87 жыхароў), сяло (37 двароў, 231 жыхар) і фальварак (11 жыхароў) Блячын Ланскай вол. У в. Брыкаўшчына ў 1908 г. было 30 двароў, 172 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. названыя населеныя пункты знаходзіліся ў складзе Польшчы, у Клецкай і Ланскай гмінах Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. фальварак і вёска Блячын Клецкай гміны налічвалі разам 12 двароў, 71 жыхара. На тэр. Ланскай гміны месціліся фальварак Блячын (4 жыхары), вёскі Блячын 1 і Блячын 2 (разам 53 двары, 295 жыхароў), в. Брыкаўшчына (27 двароў, 157 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіц-

кай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёскі: Блячын 1,2,3 (разам 123 двары, 469 жыхароў), Брыкаўшчына (54 двары, 198 жыхароў). У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 28 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1950 г. ў Брыкаўшчыне ўтвораны калгас «Радзіма», у Блячыне — «Запаветы Леніна». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. ў Блячыне 465 чалавек, у Брыкаўшчыне — 212. Згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 30.7.1964 г. вёскі былі аб'яднаны ў адну пад назвай Садовая. У 1970 г. тут 542 жыхары. У 1988 г. 154 гаспадаркі, 342 жыхары. Працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, б-ка, магазін. У 1998 г. вёска, 135 двароў, 259 жыхароў, у складзе саўгаса «Агракамбінат Клецкі» (з 21.5.2001 г. СВК «Агракамбінат Клецкі», цэнтр в. Сякерычы). У 2009 г. працуюць бібліятэка-клуб, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. Дзейнічае Садоўская праваслаўная царква.

**САЛАЎІ** — вёска ў Кухчыцкім сельсавеце, за 8 км на ПдЗ ад Клецка, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 148 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 42 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1578 г. с. Салаўі, альбо Новае Сяло, уладанне Гераніма Макавецкага, клецкага і нясвіжскага старасты Радзівілаў; у Навагрудскім ваяв. Пазней, на працягу 17—18 стст. сяло раздрабілася паміж шматлікімі ўладальнікамі-шляхціцамі. У 1775 г. сяло, 17 шляхецкіх і 6 сялянскіх гаспадарак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 45 двароў, 165 жыхароў, шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. Салаўі — сяло, 49 двароў, 290 жыхароў (дзейнічаў філіял Клецкага касцёла Св. Троіцы), і фальварак, 6 жыхароў, у Сіняўскай вол. У 1908 г. сяло і фальварак адпаведна налічвалі 313 і 20 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак,16 жыхароў, і засценак, 61 двор, 310 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заляшанскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. вёска, 81 двор, 420 жыхароў, і былы фальварак, 21 жыхар.

У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 4 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1950 г. ўтвораны калгас «Краіна Саветаў». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 339, у 1970 г. — 233 жыхары. У 1988 г. 66 гаспадарак, 133 жыхары. Працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін. У 1998 г. вёска, 45 двароў, 83 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7.2003 г. СВК, цэнтр — в. Кухчыцы). У сучаснай вёсцы знаходзіцца ферма буйной рагатай жывёлы.

За 0,2 км на ПдУ ад вясковых могілак знаходзіцца помнік археалогіі — курганны могільнік (24 насыпы).

**СВЕТЛАЯ** (да 30.7.1964 г. Сабачкі) — вёска ў Грыцэвіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Клецка, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 156 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 29 жыхароў (2009).

У 1775 г. вёска, 7 сял. гаспадарак, уладанне Жыжэмскага, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У

1800 г. вёска, 8 двароў, 52 жыхары, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, уладанне Рэйтанаў. Паводле перапісу 1897 г. Сабачкі — вёска (23 двары, 133 жыхары) і 3 фальваркі (5 двароў, 21 жыхар), у Грыцэвіцкай вол. У 1908 г. вёска, 19 двароў, 184 жыхары, і фальварак, 3 двары, 25 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.: фальварак, 9 жыхароў, і вёска, 29 двароў, 167 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Грыцэвіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. 45 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 4 вяскоўцы загінулі ў баях з гітлераўцамі на франтах вайны. У 1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». Паводле перапісаў у 1959 г. ў вёсцы налічвалася 290, у 1970 г. — 234 жыхары. У 1988 г. вёска, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Грыцэвічы), 58 двароў, 98 жыхароў, працаваў магазін. У 1998 г. 44 двары, 66 жыхароў, магазін. З 31.7. 2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе с.-г. вытворчага кааператыву «Грыцэвічы» (цэнтр — в. Грыцэвічы).

За 0,2 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Лань помнік археалогіі — курган.

*Былая паштовая станцыя ў в. Сіняўка.*



**СІНЯЎКА** — вёска, цэнтр Сіняўскага с/с, за 16 км на ПдЗ ад Клецка, 18 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 156 км ад Мінска. 673 гаспадаркі, 1404 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з пач. 16 ст. як маёнтак, у Навагрудскім павеце, уладанне князя Ф.Я.Яраславіча, якому вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт I Стары дазволіў праводзіць тут кірмаш і адчыніць корчмы. У 1524 г. ўладанне вял. княгіні Боны Сфорца, якая надала паселішчу правы мястэчка, якія былі зацверджаны ёю ў 1534 г. Згодна Слоўніку геаграфічнаму каралеўства польскага і іншых слав. краін (т.10, Варшава, 1889 г.) пэўны час у пачатку 16 ст. Сіняўка належала Глябовічам. У 1552 г. Сіняўка (Сенеўка) — мястэчка (цэнтр войтаўства Клецкага княства), уласнасць Боны Сфорца, 7 валок 10 моргаў зямлі, млын, Рынfestival плошча з 16 дамамі, 2 вуліцы, якія пераходзілі ў дарогі на Пінск і Мядзведзічы. Побач з мястэчкам месціўся Двор Сіняўскі Боны, які налічваў 9 валок зямлі пашні дворнай, 13 чалавек паднявольных. Развіццю мястэчка садзейнічала яго размяшчэнне на гасцінцы Клецк—Пінск. З 1558 г. разам з іншымі паселішчамі Клецкага княства мястэчка належала Радзівілам. У 1626 г. тут меліся Рыначная плошча і 3 вуліцы: Дворная, Цесная і Пінская (усяго 12 валок зямлі). На плошчы размяшчаліся 16 пляцаў, царква «руская» з домам пры ёй, карчма новая дворная. У 1645 г. ў мястэчку 46 гаспадароў, у 1652 г. — 20 валок зямлі. У 1791 г. Сіняўка, 29 дымоў, адносілася да радзівілаўскага

фальварка Маствілавічы. У мястэчку меліся Рыначная плошча, 3 вуліцы («да грэблі», Пінская і Царкоўная), драўляная ўніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, карчма (з броварам пры ёй), млын на ставе (пад мястэчкам). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. — 29 дымоў, 98 жыхароў, царква, вадзяны млын, карчма, паштовая станцыя на тракце з Мінска ў Пінск; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1819 г. мястэчка фальварка Маствілавічы, 23 дымы, 90 жыхароў. У 1865 г. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква, у 1869 г. адчынена народнае вучылішча, у якім у 1892 г. вучыліся 52 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. У 1886 г. мястэчка, цэнтр Сіняўскай вол. Слуцкага павета, 144 жыхары, вал. праўленне, 2 праваслаўныя царквы, сінагога, яўр. малітоўны дом, нар. вучылішча, карчма, паштовая станцыя, 7 лавак. Паводле перапісу 1897 г. ў Сіняўцы было 133 двары, 786 жыхароў, разам з іншымі ўстановамі дзейнічаў прыёмны пакой. У 1908 г. 169 двароў, 869 жыхароў. Акрамя сельскай гаспадаркі некаторыя местачкоўцы займаліся скуранай вытв-сцю і вырабам аўчыны, ганчарствам (у 1900 г. 45 чалавек). У 1912 г. ў мястэчку адчыніўся ўрачэбны ўчастак. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. мястэчка — цэнтр Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 91 двор, 514 жыхароў. Побач з мястэчкам знаходзілася аднайменная вёска, 70 двароў, 393 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. Сіняўка — цэнтр Сіняўскага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. на тэрыторыі с/с знаходзіліся 14 населеных пунктаў (3026 жыхароў), 560 двароў (у тым ліку 403 хутары), 3 прамысловыя прадпрыемствы, 3 школы, хата-чытальня. У мястэчку ў 1940 г. налічвалася 140 двароў, 874 жыхары, працавалі аддз. сувязі, лесапільнае прадпрыемства, паравы млын. Вёска Сіняўка ў 1940 г. налічвала 90 двароў, 554 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. ў 1941—45 гг. 18 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму. У цэнтры вёскі ў скверы пахаваны 10 воінаў 48-й стралк. дывізіі і 3 партызаны брыгады 18-й імя М.В.Фрунзе, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Пераможац». З 1959 г. вёска — цэнтр калгаса імя Чкалава. У 1970 г. ў вёсцы 1382 жыхары, у 1988 г. 552 гаспадаркі, 1385 жыхароў, у 1998 г. 708 двароў, 1756 жыхароў. З 2004 г. вёска ў складзе аддзела с.-г. вытворчасці ААТ «Райаграсервіс» (цэнтр — г. Клецк). У 2007—08 гг. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2009 г. працуюць мэблевая ф-ка (вырасла з невял. лесазавода, які пачаў працаваць у 1945 г.; цяпер ААТ «Сіняўская мэблевая фабрыка»), Замежнае прадпрыемства «Маурына» (распілоўка лесу), школа, участковая

*Мікалаеўская царква ў в. Сіняўка.*



бальніца, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», дарожна-будаўнічы ўчастак, аўтакаса, магазіны і іншыя ўстановы і арганізацыі.

У цэнтры вёскі, каля дарогі Слуцк—Брэст будынак былой паштовай станцыі (пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. з цэглы і дрэва) — помнік архітэктуры позняга класіцызму, а таксама магіла савецкіх воінаў і партызан.

**СМАЛІЧЫ** — вёска ў Морацкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 180 км ад Мінска. 48 гаспадарак, 68 жыхароў (2009).

Назва вёскі, паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, паходзіць ад прозвішча баяр Смолічаў. У 1575 г. тут мелі зямлю (заклад за пазыку) ад Зубка ляхавіцкія баяры Глеб, Міхайла, Грышка і Мішка Смалічы. У 1602 г. Смалічы — маёнтак, у Навагрудскім павеце ВКЛ. Яго ўладальніца К.Друцкая-Горская ў гэтым годзе запісала маёнтак свайму сыну С.Дабжылеўскаму. У 1641 г. баярскае сяло Смалічы належала Радзівілам. У 1800 г. вёскі: Вялікія Смалічы і Малыя Смалічы (разам 13 двароў, 40 жыхароў), уласнасць Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. 2 вёскі (адпаведна 7 і 11 дымоў) уваходзілі ў склад фальварка Астроўчыцы Вялікія. Паводле перапісу 1897 г. Смалічы — вёска, 35 двароў, 174 жыхары, у Заастравецкай вол. У 1908 г. засценак, 30 двароў, 153 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; засценак, 41 двор, 204 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заастравецкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Морацкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 57 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г.На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 2 вяскоўцы. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Васілеўскага. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 314, у 1970 г. — 271 жыхар. У 1988 г. вёска, 67 двароў, 138 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр в. Морач), працавалі Дом культуры, б-ка, фельч.-акуш. пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленне сувязі, магазін. У 1998 г. 61 гаспадарка, 105 жыхароў, магазін. Сучасная вёска з 2003 г. ўваходзіць у склад с.-г. вытворчага кааператыва «Морач» (цэнтр — в. Морач). У 2009 г. працуе аддзяленне сувязі, магазін.

**СТАРАСЕЛЛЕ** (да 10.1.1961 г. вёскі Стараселле, Галузы, Заполле) — вёска ў Заастравецкім с/с, 30 км на ПдУ ад Клецка, 32 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. Побач з вёскай працякае р. Лань (прыток р. Прыпяць). 86 гаспадарак, 119 жыхароў (2009).

У 1800 г. Стараселле — вёска, 18 двароў, 135 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска, 12 дымоў, у складзе радзівілаўскага фальварка Астроўчыцы Вялікія. У 1811 г. вёска фальварка Астроўчыцы Малыя (24 рэвізскія душы сялян). У 1876 г. вёска належала адстаўному палкоўніку Вільгельму Генрыцы (100 дзесяцін зямлі). Паводле перапісу 1897 г. вёска Стараселле знаходзілася ў межах Заастравецкай вол, налічвала 26 двароў, 160 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1908 г. вёска, 41 двор, 274 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр.

1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Застравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; вёска, 45 двароў, 250 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Старасельскага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Заастравецкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. на тэр. с/с знаходзіліся 14 населеных пунктаў (2449 жыхароў), 429 двароў, прамысловае прадпрыемства, 3 школы. У Стараселлі ў 1940 г. было 57 двароў, 295 жыхароў, пачатковая школа. Сельскі савет размяшчаўся ў прыватным доме. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 17 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. У 1950 г. ўтвораны калгас «Праўда», які абслугоўваўся Заастравецкай МТС. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. вёска налічвала 286 жыхароў. 10.1.1961 г., згодна з рашэннем Мінскага аблвыканкома, Стараселле і суседнія Галузы і Заполле былі аб'яднаны ў адну вёску з назвай Стараселле. У 1959 г. Галузы і Заполле налічвалі адпаведна 136 і 156 жыхароў. У 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы пражывала 550 чалавек. У 1988 г. 145 двароў, 345 жыхароў, у 1998 г. 141 гаспадарка, 272 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (з 31.7.2003 г. СВК «Заастравечча»; цэнтр — в. Заастравечча). У 2009 г. працуюць бібліятэка-клуб, фельч.-акуш. пункт, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы.

**СТРАЛКАВА** — былая вёска ў Красназёздаўскім с/с, за 7 км на Пд ад Клецка, 9 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 147 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2009).

У 1909 г. Стралкава — фальварак, уладанне памешчыка Стралко, у Грыцэвіцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У гэты час тут была пабудавана сядзіба (захавалася), ансамбль якой уключаў прамавугольны ў плане мураваны аднапавярховы на бутавым цокалі сядзібны дом, свіран, браму, пад'язную алею. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. фальварак знаходзіўся ў складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; 7 двароў, 44 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Грыцэвіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 28.2.1966 г. ў Тучанскім, з 2003 г. ў Красназёздаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 4 двары, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Паводле перапісаў у 1959 г. вёска налічвала 91, у 1970 г. — 58 жыхароў. У 1998 г. вёска, 5 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Туча» (цэнтр в. Туча). З 2003 г. ў РУСП «Племянны завод Красная Звязда» (цэнтр в. Янавічы). На паўночнай ускраіне вёскі знаходзіцца былая сядзіба памешчыка Страл-



*Сядзіба ў в. Стралкава.*

ко (пабудова пач. 20 ст.) — помнік архітэктуры неакласіцызму.

**СУХЛІЧЫ** — вёска ў Зубкаўскім с/с, за 3 км на У ад горада і чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 143 км ад Мінска. 80 гаспадарак, 142 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Сухлічы і Сухліцкі двор (маёнтак), уладанне зямяніна Дыбоўскага, у Клецкім княстве. З 1572 г. маёнтак належаў Білдоўскім, з 1588 г. — Радзівілам, якія ў 18 ст. неаднаразова здавалі Сухлічы ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 81 жыхар, драўляны сядзібны дом, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска, 20 дымоў і фальварак (уваходзілі вёскі Сухлічы, Панкратавічы, Сякерычы). У 1819 г. ў вёсцы 18 дымоў, 103 жыхары, фальварак з 3 вёскамі налічваў 59 дымоў, 319 жыхароў. У 1865 г. дзейнічала карчма (драўляная), у 1884 г. адчынілася школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. Сухлічы — вёска, 44 двары, 235 жыхароў, і маёнтак, 35 жыхароў, у Клецкай вол. У 1908 г. ў вёсцы 52 двары, 309 жыхароў, у маёнтку — 52 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 70 двароў, 360 жыхароў, і фальварак, 27 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 85 двароў, 425 жыхароў, і былы маёнтак, 5 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 17 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1950 г. ўтвораны калгас «Барэц». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 516; у 1970 г. — 450 жыхароў. У 1988 г. вёска, 128 гаспадарак, 332 жыхары. Працавалі клуб, магазін. У 1998 г. — 111 двароў, 227 жыхароў, у складзе саўгаса «Агракамбінат Клецкі» (з 21.5.2001 г. СВК «Агракамбінат Клецкі», цэнтр — в. Сякерычы). У сучаснай вёсцы працуе магазін.



*У.П.Мацейка.*

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы У.П.Мацейкі (1913—1975).

**СЦЯПУЖЫЧЫ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Клецка, 12 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 150 км ад Мінска. 63 гаспадаркі, 78 жыхароў (2009).

У 1749 г. Сцяпужыцы — вёска ў ВКЛ, уладанне Барзабагатых, у Навагрудскім ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Сцяпужычы з фальваркам Вял. Сцяпужычы налічвалі 11 двароў, 59 жыхароў. Меўся драўляны сядзібны дом; шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. З 1855 г. ў вёсцы працавала школа граматы (вучыліся 13 хлопчыкаў). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 35 двароў, 235 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Клецкай вол. У 1908 г. 39 двароў, 241 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 40 двароў, 239 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Даматканавіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў

Нясвіжскім р-не, з 25.4.2007 г. ў Шчэпіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 76 двароў, 304 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Чапаева. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 335, у 1970 г. — 302 жыхары. У 1988 г. 79 гаспадарак, 169 жыхароў. У 1998 г. 79 двароў, 138 жыхароў, магазін; у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр в. Даматканавічы). Сучасная вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Шчэпічы» (цэнтр — в. Шчэпічы). Працуе магазін.

**СЯКЕРЫЧЫ** – вёска ў Зубкаўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Клецка, 4 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 146 км ад Мінска. 225 гаспадарак, 573 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. сяло Клецкага замка, 20 валок, 16 моргаў зямлі, і засценак, дзе жылі панцырныя баяры (15 моргаў зямлі). Уладанне вял. княгіні Боны Сфорца. Сярод панцырных баяр згадваюцца Сякерычы (пад 1554 г. Гаўрыла Сякерыч і Харка Мішын, сын Сякеры). Ад іх прозвішча, верагодна, і паходзіць назва вёскі. З 1575 г. сяло, 28 гаспадароў, 30 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1626 г. ў Клецкай вол., 72 гаспадары, 30 валок зямлі, у 1665 г. 15 гаспадарак. У 18 ст. вёска неаднаразова аддавалася Радзівіламі ў заставу (заклад за пазыку) розным асобам. У 1765 г. 34 двары. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 41 двор, 167 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. вёска фальварка Сухлічы, 40 дымоў, у 1819 г. 25 дымоў, 160 душ сялян. У 1865 г. ў вёсцы мелася карчма (драўляная, на 2 пакоі). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 50 двароў, 308 жыхароў, хлебазапасны магазін, і аднайменны засценак, 8 двароў, 57 жыхароў; у Клецкай вол. У 1908 г. ў вёсцы 65 двароў, 443 жыхары, у засценку 11 двароў, 76 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 74 двары, 386 жыхароў, і засценак, 13 двароў, 77 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Зубкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 162 двары, 458 жыхароў, і засценак, 10 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 11 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У цэнтры вёскі каля канторы СВК «Агракамбінат «Клецкі» пахаваны 4 воіны 54-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў ліп. 1944 г. ў баях за вызваленне р-на ад гітлераўцаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. У 1949 г. ўтвораны калгас імя Суворава. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 707; у 1970 г. — 573 жыхары. З 1964 г. вёска — цэнтр саўгаса «Іскра», з 1970 г. — саўгаса «Клецкі» (пазней саўгас «Агракамбінат Клецкі»), з 21.5.2001 г. — СВК «Агракамбінат Клецкі». У 1988 г. вёска, 195 гаспадарак, 555 жыхароў, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, пачатковая школа, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акуш. пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. 233 двары, 631 жыхар. У 2009 г. працуюць фельч.-акуш. пункт, аддзяленне сувязі, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы, Клецкі вінзавод.

**ТРАЦЦЯКІ** — вёска ў Тучанскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Клецка, 23 км ад

чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 161 км ад Мінска. Праз вёску цячэ р. Тучанка (прыток р. Хача), на якой створана сажалка. 263 гаспадаркі, 25 жыхароў (2009).

У 1775 г. вёска Траццякі, 11 сялянскіх гаспадарак, уладанне В.Яленскага, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 51 жыхар, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 20 двароў, 163 жыхары, у Сіняўскай вол. Слуцкага павета. У 1908 г. 28 двароў, 105 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. вёска знаходзілася ў складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; 38 двароў, 21 жыхар (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Межнаслабадскім (26.2. 1966 г. перайменаваны ў Тучанскі) с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 46 двароў, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 14 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—45 гг. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. вёска налічвала 221, у 1970 г. — 185 жыхароў. У 1988 г. вёска, 50 гаспадарак, 97 жыхароў, у 1998 г. 34 двары, 64 жыхары, у складзе калгаса «Туча» (з 28.8.2004 г. СП філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь», цэнтр — в. Туча). У 2009 г. працуе магазін.

**ТУЧА** — вёска, цэнтр с/с, за 20 км на ПдЗ ад Клецка, 22 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 160 км ад Мінска. Праз вёску цячэ р. Тучанка (прыток р. Нача), на якой створана сажалка. 252 гаспадаркі, 555 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. Туча — сяло Сіняўскага двара Клецкага княства, уласнасць вял. княгіні Боны Сфорца, 26 гаспадарак, 31 валока 27 моргаў зямлі. З 1558 г. разам з іншымі паселішчамі княства землі сучаснай вёскі перайшлі ва ўладанне Радзівілаў. У 1577 г. існавалі 2 сяла: Вял. Туча (14 гаспадароў, 12 валок зямлі) і Малая Туча (10 гаспадароў на 10 валоках зямлі). Побач знаходзіўся радзівілаўскі маёнтак Туча. У 1626 г. сяло Туча, у Сіняўскай вол., 12 валок зямлі, 27 дымоў. У 1775 г. вёска, 20 гаспадарак, належала В.Яленскаму. У 1791 г. вёска Буча Бабічы, 13 валок зямлі, 24 гаспадаркі, уладанне Радзівілаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, якую наз. Бабічы Туча, знаходзілася ў Радзівілімонтаўскай вол., 26 гаспадарак. У 1800 г. сяло Туча, 18 двароў, 143 жыхары, гасподскі двор, млын, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1840 г. ў маёнтку заснаваны вінакурны з-д. У 1886 г. сяло, 21 двор, 160 жыхароў, уваходзіла ў склад Сіняўскай вол.; тут меліся царква Св. Іаана Прадцечы (не захавалася), капліца, вінакурны завод, вадзяны і конны млыны. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле налічвалася 52 двары, 333 жыхары, размяшчаліся царква, хлебазапасны магазін. У маёнтку Туча (уладанне Яленскіх) было 65 жыхароў, вінакурня (у 1900 г. 6 рабочых), вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 2-й пал. 19 ст. ў цэнтры паселішча на невысокім узгорку сфарміраваўся ансамбль сядзібы Яленскіх, які ўключаў мураваны прамавугольны ў плане сядзібны дом (рэстаўрыраваны ў 1970-я г., пэўны час выкарыстоўваўся як адм. будынак), мураваныя гаспадарчыя пабудовы і парк. Да нашага часу захаваліся сядзібны дом, некалькі гаспадарчых пабудоў, кузня, руіны вінакурнага завода, парк. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму. У 1908 г. ў вёсцы было 56 двароў, 325 жыхароў (у 1912 г. адчы-

нілася народнае вучылішча), у маёнтку 87 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 139 жыхароў, вёска, 74 двары, 435 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Межнаслабадскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 26.2.1966 г. вёска — цэнтр Тучанскага с/с. У 1940 г. вёска, 89 двароў, 490 жыхароў, і былы маёнтак, 47 двароў, 138 жыхароў. На базе маёнтка быў утвораны саўгас «Туча».

У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На паўд. ускраіне вёскі, каля аўтадарогі Брэст—Масква пахаваны 12 воінаў, што загінулі ў 1944 г. ў баях з гітлераўцамі, і 2 партызаны 18-й брыгады імя М.В.Фрунзе. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 37 воінаў, што загінулі ў баях з ворагам на тэр. Тучанскага с/с, і 78 жыхароў вёсак Дунайчыцы, Масцілавічы, Туча, Трацдзякі, якія аддалі жыццё за Радзіму на франтах вайны ў 1941—45 гг., у 1979 г. пастаўлены помнік. У цэнтры вёскі таксама пахаваны 13 воінаў, што памерлі ад ран у палявым шпіталі, які размяшчаўся ў вёсцы ў 1944 г. На брацкіх магілах у 1958 г. быў пастаўлены абеліск, а ў 1979 г. — скульптура воіна. На вясковых могілках пахаваны 3 вяскоўцы, якіх 11.8.1941 г. загубілі гітлераўцы (стэла на магіле ўстаноўлена ў 1972 г.). Пасля вайны вёска — цэнтр аднаўленага саўгаса (у пач. 1950-х г. уваходзілі населеныя пункты Туча, Дунайчыцы, Янавічы, Стралкава, Панач-Мураванка). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. вёска налічвала 441 жыхара, у пасёлках саўгаса «Туча» і спіртзавода «Туча» пражывала адпаведна 364 і 77 чалавек. У 1970 г. вёска, 1133 жыхары, цэнтр с/с і саўгаса «Туча» (з 28.8.2004 г. СП філіял «Туча» РУП «Мінск Крышталь»). У 1988 г. 357 гаспадарак, 885 жыхароў, у 1998 г. 340 двароў, 785 жыхароў. У 2009 г. працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, дзіцячы сад—сярэдняя школа (у 1984 г. пры школе створаны музей баявой славы), фельч.-акуш. пункт, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазіны. Акрамя будынкаў былой сядзібы Яленскіх і помнікаў гісторыі перыяду Вял. Айч. вайны ў вёсцы каля фельчарска-акушэрскага пункта ў 1966 г. пастаўлены абеліск на магіле рускага лётчыка А.Рамадана, які загінуў 18.6.1916 г.

**УЗНОГА** — вёска ў Морацкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Клецка, 32 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 77 гаспадарак, 126 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1598 г. сяло, 32 валокі зямлі, у Навагрудскім павеце, шляхецкае ўладанне. У 1665 г. баярская вёска, уласнасць Радзівілаў, 6 гаспадарак. У 1775 г. 18 гаспадарак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 127



*Сядзіба Яленскіх у в. Туча.*

жыхароў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1809 г. засценак Узнога, 29 дымоў, уваходзіў у склад радзівілаўскага фальварка Астроўчыцы Вял. У 1884 г. тут адчынілася школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 16 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. засценак знаходзіўся ў межах Заастравецкай вол., налічваў 59 двароў, 363 жыхары. У 1908 г. 39 двароў, 216 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—1939 гг. — у складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; засценак, 72 двары, 424 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Морацкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 87 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач.



*Ветраны млын у в. Урведзь.*

ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 2 вяскоўцы. У 1949 г. ўтвораны калгас імя Чапаева. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 389, у 1970 г. — 470 жыхароў. У 1988 г. вёска, 130 гаспадарак, 284 жыхары, у 1998 г. 107 двароў, 216 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (з 2003 г. с.-г. вытворчы кааператыў «Морач», цэнтр — аграгарадок Морач). У 2009 г. працуе бібліятэка-клуб, магазін.

**УРВЕДЗЬ** — вёска ў Морацкім с/с, за 37 км на ПдУ ад Клецка, 39 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 177 км ад Мінска. 60 гаспадарак, 82 жыхары (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1575 г. сяло, уладанне клецкага зямяніна Г.Гласкоўскага, у Навагрудскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 137 жыхароў, драўляны сядзібны дом, уніяцкая драўляная капліца Успення Багародзіцы, ветраны млын, шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Рас. імперыі. У 1876 г. вёска і маёнтак, якія належаў Іосіфу Вайніловічу (2244 дзесяціны зямлі). Паводле перапісу 1897 г. Урведзь — вёска, 52 двары, 308 жыхароў, і фальварак, 3 двары, 23 жыхары, у Кіевіцкай вол. Слуцкага павета. У 1908 г. ў вёсцы 61 двор, 386 жыхароў, у фальварку 10 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Заастравецкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв.; вёска, 70 двароў, 419 жыхароў, і фальварак, 23 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заастравецкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Морацкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім

віжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 101 двор, 543 жыхары, у былым фальварку — 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 5 вяскоўцаў. У 1949 г. ўтвораны калгас імя Кірава. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 509, у 1970 г. — 398 жыхароў. У 1988 г. вёска, 101 гаспадарка, 200 жыхароў, у 1998 г. 79 двароў, 144 жыхары, у складзе калгаса «Прагрэс» (з 2003 г. с.-г. вытворчы кааператыў «Морач», цэнтр в. Морач). Працуе магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У вёсцы захаваўся ветраны млын (драўляная пабудова, 1920 г.).

**ЦАПРА** — вёска ў Краснавёздаўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Клецка, 39 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы–Баранавічы, 151 км ад Мінска. На З ад вёскі працякае р. Цапра (прыток р. Лань). 114 гаспадарак, 178 жыхароў (2009).

У 15 – пач. 16 ст. ў ВКЛ, на р. Цапра існавалі некалькі шляхецкіх маёнткаў. У 1440-я гг. вял. кн. Казімір (з 1447 г. кароль польскі Казімір IV) аддаў свой двор Цупру ў Клецкай вол. Андрушку Маствілавічу, а Меншае сяло на р. Цапра — Ігнату Юражычу, за што апошні павінен быў служыць у войску. Двор Цапра, які належаў князю І.В. Яраславічу, быў перададзены яго уладальнікам разам «са слугамі і цяглымі людзьмі» баярыну Андрэю Мікуліну. У 1508 г. князь Ф.І.Яраславіч пацвердзіў наданне свайго бацькі сынам А.Мікуліна — Івану і Далмату. У 1523 г. клецкі баярын Далмат Андрэевіч атрымаў пацвярджальную грамату на двор Цапра таксама ад вял. князя літ., караля польскага Жыгімонта I Старога. У 1552– 55 гг. Цапра належала Андрэю Іванавічу і Багдану Мацвеевічу Далматам. Да 1577 г. цаперскія землі (146 валок зямлі) былі падзелены паміж іх нашчадкамі. Да сярэдзіны 17 ст. Далматы прадалі Радзівілам свае часткі Цапры. У 2-й пал. 17—18 ст. Радзівілы аддавалі маёнтак у заставу (заклад за пазыку) А.Чаркоўскаму, Б.Хлявінскаму, Я.Саковічу і іншым. У 1740 г. пабудавана драўляная Крыжаўзвіжанская царква. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. радзівілаўскія вёскі Цапра Вял. і Цапра Малая налічвалі разам 22 гаспадаркі; у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. Цапра Вял. — вёска, 29 двароў, 164 жыхары, драўляны гасподскі дом; Малая Цапра — сяло, 34 двары, 211 жыхароў, драўляны гасподскі дом, вадзяны млын, базыльянскі манастыр і пры ім драўляная царква Пятра і Паўла (зачынены ў 1828 г., згарэў у 1835 г.). У 1809 г. вёскі Цапра Вял. (11 дымоў) і Цапра Малая (20 дымоў) разам з вёскамі Цапра Бярозаўка (2 дымы), Балвань Малая, Касінты, Заполле ўваходзілі ў склад фальварка Цапра (належаў Радзівілам). У 1857 г. ў межах маёнтка Цапра Вялікая Клецкай ардынацыі Радзівілаў знаходзіўся аднайменны фальварак (41 сял. двор, 338 жыхароў) з сялом Цапра (110 жыхароў) і вёскамі Балвань Малая, Заполле. Жылыя і гасп. пабудовы фальварка былі драўлянымі, сад налічваў 78 дрэў (яблыні, грушы, вішні, слівы). У сяле Цапра, па дарозе на Цімкавічы размяшчалася драўляная карчма. У 1886 г. сяло, 41 двор, 290 жыхароў, Крыжаўзвіжанская царква, у Грыцэвіцкай вол. 14 вер. штогод тут адбываліся кірмашы.



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Цапра.*

У 1897 г. 71 двор, 408 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, капліца. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 108 двароў, 593 жыхары, і фальварак, 6 двароў, 144 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Грыцэвіцкім, з 24.8.1960 г. ў Бабаевіцкім, з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім, з 23.7. 1984 г. ў Красназвёздаўскім с/с, з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 159 двароў, 689 жыхароў, і былы маёнтак, 15 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г.На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 46 вяскоўцаў. На вясковых могілках пахаваны 3 лётчыкі 8-га скораснага авіяцыйнага палка, якія загінулі 25.6.1941 г., у 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1950 г. ўтвораны калгас «8 Сакавіка». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 708, у 1970 г. — 714 жыхароў. У 1988 г. вёска, 180 гаспадарак, 463 жыхары, у 1998 г. 148 двароў, 297 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвоная Зорка» (цяпер РУСП «Племянны завод «Красная Звязда»; цэнтр — в. Янавічы). У 2009 г. дзейнічаюць магазін, фельч.-акуш. пункт, ферма буйной рагатай жывёлы.



*Гаспадарчая пабудова сядзібы ў в. Цапра.*

**ЦАПЭРКА** — вёска ў Красназвёздаўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Клецка, 2 км ад чыг. прыпынку Зубкі на лініі Асіповічы—Баранавічы, 147 км ад Мінска. 34 гаспадаркі, 37 жыхароў (2009).

У 1809 г. Цапэрка Малая — фальварак Клецкай ардынацыі Радзівілаў з 2 падданымі дымамі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1819 г. фальварак Цапэрка, 9 душ сялян. У 1858 г. частка вёскі Цапэрка належала Радзівілам, другая — казне. У 1862 г. вёска маёнтка Цапра (уладанне Льва Радзівіла), 2 двары, 11 душ сялян мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска Цапэрка (13 двароў, 79 жыхароў), фальварак Старая Цапэрка (1 двор, 14 жыхароў) і фальварак Цапэрка Нагорная (2 двары) уваходзілі ў склад Грыцэвіцкай вол. У 1909 г. Цапэрка — вёска, 3 двары, 23 жыхары, і 2 фальваркі, 6 і 3 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7. 1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 17 двароў, 118 жыхароў, фальваркі: Цапэрка 1, 1 двор, 9 жыхароў, і Цапэрка 2, 4 двары, 83 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галавачоўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1. 1954 г. ў Мінскай вобл., з 24.8.1960 г. ў Зубкаўскім, з 11.5.1967 г. ў Бабаевіцкім, з 16.8.1973 г. ў Янавіцкім, з 23.7.1984 г. ў Красназвёздаўскім с/с, з 25.12.1962 г.

да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 23 двары, 133 жыхары, і былы фальварак, 15 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 7 вяскоўцаў. За 0,2 км на Пн ад вёскі пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях з наступаючымі гітлераўцамі ў 1941 г., у 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. Цапэрка — вёска, 119 жыхароў, і пасёлак, 179 жыхароў (24.8.1960 г. ўвайшоў у склад Бабаевіцкага с/с, які 16.8.1973 г. быў перайменаваны ў Янавіцкі). У 1970 г. ў вёсцы пражывалі 131, у пасёлку — 83 чалавекі. У 1988 г. вёска, 47 гаспадарак, 126 жыхароў, у 1998 г. — 39 двароў, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Чырвоная Зорка» (цяпер РУСП «Племянны завод «Красная Звязда»; цэнтр в. Янавічы). Працуе магазін.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы В.Л.Новіка (1909—14.03.1989).

**ЦЕЦЕРАВЕЦ** — вёска ў Нагорнаўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Клецка, 27 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 165 км ад Мінска. 82 гаспадаркі, 96 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. Цецеравец — двор (фальварак) Клецкага княства, уласнасць каралевы Боны Сфорца. Пры двары на 4 валоках зямлі жылі 14 чалавек паднявольных, мелася 8 валок зямлі гаспадарскай. Да Цецераўскага двара адносіліся сёлы Ёдчыцы, Цыцкавічы, Караневічы, Сакалятычы, востраў сяла Балванскага і востраў у Калодзежнікаў. У 1577 г. двор (12 валок зямлі) і сяло Цецеравец (8 гаспадароў) знаходзіліся ва ўладанні Радзівілаў, якія ў 17—18 стст. у ліку іншых неаднаразова аддавалі Цецеравецкі двор разам з сёламі ў заставу (заклад за пазыку) розным прадстаўнікам шляхты (П.Міноцкаму, М.Шафарэвічу, Вендорфам і іншым). З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і фальварак, ветраны млын, уладанне Радзівілаў, у складзе Слуцкага павета Мінскай губ. У 1809 г. в. Цецеравец аднайменнага фальварка налічвала 15 дымоў. У 1850 г. ў межы фальварка Цецеравец Клецкай ардынацыі Радзівілаў уваходзілі вёскі Цецеравец (13 двароў, 101 жыхар) і Ёдчыцы. Усяго ў фальварку ў гэты час налічвалася 58 сялянскіх двароў (з іх цяглых 51 двор), 372 селяніны, ворыўнай зямлі 508 моргаў, 117 прутоў. Фальварковыя жылыя і гаспадарчыя пабудовы былі драўлянымі, у т. л. вінакурня (пабудавана ў 1832 г.) і ветраны млын (перабудаваны ў 1829 г.). Пры фальварку меўся сад (330 дрэў) і сажалка, у вёсцы Цецеравец — карчма. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі ў складзе Грыцэвіцкай вол. знаходзіліся вёска Цецеравец (36 двароў, 244 жыхары), фальварак Стары Цецеравец (1 двор, 7 жыхароў) і фальварак Новы Цецеравец (4 двары, 35 жыхароў). У 1908 г. вёска, 35 двароў, 255 жыхароў, і аднайменны маёнтак, 6 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 54 двары, 298 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 24 жыхары (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Цецеравецкага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нагорнаўскім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 104 двары, 586 жыхароў, клуб, і асада, 7 двароў, 38 жыхароў. Утвораны калгас імя Дзяржынскага, які абслугоўваўся Клецкай МТС. Будынак былой польскай заставы меркавалася перабудаваць пад пачатковую школу. На тэр. Цецеравецкага с/с зна-



*В.Л.Новік.*

ходзілася 7 населеных пунктаў (2399 жыхароў), 458 двароў (у тым ліку 200 хутароў), 1 сярэдняя школа.

У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 16 вяскоўцаў. Пасля вайны адноўлены даваенны калгас. З 1953 г. вёска ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цяпер СВК «Лазавічы»; цэнтр в. Лазавічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 565, у 1970 г. — 527 жыхароў. У 1988 г. вёска, 127 гаспадарак, 301 жыхар, працавалі Дом культуры, б-ка, магазін. У 1998 г. 110 двароў, 227 жыхароў. У сучаснай вёсцы знаходзяцца машынны двор, свінаферма, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін.

**ЦЯСНОЎКА** — вёска ў Грыцэвіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Клецка, 22 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 170 км ад Мінска. 44 гаспадаркі, 66 жыхароў (2009).

У 1775 г. в. Цясноўка ў ВКЛ, 8 гаспадароў, уладанне Пласкавіцкіх, у Навагрудскім ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 58 жыхароў, гасподскі драўляны дом, карчма, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўладанне А. Быкоўскага, у 2-й пал. 19 ст. — Лабецкіх, якія пабудавалі тут новую сядзібу (уключала мураваны, прамавугольны ў плане, аднапавярховы, атынкаваны сядзібны дом, афіцыну, гасп. пабудовы, сад).

*Сядзіба Лабецкіх у в. Цясноўка.*



Паводле перапісу 1897 г. вёска, 31 двор, 188 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, у Грыцэвіцкай вол. У 1908 г. 20 двароў, 189 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7. 1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 44 двары, 249 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Нагорнаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Грыцэвіцкім с/с, з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 60 двароў, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.На франтах вайны ў баях з ворагамі загінулі 4 вяскоўцы. У 1950 г. ўтвораны калгас «Светлы шлях». З 1952 г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр в. Грыцэвічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 294, у 1970 г. — 216 жыхароў. У 1988 г. вёска, 68 гаспадарак, 136 жыхароў, у 1998 г. 60 двароў, 115 жыхароў, магазін. З 31.7.2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе СВК «Грыцэвічы» (цэнтр в. Грыцэвічы). Працуе магазін.

**ЧАША** — вёска ў Грыцэвіцкім с/с (да 8.2.2010 у Заастравецкім с/с), за 26 км на Пд ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 166 км ад Мінска. 48 гаспадарак, 67 жыхароў (2009).

У 1775 г. в. Чаша, 12 сялянскіх гаспадарак, уладанне Яленскіх, у Навагруд-

скім ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 74 жыхары, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1878 г. ў вёсцы мелася Міхайлаўская царква (дзейнічала да пач. 20 ст.). Паводле перапісу 1897 г. Чаша — вёска, 24 двары, 168 жыхароў, і аднайменны хутар, 1 двор, 9 жыхароў; у Сіняўскай вол. У 1908 г. ў вёсцы 30 двароў, 209 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 36 двароў, 239 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галынкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Старасельскім, з 24.8. 1960 г. ў Заастравецкім с/с, з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 51 двор, 359 жыхароў, арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 7 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму на франтах вайны. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 339, у 1970 г. — 308 жыхароў. У 1988 г. вёска, 83 гаспадаркі, 172 жыхары, у 1998 г. — 70 двароў, 127 жыхароў, магазін; у складзе калгаса «Праца» (цэнтр в. Драбаўшчына). З 31.7.2003 г. вёска знаходзіцца ў складзе с.-г. вытворчага кааператыву «Грыцэвічы» (цэнтр в. Грыцэвічы). Працуюць магазін і свінаферма.

**ШАЙКІ** — вёска ў Галынкаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Клецка, 28 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 168 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 18 жыхароў (2009).

У 1775 г. в. Шыйкі, 12 сялянскіх гаспадарак, уладанне Яленскіх, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. — вёска Слуцкага павета Мінскай губ. Рас. імперыі, 20 двароў, 84 жыхары, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы, якая ўваходзіла ў склад Сіняўскай вол., 32 двары, 186 жыхароў. У 1908 г. — 35 двароў, 200 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 46 двароў, 268 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галынкаўскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 58 двароў, 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 27.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 6 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах вайны. У 1950 г. ўтвораны калгас імя М. Горкага. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 256, у 1970 г. — 185 жыхароў. У 1988 г. 44 двары, 74 жыхары. Працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1998 г. вёска, у складзе калгаса «Камунар» (цэнтр в. Галынка), 31 двор, 51 жыхар, магазін, ветраны млын — помнік народнага драўлянага дойлідства (пабудаваны ў к. 19 — пач. 20 ст. з дрэва ў цэнтры вёскі). З 1.2.2004 г. вёска знаходзіцца ў складзе замежнага вытворчага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Налібакі—Нёман» (цэнтр — в. Бабічы, Тучанскі сельсавет). Працуе ферма буйной рагатай жывёлы.

Вёска — радзіма Шэйкі Івана Паўлавіча (н. 10.02.1948 г.), акадэміка НАН

Беларусі (з 2003 г.), акадэміка Акадэміі аграрных навук РБ (1996—2002 гг.).

**ШЧЭПІЧЫ** — аграгарадок (да 2008 г. вёска) у Шчэпіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Клецка, 6 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 144 км ад Мінска. 270 гаспадарак, 703 жыхары (2009).

Паводле даследаванняў бел. гісторыка В.С.Пазднякова, назва вёскі паходзіць ад прозвішча клецкіх баяр Шчэп, Шчэпічаў. У 1551 г. князь Ф.І.Яраславіч пацвердзіў клецкаму баярыну Фёдару Пятровічу Шчэпцы валоданне зямлёй на Лукаўцы, набытай у Паўлюковічаў, і зямлёй на Навадворцы. У 1523 г. гэта валоданне пацвердзіў таксама вял. кн. ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт І Стары, а ў 1524 г. — вял. княгіня Бона Сфорца. Падчас правядзення валочнай памеры ў Клецкім княстве па загаду каралевы Боны ў сярэдзіне 16 ст. клецкія праваслаўныя святары ўзамен сваіх ранейшых надзелаў атрымалі зямлю каля Шчэпаўскага двара. Новазаснаванае сяло ў 1575 г. мела назву Паповічы, пазней Шчэпічы ад назвы суседняга двара (фальварка). У 17 ст. Радзівілы неаднаразова аддавалі ў заставу (заклад за пазыку) свае фальварак і сяло Лукавец-Шчэпаўшчызна (ці Шчэпаўшчызна) розным асобам (у тым ліку М.І. Шчэпе, С.Міхновічу, Завістоўскім). У 1645 г. сяло налічвала 18 гаспадароў, 6,5 валокі зямлі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1809 г. фальварак і вёска Шчэпаўшчызна, 17 дымоў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У межы фальварка ўваходзіла таксама вёска Вяжэвічы (цяпер в. Яжавічы). У 1819 г. вёска Шчэпаўшчызна, 17 дымоў, 84 жыхары. Фальварак (2 вёскі) налічваў 40 дымоў, 200 сялян. Паводле перапісу 1897 г. Шчэпічы — вёска (34 двары, 196 жыхароў, хлебазапасны магазін), маёнтак (33 жыхары) і ўрочышча (7 жыхароў), у Клецкай вол. Слуцкага павета. У 1908 г. ў вёсцы 40 двароў, 235 жыхароў, адчынілася школа; у маёнтку 33 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 40 двароў, 239 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Шчэпіцкага с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 77 двароў, 313 жыхароў, у былым фальварку — 5 жыхароў. Сельскі Савет часова размяшчаўся ў будынку пачатковай школы. На тэр. Шчэпіцкага с/с знаходзіліся 14 населеных пунктаў (2669 жыхароў), 729 двароў (у тым ліку 718 хутароў), 4 школы. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. У цэнтры вёскі пахаваны 12 воінаў і партызан, сярод якіх — 6 воінаў



*Ветраны млын у в. Шайкі.*

122-га самаходнага артыл. палка, якія загінулі ў ліп. 1944 г. ў баях з гітлераўцамі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, якая таксама ўшаноўвае памяць 44 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. (з іх 12 былых жыхароў в. Шчэпічы). У 1950 г. ўтвораны калгас «Слава». З 1953 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Кастрычнік». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. тут налічвалася 413, у 1970 г. — 509 жыхароў. У 1988 г. вёска, 227 гаспадарак, 704 жыхары, працавалі майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акуш. пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленне сувязі, магазіны. У 1998 г. — 292 двары, 798 жыхароў. У 2008 г. вёска, цэнтр СВК «Шчэпічы», увайшла ў лік аграгарадкоў Клецкага р-на. У 2009 г. дзейнічаюць школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры (тут працуе Шчэпіцкі народны хор), б-ка, фельч.-акуш. пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленне сувязі, магазін.

**ЯЖАВІЧЫ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 6 км на З ад Клецка, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 146 км ад Мінска. 72 гаспадаркі, 107 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Назва вёскі паходзіць ад прозвішча Вяжэвіч. У 1552 г. с. Вяжэвіч Клецкага княства, 16 гаспадароў, больш за 16 валок зямлі, уласнасць каралевы Боны Сфорца. З 1558 г. уладанне Радзівілаў. У 1575 г. сяло, 26 валок зямлі, 20 жыхароў, у 1626 г. 45 жыхароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1809 г. вёска Вяжэвічы, 26 дымоў, адносілася да фальварка Шчэпаўшчызна, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1819 г. 23 дымы, 116 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска Яжавічы, 60 двароў, 339 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Шчэпіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 119 двароў, 434 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. 8 вяскоўцаў аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг. У 1950 г. ўтвораны калгас імя Мічурына. З 1953 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік» (цяпер СВК «Шчэпічы»; цэнтр в. Шчэпічы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 412, у 1970 г. — 375 жыхароў. У 1988 г. вёска, 106 гаспадарак, 248 жыхароў, у 1998 г. — 94 двары, 189 жыхароў. У 2009 г. працуюць свінагадоўчы комплекс, магазін, Дом сац. паслуг.

**ЯКШЫЧЫ** — вёска ў Шчэпіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Клецка, 12 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы. 91 гаспадарка, 129 жыхароў (2009).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1552 г. Яксічы (Яксыч) — сяло Клецкага замка, 9 гаспадароў, 4 валокі 9 моргаў зямлі, уладанне вял. княгіні Боны Сфорца. У 1575 г. сяло, 24 валокі зямлі, уласнасць прадстаўнікоў магнацкага роду Радзівілаў. У 1626 г. сяло Якшычы Клецкай вол., 25 валок зямлі, 54 гаспадаркі, у 1645 г. — 55, у 1665 г. — 14 гаспадарак. У 1775 г. ў сяле налічвалася 9 шляхецкіх двароў і 2 сялянскія. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 37 двароў, 208 жыхароў, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1882 г. вёска Клецкай

вол., 36 двароў. Паводле перапісу 1897 г. Якшычы — сяло (46 двароў, 328 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца) і аколіца (19 двароў, 131 жыхар). У 1908 г. вёска, 60 двароў, 387 жыхароў, і засценак, 12 двароў, 61 жыхар. У 1912 г. адчынілася народнае вучылішча (аднакласнае). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. — у складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 88 двароў, 497 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Даматканавіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не. У 1940 г. вёска, 135 двароў, 626 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г.10 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы налічвалася 566, у 1970 г. — 504 жыхары. У 1988 г. — 126 гаспадарак, 323 жыхары, у 1998 г. — 120 гаспадарак, 254 жыхары, магазін; у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр в. Даматканавічы). Сучасная вёска ў складзе СВК «Шчэпічы» (цэнтр — в. Шчэпічы). Тут знаходзяцца ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, Дом сац. паслуг.

**ЯНАВІЧЫ** — цэнтр Краснавёздаўскага с/с, за 6 км на Пд ад Клецка, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 146 км ад Мінска. Побач з вёскай працякае р. Лань (прыток р. Прыпяць). 356 гаспадарак, 833 жыхары (2009).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім павеце. У 1775 г. Янавічы налічвалі 5 шляхецкіх двароў і 8 сялянскіх гаспадарак, якія належалі Макавецкаму. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. маёнтак Янавічы знаходзіўся ва ўладанні Вайніхоўскага. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 123 жыхары, драўляны панскі дом, мураваная ўніяцкая капліца, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска і маёнтак (уладанне В.Піляўскага, 927 дзесяцін зямлі ў 1876 г.) знаходзіліся ў межах Грыцэвіцкай вол. таго ж павета. У 1870-я г. ў маёнтку працавалі вадзяны млын з сукнавальняй і цагельны з-д. У 1-й пал. 19 ст. на раўнінным правым беразе р. Лань (на ўскраіне сучаснай вёскі) сфарміравалася памешчыцкая сядзіба Бжазоўскіх, якая ўключала аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны дом з лоджыяй на галоўным фасадзе, капліцу, эканам. парк з авальнай сажалкай, драўляны свіран і іншыя гасп. пабудовы. Да нашага часу захаваліся сядзібны дом, свіран, флігель, парк. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму (к. 18—19 ст.). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы мелася 54 двары, 343 жыхары, хлебазапасны магазін, у маёнтку — 12 двароў, 69 жыхароў, капліца (пабудавана ў 1878 г.). У 1908 г. ў вёсцы — 36 двароў, 359 жыхароў, у маёнтку — 24 жыхары. У 1911 г. адчынілася земская школа. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 16 двароў, 148 жыхароў, і вёска, 75 двароў, 436 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бабаевіцкім с/с таго ж р-на і вобл., з

8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 16.8.1973 г. вёска — цэнтр Янавіцкага с/с, з 23.7.1984 г. ў Краснаэвёздаўскім с/с, з крас. 2008 г. — цэнтр Краснаэвёздаўскага с/с. У 1940 г. ў вёсцы было 158 двароў, 442 жыхары, у былым маёнтку — 22 двары, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з 26.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г.18 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. У 1990 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія аддалі жыццё за Радзіму ў 1941—1945 гг., пастаўлены помнік. У 1949 г. ўтвораны калгас «Памяць Леніна». Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. вёска налічвала 512, у 1970 г. — 41 жыхара. У 1976 г., калі калгас «Памяць Леніна» (в. Янавічы) далучылі да саўгаса «Красная Звязда», цэнтр саўгаса перанеслі ў в. Янавічы. У 1988 г. вёска, 274 двары, 841 жыхар, у 1998 г. — 315 двароў, 891 жыхар, школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддзяленне сувязі, магазіны. У 2005 г. вёска, цэнтр РУСП «Племянны завод «Красная Звязда», на яе базе створаны аграгарадок. Адначасова ў межы Янавіч увайшла суседняя вёска Янавічы Тучанскага с/с (узнікла на месцы былога маёнтка, пазней пасёлак цагельнага завода «Янавічы» і пас. Янавічы, потым вёска Янавічы; перададзена ў склад Краснаэвёздаўскага с/с у 2005 г.; у 1959 г. 178 жыхароў, у 1970 г. 233 жыхары). У 2009 г. працуюць сельскі Савет, адміністрацыя РУСП «Племянны завод «Красная Звязда», школа, яслі-сад, Дом культуры (пры СДК працуе ансамбль народнай песні), б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддзяленне сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, машынны двор, іншыя ўстановы.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы К.А.Шастака (н. 22.2.1935).

**ЯФІМАВІЧЫ** — вёска ў Кухчыцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Клецка, 16 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Асіповічы—Баранавічы, 154 км ад Мінска. 55 гаспадарак, 69 жыхароў (2009).

У 1800 г. Яфімавічы вёска, 14 двароў, 76 жыхароў, гаспадарскі драўляны дом, вінакурня, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўладанне С.Рэйтана. У 1884 г. адчынілася школа граматы, якая ў 1912 г. была рэарганізавана ў народнае вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 37 двароў, 247 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Сіняўскай вол. У 1908 г. 45 двароў, 300 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас.—чэрв. 1919 г., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Сіняўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 59 двароў, 357 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Клецкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заляшанскім с/с таго ж р-на і вобл., з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Нясвіжскім р-не, з 22.9.1980 г. ў Кухчыцкім с/с. У 1940 г. вёска, 88 двароў, 357 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. за-



*К.А.Шастак.*



*Сядзіба Бжазоўскіх у в. Янавічы.*

хопнікамі з 26.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. 5 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі на франтах вайны. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Васілеўскага; з 1980 г. вёска ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (з 31.7.2003 г. СВК «Кухчыцы», цэнтр — в. Кухчыцы). Паводле перапісаў насельніцтва ў 1959 г. ў вёсцы было 470, у 1970 г. — 394 жыхары. У 1988 г. — 93 гаспадаркі, 196 жыхароў, у 1998 г. — 80 гаспадарак, 128 жыхароў. У вёсцы працуе магазін.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4-п, воп. 5, спр. 2255; ф. 30, воп. 5, спр. 696, 6766, 7292; воп. 9, спр. 2384, 2391.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 1687; ф. 27, воп. 5, спр. 415; ф. 142, воп. 1, спр. 1515; ф. 694, воп. 1, спр. 435; воп. 2, спр. 620, 636, 665, 672, 704, 706, 711, 745, 872, 903, 904, 1209, 2601, 2602, 3135, 3136, 3138, 3143, 3147, 3154, 3155, 3165, 3167, 3191, 3194, 3200, 3306, 3307, 3316, 3317, 3337, 3339, 3352, 3356, 3368, 3723, 3725, 3905, 4143, 9297, 9299, 9300, 9310, 9347, 9360, 9364; воп. 4, спр. 67, 1475, 1728, 4546, 4547, 5711; воп. 7, спр. 1016; ф. 1324, воп. 1, спр. 2; ф. 1727, воп. 1, спр. 24; ф. 1781, воп. 27, спр. 213.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў г. Санкт-Пецярбурга, ф. 1290, воп. 11, спр. 1336.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3801; ф. 445, воп. 1, спр. 4262.

Военно-статистическое обозрение Российской империи, издаваемое по высочайшему повелению при 1-м отделении Департамента Генерального штаба. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1848.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России... Т. 1. Санкт-Петербург, 1861.

Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1864.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли, составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г., с прибавлением другой актовой книги, содержащей в себе привилегии, данные дворянам и священникам Пинского повета, составленной в 1554 г. Вильна, 1867.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.

Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г. Вильна, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Акты, издаваемые Виленскою археологическою комиссиею. Т. 18. Вильна, 1891.

Акты Литовской Метрики / Собр. Ф.И.Леонтовичем. Т. 1, вып. 1—2. Варшава, 1896—97.

Русская историческая библиотека. Т. 20. Санкт-Петербург, 1903; Т. 27. Санкт-Петербург, 1910; Т. 30. Юрьев, 1914; Т. 33. Петроград, 1915.

Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 33. Вильна, 1908.

Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.

Алфавитный географический указатель Древнего Великого княжества Литовского. Ч. 1. Вильна, 1929.

Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1 (1917—1941 гг.). Минск, 1985; Т. 2 (1944—1980 гг.). Минск, 1987.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.

Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Минск, 1991.

Архітэктура Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 1993.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мінск, 1993—2003.

Пазднякоў В.С. З гісторыі вёсак Клецкага р-на (XV—XVIII стст.) // Памяць: Клецкі р-н. Мінск, 1999.

Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7, cz. 1. Województwo Nowogródzkie. Warszawa, 1923.



# КРУПСКІ РАЁН

Размешчаны на ПнУ Мінскай вобласці. Пл. раёна 2,14 тыс. км$^2$. Насельніцтва 17,7 тыс. чал. (2010). [У сувязі з рэарганізацыяй сельсаветаў у канцы 2009 – пач. 2010 г. колькасць гаспадарак і жыхароў дадзена на 1.3. 2010 г. — **Заўвага рэд.**] Сярэдняя шчыльнасць 8 чал. на 1 км$^2$. На тэр. раёна пражываюць беларусы (91,3%), рускія (6,7%), украінцы (1,3%), палякі (0,2%), асобы інш. нацыянальнасцей (0,5%). Цэнтр — г. Крупкі. Мяжуе на З і Пд з Барысаўскім і Бярэзінскім р-намі Мінскай вобл., на Пн і ПнУ — з Чашніцкім і Талачынскім р-намі Віцебскай вобл., на ПдУ — з Круглянскім і Бялыніцкім р-намі Магілёўскай вобл. У склад раёна ўваходзяць гар. пасёлкі Бобр і Халопенічы, 231 сельскі населены пункт. Падзяляецца на 9 сельсаветаў: Абчугскі, Бобрскі, Ігрушкаўскі, Кастрычніцкі, Крупскі, Нацкі, Ухвальскі, Халопеніцкі, Хацюхоўскі. Раён размешчаны ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны, яго паўн.-ўсх. ўскраіна ў межах Аршанскага ўзвышша. Паверхня раўнінная. Тэрыторыя мае нахіл з ПнУ на ПдЗ да даліны р. Бярэзіна. Найбольш высокая кропка 225 м над узроўнем мора (на ПнЗ ад в. Хацюхова). На тэр. раёна залягаюць карысныя выкапні: торф, сапрапель, будаўнічыя пяскі, гліна, пясчана-жвіровы матэрыял. Найбольшая р. Бобр з прытокамі Нача, Можа, Еленка, Пліса, на Пн — р. Эса. Азёры: Сялява, Худавец, Абіда, Радомля, Нерыб. Праходзяць чыгунка Брэст—Масква, аўтадарогі на Барысаў, Оршу, Чашнікі, Беразіно. Пад лесам 41,6% тэр. Тут размешчаны заказнікі рэсп. значэння: ландшафтны Сялява, біялагічны Дзянісавіцкі, мясц. значэння гідралагічныя: Абчуга, Азярышча і Рэчкі, Восава Гібайлаўскае, Гразінскае, Жэўняк, Залатое, Зернае 1, Ліпкі, Масток, Радомля, Сіманава Гара, Сычоўскае, Чарапоўшчына.

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў Барысаўскай акрузе, 20.8.1924 г. падзелены



Рака Бобр.



Крупскі строй.


КРАСНОЕ ЗНАМЯ
НОВЫЙ ОБВИНИТЕЛЬНЫЙ АКТ
ПАРТИЗАНСКИЙ ПУТЬ
Народный МСТИТЕЛЬ
ВЕЛИЧАЙШАЯ ПОБЕДА

*Падпольныя газеты, якія распаўсюджваліся на тэрыторыі Крупскага раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

на 11 сельсаветаў: Бобрскі, Выдрыцкі, Жаберыцкі (Малажаберыцкі), Ігрушкаўскі, Крупскі, Нацкі, Сакалавіцкі, Стараслабодскі, Ухвальскі, Шэйкаўскі, Шынкаўскі. З 9.6.1927 г. ў Мінскай, з 18.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акругах. У выніку ўзбуйнення раёнаў 8.7.1931 г. да раёна далучаны Абчугскі, Вялікахальнявіцкі, Дубаўскі, Заборскі, Смародзінскі сельсаветы ліквідаванага Чарэйскага р-на, Грыцкавіцкі, Траянаўскі, Узнацкі, Халопеніцкі, Хацюхоўскі сельсаветы ліквідаванага Халопеніцкага р-на. 12.2.1935 г. Вялікахальнявіцкі, Грыцкавіцкі, Дубаўскі, Заборскі, Траянаўскі, Узнацкі, Халопеніцкі і Хацюхоўскі сельсаветы былі перададзены аднаўленаму Халопеніцкаму р-ну. З 20.2.1938 г. раён у складзе Мінскай вобл. У канцы 1930 г. тут дзейнічала каля 30 калгасаў, якія аб'ядноўвалі 658 гаспадарак, або 11,6% ад агульнай колькасці двароў. У 1931 г. ў раёне налічваліся 53 прадпрыемствы. Асн. былі лесапільны з-д у мяст. Крупкі, ф-ка па вырабе шавецкіх драўляных цвікоў у в. Абчуга, арцелі — тарфяная, цагельная ў в. Альшанікі і швейная ў мяст. Крупкі. Спажывецкая кааперацыя раёна мела 18 сельпо з гандл. сеткай у 53 адзінкі. На пач. 1933 г. дзейнічалі 6 саўгасаў, 207 калгасаў, раённая МТС (11 трактароў); 11 322 гаспадаркі, з іх калектывізаваны 5184. Працавалі ветэрынарны тэхнікум, 107 пач. школ, пункты па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 6810 непісьменных жыхароў раёна на 1.4. 1932 г. пункты наведвалі 5583 чал. Выдавалася газ. «Камуністычны шлях». У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Крупках і раёне каля 3,5 тыс. чал., спалілі разам з жыхарамі вёскі Маладзілава (не адрадзілася), Сомры, Узнаж. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады: 1-я Клічаўская, 1-я Смаленская, 3, 5, 8-я Круглянскія, Н.П.Гудкова, Лёзненская, імя Кірава, імя Панамарэнкі, 2-я Беларуская імя Панамарэнкі (2-га складу); партыз. палкі: 208-ы імя Сталіна, 255-ы, 177-ы, «Трынаццаць»; асобныя атрады: «Баец», 8-ы, 24, 28, 30, 252, 257, 258-ы, «Артур», А.Я.Васілеўскага, «Слаўны», «Трэція», І.А.Яраша; падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ; выдавалася падп. газ. «Партизанский путь». Раён вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў 27—29.6. 1944 г. часцямі 3-га Бел. фронту ў ходзе Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944 г. За гады акупацыі ў раёне было спалена 27 вёсак, 1,6 тыс. пабудоў, больш за



*Адміністрацыйны будынак Крупскага лясгаса.*


1


2

Сядзіба на р. Бобр: 1 — знешні выгляд; 2 — інтэр'ер.

1 тыс. грамадскіх будынкаў, школ, бальніц і інш. Загінуў кожны трэці жыхар раёна, 2158 чал. вывезены ў Германію, з іх вярнуліся 1837 чал. Да вясны 1945 г. былі адноўлены 113 калгасаў і 15 сельсаветаў, 2 МТС, пачалі працаваць прам. прадпрыемствы, школы, бальніцы, культ. ўстановы. На 1.1.1947 г. ў раёне працавалі 26 саўгасаў і калгасаў. З 16.7.1954 г. былі ліквідаваны Смародзінскі (тэр. далучана да Абчугскага), Сакаловіцкі (далучаны да Бобрскага) і Шынкаўскі (далучаны да Старaслабодскага) сельсаветы. 20.1.1960 г. ў склад раёна ўвайшлі Вялікахальнявіцкі, Заборскі, Халопеніцкі, Хацюхоўскі сельсаветы і г.п. Халопенічы ліквідаванага Халопеніцкага р-на. 5.5.1962 г. Заборскі с/с перайменаваны ў Кастрычніцкі, Шэйкаўскі — ліквідаваны. 4.1.1964 г. Стараслабодскі с/с перайменаваны ў Дзянісавіцкі, 1.10.1973 г. Вялікахальнявіцкі — у Янаўшчынскі, 31.3.1977 г. ліквідаваны Бобрскі с/с (населеныя пункты перададзены ў адм. падпарадкаванне Бобрскага пасялковага Савета і далучаны да Абчугскага с/с), 13.9.1982 г. Жаберыцкі с/с перайменаваны ў Дакудаўскі. 30.12.2009 г. ліквідаваны Выдрыцкі і Дзянісавіцкі сельсаветы (населеныя пункты перададзены Ухвальскаму с/с), Дакудаўскі ўвайшоў у склад Хацюхоўскага с/с, Янаўшчынскі — у Халопеніцкі с/с. Халопеніцкі і Бобрскі пасялковыя Саветы пераўтвораны ў сельсаветы. На 1.1.1998 г. ў раёне працавалі 21 калгас, 4 саўгасы, 14 фермерскіх гаспадарак, эксперыментальная база «Эса» рэсп. трэста па насенняводстве бульбы. У пач. 2000-х г. 13 вёсак перабудаваны ў аграгарадкі. У раёне дзейнічаюць (2010) філіял Мінскага станкабу-



Народны ансамбль народнай песні «Крупчанка».




Дзіцячы ўзорны фальклорны ансамбль «Крупчаняты».





*Былы сядзібны дом пана С.Сангушкі ў Крупках.*

*Касцёл святога Юзафа ў г. Крупкі.*



*Сучасны герб г. Крупкі.*

даўнічага з-да імя Кірава, масласырзавод, 2 хлебапякарні, дрэваапрацоўчы і асфальтавы з-ды, з-д муз. дэталей (філіял Барысаўскага вытв. аб'яднання муз. інструментаў), лясгас, хімлясгас, вытв. рэсп. унітарнае торфапрадпрыемства «Туршоўка», філіял «Лянок» ААТ «Валожынскі льнокамбінат», цагельны з-д Крупскага дрэваапрацоўчага камбіната, пладова-агароднінны камбінат, ЗАТ «Хацюхова», 3 КСУП, 3 ААТ, 10 СВК, фермерскія гаспадаркі. Працуюць даччынае УП «Аўтапарк № 16», 72 прадпрыемствы грамадскага харчавання, 10 аўтамагазінаў. Дзейнічаюць 7 сярэдніх, 1 базавая, 1 пач. школы, вучэбна-пед. комплексы: дзіцячы сад—сярэдняя школа (6), дзіцячы сад—базавая школа (2), дзіцячы сад—пач. школа (1), 1 муз. школа з 4 філіяламі, 6 дашкольных устаноў, Цэнтр пазашкольнай работы (г.п. Халопенічы), дзіцячы дом сямейнага тыпу (в. Кіявец), дзіцячы сац. прытулак (г.п. Халопенічы), 6 урачэбных амбулаторый, 21 фельч.-акушэрскі пункт, 26 клубных устаноў, Цэнтр адпачынку (в. Каменка), культурна-адукац. цэнтр (в. Ротань), фізкультурна-аздараўленчы цэнтр (в. Замкі), 32 б-кі. Дзейнічаюць 50 гурткоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, 86 — мастацкай самадзейнасці, працуюць 4 калектывы са званнем «народны» (ансамбль нар. песні «Крупчанка», духавы аркестр, ансамбль «Жывіца», клуб майстроў «Таленты Крупшчыны») і 1 са званнем «узорны» (дзіцячы фальклорны ансамбль «Крупчаняты»), Дом рамёстваў. Выдаецца газ. «Крупскі веснік». На тэр. раёна знаходзіцца шэраг археал., архітэктурных і гіст. помнікаў.

**КРУПКІ** — горад, цэнтр раёна, на р. Бобр. За 118 км на ПнУ км ад Мінска,



*Мікалаеўская царква ў г. Крупкі.*




*Знак пры ўездзе ў горад.*





*Будынак Крупскага райвыканкома.*

*Крупскі раённы Цэнтр культуры.*

6 км ад чыг. ст. Крупкі, на аўтадарозе Мінск—Масква. 8,6 тыс. чал. (2010).

Назва паселішча паходзіць ад р. Крупка (правы прыток р. Бобр). У сярэдзіне 16 ст. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Сангушкаў. Упамінаецца як мястэчка на карце Т.Макоўскага, якая была выдадзена ў 1613 г. ў Амстэрдаме. На пач. 17 ст. адзін з маёнткаў у Аршанскім павеце. У 1627 г. маёнтак быў вылучаны кн. Сангушкам Сымонам Самуэлем сваёй жонцы Алене Корвін-Гансеўскай. У 1667 г. Крупкі ў закладзе ў Шваба Шванеўскага. Мястэчка і маёнтак пацярпелі ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У гэты час праз Крупшчыну рухаліся войскі, спусташаючы паселішчы. У 1667 г. ў маёнтку налічвалася 60 дымоў. Пазней мястэчка ўваходзіла ў склад маёнтка Шыйка, уласнасць князёў Сангушкаў. У 1760 г. 69 двароў, драўляная ратуша, карчма, 2 млыны, шляхецкая ўласнасць. У 1790 г. знаходзілася ў закладзе ў Крыштофа Мяскоўскага, 82 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У час вайны 1812 г. мястэчка было часткова спалена французскімі войскамі. Тут стаяў перадавы атрад Ярмолава, які 12.11.1812 г. ў баі з французамі пацярпеў паражэнне. У 1859 г. пабудаваны млын з сукнавальняй (у 1861 г. — 17 рабочых, выраблена каля 30 тыс. пудоў мукі ў год). У 1870-я г. прадпрыемствы належалі Марыі і Карлу Свяцкім. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. мястэчка ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1861 г. тут налічваўся 701 жыхар. У 1865 г. пабудавана царква. У ліст. 1871 г. каля мястэчка прайшла лінія Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, дзейнічала паштовая станцыя. У 1885 г. працавалі піваварны з-д, 2

*Помнік воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане, пры ўездзе ў Крупкі.*

*Памятны знак у гонар жыхароў г. Крупкі і Крупскага раёна, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*









*Сквер па вул. Савецкая ў г. Крупкі.*

*Адміністрацыйны будынак ТАА «Амкадор-Можа» ў г. Крупкі.*

млыны, 24 дробныя гандл. крамы, карчма, царква, 3 яўр. малітоўныя школы, сінагога, маёнтак належаў К.Свяцкаму. У 1896 г. ў мястэчку пачала дзейнічаць запалкавая ф-ка, на якой у 1900 г. працавалі 52 рабочыя. У 1900 г. пачаў выпускаць прадукцыю лесапільны з-д (16 рабочых). Паводле перапісу насельніцтва ў 1897 г. ў Крупках 186 двароў, 1523 жыхары, дзейнічалі вадзяны млын, сукнавальня, 7 кузняў, скураны з-д, маслабойня, паштова-тэлегр. аддз., царк.-прыходская школа, царква, сінагога, 4 яўр. малітоўныя дамы, 24 крамы, карчма, заезны дом, аптова-вінны склад. Двойчы ў год — 29 жн. і 9 снеж. — праводзіліся кірмашы. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у ліп. 1905 г. баставалі рабочыя запалкавай ф-кі і лесапільнага з-да, усяго 90 чал. У 1910 г. ў мястэчку 190 двароў. 26.2—21.11.1918 г. акупіраваны герм. войскамі. З 11.7.1919 г. Крупкі ў складзе Віцебскай губ., 15.2.1923 г. перададзены з Сенненскага ў Аршанскі павет той жа губерні. У 1920 г., калі зах. частка Барысаўскага павета была занята польскімі войскамі, у Крупках размяшчаўся Барысаўскі пав. рэўком. З 17.7.1924 г. мястэчка — цэнтр раёна Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай, з 18.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акруг, з 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. было 2097 жыхароў. Дзейнічалі посудаганчарны, лесапільны, запалкавы, шкіпінарна-смалакурны, маслабойны з-ды, швейная арцель «Перамога». У 1925 г. ў Крупках запрацаваў Народны дом. У 1930-я г. створаны саўгас «Крупкі» (103 рабочыя, 1680 га зямлі), у 1933 г. засн. дрэваапрацоўчая арцель «Ударнік». Дзейнічалі льнозавод, кавальская арцель «Чырвоны молат», хлебапякарня, кравецкая арцель «14 гадоў Кастрычніцкай рэвалю-

*Цэнтральная плошча ў г. Крупкі.*

*Алея Славы ў г. Крупкі.*







*Адна з экспазіцыйных залаў гісторыка-краязнаўчага музея ў г. Крупкі.*

цыі», колавая арцель, МТС (у 1935 г. 39 трактароў). Працавалі электрастанцыя, агульнаадукац. школа, ветэрынарны тэхнікум (у 1933 г. 115 навучэнцаў і 9 выкладчыкаў). З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. — 3455 жыхароў. З 1940 г. дзейнічаў з-д па вырабе цвікоў. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 1800 жыхароў. У час акупацыі ў Крупках размяшчалася ўправа, ням. гарнізон, канцэнтрацыйны лагер. У 1942 г. на тэр. гар. пасёлка было расстраляна 100 заложнікаў са ст. Слаўнае. У гады акупацыі дзейнічала патрыят. падполле. Вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 28.6.1944 г. У вызваленні гар. пасёлка прымалі ўдзел воіны 18-й, 3-й гв. танкавых брыгад, 2-й гв. мотастралк., 83-й стралк. дывізій. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 340 жыхароў. Восенню 1944 г. пачалі працаваць лясгас, маслазавод, ваўначоска, прамысловы камбінат, скураны, цагельны з-ды, пазней шавецкая арцель, МТС, радыёвузел, тэлеф.-тэлегр. станцыя, раённая бальніца, дзіцячы дом і інш. У 1947 г. засн. пладова-агароднінны з-д (з 2002 г. ААТ «Крупскі пладова-агароднінны завод»). Выдавалася раённая газ. «Голас калгасніка». У 1951—55 гг. пабудаваны універмаг, культмаг, кніжны магазін, хлебазавод, кінатэатр. У ліп. 1960 г. раённая газета была перайменавана ў «Зара камунізму», з мая 1962 г. — «Камуністычны шлях», з 1963 г. — «Ленінскім курсам». У 1961—70 гг. уведзены ў строй жылыя кварталы, вытв. майстэрні райсельгастэхнікі, школы і інш. У 1980 г. запрацавала новая бальніца. У 1977 г. налічвалася 5,5 тыс. жыхароў. З 1991 г. Крупкі — горад. Тут працуюць (2010) — ТАА «Амкадор-Можа», гімназія, 2 сярэднія, 1 вячэрняя, 1 муз. школы, 2 дамы культуры, раённая служба кіравання, райспажыўсаюз, 8 устаноў грамадскага харчавання, кінатэатр, Цэнтр дзіцячай творчасці, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, 3 дзіцячыя сады, цэнтры: карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі; турызму і краязнаўства; прафес. навучання; гігіены і эпідэміялогіі; 2 б-кі (дзіцячая і цэнтр.), дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 2 бальніцы, 2 стадыёны, 26 спарт. залаў,



*Скульптура і калодзеж каля гісторыка-краязнаўчага музея ў г. Крупкі.*



*Урачыстае адкрыццё Алеі Славы ў г. Крупкі.*



*Першы раз — у першы клас! 1 верасня 2010 г. Горад Крупкі.*



*Свята ў дзіцячым садзе № 3 г. Крупкі.*



*Гарадскі цэнтр дзіцячай творчасці.*



*Будынак аддзялення сувязі ў г. Крупкі.*

Дом быту, аптэка, крамы і інш. З 2004 г. працуе раённы гісторыка-краязнаўчы музей, пры якім дзейнічае мастацкая галерэя. Дзейнічаюць царква свяціцеля Мікалая Цудатворца, рымска-каталіцкі касцёл святога Юзафа. Помнікі на брацкіх магілах партызан, сав. воінаў, ахвяр фашызму. Помнік Героям Сав. Саюза А.Ф.Колесавай, У.М.Марцінкевічу, бюст двойчы Героя Сав. Саюза лётчыка-касманаўта У.В.Кавалёнка. Помнік архітэктуры — сядзібны дом пач. 20 ст. Сучасны ген. план забудовы распрацаваны Мінскім філіялам «Белдзяржпраекта» ў 1974 г., а ў 1986 г. ў БелНДІПгорадабудаўніцтва распрацаваны праект дэталёвай планіроўкі цэнтр. часткі горада.

Горад — радзіма Герояў Сав. Саюза У.М.Марцінкевіча (1896–1944), М.Я. Зайцава (н. ў 1923 г.), воіна-інтэрнацыяналіста М.М.Ляшкова (1959–80), бел. спартсменаў Л.Варона (н. ў 1983 г.), майстра спорту міжнар. класа па лыжных гонках, і Дз.Сімановіча (н. ў 1987 г.),



*Фантан па вуліцы Маскоўскай у Крупках.*



*Зернеачышчальна-сушыльны комплекс у г. Крупкі.*









*У цэху па вырабе безалкагольных напояў у г. Крупкі.*

*Будынак аддзялення «Белаграбанка» ў г. Крупкі.*

*Фізкультурна-аздараўленчы цэнтр «Грацыя» ў г. Крупкі: більярдны і трэнажорны залы.*

майстра спорту па лёгкай атлетыцы, бел. паэта М.Калачынскага (1917—90).

**АБЧУГА** — вёска, цэнтр Абчугскага с/с, за 30 км на ПнУ ад Крупак, 25 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Абчуга. З ПдЗ на ПнУ працякае р. Абчуга, каналізаваная ў верхнім цячэнні. 91 гаспадарка, 180 жыхароў (2010).

Назва вёскі паходзіць ад тэрміна «абчаг», гэта значыць 'агульны', 'агульная паша'. Вядома з 17 ст. У інвентарах упамінаецца як вёска каля мяст. Красны Стаў маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў. Тут было 46 пляцаў і 30 валок зямлі, млын на 2 колах. Вёска абазначана на карце Т.Макоўскага (1613). У 1713 г. мястэчка, 83 двары, 24 валокі зямлі (уласнасць канцлера А.Сапегі), значыліся вуліцы Лукомская, Віцебская, Славенская. У 1775 г. 37 двароў, з іх 3 належалі мясц. царкве. У 1790 г. канцлер



*Гасцініца «Крупчанка».*



*Новабудоўля ў г. Крупкі.*






*Помнік-бюст і мемарыяльная дошка, устаноўленыя ў гонар касманаўта У.В.Кавалёнка ў г. Крупкі.*

А.Сапега выкупіў мястэчка з закладу ў Гіяцынта Косці і перазаклаў Віленскаму кляштару піяраў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці, уладанне памешчыка Нітаслаўскага, затым злілася з мястэчкам пад агульнай назвай Абчуга. У вайну 1812 г. разбурана французскімі войскамі. У 1847—52 гг. на сродкі памешчыка Нітаслаўскага пабудавана Спаса-Праабражэнская царква, якой належала звыш 66 дзес. зямлі. У 1861 г. ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ., 50 двароў, 360 жыхароў, царква, малітоўная школа. Частка местачкоўцаў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. У 1869 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. вучыліся 32 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1880 г. мястэчка, 77 двароў, 678 жыхароў, у т.л. 319 мужчынскага і 359 жаночага полу, дзейнічалі вал. праўленне, 2 праваслаўныя

*Помнік Герою Савецкага Саюза А.Ф.Колесавай у г. Крупкі.*



*Будынак аддзялення «Беларусбанка» ў Крупках.*





Л.Варона.



Дз.Сімановіч (злева) са сваім трэнерам.

царквы, малітоўная школа, нар. вучылішча, 2 вадзяныя млыны. У 1890 г. ў фальварку Абчуга засн. вінакурны з-д з паравым рухавіком (у 1895 г. 6 рабочых). У 1897 г. — 112 двароў, 861 жыхар, гарбарны з-д, вадзяны млын, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, лячэбніца, заезны двор, 2 вінныя крамы, яўр. малітоўны дом, праваслаўная царква, у аднайм. фальварку — 46 жыхароў, вінакурны з-д, вадзяны млын, капліца. У пач. 20 ст. цэнтр воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні. У 1909 г. налічвалася 125 двароў. У аднайм. маёнтку — 48 жыхароў, уласнасць памешчыцы Э.А.Ястрамбіцкай. У 1917 г. 783 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. вёска знаходзілася пад акупацыяй герм. войск, у час якой дзейнічаў партыз. атрад. З крас. 1919 г. да сак. 1924 г. ў складзе Віцебскай губ. РСФСР. У 1919 г. ў б. маёнтку створаны саўгас, працавала дзіцячая сталовая. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета ў Чарэйскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. У гады 1-й пяцігодкі пачалі працаваць ільнозавод, завод па вырабе драўляных цвікоў. Дзейнічалі пач. школа (у 1925 г. 136 вучняў, 2 настаўнікі), млын, кузня, хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «VI з'езд Саветаў». У 1935 г. працавалі бальніца, аптэка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. вёска моцна пацярпела ад пажару. У сав.-фінляндскую вайну 1939 г. і на франтах Вял. Айч. вайны загінулі 55 вяскоўцаў, у партыз. і падп. барацьбе — 19 жыхароў. У час акупацыі фашысты загубілі 28 мірных жыхароў, расстралялі 150 чал. яўр. нацыянальнасці. Дзейнічала падп. група. 5.5.1942 г. вёска была часткова спалена (52 двары). Вызвалена ад акупантаў 27.6.1944 г. Каля вёскі ў чэрв. 1944 г. здзейсніў свой подзвіг Герой Сав. Саюза І.А.Мазгавой. У 1944 г. адноўлены калгас (у 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Барэц»), адкрыта школа рабочай моладзі. З 1961 г. цэнтр саўгаса «40 гадоў Кастрычніка», потым калгаса «Аб-



У.М.Марцінкевіч.



Майстар разьбы па дрэве А.А.Гарбуной.



М.Я.Зайцаў.



М.Калачынскі.

чуга». Паводле перапісу 1959 г. 746 жыхароў. У 1998 г. 138 гаспадарак, 323 жыхары. Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, магазін. З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы». Працуюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аптэка, участак раённай электрасувязі, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», комплексна-прыёмны пункт, магазін. Помнік на брацкай магіле, дзе пахаваны 43 воіны і 5 партызан; помнік на магіле 440 ахвяр фашызму, закатаваных 5.5.1942 г. ням.-фаш. акупантамі.

У склад сельсавета ўваходзяць 24 вёскі і 2 пасёлкі.

Вёска — радзіма бел. спартсменкі, засл. майстра спорту К.Карстэн (н. ў 1972 г.).

**АКТАВІЯ** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Каменка—Актавія. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

У сярэдзіне 19 ст. ўпамінаецца як засценак. У 1858 г. належаў Ю.С.Рашкоўскаму. У 1897 г. засценак Актавій у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 68 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 50 жыхароў. З 20.8.1924 г. засценак у складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. зноў Халопеніцкага р-наў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. Паводле перапісу 1926 г. тут 23 двары, 106 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Шлях сацыялізму». У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 28.7.1966 г. ў Жаберыцкім, з сак. 1973 г. ў Ігрушкаўскім сельсаветах. У 1998 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Стараселле». З 2003 г. ў СВК «Старасельскае».



Паспеў новы ўраджай.

**АЛЬШАНІКІ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 13 км на У ад Крупак, 6 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 136 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі—Талачын. З Пн на Пд меліярацыйны канал. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядомы з 17 ст. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў. Да 1649 г. фальварак і сяло Альшанікі належалі Хрысціне Сапега, затым яе мужу Самуэлю Пацу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. моцна разбурана і разрабавана французскімі войскамі, на гэты час належала А.Барташэвічу. У 2-й пал. 19 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1863—67 гг. уладанне Д.Ф.Дашкевіча. У 1873 г. 40 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 150 жыхароў. У 1909 г. 32 двары, 187 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акруг. У 1925 г. адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 37 двароў, 191 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «III з'езд Саветаў», дзейнічала цэглавая арцель «Чырвоная цэгла». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-

хопнікамі. На франтах загінулі 20 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Перамога» (з 1957 г. калгас імя Леніна). У 1959 г. ў вёсцы 121 жыхар, у саўгасе «Бобр» (з 1960 г.). У 1998 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с. На пач. 2010 г. нежылая.

**АСАВЕЦ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 129 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Хацюхова—Асавец. На У лес. 21 гаспадарка, 42 жыхары (2010).

У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць Франца Каржанеўскага, 15 жыхароў, у складзе маёнтка Халопенічы памешчыка Вількіна. У 1870 г. ў складзе Бельскага сельскага т-ва, 10 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 10 двароў, 68 жыхароў. У 1909 г. 86 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Мінскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 16 двароў, 83 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога», які ў 1932 г. налічваў 17 сял. гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1939 г. ў вёску былі пераселены жыхары б. в. Верацея. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 1950 г. ў складзе калгаса «Бальшавік», з 1959 г. ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік», 128 жыхароў (1959). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. У 1998 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у калгасе «Праўда» (з 1963 г.). З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Працуе малочна-таварная ферма.

**АСЕЧАНА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Крупак, 33 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі—Бобр—Чашнікі. Вакол лес. За 2 км ад вёскі з ПнУ на ПдУ меліярацыйныя каналы. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. ў складзе Аршанскага павета ВКЛ. У 1524 г. запісана баярынам Васілём Сенкавічам. Належала кн. Багдану Фёдаравічу Адзінцэвічу. У 1790 г. фальварак у складзе Чарэйскага графства, уладанне Сапегаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, уласнасць Мілашаў. У 2-й пал. 19 ст. тут дзейнічаў вінакурны з-д. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў складзе Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 16 жыхароў. У сак. 1919 г. адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. У 1925 г. тут было 32 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг, з 26.7.1930 г. Чарэйскага, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-наў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Пуцілавец». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. На франтах загінулі 35 жыхароў вёскі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. часткова спалілі вёску (40 двароў) і загубілі 15 мірных жыхароў. Пасля вайны адбудавана, у складзе калгаса «Бальшавік», з 1960 г. ў саўгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 20.1.1960 г. зноў у Крупскім р-не. З 5.5.1962 г. ў Абчугскім с/с. Працавала пач. школа. У 1959 г. 232 жыхары, у 1998 г. 33 гаспадаркі, 47 жыхароў, у калгасе «Касянічы». З 2003 г. ў складзе с.-г. філіяла «Касянічы» КУП «Мінскаблдарбуд—Дарожна-рамонтнае будаўнічае ўпраўленне (ДРБУ) № 164».

**АСІНАЎКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 11 км на Пн ад горада і 16 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—

Асінаўка. На Пн і Пд меліярацыйныя каналы, на З праезджая плаціна. 18 гаспадарак, 42 жыхары (2010).

За 3 км на ПнУ ад вёскі размешчаны курганны могільнік 11—13 ст. (6 насыпаў). Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1713 г. вёска ў Худавецкім войтаўстве маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв., мелася 6 двароў, 1 валока зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенпенскага павета Магілёўскай губ. У 1887 г. уласнасць Э.Ю.Шаўкоўскага, 11 двароў, 67 жыхароў пераважна літ. нацыянальнасці. У 1897 г. налічвалася 18 двароў, 121 жыхар, у аднайменным пасёлку — 5 двароў, 38 жыхароў, на хутары — двор, 6 жыхароў. У 1909 г. вёска Асінаўка (або Літоўцы), 11 двароў, 127 жыхароў, у засценку Асінаўка (ён жа Карповічы) — 4 двары, 25 жыхароў, дзейнічала карчма. У 1912 г. адкрыта земская школа, працаваў вадзяны млын. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў складзе Віцебскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 32 двары, 151 жыхар, адкрыта літоўская пач. школа (у 1930 г. пераўтворана ў беларускую). У 1929 г. налічвалася 29 двароў, 129 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас імя Домбаля, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 19 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Молатава, з 1958 г. ў калгасе імя А.Ф.Колесавай. У 1959 г. — 131 жыхар. З сак. 1973 г. ў Крупскім с/с. Каля вёскі помнік на брацкай магіле 7 воінаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. акупантаў. У 1998 г. 33 гаспадаркі, 47 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК імя Колесавай, з 2008 г. ў с.-г. філіяле «Ротань» КУП «Жылцеплабуд». З 2009 г. ў складзе даччынага КСУП «Ротань».

**АСТРОЎКІ** — вёска ў Абчугскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 153 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі—Бобр—Забор'е. На ПнЗ і ПдУ балоты, на Пн меліярацыйны канал. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Паводле падання, першымі жыхарамі паселішча былі браты Хрыпачы. Яны пабудавалі тут 3 хаты і адну для сваёй маці, так званы Бабін хутар. У канцы 19 ст. сяло ў складзе Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1884 г. ў фальварку Астроўкі адкрыты лесахімічны з-д па вытв-сці шкіпінару (40 рабочых). У 1897 г. 23 двары, 149 жыхароў, ветраны млын. Побач размяшчаўся аднайменны хутар, 1 двор, 12 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў Віцебскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Абчугкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 40 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і знішчылі 13 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 чал. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. 143 жыхары, у 1998 г. 19 гаспадарак, 24 жыхары, у калгасе «Абчуга». З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы». На могілках помнік на магіле партызанкі атрада «За Радзіму», якая загінула 18.12.1943 г.

**БАБАРЫКА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Крупак, 33 км

ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Слабада. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

Паводле падання, паселішча заснавалі стараверы, выхадцы з Расіі. Упершыню згадваецца як Адамаўка. Пасля таго, як Халопеніцкі маёнтак выкупіў пан Халецкі, старaабрадцы перасяліліся на новае месца. У 1885 г. вёска ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., быў малітоўны дом. У 1897 г. тут 26 двароў, 151 жыхар. У 1909 г. 20 двароў, 117 жыхароў, у 1917 г. 40 двароў, 206 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-наў. Паводле перапісу 1926 г. тут 46 двароў, 211 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. налічваў 25 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 32 двары, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1959 г. 172 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Крупскім р-не. З 1992 г. ў калгасе «Халопенічы». У 1998 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе Халопеніцкага пас. Савета. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**БАРАВЕЦ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 18 км на ПдУ ад райцэнтра, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бор—Сакалавічы і далей па прасёлачнай дарозе. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. ў складзе Сакалавіцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, затым з 1927 г. Мінскай і Аршанскай акруг. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1959 г. 72 жыхары. З 1967 г. ў саўгасе (затым калгас) «Бобр». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. ў вёсцы 10 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Крупскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Крупак, 7 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 121 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Усохі—Каменка. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1870 г. тут 38 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 24 двары, 168 жыхароў, у 1909 г. — 31 двор, 94 жыхары мужчынскага і 105 жаночага полаў. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў складзе Віцебскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 48 двароў, 277 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы лад». У 1941 г. налічвалася 44 двары, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. ў час карнай аперацыі пад назвай «Стракаты дзяцел» гітлераўцы прымусілі вяскоўцаў рухацца спераду карнікаў і цаной свайго жыцця разміраваць дарогі. На франтах загінулі 24 жыхары. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Кірава. У 1959 г. 219 жыхароў, у калгасе імя Леніна. У 1998 г. 26 гаспадарак, 53 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

Вёска — радзіма бел. мастака і жывапісца А.П.Ксяндзова (н. ў 1954 г.).



*А.П.Ксяндзоў.*



*А.П.Ксяндзоў. «Алена-1». 2005.*

**БАРКІ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 39 км на ПнЗ ад горада і 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Баркі. 41 гаспадарка, 81 жыхар (2010).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў графстве Халопенічы Барысаўскага павета. У 1877 г. 23 двары, уласнасць Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска маёнтка Халопенічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць Іахіма Храптовіча, 8 дымоў, пазней належала графіні Цітовай. У 1856 г. вёскай валодаў Аляксандр Лапо. Паводле ўстаўной граматы маёнтка за 1862 г., у вёсцы была 31 гаспадарка (22 сял., 4 агароднікі, 5 батракоў). У 1870 г. ў складзе Баркоўскай сельскай грамады і маёнтка Багумідава Марэнда, 103 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 37 двароў, 226 жыхароў. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 58 двароў, 376 жыхароў. У 1917 г. 70 двароў, 420 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Грыцкавіцкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 26.7.1930 г. ў Халопеніцкім, з 8.7.1931 г. ў Крупскім р-нах, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 55 двароў, 290 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава. На 1.1.1932 г. ў калгасе было 67 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 90 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 28 жыхароў, у партыз. барацьбе — 7 чал. З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 16.8.1959 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. З 1958 г. ў калгасе імя Фрунзе, з 1960 г. ў саўгасе (з 1992 г. калгас) «Халопенічы». У 1959 г. 374 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. У 1998 г. — 53 гаспадаркі, 110 жыхароў, уваходзіла ў Халопеніцкі пас. Савет. Дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. Працуе магазін.

**БАРКІ** (Б е л ы я  Б а р к і, Б е л а б о р к і) — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 51 км на Пн ад горада і 46 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 156 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Слабада—Баркі. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца група курганоў, якія ў народзе называюць Французскімі магіламі. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1678 г. вёска ў складзе маёнтка Чарэя, уласнасць падскарбія Бенядзікта Паўла Сапегі ў Аршанскім павеце ВКЛ. У 1713 г. 16 двароў, 5 валок зямлі. У 1760 г. вёска Белаборкі ў Чарэйскім графстве, у закладзе ў віцебскага ваяводы Юзафа Давойны Салагуба, 17 дымоў. Згодна з інвентаром за 1847 г., в. Белыя Баркі ў складзе маёнтка Старожышча, уласнасць паноў Рашкоўскіх, 149 жыхароў. У сак. 1866 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1897 г. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 165 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 33 два-

ры, 227 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акругі. Дзейнічала пач. школа на базе земскай. У 1925 г. тут навучалася 47 дзяцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Баркі». З 8.7.1931 г. у Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 42 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 11 жыхароў, 17 вяскоўцаў — у тыле ворага. З 1950 г. ў калгасе «Шлях Леніна», з 1957 г. ў складзе саўгаса «Сялява». З 20.1.1960 г. зноў у Крупскім р-не, 189 жыхароў. З 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім с/с. У 1998 г. 34 гаспадаркі, 61 жыхар. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с, у межах ландшафтнага заказніка «Сялява».

**БАРОК** — вёска ў Нацкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад горада і 7 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 114 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Нача—Заполле. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1835 г. ўласнасць Міхаіла Каралько. У канцы 19 ст. дзейнічалі карчма, сукнавальня, 2 вадзяныя млыны. З 20.8.1924 г. ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. жыхары вёсак Баркі, Кладзі, Нача аб'ядналіся ў калгас «Новая Нача». З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1959 г. 62 жыхары, у калгасе «Камунар». У 1998 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**БАРСУКІ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 47 км на Пн ад горада і 42 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 156 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Барсукі. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

Вядомы ў 1625 г. як в. Слабада (3 двары) у складзе маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. З 1667 г. ў маёнтку Лісічына, належала кн. Самуэлю Лукомскаму, затым перайшла да яго сына кн. Тэадора Лукомскага. У 1703 г. вёска ў складзе аднаго дыма перададзена ў заклад Генрыху Яну Лямбоўскаму. У 1722—43 гг. ва ўладанні Міхаіла Тамкевіча, затым кн. Лукомскага. У 1772 г. ўласнасць Кістаржэцкага, 5 двароў, з 1775 г. належала Тадэвушу Пшысецкаму, налічвала 17 дымоў, потым знаходзілася ў закладзе ў Кастранецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860 г. вёску набыў Іван Фадзеевіч Вільчынскі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 49 жыхароў мужчынскага полу. Частка насельніцтва займалася ганчарным промыслам і шыццём абутку. У 1880 г. 21 двор, 100 жыхароў, карчма, ветраны млын. У 1897 г. 138 жыхароў, у фальварку — 3 двары, 15 жыхароў, у карчме — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. налічвалася 34 двары, 230 жыхароў, у фальварку — 3 двары, 16 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася пад акупацыяй герм. войск. Да сак. 1924 г. ў Віцебскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальневіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», дзейнічала пач. школа. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У

1941 г. 60 двароў, 227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 мірных жыхароў. На франтах загінулі 17 жыхароў, 9 — у партыз. барацьбе. З 1950 г. ў калгасе «Шлях Леніна», з 1957 г. ў саўгасе «Сялява». У 1959 г. 261 жыхар, 8-гадовая школа, дзе пазней доўгі час размяшчалася турбаза. З 20.1.1960 г. вёска ў Крупскім р-не, з 1.10.1973 г. ў складзе Янаўшчынскага с/с. У 1998 г. 38 гаспадарак, 66 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. Вёска знаходзіцца ў межах рэсп. дзярж. заказніка «Сялява». Працуе магазін.

**БАТУРЫ** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ігрушка—Ваўкавыск—Батуры. З ПнУ на Пд і ПдЗ меліярацыйныя каналы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Засн. каля 1770 г. як засценак у складзе Чарэйскага маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Сапегаў. У 1772—75 гг. знаходзілася ў закладзе ў Ю.Салагуба, 5 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. непадалёку ад паселішча рус. войскі разграмілі французскую дывізію. Пры адступленні французы напалову спалілі вёску. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., дзейнічалі 2 карчмы. У 1884 г. засценак, уласнасць Ю.С.Рашкоўскага. У 1897 г. пасёлак, 7 двароў, 60 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў засценку 13 двароў, 68 жыхароў. У час калектывізацыі жыхары аб'ядналіся ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 16 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. часткова спалілі вёску (13 двароў) і загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах загінулі 29 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Халопеніцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 28 жыхароў, у калгасе «Прызыў». У 1998 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе Ігрушкаўскага с/с. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

**БЕЛАЕ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад горада і 35 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 105 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Хацюхова—Белае. На ПнУ балоты, на Пн меліярацыйны канал. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

Засн. ў 1777 г. як частка маёнтка Халопенічы ў аднайменным графстве Аршанскага павета, уласнасць Храптовіча, 1 двор, 0,5 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў, 50 жыхароў. У 1816 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 55 жыхароў мужчынскага полу. У 1870 г. цэнтр сельскай грамады ў складзе маёнтка Халопенічы памешчыка Вількіна. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 26 двароў, 190 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 245 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 238 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 76 двароў, 216 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 15 вяскоўцаў. Уваходзіла ў калгас «Праўда». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 259 жыхароў. У 1998 г. 21 гаспадарка, 40 жыха-

роў, у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». У вёсцы размешчана малочна-таварная ферма. Працуе Дом сац. паслуг.

Вёска — радзіма двойчы Героя Сав. Саюза, касманаўта У.В.Кавалёнка (н. ў 1942 г.).

**БОБР** — гарадскі пасёлак, цэнтр Бобрскага с/с, на р. Бобр, за 10 км на ПнУ ад Крупак, 2 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 131 км ад Мінска, на аўтадарозе Мінск—Смаленск. 1110 жыхароў (2010).

Назва пасёлка паходзіць ад т.зв. бабровых гонаў, якіх было шмат каля р. Бобр. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў пач. 16 ст. У 1516 г. сяло Бобр было перададзена кн. І.В.Друцкім-Красным у карыстанне жонцы, княгіні Марыне Іванаўне Заслаўскай. З 1559 г. маёнтак Бобр — уладанне пана Е.А.Хадкевіча. У 1561 г. Бобр адышоў да Яна Ераніма Хадкевіча, у 1579 г. да яго сына Аляксандра. Хадкевічы не жылі тут, а здавалі гэта паселішча ў арэнду (заставу). Захаваўся дакумент перадачы Бабра ў заставу швагру Яна Хадкевіча Станіславу Пацу ў 1573 г. У гэты час Бобр — мястэчка ў Аршанскім павеце, 71 дом, гасціны двор, млын. Потым паселішча знаходзілася ў заставе канцлера Л.Сапегі, які перадаў яго ў 1604 г. Станіславу Галінскаму. Абазначана на карце Т.Макоўскага (1613), 49 дымоў. У 1614 г. граф А.Хадкевіч прадаў маёнтак арандатару Крыштофу Комару, мястэчка налічвала ў гэты час 6 вуліц, 172 дамы, гандл. плошчу, дзейнічалі карчма, заезны дом, млын. У 1667 г. цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., млын, карчма. Уладальнік плаціў падатак з 94 дымоў. Пасля смерці К.Комара ў 1636 г. Бобр пераходзіць да Ераніма Комара. З канца 17 ст. мястэчка ва ўладанні Сапегаў. У 1699 г. належала Бенядзікту Сапегу, у гэты час тут дзейнічала уніяцкая царква. У 1700 г. Б.Сапега аддаў Бобр у заклад за 35 тыс. злотых Яну Казіміру Лендарфу, мсціслаўскаму стольніку. Пасля смерці Лендарфа ў 1733 г. маёнтак з прычыны шлюбу Хрысціны Абрамовіч з кн. Марцыянам Агінскім адышоў да Агінскіх. У 1760 г. пабудаваны драўляны касцёл. 1.1.1762 г. мястэчка, уладанне кн. Ігнація Агінскага, атрымала магдэбургскае права і герб: у блакітным полі 2 збройныя постаці ў княжацкіх мантыях і каронах. На гэты час мястэчка — цэнтр маёнтка князёў Агінскіх і каталіцкай епархіі, мела 54 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці. У 1803 г. ўласнасць кн. Міхала Клеафаса Агінскага. У вайну 1812 г. ў Бабры стаяў французскі гарнізон, дзейнічала падпрэфектура. Пры адступленні французскіх войск паселішча было часткова спалена. У ноч з 12-га на 13-га ліст. 1812 г. ў Бабры, у мясц. плябаніі, знаходзіўся імператар Напалеон. У ведамасці ад 2.5.1813 г. аб уроне ад вайны смаленскі губернатарскі пракурор пісаў: «Поелику местечко Бобр и селение на самой большой дороге, то крестьяне в оных некоторые совсем разорены ... многие перемерли, а другие скрылись в неизвестные места, оставя дома». З 1842 г. мястэчка Копыскага павета Магілёўскай губ., ва ўладанні графа Іосіфа Міхала Тышкевіча. У гэтым годзе была пабудавана новая Міка-



*У.В.Кавалёнак.*



*Будынак былога бровара ў г.п. Бобр.*

лаеўская царква. У 1859 г. мястэчка і маёнтак належалі стацкаму саветніку Іосіфу Ванковічу. Знаходзіліся ў закладзе ў графа Тышкевіча, 67 жылых і 29 пустых двароў, 400 жыхароў, у т.л. 182 мужчыны і 218 жанчын. Штогод праводзіўся кірмаш. У 1862 г. пабудаваны мураваны парафіяльны касцёл. Бобрская парафія налічвала больш за 2,5 тыс. вернікаў. У 1863 г. 1113 жыхароў. У 1869 г. ў мястэчку адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 38 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. З 1877 г. ва ўладанні стацкага саветніка А.Ф.Барталамея. У 1880 г. ў мястэчку 264 двары, 2239 жыхароў, цэнтр воласці, дзейнічалі 2 вадзяныя млыны, крупарушка, школа, сельская бальніца, царква, парафія, 2 малітоўныя школы, штогод у маі, вер. і снеж. праводзіліся кірмашы. Частка жыхароў займалася кушнерскім, рымарскім, кравецкім промысламі. У 1885 г. адкрыта паштовае аддз. У 1897 г. — 320 двароў, 2401 жыхар, 3 вадзяныя млыны, гарбарны з-д, 48 крам, паштова-тэлегр. аддз., нар. вучылішча, двухкласная царк.-прыходская настаўніцкая школа, хлебазапасны магазін, царква, парафія, царк.-прыходская школа, капліца, 3 яўр. малітоўныя дамы, заезны дом, тракцір, вінныя крамы, 3 разы ў год праводзіліся кірмашы; лячэбніца, аптэка, 35 гандл. крам, спіртзавод (належаў адстаўному ген. Барталамею), прадпрыемства па вытв-сці піва і фруктовых сокаў Брэйгера. У 1904 г. працавалі цагляныя з-ды братоў Лазінскіх (62 рабочыя) і братоў Пружыніных (53 рабочыя). 27.11.1905 г. ў мястэчку прайшла нелегальная сходка. Праз месяц, 27 снеж. адбыліся сял. выступленні супраць уладальніка маёнтка Барталамея, сяляне самавольна высякалі гаспадарскі лес. У 1907 г. 445 дамоў, 2340 жыхароў. У 1912 г. адкрыта амбулаторыя, дзейнічала грамадства дапамогі бедным яўрэям.



*Мікалаеўская царква ў г.п. Бобр.*

З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў РСФСР. 7.12.1920 г. вал. з'езд Бобрскай вол. падаў заяву ўраду ССРБ з просьбай уключыць у склад Беларусі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Крупскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У 1924 г. была адкрыта яўр. школа (у 1925 г. 71 вучань, 4 настаўнікі). Паводле перапісу 1926 г. 550 двароў, 2500 жыхароў, дзейнічалі млын, лесапільня, яўр. і 7-гадовая школы, фельч.-акушэрскі пункт. Пры няпоўнай сярэдняй школе працавалі шасцімесячныя настаўніцкія курсы. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ніва». У 1930-я г. дзейнічалі слясарная майстэрня «Ударнік», кавальская арцель «Металіст», школа, клуб, пошта, аўчынна-шубная арцель «Чырвоная дубка», дзіцячы дом (выхаванцам быў Герой Сав. Саюза А.С.Люты, вызначыўся і загінуў у баі за г. Мікалаеў). З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл., з 27.9.1938 г. вёска, з 17.2.1941 г. гар. пасёлак. У 1941 г. 530 двароў, 2400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 10.10.1941 г. расстралялі 961 мірнага жыхара пасёлка (пахаваны за 1,5 км ад Бабра). Усяго за гады вайны спалена 390 двароў, загінулі 1237 чал., у т.л. 178 жыхароў на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. У баях за пасёлак здзейсніў свой подзвіг Герой Сав. Саюза В.М.Чабата-

роў. Вызвалены гар. пасёлак 28.6.1944 г. войскамі 3-й гв. танкавай брыгады. Пасля вайны адноўлена арцель «Ударнік», з жн. 1944 г. пачалі дзейнічаць маслазавод і вадзяны млын, пазней электрастанцыя, клуб, хата-чытальня. У 1950 г. калгас далучыўся да калгаса «Перамога» (з 1957 г. імя Леніна), з 1960 г. гар. пасёлак — цэнтр саўгаса «Бобр». У 1969 г. 3 тыс. жыхароў. З 31.3.1977 г. цэнтр пас. Савета. З 18.2.2010 г. цэнтр Бобрскага с/с. У гар. пасёлку ёсць асфальтабетонны з-д, спіртзавод, лесазавод, лясніцтва, філіял Барысаўскага з-да муз. дэталей. Працуюць вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа—яслі-сад, Дом культуры, 2 б-кі, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», урачэбная амбулаторыя, аптэка, 4 магазіны. Дзейнічае Мікалаеўская царква. Каля пасёлка брацкая магіла 140 воінаў, якія загінулі ў чэрв.—ліп. 1944 г. пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў, магіла ахвяр фашызму. У цэнтры — помнік 199 землякам, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Каля будынка школы сквер з помнікам Герою Сав. Саюза В.М.Чабатарову.

Гарадскі пасёлак — радзіма Герояў Сав. Саюза В.А.Князева (1920—68) і М.Дз.Конанава (1906—72; яго імем названа тут вуліца), бел. спартсменкі, майстра спорту па армрэстлінгу А.Бабіцкай (н. ў 1981 г.).

У склад сельсавета ўваходзяць 29 вёсак, 1 пасёлак і 1 гар. пасёлак.

**БОБР** — пасёлак у Бобрскім с/с, за 9 км на У ад Крупак, 1 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Масква—Брэст, 130 км ад Мінска, на аўтадарозе Мінск—Смаленск. 167 гаспадарак, 400 жыхароў (2010).

Узнік у 1920-я г. ў Бобрскім пас. Савеце. З 20.8.1924 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1998 г. пасёлак, працаваў магазін. З 16.12.2009 г. ў Бобрскім с/с. Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны.

**БОБРЫК** — вёска ў Абчугскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 163 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Асечана—Касянічы. На З і ПдЗ меліярацыйныя каналы. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Упамінаецца ў сярэдзіне 18 ст. як вёска маёнтка Чарэя Аршанскага павета, уладанне Сапегаў, знаходзілася ў закладзе Ю.Салагуба. У 1775 г. 12 дымоў. Пасля 1790 г. належала пану Мілашу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 33 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 44 двары, 296 жыхароў. У 1909 г. 275 жыхароў, дзейнічала пач. школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-наў. Працавала пач. школа, у якой у 1925 г. было 54 вучні. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава (44 гаспадаркі). З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 55 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, загубілі 7 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. 182 жыхары, клуб, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка», з 1965 г. ў саўгасе, затым калгасе «Касянічы». У 1998 г. 33 гаспадаркі, 65 жыхароў. З 2003 г. ў складзе с.-г. філіяла «Касянічы» КУП «Мінскаблдарбуд» — «ДРБУ № 164».

**БРЫШЧА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 19 км на З ад горада і 7 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 105 км ад Мінска, каля аўтамагістралі



*В.А.Князеў.*



*М.Дз.Конанаў.*



*А.Бабіцкая.*

Брэст—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Вядома ў канцы 19 – пач. 20 ст. як хутар у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. налічвалася 29 жыхароў. У 1909 г. тут 2 двары, 13 жыхароў. У 1917 г. 3 двары, 18 жыхароў. З 20.8.1924 г. хутар у Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акруг. У 1926 г. на хутары было 5 двароў, 28 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 жыхары вёскі. З 28.7.1954 г. ў Жаберыцкім с/с, які 13.9.1982 г. быў перайменаваны ў Дакудаўскі с/с. У 1960 г. вёска, 21 жыхар, у 1998 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у калгасе «Бальшавік». З 2003 г. ў СВК «Жаберычы», з 2007 г. ў СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў складзе Хацюхоўскага с/с.

**БУДА** – вёска ў Крупскім с/с, за 12 км на Пн ад горада і 17 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Асінаўка. З Пн на Пд праходзіць меліярацыйны канал. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Вядома з 1713 г. як вёска ў Худавецкім войтаўстве маёнтка Чарэя Віцебскага ваяв., 5 валок зямлі, 17 двароў. У 1775 г. знаходзілася ў закладзе ў кн. І.Агінскага, 11 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1859 г. адносілася да маёнтка Юзэфава, уласнасць дзяцей Яўстафія, Івана і Ганны Юзафа Дышлеўскага, у закладзе ў Ф.К.Дышлеўскай, 19 двароў, 129 жыхароў. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 65 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 33 двары, 214 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 33 двары, 107 жыхароў мужчынскага і 118 жаночага полаў. У 1913 г. адкрыта земскае вучылішча. З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, затым Мінскай і Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 49 двароў, 237 жыхароў. У 1927 г. ў час пажару згарэлі 7 двароў. У 1931 г. жыхары вёсак Буда, Ротань, Скародзіца аб'ядналіся ў калгас імя Молатава. На пач. 1932 г. гаспадарка налічвала 37 двароў. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 34 двары, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў, у партыз. барацьбе – 2 чал. У 1959 г. 130 жыхароў, у калгасе імя Колесавай. З 1973 г. ў Крупскім с/с. У 1998 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары. З 2003 г. ў СВК імя Колесавай, з 2008 г. ў складзе с.-г. філіяла «Ротань» КУП «Жылцеплабуд», з 2009 г. ў даччыным КСУП «Ротань».

**БУДА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 35 км на ПнЗ ад горада і 30 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Хацюхова—Прудзец. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. тут 9 двароў, 28 жыхароў, уласнасць І.Храптовіча. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. таго ж павета і губерні, 20 двароў, 121 жыхар. У 1909 г. вёска, 13 двароў, 162 жыхары, у 1917 г. 20 двароў, 140 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 26 двароў, 180 жыхароў. У 1930-я г. жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. На пач. 1932 г. ў калгасе было 7 гаспадарак. З 20.2.1938 г.

ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 35 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 19 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Кірава. З 20.1.1960 г. вёска ў Крупскім р-не, з 9.8.1960 г. ў Халопеніцкім пас. Савеце. У 1959 г. 163 жыхары. З 1966 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Якімаўка». У 1998 г. 28 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае». Непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўка, захавалася некалькі стараж. курганоў (моцна пашкоджаны).

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і 9 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Маслёнка—Каменка. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як в. Гапонавічы (яна ж Бярозаўка) у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. 23 двары, 144 жыхары. У 1909 г. тут 26 двароў, 178 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 36 двароў, 195 жыхароў, дзейнічала хата-чытальня. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Полымя». У 1932 г. меў 14 гаспадарак. У 1941 г. 69 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных вяскоўцаў. На франтах загінулі 35 жыхароў. З 1950 г. вёска ў калгасе імя Кірава (з 1951 г. імя Леніна). З 1960 г. ў складзе Крупскага с/с, 301 жыхар. У 1998 г. 43 гаспадаркі, 7 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**БЯРОЗКА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 59 км на ПдУ ад Крупак, 49 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Ухвала—Бярозка. На Пн балоты, з ПнЗ на ПдУ працякае р. Можа. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. тут 11 двароў, 76 жыхароў. На 1917 г. налічвалася 10 гаспадарак, 71 жыхар. З 20.8.1924 г. ў складзе Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічаў смолазавод. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 19 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі 13 двароў, загубілі 80 мірных жыхароў. У гады акупацыі вёска знаходзілася ў Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоне, непадалёку базіраваўся Крупскі падп. райком партыі. У 1944 г. партызаны пабудавалі тут мост цераз р. Можа для пераправы часцей наступаючай Чырвонай Арміі. Вызвалена вёска 28.6.1944. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска ў саўгасе «Новая ніва», потым у калгасе «Ніва». У 1998 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Каля вёскі ў 1965 г. ўстаноўлены помнік у гонар Крупскага падп. райкома КП(б)Б. У наваколлі вёскі захаваўся стараж. курганны могільнік з 6 насыпамі.

**ВАЎКАВЫСК** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад горада і 23 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі—Ігрушка—Узнацк. 36 гаспадарак, 86 жыхароў (2010).

Вядомы з пач. 19 ст. У вайну 1812 г. непадалёку ад вёскі рус. войскі ген. Уластава і Гарне атакавалі французскае войска і разграмілі яго ар'ергард, у палон узята 1500 французаў. Пры адступленні французы часткова спалілі і разрабавалі вёску. На гэты час паселішча

належала С.Рашкоўскаму. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. Значную частку насельніцтва вёскі складалі стараверы. У 1897 г. тут 33 двары, 209 жыхароў, дзейнічалі малітоўны дом старавераў, царк.-прыходская школа. У 1909 г. землеўладанне мяшчан, 18 двароў, 112 жыхароў, царква. У 1912 г. была адкрыта земская школа. У лютым–ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ва Узнацкім с/с Халапеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 37 двароў, 191 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Новы шлях». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халапеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 мірных жыхароў. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Халапеніцкім с/с, з 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 92 жыхары (1960). Пазней вёска ўвайшла ў склад Ігрушкаўскага с/с і калгаса «Прызыў». У 1998 г. 40 гаспадарак, 109 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Старасельскае». Працуе ўстанова адукацыі «Узнацкая сярэдняя школа».



*А.М.Ганчарэнка.*

*Уборка бульбы.*



**ВЕРСАНКА** (П а д у з н а ц к) – вёска ў Халапеніцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Ігрушка–Халапенічы. На Пд меліярацыйны канал. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Вядома з сярэдзіны 19 ст. як в. Падузнацк у складзе маёнтка Халапенічы ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У сак. 1866 г. яе жыхары па выкупным акце набылі ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халапенічы, зямельныя надзелы. У 1897 г. тут 17 двароў, 129 жыхароў. У 1918 г. ў вёсцы было 24 двары, 177 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Халапеніцкім с/с Халапеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. вёска Падузнацк, 30 двароў, 193 жыхары. У час калектывізацыі створаны калгас «Гігант». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халапеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 37 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады акупацыі дзейнічала падп. маладзёжная арг-цыя. За гады вайны загінулі 13 вяскоўцаў. Пасля вызвалення ў складзе саўгаса (затым – калгас) «Якімаўка». З 20.1. 1960 г. ў Крупскім р-не, 194 жыхары (1960). У 1998 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў, у Халапеніцкім пас. Савеце. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае». З 30.12.2009 г. ў Халапеніцкім с/с.

Вёска – радзіма бел. фізіка, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі, акадэміка НАН Беларусі А.М.Ганчарэнкі (н. 2.1. 1933 г.).

**ВЕСЯЛОВА** – вёска ў Халапеніцкім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Крупак, 32 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 142 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Халапенічы–Баркі. З Пн на Пд працякае

р. Нача, на ПдЗ балоты. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 ст. як вёска ў складзе маёнтка Халопенічы Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, затым Мінскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Будаўнік культуры». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 25 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 жыхар. У 1959 г. 62 жыхары. З 1960 г. вёска ў саўгасе (затым — калгас) «Халопенічы». У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Культурнік. У 1998 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы».

**ВІКТОЛІНА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Крупак, 14 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Віктоліна. З ПдЗ на ПнУ лес; на З, ПнЗ і У балоты і меліярацыйныя каналы. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як засценак у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 6 жыхароў мужчынскага полу. Непадалёку знаходзіліся 2 аднайменныя пасёлкі, 4 двары, 27 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 30 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў складзе Шэйкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 12 двароў, 74 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Дзяржынскага. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 жыхары вёскі. У 1959 г. 86 жыхароў, у калгасе імя Дзяржынскага. З 1967 г. ў саўгасе «Колас». У 1998 г. 31 гаспадарка, 3 жыхары. З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**ВОСАВА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Крупак, 6 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 141 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Восава. За 2 км на З ад вёскі гаць цераз р. Еленка, на У і ПдУ балоты. З ПнУ на З лес. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 18 двароў, 119 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 17 двароў, 158 жыхароў. Да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Сакалавіцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 28 двароў, 160 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава. У 1932 г. ў калгасе было 13 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 10 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 28 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Сталіна (у 1959 г. перайменаваны ў калгас імя Свярдлова). З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1960 г. 111 жыхароў, у саўгасе «Бобр». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». Каля вёскі помнік на ўшанаванне памяці 77 землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік-абеліск, камень з рэльефнай выявай воіна; 3 стэлы з мармуровымі дошкамі з імёнамі загінуўшых.

**ВОСАВА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 20 км на З ад Крупак, 11 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 100 км ад Мінска. Транспартныя

сувязі па аўтадарозе Крупкі—Брышча—Восава. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі гаць цераз р. Мужанка. 27 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 17 ст. У 1670 г. ўпамінаецца як засценак Замкавай вол. Барысаўскага староства. У 1765 г. засценак с. Дакудава таго ж староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 34 двары, 198 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. тут 46 двароў, 303 жыхары, на аднайменным хутары — 3 двары, 20 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім (Жаберыцкім) с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 59 двароў, 338 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы арганізаваліся ў калгас «Новы шлях». У 1920-я г. адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, дзейнічаў клуб. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 50 двароў, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 мірных жыхароў. На франтах загінулі 22 вяскоўцы. З 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». З 21.5.1951 г. вёска ўваходзіла ў Нацкі, затым Малажаберыцкі сельсаветы. У 1960 г. 260 жыхароў. З 13.9.1982 г. ў Дакудаўскім с/с. У 1998 г. 46 гаспадарак, 89 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Жаберычы». У 2007 г. 31 гаспадарка, 63 жыхары, у складзе СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім с/с.



*Лясныя жыхары Крупшчыны.*

**ВОСТРАВА** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ігрушка—Вострава (уезд у вёску цераз гаць). На ПнЗ, Пд і ПдУ лес, балоты. З ПнУ на Пд сетка меліярацыйных каналаў. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Вядома з сярэдзіны 18 ст. як сяло ў складзе маёнтка Шыйка Аршанскага павета Віцебскага ваяв., уласнасць Сангушкаў. У 1745 г. тут 20 двароў, дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. адносілася да маёнтка Стараселле Копыскага павета Магілёўскай губ., належала Льву Стахоўскаму, 160 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць Стахоўскіх. У 1909 г. 32 двары, 362 жыхары, школа граматы. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 56 двароў, 356 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Востраў». У 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 43 двары, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 17 вяскоўцаў. У 1959 г. 133 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Сталіна». У 1998 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў, у саўгасе «Грушаўскі». З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра».

**ВОСТРАВА** — вёска ў Нацкім с/с, за 10 км на З ад горада і 5 км ад чыг. ст.

Крупкі на лініі Брэст–Масква, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Вострава. Вакол лес. За 0,5 км на З ад вёскі працякае р. Нача. 36 гаспадарак, 64 жыхары (2010).

На пач. 20 ст. вядома як маёнтак у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. тут 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 10 двароў, 40 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Вейніца аб'ядналіся ў калгас імя Молатава. У студз. 1932 г. ў ім налічвалася 18 гаспадарак. З 20.8.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1940 г. 42 двары, 191 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гэты час дзейнічала падп. група. Вызвалена 28.6.1944 г. воінамі 11-й гв. арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 25 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе «Камунар». У 1959 г. 230 жыхароў. У 1998 г. 47 гаспадарак, 77 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**ВЫДРЫЦА** – вёска ва Ухвальскім с/с, на р. Бобр, за 21 км на ПдЗ ад горада і 17 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 122 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Бобр–Сакалавічы–Выдрыца. Вакол лес, на ПдЗ балоты. 83 гаспадаркі, 148 жыхароў (2010).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Ляхаўка, знаходзіцца курганны могільнік – помнік археалогіі 9–13 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяло ў Забаброўскай вол. Барысаўскага староства. У 1670 г. тут 17 двароў, казённая ўласнасць. У 1774 г. сяло належала княгіні Алене Агінскай, 16 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. сяло ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 22 двары, 280 жыхароў, млын, сукнавальня, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1861 г. пабудавана драўляная царква. У 1866 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. вучыліся 41 хлопчык і 4 дзяўчынкі. У 1885 г. 42 двары, 478 жыхароў, царк. прыход. У 1897 г. 63 двары, 679 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905–07 гг. 26.10.1906 г. адбываліся сял. хваляванні, вяскоўцы аказалі супраціўленне паліцыі пры спробе адабраць у іх ружжы. У 1908 г. тут 74 двары, 427 жыхароў. У 1917 г. 98 двароў, 601 жыхар, прац. школа (у снеж. 1920 г. 109 вучняў). У лютым–ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. сяло – цэнтр Выдрыцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа. У 1924 г. было створана сельскае т-ва ўзаемадапамогі. Паводле перапісу 1926 г. 144 двары, 656 жыхароў, пач. школа, у якой у 1925 г. навучаліся 57 вучняў, працавалі 2 настаўнікі. У 1929 г. створаны калгас «Трактар». У студз. 1932 г. налічваў 45 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 114 двароў, 586 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. партызаны 128-га, 227-га партыз. атрадаў, а таксама атрада імя Варашылава разгра-



*Вяселле з элементамі нацыянальных традыцый на Крупшчыне.*

мілі ў вёсцы ням. гарнізон. Пры разгроме ўдзельнічалі дыверсійныя групы Л.І.Спрогіса і А.Ф.Колесавай (загінула, пасмяротна ёй прысвоена званне Героя Сав. Саюза). У чэрв. 1944 г. вёска амаль поўнасцю была спалена. У час вайны фашысты знішчылі 35 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 71 вясковец. У 1944 г. пачаў працаваць фельч.-акушэрскі пункт, у 1946 г. — хата-чытальня. У 1950 г. ў Выдрыцу пераселены жыхары вёсак Гаць, Маладзілава. У 1959 г. налічвалася 595 жыхароў, у 1970 г. 137 двароў, 526 жыхароў. У 1998 г. 102 гаспадаркі, 228 жыхароў, цэнтр калгаса імя Кірава. Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін; лясніцтва. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с. Працуюць комплексна-прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. У цэнтры вёскі брацкая магіла 6 воінаў і партызан, помнік на месцы гібелі А.Ф.Колесавай у Вял. Айч. вайну. Помнік на ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў гады вайны.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 35 км на Пн ад горада і 40 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Прошыка—Малінаўка і далей па прасёлачнай дарозе. На паўн. узбярэжжы воз. Сялява, на ПдУ балоты і лес. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Салагуба. У 1772 г. налічвалася 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. значыўся фальварак Высокае, 4 двары, 48 жыхароў. На пач. 20 ст. 14 жыхароў мужчынскага і 13 жаночага полаў. З 20.8.1924 г. вёска ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У 1930-я г. жыхары вёсак Высокае і Малінаўка аб'ядналіся ў калгас «Іскра». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 20 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. У пасляваен. час вёска ў Вялікахальнявіцкім с/с і калгасе «Авангард». У 1959 г. было 46 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў складзе Крупскага р-на. З 14.9.1972 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе КСУП «Квеціна». Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

**ВЯЛІКАЕ ВОСАВА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад горада і 32 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Хацюхова—Вялікае Восава. 56 гаспадарак, 128 жыхароў (2010).

Вядома як паселішча з 1775 г., тут 2 двары, належала плябаніі Барысаўскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) вёска ў Рас. імперыі. У 1795 г. тут 7 двароў, 62 жыхары. У 2-й палове 19 — пач. 20 ст. ў складзе Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 28 двароў, 181 жыхар, касцёл. У 1910 г. пачала працаваць земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 31 двор, 179 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёскі Восава і Малое Восава ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. У 1926 г. ў в. Восава 31 двор, 177 жыхароў, у в. Малое Восава 12 двароў, 59 жыхароў. Дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 70 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1930 г. арганізава-

ны калгас «Бальшавік». У студз. 1932 г. налічваў 57 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1939 г. да в. Вялікае Восава далучаны хутары Паўтарашчына, Ганчароў, Скалубовічаў, Свірыдаўка, Петрыкаў, Вавільсон. У 1941 г. 49 двароў, 244 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 14 мірных жыхароў. У час бамбёжкі 24.6.1941 г. загінулі 5 вяскоўцаў. У чэрв. 1944 г. вёска была спалена. У гады акупацыі дзейнічала падп. група. Вызвалена 28.6. 1944 г. На франтах загінулі 45 чал., у партыз. барацьбе — 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 206 жыхароў (1960). З 1963 г. цэнтр калгаса «Праўда». У 1998 г. 96 гаспадарак, 195 жыхароў, базавая школа. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Ёсць малочна-таварная ферма. Працуюць дзіцячыя яслі-сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ВЯЛІКАЕ ГОРАДНА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 50 км на ПдЗ ад Крупак, 32 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 107 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Выдрыца—Вялікае Горадна. На ПнУ балоты, вакол лес. 58 гаспадарак, 136 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі да нашых часоў захаваліся археал. помнікі — курганы, могільнік, гарадзішча (за 0,1 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Замак; 6 ст. да н.э. — 7 ст. н.э.), адкрытыя яшчэ ў 1883 г. Ф.В.Пакроўскім. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з пач. 16 ст. У 1517 і 1526 гг. ням. дыпламат і падарожнік Сігізмунд Герберштэйн ездзіў з пасольствам у Маскву і праязджаў праз Горадна. Сваё падарожжа ён апісаў потым у кн. «Запіскі аб Масковіі». Звесткі аб Горадне маюцца таксама на картах В.Градзецкага і А.Паграбіўса. У 1670 г. вёскі Вышняе Горадна і Горадна — па 6 дымоў — ва ўласнасці казны, у Забаброўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1773 г. вёскі Горадна Верхняе (18 дымоў) і Горадна Ніжняе (5 дымоў). У 1775 г. Горадна Вялікае і Малое ў Барысаўскім старостве, 24 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёскі Верхняе Горадна (21 двор, 339 жыхароў, млын) і Ніжняе Горадна (17 двароў, 139 жыхароў) у Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. вёска Вялікае Горадна, 46 двароў, 582 жыхары, хлебазапасны магазін. Непадалёку знаходзіліся 2 аднайменныя хутары, 26 жыхароў. У 1909 г. вёска Горадна Вышняе, 58 двароў, 426 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў складзе Выдрыцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 96 двароў, 505 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Зорка». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 79 двароў, 437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 17 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 62 вяскоўцы. Вёска была амаль поўнасцю спалена. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. вёска, 491 жыхар, у калгасе «Пралетарская Перамога». У 1998 г. 82 гаспадаркі, 210 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». З 30.12. 2009 г. ва Ухвальскім с/с. Дзейнічаюць Выдрыцкае лясніцтва дзярж. установы «Крупскі лясгас», Выдрыцкае ваен. лясніцтва дзярж. установы «Крупскі ваенны лясгас». Працуюць б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт.

**ВЯЛІКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Крупскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад горада і 3 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 120 км ад Мінска, каля аўтадарогі Талачын—Крупкі. На Пд і З лес. 102 гаспадаркі, 260 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1775 г. належала шляхціцу Тарнаўскаму, 10 двароў. У 1780 г. яго сыны Францішак і Ян падзялілі спадчыну ў вёсках Малая Слабада і Вялікая Слабада. У вайну 1812 г. разрабавана французамі, у гэты час уласнасць І.Тарнаўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 32 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 17 двароў, 142 жыхары. У 1909 г. 17 двароў, 53 жыхары мужчынскага і 61 жаночага полаў. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. Да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930 г. жыхары вёсак Вялікая Слабада, Малая Слабада, Усохі аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава. У студз. 1932 г. ў ім было 17 гаспадарак. Дзейнічала хата-чытальня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 54 двары, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 19 жыхароў вёскі. У 1959 г. 237 жыхароў, з 1962 г. ў калгасе «Перамога» (з 1985 г. імя Леніна). У 1998 г. 119 гаспадарак, 253 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». Працуюць б-ка, магазін, кафэ, ферма, аўтазаправачная станцыя.

**ВЯЛІКІ ВЯЗОК** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 35 км на Пд ад Крупак, 26 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 145 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Ухвала—Вялікі Вязок. З Пн на ПдУ працякае р. Можа. На Пн, У і Пд лес. 30 гаспадарак, 38 жыхароў (2010).

Вядомы з 1772 г. як засценак (3 двары) у складзе Барысаўскага маёнтка князёў Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1816 г. вёска Вязок у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 65 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1897 г. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета, 30 двароў, 223 жыхары, дзейнічаў казённы смалакурны з-д. У 1909 г. 40 двароў, 300 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 60 двароў, 379 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска Вязок у складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 54 двары, 255 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «VII з'езд Саветаў». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 53 двары, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. вёскі Вялікі і Малы Вязок акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 22 жыхары абедзвюх вёсак. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Молатава, затым у калгасе «Іскра». З 1959 г. ў саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 44 гаспадаркі, 80 жыхароў, у саўгасе «Дзянісавічы». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12. 2009 г. ва Ухвальскім с/с.

**ВЯЛІКІ КАМЕНЕЦ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 29 км на Пн ад горада і 30 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Вялікі Каменец. На ПдЗ балота, на Пн і ПнЗ сетка меліярацыйных каналаў. 30 гаспадарак, 49 жыхароў (2010).

Да 1604 г. вядомы як маёнтак Камянец, які належаў кн. Івану Барысавічу Лукомскаму, затым перайшоў у валоданне да канцлера ВКЛ Льва Сапегі. У 1678 г. сяло Камянец у складзе маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, належала Даменіку Паўлу Сапегу. З 1713 г. вёска Камянец Стары ў Худавецкім войтаўстве маёнтка Чарэя, мелася 10 валок зямлі, 35 гаспадарак. У 1745—75 гг. фальварак у закладзе ў жа-

мойцкага кашталяна Юзафа Давойны Салагуба. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска Вялікі Каменец у Сенненскім павеце Магілёўскай губ., у складзе маёнтка Старожышча, уласнасць памешчыкаў Рашкоўскіх. Паводле інвентару за 1847 г. у вёсцы было 22 двары, 149 жыхароў, мелася 36 коней, 24 валы, 37 кароў, 105 авечак. У канцы 19 ст. ў Лісічанскай вол. таго ж павета і губерні. У 1873 г. вёска Каменец, 77 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 53 двары, 296 жыхароў, дзейнічала школа граматы, у аднайменным фальварку – 1 двор, 6 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы 50 гаспадарак, 167 жыхароў мужчынскага і 173 жаночага полаў. У 1917 г. в. Вялікі Каменец, 53 двары, 325 жыхароў. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 63 двары, 332 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Леніна. У 1932 г. аб'ядноўваў 68 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 41 двор, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 21.5.1951 г. ў Дубаўскім с/с, у саўгасе (пазней – калгас) «Дуброўка». У 1959 г. ў вёсцы 260 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 28.7. 1966 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 47 гаспадарак, 87 жыхароў, магазін, малочна-таварная ферма. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**ВЯЛІКІ ЛЕС** – вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на У ад Крупак, 3 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 136 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Бобр–Чарняўка. Вакол лес, на Пд балоты. 30 гаспадарак, 77 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 19 – пач. 20 ст. як хутар у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 13 жыхароў. У 1909 г. засценак, 8 двароў, 25 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў складзе Сакалавіцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 14 двароў, 86 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У студз. 1932 г. ў ім налічвалася 18 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 16 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Сталіна, які ў 1959 г. перайменаваны ў калгас імя Свярдлова. З 16.7.1954 г. ў складзе Бобрскага с/с. У 1960 г. 155 жыхароў, у саўгасе «Бобр». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**ВЯЛІКІЯ ЖАБЕРЫЧЫ** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 34 км на З ад горада і 21 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Брышча–Вялікія Жаберычы (пры ўездзе ў вёску гаць). З Пн на Пд працякае р. Нача, лясістая мясцовасць, на Пн меліярацыйны канал. 29 гаспадарак, 60 жыхароў (2010).

За 3 км ад вёскі, ва ўрочышчы Прыстань, знаходзіцца курганны могільнік – помнік археалогіі, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкія часы. У пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца ў 1641 г. з нагоды размежавання Халопеніцкай і Барысаўскай зямель. У гэты час вядома як сяло ў Замкавай вол. Барысаўскага старости, 8 двароў. У 1764 г. сяло, 11 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў вёсцы 18 двароў, 176

жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У вайну 1812 г. была спалена. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., у складзе маёнтка Старабарысаў, які належаў вял. кн. Мікалаю Мікалаевічу. У 1897 г. 50 двароў, 327 жыхароў, капліца на аднайменным хутары — 5 двароў, 53 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 57 двароў, 372 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 66 двароў, 436 жыхароў, школа граматы (з 1911 г.), на хутары — 10 двароў, 71 жыхар. У лютым—ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1926 г. налічвалася 90 двароў, 476 жыхароў, працавала пач. школа (у 1925 г. 49 вучняў). У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Урыцкага. Старшыня калгаса А.М. Моніч быў рэпрэсіраваны і расстраляны ў ліст. 1937 г. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 96 двароў, 390 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 35 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Панамарэнкі, з 1958 г. ў калгасе «За мір». У 1959 г. вёска, 273 жыхары, у калгасе «Бальшавік». З 13.9.1982 г. ў Дакудаўскім с/с. У 1998 г. 43 гаспадаркі, 92 жыхары. З 2003 г. ў СВК «Жаберычы». З 2007 г. ў складзе СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім с/с. У вёсцы размешчана ферма.

**ВЯЛІКІЯ ХАЛЬНЯВІЧЫ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 48 км на Пн ад горада і 52 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Вялікія Хальнявічы. На Пд воз. Абіда, звязанае пратокай з воз. Сялява і з якога выцякае р. Югна. На Пн лес і балоты. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2010).

Вядомы з сярэдзіны 16 ст. як сяло, уласнасць князёў Лукомскіх. Адзін з іх (А.А.Меляшэўскі) валодаў сялом у 1554 г. У 17—18 ст. у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Сапегаў. У 1771 г. ў складзе фальварка Горы, які знаходзіўся ў закладзе ў Юзафа Салагуба. Згодна з інвентаром фальварка, на гэты час у вёсцы было 36 двароў, 170 жыхароў мужчынскага полу, 24 валокі ворнай зямлі. Сяляне павінны былі адпрацоўваць штогод 71 дзень паншчыны і выплочваць штогадовы чынш у памеры 328 злотых і 27 грошаў. На двор у сярэднім прыходзілася па $^{2}/_{3}$ валокі, павіннасці складалі 2 дні паншчыны і каля 9 злотых чыншу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 119 жыхароў мужчынскага полу, частка якіх займалася шавецкім, кавальскім і адыходным промысламі. У 1880 г. 49 двароў, 294 жыхары. У 1897 г. сяло, 66 двароў, 317 жыхароў, дзейнічалі вадзяны млын з крупарушкай, хлебазапасны магазін, драўляная царква. Пад час рэвалюцыі 1905—07 гг. 23.4.1905 г. сяляне вёсак Хальневічы, Худава і Калодніца разбурылі ў памешчыцкім маёнтку плаціну і млын. У 1907 г. была адкрыта земская школа, у якой у першы год яе работы навучаліся 45 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 75 двароў, 245 жыхароў мужчынскага і 233 жаночага полаў. У 1917 г. 61 двор. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася пад акупацыяй герм. войск. У чэрвені гэтага года партызаны напалі на варожы атрад, які размяшчаўся ў вёсцы. У 1919 г. ў былым маёнтку створаны саўгас. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Вялікахальнявіцкага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў

ей было 62 вучні. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік» (30 гаспадарак). З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 23 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. воінамі 3-га Бел. фронту. На франтах загінулі 24 вяскоўцы. З 1950 г. ў калгасе імя Малянкова, з 1957 г. ў саўгасе «Сялява». У 1959 г. ў вёсцы 363 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім с/с. У 1998 г. 48 гаспадарак, 91 жыхар. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. Каля вёскі помнік на брацкай магіле 93 воінаў і партызан, у цэнтры — помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Працуе дзіцячы спарт. аздараўленчы лагер. Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

**ВЯРШОЎКА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад горада і 31 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Хацюхова—Вяршоўка. На Пд і ПдЗ лес. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як вёска і фальварак у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1882 г. ў фальварку засн. лесапільны з-д. У 1884 г. на ім працавалі 11 рабочых, дзейнічаў паравы рухавік. У 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 180 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 188 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Кагановіча. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 25 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 жыхары вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Кірава. У 1959 г. налічвалася 128 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў складзе Крупскага р-на, з 9.6.1960 г. ў Халопеніцкім с/с, у саўгасе «Халопенічы». З 1964 г. ў Халопеніцкім пас. Савеце, у саўгасе «Прызыў». У 1998 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у саўгасе «Якімаўка». З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ГАЛЬКІ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад горада і 33 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ігрушка—Вяслова. На ПнЗ і ПдУ балоты, каля р. Нача. 56 гаспадарак, 158 жыхароў (2010).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў складзе маёнтка Халопенічы ў Халопеніцкай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1578 г. было прададзена Станіславам Станіслававічам Шэметам кн. Андрэю Іванавічу Вішнявецкаму, потым яго дочкі прадалі сяло назад. У 1594 г. перададзена Мальхердам Войцехавічам Шэметам у пажыццёвае валоданне жонцы, Ганне Янушэвіч. У 1620 г. сяло адносілася да маёнтка Халопенічы, 27 двароў, з іх 13 належалі пану Валатковічу, 14 — пану Нонгарту, пазней уласнасць Міхала Млечкі. У 1777 г. (27 двароў) у графстве Халопенічы Аршанскага павета, уласнасць Храптовічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. ўваходзіла ў землі Халопеніцкага дамініканскага кляштара. У 1862 г. ў складзе маёнтка Халопенічы, 48 двароў, у т.л. 40 сял., 2 — агароднікаў, 6 — батракоў. У сак. 1866 г. вяскоўцы па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1880 г. 49 двароў, 235 жыхароў, частка сяла належала І.Храптовічу, другая — Халопеніцкаму дамініканскаму касцёлу. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучаліся 10 хлопчыкаў. У 1897 г. ў складзе Халопеніцкай

вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 73 двары, 454 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 43 двары, 618 жыхароў. У 1910 г. ў школе навучаліся 53 вучні. У 1917 г. 83 двары, 548 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 99 двароў, 542 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Будаўнік культуры». У студз. 1932 г. ў ім былі 34 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 38 жыхароў вёскі. У 1959 г. вёскі Галькі 1 (133 жыхары) і Галькі 2 (254 жыхары) у Халопеніцкім пас. Савеце. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у саўгасе (з 1992 г. калгас) «Халопенічы». Да 1993 г. ў вёсцы дзейнічаў філіял Крупскага пладова-агародніннага з-да. У 1998 г. 75 гаспадарак, 269 жыхароў, пач. школа. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. Працуюць бібліятэка-клуб, магазін, Дом сац. паслуг.

**ГАНЬКАЎКА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад горада і 35 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі—Хацюхова—Прудзец. На Пн лес і меліярацыйны канал. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Вядома з 1816 г. як засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць графа Храптовіча. У 1844 г. ў складзе маёнтка Халопенічы, уладанне памешчыцы Цітовай, 5 двароў. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., вёска – 8 двароў, 53 жыхары і пасёлак – 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. 61 жыхар, у 1917 г. 10 двароў, 62 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 13 двароў, 69 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 25 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 мірных жыхароў. У 1959 г. ў вёсцы 106 жыхароў, у Халопеніцкім пас. Савеце. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 1966 г. ў саўгасе «Якімаўка». У 1998 г. 27 гаспадарак, 61 жыхар. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ГАПОНАВІЧЫ** – вёска ў Крупскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і 9 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Гапонавічы. 100 гаспадарак, 295 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 17 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1650 г. маёнтак Гапонавічы (або Грушка Гапонаўская), уладанне памешчыкаў Падбярэзскіх. У 1667 г. ўладальнік Самуэль Падбярэзскі плаціў падатак з 15 дымоў, 9 дымоў трымаў у якасці апекуна кагосьці са сваіх родзічаў. У тарыфе падымнага падатку за 1703 г. Гапонавічы згадваюцца падзеленымі на 3 часткі. У 1775 г. ў вёсцы было 18 двароў, уладанне Падбярэзскіх. У тарыфе за гэты год наз. саўладальнік Гапонавіч пан Тарнаўскі. У 1780 г. яго сыны Францішак і Ян падзялілі спадчыну ў Гапонавічах і вёсках Малая і Вялікая Слабада. У 1792 г. Ян Тарнаўскі прадаў 3 сял. сям'і і 3 валокі зямлі ў в. Гапонавічы за 6 тыс. злотых Ігнацію Вержбалоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і разбурана французамі пры іх адступленні. У 1873 г. паселішча атрымаў у спадчыну Людвіг Станіслававіч Мілеўскі. На гэты час вёскі Гапонавічы 1 (45 жыхароў мужчынска-

га полу), Гапонавічы 2 (31 жыхар мужчынскага полу) у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. Частка насельніцтва займалася ганчарным промыслам. З 1880 г. фальварак, уласнасць Вітольда Мацвеевіча Рогаўскага. У 1884 г. 19 двароў, 105 жыхароў, дзейнічала царква, карчма, хлебазапасны магазін. У 1892 г. ў фальварку Гапонавічы запрацаваў паравы млын (у 1895 г. 3 рабочыя). У 1897 г. вёска (30 двароў, 199 жыхароў, царква) і 2 фальваркі (49 жыхароў, паравы млын, заезны дом). У 1909 г. 19 двароў, 47 жыхароў мужчынскага і 41 жаночага полаў, фальварак — 1 двор, 27 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 40 двароў, 242 жыхары, у былым маёнтку — 9 двароў, 52 жыхары. Непадалёку знаходзіўся аднайменны хутар. Працавала пач. школа. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Ленінец», які ў 1932 г. налічваў 35 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 56 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 24 жыхары. У 1951 г. вёска ў калгасе імя Леніна. У 1959 г. ў вёсцы 238 жыхароў, на аднайменным хутары — 168 жыхароў. Пры школе працуе краязнаўчы музей. У 1998 г. 126 гаспадарак, 348 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 2004 г. аграгарадок, у складзе ААТ «Крупскі райаграсэрвіс». Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—пач. школа, клуб-бібліятэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, вытв. будынкі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У скверы помнік на ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза М.К.Казлоўскага (1917—43), які загінуў у кастр. 1943 г. пры вызваленні Украіны.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 35 км на ПнЗ ад горада і 30 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Гарадзішча. З ПнУ на ПдУ сетка меліярацыйных каналаў, працякае р. Эса. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. ў складзе Халопеніцкага графства. У 1775 г. вёска, у якой 1 двор і 13 жыхароў належалі Храптовічу; 2 двары, 88 жыхароў — дамініканскаму манастыру; 2 двары, 12 жыхароў — царкве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1844 г. ўладанне пані Цітовай, 8 двароў, 82 жыхары. У 1866 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1870 г. вёскі Гарадзішча 1 (31 жыхар мужчынскага полу) і Гарадзішча 2 (11 жыхароў мужчынскага полу) у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1880 г. частка вёскі належала І.Храптовічу, другая (5 двароў, 33 жыхары) — Халопеніцкаму дамініканскаму касцёлу і уніяцкай царкве. У 1897 г. ў в. Гарадзішча 1 — 14 двароў, 86 жыхароў, у в. Гарадзішча 2 — 4 двары, 26 жыхароў, у в. Гарадзішча 3 — 6 двароў, 54 жыхары, у выселку Гарадзішча 4 — 6 двароў, 41 жыхар. У 1917 г. Гарадзішча 1 налічвала 12 двароў, 60 жыхароў, Гарадзішча 2 — 9 двароў, 65 жыхароў, Гарадзішча 3 — 8 двароў, 57 жыхароў, Гарадзішча 4 — 8 двароў, 69 жыхароў. З 20.8.1924 г. ва Узнацкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсках Гарадзішча 1 — 12 двароў, 79 жыхароў, Гарадзішча 2 — 9 двароў, 58 жыхароў, Гарадзішча 3 — 11 двароў, 66 жыхароў,



*М.К.Казлоўскі.*

Гарадзішча 4 — 16 двароў, 75 жыхароў. У 1930 г. вёскі аб'ядналіся ў адну — в. Гарадзішча, арганізаваны калгас «Звязда». Ворагі сав. улады забілі старшыню калгаса Р.Рабца. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 22 вяскоўцы. З 1950 г. ў калгасе «Новае жыццё». З 21.5.1951 г. вёска ў Халопеніцкім с/с (пазней — у пас. Савеце). З 26.8. 1959 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 295 жыхароў (1960), у саўгасе «Халопенічы». У 1998 г. 42 гаспадаркі, 104 жыхары, у калгасе «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**ГЛІНАЎКА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 49 км на Пн ад горада і 44 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Глінаўка. На У і ПдУ меліярацыйныя каналы. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вядома з 1772 г. як вёска ў Аршанскім павеце, знаходзілася ў закладзе ў пана Салагуба, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1873 г. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 21 жыхар мужчынскага полу, частка з якіх займалася шавецкім, бандарным, кавальскім і інш. промысламі. У 1880 г. 16 двароў, 60 жыхароў. У 1897 г. 16 двароў, 86 жыхароў. У 1909 г. 101 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Вольная праца». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 20 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія дашчэнту спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. ў вёсцы было 76 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 1.10.1973 г. ў Янаў- шчынскім с/с. У 1998 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў. З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с, у складзе СВК «Халопенічы».

**ГОЛЬЗБЕРГ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 39 км на ПнЗ ад горада і 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Халопенічы—Гользберг. На ПнУ балоты, з Пн на ПдУ працякае р. Нача. 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 19 ст. як фальварак у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 жыхароў. У 1909 г. вёска, 14 двароў, 163 жыхары. У 1917 г. 22 двары, 143 жыхары. У 1920-я г. дзейнічала т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З 20.8.1924 г. ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 34 двары, 163 жыхары. У гады калектывізацыі вяскоўцы арганізаваліся ў калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 25 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 мірных жыхароў. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. У 1959 г. ў вёсцы 88 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса (потым — калгас) «Халопенічы». У 1998 г. 22 гаспадаркі, 63 жыхары, уваходзіла ў Халопеніцкі пас. Савет. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ГРЫЦКАВІЧЫ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Крупак, 37 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 142 км ад Мінска. Тран-

спартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Халопенічы–Грыцкавічы. На ПнЗ лес, на ПнУ сетка меліярацыйных каналаў. 79 гаспадарак, 157 жыхароў (2010).

У ваколіцах вёскі захаваліся помнікі археалогіі — гарадзішча і курганны могільнік (засталіся 4 насыпы). Каля мясц. царквы знаходзіцца познасярэдневяковы каменны крыж. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў пач. 17 ст. Частка с. Грыцкавічы адносілася да маёнтка Пачаевічы Лукомскага княства, уласнасць Сапегаў. У складзе гэтага маёнтка Грыцкавічы згадваюцца ў 1649 г. У 1655 г. Казімір Леан падараваў маёнтак Віленскаму езуіцкаму калегіуму. З гэтага часу частка Грыцкавіч стала належаць езуітам. Іншая частка сяла ў 1641 г. належала ўладару Халопеніцкага маёнтка — М.Млечку. Трэцяя доля сяла адносілася да маёнтка Руднае Сяло, які ў 1621 г. належаў кн. Раману Балтазаравічу з Лукомскіх. У 1703 г. 6 дымоў, уласнасць Халопеніцкага дамініканскага касцёла. У 1777 г. ў графстве Халопенічы Аршанскага павета Віцебскага ваяв., сяло, 22 двары, царква, уласнасць Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу



Праабражэнская царква (1822) у в. Грыцкавічы.

Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 33 двары, 310 жыхароў, дзейнічалі карчма, драўляная Праабражэнская царква. Частка сяла належала памешчыку Храптовічу, другая — Халопеніцкаму дамініканскаму касцёлу. У 1844 г. 20 двароў, 195 жыхароў, у складзе маёнтка Халопенічы пані Цітовай. Каля 1850 г. пабудавана новая царква. Паводле ўстаўной граматы маёнтка Халопенічы за 1862 г. у Грыцкавічах было 30 гаспадарак (25 сял., 5 агароднікаў). У сак. 1966 г. жыхары вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1885 г. сяло ў складзе Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., прыватная ўласнасць, 33 двары, 190 жыхароў, царк. прыход, штогод праводзіўся кірмаш. У 1897 г. 48 двароў, 321 жыхар, царква. У 1898 г. адкрыта царк.-прыходская школа (у 1910 г. 46 вучняў). У 1917 г. 72 двары, 489 жыхароў. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Халопеніцкім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 86 двароў, 451 жыхар. Дзейнічалі пач. школа (у 1925 г. 62 вучні), фельч.-акушэрскі пункт. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў студз. 1932 г. на-



Каменны крыж каля царквы ў в. Грыцкавічы.

лічваў 65 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 111 двароў, 463 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 75 жыхароў. З 1944 г. да 2004 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 1950 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 26.8.1959 г. ў Халопеніцкім сельсаветах (пазней — пас. Савет). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 522 жыхары, у саўгасе (пазней — калгас) «Халопенічы». У 1998 г. 113 гаспадарак, 250 жыхароў, пач. школа. З 2001 г. ў складзе РУСП эксперыментальная база «Эса». Працуюць Дом сац. паслуг, магазін. Помнік архітэктуры — Праабражэнская царква (сярэдзіна 18 ст.).



*М.М.Лобач.*

Вёска — радзіма воіна-інтэрнацыяналіста М.М.Лобача (1966—86), які загінуў у Афганістане.

**ГУЗОВІНА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 21 км на Пн ад горада і 26 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 143 км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі—Дубы. На З воз. Сялява, вакол лес, з ПнУ на ПдУ балоты. 26 гаспадарак, 49 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 ст. як маёнтак Гузовіна, прыватная ўласнасць. У 1909 г. ў складзе Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 8 двароў, 64 жыхары, уласнасць Сычанкова. З 20.8.1924 г. пасёлак у складзе Дубаўскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. тут 18 двароў, 77 жыхароў. У 1930-я г. жыхары вёсак Гузовіна і Прошыка аб'ядналіся ў калгас «Сацыялізм». У студз. 1932 г. ў ім налічвалася 14 гаспадарак. У 1941 г. ў вёсцы было 18 гаспадарак, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. Пасля вайны ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 1959 г. 172 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 26.8.1959 г. ў Заборскім с/с, які 5.5.1962 г. быў перайменаваны ў Акцябрскі. У 1998 г. 36 гаспадарак, 81 жыхар. З 2003 г. вёска ў складзе КСУП «Квеціна». Знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

**ГУМНЫ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 58 км на Пд ад Крупак, 43 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска, на р. Манча. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў (2010).

Вядомы з сярэдзіны 18 ст. ў складзе Барысаўскага староства. У 1764 г. тут было 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., вёска, 25 двароў, 204 жыхары, уласнасць віленскага ваяводы кн. М.Радзівіла. У 1818—38 гг. адносілася да Барысаўскага маёнтка, 299 жыхароў. У 1845 г. 34 двары, 328 жыхароў. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Дзмітрыеўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 49 двароў, 437 жыхароў, дзейнічаў смалакурны з-д. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 78 двароў, 504 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 85 двароў, 400 жыхароў. Працавала пач. школа, у якой у 1925 г. навучаліся 38 дзяцей. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Пралетарская Перамога». У студз. 1932 г. налічваў 11 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 86 двароў, 452 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-

хопнікамі, якія ў маі 1944 г. часткова спалілі вёску (26 двароў) і загубілі 125 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. вёска ў Выдрыцкім с/с, у калгасе імя Молатава. У 1959 г. 452 жыхары. З 1973 г. зноў у складзе Ухвальскага с/с, у саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 65 гаспадарак, 197 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт (да 2001 г.), у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Працуе магазін. Помнік на магіле ахвяр фашызму. У наваколлі вёскі выяўлены археал. знаходкі, якія адносяцца да каменнага веку.

**ГУТА** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крупак, 20 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 131 км ад Мінска, на дарозе Крупкі—Ігрушка—Халопенічы. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2010).

Вядома з пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Шчаўры ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ., уладанне памешчыка Рашкоўскага. Абрабавана і часткова спалена пад час вайны 1812 г. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 28 двароў, 192 жыхары. У 1909 г. 25 двароў, 210 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 39 двароў, 226 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 34 двары, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (28 двароў) і загубілі 7 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. Пасля вызвалення адбудавана, жыхары вёсак Кругліца і Гута аб'ядналіся ў калгас «Новы шлях». З 1964 г. ў калгасе «Прызыў». У 1998 г. 28 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе Ігрушкаўскага с/с. З 2003 г. ў СВК «Старасельскае».

**ДАКУДАВА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 18 км на З ад Крупак, 9 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 98 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Брышча—Хацюхова. За 1,5 км на У ад вёскі працякае р. Мужанка. 127 гаспадарак, 339 жыхароў (2010).

Вядома з 1670 г. як вёска ў Замкавай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, 4 дымы, уласнасць казны. У пач. 18 ст. ўваходзіла ў Барысаўскае староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., налічвала 19 двароў, 136 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы кн. М.Радзівіла. У 1845 г. 20 двароў, 145 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць вял. кн. Мікалая Мікалаевіча, уладальніка маёнтка Стара-Барысаў. У 1858 г. ўваходзіла ў Жаберыцкую сельскую грамаду, 82 рэвізскія душы (мужчынскага полу). У 1882 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. навучаліся 26 хлопчыкаў і 15 дзяўчынак. У 1897 г. вёска (40 двароў, 245 жыхароў) і хутар (18 двароў) у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 69 двароў, 426 жыхароў, на аднайменным хутары — 4 двары, 15 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы было 50 двароў, 298 жыхароў, на хутары — 29 двароў, 200 жыхароў. Дзейнічала адзіная прац. школа (у снеж. 1920 г. 84 вучні). З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 91 двор, 479 жыхароў, пач. школа (у 1925 г. 38 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1928 г. арганізавана меліяратыўнае т-ва. У 1929 г. створаны калгас «Новы быт», які

ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У 1937 г. старшыня калгаса М.М. Хадасевіч быў рэпрэсіраваны і расстраляны. У 1931 г. пабудаваны ўласны будынак школы, працавалі клуб, дзіцячыя яслі, крама. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 84 двары, 452 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы размяшчаўся фаш. гарнізон, побач — аэрадром. У 1943 г. партызаны атрада імя Кірава захапілі аэрадром. У чэрв. 1944 г. акупанты спалілі вёску і загубілі 27 мірных жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 57 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». У 1952 г. на базе пач. была адкрыта 7-гадовая школа. З 1973 г. ў Жаберыцкім с/с, які 13.9.1982 г. перайменаваны ў Дакудаўскі с/с. У 1971 г. 102 двары, 331 жыхар, цэнтр СВК «Жаберычы». З 2007 г. аграгарадок, у складзе СВК «Шчаўры». Працавалі дзіцячы сад, школа, Дом культуры, б-ка, майстэрні, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазіны, ферма. З 30.12.2009 г. ў складзе Хацюхоўскага с/с. Дзейнічаюць базавая школа, клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі; 2 малочна-таварныя фермы, ААТ «Нікваміст». У цэнтры вёскі помнік на ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках на магіле В.Н.Фацеева, які загінуў у 1944 г.



*С.А.Самцэвіч.*

Вёска — радзіма бел. мікрабіёлага, чл.-кар. НАН Беларусі, засл. дзеяча навукі, удзельніка Вял. Айч. вайны С.А. Самцэвіча (1902—85).

**ДАКУЧЫНА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і 28 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 145 км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Дуброўка. З ПдУ на Пд мяжуе з лясным масівам. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2010).

Вядома з 1-й пал. 17 ст. як с. Дакучын у Худаўской вол. Аршанскага павета. У 1624 г. ў складзе маёнтка Чарэя, уласнасць канцлера Льва Сапегі, 20 валок зямлі. У 1633 г. маёнтак, а таксама с. Дакучын перайшлі ў спадчыну да яго сына Казіміра Сапегі. У 1715 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., налічвалася 17 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў Салагуба, 28 двароў, 95 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1873 г. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 157 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 303 жыхары, частка з якіх займалася кравецкім, сталярным, бандарным, ганчарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў вёсцы было 84 двары, 448 жыхароў, дзейнічалі школа граматы (у 1909 г. 49 вучняў), хлебазапасны магазін, заезны двор. У пач. 20 ст. школа граматы пераўтворана ў царк.-прыходскую. У 1917 г. 91 двор, 529 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 96 двароў, 545 жыхароў, дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 46 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Прамень Леніна» (13 гаспадарак). Да студз. 1932 г. ў ім было 36 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 64 двары, 321 жыхар. З ліст. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 25 двароў, загубілі 34 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 39 вяскоўцаў. Пасля вайны ў саўгасе (затым — калгас) «Дубоўка». З 26.8.1959 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с, 266 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 28.7.1966 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 47 гаспада-

рак, 99 жыхароў. З 2003 г. вёска ў складзе СВК «Халопенічы».

**ДВОР-ПЯРЭСІКА** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ігрушка—Ляды. На ПнЗ балота. За 1 км на Пд ад вёскі невял. возера. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Вядома з 16 ст. Упамінаецца ў судовых дакументах за 1546 г. аб валоданні вёскай нашчадкамі Івана Сямёнавіча Друцкага Дзмітрыем і Андрэем. У пач. 16 ст. маёнтак Худава і в. Двор-Пярэсіка выкупіў канцлер ВКЛ Леў Сапега, затым ён далучыў Худаўскую вол. да Чарэйскага маёнтка. У 1772 г. ў Чарэйскім графстве, 25 двароў, уладанне Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. фальварак Пярэсіка, 6 двароў, 51 жыхар. З 20.8.1924 г. ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы налічвалася 37 двароў, 221 жыхар. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны сцяг». У студз. 1932 г. ў ім было 11 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1941 г. 30 двароў, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікммі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 22 жыхары. З 1950 г. ў калгасе «Шлях Леніна». З 16.7.1954 г. ўваходзіла ў Халопеніцкі с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 116 жыхароў (1960). З 1964 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Прызыў». У 1998 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 142 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Дворышча. На З працякае р. Бобр, на Пд мяжуе з лясным масівам. 18 гаспадарак, 4 жыхары (2010).

Вядома з 1772 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Агінскіх, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. разрабавана і разбурана французамі. У гэты час вёска належала І.Ванковічу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічвалася 36 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 25 двароў, 128 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы было 28 двароў, 169 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 36 двароў, 171 жыхар, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці. У гады калектывізацыі вяскоўцы арганізаваліся ў калгас «Зорка». У студз. 1932 г. ў ім налічвалася 9 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 16 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны Бобр». У 1959 г. 153 жыхары, з 1960 г. ў саўгасе «Бобр» , з 1967 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. ў складзе Бобрскага пас. Савета. У 1998 г. 29 гаспадарак, 66 жыхароў. Працавала ферма. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**ДЗЯНЬГУБКА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Крупак, 31 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 158 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Хватынка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Кіявецкім войтаўстве ў складзе маёнтка

Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў. У актавай кнізе за 1784 г. быў зроблены запіс аб продажы Сапегам фальварка Дзяньгубка з вёскамі Лагі, Дзяньгубка і Сыраеўка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У час вайны 1812 г. ўладанне Мілаша часткова спалена і разрабавана французскімі войскамі. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 47 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. ў вёсцы 16 двароў, 134 жыхары. У 1897 г. 23 двары, 163 жыхары. У 1909 г. 27 двароў, 171 жыхар. У 1919—24 гг. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930 г. вяскоўцы сумесна з жыхарамі в. Хватынка аб'ядналіся ў калгас імя Крупскай. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 14 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Прагрэс». У 1959 г. 34 жыхары, у саўгасе (потым — калгас) «Абчуга», з 1960 г. ў саўгасе «40 гадоў Кастрычніка». У 1998 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. З 2007 г. ў складзе СВК «Журавы». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.



*С.А.Свідэрскі.*

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза С.А.Свідэрскага (1905—77).

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Крупак, 9 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска, на аўтадарозе Бобр—Лукомль. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. пасёлак у складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, затым Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 жыхароў. У 1960 г. пасёлак, 43 жыхары. З 1967 г. ў складзе саўгаса (пазней — калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. вёска, 8 гаспадарак, 16 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**ДУБАВОЕ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 40 км на ПдУ ад Крупак, 9 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Брэст—Масква, 139 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Новыя Дзянісавічы—Дубавое. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з 1772 г. як засценак Барысаўскага маёнтка кн. Радзівіла, 7 гаспадарак. У 1799 г. тут 17 двароў, 126 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскай павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 31 двор, 224 жыхары, дзейнічалі вятрак, смалакурны з-д. У 1917 г. вёска, 47 двароў, 304 жыхары і аднайменны хутар, 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шынкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Арашанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 36 двароў, 191 жыхар. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «XVII партз'езд». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 40 двароў, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія амаль поўнасцю спалілі вёску. На франтах загінулі 13 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны Колас». З 17.7.1954 г. ў Старaслабодскім с/с. У 1959 г. 149 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». З 1963 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Дзянісавічы». З 1964 г. ў Дзянісавіцкім с/с. У 1998 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары. З 30.12.2009 г. ў складзе Ухвальскага с/с.

**ДУБЕШНЯ** — вёска ў Нацкім с/с, за 8 км на З ад горада і 5 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 115 км

ад Мінска. 14 гаспадарак, 38 жыхароў (2010).

Вядома з 1887 г. як хутар у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 2 двары, 7 жыхароў. У 1897 г. 20 жыхароў, дзейнічала смалакурня. У 1917 г. 5 двароў, 13 жыхароў. З 20.8. 1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 10 двароў, 58 жыхароў, смолазавод. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 14 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах загінулі 2 жыхары вёскі. У 1959 г. пасёлак, 53 жыхары. У 1998 г. 18 гаспадарак, 39 жыхароў, смолазавод, у складзе Нацкага с/с. З 2004 г. ў ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**ДУБРОЎКА** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад горада і 32 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Худаўцы–Дуброўка. На ПдЗ і Пд лес, на ПнЗ невял. возера. 89 гаспадарак, 215 жыхароў (2010).

Вядома з 1713 г. як вёска ў складзе Худавецкага войтаўства Аршанскага павета, адносілася да маёнтка Чарэя, які належаў Сапегам і знаходзіўся ў закладзе ва ўдавы Міхала Пяроты, 25 дымоў, 10 валок зямлі. У 1772 г. Дуброўка ў закладзе ў пана Салагуба, 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле інвентарнага апісання маёнтка Старожышча, у 1848 г. ўваходзіла ў яго склад, налічвала 18 двароў, 96 жыхароў, дзейнічала карчма, уласнасць памешчыкаў Рашкоўскіх. Частка вяскоўцаў займалася кушнерскім, кравецкім і кавальскім промысламі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1880 г. налічвалася 40 двароў, 169 жыхароў. У 1897 г. ў вёсцы 48 двароў, 302 жыхары, дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 49 двароў, 104 жыхары мужчынскага і 175 жаночага полаў. З 20.8.1924 г. ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 56 двароў. У 1929 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Чырвоны земляроб», які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 60 двароў, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску (34 двары) і загубілі 9 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 46 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 21.5.1951 г. ў Дубаўскім, з 26.8.1959 г. ў Вялікахальнявіцкім сельсаветах. У 1959 г. 252 жыхары, у калгасе імя Леніна. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 28.7.1966 г. ў Акцябрскім с/с. З 1968 г. цэнтр саўгаса (пазней – калгас) «Дуброўка». У 1971 г. 82 двары, 276 жыхароў. У 1998 г. 127 гаспадарак, 340 жыхароў. У вёсцы працуюць філіял муз. школы, клуб, б-ка, вытв. ўчастак СВК «Халопенічы», магазін. У цэнтры вёскі помнік ураджэнцу вёскі, Герою Сав. Саюза А.А.Парцянку (і яго барэльеф); помнік таксама ўшаноўвае памяць 124 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.



*А.А.Парцянка.*

**ДУБЫ** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 22 км на Пн ад горада і 27 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 145 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы–Гузовіна–Язбы, на паўд.-ўсх. беразе воз. Сялява. 22 гаспадаркі, 51 жыхар (2010).

За 1 км на Пд ад усх. берага воз. Сялява захаваўся археал. помнік – курганны могільнік (9 насыпаў) 9–13 ст., які сведчыць аб засяленні гэтай мясцовасці ў далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома на пач. 18 ст. ў Аршанскім павеце Віцебскага

ваяв., уладанне Сапегаў. У 1728 г. ад М.Сапегі аддадзена ў заставу А.Схорскаму (7 двароў), пазней знаходзілася ў складзе Калодніцкага войтаўства графства Чарэя Аршанскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1812 г. ўладанне В.Гзоўскага, у час ваенных дзеянняў была абрабавана і разбурана французамі. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 17 двароў, 151 жыхар. У 1909 г. 20 двароў, 66 жыхароў мужчынскага і 75 жаночага полаў. З 20.8.1924 г. цэнтр Дубаўскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 29 двароў. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны май». У студз. 1932 г. налічваў 36 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 22 двары, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 мірных жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950-я г. пачала працаваць бальніца. З 1957 г. ў саўгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 26.8.1959 г. ў Заборскім, з 5.5.1962 г. ў Акцябрскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў складзе Крупскага р-на, 169 жыхароў (1960). У 1998 г. 36 гаспадарак, 70 жыхароў. Дзейнічалі б-ка, урачэбная амбулаторыя, магазін; лясніцтва. З 2007 г. ў складзе КСУП «Квеціна». Працуюць урачэбная амбулаторыя, Сяляўскае лясніцтва. Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

Возера Сялява.



**ДУДАРЫ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 48 км на Пн ад горада і 43 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 157 км ад Мінска, каля аўтадарогі Барсукі—Глінаўка. На ПнУ меліярацыйны канал. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2010).

Вядомы з 1873 г. як вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 74 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 33 двары, 254 жыхары, працавала школа граматы, у аднайменным фальварку — 2 двары, 18 жыхароў, на хутары — 1 двор, 5 жыхароў, карчма. Вяскоўцы ўдзельнічалі ў рэв. падзеях 1905—06 гг. У лютым 1906 г. жыхар вёскі Д.Хромчанка сабраў амаль усіх жыхароў і чытаў ім пракламацыі, а пры вобыску ў яго былі знойдзены лістоўкі рэв. характару. 15.7.1906 г. сяляне вёскі баставалі і не выходзілі на работы ў маёнтак Дудары, які належаў памешчыку Янкоўскаму. Аднайменны фальварак належаў Грыгаровічу. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. ў вёсцы было 86 двароў, 273 жыхары. У 1919 г. ў былым маёнтку была створана с.-г. камуна. З 20.8.1924 г. вёска ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Працавала пач. школа, якая размяшчалася ў былым будынку карчмы. У 1925 г. ў школе навучаліся 53 вучні. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоныя Дудары». У 1941 г. ў вёсцы 34 двары, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёс-

ку і загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана, уваходзіла ў калгас «Шлях Леніна», затым у саўгас «Сялява». У 1959 г. ў вёсцы было 97 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім, з 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. У 1998 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў. З 2007 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**ДУДЗІНКА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Крупак, 40 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 145 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада–Дудзінка. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

Аб засяленні тутэйшых мясцін у старажытнасці сведчыць курганны могільнік (11 насыпаў). Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 18 ст. як вёска ў складзе Халопеніцкага графства ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1777 г. тут 6 двароў, уласнасць Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 56 жыхароў. Згодна з ўстаўной граматай маёнтка Халопенічы, у які ўваходзіла вёска, у 1862 г. тут было 8 сял. гаспадарак. У сак. 1866 г. жыхары вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д. Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1897 г. вёска ў Халопеніцкай вол. таго ж павета і губерні, 18 двароў, 119 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 146 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грыцкавіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы налічвалася 29 двароў, 164 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Калініна. У студз. 1932 г. налічваў 31 гаспадарку. У 1941 г. ў вёсцы было 47 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны барацьбіт». З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 26.8.1959 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 232 жыхары, у саўгасе «Халопенічы». У 1998 г. ў Халопеніцкім пас. Савеце, 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, дзейнічала пач. школа. З 2001 г. ў складзе РУСП эксперыментальная база «Эса», працаваў магазін. З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ЕЛЕНКА** – вёска ў Бобрскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Крупак, 6 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 144 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Навесы–Еленка. На Пд працякае р. Еленка, на З гаць. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Уваходзіла ў склад маёнтка Падбярэззе, які ў 1-й пал. 16 ст., пасля смерці кн. Сямёна Ямантовіча, перайшоў да сына яго пляменніка Рыгора Яцкевіча, што з гэтага часу пачаў ужываць прозвішча Падбярэзскі. Каля 1590 г. ўладальнікам вёскі стаў Мікалай Падбярэзскі, затым Рафал Падбярэзскі, 9 двароў, 5 валок зямлі. З 1641 г. вёска знаходзілася ў закладзе, уласнасць Барташэвічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. пасёлак, 6 двароў, 62 жыхары, дзейнічаў млын (7 жыхароў). У 1909 г. 10 гаспадарак, 69 жыхароў. У лютым–ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 1919 г. да сак. 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў складзе Сакалавіцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 19 двароў, 118 жыхароў, у в. Верхняя Еленка – 15 двароў, 79 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Ленінец». У студз.

1932 г. налічваў 9 гаспадарак. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску. На франтах загінулі 7 ураджэнцаў вёскі. Пасля вызвалення адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Перамога». З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1959 г. 64 жыхары. З 1960 г. ў саўгасе (пазней – калгас) «Бобр». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**ЖУРАВЫ** – вёска ў Абчугскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Крупак, 19 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 145 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Стары Бобр–Шарнева. 40 гаспадарак, 115 жыхароў (2010).

Засн. ў канцы 18 ст. У 1772 г. налічвала 2 двары, уласнасць дробнага шляхціца Сідароўскага. У 1775 г. 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. З 1892 г. дзейнічала земская школа. У 1909 г. 34 двары, 223 жыхары. У 1922 г. працавала пач. школа, якая была адкрыта на базе земскай, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. У 1930-я г. жыхары вёсак Журавы і Слабада стварылі калгас «Светлая зара». У студз. 1932 г. налічваў 52 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 36 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 21.5.1951 г. ў Смародзінскім, з 16.7.1954 г. зноў у Абчугскім сельсаветах. У 1959 г. ў вёсцы 52 жыхары, у калгасе «Слабада». У 1998 г. 41 гаспадарка, 142 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ЗАБАЛОЦКАЕ** – вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крупак, 8 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 127 км ад Мінска, каля аўтадарогі Стары Бобр–Колас. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Вядома з 20.8.1924 г. як вёска ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. У 1959 г. было 46 жыхароў. З 1967 г. ў саўгасе (затым – калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 7 гаспадарак, 7 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2. 2010 г. ў Бобрскім с/с.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Новыя Дзянісавічы–Дубавое. 21 гаспадарка, 46 жыхароў (2010).

Вядома з 1670 г. як засценак, 2 двары, уласнасць казны. У 1770 г. вёска, 20 двароў, больш за 150 жыхароў, 27 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 11 двароў, 82 жыхары, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. Паводле інвентару 1818 г. ў гаспадарках вяскоўцаў налічвалася 25 коней, 45 кароў, свіней, авечак. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 45 двароў, 302 жыхары. У 1908 г., згодна з Сталыпінскай агр. рэформай, некалькі сем'яў былі переселены ў Сібір. У 1909 г. 47 двароў, 324 жыхары. У 1917 г. 56 двароў,

359 жыхароў, працавала земская школа (з 1912 г.). З 20.8.1924 г. вёска ў Шынкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. тут навучаліся 50 дзяцей. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 68 двароў, 338 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Молатава, які да студз. 1932 г. налічваў 22 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 61 двор, 302 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 18 ураджэнцаў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны Колас». З 16.7.1954 г. ў Стараслабодскім, з 1964 г. ў Дзянісавіцкім сельсаветах. У 1959 г. 241 жыхар, працаваў клуб, у саўгасе «Ухвала». З 1963 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Дзянісавічы». У 1998 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары. З 30.12.2009 г. ў складзе Ухвальскага с/с. Помнік у гонар 45 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЗАБАРОЧЧА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 34 км на ПнУ ад горада і 37 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 155 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы—Гузовіна—Забарочча. На ПнУ воз. Квеціна, на Пд цячэ р. Ракітаўка. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Засн. ў сярэдзіне 18 ст. У 1775 г. ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв., тут 13 двароў. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. 24 двары, 212 жыхароў. У 1909 г. 36 двароў, 256 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У час калектывізацыі раёна вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя К.Маркса. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 42 двары, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (37 двароў). На франтах загінулі 18 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. 70 жыхароў, у саўгасе «Авангард». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна».

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Абчугскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Крупак, 29 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 154 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Стары Бобр—Забор'е. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Вядома з 1554 г. як вёска ў складзе маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1624 г. ўласнасць канцлера Л.Сапегі ў ВКЛ, 23 валокі зямлі. У 1799 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 13 двароў, 70 жыхароў, уладанне М.Валовіча. У 1772 г. 19 двароў, у закладзе ў пана Салагуба. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, уласнасць Мілашаў. У 1880 г. ў вёсцы 61 двор, 338 жыхароў. У 1873 г. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 156 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася сталярным, бандарным і інш. промысламі. У 1892 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1897 г. 66 двароў, 454 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. пачала працаваць казённая вінная крама. У 1917 г. 72 двары, 493 жыхары. З 20.8. 1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. навучалася 70 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў». У 1941 г. ў вёсцы 72 двары, 310 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. часткова спалілі вёску (29 двароў) і загубілі 2 мірных жыхароў. У вёсцы партызаны разграмілі варожы гар-



К.Бабровіч.

нізон. Вызвалена 27.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 37 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 173 жыхары (1960). З 1966 г. ў Абчугскім с/с, у саўгасе «Абчуга». З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ЗАБЯНЬКОВА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 46 км на Пд ад Крупак, 36 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Ухвала–Забянькова. На Пн балота. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. налічвала 30 двароў, 229 жыхароў. У 1917 г. 36 двароў, 241 жыхар. З 20.8. 1924 г. ва Ухвальскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, затым Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. тут 45 двароў, 249 жыхароў. У гады калектывізацыі створаны калгас імя Будзённага, які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. У 1941 г. ў вёсцы 47 двароў, 189 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 30 жыхароў вёскі. У 1959 г. 196 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 38 гаспадарак, 62 жыхары, у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».



*У птушніку ААТ «Кляновічы» на тэрыторыі аграгарадка Замкі.*

**ЗАМКІ** – вёска ў Бобрскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Крупак, 7 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 125 км ад Мінска, на аўтадарозе Стары Бобр–Шарнева. 194 гаспадаркі, 628 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, затым Мінскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Бобр». У студз. 1932 г. налічваў 16 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 жыхароў вёскі. У 1959 г. вёска, 72 жыхары, цэнтр саўгаса (затым – калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. З 2004 г. цэнтр ААТ «Кляновічы». З 2008 г. аграгарадок. Дзейнічаюць вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа–дзіцячы сад, філіял Бобрскай муз. школы, Дом культуры, б-ка, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр, гандл. цэнтр, сталовая, рэстаран, гасцініца, комплексны прыёмны пункт, 3 магазіны, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт.

Вёска – радзіма бел. спартсменкі, майстра спорту па веласпорце К.Бабровіч (н. ў 1991 г.).

**ЗАПОЛЛЕ** – вёска ў Нацкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад горада і 13 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кладзі–Заполле, каля мяжы з Барысаўскім р-нам. Праз вёску працякае р. Нача. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў складзе Барысаўскага павета Мінскай губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 7 двароў, дзярж. уласнасць, адносілася да маёнтка Сморкі. У 1870 г. ў

вёсцы 48 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. ў складзе Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета, 20 двароў, 167 жыхароў. У 1909 г. 23 двары, 174 жыхары, у 1917 г. 35 двароў, 227 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 44 двары, 235 жыхароў. У 1929 г. жыхары Заполля аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная Ніва», які ў 1932 г. налічваў 43 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 55 двароў, 289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 9 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Молатава. У 1959 г. 50 жыхароў, у калгасе «Камунар». 12.11.1966 г. далучаны вёскі Язвіны і Чырвоная Ніва. У 1998 г. 26 гаспадарак, 52 жыхары. З 2007 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». Помнік у гонар 31 земляка, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЗАПРУДДЗЕ** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад горада і 23 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хацюхова–Старыя Шчаўры. На ПдУ працякае р. Таланка, на Пн балота. 21 гаспадарка, 59 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. тут 34 жыхары, уласнасць царквы. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. 36 гаспадарак, 172 жыхары. У лютым–ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска Хацюхоўскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 46 двароў, 214 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвонае Запруддзе». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 55 двароў, 298 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 9 мірных вяскоўцаў. У вёсцы дзейнічала падп. група. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 26 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 152 жыхары. У 1963 г. ўвайшла ў калгас «Сцяг камунізму», пазней была далучана да калгаса «Чырвоны Кастрычнік». У 1998 г. 26 гаспадарак, 67 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры».

**ЗАПУТКІ** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Худаўцы–Запуткі. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Вёска ўпамінаецца ўпершыню ў 1713 г., 17 дымоў, 8 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў пана Салагуба, у 1775 г. налічвала 10 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1812 г. вёска Копыскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка Вікенція Гзоўскага. У час вайны 1812 г. разрабавана французамі. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. тут 34 двары, 225 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У лютым–ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 149 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Май». Першапачаткова ў ім налічвалася 9 гаспадарак, да студз. 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 40 двароў, 158 жыхароў. У Вял.

Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 жыхароў вёскі. З 1957 г. ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 26.8.1959 г. ў Заборскім с/с, 230 жыхароў (1959). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 30 гаспадарак, 55 жыхароў. З 2009 г. ў складзе даччынага КСУП «Ротань».

**ЗАРОЎЕ** – вёска ў Крупскім с/с, за 3 км на У ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 127 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі–Бобр. На паўд.-ўсх. ускраіне працякае р. Таланка. 27 гаспадарак, 58 жыхароў (2010).

Вядома на пач. 19 ст. як вёска ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ. У вайну 1812 г. разрабавана і спалена французскімі войскамі, уласнасць Лявона Вікенцьевіча Галузы. У 1873 г. ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 32 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы было 23 двары, 185 жыхароў. У 1909 г. тут 25 двароў, 100 жыхароў мужчынскага і 105 жаночага полаў. У лютым–ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 240 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы Мір». У студз. 1932 г. налічваў 21 гаспадарку. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 44 двары, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся фаш. гарнізон. За гады акупацыі гітлераўцы загубілі 5 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Калініна. З 5.5.1962 г. ў Крупскім с/с. Дзейнічаў клуб. У 1998 г. 46 гаспадарак, 99 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра». Працуе магазін.

**ЗАХАРАЎКА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 40 км на Пд ад Крупак, 30 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 158 км ад Мінска, на аўтадарозе Бобр–Новы Сакол–Лажкі. На ПнУ і ПдУ балоты. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. як вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. налічвалася 33 двары, 283 жыхары. У 1917 г. тут 48 двароў, 335 жыхароў. З 20.8.1924 г. ва Ухвальскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 62 двары, 365 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 31 жыхар вёскі, 1 – у час акупацыі за сувязь з партызанамі. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Варашылава. З 1959 г. ў саўгасе «Ухвала», пазней увайшла ў калгас «Ніва». З 4.1.1964 г. ў Дзянісавіцкім, з 13.7.1972 г. ва Ухвальскім сельсаветах. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**ЗНАМЕНСКАЯ** (да 30.7.1964 г. Гібайлавічы) – вёска ва Ухвальскім с/с, за 50 км на Пд ад Крупак, 40 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала–Знаменская. 29 гаспадарак, 42 жыхары (2010).

У наваколлі вёскі да нашых дзён захаваліся курганныя могільнікі – помнікі археалогіі. Па пісьмовых крыніцах вядома як в. Гібайлавічы (Агібайлавічы) з 1-й пал. 17 ст. ў складзе Барысаўскага староства, уласнасць Адама Казаноўскага. У 1639 г. ён вылучыў вёску з 16 валокамі зямлі з староства і перадаў у пажыццёвае ўтрыманне Марцымільяну Крахоўскаму. Потым належала

Ераніму Ліпскаму. У 1664 г. 7 двароў, уладанне Ю.Храптовіча. У 1667 г. налічвала 16 дымоў, дзейнічаў вадзяны млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў вёсцы было 13 двароў, 89 жыхароў, уладанне В.Беліковіч. У 1816 г. 79 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць старосты Гібайлоўскага. У 1870 г. 110 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. тут 38 двароў, 301 жыхар, дзейнічаў смалакурны з-д. У 1917 г. 60 двароў, 360 жыхароў, нар. вучылішча (з 1912 г.). З 20.8.1924 г. ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 65 двароў, 343 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас імя Куйбышава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 70 двароў, 268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (13 двароў) і загубілі 21 мірнага жыхара. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 23 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе імя Кірава. У 1959 г. ў вёсцы 368 жыхароў, у саўгасе «Ухвала», пазней увайшла ў калгас «Ніва». У 1998 г. 50 гаспадарак, 95 жыхароў, пач. школа. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Працаваў магазін. Помнік на брацкай магіле 28 воінаў, якія памерлі ад ран у медсанбаце летам 1944 г.

**ЗОРАСЛІ** – вёска ў Халапеніцкім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Крупак, 31 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 126 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы–Прудзец і далей па прасёлачнай дарозе. На Пд лес. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядомы з 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Халапеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 7 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. налічвалася 24 двары, 139 жыхароў. У лютым–ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 23 двары, 137 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 7 двароў, 20 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У 1959 г. ў Халопеніцкім пас. Савеце, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Якімаўка». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**ІГРУШКА** – вёска, цэнтр Ігрушкаўскага с/с, за 18 км на ПнЗ ад Крупак, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 136 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Халопенічы. 146 гаспадарак, 349 жыхароў (2010).

Вядома з 1528 г. як маёнтак Грушка ў Аршанскім павеце ВКЛ, уладанне Івана Друцкага-Сакалінскага, які частку сваіх даходаў ахвяраваў Кіева-Пячэрскаму манастыру. У 1557 г. па завяшчанні перайшоў у валоданне да сыноў кн. Андрэя Друцкага-Азярэцкага. З 1560 г. ў дзярж. воласці Аршанскага замка. Паселішча пазначана на карце мастака і гравёра Т.Макоўскага (1613). У 1627 г. маёнтак Ігрушка вылучаны кн. Сымонам

*Новыя дамы ў аграгарадку Ігрушка.*





*Г.А.Фатыхава.*

Самуэлем Сангушкам на забеспячэнне сваёй жонкі Алены Корвін-Гасеўскай, затым сяло ва ўладанні князёў Сангушкаў. У 1775 г. адносілася да маёнтка Шыйка, 72 дымы, уласнасць князёў Сангушкаў. Адзін двор належаў праваслаўнай царкве, якая была пабудавана ў 1650 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1869 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 30 хлопчыкаў, у 1907 г. — 80 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. ў сяле 258 жыхароў мужчынскага полу, частка якіх займалася кравецкім, калёсным, бандарным, ганчарным і кавальскім промысламі. У 1885 г. тут 93 двары, 622 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча, заезны двор, вінная крама. У 1897 г. 1032 жыхары. У 1917 г. 145 двароў, 1099 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У гэты час у сяле дзейнічала падп. група. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета ў Крупскім р-не Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг.



*Помнік аднавяскоўцам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Ігрушка.*

Працавалі пач. школа (у 1925 г. 114 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, хата-чытальня. У 1924 г. створана сельскае т-ва ўзаемадапамогі. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 185 двароў, 1076 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Шлях Сталіна». Дзейнічалі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, цэглавая арцель «Інтэрнацыяналіст», ільнозавод. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 180 двароў, 712 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся фаш. гарнізон, вёска была часткова спалена, загублены 48 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6. 1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 96 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1946 г. адкрыта сельская бальніца. Працавалі клуб, б-ка, школа рабочай моладзі. У 1959 г. 820 жыхароў. З 1960 г. ў складзе калгаса «Гігант», затым у саўгасе «Халопенічы», з 1961 г. цэнтр саўгаса «Грушаўскі». У 1971 г. 212 двароў, 698 жыхароў. У 1998 г. 186 гаспадарак, 438 жыхароў. З 2004 г. цэнтр СВК «Грушаўскі». З 2007 г. цэнтр. сядзіба СВК «Майскае-Агра». У вёсцы працуюць дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, клуб, бібліятэка-карцінная галерэя, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», аптэка, магазін. Помнік на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

У склад сельсавета ўваходзяць 17 вёсак.

Вёска — радзіма бел. мастацтвазнаўца Г.А.Фатыхавай (н. ў 1946 г.).

**ІГРЫШЧА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад горада і 33 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хацюхова—Ігрышча. 17 гаспадарак, 36 жыхароў (2010).

У апісанні цэркваў і прыходаў Мінскай епархіі за 1879 г. ёсць звесткі, што ў в. Ігрышча каля царквы знаходзіліся курганы. Цяпер на іх месцы размяшчаюцца вясковыя могілкі. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 17 ст. як вёска ў складзе Барысаўскага староства Аршанскага павета. У 1670 г. тут 2 двары. У 1764 г. ў вёсцы 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. 25 двароў, 195 жыхароў, уласнасць кн. М.Радзівіла. У 1845 г. ў складзе маёнтка Барысаўшчына, уладанне князёў Радзівілаў, 27 двароў, 141 жыхар. У 1897 г. вёска ў Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 52 двары, 347 жыхароў, карчма. У 1908 г. налічвалася 58 двароў, 377 жыхароў, у 1917 г. 60 двароў, 394 жыхары, на аднайменным хутары — 1 двор, 5 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 74 двары, 372 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 54 двары, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 18 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 42 вяскоўцы. З 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». У 1959 г. 244 жыхары, у калгасе «Чырвоны Кастрычнік», з 1963 г. ў калгасе «Праўда». У 1998 г. 24 гаспадаркі, 80 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Ёсць жывёлагадоўчая ферма.

**КАЗУБЕЦ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад горада і 23 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска, каля аўтадарогі Хацюхова—Старыя Шчаўры. На У меліярацыйны канал. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Вядомы з 1670 г. як вёска ў Барысаўскім старостве Замкавай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 1 двор, уласнасць казны. У 1764 г. 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 14 двароў, 97 жыхароў, з іх палову складала шляхта. У 1818 г. ў вёсцы 8 двароў, 39 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1858 г. налічваліся 32 рэвізскія душы, уласнасць вял. кн. Мікалая Мікалаевіча, уладальніка маёнтка Стара-Барысаў. Уваходзіла ў Жаберыцкую сельскую грамаду. У 1897 г. 15 двароў, 96 жыхароў, на аднайменным хутары — 5 двароў, 49 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. У 1926 г. тут 30 двароў, 196 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 30 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах загінулі 6 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Сталіна, які ў 1957 г. быў перайменаваны ў калгас «Сцяг камунізму». У 1959 г. 164 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, вёска ўвайшла ў калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры».

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Халопеніцкім с/с. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Халопеніцкім, потым у Крупскім р-нах. У 1941 г. было 7 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. 53 жы-

хары. З 1960 г. ўваходзіла ў саўгас, з 1992 г. ў калгас «Халопенічы». У 2007 г. 1 двор, 1 жыхар, у складзе Халопеніцкага пас. Савета. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**КАЛОДНІЦА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 30 км на Пн ад горада і 35 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 164 км ад Мінска, на ўсх. беразе воз. Сялява, каля аўтадарогі Язбы—Малінаўка. На паўд. ускраіне працякае р. Ракітаўка. 102 гаспадаркі, 239 жыхароў (2010).

Вядома з 1562 г. як вёска, уладанне кн. Друцкага-Азярэцкага, які перадаў яе ў валоданне пасынкам кн. Рыгора Сенскага. У 1624 г. ў складзе маёнтка Чарэя, уласнасць Сапегаў, 26 валок зямлі. У 1728 г. цэнтр войтаўства графства Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., сяло, 17 двароў, уласнасць М.Сапегі, знаходзілася ў заставе. У 1775 г. налічвала 31 двор, каля 200 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. 179 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім, бандарным, кавальскім промысламі. У 1885 г. ў сяле 68 двароў, 522 жыхары. У 1897 г. 109 двароў, 800 жыхароў, дзейнічалі ветраны млын, хлебазапасны магазін, царква, вінная крама, заезны двор. У 1905 г. адкрыта казённая крама. У 1909 г. сяло, 119 двароў, 490 жыхароў мужчынскага і 450 жаночага полаў; царк.-прыходская школа (у 1909 г. 62 вучні). З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, якія ў чэрвені гэтага года спалілі вёску. З 20.8.1924 г. сяло ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 145 двароў, 498 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. было 75 вучняў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Іскра» (13 гаспадарак). Працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 103 гаспадаркі, 512 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (12 двароў) і загубілі 20 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 42 вяскоўцы. З 8.4.1957 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 411 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у саўгасе «Дуброўка». У 1971 г. 98 двароў, 319 жыхароў. З 14.9.1972 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 117 гаспадарак, 318 жыхароў, пач. школа. З 2004 г. цэнтр КСУП «Квеціна». З 2009 г. аграгарадок. Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява». У вёсцы працуюць б-ка, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, аддз. сувязі, 2 магазіны, клуб, фельч.-акушэрскі пункт; царква (19 ст.).

**КАЛЫБАНАВА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Крупак, 14 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ламское—Калыбанава. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (1998).

Вядома з 1624 г. як вёска ў складзе маёнтка Чарэя, уласнасць Сапегаў, 14 валок зямлі. У 1775 г. ў складзе Чарэйскага графства, 20 дымоў. У 1790 г. канцлер Сапега выкупіў вёску з закладу ў Гіяцынта Косці і перазаклаў Віленскаму кляштару піяраў. Пазней належала Камінскаму, ад якога перайшла да Гардзялкоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад час вайны 1812 г. разрабавана французамі. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. тут 27 двароў, 225 жыхароў, школа граматы. З 20.8.1924 г. ў Чарэйскім р-не Барысаўскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Крупскім

р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 38 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік». З 1954 г. ў Абчугскім с/с. З 9.8.1960 г. ў Бобрскім с/с, 87 жыхароў (1960). З 1965 г. ў саўгасе «Слабада». З сак. 1973 г. зноў у Абчугскім с/с. З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**КАМЕНКА** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і 14 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 135 км ад Мінска, на аўтадарозе Усохі–Ігрушка. 193 гаспадаркі, 549 жыхароў (2010).

Вядома з 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 125 жыхароў. Дзейнічаў саўгас «Перадавы», які меў свінагадоўчы накірунак. Дырэктар саўгаса Г.А.Фрэйндорф у вер. 1937 г. быў рэпрэсіраваны і асуджаны на 10 гадоў ссылкі, дзе і загінуў. У 1937 г. на базе саўгаса была створана МТС, якая пазней пераўтворана ў рамонтна-трактарную станцыю, а затым у ПМК-67. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 20 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 15 жыхароў. У 1998 г. 209 гаспадарак, 650 жыхароў. Дзейнічаюць дзіцячы сад, пач. школа, б-ка, магазін, урачэбная амбулаторыя, Цэнтр адпачынку; кацельня КУП «Жылцеплабуд».

**КАРАЛЁВА** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Крупак, 16 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Усохі–Ігрушка–Каралёва. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 23 двары, 146 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 149 жыхароў, стараабрадніцкая царква. У лютым–ліст. 1918 г. знаходзілася пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. ў складзе Ігрушкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 34 двары, 181 жыхар. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 28 двароў, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 5 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Шлях Сталіна». У 1959 г. 115 жыхароў. З 1960 г. ў калгасе «Гігант», з 1961 г. ў саўгасе (пазней – калгас) «Грушаўскі». У 1998 г. 17 гаспадарак, 42 жыхары. З 2004 г. ў складзе СВК «Грушаўскі», затым – «Майскае-Агра».

**КАРПАЎКА** (да 1978 г. Асінаўка) – вёска ў Крупскім с/с, за 3 км на Пн ад горада і 7 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 123 км ад Мінска, на аўтадарозе Барысаў–Талачын. 19 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 – пач. 20 ст. як засценак у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1884 г. тут 3 двары, 17 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 25 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1930-я г. жыхары вёсак Карпаўка, Майск, Лебедзева стварылі калгас «Май». У студз. 1932 г. аб'ядноўваў 67 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяс-

коўцаў. Пасля вайны ў калгасе «Бальшавік». У 1960 г. 74 жыхары, у калгасе імя Калініна. У 1998 г. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра».

**КАРПУШОЎКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Гапонавічы—Карпушоўка. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як хутар у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 24 жыхары. У 1909 г. засценак, 2 двары, 24 жыхары. З 20.8.1924 г. засценак у Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. У 1929 г. жыхары вёсак Карпушоўка і Усцінаўка аб'ядналіся ў калгас «Новы лад». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Ленінец», які ў 1951 г. быў перайменаваны ў калгас імя Леніна. З 28.7.1954 г. ў складзе Крупскага с/с. У 1959 г. ў вёсцы 71 жыхар. У 1998 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**КАСТРЫЧНІК** (да 1918 г. Ламское) — вёска ў Абчугскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Крупак, 25 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Ламское—Калыбанава. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (1998).

З 8.8.1924 г. ў складзе Абчугскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 28 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. У 1959 г. 97 жыхароў, у саўгасе (затым — калгас) «Слабада». З 1973 г. зноў у Абчугскім с/с. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**КАСЯНІЧЫ** — вёска ў Абчугскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Крупак, 37 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Лукомль. 105 гаспадарак, 185 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў пач. 16 ст. як сяло ў складзе маёнтка Чарэя, уласнасць кн. Фёдара Фёдаравіча Сакалінскага-Каноплі. У 1554 г. належала Фёдару Уладыку, пасля таго як князь аддаў паселішча ў пасаг сваёй дачцэ Альжбеце Касініч. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Гаворы, уладанне кн. Міхала Друцкага-Сакалінскага. У 1669 г. ўладанне Стэфана Галінскага, войскага аршанскага. У 1790 г. двор Гаворы з Касянічамі, Стэфанавым, Белай Дубровай былі прададзены Феліксам і Юзафам Галінскімі Юзафу Ваньковічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1863 г. пабудавана драўляная Петрапаўлаўская царква. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Высокагарадзецкай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічвалася 210 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім, сталярным і ганчарным промысламі. У 1880 г. ў сяле 63 двары, 452 жыхары, праваслаўная царква. У 1897 г. тут 110 двароў, 730 жыхароў, кузня, царк.-прыходская школа, заезны двор, царква. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 124 двары, 785 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, дзе ў 1925 г. працавалі 2 настаўнікі, навучаліся 103 вучні. У гады калектывізацыі створаны калгас «Новы буд». З

8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У гэты час у Касянічы ўваходзілі 23 пасёлкі і хутары: Гавары, Горкі, Майскі, Жданоўка, Малыя Касянічы, Вялікія Касянічы, Аўселькава, Гарадок, Красная Дубрава, Барысаўка, Марозаўка, Іскра, Дон, Рабіннікі, Кіслая Гара, Краснае, Блындаўка, Пятроўка, Байкал. У 1939—40 гг. навакольныя хутары былі сселены ў вёску. У 1941 г. ў вёсцы 243 двары, 894 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (18 двароў) і загубілі 25 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 106 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. было 843 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Абчугскім с/с. З 1965 г. цэнтр саўгаса (пазней — калгас) «Касянічы». У 1971 г. 238 двароў, 686 жыхароў. У 1998 г. 184 гаспадаркі, 342 жыхары. З 2004 г. цэнтр с.-г. філіяла «Касянічы» КУП «Мінскаблдарбуд—ДРБУ № 164». У вёсцы дзейнічаюць клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік у гонар 44 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**КІРАВА** (да 1918 г. Рыкаўка) — пасёлак у Абчугскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Крупак, 17 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Стары Бобр—Слабада. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (1998).

Паселішча засн. ў канцы 19 ст. У 1888 г. сюды пераехалі на жыхарства некалькі сем'яў з Літвы. Яны купілі зямлю ў памешчыка маёнтка Слабада. У гады калектывізацыі быў створаны калгас «Светлая зара». У 1959 г. тут 89 жыхароў. Зараз у пасёлку ніхто не жыве.

**КІЯВЕЦ** — вёска ў Абчугскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Крупак, 17 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Стары Бобр—Кіявец. 63 гаспадаркі, 144 жыхары (2010).

За 0,3 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Бобр, знаходзіцца стараж. гарадзішча 6 ст. да н.э. — 7 ст. н.э. — помнік археалогіі, што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1562 г. як сяло маёнтка Коханава ў Худаўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ, уладанне кн. Друцкага-Талачынскага. У 1590 г. маёнтак Коханава разам з дваром Кіявец купіў у Ераніма Гарнастая канцлер ВКЛ Леў Сапега. У 1624 г. сяло (27 двароў) у складзе маёнтка Чарэя, уладанне Сапегаў, 8 валок зямлі, зымаўся чынш у памеры 9 коп 36 грошаў. У пач. 18 ст. вёска — цэнтр Кіявецкага войтаўства Чарэйскага маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У склад войтаўства ўваходзілі 19 паселішчаў. У інвентары Чарэйскага маёнтка за 1713 г. адзначана, што жыхары с. Кіявец раней былі толькі кунічнікамі, а затым былі пераведзены ў катэгорыю цяглых сялян з абавязкам адпрацоўваць паншчыну. У гады Паўн. вайны 1700—21 гг. моцна пацярпела, тут уцалелі толькі 17 двароў. Кіявецкае войтаўства знаходзілася ў закладзе ў Ігнацыя Агінскага, у 1700 г. яго выкупіў Сапега. У канцы 18 ст. Кіявец зноў знаходзіўся ў закладзе, у Чарэйскім графстве. У 1790 г. канцлер Сапега выкупіў вёску з закладу ў Гіяцынта Косці і перазаклаў Віленскаму кляштару піяраў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1812 г. вёска, уладанне М.Нітаслаўскага. Пад час ваенных дзеянняў была часткова спалена і разрабавана. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1872 г. налічвала 75 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 39 двароў, 281 жыхар. У 1909 г.



В.П.Філонаў.

45 двароў, 309 жыхароў, у 1917 г. 49 двароў, 334 жыхары. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «10 гадоў КІМа». Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 59 двароў, 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 25 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 19 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Барацьбіт». Пазней увайшла ў саўгас (затым — калгас) «Абчуга». У 1959 г. налічвалася 207 жыхароў. У 1998 г. 87 гаспадарак, 184 жыхары. З 2007 г. ў складзе СВК «Журавы». У вёсцы размешчаны магазін; Абчугскае лясніцтва дзярж. лесагасп. ўстановы «Крупскі лясгас». Працуе дом сямейнага тыпу.

Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне гігіены і эпідэміялогіі, доктара медыцынскіх навук, праф. В.П.Філонава (н. ў 1949 г.), які з 2008 г. ўзначальвае Рэсп. навук.-практычны цэнтр гігіены.

**КЛАДЗІ** — вёска ў Нацкім с/с, за 10 км на З ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 111 км ад Мінска, на аўтамагістралі Барысаў—Талачын. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Цвіце лён.



З 20.8.1924 г. вёска ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1929 г. жыхары вёсак Кладзі, Нача, Барок аб'ядналіся ў калгас «Новая Нача». У 1941 г. налічвалася 18 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 15 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе «Камунар». У 1959 г. ў вёсцы 71 жыхар. У 1998 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**КЛЁН** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Крупак, 17 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брышча—Клён. 17 гаспадарак, 46 жыхароў (2010).

Вёска вядома з сярэдзіны 17 ст. пад час размежавання Халопеніцкай і Барысаўскай валасцей. У 1641 г. ў складзе Барысаўскага староства. У 1643 г. тут быў пабудаваны касцёл. Вёска належала плябаніі Барысаўскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 17 двароў, 205 жыхароў, уласнасць Барысаўскай плябаніі. У 1897 г. ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета, 46 двароў, 310 жыхароў. У 1909 г. 59 двароў, 361 жыхар. У 1912 г. пачала працаваць школа (нар. вучылішча). У 1917 г. 57 двароў, 373 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. налічвалася 75 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 70 двароў, 359 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. У 1937 г. дырэктар мясц. школы Ю.І.Мар-

цінкевіч быў рэспрэсіраваны і расстраляны. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 мірных жыхароў. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. У 1959 г. ў Дакудаўскім с/с, 137 жыхароў, клуб, у складзе калгаса «Бальшавік». З 2003 г. ў СВК «Жаберычы». Дзейнічалі магазін, ферма. З 2007 г. ў СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім с/с. Працуюць магазін, малочна-таварная ферма. У наваколлі вёскі захаваліся курганы (36 насыпаў) — помнік археалогіі.

**КЛІШЫНА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 52 км на Пн ад горада і 54 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Барсукі—Клішына. На ПнУ меліярацыйны канал. 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2010).

За 1 км на Пд ад вёскі, на востраве воз. Сялява, ва ўрочышчы Выспянская Гара, размешчана стараж. гарадзішча, адносіцца да днепра-дзвінскай культуры штрыхаванай керамікі і датуецца 6 ст. да н.э. — 9 ст. н.э. Помнік археалогіі сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома як вёска з 18 ст. Засн. на месцы стараж. гарадзішча. У 1770 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 6 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 11 двароў, 66 жыхароў, дзейнічала капліца. У 1909 г. засценак, 12 двароў, 100 жыхароў. З 1912 г. працавала земская школа. Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У 1941 г. ў вёсцы 26 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. У 1959 г. 122 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім, з 30.12. 2009 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. З 2007 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**КЛУБЫНІЧЫ** — вёска ў Абчугскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Асечана—Клубынічы. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца як вёска ў 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 2-й пал. гэтага стагоддзя велікакняжацкі пісар Багдан Сямёнавіч Сапега праз шлюб з князёўнай Федкай Друцкай-Сакалінскай набыў частку маёнтка Чарэя і права апекі над Чарэйскім манастыром з в. Клубынічы. З 1591 г. частка маёнтка разам з вёскай і манастыром у выніку падзелу маёмасці дасталіся Льву Сапегу. Вёска доўгі час знаходзілася пад апекай Сапегаў. У 1775 г. тут 9 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1873 г. вёска ў Высокагарадзецкай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 86 жыхароў мужчынскага полу, кузня. У 1880 г. 28 двароў, 188



*Археалагічныя знаходкі з гарадзішча Клішына.*

жыхароў. У 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 233 жыхары, 2 кузні. У 1909 г. налічвалася 49 двароў, 314 жыхароў. У 1912 г. пачала працаваць земская школа. Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7. 1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 50 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў 31 вясковец. У 1959 г. было 247 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 5.5.1962 г. ў Абчугскім с/с. З 1965 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Касянічы». З 2007 г. ў складзе с.-г. філіяла «Касянічы» КУП «Мінскаблдарбуд—ДРБУ № 164».

**КЛЯНОВІЧЫ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Крупак, 11 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Кляновічы. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 17 двароў, 141 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 27 двароў, 196 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Дзяржынскага, які ў 1932 г. налічваў 23 гаспадаркі. У гэты час значную колькасць насельніцтва складалі жыхары польскай нацыянальнасці. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 16 вяскоўцаў. У 1950-я г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У 1959 г. налічвалася 95 жыхароў. З 1960 г. ў саўгасе «Бобр». З 5.5.1962 г. ў Бобрскім с/с. З 1967 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. З 2007 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**КОЛАС** — вёска ў Бобрскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 131 км ад Мінска, на аўтадарозе Стары Бобр—Забалоцкае. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Засн. як вёска ў 1990-я г. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**КОЛАС** (да 1962 г. Каўпыніца) — вёска ў Нацкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 112 км ад Мінска, на аўтадарозе Кладзі—Заполле. 44 гаспадаркі, 101 жыхар (2010).

Вёска засн. ў сярэдзіне 17 ст. У 1670 г. значылася як засценак Каўпыніца ў складзе Барысаўскага староства. Уваходзіла ў Замкавую вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, 2 двары. У 1781 г. налічваліся 3 гаспадаркі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў, 25 жыхароў, з іх 18 адносіліся да шляхты. У 1800 г. ў вёсцы 10 двароў, 59 жыхароў, часткова належала М.Радзівілу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска Каўпыніца, 31 двор, 240 жыхароў. У 1908 г. вёскі Каўпыніца 1 (16 двароў, 86 жыхароў) і Каўпыніца 2 (11 двароў, 63

*Плавальны басейн фізкультурна-аздараўленчага цэнтра ў в. Кляновічы.*



жыхары). У 1917 г. ў вёсках Каўпыніца 1 — 24 двары, 163 жыхары, Каўпыніца 2 — 16 двароў, 110 жыхароў. У 1919 г. адкрыта пач. школа (у 1925 г. 59 вучняў). З 20.8.1924 г. вёска ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 45 двароў, 256 жыхароў. У 1929 г. жыхары вёскі сумесна з жыхарамі в. Малое Восава аб'ядналіся ў калгас «1-я пяцігодка». У 1932 г. ў ім налічвалася 39 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 51 двор. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 30 вяскоўцаў. У 1959 г. 144 жыхары. У 1998 г. 58 гаспадарак, 149 жыхароў, у калгасе «Камунар». З 2003 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». Працуе магазін. У цэнтры вёскі помнік на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**КРАСНАВІНКА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 41 км на ПнУ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Асечана—Касянічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца з 1775 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, налічвалася 6 двароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Высокагарадзецкай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 38 душ мужчынскага полу. У 1880 г. 11 двароў, 101 жыхар. У 1897 г. 21 двор, 149 жыхароў. У 1909 г. 23 двары, 249 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У час калектывізацыі створаны калгас «Новы шлях». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 30 гаспадарак, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 118 жыхароў (1960). З 1965 г. вёска ў саўгасе «Касянічы». З 2004 г. ў складзе філіяла «Касянічы» КУП «Мінскаблдарбуд—ДРБУ № 164».

**КРАСНАЎКА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 43 км на ПнЗ ад Крупак, 38 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Краснаўка. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як вёска ў Красналуцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. тут 28 двароў, 199 жыхароў, у 1917 г. 35 двароў, 188 жыхароў, школа граматы. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Грыцкавіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 197 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Ільіча, які ў студз. 1932 г. налічваў 18 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 29 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў тыле ворага загінулі 8 жыхароў вёскі. З 1950 г. вёска ў калгасе імя Варашылава, які ў 1958 г. быў перайменаваны ў калгас імя Фрунзе. З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 26.8. 1959 г. ў Халопеніцкім сельсаветах (пазней пас. Савет). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 154 жыхары, у саўгасе «Халопенічы». З 1965 г. ў складзе эксперыментальнай базы «Эса». У 1998 г. 23 гаспадаркі, 48 жыхароў. З 2001 г. ў РУСП эксперыментальная база «Эса». З 30.12. 2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**КРАСНОЎКА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на У ад Крупак, 4 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 140 км

ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Навесы—Красноўка. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 14 двароў, 115 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 175 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Сакалавіцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 46 двароў, 250 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў студз. 1932 г. налічваў 13 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 19 вяскоўцаў. Пасля вайны ўваходзіла ў калгас «Чырвоны сцяг». З 16.7.1954 г. ў складзе Бобрскага с/с. У 1959 г. 111 жыхароў, у калгасе імя Леніна, з 1960 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Бобр». У 1998 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**КРУГЛІЦА** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Крупак, 21 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска, каля аўтадарогі Батуры—Старая Пярэсіка. 8 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Вядома з 1777 г. як с. Кругліца або Пліцкаўшчызна ў графстве Халопенічы Аршанскага павета, уласнасць Храптовічаў, налічвалася 18 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уладанне памешчыка Храптовіча, 39 душ мужчынскага полу. З 20.8.1924 г. пазначана як в. Перасека-Кругліца ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 36 двароў, 214 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Шлях Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 25 двароў, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 6 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. З 16.7.1954 г. ў Халопеніцкім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 129 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Ігрушкаўскім с/с, у складзе саўгаса «Халопенічы», з 1964 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Прызыў». У 1998 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар. З 2004 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

**КРУПСКІ** – пасёлак у Крупскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і 6 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 113 км ад Мінска, на аўтадарозе Лянок—Крупкі. 1152 жыхары (2010).

Вядомы з канца 19 ст. Узнік у сувязі з будаўніцтвам чыгункі. У 1885 г. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., чыг. станцыя, 9 двароў, 90 жыхароў, побач існаваў хутар — 1 двор, 10 жыхароў, уладанне К.Свяцкага. У 1906 г. чыг. ст. Крупка, 55 двароў, 322 жыхары, а таксама хутар — 1 двор, 7 жыхароў, карчма. У 1917 г. пасёлак і чыг. станцыя, 35 двароў, 344 жыхары. З 1918 г. ў складзе Крупскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Дзейнічала сярэдняя школа. У 1941 г. ў пасёлку 140 двароў, 684 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 54 мірных жыхароў. У вёсцы размяшчаўся ням. гарнізон, дзейнічала падп. патрыятычная група. Пасёлак быў часткова спалены. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 96 чал. Пасля вайны адбудаваны. У 1969 г. пасёлак пры чыг. ст. Крупкі перайменаваны ў пас. Крупскі. У 1998 г. 1058 жыхароў. Дзейнічаюць лясгас, лясніцтва, дзіцячы сад, сярэдняя шко-

ла, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, кафэ, 4 магазіны.

**КРЫСТОПАЎШЧЫНА** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 120 км ад Мінска, на р. Нача. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брышча—Крыстопаўшчына. На Пн меліярацыйны канал, на ПдЗ балота. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як засценак у Барысаўскім старостве, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. налічвалася 3 двары, 21 жыхар. У 1800 г. 9 двароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1818 г. маёнтак, 4 двары, у 1845 г. — 5 двароў, 34 жыхары. У 1897 г. вёска ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 79 жыхароў і аднайменны хутар, 6 двароў, 54 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 132 жыхары, у 1917 г. 14 двароў, 106 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 28 двароў, 161 жыхар. У гады калектывізацыі ў вёсцы быў арганізаваны калгас імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 26 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Панамарэнкі, які ў 1958 г. быў перайменаваны ў калгас «За мір». У 1959 г. 96 жыхароў. З 13.9.1982 г. ў Дакудаўскім с/с. У 1998 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары. З 2003 г. ў СВК «Жаберычы», з 2007 г. ў складзе СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім с/с.

**КУПЛЕНКА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 47 км на Пд ад Крупак, 37 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска, каля аўтадарогі Ухвала—Знаменская, вакол лес. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся курганныя могільнікі — помнікі археалогіі, якія сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у стараж. часы. У пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца ў сярэдзіне 18 ст. У 1764 г. ўваходзіла ў склад Гібайлаўскага староства, уладанне Ю.Храптовіча, 5 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. знаходзілася ў 50-гадовым валоданні Беліцковічаў, уваходзіла ў Гібайлаўскае староства Барысаўскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 55 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. таго ж павета і губерні. У 1897 г. вёска, 34 двары, 253 жыхары. У 1909 г. 41 двор, 292 жыхары, у 1917 г. 47 двароў, 348 жыхароў. Дзейнічала адзіная прац. школа, у якой у снеж. 1920 г. было 50 вучняў. З 20.8.1924 г. ва Ухвальскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 66 двароў, 360 жыхароў. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 50 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 75 мірных жыхароў. На франтах загінулі 23 жыхары вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Кірава. У 1959 г. ў вёсцы 167 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 37 гаспадарак, 61 жыхар, у калгасе «Ніва». У 1984 г. ўстаноўлены помнік на магіле ахвяр фашызму. З 2004 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

Вёска — радзіма бел. паэта і журналіста В.С.Макарэвіча (н. ў 1939 г.).



*В.С.Макарэвіч.*

**КУТАВЕЦ** – вёска ў Абчугскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 143 км

ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Куты і далей па прасёлачнай дарозе. На У працякае р. Бобр. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядомы з канца 19 ст. як пас. Пералессе (ён жа Кутавец) у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут было 5 двароў, 32 жыхары. У 1909 г. налічвалася 45 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У гады калектывізацыі вяскоўцы сумесна з жыхарамі вёсак Смародзінка, Луцішча і Шкорнеўка аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 14 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. З 1958 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Слабада». У 1959 г. 58 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Акцябрскім, з 28.7.1966 г. ў Бобрскім, з сак. 1973 г. ў Абчугскім сельсаветах. У 1998 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Журавы».

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы В.А.Пятрушынай (н. ў 1939 г.).

**КУТЫ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска, на аўтадарозе Ярашоўка—Кутавец. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца як вёска з 1699 г. ў складзе маёнтка Бобр Аршанскага павета Віцебскага ваяв., якім валодаў Бенядзікт Сапега. У 1700 г. маёнтак разам з суседнімі вёскамі, у т.л. і в. Куты, быў прададзены за 35 тыс. злотых Яну Казіміру Лендарфу, стольніку мсціслаўскаму. У 1772 г. ўласнасць пана Агінскага, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. разбурана і разрабавана французамі, знаходзілася ў валоданні І.Вальковіча. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічвалася 70 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы было 43 двары, 246 жыхароў, у 1909 г. 47 двароў, 257 жыхароў, дзейнічала школа граматы. Да 1924 г. ў РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бобрскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 63 двары, 310 жыхароў. У жн. 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Перамога», які да студз. 1932 г. налічваў 47 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 43 двары, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (12 двароў). На франтах загінуў 21 жыхар. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ўваходзіла ў калгас «Чырвоны Бобр», пазней у саўгас (затым — калгас) «Бобр». У 1959 г. ў вёсцы 190 жыхароў. У 1998 г. 19 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**ЛАГІ** — вёска ў Абчугскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 155 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Астроўкі—Дзяньгубка. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 1-й пал. 17 ст. як паселішча ў складзе маёнтка Чарэя ў Віцебскім ваяв. ВКЛ. У 1624 г. вёска, уладанне канцлера Льва Сапегі, 12 валок зямлі; пазней у валоданні нашчадкаў Сапегі. У 1713 г. ў Кіявецкім войтаўстве маёнтка Чарэя Аршанскага павета, налічвалася 28 дымоў. У 1784 г. Сапега прадаў фальварак Дзяньгубка разам з суседнімі вёскамі, у т.л. і в. Лагі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1812 г. вёска належала І.Мілашу, разрабавана і часткова спалена французамі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Абчугскай вол.

Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічвалася 89 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім, бандарным і інш. промысламі. У 1880 г. 33 двары, 274 жыхары. У 1897 г. ў вёсцы было 47 двароў, 354 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 44 двары, 174 жыхары мужчынскага і 186 жаночага полаў. У 1917 г. ў вёсцы 52 двары, 407 жыхароў, школа граматы (з 1913 г.). Да 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Лагі». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 72 двары, 228 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. часткова спалілі вёску (5 двароў) і загубілі 11 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 22 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Прагрэс», з 1960 г. ў саўгасе «40 гадоў Кастрычніка». У 1959 г. 212 жыхароў. З 1965 г. вёска ў саўгасе (пазней — калгас) «Абчуга». У 1998 г. 27 гаспадарак, 53 жыхары. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы». Працаваў магазін. Помнік на магіле С.С.Садоўскага — воіна-інтэрнацыяналіста, які загінуў 20.3.1985 г. ў Афганістане.

**ЛАЖКІ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 49 км на Пд ад Крупак, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 132 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Прусаўшчына—Захараўка. На ПнЗ воз. Нерыб. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з 1622 г. як с. Лашок, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1816 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 12 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць В.Беліковіча. У 2-й пал. 19 ст. — пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. таго ж павета і губерні. У 1897 г. тут 12 двароў, 97 жыхароў, у 1909 г. 17 двароў, 118 жыхароў. У 1917 г. 18 двароў, 136 жыхароў. З 20.8.1924 г. ва Ухвальскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 24 двары, 122 жыхары. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 28 двароў, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў час акупацыі загінулі 25 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Варашылава. У 1959 г. 117 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў, у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**ЛАЗОЎКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Лазоўка. На ПнУ меліярацыйныя каналы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. пазначана як в. Лазоўка (яна ж Гапонавічы), 26 двароў, 173 жыхары. У 1909 г. 27 двароў, 83 жыхары мужчынскага і 71 жаночага полаў, дзейнічала школа граматы. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. налічвалася 26 двароў, 164 жыхары. У 1928 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Іскра». У сак. 1929 г. да гаспадаркі далучыліся жыхары в. Леванова, калгас атрымаў назву «Праўда», які ў студз. 1932 г. налічваў 15 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 17 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў кал-



*С.С.Садоўскі.*

гасе «Ленінец», з 1951 г. ў калгасе імя Леніна. З 28.7.1954 г. вёска ў Крупскім с/с. У 1959 г. 68 жыхароў. У 1998 г. 6 гаспадарак, 24 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**ЛАМСКОЕ** – вёска ў Абчугскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Крупак, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 143 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў–Талачын. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

Вядома з 2-й пал. 17 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Адносілася да маёнтка Бобр, уласнасць падскарбія Бенядзікта Сапегі. У 1699 г. маёнтак Бобр, у т.л. і в. Ламское, былі далучаны да маёнтка Чарэя гэтага ж павета. Згодна з інвентаром маёнтка Чарэя за 1713 г., вёска ўваходзіла ў Кіявецкае войтаўства. Да 1718 г. маёнтак знаходзіўся ў закладзе ва ўдавы Міхала Пяроты. У пач. 18 ст. ў вёсцы налічваліся 54 двары. З 1790 г. ў складзе Чарэйскага графства, у закладзе ў Віленскім кляштары піяраў. Пазней у валоданні пана Камінскага, затым у Гардзялкоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У фальварку Ламское дзейнічала вінакурня. У 1873 г. вёска Ломск, 118 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. налічвалася 62 двары, 463 жыхары, дзейнічалі хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак (24 жыхары), дзе працаваў вінакурны з-д (16 рабочых). У 1909 г. ў вёсцы 73 двары, 236 жыхароў мужчынскага і 247 жаночага полаў, у маёнтку – 1 двор, 23 жыхары, школа граматы. Да 1924 г. ў складзе РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска ў Чарэйскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Светлая зара». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 65 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся фаш. гарнізон. Частка вяскоўцаў была вывезена на прымусовыя работы ў Германію. Вызвалена 28.6. 1944 г. На франтах загінулі і прапалі без вестак 39 жыхароў вёскі. Пасля вайны ў Абчугскім с/с. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік», працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 1959 г. 80 жыхароў. З 9.8.1960 г. ў Бобрскім с/с. З 1965 г. ў саўгасе (пазней – калгас) «Абчуга». З сак. 1973 г. зноў у Абчугскім с/с. У 1998 г. 32 гаспадаркі, 50 жыхароў. Дзейнічалі б-ка, магазін. З 2004 г. ў складзе СВК «Жураўы».

**ЛАШАНЦЫ** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Крупак, 14 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 137 км ад Мінска, на аўтадарозе Лянок–Лашанцы. На У цячэ р. Блудыня. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

Вядома з 1772 г. як вёска ў складзе маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў, 5 двароў, 30 жыхароў мужчынскага полу. У 1778 г. была прададзена разам з іншымі паселішчамі Ануфрыю Рашкоўскаму, уладальніку маёнтка Шчаўры. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. была разбурана і разрабавана французамі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 36 двароў, 222 жыхары. У 1909 г. 44 двары, 271 жыхар. З 20.8. 1924 г. ў складзе Малажаберыцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы налічвалася 62 двары, 324 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя С.Родзіна, які ў 1932 г. налічваў 40 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 58 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах за-

гінулі 17 жыхароў. З 1950 г. ў складзе калгаса «Усход». У 1959 г. 285 жыхароў. З 1960 г. ў калгасе «Гігант», з 1961 г. ў саўгасе «Грушаўскі». З 1973 г. ў складзе Ігрушкаўскага с/с. У 1998 г. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў, у саўгасе «Старасел-ле». З 2004 г. ў складзе СВК «Старасельскае». На могілках пахаваны А.М. Пчолка, ураджэнец вёскі, які загінуў 28.4.1984 г. пры выкананні інтэрнац. абавязку ў Афганістане.

**ЛЕБЕДЗЕВА** – вёска ў Крупскім с/с, за 3 км на ПнУ ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 125 км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі–Зароўе–Лебедзева. На У і ПдУ лес. 27 гаспадарак, 58 жыхароў (2010).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ. У вайну 1812 г. спалена і разрабавана французскімі войскамі пры адступленні. У 2-й пал. 19 ст. ў Бобрскай вол. таго ж павета. З 1874 г. належала стацкаму саветніку Аляксандру Семянтоўскаму-Курылу. На гэты час тут 20 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 14 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 51 жыхар. Непадалёку знаходзілася аднайменная лесніЧоўка, 1 двор, 8 жыхароў. У гады калектывізацыі жыхары вёсак Лебедзева, Майск, Карпаўка арганізавалі калгас «Май». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 27 двароў, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 11 мірных жыхароў. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. 18.9.1944 г. за 0,5 км ад вёскі акупанты расстралялі 1975 мірных жыхароў, на магіле якіх у 1969 г. ўстаноўлены помнік. З 1959 г. вёска ў калгасе імя Калініна. У 1998 г. 35 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра».

**ЛІВАНОВА** – вёска ў Крупскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і 9 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 126 км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі–Лазоўка. 12 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 22 двары, 116 жыхароў. У сак. 1929 г. жыхары вёскі сумесна з жыхарамі в. Лазоўка арганізавалі калгас «Праўда», які ў студз. 1932 г. налічваў 15 гаспадарак. У 1941 г. ў вёсцы 17 двароў, 103 жыхары. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Леніна. З 28.7.1954 г. ў Крупскім с/с. У 1959 г. 74 жыхары. У 1998 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».


*А.М.Пчолка.*

**ЛІПАВЕЦ** – вёска ў Бобрскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 141 км ад Мінска, каля аўтадарогі Стары Бобр–Кляновічы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 12 двароў, 82 жыхары. У 1909 г. 89 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў складзе Шэйкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы налічвалася 18 двароў, 110 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас імя М.Горкага, які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Дзяржынскага, з 1960 г. ў саўгасе «Бобр». У 1959 г. 81 жыхар. У 1967 г.

вёска ўвайшла ў саўгас «Колас». З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 14 гаспадарак, 14 жыхароў. З 2003 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**ЛІСІЧЫНА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 43 км на ПнЗ ад горада і 38 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 157 км ад Мінска, на аўтадарозе Слабада–Лісічына. На ПнЗ, ПдЗ і ПдУ лес. 38 гаспадарак, 69 жыхароў (2010).

Вядома з 1667 г. як вёска ў складзе Лукомскага княства ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць кн. Самуэля Лукомскага, якому належалі суседнія вёскі Барсукі, Паснікавічы (або Пасёмкавічы), разам 34 дымы. У 1772 г. ўладанне пана Кістаржэцкага, налічвала 17 двароў. У 1790 г. тут 26 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. тут жылі стараверы. У 2-й пал. 19 ст. сяло, цэнтр Лісічанскай вол. ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ. У 1891 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якім у 1899 г. навучаліся 17 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1873 г. ў сяле 99 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім, ганчарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. налічвалася 39 двароў, 268 жыхароў, працавалі вал. праўленне, школа, хлебазапасны магазін, царква, заезны дом, гандл. крама. Непадалёку знаходзіўся аднайменны фальварак, 2 двары, 24 жыхары. У 1909 г. 50 двароў, 295 жыхароў, у фальварку – 4 жыхары, уласнасць памешчыка Хамінскага, працаваў фельчарскі пункт (з 1908 г.). З 20.8.1924 г. вёска ў Грыцковіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў с. Лісічына было 96 двароў, 290 жыхароў, у аднайменным маёнтку – 23 двары, 103 жыхары. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў былым маёнтку Хамінскага. У 1925 г. тут навучалася 35 вучняў. У 1929 г. жыхары вёскі арганізавалі калгас «Энергія». У студз. 1932 г. аб'ядноўваў 83 гаспадаркі. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 71 двор, 425 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 30 мірных вяскоўцаў. На франтах загінулі 25 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Слабодскім с/с. З 26.8. 1959 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с, 430 жыхароў (1959), у складзе калгаса імя Маленкова. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім, з 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. У 1998 г. 84 гаспадаркі, 152 жыхары, у саўгасе «Сялява». Дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. З 2007 г. ў СВК «Халопенічы». Працуе Дом сац. паслуг.

**ЛУЖА** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Камяніца–Новыя Шчаўры і далей па прасёлачнай дарозе. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Непадалёку ад вёскі, у лясным масіве, выяўлены курганы, каменны крыж, сярэдневяковы могільнік і фрагменты культавай пабудовы, што сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у стараж. часы. У пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца з 1715 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць, 10 двароў. У 1772 г. належала Сапегам, 13 двароў. У 1778 г. ў складзе маёнтка Шчаўры, якім валодаў Ануфрый Рашкоўскі, 24 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і часткова спалена французскімі войскамі. У гэты час належала С.Рашкоўскаму. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. ў вёсцы

было 42 двары, 247 жыхароў. У 1909 г. 47 двароў, 258 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 62 двары, 330 жыхароў. У гады калектывізацыі жыхары вёсак Лужа і Актавія аб'ядналіся ў калгас «Шлях сацыялізму». У студз. 1932 г. налічваў 18 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 40 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах вайны загінуў 21 жыхар вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Усход». У 1959 г. 111 жыхароў. З 1960 г. ў калгасе «Гігант», з 1961 г. ў саўгасе «Грушаўскі», з 1966 г. ў складзе саўгаса «Стараселле». З 1973 г. ў Ігрушкаўскім с/с. У 1998 г. 4 двары, 7 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

**ЛУЦІШЧА** – вёска ў Абчугскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ламское—Луцішча. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 18 ст. як вёска ў складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Паводле інвентара Чарэйскага маёнтка ў 1713 г. належала Сапегам, 10 валок зямлі, 7 гаспадарак, з іх толькі 2 двары мелі па кані і карове. У 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў Агінскага, 11 гаспадарак, 43 душы мужчынскага полу. У 1778 г. Сапега прадаў вёску разам з іншымі паселішчамі польскаму шляхціцу Ераніму Пшасмыцкаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 38 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 153 жыхары. У 1909 г. 33 двары, 184 жыхары, дзейнічала школа граматы. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 мірных жыхароў. На франтах загінулі 32 вяскоўцы. У 1959 г. 127 жыхароў, у саўгасе «40 гадоў Кастрычніка», з 1965 г. ў складзе саўгаса «Слабада». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 5.5.1962 г. ў Акцябрскім, з 28.7.1966 г. ў Бобрскім, з сак. 1973 г. ў Абчугскім сельсаветах. У 1998 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ЛЮТЫЯ** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 152 км ад Мінска, каля аўтадарогі Язбы—Шарнева. 29 гаспадарак, 58 жыхароў (2010).

Вядома з 1624 г. як вёска ў складзе маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв., уласнасць канцлера ВКЛ Льва Сапегі, 16 валок зямлі. У 1633 г. Сапега перадаў паселішча свайму сыну Казіміру Леану. Згодна з інвентаром Чарэйскага маёнтка за 1713 г. вёска ў складзе Кіявецкага войтаўства, 20 валок зямлі, 33 двары. Пазней знаходзілася ў закладзе. У 1790 г. Сапега выкупіў вёску разам з іншымі паселішчамі ў Гіяцынта Косці, але тут жа перазаклаў Віленскаму кляштару піяраў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і спалена французамі. У гэты час належала М.Нітаслаўскаму. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. ў вёсцы 119 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. 59 двароў, 418 жыхароў. У 1917 г. 69 двароў,

461 жыхар. У лютым—ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. У 1924 г. на базе земскай адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. тут было 68 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Смародзінскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Ударнік». Першапачаткова ў ім было 10 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 96 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гэты час у вёсцы размяшчаўся фаш. гарнізон, дзейнічала падп. група. Акупанты загубілі 33 мірных жыхароў і спалілі вёску (14 двароў). Вызвалена 28.6.1944 г. З 16.7.1954 г. ў Абчугскім с/с. У 1959 г. 276 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 5.5.1962 г. да 28.7.1966 г. цэнтр Кастрычніцкага с/с. У 1998 г. 52 гаспадаркі, 110 жыхароў. Дзейнічалі клуб, магазін, ферма. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы». Працуе магазін.

**ЛЯДЫ** — вёска ў Крупскім с/с, за 12 км на Пн ад горада і 17 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска, на аўтадарозе Худаўцы—Двор-Пярэсіка. На Пн балота Жалязніца, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).



*У цэху па перапрацоўцы лёну філіяла ААТ «Валожынскі льнокамбінат» у пас. Лянок.*

Вядомы з 2-й пал. 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Аляксандра Сапегі. У 1778 г. была прададзена Томашу Гзоўскаму, 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і спалена пры адступленні французскімі войскамі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 53 рэвізскія душы мужчынскага полу. У 1897 г. 26 двароў, 243 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў. 113 жыхароў мужчынскага полу і 106 жаночага полаў. У лютым—ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 52 двары, 260 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Прамень Свабоды», які да студз. 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. Старшыня калгаса Ф.І.Казлоў рэпрэсіраваны і расстраляны ў ліст. 1937 г. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 47 двароў, 218 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў, у партыз. барацьбе — 2 жыхары. У 1959 г. 175 жыхароў, у калгасе імя А.Колесавай. З сак. 1973 г. ў Крупскім с/с. У 1998 г. 23 гаспадаркі, 31 жыхар, у с.-г. філіяле «Ротань» КУП «Жылцеплабуд». З 2009 г. ў складзе даччынага КСУП «Ротань».

**ЛЯНОК** — пасёлак у Нацкім с/с, за 9 км на З ад горада і 4 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 115 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў—Талачын. 184 гаспадаркі, 453 жыхары (2010).

Вядомы як паселішча з 1952 г., калі пачалося будаўніцтва льнозавода. Першую прадукцыю прадпрыемства выпусціла ў 1955 г. У 1964 г. была ўведзена

2-я паточная лінія, у 1968 г. — 3-я. Адначасова з заводам рос і пасёлак. У 1959 г. 152 жыхары. У 1969 г. пасёлак пры Крупскім ільнозаводзе атрымаў назву Лянок. У 1998 г. 297 гаспадарак, 569 жыхароў. У 2010 г. ў складзе філіяла «Лянок» ААТ «Валожынскі льнокамбінат». Працуюць ільнозавод, базавая школа—дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны. У 1968 г. за 0,2 км на Пн ад пасёлка быў адкрыты буйны курганны могільнік (37 насыпаў) 9—13 ст., які з'яўляецца помнікам археалогіі.

Пасёлак — радзіма У.А.Крыштапенкі (1969—88), воіна-інтэрнацыяліста, які загінуў у Афганістане.

**МАЖАНЫ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 61 км на ПдУ ад горада і 50 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 175 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Мажаны. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

Вядомы з 1639 г. як вёска ў складзе Барысаўскага староства, уласнасць Адама Казаноўскага. У 1764 г. вёска адасобілася і стала цэнтрам Мажанскага староства, 8 двароў, уладанне Ю.Храптовіча. У далейшым мяняла ўладальнікаў незалежна ад астатняй часткі Барысаўскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. належала М.Агінскаму, 8 двароў, уладанне Ю.Храптовіча. У далейшым мяняла ўладальнікаў незалежна ад астатняй часткі Барысаўскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. належала М.Агінскаму, 8 двароў, 52 жыхары. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. ў вёсцы 38 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 24 двары, 181 жыхар. У 1917 г. 26 двароў, 185 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Стараслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 26 двароў, 174 жыхары. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. навучаліся 43 вучні, размяшчалася ў наёмным памяшканні. Школу наведвалі дзеці вёсак Мажаны і Машчаніца. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 мірных вяскоўцаў. На франтах загінулі 13 жыхароў вёскі. Пасля вайны ўваходзіла ў саўгас «Ухвала». У 1998 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў, у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**МАЙСК** (да 1964 г. Панскае) — вёска ў Крупскім с/с, за 3 км на Пн ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы. 143 гаспадаркі, 362 жыхары (2010).

Вядомы з 1667 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, 21 двор, у складзе маёнтка Гапонавічы, які належаў Падбярэзскім. У 1743 г. маёнтак Панскае з'яўляўся ўласнасцю Арцішэўскага, які плаціў падатак з аднаго дыма. У 1775 г. вёска, 24 двары, уладанне пана Замбржыцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. вёска была спалена французамі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1903 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 72 двары, 384 жыхары. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, 7 двароў, 28 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. было 137 вучняў. У час калектывізацыі вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Карпаўка і Лебедзева аб'ядналіся ў калгас «Май». З 20.2.1938 г. ў



*У.А.Крыштапенка.*

складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 103 двары, 308 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 50 мірных вяскоўцаў. Вызвалена 28.6. 1944 г. воінамі 18-й танкавай брыгады. У 1950 г. да калгаса далучаны яшчэ 5 гаспадарак. У 1959 г. ў вёсцы 395 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. З 5.5.1962 г. ў Крупскім с/с. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Красная Ніва. У 1998 г. 149 гаспадарак, 298 жыхароў, дзейнічала клуб. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра». Працуе магазін.

**МАЛАЯ СЛАБАДА** – вёска ў Крупскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і 10 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 120 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў–Талачын. 26 гаспадарак, 48 жыхароў (2010).

Вядома з 1775 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 4 двары, уласнасць пана Тарнаўскага. У 1780 г. яго сыны раздзялілі спадчыну ў вёсках Малая і Вялікая Слабада. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і часткова спалена французамі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. ў вёсцы 42 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. тут 17 двароў, 100 жыхароў, дзейнічала капліца. У аднайменным фальварку – 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 83 жыхары. З 20.8. 1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 28 двароў, 153 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава, які ў студз. 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. У 1941 г. ў вёсцы было 22 двары, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 13 жыхароў вёскі. У 1950 г. да калгаса далучаны 5 суседніх гаспадарак. У 1960 г. ў вёсцы 144 жыхары, у калгасе «Перамога». З 1986 г. ў калгасе імя Леніна. У 1998 г. 36 гаспадарак, 84 жыхары. Дзейнічалі клуб, б-ка, магазін, ферма. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». У 1967 г. ў гонар 59 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік.

**МАЛІНАЎКА** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнУ ад горада і 38 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 160 км ад Мінска, на аўтадарозе Язбы–Хальнявічы. З гаспадаркі, 7 жыхароў (2010).

Вядома з 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. тут 3 двары, 23 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У час калектывізацыі вяскоўцы разам з жыхарамі в. Высокае арганізавалі калгас «Іскра». У 1932 г. налічваў 11 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 20 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 жыхары вёскі. У 1959 г. 39 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 39 жыхароў (1960), у саўгасе «Авангард», затым у саўгасе «Дуброўка». З 1998 г. ў Акцябрскім с/с, 6 гаспадарак, 6 жыхароў. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна». Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

Вёска – радзіма Дз.Ф.Прышчэпава, былога нар. камісара земляробства Беларусі (1924–29).

**МАЛОЕ ВОСАВА** – вёска ў Нацкім с/с, за 18 км на З ад горада і 12 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 107 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кладзі–Нача–Малое Восава. На Пн і ПнЗ садовыя ўчасткі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як хутар у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 3 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. 3 двары, 20 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 8.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. жыхары вёсак Малое Восава і Колас арганізавалі калгас «1-я пяцігодка». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 9 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 жыхары вёскі. З 21.5.1951 г. ў Нацкім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 52 жыхары. У 1998 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары, у калгасе «Камунар». З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**МАЛОЕ ГОРАДНА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 110 км ад Мінска, каля аўтадарогі Малы Вязок—Вялікае Горадна. На Пн цячэ р. Бобр. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2010).

Вядома з 1670 г. як вёска ў складзе Барысаўскага староства, 6 двароў, дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1804 г. тут 15 сямей. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1800 г. пазначана як в. Ніжняе Горадна, 139 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1880-я г. тут запрацавала школа граматы, якая з-за беднасці сялян, што былі не ў стане яе ўтрымліваць, была закрыта ў 1890 г. У 1897 г. вёска Малое Горадна, 21 двор, 267 жыхароў. У 1909 г. налічвалася 27 двароў, 235 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 229 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Выдрыцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 40 двароў, 241 жыхар. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Трактар», які ў студз. 1932 г. налічваў 45 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 15 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Кірава. У 1959 г. 263 жыхары. У 1998 г. 80 гаспадарак, 198 жыхароў. Дзейнічалі клуб, магазін. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». З 30.12.2009 г. ў складзе Ухвальскага с/с. Працуе магазін.

**МАЛОЕ ХАЦЮХОВА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і 28 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 117 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хацюхова—Вялікае Восава. 9 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

Вядома з сярэдзіны 19 — пач. 20 ст. як вёска ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. тут 24 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы было 13 двароў, 109 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 131 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. тут 20 двароў, 115 жыхароў. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Пралетарская Перамога», які ў 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 27 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 ураджэнцаў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Бальшавік», з 1959 г. — «Чырвоны Кастрычнік». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 96 жыхароў (1960). У 1998 г. вёска, 15 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Непадалёку ад вёскі захаваўся помнік археалогіі — курганны могільнік.

**МАЛЫ ВЯЗОК** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 35 км на Пд ад Крупак, 25 км

ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска, каля аўтадарогі Старыя Дзянісавічы—Новы Сакол. На У цячэ р. Можа. 11 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

Вядомы з 1921 г. як хутар у складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 29 двароў, 96 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 28 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 22 жыхары вёсак Вялікі і Малы Вязок. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Молатава, які ў 1958 г. быў перайменаваны ў калгас «Іскра». У 1959 г. 140 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». З 1963 г. ў Дзянісавіцкім с/с і саўгасе «Дзянісавічы». У 1998 г. 25 гаспадарак, 41 жыхар. З 2003 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с. Непадалёку ад вёскі, на беразе р. Можа, захаваўся курганны могільнік (6 курганоў — помнік археалогіі).

**МАЛЫ КАМЕНЕЦ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад горада і 40 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 153 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Малы Каменец. На У лес, на ПдЗ меліярацыйны канал. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., у Чарэйскім графстве, уладанне Сапегаў. Пазней увайшла ў склад маёнтка Старожышча, які разам з маёнткам Шчаўры належаў Рашкоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1848 г. ў складзе маёнтка Старожышча, уласнасць шляхціца Рашкоўскага, 12 жыхароў — вольных, агароднікаў і дваровых сялян. У 1897 г. засценак Каменец Малы, 5 двароў, 23 жыхары. У 1909 г. тут 31 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Грыцковіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 5 двароў, 30 жыхароў. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, 17 двароў, 80 жыхароў. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Пралетарская Перамога», які да студз. 1932 г. налічваў 99 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 21 двор, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. У 1950 г. ўваходзіла ў саўгас (пазней — калгас) «Сялява». З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 26.8.1959 г. ў Вялікахальнявіцкім сельсаветах, 136 жыхароў (1959). З 20.1. 1960 г. ў Крупскім р-не. З 1.10.1973 г. перададзена ў Янаўшчынскі, з 30.12. 2009 г. ў Халопеніцкі сельсаветы. У 1998 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**МАЛЫЯ ЖАБЕРЫЧЫ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Крупак, 19 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брышча—Клён—Малыя Жаберычы. На ПдУ балота. 46 гаспадарак, 96 жыхароў (2010).

Вядомы з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Барысаўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1670 г. тут 5 дымоў, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 12 двароў, 115 жыхароў, драўляная капліца, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1805 г. налічвалася 15 гаспадарак. У вайну 1812 г. разрабавана і спалена

французамі. У 1870 г. вёска ў складзе маёнтка Стара-Барысаў, які належаў вял. кн. Мікалаю Мікалаевічу, 91 жыхар мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У канцы 19 ст. тут пачала працаваць школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 13 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. ў вёсцы было 57 двароў, 418 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 63 двары, 447 жыхароў, побач размяшчаўся аднайменны хутар — 3 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. 78 двароў, 531 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Жаберыцкага (Малажаберыцкага) с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1924 г. створана сельскае т-ва ўзаемадапамогі. Працавала пач. школа (у 1925 г. 50 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Дырэктар школы В.М.Катоўскі быў рэпрэсіраваны і расстраляны ў 1937 г. Паводле перапісу 1926 г. 92 двары, 518 жыхароў. У гады калектывізацыі быў арганізаваны калгас «Перамога», які ў студз. 1932 г. налічваў 41 гаспадарку. З 1934 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 112 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 мірных жыхароў. На франтах загінулі 43 вяскоўцы. У 1946 г. адкрыты хата-чытальня, клуб, б-ка. З 1950 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя Панамарэнкі, які пазней атрымаў назву «За мір», затым — «Бальшавік». У 1952 г. ў вёску перасялены жыхары пасёлкаў Горашава і Граніт. У 1959 г. налічвалася 335 жыхароў. У 1972 г. 80 двароў, 268 жыхароў. З 13.9.1982 г. ў Дакудаўскім, з 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім сельсаветах. У 1998 г. 82 гаспадаркі, 169 жыхароў, у СВК «Жаберычы». З 2007 г. ў складзе СВК «Шчаўры». У вёсцы працуюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік у гонар 68 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Дз.К.Лыціна (1920—54) і поўнага кавалера ордэна Славы І.І.Акаловіча (1922—89).

**МАЛЫЯ ХАЛЬНЯВІЧЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 38 км на ПнУ ад горада і 43 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 163 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы—Язбы—Малыя Хальнявічы. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Вядомы з 1873 г. як вёска ў складзе Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 88 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 35 двароў, 252 жыхары. У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 383 жыхары. У 1909 г. 48 двароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Вялікахальнявіцкага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны земляроб». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 61 двор, 272 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі вёску (18 двароў), загубілі частку мірных жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 28 вяскоўцаў, 9 жыхароў загінулі ў партыз. барацьбе ў тыле ворага. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе імя Маліноўскага, затым у саўгасе «Авангард». З 20.1.1960 г. вёска ў Крупскім р-не, 230 жыхароў (1960). З 14.9.1972 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 34 гаспадаркі, 53 жыхары, у калгасе «Сялява». З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна». Знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

**МАСЛЁНКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 5 км на Пн ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 124



*Дз.К.Лыцін.*



*І.І.Акаловіч.*

км ад Мінска, на аўтадарозе Крупкі—Ліванова. 50 гаспадарак, 105 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1775 г. належала Замбржыцкім, 7 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 27 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 25 двароў, 135 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 35 двароў, 187 жыхароў. У 1928 г. арганізавана с.-г. т-ва «Атраднае», якое ў 1931 г. было пераўтворана ў калгас «Чырвоны герой». У студз. 1932 г. налічваў 14 гаспадарак. У 1941 г. ў вёсцы 77 двароў, 304 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах загінуў 21 жыхар вёскі, у партыз. барацьбе ў тыле ворага — 3 чал. Вёска вызвалена 29.6.1944 г. воінамі 18-й танкавай брыгады. З 1950 г. ў калгасе «Ленінец», з 1951 г. ў калгасе імя Леніна. У 1959 г. 214 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны хутар Гапонавічы. У 1998 г. 69 гаспадарак, 122 жыхары. Працаваў магазін. З 2004 г. ў складзе СВК «Крупскі райаграсервіс». На могілках помнік на магіле невядомага сав. воіна, які загінуў у 1944 г.

**МАТОШКА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 52 км на ПдУ ад Крупак, 45 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала—Старая Слабада—Матошка. На Пд балота. 13 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як засценак Матошкі ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 20 двароў, 85 жыхароў. У 1916 г. пачала дзейнічаць школа граматы. У 1917 г. вёска, 18 двароў, 128 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Старасла-бодскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 21 двор, 115 жыхароў. У 1929 г. ў вёсцы дзейнічала с.-г. камуна. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». У студз. 1932 г. налічваў 24 гаспадаркі. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 20 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў, 3 жыхары — у партыз. барацьбе. Пасля вайны пачаў працаваць фельч.-акушэрскі пункт. З 1950 г. вёска ў калгасе «Чырвоны сцяг», з 1958 г. ў складзе саўгаса «Чырвоная Ніва». У 1959 г. налічвалася 127 жыхароў. З 4.1.1964 г. вёска ва Ухвальскім с/с. У 1998 г. 26 гаспадарак, 68 жыхароў, у калгасе «Ніва». Дзейнічалі пач. школа, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**МАЧУЛІШЧА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 11 км на У ад Крупак, 6 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 140 км ад Мінска, на аўтадарозе Бобр—Навесы. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Вядома з 1-й пал. 17 ст. як вёска ў складзе маёнтка Варанцэвічы Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1636 г. ўласнасць старосты Аляксандра Багдана Сапегі. З 1772 г. ўладанне шляхціца Замбржыцкага, 8 гаспадарак, знаходзілася ў закладзе ў Казіміра Хацятоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. На пач. 19 ст. фальварак у складзе Сенненскага павета Магілёўскай губ. У вайну 1812 г. разрабаваны і спалены французамі, уласнасць А.Барташэвіча. У 1897 г. вёска (8 двароў, 61 жыхар) і аднайменны фальварак (17 жыхароў) у Бобрскай вол. таго ж павета і губерні. У 1909 г. налічвалася 70 жыхароў, дзейнічала кар-

чма. У 1913 г. адкрыта земская школа. У лютым–ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Сакалавіцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 31 двор, 177 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы быт». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 вяскоўцаў. У 1950 г. да калгаса далучаны яшчэ 2 гаспадаркі, які пазней атрымаў назву «Чырвоны сцяг». З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1959 г. налічвалася 123 жыхары, у калгасе «Перамога», з 1965 г. ў саўгасе «Бобр». У вёсцы працавала пач. школа. З 31.3.1977 г. да 18.2.2010 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**МАЧУЛІШЧА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 142 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ігрушка–Ваўкавыск–Мачулішча. На У і Пд меліярацыйныя каналы. 28 гаспадарак, 64 жыхары (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як сяло ў графстве Халопенічы Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1777 г. ўласнасць Л.Храптовіча, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. налічвалася 18 гаспадарак, 92 жыхары. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 41 двор, 287 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 57 двароў, 371 жыхар. З 20.8.1924 г. ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. 64 двары, 334 жыхары. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «1 Мая», які ў студз. 1932 г. налічваў 16 гаспадарак. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 59 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 20 жыхароў вёскі. З 21.5.1951 г. ў Халопеніцкім с/с, у складзе калгаса «Гігант». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 250 жыхароў (1960). З 1966 г. ў саўгасе (пазней – калгас) «Якімаўка». У 1998 г. 45 гаспадарак, 102 жыхары, у Халопеніцкім пас. Савеце (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). Дзейнічала пач. школа. Працуе магазін.

Вёска – радзіма бел. пісьменніка В.Зуёнка (н. ў 1935 г.).



*В.Зуёнак.*

**МАШЧАНІЦА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 58 км на ПдУ ад Крупак, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 172 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала–Бярозка. На ПдЗ балота. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Загарадкі, захаваліся стараж. курганы (18 насыпаў), што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у даўнія часы. У канцы 19 – пач. 20 ст. паселішча ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. пасяленне аднадворца Цімафея Пропера, 1 двор, 12 жыхароў. У 1908 г. засценак, 9 двароў, 62 жыхары. У 1917 г. 10 двароў, 91 жыхар. З 20.8.1924 г. ў складзе Стараслабодскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 17 двароў, 119 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 22 двары, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 3 мірных жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Ухвала», затым у саўгасе «Новая Ніва». З 4.1.1964 г. ва

Ухвальскім с/с. У 1998 г. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў. Дзейнічаў магазін. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**МІКАЛАЕЎКА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 43 км на ПдУ ад Крупак, 33 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 57 км ад Мінска, каля аўтадарогі Ухвала—Старыя Пышачы. На З працякае р. Можа. 30 гаспадарак, 52 жыхары (2010).

За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Вялікае Селішча, захаваліся 2 курганныя могільнікі, якія сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як засценак у складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 12 двароў, 87 жыхароў, дзейнічала царква святога Мікалая Цудатворца. У 1917 г. налічвалася 13 двароў, 101 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ва Ухвальскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1941 г. ў вёсцы 20 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 11 мірных вяскоўцаў. На франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Кірава. У 1959 г. налічвалася 93 жыхары, у саўгасе «Ухвала», пазней увайшла ў калгас «Ніва». У 1998 г. 40 гаспадарак, 75 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**МХЕРЫНА 1** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 142 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Баркі—Мхерына 1. 24 гаспадаркі, 44 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 1-й пал. 17 ст. як с. Мхерына (Амхерына) у складзе Халопеніцкай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1642 г. ўладанне Ераніма Альбрэхта Друцкага-Сакалінскага. З 1649 г. ў шасцігадовым закладзе ў Самуіла Лыскоўскага. Частка Мхерына ў далейшым заставалася ў складзе маёнтка Халопенічы. У 1703 г. сяло Мхерын (26 дымоў) і маёнтак, уладанне Халопеніцкага даміниканскага касцёла. У 1755 г. частку Мхерына, якой валодалі князі Друцкія-Сакалінскія, набыў Марцін Храптовіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. ў сяле 20 двароў, 156 жыхароў, частка яго была ўласнасцю касцёла, частка — прыватнай уласнасцю. Пасля паўстання 1830—31 г. маёнтак быў канфіскаваны ў Халопеніцкага даміниканскага кляштара і перададзены дзярж. ўласнасць. У 1868 г. пабудавана драўляная Ільінская царква. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. сяло ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1885 г. сяло, 12 двароў, 80 жыхароў, царк. прыход, штогод 20 ліп. праводзіўся кірмаш. У 1890 г. засн. льнотрапальнае прадпрыемства, на якім у 1895 г. працавала 25 чал. У 1897 г. налічвалася 27 двароў, 107 жыхароў, дзейнічала карчма, працавала царк.-прыходская школа (з 1898 г.). У 1917 г. сяло, 27 двароў, 159 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Халопеніцкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 40 двароў, 206 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, якая была адкрыта на базе царк.-прыходскай. У 1925 г. тут навучалася 68 дзяцей з вёсак Мхерына, Мхерына 2, Галькі, Капачоўка. У гады калектывізацыі вяскоўцы арганізаваліся ў калгас імя Будзённага, які ў студз. 1932 г. налічваў 21 гаспадарку. З 8.7. 1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 19 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў Траянаўскім, з 1954 г. ў Слабодскім сельсаветах. З 26.8.1959 г. ў Халопеніц-

кім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, 156 жыхароў, у складзе саўгаса (з 1992 г. — калгас) «Халопенічы». У 1998 г. 34 гаспадаркі, 75 жыхароў, у Халопеніцкім пас. Савеце (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). Працаваў магазін. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**МХЕРЫНА 2** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Крупак, 37 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Галькі—Мхерына 2. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. налічвалася 3 двары, 12 жыхароў, уласнасць памешчыкаў Храптовічаў. У сак. 1866 г. сяляне засценка Мхерына па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 7 жыхароў мужчынскага полу. У 1917 г. засценак, 5 двароў, 31 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Халопеніцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага, які ў студз. 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. З 21.5.1951 г. ў Грыцковіцкім с/с Халопеніцкага р-на. З 26.8.1959 г. ў складзе Халопеніцкага с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 91 жыхар (1960), у саўгасе (з 1992 г. — калгас) «Халопенічы». У 1998 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў, у Халопеніцкім пас. Савеце (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**МЯЛЕШКАВІЧЫ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 51 км на Пн ад горада і 46 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Барсукі—Мялешкавічы. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

Вядомы з пач. 18 ст. як вёска ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Згодна з інвентаром 1713 г. адносілася да маёнтка Чарэя, з'яўлялася цэнтрам Мялешкавіцкага войтаўства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічвалася 39 жыхароў мужчынскага полу, частка з якіх займалася калёсным промыслам. У 1885 г. 24 двары, 104 жыхары. У 1897 г. ў вёсцы было 17 двароў, 139 жыхароў. У 1909 г. 19 двароў, 138 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальняваіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «3-ці рашаючы». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2. 1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. было 29 двароў, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і 3 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 11 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Шлях Леніна». У 1959 г. ў вёсцы 78 жыхароў, у саўгасе (пазней — калгас) «Сялява». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім, з 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. У 1998 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**МЯРЭЦКІ ДВОР** — вёска ў Бобрскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Крупак, 13 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 131 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крупкі—Бобр. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Засн. ў канцы 19 ст. Назва паходзіць ад прозвішча памешчыка Мірэцкага, якому належаў маёнтак. З 20.8.1924 г. ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 жыхары вёскі. З 1967 г. ў саўгасе «Колас». У 1998 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. З 2003 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».



*А.Р.Навахрост.*

**НАВАХРОСТЫ** (П а ў л а ў  Б а р о к) — вёска ў Крупскім с/с, за 6 км на З ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 112 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў—Талачын. 54 гаспадаркі, 120 жыхароў (2010).

Засн. ў сярэдзіне 17 ст. У 1670 г. ўпамінаецца як засценак Паўлаў Барок у Барысаўскім старостве, 1 двор. У 1775 г. тут 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. вёска ў складзе Барысаўскага маёнтка, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла, 8 двароў, 55 жыхароў. У вайну 1812 г. разрабавана і часткова спалена французскімі войскамі. У 1818 г. налічвалася 40 жыхароў, уладанне князёў Радзівілаў. У 1845 г. 8 двароў, 58 жыхароў, у 1858 г. — 22 рэвізскія душы (жыхары мужчынскага полу). З сярэдзіны 19 ст. ў Нацкай сельскай грамадзе, уваходзіла ў склад маёнтка Стара-Барысаў, уласнасць вял. кн. Мікалая Мікалаевіча. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічала школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 11 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1908 г. 15 двароў, 154 жыхары, у 1917 г. 32 двары, 229 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 29 двароў, 166 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 66 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 мірных жыхароў. На франтах загінулі 27 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Варашылава. У 1959 г. ў вёсцы 306 жыхароў. З 1962 г. ў калгасе «Перамога», пазней увайшла ў калгас імя Леніна. У 1998 г. 58 гаспадарак, 128 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Крупскі райаграсервіс».

Вёска — радзіма бел. кампазітара А.Р.Навахроста (н. ў 1951 г.).

**НАВЕСЫ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 17 км на У ад Крупак, 9 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Навесы. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

Вядомы з сярэдзіны 17 ст. як фальварак Навесы (або Казлова Мяжа) у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Падбярэзскіх. У 1790 г. тут 19 двароў, уласнасць Юзафа Арцішэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Сакалавіцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. хутары Навесы, 47 двароў, 255 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», які ў 1932 г. налічваў 28 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.- фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў складзе Бобрскага с/с, у калгасе «Чырвоны сцяг», затым у саўгасе (потым — калгас) «Бобр». У 1959 г. налічвалася 166 жыхароў. З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў. З

31.8.2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**НАЧА** – вёска, цэнтр Нацкага с/с, за 14 км на З ад горада і 8 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 110 км ад Мінска, на р. Нача. 200 гаспадарак, 564 жыхары (2010).

Назва вёскі паходзіць ад назвы р. Нача. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 2-й пал. 16 ст. Засн. як мястэчка ў 1586 г. ў Барысаўскім старостве віленскім ваяводай Крыштофам Радзівілам. Наваколле было разрабавана і спустошана пад час ваенных дзеянняў. Караль Стэфан даў жыхарам мястэчка ільготы, вызваліў ад падатку на 20 гадоў, каб людзі свабодна пасяляліся. Згодна з інвентаром Барысаўскага старостава ў 1670 г. ў мястэчку налічвалася 27 цяглых і 5 вольных дымоў, меліся вуліцы: Аршанская, Татарская, Ганчараўская, Віленская, Жаберыцкая, Лукомская, большасць з якіх пуставалі, уладанне ўдавы пана Казаноўскага. У 1784 г. англійскі гісторык Уільям Корб у сваёй кн. «Падарожжа праз Польшчу, Расію, Швецыю і Данію» адзначаў вельмі беднае становішча жыхароў Начы, дзе ён пабываў у час падарожжа. Дзейнічала Троіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. мясц. уніяцкая царква была пераведзена ў праваслаўную. У час паездкі па далучаных бел. землях у маі 1797 г. ў Начы пабываў імператар Павел I і наведаў мясц. царкву. Прыхаджане спрабавалі перадаць яму петыцыю з просьбай аднавіць уніяцкую царкву. У мястэчка былі ўведзены войскі, таму прыхаджане вымушаны былі прыняць прысягу на вернасць цару. Некаторыя сяляне былі пакараны. У 1800 г. ў мястэчку — 46 двароў, 432 жыхары, дзейнічалі сукнавальня, паштовая станцыя, царква. Частка паселішча належала віленскаму ваяводзе М.Радзівілу, другая частка — Нацкай праваслаўнай плябаніі. У вайну 1812 г. Нача была поўнасцю спалена французскімі войскамі (200 двароў). У 1813 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1858 г. ў складзе маёнтка Стара-Барысаў, уладанне вял. кн. Мікалая Мікалаевіча, 162 рэвізскія душы. У 1875 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучаліся 42 хлопчыкі і 10 дзяўчынак. У 1885 г. сяло, цэнтр воласці ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 54 двары, 480 жыхароў, вал. праўленне, вадзяны млын, царква, школа. У 1897 г. 112 двароў, 731 жыхар, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, крама, карчма, Троіцкая царква. Непадалёку размяшчаўся аднайменны хутар, 3 двары, 10 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. 120 двароў, 799 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр Нацкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. налічвалася 157 двароў, 783 жыхары. Працавала школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, у 1925 г. — 72 вучні, 1 настаўнік. У 1920-я г. дзейнічала камуна «Зара свабоды» (старшыня Дз.І.Шастакоў), якая ў 1931 г. раздзялілася на 2 калгасы: «Новая Нача» і «Зара свабоды». У крас. 1929 г. будынак мясц. царквы быў аддадзены пад культ.-асв. ўстанову. У 1932 г. запрацавала бальніца. У 1937 г. гаспадаркі аб'ядналіся ў адзін калгас «Новая Нача». З




*Кафэ ў в. Нача.*

20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 118 двароў, 564 жыхары. У чэрв. 1941 г. тут размяшчаўся варожы гарнізон. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. група. У вер. 1942 г. партызаны 277-га атрада ўзарвалі мост цераз р. Нача, разграмілі гарнізон, знішчылі маслазавод. Вызвалена вёска 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 78 жыхароў. У 1959 г. налічвалася 530 жыхароў, цэнтр калгаса «Камунар» (з 1950 г.). У 1998 г. 222 гаспадаркі, 644 жыхары, цэнтр СВК «Плавучае». З 2007 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс». З 2008 г. аграгарадок. Працуюць сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, турбаза «Нача», 2 магазіны, жывёлагадоўчая ферма. Помнік на брацкай магіле 29 воінаў, якія загінулі ўлетку 1944 г. пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў. Каля будынка б-кі помнік у гонар землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках помнік на магіле Героя Сав. Саюза М.А.Сурына (вызначыўся пры вызваленні Літвы і ў баях ва Усх. Прусіі).



*М.Дз.Шастакоў.*

У склад сельсавета ўваходзяць 10 вёсак і 1 пасёлак.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза М.Дз.Шастакова (1907—42), які вызначыўся ў баях пад Харкавам. Каля будынка школы — бюст Героя, школа носіць яго імя. У вёсцы яго імем названа вуліца.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — пасёлак у Крупскім с/с, за 1 км на Пд ад Крупак, чыг. ст. на лініі Брэст—Масква, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Барысаў—Бобр. 12 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 19 ст. як вёска. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Стаханава. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску. У 1944 г. былі жывымі спалены вязні крупскай турмы, іх астанкі потым перапахаваны на могілках у Крупках. Вызвалена 28.6.1944 г. Пасля вайны вёска (потым пасёлак) адбудавана, у складзе Крупскага с/с, затым гар. Савета. У 1998 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў.

**НОВАЯ КРУПКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 1 км на Пн ад горада і 6 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 119 км ад Мінска. 43 гаспадаркі, 115 жыхароў (2010).

Вядома з канца 19 — пач. 20 ст. як вёска Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. тут 13 двароў, 72 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 27 двароў, 158 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Крупскай, які ў студз. 1932 г. налічваў 20 гаспадарак. У 1941 г. ў вёсцы 49 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі аднаго жыхара за сувязь з партызанамі. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Варашылава. У 1959 г. 176 жыхароў. З 1960 г. ў калгасе «Перамога», з 1986 г. — імя Леніна. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**НОВАЯ НІВА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 52 км на ПдУ ад Крупак, 42 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 162 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Свірыдаўка. На ПдЗ балота. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

З 20.8.1924 г. вёска ў Старраслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930-я г. жыхары вёсак Новая Ніва і Свірыдаўка аб'ядналіся ў калгас імя Леніна, які ў студз. 1932 г. налічваў 14 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай

вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 28 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску. На франтах загінулі 5 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. да калгаса далучаны 3 суседнія гаспадаркі. У 1959 г. налічвалася 100 жыхароў. З 1968 г. ў складзе саўгаса «Новая Ніва», пазней — калгаса «Ніва». У 1998 г. 19 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2004 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**НОВАЯ СЛАБАДА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 50 км на ПдУ ад Крупак, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Матошка. На Пд працякае р Можа. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Засн. ў 1772 г. як вёска, уладанне Ю.Храптовіча, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. тут 53 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. налічвала 38 двароў, 248 жыхароў, у 1917 г. 31 двор, 242 жыхары. У снеж. 1920 г. адкрыта пач. школа, размяшчалася ў наёмным памяшканні. Школа абслугоўвала вёскі Селішча, Матошка, Машчаніца. У 1925 г. тут 62 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Стараслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. вёска Новая Слабодка, 48 двароў, 277 жыхароў. У гады калектывізацыі тут арганізаваны калгас. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 45 двароў, 233 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія восенню 1942 г. спалілі вёску і расстралялі 89 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоная Слабада». У 1959 г. ў вёсцы 116 жыхароў, у саўгасе «Ухвала», з 1968 г. ў саўгасе «Новая Ніва». У 1998 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў, у калгасе «Ніва». З 2004 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». У цэнтры вёскі помнік на магіле ахвяр фашызму.

**НОВЫ САКОЛ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 37 км на Пд ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 124 км ад Мінска, каля аўтадарогі Старыя Дзянісавічы—Ухвала. На Пн, Пд і ПдУ лес. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2010).

Вядомы з 1858 г. як вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., налічвала 112 жыхароў. У 1870 г. 70 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 ст. дзейнічала карчма. У 1908 г. 47 двароў, 285 жыхароў. У 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. ў вёсцы 51 двор, 371 жыхар. З 20.8.1924 г. ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 58 двароў, 288 жыхароў. Дзейнічала пач. школа (у 1925 — 53 вучні), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Абслугоўвала вёскі Вязок, Стары Сакол, навакольныя хутары. У час калектывізацыі ў вёсцы арганізаваны калгас імя Молатава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 61 двор, 307 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 20 жыхароў вёскі. У 1950 г. да калгаса далучыліся 3 гаспадаркі. У 1958 г. перайменаваны ў калгас «Іскра». У 1959 г. налічвалася 237 жыхароў. З 1963 г. ў складзе саўгаса (затым — калгас) «Дзянісавічы». У 1998 г. 44 гаспадаркі, 78 жыхароў. Дзейнічалі клуб, б-ка. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12. 2009 г. ва Ухвальскім с/с. Працуе магазін.

**НОВЫ ШЛЯХ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 59 км на ПдУ ад Крупак, 51

км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 168 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Сомры і далей па прасёлачнай дарозе. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (1998).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1924 г. ў складзе Крупскага р-на. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 жыхары. З 1950 г. ў складзе саўгаса (потым — калгас) «Ухвала». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**НОВЫЯ ДЗЯНІСАВІЧЫ** — вёска ва Ухвальскім с/с, на аўтадарозе Беразіно—Бобр, за 31 км на ПдУ ад Крупак, 21 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска, на р. Можа, каля аўтадарогі Старыя Дзянісавічы—Вялікі Вязок. 119 гаспадарак, 244 жыхары (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся рэшткі стараж. курганоў, а таксама гарадзішча, якія сведчаць аб засяленні мясцовасці ў далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1921 г. як хутар Дзянісавічы ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., тут 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Шынкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі ў вёсцы быў арганізаваны калгас «Маяк сацыялізму». У 1941 г. 129 двароў, 698 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. партызаны разграмілі тут варожы гарнізон. У кастр. 1944 г. акупанты часткова спалілі вёску (16 двароў) і загубілі 31 жыхара. Вызвалена 28.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Стараслабодскім, з 28.7.1954 г. ва Ухвальскім сельсаветах. У 1959 г. ў вёсцы 815 жыхароў, у складзе саўгаса «Ухвала». З 1963 г. цэнтр саўгаса «Дзянісавічы». З 4.1.1964 г. цэнтр Дзянісавіцкага с/с. У 1979 г. з мэтай захавання ў прыродным стане месцаў росту журавін засн. Дзянісавіцкі біялагічны заказнік. На 1997 пл. складала 1,3 тыс. га. У 1998 г. 179 гаспадарак, 416 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с. У вёсцы працуюць Дом культуры, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання, клуб, аддз. сувязі, Дзянісавіцкае лясніцтва, 2 магазіны, малочна-таварная ферма. Каля будынка школы брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Пахаваны 8 лётчыкаў, 13 партызан 8-й Круглянскай брыгады, якія загінулі 28.8.1942 г. пры нападзенні на чыг. ст. Слаўнае, 21.9.1942 г. пры разгроме варожага гарнізона ў в. Новыя Дзянісавічы і 31.7.1943 г. ў баі каля в. Дубавое.

**НОВЫЯ ПЫШАЧЫ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 48 км на ПдУ ад Крупак, 38 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Новая Ніва. На Пн цячэ р. Можа, на У балота. 11 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся рэшткі курганнага могільніка, што сведчыць аб засяленні тэр. ў стараж. часы. Па пісьмовых крыніцах вядома ў 2-й пал. 18 ст. як в. Новыя Пышачы або Пышацкая Слабодка ў Барысаўскім старостве. У 1772 г. налічвалася 11 двароў, уласнасць Беліковічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. тут 21 двор, 130 жыхароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. значылася таксама сядзіба Пышачы, якая належала казённаму аб'езчыку. У 1909 г. 61 двор, 443 жыхары. У 1917 г. 76 двароў, 471 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска ў Стараслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «XVII партз'езд». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 18 жыхароў вёсак Новыя і Ста-

рыя Пышачы. З 1950 г. ў калгасе імя Леніна. У 1959 г. налічвалася 207 жыхароў, у саўгасе «Ухвала», з 1968 г. ў саўгасе «Новая Ніва». З 4.1.1964 г. ва Ухвальскім с/с. У 1998 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар, у калгасе «Ніва». З 2004 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**НОВЫЯ ШЧАЎРЫ** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крупак, 29 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 137 км ад Мінска, каля аўтадарогі Хацюхова–Лашанцы. На ПдЗ балота. 21 гаспадарка, 45 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 19 – пач. 20 ст. як фальварак у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 1 двор, 21 жыхар. У 1909 г. налічвалася 4 двары. З 20.8.1924 г. вёска ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 36 двароў, 175 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. З 20.8.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 30 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 22 жыхары вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Сталіна, які ў 1957 г. быў перайменаваны ў калгас «Сцяг камунізму». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 151 жыхар (1960). З 1986 г. ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік». З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Ёсць малочна-таварная ферма.

**НЯВЕРАЎШЧЫНА** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 24 км на З ад Крупак, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 110 км ад Мінска, каля аўтадарогі Брышча–Шыялоўка. На У і ПдУ лес. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).



*Прырода Крупшчыны.*

Вядома з 1653 г. як сяло ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, 6 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 33 жыхары, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівілы. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. налічвалася 40 жыхароў. З 20.8.1924 г. засценак у Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1929 г. жыхары вёсак Няверайшчына, Шыялоўка і Брышча аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны ручай», які ў студз. 1932 г. налічваў 13 гаспадарак. Пазней у складзе калгаса «Новы быт». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. расстралялі аднаго вяскоўца за сувязь з партызанамі. На франтах загінулі 3 жыхары вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». У 1959 г. налічваліся 52 жыхары. З 31.3.1973 г. ў Малажaберыцкім, з 1.2.1982 г. ў Дакудаўскім, з 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім сельсаветах. У 1998 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры».

**ПАДАЛЕЦ** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Крупак, 37 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 141 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы–Баркі–Падалец. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2010).

Вядомы з 1772 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., тут 11 двароў, уласнасць Халопеніцкага дамініканскага манастыра. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 4 двары, 21 жыхар, уласнасць Храптовічаў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Мхерына, уласнасць Халопеніцкага дамініканскага манастыра. У 1800 г. налічвала 12 двароў, 90 жыхароў. Пасля паўстання 1830—31 гг. маёнтак быў канфіскаваны і разам з суседнімі вёскамі, у т.л. і Падалец, перададзены ў дзярж. ўласнасць. З 20.8.1924 г. ў складзе Траянаўскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 28 двароў, 162 жыхары. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 мірных жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 21.5.1951 г. вёска ў Грыцкавіцкім с/с. У 1959 г. 109 жыхароў. З 1960 г. ў Халопеніцкім пас. Савеце, вёска ў складзе саўгаса, з 1992 г. калгаса «Халопенічы». У 1998 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 47 км на Пн ад горада і 52 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Янаўшчына—Падбярэззе. На З працякае р. Югна, на У і ПдУ лес, балоты. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Вядома з 1772 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., тут 6 двароў, знаходзілася ў закладзе ў пана Амульскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Халопенічы. У сак. 1866 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай вобл. У 1897 г. ў вёсцы было 3 двары, 13 жыхароў. У 1909 г. фальварак, уладанне А.В.Шашалевіча, 1 двор, 13 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Падбярэззе». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 24 двары, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Маленкова, з 1957 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Сялява». У 1959 г. 108 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Крупскім р-не. З 1.10.1973 г. ў Янаўшчынскім с/с. У 1998 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў. З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы».

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 33 км ПнЗ ад горада і 28 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Янаўшчына—Падбярэззе. На З цячэ р. Югна, на У і ПдУ лес і балоты. 17 гаспадарак, 33 жыхары (2010).

Засн. ў 1-й пал. 19 ст. як вёска. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. тут 29 душ мужчынскага полу. Належала памешчыцы Цітовай, затым Храптовічам. У час паўстання 1863—64 гг. 7.5.1863 г. каля вёскі адбыўся бой, у якім удзельнічалі 2 роты Крамянчугскага палка. Атрад паўстанцаў пацярпеў паражэнне, 9 чал. загінулі, 12 былі паранены, 11 трапілі ў палон. У 1897 г. наліч-

валася 13 двароў, 103 жыхары, у 1917 г. 24 двары, 177 жыхароў. У 1919 г. адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. тут навучалася 68 вучняў. З 20.8.1924 г. ў складзе Хацюхоўскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 38 двароў, 225 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны сцяг», які ў студз. 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1939 г. ў вёску перасяліліся жыхары в. Чавінка (32 чал.). У 1941 г. 36 двароў, 216 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 мірных жыхароў. На франтах вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 37 вяскоўцаў. З 20.1.1960 г. вёска ў Крупскім р-не, 246 жыхароў (1960), у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». У 1998 г. 38 гаспадарак, 71 жыхар. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры».

**ПАДСОСЕНКА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на У ад Крупак, 7 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Альшанікі—Падсосенка. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2010).

Вядома з канца 19 ст. як пас. Падсосенка (ён жа Сосенка) у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. налічвалася 11 двароў. У 1909 г. 12 двароў, 74 жыхары. З 20.8.1924 г. ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 23 двары, 120 жыхароў. У 1930-я г. жыхары вёсак Падсосенка і Пліса арганізавалі калгас «Перамога», які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 1960 г. вёска ў саўгасе (затым — калгас) «Бобр», 59 жыхароў (1960). У 1998 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы».

**ПАПАРНАЕ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 37 км на ПдУ ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Шынкі—Папарнае. На Пд цячэ р. Можа, вакол лес. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2010).

За 2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Горы, захаваліся стараж. курганы (9 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні мясцовасці ў мінулыя часы. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1772 г. як вёска, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Пышацкім старостве Барысаўскага павета, 19 двароў, 117 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць казны. У 1897 г. налічвалася 29 двароў. У 1908 г. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 28 двароў, 220 жыхароў. У 1917 г. 31 двор, 225 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шынкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 43 двары, 241 жыхар. У час калектывізацыі раёна ў вёсцы быў арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік», які ў студз. 1932 г. налічваў 12 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. было 49 двароў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 25 вяскоўцаў. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны колас». З 16.7.1954 г. ў Стараслабодскім, з 4.1.1964 г. ў Дзянісавіцкім сельсаветах. У 1959 г. 194 жыхары, у саўгасе «Ухвала», з 1963 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Дзянісавічы». У 1998 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12.2009 г. ў складзе Ухвальскага с/с. На могілках брацкая магіла 6 партызан, якія загінулі ў 1944 г.

**ПАСЁМКАВІЧЫ** (да 1958 г. Гавенавічы) — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 51 км на Пн ад горада і 46 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Барсукі—Пасёмкавічы. На У, ПдУ і Пд балоты. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2010).

Вядомы з 2-й пал. 17 ст. як в. Пасёмкавічы ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., у складзе Лукомскага княства, уласнасць кн. Самуэля Лукомскага. У 1667 г. суседнія вёскі Лісічына, Барсукі, Пасёмкавічы (або Поснікавічы) налічвалі разам 34 дымы. У 1772 г. маёнтак, уласнасць пана Кістаржэцкага, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1880 г. тут 24 двары, 132 жыхары, частка з якіх займалася кушнерскім і бандарным промысламі. У 1897 г. ў вёсцы было 29 двароў, 205 жыхароў, дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 27 двароў, 102 жыхары мужчынскага і 82 жаночага полаў. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. ў вёсцы створаны калгас «З-і рашаючы». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У 1941 г. тут 34 двары, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску (27 двароў) і загубілі 3 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 18 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе калгаса «Шлях Леніна», з 1957 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Сялява». У 1959 г. ў вёсцы 130 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 1.10. 1973 г. ў Янаўшчынскім с/с. У 1998 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12. 2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

Уборка лёну.



**ПЛАВУЧАЕ ГАЛАЕ** — вёска ў Нацкім с/с, за 15 км на З ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 108 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў—Талачын. На Пд садовыя ўчасткі. 33 гаспадаркі, 75 жыхароў (2010).

Узнік у 1946 г. як пасёлак у сувязі з будаўніцтвам торфапрадпрыемства «Плавучае Галае». Назва прадпрыемства паходзіць ад назвы мясц. балота. Дзейнічаў урачэбны пункт. У 1959 г. ў пасёлку налічвалася 309 жыхароў. У 1969 г. прадпрыемства пераўтворана ў торфабрыкетны з-д, вытв. ўчастак быў пераведзены ў в. Ухвала. У пасёлку размяшчалася аддз. раённага аб'яднання «Сельгасхімія». У 1998 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**ПЛІСА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Крупак, 7 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў—Талачын. 31 гаспадарка, 67 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі знаходзіцца помнік археалогіі — гарадзішча (6 ст. да н.э. — 7 ст. н.э.), захаваліся 3 курганы і вал, якія складаюць сярэднябобрскіплiскі родаабшчынны археал. комплекс. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1699 г. ў складзе маёнтка Бобр, улас-

насць Бенядзікта Сапегі, які ў 1700 г. прадаў маёнтак Яну Казіміру Лендарфу, стольніку мсціслаўскаму. У 1772 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Агінскіх, 29 двароў, 102 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. вёска была разрабавана і спалена. У канцы 19 – пач. 20 ст. сяло ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 88 душ мужчынскага полу. У 1885 г. налічвалася 35 двароў, 262 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква. У 1897 г. сяло, 60 двароў, 357 жыхароў, царк.-прыходская школа, царква. У 1909 г. 62 двары, 433 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, у 1919 г. – дзіцячыя яслі-сад. З 20.8.1924 г. сяло ў складзе Бобрскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. навучаліся 79 вучняў з вёсак Пліса, Дворышча, Куты, Кутавец, Стары Бобр, Капішча; пры школе працаваў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Паводле перапісу 1926 г. ў сяле налічвалася 93 двары, 480 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 78 двароў, 256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся фаш. гарнізон. Акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 4 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах загінулі 36 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. Дзейнічала школа рабочай моладзі. У 1959 г. налічвалася 319 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса (затым – калгас) «Бобр». У 1998 г. 53 гаспадаркі, 114 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». Працаваў магазін.

**ПРОШЫКА** – вёска, цэнтр Акцябрскага с/с, за 20 км на Пн ад горада і 25 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 141 км ад Мінска, на паўд. беразе воз. Сялява, каля аўтадарогі Крупкі–Халопенічы. На Пд і ПдЗ балота Жалязніца. 58 гаспадарак, 133 жыхары (2010).

У наваколлі вёскі выяўлена звыш 10 стараж. курганоў, якія ўключаны ў Сяляўскі родаабшчынны археал. комплекс. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкім мінулым. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з сярэдзіны 18 ст. ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Належала роду Сапегаў, у складзе Чарэйскага графства. У 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў памешчыка Салагуба, 12 двароў, царква. У 1778 г. А.Сапега вылучыў з графства і прадаў паселішча разам з суседнімі вёскамі Ляды, Запуткі, Скардзіца, Стральцы, Дубы і засценкам Асінаўка Томашу Гзоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. З 1875 г. тут дзейнічала сукнавальня двараніна Э.Шалкоўскага, здавалася ў арэнду. У 1881 г. на прадпрыемства працаваў адзін чалавек, валавы даход складаў 140 руб. З 1892 г. пачаў дзейнічаць млын, які належаў М.Трафімаву. У 1897 г. засценак, 14 двароў, 86 жыхароў, паравы млын, царква. У 1909 г. 20 двароў, 56 жыхароў мужчынскага і 63 жаночага полаў, школа. З 20.8.1924 г. сяло ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 12 двароў, 70 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Шлях свабоды», які ў студз. 1932 г. налічваў 11 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы было 9 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 жыхароў вёскі. З 1957 г. ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 26.8.1959 г. ў Забор-

скім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 5.5.1962 г. ў Акцябрскім с/с, з 28.7. 1966 г. яго цэнтр. У 1998 г. 68 гаспадарак, 182 жыхары. З 2003 г. цэнтр КСУП «Квеціна». У вёсцы працуюць клуб, б-ка, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. Знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява». Помнік у гонар 95 землякоў — жыхароў сельсавета, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

У складзе сельсавета 18 вёсак і 1 пасёлак.

**ПРУДЗЕЦ** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Версанка—Прудзец. На У цячэ р. Нача. 27 гаспадарак, 57 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі, у вярхоўях р. Нача, захаваўся стараж. курган. Па пісьмовых крыніцах вядома як вёска з пач. 18 ст., належала панам Халецкім. Потым у графстве Халопенічы Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 25 двароў, каля 10 валок зямлі, уласнасць Храптовічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 30 двароў, 152 жыхары, млын. У 1862 г. адносілася да маёнтка Халопенічы. У 1884 г. ў складзе маёнтка пані Цітовай, 27 двароў, 11 жыхароў мужчынскага і 30 жаночага полаў, у гаспадарках налічвалася 13 коней, 7 валоў, 20 кароў, 42 авечкі, 14 калод пчол, 5,5 валок зямлі. У сак. 1886 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1897 г. вёска ў Халопеніцкай вол. таго ж павета, 55 двароў, 365 жыхароў. У 1917 г. 64 двары, 374 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 55 двароў, 269 жыхароў. У 1930 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Прудзец», які ў студз. 1932 г. налічваў 39 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1932 г. пачала працаваць пач. школа. У 1941 г. ў вёсцы 52 двары, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах загінуў 21 вясковец. З 1950 г. ў калгасе імя Кірава. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 266 жыхароў (1960), у саўгасе «Халопенічы», з 1966 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Якімавічы». У 1998 г. 44 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе Халопеніцкага пас. Савета (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). Дзейнічала пач. школа. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». Працаваў магазін.

**ПРУДЗІНЫ** (Прудзінская Слабада) — вёска ў Абчугскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Крупак, 14 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 145 км ад Мінска, каля аўтадарогі Стары Бобр—Слабада. На У працякае р. Бобр. 20 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Засн. ў пач. 17 ст. як вёска, уваходзіла ў склад маёнтка Бобр, які перайшоў па закладу Станіславу Галінскаму ад Льва Сапегі. Пазней у складзе гэтага ж маёнтка ў закладзе ў шляхціца Крыштофа Комара, які ў 1614 г. выкупіў маёнтак, у т.л. і паселішча Прудзіны (Прудзінскую Слабаду). У сярэдзіне 17 ст. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., у складзе маёнтка Бобр. Згодна з падымным падаткам 1667 г. ў вёсцы налічвалася 11 дымоў, уласнасць Ераніма Комара, знаходзілася ў закладзе ў Антонія Сіпайлы. У 1743 г. маёнтак, 7 дымоў, уласнасць Багдановіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. налічвалася 68 двароў, 442 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг.

У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Перамога». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся фаш. гарнізон. У ліп. 1943 г. акупанты расстралялі 18 мірных жыхароў вёскі за сувязь з партызанамі. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў. У 1959 г. 281 жыхар. У 1998 г. 32 гаспадаркі, 63 жыхары, у калгасе «Слабада». З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы». Працаваў магазін. Помнік на магіле ахвяр фашызму.

**ПРУДОК** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Вялікі Вязок–Прудок. На У цячэ р. Бобр, на Пд балота. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі, ва ўрочышчы Дзяцінная Гара, захаваўся помнік археалогіі – курганны могільнік, займае пл. каля 1 га. Вёска засн. ў 1920-я г. З 20.8. 1924 г. ў складзе Крупскага р-на Барысаўскай акругі. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Зорка». У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 18 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Кірава. У 1959 г. ў вёсцы 118 жыхароў. У 1998 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с.

**ПРУСАЎШЧЫНА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 45 км на Пд ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска, каля аўтадарогі Ухвала–Гумны. На ПдУ лес, на З меліярацыйны канал. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як вёска ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 11 двароў, 73 жыхары. У 1917 г. 13 двароў, 85 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.7.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 16 двароў, 75 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «1 Мая». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 22 двары, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 мірных жыхароў. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. З 1950 г. вёска ў складзе калгаса імя Варашылава. У 1959 г. 90 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». У 1998 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў, у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**ПРЫКЛЁНАК** – вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 122 км ад Мінска, каля аўтадарогі Брышча–Клён. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

Вядомы з канца 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 11 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. засценак, 16 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. 21 двор, 132 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Малажаберыцкім (Жаберыцкім) с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 24 двары, 106 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 мірных жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. У 1959 г. налічвалася 60 жыхароў. З 13.9.1982 г. ў Дакудаўскім с/с, у калгасе «Бальшавік». У 1998 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Жаберычы», з 2007 г. ў складзе СВК «Шчаўры». З 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім с/с.

**ПРЫЯМІНА** – вёска ў Нацкім с/с, за 20 км на З ад Крупак, 4 км ад чыг. ст.

Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 110 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кладзі—Колас—Прыяміна. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2010).

Вядома з 1870 г. як вёска ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., тут 52 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 21 двор, 179 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 146 жыхароў. У 1921 г. адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў памяшканні лесазавода імя Вароўскага. У 1925 г. ў ёй навучаліся 42 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 43 двары, 222 жыхары. У 1929 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў студз. 1932 г. налічваў 10 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1940 г. 34 двары, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся фаш. гарнізон. Акупанты загубілі 3 мірных жыхароў. У раёне чыг. ст. і в. Нача партызаны пусцілі пад адхон звыш 20 варожых эшалонаў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 жыхароў вёскі. З 1950 г. вёска ў складзе калгаса імя Молатава, з 1951 г. ў калгасе «Камунар». У 1959 г. 204 жыхары. У 1998 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

*Абслугоўванне мясцовага насельніцтва ў аддзяленні сувязі аграгарадка Ротань.*



**РАДЗІЦА** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 120 км ад Мінска, на аўтадарозе Лянок—Стараселле. 29 гаспадарак, 40 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваўся стараж. помнік археалогіі — гарадзішча. Выяўлены ў 1990 г. Земляное ўмацаванне знаходзіцца ва ўрочышчы Акоп, на правым беразе р. Блудная. Тут жа захавалася частка курганнага могільніка (8 насыпаў). Адносяцца да ранняга жал. веку. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1670 г. як мяст. Радзіца ў складзе Барысаўскага староства, 5 дымоў, дзейнічалі царква святога Ільі, млын, былі вуліцы Жаберыцкая, Прабойная і інш., дзярж. уласнасць. У 1775 г. налічвалася 10 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 17 двароў, 168 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1816 г. 84 душы мужчынскага полу. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Стара-Барысаў, які належаў вял. кн. Мікалаю Мікалаевічу, у 1858 г. — 81 рэвізская душа (мужчынскага полу). У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў складзе Нацкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., уваходзіла ў Нацкую сельскую грамаду. У 1885 г. 22 двары, 190 жыхароў, царква. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 30 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1897 г. 69 двароў, 458 жыхароў, царква, на аднайменным хутары было 6 двароў. У 1909 г. вёска ў складзе Лошніцкай вол. таго ж павета, 73 двары, 476 жыхароў. У 1917 г. 79 двароў, 512 жыхароў, на хутары — 6 двароў, 53 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Малажаберыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Працавала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. навучаліся 85 вучняў з вёсак Радзіца і Баравыя. Паводле перапісу 1926 г. 116 два-

роў, 632 жыхары. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў студз. 1932 г. налічваў 21 гаспадарку. Дзейнічаў млын (2 рабочыя). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся варожы гарнізон. Акупанты расстралялі 23 мірных жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г.На франтах загінулі 49 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса «Усход». У 1959 г. ў вёсцы 460 жыхароў. З 1960 г. ў калгасе «Гігант», затым у саўгасе «Халопенічы», з 1961 г. ў саўгасе «Грушаўскі». З 1966 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Стараселле». З 1973 г. ў Ігрушкаўскім с/с. У 1998 г. 56 гаспадарак, 103 жыхары. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы У.І.Усошына.

**РОТАНЬ** — вёска ў Крупскім с/с, за 10 км на Пн ад горада і 15 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Ротань. 66 гаспадарак, 209 жыхароў (2010).

Вядома з 1713 г. як вёска ў складзе Худавецкага войтаўства маёнтка Чарэя Аршанскага павета Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў, 20 двароў. У 1775 г. ў вёсцы 14 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. На пач. 19 ст. адносілася да маёнтка Юзэфаў, які быў засн. Юзафам Дышлеўскім. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 72 жыхары мужчынскага полу. У 1884 г. ў вёсцы было 23 двары, 183 жыхары. У 1897 г. 32 двары, 244 жыхары. У 1909 г. 124 жыхары мужчынскага і 108 жаночага полаў. У 1912 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 55 двароў, 313 жыхароў. У снеж. 1930 г. вяскоўцы сумесна з жыхарамі вёсак Буда і Скардзіца аб'ядналіся ў калгас імя Молатава, які ў студз. 1932 г. налічваў 37 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 49 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 28 вяскоўцаў. У 1950 г. да калгаса былі далучаны суседнія гаспадаркі. У 1958 г. гаспадарка атрымала імя Колесавай, Героя Сав. Саюза, камандзіра дыверсійнай групы, якая дзейнічала на тэр. Крупскага р-на. У 1959 г. налічвалася 208 жыхароў. З 1973 г. ў Крупскім с/с. У 1998 г. 93 гаспадаркі, 233 жыхары. Працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. З 2007 г. аграгарадок. З 2008 г. цэнтр даччынага КСУП «Ротань». У вёсцы працуюць вучэбна-пед. комплекс базавая школа—дзіцячы сад, культ.-адукацыйны цэнтр, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік 52 землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**САКАЛАВІЧЫ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Крупак, 8 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Бобр—Сакалавічы. 39 гаспадарак, 84 жыхары (2010).

Вёска згадваецца як сяло ў пач. 16 ст. Належала да маёнтка князёў Друцкіх. У 1516 г. кн. Іван Васілевіч Красны завяшчаў сяло жонцы Марыне Іванаўне з роду князёў Заслаўскіх. У далейшым сярод уладанняў Друцкіх сяло не ўпамінаецца. Магчыма, удава кн. Краснага прадала ці завяшчала паселішча інш. уладальнікам. У 1559 г. ў складзе Варанцэвіцкай вол., якая была прыпісана да дзярж. Аршанскага замка, на гэты час у сяле 12 дымоў, 4 службы, уладанне графа Хадкевіча. Пазней частка сяла адносілася да маёнтка Бобр, частка — да маёнтка Варанцэвічы. Уладанне Ста-

ніслава Паца, затым Льва Сапегі, Станіслава Галінскага, Крыштофа Комара. Згодна з інвентаром маёнтка Бобр за 1573 г. павіннасці с. Сакалавічы складалі «чыншу з асёдлай валокі па 50 грошаў, бірчага 5 гр., вепраўшчыны 4 гр., клікоўшчыны 1/4 гроша, папоўскі 1 грош, жыта 1 салянку, аўсу 1 салянку, альбо за жыта і авёс 20 грошаў, льну па кальцу і даніна мядовая». У 1772 г. уладанне Агінскіх, 15 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. вёска была разрабавана французскімі войскамі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. 25 двароў, 179 жыхароў, дзейнічалі нар. вучылішча, вадзяны млын. У 1909 г. 195 жыхароў. З 20.8. 1924 г. цэнтр Сакалавіцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 221 жыхар. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў студз. 1932 г. налічваў 23 гаспадаркі. Працавалі няпоўная сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся варожы гарнізон. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 46 вяскоўцаў. Пасля вайны працавала школа рабочай моладзі. У 1950 г. да калгаса былі далучаны 3 суседнія гаспадаркі. З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/ с. У 1959 г. ў вёсцы было 206 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса (затым – калгас) «Бобр». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 49 гаспадарак, 124 жыхары. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с. Дзейнічаюць лясніцтва, фельч.-акушэрскі пункт.



*А.І.Кулеш.*

**САМАСЕДАЎКА** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і 16 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска, каля аўтадарогі Ігрушка–Гута. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. 20 двароў, 170 жыхароў. У 1909 г. 34 гаспадаркі, 233 жыхары. З 20.8.1924 г. ў складзе Ігрушкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 50 двароў, 298 жыхароў. У гады калектывізацыі жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас «Новы шлях», які ў студз. 1932 г. налічваў 27 гаспадарак. З 1932 г. тут дзейнічала Крупская МТС, абслугоўвала 5 калгасаў, да канца 1933 г. – 20 калгасаў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 51 двор, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. часткова спалілі вёску (44 двары) і загубілі 2 мірных жыхароў. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. вёска ў калгасе «Шлях Сталіна», затым уваходзіла ў калгас «Гігант», потым у саўгас «Халопенічы». У 1959 г. налічвалася 211 жыхароў. З 1961 г. ў саўгасе (затым – калгас) «Грушаўскі». У 1998 г. 39 гаспадарак, 76 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра». На тэр. вёскі размешчана ферма. На могілках помнік на брацкай магіле 20 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні Крупшчыны ў чэрв. 1944 г.

Вёска – радзіма А.І.Кулеша (1968–87), воіна-інтэрнацыяналіста, які загінуў у Афганістане.

**СВІРЫДАЎКА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 54 км на ПдУ ад Крупак, 41 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 135 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала–Новая Слабада. На ПнУ і У лес. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваўся помнік археалогіі – курганны могільнік пл. 0,2 га, адносіцца да позняга сярэднявякоўя. Па пісьмовых крыніцах вёска вя-

дома з 1764 г. як цэнтр Свірыдаўскага староства ў Барысаўскім павеце, 15 двароў, уласнасць Станкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. ў вёсцы было 19 двароў, 165 жыхароў, дзейнічалі драўляная капліца, млын, уласнасць казны. Непадалёку знаходзіўся маёнтак Салтыкова. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1893 г. жыхары вёскі перажылі эпідэмію халеры. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў вёсцы было 65 двароў, 422 жыхары, у 1909 г. 75 двароў, 457 жыхароў. У 1917 г. 73 двары, 489 жыхароў, на аднайменным хутары — 1 двор, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Старaслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 93 двары, 461 жыхар, дзейнічаў смалакурны з-д. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Леніна. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 33 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. часткова спалілі вёску і загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. да калгаса далучаны яшчэ 2 гаспадаркі. У 1959 г. вёска, 116 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». З 4.1.1967 г. ў складзе Ухвальскага с/с, у саўгасе «Новая ніва», затым у калгасе «Ніва». У 1998 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Працаваў магазін.

**СЕЛІШЧА** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 53 км на ПдУ ад Крупак, 41 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала—Селішча. На Пн і ПдУ лес. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Каля вёскі захаваўся курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтай мясцовасці ў старaж. часы. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1818 г. як вёска, уладанне князёў Радзівілаў, тут 4 двары, 33 жыхары. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Дзянісавіцкай, затым ва Ухвальскай валасцях Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1845 г. было 44 жыхары. У 1897 г. налічвалася 15 двароў, 98 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 116 жыхароў, у 1917 г. 22 двары, 133 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Старaслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 29 двароў, 114 жыхароў. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Камунар», які ў студз. 1932 г. налічваў 23 гаспадаркі. З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 31 двор, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. часткова спалілі вёску і загубілі 14 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 13 вяскоўцаў. Пасля вызвалення адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Чырвоная Слабада». У 1959 г. ў вёсцы 127 жыхароў, у саўгасе «Ухвала», з 1968 г. ў саўгасе «Новая ніва» (пазней калгас «Ніва»). У 1998 г. 20 гаспадарак, 39 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**СІНІЧАНКА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Крупак, 12 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Кляновічы і далей па прасёлачнай дарозе. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2010).

Вядома з 1755 г. як вёска ў Мінскім ваяв., уладанне А.Тызенгаўза. У 1760 г. налічвала 11 двароў. У 1772 г. належала князям Сангушкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. была разрабавана і часткова спалена французамі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 22 жыхары мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім,

калёсным і інш. промысламі. У 1883 г. 7 двароў, 54 жыхары. У 1897 г. налічвалася 13 двароў, 96 жыхароў. У 1909 г. 14 двароў, 133 жыхары. У лютым–ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Шэйкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 30 двароў, 186 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 мірных жыхароў. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Дзяржынскага, з 1960 г. — калгаса «Чырвоны Бобр». З 5.5.1962 г. ў Бобрскім с/с. З 1967 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. зноў у Бобрскім с/с.

**СКАКОЎКА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Крупак, 8 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 131 км ад Мінска, каля аўтадарогі Бобр–Старыя Дзянісавічы. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2010).

Вядома з 1670 г. як вёска ў складзе Барысаўскага староства, 1 дым, уласнасць казны. Адносілася да Сакольскага царк. прыхода. У 1764 г. 5 двароў, у 1781 г. — 6. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 32 жыхары, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1818 г. 10 двароў, 60 жыхароў, 8 валок ворнай зямлі. У канцы 19 – пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 26 двароў, 182 жыхары. У 1923 г. адкрыта пач. школа (у 1925 г. 34 вучні), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў складзе Сакалавіцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 40 двароў, 217 жыхароў. У гады калектывізацыі створаны калгас імя Будзённага, які да студз. 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 43 двары, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. часткова спалілі вёску (12 двароў) і загубілі 5 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе калгаса «Перамога». З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 143 жыхары. З 1960 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Бобр». У 1998 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**СКАРАДЗІЦА** — вёска ў Крупскім с/с, за 12 км на Пн ад горада і 17 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска, на аўтадарозе Худаўцы–Асінаўка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з пач. 18 ст. як вёска ў складзе Худавецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў. Згодна з інвентаром маёнтка за 1713 г. у вёсцы налічвалася 9 двароў. У 1778 г. Сапега прадаў вёску (2 двары) разам з інш. паселішчамі Томашу Гзоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. разрабавана французскімі войскамі. У гэты час належала В.Гзоўскаму. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 20 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 90 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 47 жыхароў мужчынскага і 48 жаночага полаў, дзейнічала школа граматы. З 20.8.1924 г. ў складзе Ігрушкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 16 двароў, 66 жыхароў. У час ка-

лектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Молатава, які ў студз. 1932 г. налічваў 37 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 14 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1950 г. да калгаса былі далучаны суседнія гаспадаркі. У 1958 г. быў перайменаваны ў калгас імя Колесавай. У 1959 г. ў вёсцы 61 жыхар. З сак. 1973 г. вёска ў Крупскім с/с. У 1998 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. З 2009 г. ў даччыным КСУП «Ротань».

**СЛАБАДА** – вёска ў Абчугскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Крупак, 17 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 144 км ад Мінска, каля аўтадарогі Стары Бобр–Журавы. З ПдУ на ПнУ цячэ р. Бобр. 61 гаспадарка, 137 жыхароў (2010).

Слабада – тып пасялення ў феад. Расіі, якое карысталася часовым вызваленнем ад уплаты налогаў і інш. павіннасцей. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 17 ст. як в. Чырвоная Слабада ў складзе маёнтка Бобр, уладанне Бенядзікта Сапегі. У 1772 г. належала шляхціцу Рашкоўскаму, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Абчугскую вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 32 двары, 227 жыхароў. У 1909 г. 36 двароў, 215 жыхароў, дзейнічала школа граматы, у якой навучаліся 53 вучні. З 20.8.1924 г. ў Чарэйскім р-не Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі ў вёсцы быў арганізаваны калгас «Светлая зара». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 54 двары, 286 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 12 мірных жыхароў. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вёска ў складзе Абчугскага с/с, цэнтр саўгаса (пазней – калгас) «Слабада». У 1959 г. налічвалася 188 жыхароў. У 1998 г. 75 гаспадарак, 190 жыхароў. Дзейнічалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. З 2004 г. вёска – цэнтр СВК «Журавы». Працуюць дзіцячы сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**СЛАБАДА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 41 км на ПнЗ ад Крупак, 36 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 139 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы–Слабада. На У працякае р. Эса і сетка меліярацыйных каналаў. 202 гаспадаркі, 525 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як сяло ў Халопеніцкім графстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1775 г. ўласнасць Іахіма Храптовіча, 9 двароў, у 1777 г. – 10,7 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 48 двароў, 146 жыхароў. У 1862 г. ў складзе маёнтка Халопенічы, цэнтр Слабодскага сельскага т-ва. У сак. 1866 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. пачала дзейнічаць школа граматы. У 1917 г. 81 двор, 510 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Грыцкавіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У



*На адным з падворкаў.*

1925 г. навучалася 35 вучняў. Паводле перапісу 1926 г. тут 94 двары, 506 жыхароў. У 1931 г. ў вёсцы створаны калгас «Пралетарская Перамога». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 126 двароў, 513 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. гарнізон. У 1944 г. партызаны ўзарвалі мост цераз р. Эса і разграмілі гарнізон. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Энергія». З 26.8.1959 г. ў Халопеніцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у саўгасе «Сялява». З 1965 г. цэнтр саўгаса «Эса». У 1998 г. 22 гаспадаркі, 643 жыхары, у складзе Халопеніцкага пас. Савета (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). З 2001 г. цэнтр РУСП эксперыментальная база «Эса». З 2009 г. аграгарадок. У вёсцы працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін. Помнік у гонар 98 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**СМАРОДЗІНКА** – вёска ў Абчугскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Крупак, 20 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 148 км ад Мінска, на аўтадарозе Ламское—Слабада. На З і ПдЗ фруктовы сад. 26 гаспадарак, 67 жыхароў (2010).

Вядома на пач. 18 ст. як вёска ў складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Згодна з інвентаром маёнтка ў 1713 г. ў вёсцы налічвалася 10 валок зямлі, 29 двароў, з іх 8 жылых. Пры гэтым толькі ў 4 гаспадарках было разам 5 коней і 2 каровы. Вёска належала роду Сапегаў. У 1778 г. канцлер Аляксандр Сапега прадаў вёску разам з інш. паселішчамі польскаму шляхціцу Ераніму Пшасмыцкаму. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся маёнтак Міхалін. У 1775 г. ў вёсцы 11 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. разрабавана ў час адступлення французскімі войскамі. У гэты час вёска ўваходзіла ў склад Копыскага павета Магілёўскай губ., уласнасць Станіслава Пржшмыцкага. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічала нар. вучылішча (у 1909 г. 44 вучні). У 1909 г. 24 двары, 196 жыхароў, царква. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 53 двары, 308 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 30 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. воінамі 5-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі 26 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. Працавала школа рабочай моладзі. З 16.7.1954 г. ў Абчугскім с/с, 207 жыхароў (1954). У 1998 г. 33 гаспадаркі, 77 жыхароў, у калгасе «Слабада». Дзейнічалі базавая школа, аддз. сувязі. З 2004 г. вёска ў складзе СВК «Журавы». Працавалі магазін, ферма. У скверы помнік на брацкай магіле 67 воінаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні Крупшчыны ад ням.-фаш. захопнікаў.

**СОМРЫ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 58 км на ПдУ ад Крупак, 42 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала—Сомры. На У балота, на ПдУ лес. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі, ва ўрочышчах Гарадзішча і Шведскія магілы, захаваліся стараж. курганы — помнікі археалогіі. Па пісьмовых крыніцах паселішча вя-

дома з 1-й пал. 17 ст., уваходзіла ў склад Барысаўскага староства. У 1639 г. належала Адаму Казаноўскаму. У 1670 г. ў вёсцы налічвалася 5 дымоў, у 1781 г. — 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1795 г. 10 двароў, 87 жыхароў, у 1845 г. — 17 двароў, 142 жыхары. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1885 г. тут 25 двароў, 216 жыхароў, царква. У 1897 г. 34 двары, 401 жыхар, царква. У 1917 г. 42 двары, 330 жыхароў, дзейнічаў смалакурны з-д. З 20.8.1924 г. вёска ў Стараслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 67 двароў, 338 жыхароў, смалакурны з-д. У час калектывізацыі створаны калгас «Чырвоная зорка». У 1930-я г. дзейнічаў смалакурны з-д «Варашылава». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 65 двароў, 322 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Летам 1941 г. каля вёскі вялі цяжкія абарончыя баі воіны 100-й стралк. дывізіі. Тут здзейсніў свой подзвіг Герой Сав. Саюза Я.Дз.Бяляеў (пахаваны ў Крупках). У кастр. 1942 г. акупанты спалілі вёску, загубілі 180 жыхароў. У раёне вёскі дзейнічаў 30-ы асобны партыз. атрад. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 31 жыхар вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Леніна. У 1959 г. 162 жыхары, у саўгасе «Ухвала». З 4.1.1964 г. ва Ухвальскім с/с. З 1968 г. вёска ў саўгасе «Новая ніва», пазней у калгасе «Ніва». У 1998 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар. Дзейнічала пач. школа. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Помнік на магіле ахвяр фашызму.

**СТАІ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 9 км на ПнУ ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы і далей па прасёлачнай дарозе. На З і ПнЗ фруктовы сад. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядомы з 1760 г. як с. Стайкі ў складзе маёнтка Крупкі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 5 гаспадарак. У 1772 г. тут 9 двароў, уладанне князёў Сангушкаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ўваходзіла ў Бобрскую вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. налічваліся 24 жыхары мужчынскага полу, частка з іх займалася калёсным промыслам. У 1897 г. было 19 двароў. 144 жыхары. У 1909 г. 20 двароў, 150 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Шэйкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 29 двароў, 152 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Прасвет». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Дзяржынскага. У 1959 г. ў вёсцы 104 жыхары. З 1960 г. ў калгасе «Чырвоны Бобр», пазней увайшла ў саўгас «Колас». З 5.5. 1962 г. ў складзе Бобрскага с/с. З 31.3. 1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. зноў у Бобрскім с/с.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Крупак, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 127 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Каменка—Лашанцы. 102 гаспадаркі, 258 жыхароў (2010).

На вясковых могілках захаваўся курганны могільнік (3 курганы) — помнік археалогіі, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у стараж. часы. Па пісьмовых крыніцах вёска і аднайменны



*Я.Дз.Бяляеў.*

фальварак вядомы з 2-й пал. 18 ст. У 1760 г. ў складзе маёнтка Крупкі, 8 двароў, уласнасць Сангушкаў. У 1772 г. 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. была часткова спалена і разрабавана французамі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 28 двароў, 181 жыхар. У 1907 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у першы год навучаліся 48 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1909 г. 35 двароў, 243 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Малажаберыцкага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. навучаліся 52 вучні з вёсак Стараселле, Лашанцы, Каменка. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Усход», які ў студз. 1932 г. налічваў 26 гаспадарак. Паводле перапісу 1926 г. тут 48 двароў, 266 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 47 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (5 двароў). На франтах загінулі і прапалі без вестак 18 жыхароў вёскі. Пасля вызвалення адбудавана. У 1950 г. да гаспадаркі былі далучаны яшчэ 3 калгасы. У 1959 г. 220 жыхароў. Са снеж. 1960 г. ў складзе саўгаса «Гігант», з 4.2.1966 г. — цэнтр саўгаса (пазней — калгас) «Стараселле». З сак. 1973 г. ў Ігрушкаўскім с/с. У 1998 г. 90 гаспадарак, 243 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт (да 2004 г.). З 2003 г. цэнтр СВК «Старасельскае». З 2009 г. аграгарадок. У вёсцы працуюць б-ка, клуб, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, магазін. На могілках помнік на брацкай магіле 3 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі летам 1944 г.

**СТАРАЯ ПЯРЭСІКА** — вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Усохі—Гута—Старая Пярэсіка. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў судовай справе ў 1546 г. як Перасецкая зямля. Належала кн. Андрэю Іванавічу Друцкаму-Азярэцкаму, атрымана ім у спадчыну ад дзеда Івана Бабы. У 1562 г. сяло ў складзе маёнтка Худава Аршанскага павета, сумеснае ўладанне князёў Друцкіх-Азярэцкіх і нашчадкаў княжны Сенскай — паноў Корсакаў. У 1624 г. ўваходзіла ў маёнтак Чарэя, уласнасць Льва Сапегі, мелася 16 валок зямлі. З 1775 г. вёска ў складзе маёнтка Бобр, уладанне кн. Агінскага, 32 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 158 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 86 двароў, 585 жыхароў. У 1909 г. 94 двары, 516 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1912 г. адкрыта земская школа. У маёнтку Перасека-Забор'е ў гэты час 1 двор, 7 жыхароў, уласнасць памешчыка Белага. З 20.8.1924 г. вёска ў складзе Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 67 двароў, 389 жыхароў. З 8.7.1831 г. ў Крупскім, з 12.2. 1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. У 1931 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў студз. 1932 г. налічваў 35 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 96 двароў, 354 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. гарнізон, на які ў 1943 г. зрабілі напад партызаны. У сак. 1944 г. акупанты часткова спалілі вёску (8 двароў) і загубілі 12 мірных жыхароў. Вызвалена 27.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 28 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса «Прызыў». З 1954 г. ў Халопеніцкім с/с, пазней увай-

шла ў Ігрушкаўскі с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 187 жыхароў (1960). У 1998 г. 27 гаспадарак, 48 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае».

**СТАРАЯ СЛАБАДА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 50 км на ПдУ ад Крупак, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 133 км ад Мінска, на р. Сталька. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала–Селішча. 64 гаспадаркі, 163 жыхары (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. як вёска ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1885 г. тут 44 двары, 252 жыхары, дзейнічала царква. У 1897 г. налічвалася 47 двароў, 310 жыхароў. У 1909 г. 58 двароў, 449 жыхароў. У 1911 г. было адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. ў вёсцы 70 двароў, 462 жыхары, на аднайменным хутары – 1 двор, 6 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Старaслабодскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1924 г. ў вёсцы было створана сельскае т-ва ўзаемадапамогі. Паводле перапісу 1926 г. тут 76 двароў, 376 жыхароў, смалакурны з-д. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», дзейнічаў млын (турбіна магутнасцю 6 конскіх сіл). З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 77 двароў, 321 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала падп. група, большасць пабудоў было спалена. Акупанты расстралялі звыш 100 мірных вяскоўцаў, загубілі 217 мірных жыхароў вёсак Новая і Старая Слабада. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 50 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. да калгаса далучыліся 3 суседнія гаспадаркі, пачала працаваць 7-гадовая школа. У 1959 г. ў вёсцы 376 жыхароў, у складзе саўгаса «Ухвала». З 4.1.1964 г. ва Ухвальскім с/с. З 1968 г. цэнтр саўгаса «Новая Ніва», пазней у калгасе «Ніва». У 1998 г. 90 гаспадарак, 242 жыхары. Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, крама. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». У вёсцы дзейнічаюць лясніцтва, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма. У цэнтры вёскі помнік у гонар землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У наваколлі вёскі захаваліся стараж. курганы, а таксама плоскі культавы камень памерамі 3 × 2,4 м.

**СТАРОЖЫШЧА** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 29 км на Пн ад горада і 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст– Масква, 152 км ад Мінска, на зах. беразе воз. Сялява. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы–Прошыка–Старожышча. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 17 ст. ў складзе Худаўскай вол. маёнтка Чарэя Аршанскага павета, уласнасць Сапегаў. У 1624 г. тут 5 валок зямлі. У 1772 г. налічвалася 14 двароў, уласнасць пана Салагуба. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. маёнтак і фальварак у Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1847 г. маёнтак Старожышча

*У ландшафтным заказніку Сялява.*



належаў панам Рашкоўскім. Да яго адносіліся вёскі Дуброўка, Белыя Баркі, Вялікі і Малы Каменец. Налічваліся 53 цяглыя двары, у якіх жыло 448 сялян. Павіннасці складалі 2 мужчынскія (конныя) і 2 жаночыя (пешыя) дні ў тыдзень, а таксама 8 згонаў у год, у якіх павінна было прымаць удзел усё працаздольнае насельніцтва (толькі аднаго чалавека дазвалялася пакінуць для нагляду за ўласнай гаспадаркай). Дзейнічала карчма. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 11 жыхароў. У 1909 г. маёнтак, уласнасць пана Багушэўскага. З 20.8.1924 г. ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Да 1925 г. дзейнічала дзіцячая камуна. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны барацьбіт». З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 32 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 мірных жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 20 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Леніна. З 26.8.1959 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с, у вёсцы 125 жыхароў (1959). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 28.7.1966 г. ў Акцябрскім с/с. З 1968 г. ў саўгасе (затым — калгас) «Дуброўка». У 1998 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». Знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

*У ландшафтным заказніку Сялява.*



**СТАРЫ БОБР** — вёска ў Бобрскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Крупак, 7 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Стары Бобр. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся стараж. курганы. У 1856 г. археолаг К.П.Тышкевіч даследаваў адзін курган, які адносіўся да перыяду язычніцтва. У 16 ст. сяло Забаброўе (Стары Бобр) у складзе маёнтка Бобр Аршанскага павета, які ў 1573 г. Еранім Хадкевіч аддаў у заклад сваёй сястры Крысціне і яе мужу Станіславу Пацу. На гэты час у сяле было 20 двароў. У 1614 г. ў складзе маёнтка Бобр, 19 двароў; сяляне плацілі павіннасці па 75 грошаў з валокі. Пасля смерці Паца належала канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, які перазаклаў сяло свайму слузе Станіславу, а той — Крыштофу Комару. У 1772 г. 23 двары, уласнасць Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1883 г. 49 двароў, 262 жыхары, частка з якіх займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў вёсцы было 58 двароў, 387 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У 1917 г. 71 двор, 495 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. знаходзілася ў зоне акупацыі герм. войск. З 20.8.1924 г. ў Бобрскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоны Бобр». У 1927 г. адкрыта школа для малапісьменных. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 47 жыхароў вёскі. У 1959 г. тут 136 жыхароў. З 1960 г. ў складзе саўгаса «Бобр», з 1967 г. ў саўгасе «Ко-

лас». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. Дзейнічала пач. школа. У 1998 г. 28 гаспадарак, 47 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с. Помнік на брацкай магіле 7 сав. воінаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні вёскі.

**СТАРЫ САКОЛ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 38 км на ПдУ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 120 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Новыя Дзянісавічы–Новы Сакол і далей па прасёлачнай дарозе. На У працякае р. Можа. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2010).

Вядомы з 1670 г. як в. Сокал у Барысаўскім старостве Аршанскага павета, 8 дымоў, уласнасць казны. У 1772 г. тут 70 душ мужчынскага полу, дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 235 жыхароў, дзейнічала уніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 51 жыхар мужчынскага полу. У 1897 г. ў вёсцы 19 двароў, 204 жыхары, у 1917 г. 20 двароў, 165 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 30 двароў, 177 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Іскра». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. было 34 двары, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных вяскоўцаў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 11 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў калгасе імя Молатава, які ў 1958 г. быў перайменаваны ў калгас «Іскра». У 1959 г. 152 жыхары. З 1963 г. ў саўгасе (затым – калгас) «Дзянісавічы». З 1964 г. ў Дзянісавіцкім с/с. У 1998 г. 29 гаспадарак, 64 жыхары. З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**СТАРЫЯ ДЗЯНІСАВІЧЫ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Крупак, 18 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 126 км ад Мінска, на аўтадарозе Сакалавічы–Новыя Дзянісавічы. На У лес. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 2-й пал. 17 ст. Бытуе паданне, што заснавальнікамі вёскі былі сяляне Кляшчонка і Макарэвіч, магчыма, з ліку паўстанцаў Б.Хмяльніцкага. А назва вёскі паходзіць ад імя аднаго з іх – Дзяніса, які вызначыўся ў барацьбе супраць польскіх улад. У 1670 г. ў складзе Забаброўскай вол. Барысаўскага староства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., у вёсцы 4 дымы, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 149 жыхароў, уласнасць кн. М.Радзівіла. У вайну 1812 г. каля вёскі дыслацыраваліся асн. сілы рас. арміі Кутузава. У сярэдзіне 19 ст. было каля 300 жыхароў. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 89 двароў, 594 жыхары, дзейнічалі вадзяны млын, школа, хлебазапасны магазін, капліца. Непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Крыніца, працаваў смалакурны з-д. У 1917 г. 162 двары, 1083 жыхары. У 1920-я г. частка насельніцтва перасялілася ў іншыя месцы. З 20.8. 1924 г. вёска Дзянісавічы ў Шынкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 198 двароў, 991 жыхар. У час калектывізацыі створаны калгас «Чырвоны трактар», які ў студз. 1932 г. налічваў 22 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 49 двароў, 283 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. гарнізон, які 28.9.

1942 г. разграмілі партызаны. Акупанты часткова спалілі вёску (24 двары). Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 47 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Маяк сацыялізму». З 16.7. 1954 г. ў складзе Ухвальскага с/с. У 1959 г. 210 жыхароў, у саўгасе «Ухвала», з 1963 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Дзянісавічы». З 1964 г. ў Дзянісавіцкім с/с. У 1998 г. 36 гаспадарак, 56 жыхароў. З 20.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с. З 2009 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**СТАРЫЯ ПЫШАЧЫ** — вёска ва Ухвальскім с/с, за 48 км на ПдУ ад Крупак, 38 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска, на аўтадарозе Ухвала—Новая Ніва. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2010).

Вядомы з сярэдзіны 19 — пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1860 г. пабудавана драўляная царква. У 1885 г. 42 двары, 250 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У 1897 г. 68 двароў, 426 жыхароў, працавалі нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, вінная крама, карчма, царква. У 1917 г. тут 76 двароў, 471 жыхар. З 20.8.1924 г. вёска Пышачы ў Стараслабодскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 92 двары, 453 жыхары, дзейнічала пач. школа. У 1925 г. ў ёй займаліся вучні з вёсак Пышачы, Старая Слабада, Купленка, Сомры. Размяшчалася ў былым рэліг.-культавым памяшканні. У 1930 г. створаны калгас «Новы шлях». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 54 двары, 186 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах загінулі 18 жыхароў вёсак Старыя і Новыя Пышачы. З 1950 г. вёска ў калгасе «Чырвоная Слабада». У 1959 г. 210 жыхароў, у саўгасе «Ухвала». З 4.1.1964 г. ў складзе Ухвальскага с/с, з 1968 г. вёска ў саўгасе «Новая Ніва», затым у калгасе «Ніва». У 1998 г. 35 гаспадарак, 56 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Працаваў магазін. У наваколлі вёскі захаваліся рэшткі стараж. курганоў.

**СТАРЫЯ ШЧАЎРЫ** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і 21 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хацюхова—Старыя Шчаўры. 69 гаспадарак, 172 жыхары (2010).

Вядомы з 2-й пал. 18 ст. як вёска ў складзе маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць паноў Сангушкаў. У 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў Салагуба, 8 двароў, дзейнічала Пакроўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. была разрабавана і разбурана французскімі войскамі. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1856 г. вёску наведваў пісьменнік В.Дунін-Марцінкевіч. У выніку ўражанняў ад паездкі ён напісаў паэму «Шчаўраўскія дажынкі». У 1858 г. ўладанне Ю.С.Рашкоўскага, дзейнічала карчма. У 1873 г. налічвалася 105 душ мужчынскага полу. У 1885 г. 37 двароў, 225 жыхароў, царква. У 1897 г. ў сяле 61 двор, 418 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа; у аднайменным фальварку — 21 жыхар. У 1900 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 58 гаспадарак, працавала пач. школа. З 20.8.1924 г. вёска Шчаўры ў Хацюхоўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 84 двары, 515 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1925 г. навучаліся 109 вучняў, працавалі 2 настаўнікі. Школу наведвалі дзеці з вёсак Шчаўры, Новыя Шчаўры, Лужа, Казубец, Актавія, хутара Цагельнае. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў студз. 1932 г.

налічваў 24 гаспадаркі; дзейнічала майстэрня па рамонце мэблі. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 74 двары, 304 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала падп. група. Акупанты загубілі 28 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 37 жыхароў вёсак Новыя і Старыя Шчаўры. У 1950 г. да калгаса далучыліся 3 суседнія гаспадаркі, у выніку атрымаў назву імя Сталіна. У 1957 г. перайменаваны ў калгас «Сцяг камунізму». З 20.1.1960 г. вёска ў Крупскім р-не, 356 жыхароў (1960). З 1986 г. вёска — цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». У вёсцы дзейнічалі базавая школа, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры». Працуюць магазін, пункт выдачы кніг, жывёлагадоўчая ферма.

**СТРУГА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Крупак, 41 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Струга. На Пн меліярацыйны канал. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Засн. ў 1-й пал. 18 ст. як сяло, якое належала ордэну езуітаў. У 1777 г. сяло ў графстве Халопенічы Аршанскага павета, уласнасць Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. належала Іахіму Храптовічу, затым памешчыцы Цітовай. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 78 жыхароў, дзейнічала уніяцкая драўляная капліца. У 1862 г. ў складзе маёнтка Халопенічы Грыцкавіцкага сельскага т-ва, 12 гаспадарак. У сак. 1866 г. сяляне вёскі па выкупным акце набылі зямельныя надзелы ў памешчыка А.Д.Лапо, уладальніка маёнтка Халопенічы. У 1884 г. 96 жыхароў, 5,2 валокі зямлі. У 1897 г. ў Халопеніцкай вол. таго ж павета, 20 двароў, 135 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 150 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Грыцкавіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 29 двароў, 114 жыхароў. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 21 двор, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 жыхароў вёскі. З 16.7.1954 г. ў Слабодскім, з 26.8.1959 г. ў Халопеніцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 183 жыхары (1960). З 1965 г. ў складзе эксперыментальнай базы «Эса». У 1998 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў, у Халопеніцкім пас. Савеце (з 30.12.2009 г. Халопеніцкі с/с). З 2001 г. ў складзе РУСП эксперыментальная база «Эса».

**СТУДЗЁНКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 11 км на Пн ад горада і 14 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Студзёнка. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (1998).

Засн. ў пач. 18 ст. як вёска ў складзе Худавецкага войтаўства. У 1713 г. 17 двароў, у 1775 г. ўладанне Агінскіх, 8 гаспадарак. У 1873 г. 12 жыхароў мужчынскага полу. У 1909 г. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 47 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на, з сак. 1973 г. ў Крупскім с/с. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны май». У 1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 12 жыхароў. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Молатава, з 1958 г. — калгаса імя Колесавай. Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

**СЯЛІЦКАЕ** – вёска ў Крупскім с/с, за 8 км на З ад горада і 6 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 110 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў–Талачын. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2010).

Вядома з 1897 г. як хутар у складзе Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. 10 двароў, 72 жыхары. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 18 двароў, 100 жыхароў. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 23 двары, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. У 1959 г. налічвалася 136 жыхароў. З 1960 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Варашылава, з 1962 г. — калгаса «Перамога», з 1986 г. – калгаса імя Леніна. У 1998 г. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**ТАПАРЫШЧА** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Крупак, 25 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 145 км ад Мінска.Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы–Тапарышча. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2010).

Вядома на пач. 18 ст. як вёска ў складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя Аршанскага павета, уласнасць пана Салагуба. У 1713 г. налічвала 26 двароў, 10 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1790 г. належала панам Нітаслаўскім. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 68 жыхароў мужчынскага полу. У 1909 г. 32 двары, 258 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. ў складзе Дубаўскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 49 двароў, 283 жыхары. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў ёй займаліся 64 вучні з вёсак Тапарышча, Язбы, Стральцы, Камянец, Астроўкі. У 1931 г. ў вёсцы створаны калгас «Полымя рэвалюцыі» (14 гаспадарак), які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 53 гаспадаркі, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала падп. група. Акупанты загубілі 8 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах загінулі і прапалі без вестак 23 вяскоўцы. З 1957 г. ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 5.5.1962 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 24 гаспадаркі, 43 жыхары. З 2008 г. ў складзе с.-г. філіяла «Ротань» КУП «Жылцеплабуд», з 2009 г. ў дачным КСУП «Ротань».

**ТРУДАВІК** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 57 км на ПдУ ад Крупак, 50 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 166 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала–Свірыдаўка і далей па прасёлачнай дарозе. На ПнЗ лес і балота. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2010).

Вядомы з 1918 г. як пасёлак. З 20.8.1924 г. ў складзе Стараслабодскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Трудавік». З 20.2. 1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 13 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 жыхары пасёлка. З 1950 г. ў складзе саўгаса «Новая ніва», пазней у калгасе «Ніва». У 1959 г. налічвалася 79 жыхароў. З 4.1.1964 г. ва Ухвальскім с/с. У 1998 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**УЗНАЖ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 59 км на ПдЗ ад Крупак, 44 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ухвала–Гумны і далей па прасёлачнай дарозе. На З балота Пераворскае, на У воз. Нерыб. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з 1670 г. як засценак у Барысаўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 2 дымы, уласнасць казны. У 1781 г. тут 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў вёсцы налічвалася 12 двароў, 131 жыхар. У 1870 г. пазначана як в. Узнаж у Дзмітрыеўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 83 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 34 двары, 331 жыхар. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 42 двары, 247 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Выдрыцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Молатава, які ў студз. 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 68 двароў, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, расстралялі 361 яе жыхара. На франтах загінулі і прапалі без вестак 62 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Пралетарская Перамога». У 1959 г. 100 жыхароў, у складзе саўгаса «Ухвала». Пазней вёска ўвайшла ў калгас «Ніва». З сак. 1973 г. ва Ухвальскім с/с. У 1998 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Помнік на магіле ахвяр фашызму.

**УЗНАЦК** – вёска ў Ігрушкаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Крупак, 25 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ігрушка–Узнацк. 121 гаспадарка, 307 жыхароў (2010).

Вядомы з 1777 г. як сяло ў складзе маёнтка Халопенічы ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., тут 38 дымоў, уласнасць Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 40 двароў, 216 жыхароў, уласнасць Іахіма Храптовіча. У 1844 г. частка маёнтка Халопенічы, у т.л. і в. Узнацк, была прададзена на аўкцыёне пану Вікенцію Гарноўскаму. У вайну 1812 г. войскі рус. ген. П.Х.Вітгенштэйна 11.11.1812 г. непадалёку ад вёскі разграмілі некалькі французскіх палкоў. У 1870 г. ў складзе Халопеніцкай вол. таго ж павета, 74 душы мужчынскага полу. У сак. 1876 г. сяляне вёскі адмовіліся плаціць штраф за самавольнае карыстанне зямлёй памешчыка Брадоўскага і аказалі супраціўленне пры апісанні іх маёмасці. У 1909 г. 68 двароў, 649 жыхароў. У 1917 г. 83 двары, 607 жыхароў, нар. вучылішча (з 1912 г.). З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Узнацкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 113 двароў, 686 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы шлях», працавала майстэрня па вырабе колаў. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. З 1939 г. ў вёсцы дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У 1941 г. было 90 двароў, 510 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся варожы гарнізон, які разграмілі партызаны. Акупанты загубілі 20 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 46 жыхароў вёскі. У 1950 г. да калгаса далучаны калгас «Чырвоная зорка». З 16.7.1954 г. ў Халопеніцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 373 жыхары (1960), у саўгасе «Халопенічы», пазней вёска стала цэнтрам калгаса «Прызыў». З 1973 г. ў Ігрушкаўскім с/с. У 1998 г. 135

гаспадарак, 368 жыхароў, цэнтр СВК «Узнацк». З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае». З 2008 г. аграгарадок. Працуюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 1995 г. пры мясц. школе адкрыты музей. На могілках помнік на брацкай магіле 3 сав. воінаў, каля 30 ваеннапалонных, загінуўшых у Вял. Айч. вайну.

**УСОХІ** – вёска ў Крупскім с/с, за 8 км на З ад горада і 3 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 115 км ад Мінска, каля аўтамагістралі Барысаў–Талачын. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2010).

Вядомы з 1670 г. як вёска ў Барысаўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць ваяводы кн. М.Радзівіла. У 1818 г. ў складзе Барысаўскага маёнтка, 5 гаспадарак, 32 жыхары. У сярэдзіне 19 – пач. 20 ст. ўваходзіла ў Лошніцкую вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1845 г. належала Радзівілам, 5 двароў, 45 жыхароў, 7 коней, 10 кароў, 80 га зямлі. У 1858 г. ў вёсцы 9 душ мужчынскага полу, уласнасць вял. кн. Мікалая Мікалаевіча, уладальніка маёнтка Стара-Барысаў. У 2-й пал. 19 ст. ўваходзіла ў Нацкую сельскую грамаду. У 1897 г. 5 двароў, на аднайменным хутары было 2 двары, 31 жыхар. У 1917 г. 7 двароў, 52 жыхары, на хутары – 3 двары, 29 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Крупскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 16 двароў, 94 жыхары. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава, які ў 1932 г. налічваў 17 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 21 двор, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. У 1950 г. да калгаса далучаны суседнія гаспадаркі. У 1959 г. ў вёсцы 113 жыхароў. З 1962 г. ў калгасе «Перамога», з 1968 г. ў калгасе імя Леніна. У 1998 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**УСЦІНАЎКА** – вёска ў Крупскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі–Гапонавічы–Усцінаўка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2010).

Вядома з канца 19 – пач. 20 ст. як пасёлак у складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 5 двароў, 28 жыхароў. У 1909 г. засценак, 4 двары, 29 жыхароў. З 20.8. 1924 г. засценак у Ігрушкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 8 двароў, 48 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы сумесна з жыхарамі в. Карпушоўка аб'ядналіся ў калгас «Новы лад». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 жыхары вёскі. З 1950 г. ў калгасе «Ленінец», з 1951 г. ў калгасе імя Леніна. У 1960 г. вёска ў Крупскім с/с, 70 жыхароў. У 1998 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Крупскі райаграсервіс».

**УХВАЛА** – вёска, цэнтр Ухвальскага с/с, за 40 км на Пд ад Крупак, 30 км ад чыг ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 158 км ад Мінска, каля аўтадарогі Беразіно–Бобр. На Пн лес, на ПнУ працякае р. Можа. 351 гаспадарка, 868 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся гарадзішча і курганныя могільнікі – помнікі археалогіі, якія сведчаць, што мясцовасць была заселена ў стараж. часы. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1670 г. як сяло ў складзе Барысаўскага старос-

ства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 5 дымоў, дзейнічала царква святога Мікалая, уласнасць казны У 1774 г. сяло, 14 двароў, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 33 двары, 305 жыхароў, вадзяны млын, драўляная уніяцкая царква Успення Багародзіцы, уладанне віленскага ваяводы кн. М.Радзівіла. У 1825 г. пабудавана праваслаўная царква. У 1863 г. адкрыта школа, у якой у 1892 г. навучаліся 31 хлопчык і 3 дзяўчынкі. У 1866 г. ў сяле 50 двароў, 2 царквы. У 1885 г. цэнтр Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 55 двароў, 402 жыхары, вал. праўленне, царк. прыход, бальніца, нар. вучылішча. Царк. прыход уключаў акрамя Ухвалы 11 вёсак, меў 3,3 тыс. прыхаджан. Царкве належалі 33 дзес. ворнай зямлі, 30 дзес. лесу. У 1897 г. налічвалася 79 двароў, 517 жыхароў, дзейнічалі вадзяны млын, кузня, нар. вучылішча, вал. праўленне, царква, 3 крамы, карчма, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 137 двароў, 810 жыхароў, паштова-тэлегр. аддзяленне. У 1919 г. ў воласці 7208 жыхароў, дзейнічаў рэўком. Большасць насельніцтва хварэла цынгой. Да 1929 г. ў воласці адкрыты 15 школ, працаваў культ.-асв. гурток. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. цэнтр Ухвальскай вол. Гомельскай губ. З 17.7.1924 г. ў Барысаўскай акрузе, з 20.8.1924 г. — цэнтр Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. сяло, 90 двароў, 864 жыхары. У ліп. 1924 г. арганізаваны с.-г. кааператыў, у 1925 г. пачалі працаваць урачэбная амбулаторыя, пач. школа (у 1925 г. 30 вучняў). У ліст. 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны молат». У 1931 г. пабудавана 7-гадовая школа, у якой навучалася каля 100 вучняў. У 1934 г. пачалі дзейнічаць электрастанцыя і млын на р. Можа. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы адкрыта вучылішча па падрыхтоўцы трактарыстаў, работнікаў лесу, працавалі механізаваны пункт па нарыхтоўцы лесу, бальніца. У 1941 г. было 154 двары, 762 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. гарнізон. У кастр. 1942 г. акупанты расстралялі і скінулі ў калодзеж 120 жыхароў вёскі, сярод якіх большасць жанчын і дзеці — сваякі партызан. У час акупацыі вёска была часткова спалена, 144 мірныя вяскоўцы загінулі ад рук ням.-фаш. захопнікаў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 66 вяскоўцаў. У 1944 г. адноўлена бальніца. З 1950 г. цэнтр калгаса імя Кірава. У 1954 г. пабудавана новая школа, працавала хлебапякарня. У 1959 г. налічвалася 640 жыхароў, цэнтр саўгаса «Ухвала», пазней — калгаса «Ніва», пачаў дзейнічаць торфазавод. У 1983 г. пабудаваны Дом культуры. У 1998 г. 370 гаспадарак, 1035 жыхароў, цэнтр дзяржпрадпрыемства «Ухвала». Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя,



*У цяплічным комплексе ААТ «Туршоўка» на тэрыторыі в. Ухвала.*

аддз. сувязі; лясніцтва, торфапрадпрыемства. Працуюць (2010) вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукацыйная школа імя А.С.Лукашэвіча, Цэнтр культуры і адпачынку, 4 магазіны, аддз. сувязі і «Беларусбанка», урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт. На тэр. вёскі размешчаны вытв. рэсп. унітарнае торфапрадпрыемства «Туршоўка», Ухвальскае і Гумнаўскае лясніцтвы — філіялы дзярж. лесагасп. ўстановы «Крупскі лясгас». Дзейнічае Пакроўская царква. Помнік на брацкай магіле 38 сав. воінаў, што загінулі летам 1944 г. ў баях пры вызваленні раёна, сярод якіх байцы 174-й стралк. дывізіі 113-га стралк. корпуса 31-й арміі і 23-й гв. асобнай танкавай брыгады. Помнік на магіле ахвяр фашызму.

У склад сельсавета ўваходзіць 41 вёска.

**ХАЛОПЕНІЧЫ** — гарадскі пасёлак, цэнтр Халопеніцкага с/с, за 34 км на Пн ад горада і 28 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 134 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы—Халопенічы. 1626 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 1451 г., уласнасць кн. Фёдара Даўгоўдавіча, які пажалаваў паселішча Міхаілу Кезгайлу. З 1594 г. ўладанне Мальхера Войцехавіча Шэмета, з 1610 г. маёнтак Войцеха Маніведа Даргастайскага, з 1620 г. належала Нонгартам (37 двароў). У 1621—35 гг. цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне пана Міхала Млечкі, дзейнічала праваслаўная царква. У 1667 г. Халопенічы належалі Мікалаю Цехнавецкаму. У 1669 г. тут пабудаваны мураваны кляштар дамініканцаў, на гэты час налічвалася 260 дымоў. У 1690 г. ўласнасць Гадзона Халецкага, на сродкі якога ў 1703 г. быў пабудаваны драўляны касцёл, у 1712 г. — царква. У 1748 г. Антоній Халецкі частку маёнтка перадаў Антонію Арэшку, пасля чаго ў яго валоданні засталося 116 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) — цэнтр Аршанскага павета той часткі, якая засталася ў складзе ВКЛ, мястэчка мела правы горада, дзе праводзіліся пав. сеймікі. У 1775 г. адкрыта школа. На гэты час Халопенічы з'яўляліся цэнтрам Халопеніцкага графства, уладанне Іахіма Храптовіча, 127 двароў. У 1775—93 гг. належалі да ліку т. зв. юрыд. пасяленняў. Тут была адкрыта адна з першых у Беларусі свецкая школа, якая падпарадкоўвалася Адукацыйнай камісіі. У 1777 г. мястэчка, 78 двароў, дзейнічаў кірмаш, цэнтр графства, уладанне Л.Храптовіча. У 1783 г. мястэчка атрымала шэраг эканам. ільгот. У канцы 18 ст. маёнтак пасля смерці графа Храптовіча быў падзелены паміж яго 2 дочкамі, якія выйшлі замуж за дваран Буцянёва і Цітова. Асн. частка фальварка, якая ахоплівала Крупшчыну, дасталася Цітовай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У вайну 1812 г. маёнтак графа Храптовіча, разрабаваны і разбураны пад час ваенных дзеянняў. У 1828 г. пабудавана Успенская царква, у 1840 г. засн. вінакурны з-д. У 1839 г. кляштар быў скасаваны, у 1844 г. адноўлены касцёл. Пасля паўстання 1863—64 гг. Халопенічы перасталі быць уласніцкім мястэчкам,

*Будынак былога кляштара дамініканцаў у г.п. Халопенічы.*





Руіны Успенскай царквы ў г.п. Халопенічы.

землі касцёла былі здадзены ў арэнду. У 1880 г. 139 двароў, 539 жыхароў, гаспадарскі драўляны двор, млын, 2 касцёлы, кляштар, драўляная уніяцкая царква, яўр. школа, штогод праводзіўся трохдзённы кірмаш, па нядзелях — таргі. У 1844 г. Халопенічы — цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губ., 586 прыгонных сялян, 5 сямей дваран, 6 мяшчан, 105 яўр. сямей, дзейнічалі 2 яўр. школы, касцёл, сінагога, царква, заезны дом, цагельны з-д. У 1861 г. ў гонар адмены прыгоннага права ў мястэчку ўстаноўлены памятны знак. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, дзе ў 1892 г. навучаліся 56 хлопчыкаў і 14 дзяўчынак; пабудавана мураваная Успенская царква. Халопеніцкі прыход уключаў акрамя мястэчка 14 вёсак і меў больш за 3,7 тыс. прыхаджан, царкве належалі 99 дзес. зямлі. Маёнтак знаходзіўся ва ўладанні Гаркоўскіх, у 1867 г. перайшоў да Рудольфа Вількена. У мястэчку звыш 1500 жыхароў. У 1874 г. значная колькасць жыхароў Халопеніч памерла ад эпідэміі воспы. У 1881 г. адкрыты вал. фельч. пункт, у 1884 г. ўстаноўлена паравая машына (7 рабочых), з 1865 г. працавала льнотрапалка, у 1898 г. — паравы млын. У 1897 г. ў мястэчку 2254 жыхары, царква, касцёл, аднакласнае нар. вучылішча, бальніца, паштова-тэлегр. аддзяленне, 15 гандл. крам, штогод праводзіліся 2 кірмашы. У 1900 г. 255 двароў, 2196 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская бальніца. У 1917 г. 413 двароў, 1923 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. мястэчка акупіравана герм. войскамі. З 29.8.1919 г. цэнтр Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. — Мінскай губ. БССР. У жн. 1920 г. ў Халопенічах адбыўся сход прадстаўнікоў воласці (звыш 200 сялян), на якім была пранята рэзалюцыя ў падтрымку сав. улады. У вер. створаны саўгас. Працавалі млын, вінакурны з-д. У 1923 г. — 413 двароў, 1923 жыхары. З 17.7.1924 г. цэнтр Халопеніцкага р-на Барысаўскай, затым Мінскай акруг, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. адкрыты 7-гадовая і яўр. школы. У 1928 г. засн. шавецкая арцель «Свая праца», у 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё» (12



Цэх па вырабе сыру на масласыраробным заводзе ў г.п. Халопенічы.




Прадукцыя ААТ «Халопеніцкі масласыраробны завод».



*В.М.Грышановіч.*



*Н.С.Еўчык.*

*Помнік А.Я.Багдановічу ў г.п. Халопенічы.*

гаспадарак), у 1931 г. арцелі кравецкая «Новы шлях» і швейная «Свабодная праца». Працавалі паравы млын, электрастанцыя, дзіцячы сад. У былым маёнтку арганізаваны саўгас, дзе ў 1933 г. працавалі 77 рабочых, мелася 1254 га зямлі. Дзейнічаў маладзёжны клуб і пры ім — тэатр. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1938 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. — гар. пасёлак. Пачала працаваць МТС. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1941 г. яны расстралялі звыш 800 жыхароў. У лагеры смерці, які быў створаны тут фашыстамі, загінулі 1600 чал. У пасёлку дзейнічала падп. арг-цыя, выдавалася газ. «Красное знамя» — друкаваны орган падп. райкома КП(б)Б. Вызвалены пасёлак 29.6.1944 г. На франтах загінулі 137 чал., у партыз. барацьбе — 24. Пасля вызвалення адноўлена бальніца. У 1950-я г. пачалі працаваць торфзавод, хлебазавод. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, цэнтр пас. Савета і саўгаса «Халопенічы». З 30.12.2009 г. цэнтр Халопеніцкага с/с і СВК «Халопенічы». У гар. пасёлку працуюць масласырзавод, механічны з-д, хлебакамбінат, філіял Крупскага камбіната быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, ашчадны банк, участак электрасеткі, лясніцтва. Ёсць сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сац. прытулак, дзіцячы сад, 2 б-кі, Дом культуры, Цэнтр пазашкольнай работы, паліклініка, аптэка, бальніца, гасцініца, 4 магазіны, сталовая, кафэ, 5 крам, універмаг, аддз. сястрынскага догляду, ветучастак, участак КУП «Жылцеплабуд», філіял ААТ «Барысаўскі малочны камбінат», аддз. сац. дапамогі на даму, царква. Помнік на брацкай магіле 66 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Крупшчыны ад ням.-фаш. акупантаў; магіла ахвяр фашызму. У цэнтры пасёлка помнік у гонар землякоў, загінуўшых у гады Вял. Айч. вайны. Помнік на магіле сав. ваеннапалонных, якіх у 1941 г. расстралялі фашысты.

У складзе сельсавета 36 вёсак, 1 пасёлак і 1 гар. пасёлак.

Гар. пасёлак — радзіма бел. этнографа і фалькларыста А.Я.Багдановіча (1862—1940), пісьменніка В.М.Грышановіча (н. ў 1947 г.), бел. мовазнаўца, доктара філалагічных навук, аднаго з першых заснавальнікаў Бел. грамадскага аб'яднання бацькоў дзяцей-інвалідаў па слыху «Рост» Н.С.Еўчык (н. ў 1949 г.).

**ХАЛЬНЯВІЧЫ** — пасёлак у Халопеніцкім с/с, за 47 км на Пн ад горада і 51 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Хальнявічы. На Пд воз. Абіда, на ПнУ і У балоты. 10 гаспадарак, 24 жыхары (2010).

Упершыню ўпамінаецца ў 1534 г. як маёнтак, уласнасць кн. Андрэя Андрэевіча Лукомскага-Мялешкаўскага, затым перайшоў у спадчыну да кн. Івана Барысавіча Лукомскага. У 1604 г. сяло маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце, цэнтр войтаўства, належала канцлеру



Льву Сапегу. У 1624 г. тут 30 валок зямлі. У 1678 г. паселішча перайшло ў спадчыну да Бенядзікта Паўла Сапегі. У 1772 г. вёска Чарэйскага графства, уласнасць Аляксандра Сапегі, знаходзілася ў закладзе ў віцебскага ваяводы Юзафа Салагуба, 36 двароў, 170 душ мужчынскага полу, дзейнічалі млын, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 20.8. 1924 г. вёска ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў студз. 1932 г. налічваў 19 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2. 1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. пасёлак, 70 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся ням. гарнізон, які ў вер. 1942 г. і летам 1943 г. разграмілі партызаны. Акупанты загубілі 24 мірных жыхароў. Вызвалены пасёлак 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 16 жыхароў. З 1950 г. ў калгасе імя Маленкова, з 1957 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Сялява». У 1959 г. налічвалася 230 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 1973 г. ў Янаўшчынскім с/с. У 1998 г. 49 гаспадарак, 89 жыхароў, магазін. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

**ХАРЫТАНЦЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і 35 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы—Харытанцы. На Пд балота. 16 гаспадарак, 31 жыхар (2010).

Вядомы з 1620 г. як вёска ў складзе Чарэйскага маёнтка ў Аршанскім павеце, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Чарэйскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1889 г. 24 двары, 150 жыхароў, частка з якіх займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў вёсцы 30 двароў, 201 жыхар. У 1912 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. вёска Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Дзейнічала пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. тут навучаліся 59 вучняў з вёсак Харытанцы, Забарочча, хутара Цiраеўка. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Усход». З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 57 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1943 г. часткова спалілі вёску (23 двары). У 1942 г. непадалёку ад вёскі загінулі 4 партызаны. Пасля вайны адбудавана. З 1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Абчуга», пазней увайшла ў саўгас «Авангард». У 1998 г. 32 гаспадаркі, 50 жыхароў. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна». Працуе Дом сац. паслуг.

**ХАЦЮХОВА** — вёска, цэнтр Хацюхоўскага с/с, за 30 км на ПнЗ ад Крупак, 24 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 127 км ад Мінска, на р. Нача. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брышча—Хацюхова. 175 гаспадарак, 501 жыхар (2010).

Вядома з сярэдзіны 16 ст. як сяло ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў актавай кнізе Барысаўскага замка ў 1552 г., уласнасць Кейзгайлаў, у складзе маёнтка Халопенічы. У 1572 г. сяло належала Мальхеру Войцехавічу Шэмету, які атрымаў паселішча ў спадчыну ад свайго бацькі Войцеха Шэмета і аспрэчваў яго ў Яфіміі Вяржбіцкай і яе мужа — кн. Андрэя Іванавіча Вішнявецкага. Пазней сяло было прададзена А.І.Вішнявецкаму, але ў хуткім часе яго дочкі перапрадалі яго назад. У 1594 г. Мальхер Шэмет перадаў паселішча ў пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Ганне Янушкевіч. У 1620 г.



М.Клімковіч.

На тэрыторыі свінагадоўчага комплексу ў аграгарадку Хацюхова.

ў складзе маёнтка Халопенічы, 22 двары, з іх 16 належалі пану Валашковічу, 6 — пану Нонгарту. У 1667 г. маёнтак Аршанскага павета, знаходзіўся ў закладзе ў Станіслава Богуша, 65 дымоў. У 1772 г. уладанне паноў Халецкіх. У 1775 г. сяло маёнтка Халопенічы Іаахіма Храптовіча. У 1777 г. — 38 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., сяло Стары Хацюхоў, 35 двароў, 222 жыхары, дзейнічалі драўляная уніяцкая Петрапаўлаўская царква, млын; в. Новы Хацюхоў, 9 двароў, 74 жыхары. У 1844 г. частка маёнтка Халопенічы, у т.л. і Хацюхова, былі прададзены на аўкцыёне пану Вікенцію Гарноўскаму. У 1888 г. памешчык Брадоўскі заснаваў у маёнтку Хацюхова запалкавую ф-ку, на якой у 1890 г. працавалі 20 рабочых. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. таго ж павета і губерні. У 1885 г. 21 двор, 196 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом, кірмаш у дзень Святога Духа, царква, капліца. У 1897 г. ў сяле 51 двор, 302 жыхары, у аднайменным маёнтку — 7 двароў, 25 жыхароў. У 1903 г. пачаў працаваць вінакурны з-д. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1913 г. — земская бальніца на 6 ложкаў. У 1915—21 гг. на Барысаўшчыне, у т.л. ў Хацюхоўскай школе, працаваў настаўнікам бел. пісьменнік, аўтар тэксту Дзярж. гімна БССР (1944) М.Клімковіч. У 1917 г. 54 двары, 377 жыхароў, у маёнтку — 41 жыхар. Пад час герм. акупацыі ў 1918 г. з ліку жыхароў вёсак Хацюхова і Восава быў арганізаваны партыз. атрад. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Хацюхоўскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 60 двароў, 338 жыхароў, дзейнічаў аграпункт. У 1920-я г. ў маёнтку Хацюхова быў адкрыты дзіцячы дом для дзяцей-сірот. Працавала пач. школа, у якой у 1925 г. было 62 вучні; размяшчалася ў наёмным памяшканні, з 1922 г. ў былым панскім доме. Школу наведвалі дзеці вёскі і маёнтка Хацюхова, вёсак Буда, Запруддзе, навакольных хутароў. У 1930 г. жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. налічваў 120 гаспадарак; дзейнічалі кузня, ільнозавод, электрастанцыя. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся варожы гарнізон. Дзейнічала падп. група (кіраўнік Б.А.Пятроўскі). Акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 17 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 70 жыхароў вёскі. Вызвалена 28.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. да калгаса былі далучаны некалькі суседніх гаспадарак. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 686 жыхароў, у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». З 2003 г. цэнтр СВК «Шчаўры». З 2008 г. аграгарадок. Працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, філіял Крупскай муз. школы, клуб, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», кафэ, комплексны прыёмны пункт, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. На тэр. вёскі размешчаны 2 малочна-таварныя фермы і комплекс, ЗАТ «Хацюхова», ваенізаваны пажар-





*Фельчарска-акушэрскі пункт у аграгарадку Хацюхова.*

ны пункт, участак ДРБУ-164. Помнік на брацкай магіле 33 сав. воінаў, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні раёна. Помнік двойчы Герою Сав. Саюза касманаўту У.В.Кавалёнку.

У склад сельсавета ўваходзіць 21 вёска.

**ХВАТЫНКА** – вёска ў Абчугскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Крупак, 30 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр–Хватынка. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2010).

Згадваецца на пач. 19 ст. як уладанне памешчыка М.Пяроты. У вайну 1812 г. абрабавана і разбурана французскімі войскамі. У канцы 19 – пач. 20 ст. вёска ў Сенненскім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. налічвалася 27 двароў, 178 жыхароў. У 1909 г. 375 жыхароў. З 20.8. 1924 г. вёска ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Крупскай. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 33 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску (24 двары). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе калгаса «Прагрэс». У 1959 г. 112 жыхароў. З 1960 г. ў саўгасе (пазней – калгас) «Абчуга». У 1998 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ХУДАВА** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і 32 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 149 км ад Мінска, на паўд.-зах. беразе воз. Сялява. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Худаўцы–Худава. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2010).

Упершыню ўпамінаецца на тэр. Крупшчыны ў сярэдзіне 14 ст. як с. Худава ў складзе Друцкага княства ВКЛ, уласнасць кн. Васіля Міхайлавіча Друцкага. Аднак археал. раскопкі не выявілі культ. слою гэтага перыяду на месцы сучаснай вёскі. Ёсць меркаванні, што стараж. паселішча знаходзілася на беразе воз. Худавец. Аб гэтым сведчыць стараж. могільнік, знойдзены на гэтым месцы. Пазней Худавым валодалі князі Іван, Януш, Дзмітрый і Багдан Друцкія-Любецкія. У 1546 г. ўладанне кн. Андрэя Іванавіча Друцкага-Азярэцкага, спадчына дзеда кн. Івана Бабы, пазней сумесныя ўладанні кн. Дзмітрыя Рамапавіча Друцкага-Любецкага і інш. У 1547 г. сяло перайшло ў сумеснае ўладанне ўдавы кн. Васіля Юр'евіча Друцкага-Талачынскага Марыі і кн. Івана Раманавіча Відуніцкага (Друцкага-Любецкага). У 1559 г. пасля смерці Марыі пераходзіць спачатку да кн. Васіля Талачынскага, потым да князёў Андрэя Іванавіча Бабіча (Друцкага-Азярэцкага) і Міхаіла Андрэевіча Друцкага-Азярэцкага. У 1562 г. сумесная ўласнасць князёў, а таксама спадчына сястры кн. Рыгора Сенскага Багдана, жонкі Васіля Міхайлавіча Корсака і яе дзяцей. З 1563 г. маёнтак Худава ва ўладанні Дзмітрыя Фёдаравіча Сапегі. У 1595 г. ўласнасць Марціна Курчы. З 1602 г. цэнтр Худаўскай вол., у складзе маёнтка Чарэя, уласнасць Льва Сапегі, 30 валок зямлі, 88 дымоў. Паселішча пазначана на карце Т.Макоўскага (1613). У 1728 г. сяло, 7 двароў, уладальнікам М.Сапегам аддана ў заставу А.Схарска-



У.І.Тайнікаў.

му, у графстве Чарэя Аршанскага павета. У 1761 г. цэнтр войтаўства ў маёнтку Чарэя, уласнасць Міхаіла Сапегі, знаходзілася ў закладзе ў кн. Ігнацыя Агінскага, дзейнічала уніяцкая царква. Пасля ўласнасць канцлера Аляксандра Сапегі, знаходзілася ў закладзе ў пана Салагуба, 14 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. ў складзе Лісічанскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. ў сяле 59 жыхароў мужчынскага полу. У 1889 г. пабудавана драўляная Ільінская царква. У 1897 г. 34 двары, 233 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква, царк.-прыходская школа (у 1909 г. 26 вучняў), у аднайменным маёнтку — 1 двор, 6 жыхароў. У 1899 г. пачаў працаваць дзёгцевы з-д. У крас. 1905 г. сяляне вёсак Худава, Хальнявічы, Калодніца разбурылі плаціну і млын на р. Лукомка ў маёнтку Халопенічы. У 1909 г. ў сяле 30 двароў, 251 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. знаходзілася пад акупацыяй герм. войск (спалена). З 20.8.1924 г. ў складзе Дубаўскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы было 48 двароў, 260 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», які першапачаткова аб'ядноўваў 13 гаспадарак. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 45 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 3 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 23 жыхары вёскі. Пасля вызвалення адбудавана. З 1950 г. ў калгасе імя Леніна, пазней увайшла ў склад саўгаса (затым — калгас) «Дуброўка». З 26.8.1959 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 28.7. 1966 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна». На могілках помнік на брацкай магіле 3 партызан брыгады М.П.Гудкова, якія загінулі ў 1944 г. Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

Вёска — радзіма бел. спартсмена, чэмпіёна свету У.І.Тайнікава (н. ў 1959 г.), які з 1998 г. з'яўляецца старшынёй Федэрацыі грэблі на байдарках і каноэ Мінскай вобласці.

**ХУДАЎЦЫ** — вёска, цэнтр Крупскага с/с, за 7 км на Пн ад горада і 11 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы. 141 гаспадарка, 388 жыхароў (2010).

Вядомы з 1713 г. як вёска, цэнтр Худавецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў, тут 45 двароў, у 1775 г. дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Каральполь Караля Газдзіцкага. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У маі 1862 г. тут адбываліся сял. хваляванні. Вяскоўцы адмовіліся выконваць свае павіннасці (адпрацоўваць 3-і дзень) на памешчыка Газдзіцкага. Улады вымушаны былі наводзіць парадак пры дапамозе паліцыі. На гэты час у сяле налічвалася 30 двароў. У 1873 г.

У наваколлі в. Худаўцы.



123 жыхары мужчынскага полу, частка з якіх займалася кравецкім і кавальскім промысламі. У 1886 г. дваранка Зембінская заснавала ў сяле вінакурны з-д. У 1890 г. на ім працавалі 6 рабочых, якія выраблялі прадукцыі на суму 5400 руб., а ў 1906 г. 9 рабочых выпрацавалі каля 17 тыс. вёдзер прадукцыі на суму 11 698 руб. У 1894 г. на сродкі сяльчан была пабудавана царква Раства Багародзіцы. У канцы 19 ст. пры ёй было каля 2 тыс. прыхаджан, 38 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Худаўцах было 67 двароў, 443 жыхары, дзейнічалі царква, крама, вінакурны з-д (належаў памешчыцы Зембінскай). У кастр. 1904 г. адкрыта царк.-прыходская школа (91 вучань). У 1909 г. 69 двароў, 452 жыхары. З 20.8.1924 г. сяло ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 108 двароў, 530 жыхароў, у былым маёнтку — 17 двароў, 80 жыхароў. Дзейнічала пач. школа (у 1925 г. 93 вучні), якую наведвалі дзеці вёсак Худаўцы, Дуліна, Буда, Камароўка, Юзафова, Ротань, Скароднíца, Барсучына, Шацькі, Туманава, Наваселле. Працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Бальшавік», які ў студз. 1932 г. налічваў 65 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 149 двароў, 499 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся фаш. гарнізон. Акупанты загубілі 14 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6. 1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 77 жыхароў вёскі. У вер. 1944 г. пачаў дзейнічаць цагельны з-д. З 1950 г. вёска ў калгасе «Май». У 1959 г. 554 жыхары, у калгасе імя Калініна, з 1962 г. яго цэнтр. З 5.5.1962 г. ў Крупскім с/с, з 31.3.1977 г. яго цэнтр. У 1998 г. 188 гаспадарак, 434 жыхары. Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны, цагельны з-д. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра». З 2008 г. аграгарадок. У вёсцы працуюць вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, б-ка, комплексны прыёмны пункт, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін; царква Раства Багародзіцы. Помнік 151 землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.



*Царква Раства Багародзіцы ў в. Худаўцы.*

У склад сельсавета ўваходзяць 26 вёсак і 2 пасёлкі.

**ЧАРАЁЎКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на Пн ад горада і 38 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крупкі—Худаўцы—Чараёўка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2009).

Створана як вёска ў 1772 г., уласнасць пана Агінскага, 5 двароў, 28 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 3 жыхары. У 1930-я г. створаны калгас «Чараёўка». У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску (28 двароў) і загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1998 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Авангард». Зараз у вёсцы ніхто не жыве.



*А.С.Лукашэвіч.*

**ЧАРНАВОСАВА** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 45 км на Пд ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Ухвала і далей па прасёлачнай дарозе. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2010).

Вядома з 1775 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 4 двары, 29 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. На пач. 19 ст. ў складзе Барысаўскага маёнтка, 5 двароў, з іх 4 належалі шляхце, уласнасць Радзівілаў. У 1885 г. засценак Чорны Восаў ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. казённы хутар Чорны Восаў (Чарнушын), 18 двароў, 138 жыхароў. У 1909 г. засценак, 15 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. 129 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска Чорны Восаў у складзе Ухвальскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 18 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў, сярод іх Герой Сав. Саюза, партызан 28-га партыз. атрада 8-й Круглянскай брыгады А.С.Лукашэвіч. З 1950 г. вёска ў калгасе імя Варашылава. У 1959 г. 52 жыхары, у саўгасе ЇУхвала». У 1998 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

Вёска – радзіма Героя Сав. Саюза А.С.Лукашэвіча (1924–43).

**ЧАРНЯЎКА** – вёска ў Бобрскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Крупак, 5 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Чарняўка. На ПнЗ і Пд балоты. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2010).

Вядома з канца 19 – пач. 20 ст. як пасёлак у Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 6 двароў, 34 жыхары. У 1909 г. 42 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Сакалавіцкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 79 жыхароў. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новае жыццё», які ў студз. 1932 г. налічваў 12 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. ў калгасе імя Сталіна, пазней – імя Свярдлова. З 16.7.1954 г. ў Бобрскім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 64 жыхары. З 1960 г. ў саўгасе (затым – калгас) «Бобр». З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. зноў у Бобрскім с/с.

Вёска – радзіма яўр. паэта Г.М.Каменецкага (1895–1957).

**ЧЫРВОНЫ ПАХАР** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 58 км на ПдУ ад Крупак, 50 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр–Сомры і далей па прасёлачнай дарозе. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Вядомы з пач. 20 ст. як вёска. З 1924 г. ў Староаслабодскім, затым ва Ухвальскім сельсаветах Крупскага р-на Барысаўскай акругі. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 жыхароў вёскі. У 1959 г. 91 жыхар. У 1998 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у калгасе «Ніва». З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала».

**ШАМКІ** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Крупак, 35 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст–Масква, 140 км ад Мінска. Транспартныя

сувязі па аўтадарозе Халопенічы—Шамкі. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2010).

Вядомы з сярэдзіны 17 ст. як сяло ў складзе Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1648 г. Еранім Друцкі-Сакалінскі набыў сяло ў дробнага шляхціца Мікалая Вадашынскага. Пазней належала місіянерам езуітам-дамініканцам, 8 двароў, 33 душы мужчынскага полу. Потым фальварак Шамкі ў складзе маёнтка Халопенічы належаў Барысаўскаму касцёлу. У 1728 г. паміж Шамкамі і езуіцкімі ўладаннямі ў Грыцкавічах адбылося размежаванне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. налічвалася 12 двароў, 65 жыхароў, уласнасць пана Багушэвіча, дзейнічаў млын. У 1815 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уладальнікі — стараабрадцы Багушэвічы. З 1817 г. вёска і фальварак належалі езуітам. У канцы 19 — пач. 20 ст. засценак у складзе Ухвальскай вол. таго ж павета і губерні. У 1909 г. 31 двор, 274 жыхары, у 1917 г. — 29 двароў, 208 жыхароў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Грыцкавіцкім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. У 1924 г. створана с.-г. калонія, якая ў 1926 г. атрымала імя Ф.Э.Дзяржынскага. Паводле перапісу 1926 г. тут 74 двары, 351 жыхар. У час калектывізацыі арганізаваны калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 22 двары, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1942 г. часткова спалілі вёску (8 двароў) і ва ўрочышчы Каменны Лог расстралялі звыш 300 мірных жыхароў. На фронце загінулі 3 жыхары вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 102 жыхары (1960), у складзе саўгаса (затым — калгас) «Халопенічы». У 1998 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў, у Халопеніцкім пас. Савеце. З 2003 г. ў складзе СВК «Халопенічы». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с.

Вёска — радзіма бел. гісторыка, праф., засл. работніка вышэйшай школы Беларусі Р.М.Трухнова (1908—86).

**ШАРНЕВА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 148 км ад Мінска, каля аўтадарогі Бобр—Кіявец. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

Вядома з 1772 г. як фальварак Шарнева ў складзе Чарэйскага графства ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць пана Сідорскага, тут 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 66 душ мужчынскага полу. У вёсцы жылі майстры, якія займаліся вырабам розных бытавых рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. 29 двароў, 154 жыхары, у аднайменным фальварку — 38 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 103 жыхары мужчынскага і 73 жаночага полу. З 20.8.1924 г. пасёлак Заборскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 25 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску і загубілі 9 мірных жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 8 жыхароў вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Ударнік», пазней вёска ўвайшла ў саўгас «Слабада». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не. З 5.5.1962 г. ў Акцябрскім, з 28.7.1966 г. ў Бобрскім, з сак. 1973 г. ў Абчугскім сельсаветах. У 1998 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».



*Р.М.Трухноў.*

Вёска — радзіма вучонага, засл. дзеяча медыцынскіх навук РСФСР Я.У.Бароўскага.

**ШАРНЕВА** — пасёлак у Абчугскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Крупак, 23 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 149 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бобр—Кіявец. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 18 ст. як вёска, уласнасць пана Сідароўскага. У 1772 г. 20 двароў. У 19 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 26 двароў, 76 жыхароў. З 20.8.1924 г. па 26.2.1930 г. ў складзе Чарэйскага, потым Крупскага р-наў. У 1930-я г. створаны калгас «Парыжская камуна». У 1941 г. 25 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 чал. У 1998 г. пасёлак, 11 гаспадарак, 18 жыхароў, у калгасе «Слабада». З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ШАРПІЛАЎКА** — вёска ў Абчугскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Луцішча і далей па прасёлачнай дарозе. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2010).

Вядома з пач. 17 ст. як вёска ў складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уласнасць Сапегаў. Згодна з інвентаром Чарэйскага маёнтка ў 1713 г. ў вёсцы 6 валок зямлі, 9 двароў, з якіх 7 пуставалі. У 1778 г. А.Сапега прадаў вёску (1 двор) разам з іншымі паселішчамі шляхціцу Ераніму Пшасмыцкаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. вёска абрабавана і спалена французскімі войскамі, належала С.Пшасмыцкаму. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 30 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 21 двор, 136 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 77 жыхароў мужчынскага і 74 жаночага полаў. З 20.8.1924 г. ў Абчугскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Крупскім р-не. У 1932 г. створаны калгас «15 гадоў Кастрычніка». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 33 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску і загубілі 4 мірных жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 15 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў калгасе «Барацьбіт». У 1959 г. ў вёсцы 101 жыхар. З 1961 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Абчуга». У 1998 г. 14 гаспадарак, 19 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ШАЦЬКІ** — вёска ў Бобрскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Крупак, 14 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр—Шацькі. На ПдУ балота. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

Вядомы з канца 17 ст. як вёска ў складзе маёнтка Бобр у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Сапегаў. У пач. 18 ст. ў складзе маёнтка Чарэя таго ж павета і ваяводства, уласнасць Сапегаў. У 1713 г. тут 20 двароў, 5 валок зямлі. У 1772 г. знаходзілася ў закладзе ў Салагуба, 6 двароў. У 1779 г. Сапега прадаў в. Шацькі з засценкамі Краснае і Напрасніца за 18 тыс. злотых Францішку Мірацкаму, з 1790 г. належала Яну Мярэцкаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі, належала І.Мірацкаму. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 17 двароў, 120 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 146 жыхароў, працавала пач. школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Шэйкаўскім с/с Крупскага р-на Ба-

рысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Чырвоная змена». З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. З 1950 г. ў калгасе імя Калініна. У 1959 г. ў вёсцы было 98 жыхароў. З 1967 г. ў саўгасе «Колас». З 5.5.1962 г. ў Бобрскім с/с. З 31.3.1977 г. ў Бобрскім пас. Савеце. У 1998 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

**ШКОРНЕЎКА** – вёска ў Абчугскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Крупак, 22 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 158 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Стары Бобр–Шкорнеўка. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2010).

Засн. ў канцы 17 ст., належала Сапегам. На пач. 18 ст. ў складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Згодна з інвентаром маёнтка ў 1713 г. ў вёсцы 3 валокі зямлі, 15 двароў (з іх толькі 2 жылыя). У 1778 г. Сапега прадаў вёску польскаму шляхціцу Ераніму Пшасмыцкаму, 5 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. вёска ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. тут 11 двароў, 131 жыхар. У 1909 г. 20 двароў, 130 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. ў Заборскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 27 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 43 мірных жыхароў. У баі каля вёскі вызначыўся 17-ы гв. стралк. полк. Вызвалена ад акупантаў 29.6.1944 г. На франтах загінулі і прапалі без вестак 29 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ўваходзіла ў саўгас (пасля – калгас) «Слабада». З 20.1. 1960 г. ў Крупскім р-не, уваходзіла ў Абчугскі с/с, 98 жыхароў (1960). У 1998 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. З 2004 г. ў складзе СВК «Журавы».

**ШЫНКІ** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Крупак, 2 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Новыя Дзянісавічы–Шынкі. З ПдУ на ПнЗ працякае р. Можа. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2010).

У наваколлі вёскі захаваліся стараж. курганы, якія адносяцца да Верхнякаможанскага родаабшчыннага археал. комплексу. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкія часы. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1772 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., тут 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 89 жыхароў, уласнасць віленскага ваяводы кн. М.Радзівіла. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. налічвалася 25 двароў, 192 жыхары. У 1917 г. 29 двароў, 208 жыхароў, працавала земская школа (з 1913 г.). З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У 1924 г. створана сельскае т-ва ўзаемадапамогі. Паводле перапісу 1926 г. 54 двары, 273 жыхары. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Колас», які ў студз. 1932 г. налічваў 28 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 57 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. патрыятычная група. Акупанты загубілі 8 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 36 вяс-

коўцаў. Пасля вайны пачала працаваць хата-чытальня. З 1950 г. цэнтр калгаса «Чырвоны Колас». З 16.7.1954 г. вёска ў Стараслабодскім с/с. У 1959 г. 298 жыхароў, у складзе калгаса «Ухвала», з 1963 г. ў саўгасе «Дзянісавічы». З 1964 г. ў Дзянісавіцкім с/с. У 1998 г. 42 гаспадаркі, 70 жыхароў. Працавалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 30.12.2009 г. ў складзе Ухвальскага с/с.

Вёска — радзіма бел. паэта П.Макарэвіча (н. ў 1938 г.).

**ШЫЯЛОЎКА** — вёска ў Хацюхоўскім с/с, за 24 км на З ад Крупак, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Брэст—Масква, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе Брышча—Вялікія Жаберычы, вакол лес. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2010).

Вядома з 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. як хутар у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. тут 2 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 33 жыхары. З 20.8.1924 г. хутар у Нацкім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 10 двароў, 52 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 жыхары вёскі. Пасля вайны ўваходзіла ў калгас «Бальшавік». З 1973 г. ў Жаберыцкім, з 13.2.1982 г. ў Дакудаўскім, з 30.12.2009 г. ў Хацюхоўскім сельсаветах. У 1998 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2003 г. ў складзе СВК «Шчаўры».

**ШЭЙКА** — вёска ў Крупскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і 14 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 130 км ад Мінска, на аўтамагістралі Барысаў—Талачын. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2010).

Вядома з 1510 г. як маёнтак Шэйка ў складзе Друцкага княства. Пасля смерці кн. Д.Ф.Гальцоўскага быў перададзены яго сваякам Адзінцэвічам. Пазней маёнтак адсудзіла дачка кн. Гальцоўскага Ганна. Да 1527 г. маёнткам фактычна валодалі князі Адзінцэвічы. У канцы 16 ст. належаў роду князёў Сангушкаў. У 1760 г. сяло Шэйка, 26 двароў, карчма. З 1775 г. цэнтр маёнтка княгіні Сангушкавай у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 24 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1812 г. ўладанне княгіні Г.Сангушка і яе сваякоў, абрабавана і часткова спалена французамі ў час адступлення. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. тут 103 жыхары мужчынскага полу; у 2 гаспадарках займаліся калёсным промыслам. У 1885 г. 33 двары, 291 жыхар, дзейнічала царква. У 1886 г. адкрыта школа, пад якую ў 1907 г. пабудавана новае памяшканне. У 1897 г. ў вёсцы 49 двароў, 302 жыхары, у аднайменным фальварку — 34 жыхары. У 1909 г. 57 двароў, 158 жыхароў мужчынскага і 145 жаночага полаў, у аднайменным маёнтку — 1 двор, 34 жыхары; царква, царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Шэйкаўскага с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. тут 91 двор, 462 жыхары, у былым маёнтку — 13 двароў, 68 жыхароў. Працавала пач. школа (у 1925 г. 88 вучняў, 2 настаўнікі), якую наведвалі дзеці вёсак Шэйка, Стан, Ліпавец, Сінічанка і інш. У час калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас, дзейнічала цэглавая арцель. З 20.2. 1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 23 двары, 229 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы фаш. гарнізон. Акупанты загубілі 35 мірных жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 84 жыхары. Пасля вайны запрацавалі клуб, хата-чытальня. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Калініна. У 1960 г. ў вёсцы 374

жыхары. З 5.5.1962 г. ў Крупскім с/с. У 1998 г. 59 гаспадарак, 127 жыхароў. Працаваў магазін. З 2004 г. ў складзе СВК «Майскае-Агра». На могілках помнік на магіле камандзіра ўзвода 1-га партыз. атрада 2-й Бел. брыгады Грачова, які загінуў у час вайны.

**ЯДЖАР** – вёска ва Ухвальскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Крупак, 26 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст–Масква, 134 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Новыя Дзянісавічы–Яджар. На У балота, працякае р. Можа. 9 гаспадарак, 21 жыхар (2010).

У наваколлі вёскі, непадалёку ад вытокаў р. Можа, захаваліся стараж. курганы, што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкім мінулым. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1870 г. як вёска ў складзе Ухвальскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., тут 16 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 14 двароў, 122 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 135 жыхароў. У 1917 г. 26 двароў, 169 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шынкаўскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Вярхоўны Савет». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы было 26 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Колас», з 1959 г. ў саўгасе «Ухвала», з 1963 г. ў саўгасе (затым – калгас) «Дзянісавічы». З 1954 г. ў Старaслабодскім, з 1964 г. ў Дзянісавіцкім сельсаветах. У 1998 г. 16 гаспадарак, 33 жыхары. З 2007 г. ў складзе дзяржпрадпрыемства «Ухвала». З 30.12.2009 г. ва Ухвальскім с/с.

**ЯЗБЫ** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 29 км на ПнУ ад горада і 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Шарнева–Язбы. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2010).

Вядомы з пач. 18 ст. як фальварак у складзе Кіявецкага войтаўства маёнтка Чарэя ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Сапегаў. З 1745 г. ў закладзе ў Юзафа Салагуба. У 1772 г. налічвалася 8 двароў, уласнасць пана Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1812 г. вёска належала М.Нітаслаўскаму, абрабавана і спалена французскімі войскамі ў час адступлення. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Абчугскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. 36 двароў, 255 жыхароў. У 1917 г. 37 двароў, 292 жыхары, працавала пач.

*Былы сядзібны дом Красніцкіх у в. Язбы.*



*Аўтадарога паміж вёскамі Язбы і Дубы.*



школа (з 1912 г.). З 20.8.1924 г. ў Дубаўскім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 55 двароў, 287 жыхароў. У 1929 г. быў арганізаваны калгас «Полымя рэвалюцыі». З 8.7.1831 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 41 двор, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 16 жыхароў вёскі. З 1957 г. ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». З 26.8.1959 г. ў Заборскім с/с (5.5.1962 г. перайменаваны ў Акцябрскі). З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 165 жыхароў (1960). У 1998 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна».

**ЯЗБЫ** – пасёлак у Акцябрскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад горада і 35 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст–Масква, 148 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гузовіна–Харытанцы. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2010).

Вядомы з 1-й пал. 20 ст. як маёнтак. З 20.8.1924 г. ў складзе Дубаўскага с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 4 двары, 9 жыхароў. У гады калектывізацыі жыхары пасёлка аб'ядналіся ў калгас «Новае жыццё», які ў студз. 1932 г. налічваў 21 гаспадарку. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. 23 двары, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 жыхароў пасёлка. Пасля вызвалення ў 1944 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў былой сядзібе. З 1957 г. ў саўгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, з 3.5.1962 г. ў Акцябрскім с/с. У 1998 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў. З 2004 г. ў складзе КСУП «Квеціна». Працуюць сярэдняя школа, магазін. Помнік на брацкай магіле 36 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Крупшчыны ў 1944 г.

Пасёлак – радзіма бел. паэта, празаіка, публіцыста З.З.Марозава (н. ў 1954 г.).

**ЯКІМАЎКА** – вёска ў Халопеніцкім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Крупак, 27 км ад чыг. ст. прыяміна на лініі Брэст–Масква, 149 км ад Мінска, на аўтадарозе Версанка–Прудзец. 64 гаспадаркі, 175 жыхароў (2010).

Вядома з канца 18 ст. як вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 21 двор, 109 жыхароў, у складзе маёнтка Халопенічы. Паводле Устаўной граматы маёнтка за 1862 г. у вёсцы налічваліся 21 селянін, 3 агароднікі, 2 батракі. У 2-й пал. 19 – пач. 20 ст. ў Халопеніцкай вол. таго ж павета. У 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 319 жыхароў. У 1917 г. 56 двароў, 382 жыхары, працавала земская школа (з 1914 г.). З 20.8.1924 г. ў складзе Халопеніцкага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 68 двароў, 346 жыхароў, пач. школа (у 1925 г. 55 вучняў). У 1930 г. жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут дзейнічала падп. група. Акупанты загубілі 5 мірных вяскоўцаў. Вызвалена 28.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі і прапалі без вестак 44 жыхары вёскі. З 1950 г. ў складзе калгаса «1 Мая». У 1959 г. 242 жыхары. З 1960 г. ў саўгасе «Халопенічы», з 1964 г. ў саўгасе «Прызыў», з 1966 г. – цэнтр саўгаса (пазней – калгас) «Якімаўка». У 1998 г. 90 гаспадарак, 251 жыхар, у Халопеніцкім пас. Савеце. Працавалі дзіцячы сад, базавая школа, б-ка, клуб, аддз. сувязі,

магазін. З 2003 г. ў складзе СВК «Старасельскае». З 30.12.2009 г. ў Халопеніцкім с/с. У вёсцы працуюць клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Помнік на ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЯНАЎШЧЫНА** — вёска ў Халопеніцкім с/с, за 50 км на Пн ад горада і 54 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Брэст—Масква, 170 км ад Мінска, на паўд.-зах. беразе воз. Сялява. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Слабада—Янаўшчына. 36 гаспадарак, 84 жыхары (2010).

Вядома з 1681 г. як вёска ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. тут 3 двары, 25 жыхароў, уладанне З.Глушынскага. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Замоцкай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1880 г. 8 двароў, 49 жыхароў, млын, карчма, уладанне А.А.Валовіч. У 1897 г. 8 двароў, 65 жыхароў. У 1909 г. 11 двароў, 95 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Вялікахальнявіцкім с/с Чарэйскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Аршанскай акруг. У студз. 1931 г. створаны калгас «Чырвоны студзень» (7 гаспадарак), працавалі хата-чытальня, МТС. З 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 13 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. вёска — цэнтр саўгаса «Сялява». З 20.1.1960 г. ў Крупскім р-не, у вёсцы 59 жыхароў (1960). З 1.10.1973 г. цэнтр Янаўшчынскага с/с. Дзейнічала сярэдняя школа. З 2003 г. ў СВК «Халопенічы». З 30.12. 2009 г. ў складзе Халопеніцкага с/с. Працуюць бібліятэка-клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, кафэ, участак ДРБУ-164. На тэр. вёскі размешчаны дзіцячы аздараўленчы лагер, база адпачынку РУП «Белтрансгаз». Вёска знаходзіцца ў межах дзярж. ландшафтнага заказніка «Сялява».

**ЯРАШОЎКА** — вёска ў Бобрскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крупак, 10 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Брэст—Масква, 141 км ад Мінска, на аўтадарозе Стары Бобр—Куты. На У працякае р. Бобр. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2010).

Вядома з канца 17 ст. як вёска ў складзе маёнтка Бобр у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., уладанне Сапегаў. Захавалася кніга прыходу і расходу збожжа ў Баброўскім маёнтку ў 1699 г. На гэты час разам з іншымі вёскамі тут упамінаецца і в. Ярашоўка. У 1772 г. ўласнасць Агінскіх, 8 двароў, 42 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У вайну 1812 г. абрабавана і спалена французскімі войскамі пры адступленні, уладанне І.Ванковіча. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Бобрскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. фальварак, 4 двары, 51 жыхар. У 1909 г. засценак, 5 двароў. З 20.8.1924 г. засценак у Бобрскім с/с Крупскага р-на Барысаўскай, з 18.6.1927 г. Аршанскай акруг. Паводле перапісу 1926 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У гады калектывізацыі вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка». З 20.2.1938 г. ў складзе Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 мірных жыхароў. На франтах загінуў і прапаў без вестак 21 вясковец. З 1950 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Бобр», з 1960 г. ў саўгасе «Бобр», з 1967 г. ў саўгасе (пазней — калгас) «Колас». З 31.3.1977 г. ў складзе Бобрскага пас. Савета. У 1998 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў. З 2004 г. ў складзе ААТ «Кляновічы». З 18.2.2010 г. ў Бобрскім с/с.

## СТРАЧАНЫЯ НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

Вёскі: Барсучына, Бяляны, Валоба, Вейніца, Верацея, Гапонавічы, Гарошава, Гаць, Другавіж, Іскра, Калыбанава, Кастрычнік, Каўпыніца, Копішча, Ліпкі, Ліцвінка, Маладзілава, Маласаі, Малое Восава, Мальцы, Мігаўшчына, Навасёлкі, Ніва, Новы Засценак, Новы Шлях, Рэпішча, Слоўч, Стральцы, Тумаева, Чавінка, Чырвоная Ніва, Шырнавічы, Юзафова, Язвіны, Ярашоўка.

Пасёлкі: Граніт, Каса, Кірава, Культурнік.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 1310, 1311, 2200, 2221, 2479, 2556; ф. 30, воп. 2, спр. 6011, 6113, 6145, 6199—6201; ф. 34, воп. 1, спр. 295; ф. 42, воп. 2, спр. 2582—2610, 2695, 2707, 2709, 2710, 2712—2714, 2717, 2719, 2721—2723, 2726, 2730, 2733—2738, 2740, 2747, 2753, 2755, 2796; ф. 48, воп. 1, спр. 524, 537; ф. 119, воп. 2, спр. 76; ф. 293, воп. 1, спр. 41; ф. 334, воп. 1, спр. 500; ф. 338, воп. 1, спр. 61, 167, 168, 323.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 1696—1710, 1711/1, 1711/2, 1713/1, 1713/2, 1713/3, 1718—1720, 1723, 2758, 2759, 2812, 3654/1, 3655, 3664/2, 4014—4016; КМФ-18, воп. 1, спр. 38, 234; ф. 27, воп. 1, спр. 531; воп. 5, спр. 86, 95, 694, 780; воп. 6, спр. 60; ф. 65, воп. 1, спр. 1; ф. 76, воп. 1, спр. 227; ф. 142, воп. 1, спр. 436—442; ф. 180, воп. 1, спр. 273; ф. 295, воп. 1, спр. 4093; ф. 333, воп. 1, спр. 9; воп. 3, спр. 1; воп. 4, спр. 689; воп. 9, спр. 272; ф. 694, воп. 4, спр. 5696; воп. 7, спр. 764, 934, 1016; ф. 861, воп. 1, спр. 8; ф. 937, воп. 3, спр. 3; ф. 1727, воп. 1, спр. 7, 8, 11, 12, 14; ф. 1731, воп. 1, спр. 3, 8, 18; ф. 1776, воп. 1, спр. 3; ф. 1928, воп. 1, спр. 28, 138, 281; ф. 2001, воп. 1, спр. 24, 101; ф. 2003, воп. 1, спр. 279; ф. 2084, воп. 1, спр. 780, 786, 789, 794; ф. 2189, воп. 1, спр. 514; ф. 2221, воп. 1, спр. 49.

Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці ў г. Барысаў, ф. 6, воп. 2, спр. 294; ф. 97, воп. 1, спр. 2; ф. 111, воп. 1, спр. 1, 2; ф. 183, спр. 257, 302, 568, 30748; ф. 590; ф. 593.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1299, 1300, 1330, 1370, 1371; ф. 1350, воп. 312, спр. 89; ф. 1405, воп. 108, спр. 6956.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3236.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 317, воп. 1, спр. 3641.

Дзяржаўны архіў г. Кракаў і Кракаўскага ваяводства, Архіў Сангушкаў, спр. 647, л. 21.

Военно-статистическое обозрение Российской империи, издаваемое по высочайшему повелению при 1-м отделении Департамента Генерального штаба. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1848.

Минские губернские ведомости. 1861. Прибавления к № 26.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. Санкт-Петербург, 1863.

Городские поселения Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Минск, 1879.

Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Минск, 1880.

Живописная Россия. Т. 3, ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1882.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2—3. Могилев, 1884.

Список населенных местностей и краткий статистический обзор Могилевской губернии. Вып. 8. Сенненский уезд. Могилев, 1885.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1884/85 уч. г. Минск, 1885.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 14. Вильна, 1887.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 уч. г. Могилев, 1889.

Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 уч. г. Минск, 1891.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 уч.г. Минск, 1893.
Харкевич В. Березина. 1812 г.: военно-ист. исслед. Санкт-Петербург, 1893.
Указатель фабрик и заводов Европейской России: материалы для фабрично-заводской статистики. 3 изд. Санкт-Петербург, 1894.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Историко-статистическая справочная книга Минской епархии. Минск, 1903.
Список фабрик и заводов Европейской России. Санкт-Петербург, 1903.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905/06 уч. г. Минск, 1905.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Санкт-Петербург, 1905.
Аникиевич К.Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания... Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1908.
Сухопутные пути сообщения и торговое движение в Могилевской губерини. [Б.г.]
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.
Краснянский В.Г. Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 г. Гродно, 1913.
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 38. Вильна, 1914.
Справочная книга и спутник по Минской губернии. Минск, 1917.
Список населенных мест Б.С.С.Р (б. Минской губернии). Минск, 1924.
Вся Белоруссия. Минск, 1925.
Усе раёны БССР. Мінск, 1933.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мінск, 1935.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Минск, 1953.
Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: док. и материалы. Минск, 1955.
Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Минск, 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Минск, 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.
Архітэктура Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 1993.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мінск, 1993—2003.
Памяць: Крупскі р-н. Мінск, 1999.
Беларуская Энцыклапедыя. Т. 8. Мінск, 1999.
Республиканская книга памяти воинов-интернационалистов. Минск, 1999.
Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобл. Мінск, 2003.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 1—7. Минск, 2005—08.
Памяць. Яны праславілі Крупшчыну. Мінск, 2008.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ




абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве ў адз. ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)

вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі Савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве ў адз. ліку)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н.с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны

перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве ў адз. ліку)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве ў адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
сараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр.— яўрэйскі

# ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**

Энцыклапедыя

Том 8

МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

Кніга 2

Рэдактары: *В.А. Кавальчук, Ю.У. Каласоўскі, В.М. Лапцева, М.Г. Нікіцін, Т.І. Нішт, Л.У. Языковіч*

Мастацкае афармленне
*Н.У. Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У. Кондрада, М.Г. Раманенкавай*

Мастацкія рэдактары: *І.А. Грынь, М.Г. Раманенкава*

Картограф *А.А. Лукашоў*

Карэктары: *Л.В. Кірыленка, В.А. Кульбіцкая, Д.Дз. Лемехава, Т.І. Нішт, А.І. Саламевіч, В.М. Чудакова*

Камп'ютэрны набор: *Н.М. Зубкевіч, Т.М. Саленік*

Камп'ютэрная вёрстка *А.Л. Шалканаўцавай*

У выданні выкарыстаны гістарычныя звесткі аб населеных пунктах, якія прадставілі: *Я.К. Анішчанка, А.Р. Бухавец, В.В. Гарбачова, В.Ф. Голубеў, Л.С. Іванова, А.Г. Каралёва, У.П. Крук, С.А. Кузняева, П.А. Лойка, М.А. Марцюхова, У.І. Пашкевіч, М.Ф. Спірыдонаў, А.М. Філатава, З.В. Шыбека*

Зняцце копій і выкарыстанне ў якасці асновы для стварэння картаграфічных і іншых выданняў дапускаецца з пісьмовага дазволу Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь.

Падпісана да друку 31.01.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Пецярбург.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 48,72.
Ул.-выд. арк.48,18. Тыраж 2000 экз. Заказ 13.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009. Зав. Калініна,16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ISBN 978-985-11-0554-6